УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
С 12

Серыя заснавана ў 2010 годзе

Кніга падрыхтаваная сумесна
з Беларускім інстытутам
навукі і мастацтва




Фундатары выдання —
сям’я Кіпеляў: Алеся, Юра, Лорэйн і Вітаўт

Укладанне:
*Ціхана Чарнякевіча і Лявона Юрэвіча*

Уступнае слова:
*Лявона Юрэвіча і Вітаўта Кіпеля*

Каментарыі: *Ціхана Чарнякевіча*

Рэдактар: *Ціхан Чарнякевіч*

**ISBN 978-985-6968-26-9**

# ПРАДМОВА

Не надта шчодры на ўхвальныя словы, не трываўшы аніякай канкурэнцыі, Антон Адамовіч улаўраваў свайго калегу па працы ў «Беларускай газеце» Лявона Савёнка званнем *«караля рэдакцыйных жартаўнікоў, ветэрана гумарыстычнага фельетанізму, а па гэтым і рана пасівелага ў канцлагерах іхнага ветэрана-зэка»*[1] — пры тым што сам, па ўласным сведчанні, меў слабасць да гэтага жанру[2]. Факт для біяграфіі буйнейшага эміграцыйнага крытыка і літаратуразнаўцы бадай унікальны.

Дык кім ён быў, той кароль фельетону?

Нарадзіўся Лявон Савёнак 26 чэрвеня 1897 г. на Глыбоччыне ў вёсцы Вялец у сям'і Вікенція (1865–1898) і Вольгі (1869–1962) Савёнкаў. Пачатковую асвету здабыў у Глыбокім, куды пераехаў разам з маці і старэйшымі сёстрамі, Анютай і Ксеняй, пасля смерці бацькі, вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1917 г. Тут разам з ім студыявалі такія будучыя дзеячы нацыянальнага руху, як Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётра Мятла, Флягонт Валынец, паэт Міхась Чарот. Пасля семінарыі два гады вучыўся ў кадэцкім корпусе ў Пецярбургу.

На пачатку першай беларусізацыі, у 1922 г., Лявон Савёнак з групай глыбоцкіх настаўнікаў прыехаў у Мінск, дзе пазнаёміўся з настаўніцай Апалоніяй Радкевіч, якая сталася ягонай жонкай. У 1922 г. у іх нарадзіўся сын Лёдзік, а ў 1927 — дачка Зора. Сям'я засталася жыць у Мінску.

Неўзабаве Усевалад Ігнатоўскі паклікаў Савёнка працаваць карэспандэнтам у газету «Савецкая Беларусь», што ў тыя часы яшчэ друкавалася па-беларуску. Савёнак багата ездзіў па Беларусі, пісаў рэпартажы і фельетоны.

У склад рэдакцыі «Савецкай Беларусі» таксама ўваходзілі Міхась Маразоўскі (Гурын), рэдактар, постаці якога не адну старонку ва «Успамінах» прысвеціць праз гады Васіль Рагуля[3], Змітрок Бядуля,

---

[1] Адамовіч, Антон. Творы. — Нью-Ёрк, 2003. — С. 440.

[2] Запісы БІНІМ. — 2010. — № 33. — С. 140.

[3] Рагуля, Васіль. Успаміны. — Нью-Ёрк, 1957. — 127 с/

Міхась Чарот, Янка Пашкевіч, Павал Каравайчык. Алесь Дудар у сваіх паказаннях па сфабрыкаванай справе «Саюза Вызвалення Беларусі» расказваў пра атмасферу ў газеце, што яна *«мала падобна была да атмасферы савецкай газеты. Адчувалася, што большасць супрацоўнікаў аддае сваю працоўную сілу і гэтым абмяжоўваецца: погляды ж свае разглядае як нешта асобнае, незалежнае ад той справы і ад тых прынцыпаў, якія праводзіла газета. Праўда, ніякіх антыпартыйных і антысавецкіх гутарак не было, але адчувалася і само сабой разумелася, што партыя сама па сабе, а «Савецкая Беларусь» сама па сабе»*[1]. І як вынік — 27 чэрвеня 1929 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б Уладзімір Затонскі, які ўзначальваў камісію па праверцы нацыянальнай работы ў БССР, абвінаваціў газету ў нацыянал-дэмакратычных скажэннях: менавіта на старонках гэтай газеты, пазней названай *«утульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў»*[2], друкаваўся артыкул Паўла Трамповіча «Шляхі беларускай інтэлігенцыі»[3], былі выдрукаваныя артыкулы Тодара Глыбоцкага, што распачалі «тэатральную дыскусію»[4], а таксама «Ліст 3-х» (Андрэя Александровіча, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага) супраць антыбеларусізацыі[5].

Не дзіва, што Савёнак быў звольнены з працы ў газеце як нацдэм. З лютага 1929 г. ён працаваў на будоўлі, на заводзе «Ударнік», з ліпеня 1932 г. — стыльрэдактарам навукова-тэхнічнага выдавецтва. Але гэта не змяніла ані ягоных поглядаў, ані паводзінаў. Нават больш. Як пісаў сакрэтны супрацоўнік ГПУ ў сваім чарговым даносе, *«такія заядлыя беларускія культурнікі як Чаржынскі, Бялькевіч, Пашковіч, Савёнак, Каханоўскі і шмат хто іншы, хто раней у штодзённым прыватным і грамадскім жыцці гаварыў выключна па-беларуску, пачалі з усмешачкай утрыравана гаварыць па-расейску, дадаючы: няхай ужо іншыя гавораць на нацыянал-дэмакратычнай мове, а мы будзем гаварыць на інтэрнацыянальнай»*[6].

Натуральна, што новых рэпрэсій доўга чакаць не трэба было.

---

[1] Міхнюк, Уладзімір. Арыштаваць у высылцы. Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. — Мінск, 1996. — С. 42.

[2] Платонаў, Расціслаў. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30-х гадоў. — Мінск, 1996. — С. 120.

[3] Савецкая Беларусь. — 1925. — 21 кастрычніка.

[4] Савецкая Беларусь. — 1928. — 11, 13 лістапада.

[5] Савецкая Беларусь. — 1928. — 4 снежня.

[6] Платонаў, Расціслаў. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. ... С. 268–269.

Пасля разгрому Грамады ў 1927–1929 гг. ды барацьбы з нацдэмаўшчынай у 1930–1931 гг. новым этапам вынішчэння беларускага народу стаўся разгром, што ўвайшоў у гісторыю як «Справа Беларускага Нацыянальнага Цэнтру».

10 жніўня 1933 г. былі арыштаваны былыя беларускія дэпутаты ў польскі Сойм, а з 1 верасня пачаліся масавыя арышты: толькі за адну ноч схапілі больш за 90 асобаў. Бралі не ў адным Мінску, але і ў Маскве, на Каўказе, на Урале. Да 1 лістапада па справе БНЦ было арыштавана 9700 чалавек, у тым ліку і Лявон Савёнак. 15 студзеня 1934 г. Калегія ГПУ вынесла прысуд: зняволенне ў лагерах. Падрабязнасці пра той суд ды наагул ход самой справы добра адлюстраваны ў артыкуле «Крыжоваю дарогаю», надрукаваным у газеце «Беларус» ад 1 жніўня 1954 г. Артыкул падпісаны Лявонам Крывічаніным — псеўданімам Лявона Савёнка.

Калі б не гэтым разам, дык іншым Савёнак абавязкова трапіў бы ў кіпцюры ГПУ, якое даўно мела свае віды на аўтара кніжкі фельетонаў «Чароўная іголка». Аўтар прыкрыўся імем Леаніда Свэна — яшчэ адным псеўданімам, але гэта падманула хіба толькі бібліятэчных супрацоўнікаў, якія каталагізавалі кніжку як належную замежнаму, шведскаму пісьменніку. Дакладней, пачалі каталагізаваць, бо хутка агледзеліся пільныя супрацоўнікі «органаў», кнігу забаранілі і знішчылі бадай што ўвесь наклад, а ён быў немалы — тры тысячы асобнікаў.

Пяцігадовую высылку Лявон Савёнак адбываў спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а потым у Алтайскім краі. Працаваў на будоўлях, дзе сышоўся з сіяністамі з Мінска, якіх было даволі шмат, моцна згрупаваных, з добрымі кантактамі, як казалі, ажно ў Швейцарыі. Яны добра паставіліся да беларускага нацыяналіста і прапанавалі нават сваю дапамогу, сувязі. Савёнак пачаў аб'ядноўваць вакол сябе беларусаў, але нехта данёс — і сіяністаў раскідалі па розных лагерах, а самога Савёнка перавялі ў штрафныя калоны.

Ужо на эміграцыі, у ЗША, ён будзе сведчыць перад Камісіяй Керстана аб савецкіх канцлагерах.

У 1939 г., калі тэрмін пакарання скончыўся, Лявон Савёнак вярнуўся на Беларусь і настаўнічаў у вёсцы каля Крычава, а пасля ў ваколіцах Мінска, бо ў самім горадзе жыць яму было забаронена.

Улетку 1941 г., пасля акупацыі Мінска немцамі, Савёнак быў інтэрнаваны, як і ўсё мужчынскае насельніцтва горада, і некалькі тыдняў праседзеў на Камароўскіх балотах пад Мінскам. А калі пачалася «другая беларусізацыя», працаваў журналістам у «Беларускай газеце». Антон Шукелойць успамінае:

*«Я пазнаёміўся зь Лявонам Савёнкам, прыйшоўшы ў Менск і добра адпачыўшы пасьля пабояў у турме. Гэта быў 1941 год, думаю, кастрычнік месяц, хутка пасьля прыходу немцаў.*

*Я прыйшоў ва Ўправу гораду, каб сустрэцца зь Вітаўтам Тумашам, старшынём Управы. Тумаш — мой калега па ўнівэрсітэту, і я вырашыў у яго знайсьці эвэнтуальна нейкую параду. І вось я зайшоў да Тумаша, пагутарыў зь ім.*

*Тумаш быў вельмі заняты й адправіў мяне да Антона Адамовіча. Адамовіч кажа:*

*— Заставайся тут са мною, тут сягоньня будзе першая палітычная нелегальная нарада. Трэба разгледзець сытуацыю, якая да гэтага часу была, і што маем далей рабіць.*

*І вот я ў яго застаўся, ён канчаў сваю работу. Ягоная канцылярыя была даволі вялікая. Пачалі зьбірацца людзі на нараду. Прыйшоў Усевалад Родзька, які й быў ініцыятарам гэтае нарады, тады падышлі Савёнак, Алесь Матусэвіч, Сінькевіч, Гуцька. Словам, было там чалавек, можа, з дваццаць. Тумаша ня было. Але Тумаш аб гэтай нарадзе ведаў, таму што, калі нарада скончылася, ня помню хто, сказаў:*

*— Цяпер, хлопцы, ідзём да Тумаша на абед. Вы ўсе запрошаныя.*

*Ну вось, там я пазнаёміўся з Савёнкам. Як ён выглядаў? Моцна сіваваты, меў доўгія валасы, такія характэрныя, як казалі, даўней эсэры насілі. Такі бадзёры, вельмі бадзёры.*

*Аб гэтай нарадзе я ўжо многа разоў гаварыў. Нарада была ў справе разгляду сытуацыі. Ужо ішлі нямецкія пагромы. І мы прынялі некалькі пастаноў: беларусізацыю устаноў гораду, школьніцтва, тэатру, адміністрацыі, цэркваў. І галоўнае было пастаноўленьне — арганізаваць Беларускую Незалежніцкую Партыю. Так што гэтая нарада й была пачаткам Беларускай Незалежніцкай Партыі, тыя людзі яшчэ далей праводзілі такія апытаньні, і першы сход яе адбыўся ў канцы 1942 году ў памяшканьні Саковіча. Саковіч быў начальнікам паліцыі, але ў гэтым самым руху Беларускай Незалежніцкай Партыі быў ад самага пачатку й зьяўляўся адным зь ініцыятараў. Таксама, як Вітушка й Касмовіч.*

*Пасьля мы пайшлі да Тумаша на абед. Тумаш, ягоны заступнік Вітушка й начальнік тады паліцыі Касмовіч жылі ў адным вельмі цікавым доме былага генэрала Паўлава, камандуючага Беларускай ваеннай акругі, якога потым бальшавікі расстралялі за нядбаласьць: ён не дагледзеў напад немцаў на Савецкі Саюз. Быў расстраляны ён і ягоныя заступнікі, па-мойму, цэлы штаб.*

*Жылі яны ў гэтым доме, які вельмі добра ахоўваўся. Гэтая вуліца паралельная да галоўнай, ці цяперашняга праспэкту Скарыны. Па-*

*мойму, Кірава яна была. Гэты дом яны занялі таму, што ён вельмі добра ахоўваўся. Яны жылі на першым паверсе. Ды й сам дом, здаецца, быў аднапавярховы мураваны з моцнымі сталёвымі акяніцамі, што закрывалі вокны.*

*Вось пры абедзе я там найбліжэй пазнаў Савёнка. Пры абедзе нас было чалавек таксама, можа, дваццаць. Стаяў доўгі стол, і там Савёнак дэманстраваў гэтую кнігу, вынесеную з КГБ, тады НКВД, кнігу абвінавачваньняў, ці прысудаў Беларускаму Нацыянальнаму Цэнтру. Зьвярніце ўвагу, вельмі многа ёсьць памылак, што да гэтай кнігі, яе інакш называюць і розна гавораць, дзе яна падзелася. Артыкул Савёнка — найлепшы артыкул пра Беларускі Нацыянальны Цэнтар. І пра гэтую кнігу ён там успамінае. У кнізе гэтай сьпіс усіх, ці, можа, калі ня ўсіх, то большыні пакараных тады ў Менску дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Цэнтру.*

*У асноўным гэта былі дзеячы Заходняй Беларусі: Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валынец, Дварчанін, Кахановіч і іншыя. Пасьля былі далучаныя й усходнебеларускія дзеячы. Дарэчы, Савёнак быў у ліку тых дзеячаў (іх было няшмат, некалькі чалавек, па-мойму, магчыма на пальцах адной рукі палічыць), што ня прызналіся да віны. А там усе прызналіся, хаця такога Беларускага Нацыянальнага Цэнтру ня было. Была гэта выдумка Масквы. Чарговая, як і той у часы нацдэмаўшчыны, у 1930 годзе, Саюз Вызваленьня Беларусі.*

*На абедзе гаворкі былі, у асноўным, пра палітыку. І Савёнак найбольш актыўны тады быў, расказваў пра гэты Беларускі Нацыянальны Цэнтр, пра гэтую кнігу, дэманстраваў яе. Гэта быў такі машынапіс, прыблізна фармату канцылярыйнай паперы й добра зложаны й добра апраўлены. КГБ, ці НКВД, стараліся трымаць архівы ў парадку.*

*Гаворак пра літаратуру было многа. Савёнак заўсёды вясёла расказваў свае фэльетоны. Ён быў адным з тых вязьняў, што цяжка сядзеў, таму што з гэтых сасланцаў усякія былі людзі, якіх пасьля турмы ссылалі на пасяленьне. Вось так, як Адамовіч, напрыклад. Праўда, ён ня з гэтага працэсу, а з 1930 году — працэсу Саюзу Вызваленьня Беларусі. Але ён быў сасланы й там, недалёка Вяткі, здаецца, у Мардовіі ці Ўдмурдзіі сядзеў сабе — быў настаўнікам. І Кіпелі там недалёка былі, і Ул. Жылка.*

*А Савёнак — Савёнак быў у лягерох! Спачатку ён, здаецца, быў у Комі на лясных работах, яго перавезьлі, ня знаю куды. У кожным разе, яго перавезьлі ў такое месца, дзе ім было значна лепей. Ён казаў, што там ім давалі зацірку, жытнюю зацірку, і яны ад той заціркі пасьля такога голаду, які раней мелі, паразьядаліся, казаў, о-о-о!*

*У "Менскай газэце" Савёнак быў адным з супрацоўнікаў. Калі хто хоча ведаць яшчэ аб тых часох, газэце, то там фактычна гэтая група — Адамовіч, Савёнак, у меншай меры Арсеньнева — вызначала палітычны кірунак газеты. Вось калі трэба было пра нешта даведацца, ішлі ў газэту.*

*Набліжаліся Дзяды. Я за час, што жыў у Менску, аблазіў усе могілкі. Знайшоў і магілу Сьцяпана Булата. Потым гэтыя могілкі разбурылі. А цэркаўка там і цяпер стаіць. Маленькая.*

*На Вайсковых могілках пахаваны Эдуард Самуйлёнак. Ягоная магіла недалёка ад царквы. І яшчэ адна магіла была — ці не Чарвякова? На гэтых магілах ня было ніякіх знакаў. У мяне ўзьнікла думка паставіць крыжы на гэтыя магілы. Але-ж то ўсё былі камуністы. Савёнак кажа:*

*— Няважна, што камуністы. Па-першае, гэта хрышчоныя людзі, а па-другое, — беларускія патрыёты. У тых умовах, у якіх яны жылі, яны, магчыма, не маглі інакш сябе паказаць. Так што стаў крыжы.*

*І я паставіў крыжы.*

*Там, у Менску, мы некаторы час жылі з Савёнкам у адным раёне. І таму я зь ім часта ішоў дахаты, часта сустракаўся. Гэты раён недалёка ад Акадэміі навук. Там Дом друку. І ад Дому друку, калі ісьці ў маскоўскім кірунку, то былі такія домікі для працаўнікоў друку. У адным з такіх домікаў я жыў з Алесем Матусэвічам, а ў другім такім-жа, толькі на іншай вуліцы, жылі Савёнкі. Так што я вельмі часта з Савёнкам сустракаўся, такія блізкія дачыненьні зь ім былі.*

*На эміграцыю мы ехалі разам, ці не ў адным вагоне. У Нямеччыну мы таксама паехалі разам, разам трапілі ў Бэрлін, там большая частка беларусаў засталася, а мы з Савёнкам паехалі ў Сілезію. А там уладкоўваліся па-рознаму. Жылі ў лягеры працаўнікоў, якія былі занятыя на розных фабрыках. Там мы зноў разлучыліся. Не знаю, як яны паехалі, а я паехаў праз Бэрлін зь Янкам Ліманоўскім.*

*Савёнак — вельмі сьціплы чалавек. Гэта адно. Па-другое, чалавек прасталінейны. Ня любіў улазіць у такія сытуацыі, дзе мог скампрамэнтаваць сябе. Таму аб ім так мала засталося зьвестак, нягледзячы на тое, што гэта такі моцны духовы чалавек, вельмі моцны. У яго няма такой багатай перапіскі, як, напрыклад, у Віцьбіча. Потым у Нью-Ёрку ён ня так доўга й быў. У хуткім часе яны выехалі зь Нью-Ёрку, купілі такую малую фармачку, курыную, і там ён ужо заставаўся. Аж да сьмерці. Зь людзьмі ён сустракаўся толькі ў сьвяты. Ці калі мы прыяжджалі да яго ў госьці. Раз на год я заўсёды езьдзіў да іх летам.*

*Як фэльетаніста Савёнка вельмі высока цанілі. Ягоны "Дзёньнік", што ішоў у падвалах "Беларускай газеты", цанілі вельмі высока. А на эміграцыі ён напісаў пару фэльетонаў, можа, пару артыкулаў у газэту. Дарэчы, і там, у Менску, ён ня толькі фэльетоны пісаў. І артыкулы таксама. Вельмі добрыя артыкулы ягоныя на эканамічныя тэмы. Ясна, пад рознымі псэўданімамі ўсе. Пра ягоную даваенную кнігу, думаю, ня было шырока ведама. Ён увогуле не належаў ні да "Маладняка", ні да "Ўзвышша". Ну а ў пісьменьніцкім гурце ён быў. Гэта група, у якой быў Чарот, ягоны зямляк, дарэчы. Яны разам вучыліся й былі ў вельмі блізкіх дачыненьнях. Савёнак часта расказваў пра Чарота.*

*На эміграцыі быў ня толькі "сум па радзіме". Я ня думаю, што так многа месца прысьвячалі суму, як пра эміграцыю пішуць. Была праца, я сказаў бы, у заступніцтве незалежнай думкі й незалежнай ідэі, праца для незалежнасьці Беларусі. А вось суму там спэцыяльна я не заўважыў.*

*Мне цяжка сказаць, чаму Савёнак не надрукаваў тут кнігі, хаця так многа напісаў. Думаю, проста праз сваю сьціпласьць. Ён як журналіст вельмі моцны. Вось мне ведамы такі факт цікавы. Кабыш (Кандыбовіч) быў загадчыкам СТО, галоўнай гандлёвай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі. Адзін раз яму трэба быў такі моцны артыкул у газэце. Ён кажа: "Знаеце што, хлопцы, свіньню вам цэлую дам за добры артыкул" (гэта перад Калядамі было ці што?). Тады сабралася рэдакцыя: свіньня — гэта-ж вялікая справа ў час нямецкай акупацыі, і сталі рашаць, хто напіша артыкул. І даручылі Савёнку. У яго ёсьць такія на эканамічныя тэмы артыкулы на першай старонцы газеты. Думаю, што гэта, магчыма, было ў 1942 годзе. Так што Савёнак, як журналіст, у час нямецкай акупацыі ў гэтай беларускай газэце быў самы моцны. Ня толькі фэльетаніст. Фэльетоны — гэта між іншым, але калі гавораць пра Савёнка, то нібы гэта асноўны ягоны жанр. Але ён ня вельмі хацеў пісаць.*

*Савёнак, дарэчы, выратаваў Адамовіча ў час вайны. Там, у рэдакцыі, быў такі звычай: а 12-й недзе гадзіне ўсе ішлі на абед у сталоўку Самапомачы. Яна была на вуліцы, якая ў савецкія часы называлася Камсамольская (і цяпер, відаць, так), а ў часе вайны яе былі назвалі вуліцай Алеся Гаруна. Абед звычайна быў просты: зацірка, крупнік, яшчэ там нешта.*

*Я часта заходзіў туды да іх. Вярталіся ў рэдакцыю. Савёнак падышоў да Адамовічавага стала папрасіць пяро. Яму на нешта патрэбна было. Адамовіч адчыніў столік, глядзіць — там ляжыць бомба, міна. І па-расейску напісана: "Не трогать!". Адамовіч, як*

*пабачыў, крыкнуў на ўсіх: "Уцякайце!". Мы ўсе павыходзілі, пазванілі ў паліцыю. Прыйшоў паліцыянт з нашай, мясцовай, паліцыі. Ён узяў гэтую міну выносіць, вынес яе з будынку, і перад будынкам яна разарвалася. У руках. І паліцыянта разарвала. Паліцыянт той быў фолькс-дойч, менскі немец. Пасьля гэтага немцы сказалі Адамовічу, каб ён неадкладна выехаў у Бэрлін. І ён пасьля гэтай бомбы на другі ці на трэці дзень выехаў. А Савёнак застаўся. І ўжо пасьля гэтага нейкі спалох наступіў у рэдакцыі. Дарэчы, тады сярод гасьцей быў зь Вільні прыехаўшы наш драматург Аляхновіч. Я там быў, але я раней выйшаў. А хто міну падлажыў? Нічога ня ведама. Ці гэта была бальшавіцкая работа, ці нямецкая... Адамовіч ня быў карысны для немцаў. Таму яны маглі хацець яго пазбыцца»*[1].

Напрыканцы сакавіка 1944 г. кіраўніком рэпертуарнай секцыі Беларускага культурнага згуртавання Янкам Ліманоўскім было прынята рашэнне ажыццявіць пастаноўку камічнай оперы «Тарас на Парнасе», і ён запрасіў Лявона Савёнка напісаць лібрэта. Той ужо пачаў накідваць тэкст, характарыстыку сцэнічных вобразаў, але не хапіла часу. Апошні запіс у сшытку напрацовак — горкі: *«Калі на "Ўзвышша" ўсходзілі 5 месяцаў, дык на Парнас пры такіх тэмпах можна залезьці за тры гады»*[2]. Сапраўды, часопіс «Узвышша», які меліся аднавіць, быў цалкам гатовы да друку, але свету не пабачыў, адбіты быў толькі няпоўны сігнальны экзэмпляр. Не ўбачыла свету і опера «Тарас на Парнасе».

Герой самага вялікага твора Савёнка, Іван Іванавіч Чужанінаў, піша дзённік на працягу года, а вось сам аўтар, на жаль, ніякіх запісаў не вёў — так, зрэдзьчасу пакідаў радок-другі ў сшытку, да якога потым ніколі не вяртаўся. І ўсё ж:

*«28.06. Ноч у БЦР. На Паўночным вакзале. Ноч на таварнай.*

*29.06. Бамбардавалі. Правадыры ў кусты. "Герой", які напачатку хадзіў з аўтаматам, паваліўся зь перапугу ў яму з глінай. Выйшаў пад раніцу, як зэбра.*

*— Навесілі!*

*— На нас?*

*— На нас.*

*30.06. Стоўбцы. Трывога. Паэта (або пісьменьнік) ліе горкія сьлёзы (ладна выпіўшы) — толькі паэта можа зразумець гэта. Можа глядзімо на гэта апошні раз»*[3].

1 Тэкст успамінаў захоўваецца ў архіве БІНІМ.

2 Рукапіс. Захоўваецца ў архіве БІНІМ.

3 Рукапіс. Захоўваецца ў архіве БІНІМ.

Развітанне сапраўды было назаўсёды. Пачалася эміграцыя, а з ёй — чарговы, *«новы этап беларусізацыі»*, які, што праўда, у нашай гісторыі яшчэ не атрымаў свайго «парадкавага нумару».

У Нямеччыне Савёнак апынуўся спачатку ў беларускім лагеры DP Міхельсдорфе, а потым у DP Остэргофен, заснаваным зімой 1947 г. Прытулак у ім знайшлі больш за 400 беларусаў. Дзякуючы Станіславу Станкевічу, Антону Адамовічу, Міколу Равенскаму ды Апалоніі і Лявону Савёнкам гэты лагер стаўся адным з цэнтраў беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Тут пачала выдавацца газета «Бацькаўшчына» (першы нумар выйшаў 31 кастрычніка 1947 г.), якая адыграла выключную ролю на эміграцыі, тут працавала драматычная студыя пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага, тут выдаваўся часопіс «Рух», была сядзіба Беларускага нацыянальнага цэнтру (БНЦ).

У Статуце БНЦ мэты і заданні былі акрэслены наступным чынам: *«Беларускі Нацыянальны Цэнтар стаіць на грунце дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і вядзе сваю працу ў мэтах зрэалізаваньня дзяржаўна-незалежніцкіх ідэалаў, выражаных у акце 25 сакавіка 1918 г. У сваёй палітычнай дзейнасьці БНЦ будзе кіравацца прынцыпамі заходняй цывілізацыі й дэмакратызму, выступаючы супраць усялякіх відаў таталітарызму. БНЦ будзе імкнуцца да цеснага супрацоўніцтва зь іншымі народамі, першым чынам із суседнімі беларускаму, якія знаходзяцца сяньня ў падобным да яго палажэньні й змагацца за тыя самыя мэты. Гэтае супрацоўніцтва павінна апірацца на прызнаньне й пашану поўных сувэрэнных правоў кажнага народу й ні ў чым не павінна парушаць інтарэсаў беларускага народу й ягонай нацыянальнай годнасьці. БНЦ зьяўляецца арганізацыяй міжпартыйнай і згуртоўвае ў сабе на дэмакратычных асновах усе палітычна-грамадзкія кірункі беларускае эміграцыі й каардынуе іх дзейнасьць. БНЦ вядзе працу як палітычную, так і сацыяльна-харытатыўную, культурна-асьветную ды ўсялякую іншую, якая можа быць патрэбнай у абставінах эміграцыі».*

Сябрамі БНЦ былі, акрамя Лявона Савёнка, такія вядомыя дзеячы, як Антон Адамовіч, Алесь Вініцкі, Аўген Каханоўскі, Барыс Рагуля, Франс Кушаль, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Сурвіла ды іншыя.

У 1947 г. у лагеры быў выдадзены першы нумар часопіса «Сакавік», не ў апошнюю чаргу дзякуючы Савёнку. Менавіта ў яго захоўваўся поўны варыянт (у адрозненне ад выдрукаванага Язэпам Лёсікам у 1920 г. у газеце «Беларусь») гістарычнай драмы Каруся Каганца «Сын Даніла». Антон Адамовіч, даведаўшыся, што ў Савёнка ёсць драма

Каруся Каганца, загарэўся жаданнем яе выдрукаваць. Так паўстала ідэя новага часопіса. У ім, акрамя навелы В. Бірыча (Антона Адамовіча) «Афрадыта-Ост», вершаў Рыгора Крушыны, Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, быў змешчаны і пачатак «Дзённіка Чужанінава», які атрымаў новую назву — «Запіскі эмігранта». Выглядае на тое, што аўтар збіраўся не толькі передрукаваць «Дзённік» з «Беларускай газеты», але і працягнуць жыццяпіс героя ў лагерах DP. На жаль, публікацыя не была скончаная, і працяг «Дзённіка Чужанінава» не ажыццявіўся.

У лагеры Остэргофен Лявон Савёнак працаваў дырэктарам Беларускае гімназіі, якая адчынілася 24 лютага 1947 г. Разам з ім, выкладчыкам матэматыкі, настаўнічалі Антон Адамовіч (гісторыя), Мікола Кунцэвіч (лацінская і замежная мовы), Пётра Манькоўскі (англійская мова), Мікола Равенскі (спевы), Апалонія Савёнак (родная мова і літаратура), Зінаіда Станкевіч (прыродаведа і фізіка) ды іншыя. Лявон Савёнак выкладаў таксама на адукацыйных курсах для дарослых.

З Остэргофену Савёнкі пераехалі ў Розэнгайм, куды перавезлі беларускі лагер, дзе і ён, і ягоная жонка Апалонія далей выкладалі ў гімназіі. Савёнак часта ездзіў у Мюнхен, дзе інтэнсіфікавалася палітычнае жыццё антыкамуністычнае эміграцыі з СССР. Навязаў Савёнак цеснае супрацоўніцтва з украінскай газетай «Українські Вісті» і рэдактарам Іванам Баграным.

4–5 чэрвеня 1948 г. у горадзе Канстанцы (французская зона) адбыўся з'езд праваслаўных беларусаў, да правядзення якога прыклаў немалыя намаганні і Лявон Савёнак, і сам быў сярод ягоных удзельнікаў. Гэты з'езд стаўся вырашальным у адраджэнні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Тады была прынятая наступная пастанова: *«Асноўваючыся на ідэі Грыгора Цамблака, незалежнасьці Беларускай (Вялікага Княства Літоўскага) Царквы ды змаганьні за яе зьдзяйсьненьне пазьнейшых беларускіх праваслаўных іярархаў, духоўнікаў і вернікаў, закончаным мітрапалітам Менскім Мельхісэдэкам у 1922 годзе, устанавіўшага Беларускую Аўтакефальную Царкву, Зьезд сьцьвярджае, што тры епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы (Віленская, Горадзенская й Пінская) атрымалі дазвол на аддзяленьне ў Беларускую Аўтакефальную Царкву, багаслаўленьне й прызнаньне ад Мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы, Блажэньнейшага Дыянісія — галавы Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, дадзеныя ім на рукі Мітрапаліта Аляксандра Пінскага. Дзеля таго, што перад Менскім Усебеларускім Праваслаўным Саборам існавалі толькі тры епархіі, стварыўшыя наступныя епархіі Беларускай Праваслаўнай Царк-*

*вы, Зьезд сьцьвярджае кананічнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы».*

У ЗША Савёнак пераехаў у 1950 г. Гэта быў час, калі ў Радзе БНР, сябрам якое ён быў ад 1947 г., адбыўся раскол (1952–1954 гг.). Прычынай расколу было стаўленне да палітыкі «Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму» (першапачатковая назва — «Камітэт вызвалення народаў Расіі»). Справа ў тым, што з пачаткам «халоднае вайны» ў Вашынгтоне паўсталі як бы дзве плыні — два погляды на дачыненні з СССР. Пентагон уважаў, што ў тагачасных умовах адзінай гарантыяй міру можа быць нарошчванне ўзбраення. Палітыкі з Кангрэса лічылі, што прапаганда, вывучэнне СССР маюць не меншае значэнне. У выніку іхнай актыўнай дзейнасці паўстаў Інстытут вывучэння СССР, радыё «Вызваленне» (пазнейшая «Свабода»). Афіцыйна амерыканскі ўрад заявіў: ён змагаецца з камунізмам у СССР і ў гэтай барацьбе падтрымоўвае ўсе народы — беларусаў, летувісаў, украінцаў. Але ён не вырашае далейшы лёс земляў, што знаходзяцца зараз пад расійскай акупацыяй. На бок гэтай афіцыйнай палітыкі, палітыкі так званага «непрадрашэнства», стала частка сяброў Рады БНР разам з прэзідэнтам Міколам Абрамчыкам. Яны прытрымліваліся думкі, што сёння неабходна максімальна атрымаць дапамогу ад афіцыйнага Вашынгтона, а ўжо потым уздымаць пытанне пра незалежнасць Беларусі. Другая, даволі значная частка сяброў Рады БНР, не пагадзілася з гэтым і стварыла фракцыю «Асцярожнага супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам», у якую ўваходзіў і Лявон Савёнак. Гэтая фракцыя заявіла, што незалежнасць Беларусі была абвешчана яшчэ ў 1918 г. і на пазіцыях непрадрашэнства Рада БНР з «Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму» супрацоўнічаць не можа. Быў створаны механізм для перавыбараў Прэзідыуму і прэзыдэнта. Старшынёй камісіі па падрыхтоўцы рэферэндуму быў абраны Лявон Савёнак.

У выніку перамагла група Міколы Абрамчыка. Тыя сябры Рады, што не пагадзіліся з палітыкай «непрадрашэнства», паступова адышлі ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў Прэзідыуме, а Аўген Каханоўскі нават выйшаў з Рады.

Разам з тым неабходна зазначыць, што палітыка «непрадрашэнства» засталася такой пераважна на афіцыйных паперах, бо і ў друку, і на радыё нацыянальная прапаганда вялася з адназначна дзяржаўніцкага пункту гледжання.

Палітычная і грамадска-культурніцкая дзейнасць Лявона Савёнка на эміграцыі — тэма асобнай, грунтоўнай размовы: адзін з ініцыятараў

стварэння Камітэта незалежнай Беларусі (разам з Леанідам Галяком, Юрыем Сабалеўскім, Анатолем Плескачэўскім), сябра Цэнтральнага камітэта аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў (старшыня Аўген Каханоўскі), рэдагаваў газету «Беларус», уваходзіў у дарадчую камісію па перакладу Біблії, які ажыццяўлялі Янка Станкевіч ды пастар Масей Гітлін. Як журналіст, што добра ведаў савецкую прэсу, апрацоўваў манаграфію аб прэсе БССР (на жаль, яна не захавалася), а таксама даваў шмат інфармацыі ў заходнія даведнікі аб падсавецкім друку на Беларусі (La Presse Derrière le Ridean de Fer. Paris, 1948; The Free Press of the Supressed Nations. Augusburg, 1950).

Адным з яго блізкіх сяброў быў Мікола Равенскі, з якім лучыла спачатку частая рыбалка на Дунаі, а потым, калі Равенскі пераехаў у Бельгію, — ліставанне. У ЗША былі блізкія дачыненні з Міколам Паньковым, Аўгенам Каханоўскім, Антонам Шукелойцам, Антонам Адамовічам, Віталем Кажаном, Ізыдарам Плашчынскім, Гіпалітам Паланевічам, сям'ёю Васіля Стомы (Сініцы), земляка з Глыбоччыны. Доўгагадовым і блізкім сябрам быў доктар Станіслаў Грынкевіч, сем'і Аляксея Грушы, Міколы Гарошкі, Івана ды Вольгі Канарчукоў.

Памёр Лявон Савёнак 21 лютага 1974 г. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.

Творчая спадчына Лявона Савёнка невялікая, але шматгранная: гэта і даваенныя фельетоны, фельетоны, надрукаваныя ў часы Другой сусветнай вайны, на эміграцыі, шматлікія артыкулы, пераважна на палітычныя і эканамічныя тэмы.

Новы зборнік твораў Лявона Савёнка знаёміць чытача з найбольш цікавымі ўзорамі розных этапаў творчасці і дазваляе прыйсці да наступнай высновы: сатыра Савёнка ад пачатку была не столькі антысавецкай, антырасійскай, антыкамуністычнай (хоць гэта ўсё, безумоўна, ёсць), колькі пра-беларускай. Гэта асабліва добра бачна на прыкладзе твораў эміграцыйнага перыяду, калі аб'ектам сатыры становяцца «зарубежнікі» і «крывічы» («Ліст у рэдакцыю пра кансалідацыю») або захопленасць месцічаў лагераў DP утварэннем «урадаў» («Што рабіць?») — адным словам, усё, што замінала, перашкаджала нармальнаму беларускаму жыццю.

З першага фельетона, якім пачыналася адзіная кніга Савёнка, з «Чароўнай іголкі» (1929 г.), выразна выяўляецца мастацкі метад пісьменніка — фантастычны рэалізм, калі апісанае ім здарэнне, у найвышэйшай ступеніневерагоднае, здараецца ці не штодзень: улада шукае ў коміне чароўную іголку, што быццам дапамагае выйграваць судовыя

працэсы, судзяць каня за тое, што следчы трапіў не ў тую вёску, напіўся дый згубіў *«вельмі важныя справы»* («У абарону Буланага»). І не за такое маглі асудзіць, і не толькі каня. Сутнасць метаду ў паказе рэальнай жыццёвай паўсядзённай з'явы ў нечаканым, фантасмагарычным ракурсе. Прытым фантастычнасць літаральна пранізваецца рэальнымі побытавымі дэталямі. Так, праз прызму фантастыкі, ствараецца новы погляд на добра знаёмую ўсім рэчаіснасць. Падсавецкае жыццё было настолькі абсурднае, настолькі неверагоднае, што метад адлюстравання яго ў літаратуры мог быць адно фантасмагарычны. А што рэчаіснасць была сапраўды такая, добра сведчыцца ўсёй практыкай савецкай дзяржавы — стварэннем уяўных «шкодніцкіх» арганізацый, шматлікімі ірэальнымі судовымі працэсамі, фантастычнасцю фармулёвак прысудаў і г. д. І таму ў гэтых фантасмагорыях Лявона Савёнка рэалістычнасць, факталагічная дакладнасць большая за тагачасныя (дый значна пазнейшыя) так званыя рэалістычныя творы:

*І я шчаслівы, бо заўсёды*
*Шчаслівы той — хто бальшавік.*
А. Александровіч. Песня бальшавіка.

*Ну яго к чорту,*
*Паказваць пачуццяў мастацтва,*
*Лепей вучыцца*
*Валодаць нажом.*
М. Бацюшкаў. На бой! На бой!

*Адрынуты ўпадніцтва, хістанні й узлёты.*
*І паўшы шлях усцелен прастатой.*
*Мы прагнем чорнаю работай*
*Нагнаць гісторыі прастой.*
Прыбытак Лад. Пралетарскай інтэлігенцыі.

І нездарма адзін з герояў Савёнка, аўтар першай, мабыць, «гастранамічнай гісторыі» Беларусі («Васеннія настроі») не верыць самой савецкай рэчаіснасці — настолькі яна фантастычная — і штогод паўтарае сам сабе: *«Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога з гэтага не будзе»*. Такога, сапраўды, яшчэ ніхто ў свеце не бачыў, але такое сталася. І што з гэтага выйшла, спазнала на сабе не адно пакаленне беларусаў.

А што рэальнасць была насамрэч такой, сведчаць нейкім дзівам захаваныя старонкі нататніка Лявона Савёнка ваеннага часу, дзе ён подбегам запісваў пачутыя дыялогі, рэплікі — як матэрыял для будучых фельетонаў:

*«Х. загадзя пісаў дзёньнік антысавецкі, на выпадак, калі заарыштуюць, ды каб мець "рэабілітацыйны" матэрыял.*

*Н. разводзіцца із жонкаю за "развратны" касьцюм.*

*Прафэсар К. і бухгальтар Г. зьбіраюць акуркі. На гэтым груньце у іх частыя непаразуменьні: Ты ў мяне з-пад носу вырываеш. Нарэшце, пагадзіліся: падзялілі горад на вучасткі. І цяпер кажны прамышляе на сваіх прасторах. З прыходам амэрыканцаў справа палепшылася: акуркаў больш. Думаюць ехаць у Амэрыку: А што-ж там дзеецца? Там, відаць, усе вуліцы высыпаны акуркамі. Могуць мець працу.*

*Лячыў нядрэнна: людзі патроху паміралі, а каторыя і выжывалі.*

*Былы "акадэмік": Напішыце мае ўспаміны. Я магу й прымусіць, правы маю.*

*І засьціг я іх аднойчы ў гарызантальным становішчы. Не, гэта каханьне не даваеннай якасьці!*

*А вы што думалі, што толькі таго й сонца, што ў вакне?!*

*Каб гэтыя калёрыі, ды з салам»*[1].

У вайну сітуацыя на Беларусі змянілася, а з ёю змяніўся ці, хутчэй, набыў новыя адценні творчы метад пісьменніка, змяніліся і акцэнты. Апалонія Савёнак згадвала: *«Лявон быў вясёлы. Умеў сам цешыцца з жыцьця й пацешыць другіх у самыя цяжкія часы сваім пісьменьніцкім талентам гумарыста. У савецкі час у газэце "Савецкая Беларусь" ягоныя фэльетоны чыталіся з захапленьнем. Сам Купала, прыходзячы ў рэдакцыю, пытаўся, ці ёсьць сёньня Лявон у газэце. На жаль, у зборнік Лявона "Чароўная іголка" ўвайшлі па зразумелых прычынах толькі самыя бяскрыўдныя фэльетоны. А й то цікавы зборнік атрымаўся. Рэшта так і разгубілася з арыштам і высылкай у Сыбір. Здавалася б, гэты жартаўлівы чалавек ня дужа моцны, але гэта быў чалавек, ператрываўшы шэсьць год савецкай турмы й ссылкі, нікога ня выдаў, ня здрадзіў і нават там пры допытах сваім гумарам і жартам патрапіў адвесьці небясьпеку ад прыяцеляў.*

*У цяжкі час нямецкай акупацыі ягоныя фэльетоны ў "Беларускай Газэце" зьяўляліся аддушынай, подыхам сьвежага паветра, выклікалі сьмех на змучаных тварах. Іх чакалі й чыталі, хоць крыху бачачы сьмешнасьць і мізэрнасьць тэй рэчаіснасьці, якая была сапраўды чорнай — так ціснула, што, здавалася, канца краю ёй ня будзе. І з напісанага ў тыя часы амаль усё загінула: эвакуацыя, лягеры ДП. Але нешта засталося»*[2].

[1] Рукапіс. Захоўваецца ў архіве БІНІМ.

[2] Запісы БІНІМ. — 1999. — № 24. — С. 170–171.

З гэтага «нешта» найперш трэба згадаць «Дзённік Чужанінава». У беларускай ваеннай, ці *падакупацыйнай,* літаратуры (тэрмін мо і не самы мілагучны, але ён выйграе ў дакладнасці) гэты твор стаўся працягам мрыеўскай традыцыі — і лепшым, што было зроблена ў сатырычным жанры таго часу, — па абодва бакі лініі фронту.

Зроблены таксама ў нібыта аўтабіяграфічным жанры і таксама ад імя апавядальніка-маскі, «Дзённік» непазбежна выклікаў у памяці скруткі Самасуя; герояў гэтых твораў збліжала і іхная няўтомная, часам стамляючая астатніх, актыўнасць, здольнасць мімікрыраваць і ўменне любую сітуацыю — рэвалюцыю, вайну, акупацыю — максімальна скіроўваць на ўласную карысць.

«Дзённік» ствараўся ў 1942 г., але ў тэксце не знойдзем ані выспяткаў уладзе былой, ані ліслівасці перад уладай новай. Нават болей, часам міжволі думаецца: а куды глядзелі тагачасныя цэнзары? Выглядае, аўтара цікавяць не столькі ўмовы, колькі чалавек у гэтых умовах, якія — будзе дарэчы тут зазначыць — з твора паўстаюць адрознымі ад нашых трывалых уяўленняў і тым самым набываюць ці не гістарычную вартасць, пра што і піша аўтар ва ўступе «Ад перакладніка». Сапраўды, так пра жыццё ў акупаваным Мінску не пісаў ніхто.

Разам з тым «Дзённік Чужанінава» — гэта і нашыя надзённыя «праклятыя пытанні». Прыкладам, герой кажа: *«У беларусаў нічога не будзе»*, і праз колькі дзён-старонак разважае з суседзямі пра намаганні габрэяў адрадзіць уласную дзяржаву, смяецца з іхнай неваяўнічасці, хоць *«калі й зайца біць, то й ён запалкі будзе паліць»*. Але мы, сённяшнія чытачы, ведаем, хто меў рацыю ў той спрэчцы, ведаем, што такая дзяржава існуе.

Творы Савёнка, адмыслова напісаныя не аўтарскай мовай, а мовай масы — той мовай, што падмацоўвала і ўмацоўвала савецкую культуру наогул, мову «вылучэнцаў» — у прыватнасці. Мова клішэ, мова штампаў, што гучыць дысанансам з народнай мовай асобных герояў — прыкладам, таго ж Сымона, аўтарскага варыянта філосафа Торбы, які кажа пра сябе: *«Я тутэйшы. Дый навошта мне кіравацца? Хай на мяне кіруюцца, каму трэба, а я ў сваёй хаце й на сваёй зямлі»*. І галоўны герой ці, дакладней, Антыгерой (кажа пра сябе: *«Хто я такі? Дзіўна. Такога пытання я сабе яшчэ ніколі не ставіў»*) таксама створаны выключна моўнымі сродкамі: парадыраваннем афіцыёзнай мовы, камбінацыяй стыляў, сродкамі стылістычнага «зніжэння», карнавалізацыяй падзеяў і герояў. І ўсё гэта руйнуе наш спрадвечны страх перад Сістэмай.

Кожны дзённікавы запіс, маналог — гэта маленькае самастойнае апавяданне, звычайна анекдатычнае (дый сама падзея, што ляжыць

у ягонай аснове, часам падаецца нам проста нерэальнай, зрэшты, як самое жыццё ў Сістэме), якое нязменна заканчваецца мараллю, павучэннем Чужанінава, «не-тутэйшага», што жыве сярод нас як прымак, наводны, чужы, адным словам. Маналог (маналогі) герояў Лявона Савёнка, калі карыстацца тэрміналогіяй Міхаіла Бахціна, уяўляюць сабой, па сутнасці сваёй, спрэчку, бясконцую спрэчку, ад пачатку запраграмаваную на пройгрыш — з Сістэмай, з любой таталітарнай сістэмай, будзе гэта бальшавіцкая ці фашысцкая — вынік той самы.

Што аб'ядноўвае творы Савёнка? Як слушна заўважыў у свой час Віктар Вінаградаў, гаворачы пра літаратуру 1920-х гадоў, яна адмаўлялася ад выбудовы характараў і замяняла іх адлюстраваннем сацыяльных тыпаў пры дапамозе іх жа ўласных галасоў[1]. Гэтае збліжэнне мовы аўтара з моваю героя-апавядальніка не толькі спрыяла росквіту *масці* ды *сказу*, але і паступова рабілася немалою праблемаю, бо чытач, новы чытач, з тых самых сацыяльных колаў, што і героі твораў (выхадцы з сялянаў, мяшчане, нядаўнія вайскоўцы, пралетарыят), часта атаясамляў аўтара і ягоную маску.

Смех ёсць сродкам змагання супраць анармальных умоваў існавання. Гегель у свой час заўважыў, што насамрэч камедыя стаіць вышэй за трагедыю, што гумар розуму вышэй за ягоны пафас. Трагедыя прымае пакуты як дадзенае, камедыя ж не мірыцца з імі, намагаецца іх пераадолець.

Таму натуральна, што ва ўмовах эміграцыі — таксама ў пэўным плане анармальных — была ўдзячная глеба для з'яўлення гумарыстычных і сатырычных літаратурных спробаў. Бо камічнае — сацыякультурная рэчаіснасць, і смех адыгрывае ролю эмацыянальнай эстэтычнай формы крытыкі.

Вось толькі жанр Савёнка мае адну, але адметную асаблівасць, дзякуючы якой і здабыў ён нянавісць самой Сістэмы: прайграе герой — выйграе чытач. Бо, як завяршае Лявон Савёнак «Дзённік Чужанінава», *«трэба глядзець у корань»*.

*Лявон Юрэвіч*

---

[1] Виноградов, В. О языке художественной литературы. — М., 1959, С. 475-476.

# САВЁНКІ-КІПЕЛІ: БЕЛАРУШЧЫНА Ў АМЕРЫЦЫ

У рукі беларускаму чытачу XXI стагоддзя ідуць выбраныя творы Лявона Савёнка, пісаныя і друкаваныя ў стагоддзі XX-м. На жаль, з прычынаў, уласцівых таму часу, а найперш і найбольш цэнзуры, фельетоны-замалёўкі Савёнка амаль невядомыя грамадству, хоць, напэўна, шмат што ў ягоных творах вельмі рэалістычнае ды актуальнае і ў сённешняй Беларусі.

Відавочна, бадай нязнаны ні чытачам, ні даследнікам літаратуры і сам аўтар — Лявон Савёнак з псеўданімамі Свэн, Крывічанін.

Кемлівы карыстальнік кнігай можа таксама пацікавіцца, а якое дачыненне да аўтара маюць фундатары публікацыі па прозвішчы Кіпель.

Для выяснення гэтых дэталяў-драбніцаў — кароткі ўступ ды пару прыпамінных маментаў аб Лявоне Савёнку.

Лявон Савёнак нарадзіўся 26.6.1897 г. у маленькім мястэчку Вялец, на дарозе з горада Глыбокага ў мястэчка большае Лужкі (сёння гэтыя пункты — Віцебская вобласць). Хата, у якой нарадзіўся Лявон, стаіць і сёння, прычым у вельмі добрым стане, але забітая. Калі Лявон быў яшчэ зусім маленькі, ягоная мама Вольга, з ім і дочкамі, Ксеняй і Нютай, пераехала ў Глыбокае, бо памёр муж, бацька дзяцей Вінцэнт, а ў Глыбокім жылі мужавы сваякі Савёнкі, дык маці было лягчэй гадаваць дзяцей.

У Глыбокім дзеці пачалі вучыцца ды ўсведамляцца як беларусы, асабліва пасля таго, як там пачаў дзеіць беларускі тэатар. Далей Лявон вучыўся і скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе беларускасць і сяброўства, як, прыкладам, з Міхасём Чаротам (Кудзелькам), замацавалася на ўсё жыццё.

Затым была вучоба ў юнкерскім вучылішчы, жыццё ў рэвалюцыйным Пецярбургу, знаёмства з беларускім нацыянальным актывам: Цішкам Гартным, Эдвардам Будзькам, Аляксандрам Чарвяковым і іншымі, ды зліццё з беларускім палітычным рухам.

Пасля падзелу Беларусі ў 1921 г. Рыжскай умовай Лявон Савёнак з Глыбокага перабіраецца з сёстрамі ў Мінск ды пачынае працу журналістам у газеце «Савецкая Беларусь», тады беларускамоўнай.

У Мінску Савёнак жэніцца з Апалоніяй Радкевіч, народжанай у Лагойшчыне, якая працуе ў адукацыйнай сістэме сталіцы, сябруючы і блізка супрацоўнічаючы з Купаліхай (Цёцяй Уладзяй). У сям'і Лявона і Апалоніі нараджаюцца дзеці: сын Лёдзік і дачка Зора.

У тым самым перыядзе, пачатак-сярэдзіна дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, у Мінску жыла: і працавала ды была актыўная сярод беларусаў іншая сям'я маладых беларускіх інтэлігентаў — Яўхім і Марыя Кіпелі (дзявочае прозвішча Зубкоўская). У гэтае пары нарадзіўся сын Вітаўт. Гадоў 30 пазней Вітаўт і Зора пажаніліся, запачаткавалі новую сям'ю ды шлюбам злучылі Савёнкаў і Кіпеляў. Аб гэтым захаваліся ў архівах нататкі Зоры:

*«Пазнаёмілася я з Вітаўтам, калі мне было 15 гадоў, фактычна, калі нам было па 15 — бо мы з аднаго 1927-га году. І так ужо мусіць было наканавана, што шляхі нашыя ішлі разам праз усё далейшае жыцьцё — школа, унівэрсытэт, жанімства, сям'я.*

*У жыцьці ня было вялікіх фэервэркаў, зорак зь неба — было спакойнае сужыцьцё, супрацоўніцтва, асабліва ў сфэры беларускасьці. Мы паходзім зь беларускіх сем'яў вельмі падобных лёсам і накіраваньнем, і гэта шмат дапамагала ў жыцьці. Мы стварылі адзінку. У ангельскай мове ёсьць вельмі трапнае слова team. У спорце гэта перадаецца як «каманда», у бізнэсе — «група». У сям'і мусіць найлепш перадаць як «адзінка».*

*Мы маем розныя характары, мы не згубілі сваёй індывідуальнасьці. Мы дапаўняем адзін другога, дапамагаем адзін аднаму, у выпадках стрымліваем адзін другога, часам падштурхоўваем. Мы — неразлучныя. Мы ўсё жыцьцё аддалі беларускасьці. Як Вітаўт любіць гаварыць, працуем для Беларусі па-за Беларусьсю.*

*У маладосьці Вітаўт быў хіба што больш сэнтымэнтальны. Пад старасьць зрабілася я. Я не ўяўляю свайго жыцьця бяз Вітаўта».*

І Савёнкам, і Кіпелям давялося не соладка ў гадах 1930-х. Яўхім Кіпель як нацдэм у 1930 г. быў арыштаваны і высланы спачатку ў горад Налінск, а ад 1935 да 1941 адбываў тэрмін у Байкала-Амурскіх лагерах на Далёкім Усходзе. Сям'я Кіпеляў была вымушаная выехаць, ды ім было забаронена вяртацца ў Беларусь назаўжды. Лявон Савёнак быў арыштаваны ў 1933 г. па справе Беларускага Нацыянальнага Цэнтру, адбываў шэсць гадоў «пакарання» ў Сібіры, а сям'я ягоная перабралася ў горад Крычаў.

Праз збег спрыяльных абставінаў сем'і перажылі вайну, злучыліся і ў 1944 г. падаліся на Захад, у Еўропу, і далей у ЗША. Вітаўт

і Зора, скончыўшы Лювенскі універсітэт ў Бельгіі, гэтаксама ў 1955 г. перабраліся ў Амерыку. Пажаніліся. У іх нарадзіліся дзеці Алеся і Юрка. Дзяцінства гэтых амерыканскіх дзяцей найбольш праходзіла з дзядамі: у перадшкольны перыяд Алеся і Юрка праводзілі час на ферме дзядоў, «Дзеда Лёні» і «Бабкі», а калі пайшлі ў школу, дык за ўнукамі найбольш наглядалі бабка Марыя і трохі — дзед Яўхім.

Цяпер Алеся — адвакат у Вашынгтоне — часты прадстаўнік «беларускае справы» перад рознымі амерыканскімі аўдыторыямі, і Юра — лекар у Нью-Джэрсі — сябра шматлікіх беларускіх арганізацыяў. Знаёмыя яны і з Беларуссю: бывалі і ў Мінску, і ў Байлюках, і ў Лужках і ў Полацку. Слоў няма: беларускасць унукаў у вялікай меры — настойлівая, крапатлівая, доўгая-доўгая праца дзядоў — беларускіх настаўнікаў.

Гэтулькі пра Савёнкаў-Кіпеляў ды іхныя пачаткі — сувязь з Амерыкай, беларуска-амерыканскім пакаленнем. Далей аб Лявону Савёнку.

Знаёмства-зблізжэнне з Савёнкам пачалося ў мяне, Вітаўта Кіпеля, калі мы пажаніліся з Зорай і ладны час жылі з імі — Лявонам і Апалоніяй у іхнай хаце-ферме ў штаце Нью-Джэрсі. Называў я яго ў абіходзе «бацькам», праўдападобна, з маменту, калі зайшоўшы да іх сказаў: *«Ну, што, бацька, асвяжыся трошкі піўцом»*. Праўда, піўца мы спажывалі не так багата, але гутарак было шмат.

Савёнак прыпамінаў, што працуючы ў «Савецкай Беларусі» ужо ад сярэдзіны 1920-х г., рэдактары «разносілі» журналістаў за інтэнсіўную беларусізацыю, але, як ён казаў, *«мы адчувалі за сабой падтрымку Аляксандра Адамовіча, Аляксандра Чарвякова, Усевалада Ігнатоўскага і іншых беларускіх камуністаў, і беларускую праграму вялі максімум»*. Таксама Савёнак выказваўся, што разгром нацыянальнай інтэлігенцыі для іх не быў «громам з яснага неба», бо ў адміністрацыі, друку, выдавецтвах хапала і «камуністаў-інтэрнацыяналістаў», а тыя былі настроеныя варожа да беларусізацыі.

У першую хвалю арыштаў 1930 г. Савёнак не трапіў. Яго арыштавалі ў 1933 г. па справе Беларускага Нацыянальнага Цэнтру і сувязі з былымі пасламі-грамадаўцамі. Ягонае месца народжання — Заходняя Беларусь — была асноўная афіцыйная падстава арышту.

Дарэчы, малавядомы факт, што як Савёнак, так і некалькі іншых па справе БНЦ, прадсталі перад следствам як грамадзяне БНР. Савёнак гэтым вельмі ганарыўся і прыпамінаў, што на допытах на розных

узроўнях грамадзянства БНР паўставала як пункт абвінавачвання, але ён ад гэтага ніколі не адмовіўся.

Як і з нацдэмаўскае хвалі арыштаў, гэтак і з хвалі арыштаў па справе БНЦ, вярнуліся з зняволення толькі адзінкі.

Савёнак, бясспрэчна, быў беларускім дзяржаўнікам, хоць ружова не глядзеў на шлях дасягнення дзяржавы.

На эміграцыі Лявон Савёнак быў у шэрагу актывістаў аднаўлення БАПЦ, БНР, вельмі блізка супрацоўнічаў з Аўгенам Каханоўскім, уваходзіў у паўтузіна беларускіх арганізацыяў ды неаднаразова сведчыў аб злачынствах савецкае сістэмы, быў у ліку заснавальнікаў Беларускага інстытуту навукі і мастацтва, шмат дапамог пры арганізацыі рэсорту Бэлэр-Менск, разам з Міколам Паньковым арганізаваў Беларускую бібліяграфічную службу і архіў.

Прыпамінаецца мне і гэтакае. Аднойчы на лекцыі беларускае літаратуры ў гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе на пачатку 1948 г. строгі, патрабавальны і высока эрудыяваны настаўнік Аўген Каханоўскі вучням 8-ае класы, класы выпускное, казаў прыблізна так: у будучыні, калі будзе разглядацца глыбей беларуская літаратура, пісьменнік-сатырык Лявон Савёнак будзе адзначаны-схарактарызаваны як адзін з вядучых у ілюстраванні рэальнай савецкай эпохі, удумлівы і востры крытык таго ладу ды аналітык-знаўца нацыянальных пачуццяў і светагляду беларускага абывацеля.

І на заканчэнне ўступу шчыра падзякаваўшы ініцыятару і рухавіку гэтае новае публікацыі Лявону Юрэвічу, прыпушчаю, што Лявон Савёнак выказаўся б так: *«А цяпер кнігу маем!»*

*Вітаўт Кіпель*

# ФЕЛЬЕТОНЫ

## ЧАРОЎНАЯ ІГОЛКА

Калі паўнапраўны грамадзянін вёскі Гнойнае Адам Бабіч ішоў у сераду раніцой з гумна, дзе складаў акалот, к двору, то быў няммала здзіўлены. На страсе яго ўласнае хаты стаяла некалькі вяскоўцаў і моўчкі па цаглінцы разбіралі яго комін.

І што больш усяго было незразумелым і дзіўным для Бабіча: грамадзяне не толькі не раскідалі цэглы, а наадварот, нават дробныя кавалачкі гліны і пылу з сажай акуратна зграбалі ў торбачкі, зносілі ўніз і рассыпалі на разасланую на снезе посцілку. Некалькі вясковых панятых, пад непасрэдным наглядам члена сельсавета А. Жураўскага, поўзалі па посцілцы і чагось пароліся ў шуме.

Тут жа стаяў і ўважліва сачыў за працай Пятро Жураўскі, найзласнейшы вораг Адама Бабіча, з якім ён судзіцца за дарогу вось ужо два гады.

«Што за трасца, — разважаў Бабіч, — шукаюць нечага ў коміне… Звар'яцелі, ці што?»

І неяк троху баючыся, ён падышоў да хаты..

— Па якому праву? — звярнуўся ён да члена сельсавета.

Жураўскі павярнуў да яго запылены сажай твар.

— Па якому такому, пытаюся, праву разбіваеце мне комін?

— Улада ведае, што робіць.

— Улада? Дурань ты, а не ўлада. Ці ж улада коміны разбівае?

— А вось за гэтыя словы я пратакол састаўлю, за знявагу ўрадавай асобы пры выкананні службовых абавязкаў. Ёсць такі пункт.

— Састаўляй, а ўсё роўна жаліцца буду.

— Жаліцца? Вось мы табе пакажам жаліцца, як знойдзем нешта, тады пазнаеш, як супраць улады выступаць, наш пралетарскі суд падводзіць.

Бабіч вылаяўся і адышоў убок. Больш ён у справу не мяшаўся.

А тым часам комін разабралі да страхі і пралезлі на гару.

Гнайчане, якія к гэтаму часу, бадай, ужо ўсёй вёскай сабраліся ля Бабічавай хаты, горача дыскутавалі на тэму аб разбурванні коміну.

Сапраўднай прычыны ніхто не ведаў, і таму дыскусія мела самы разнастайны характар і часамі прымала даволі фантастычны ўхіл.

— Золата, — казалі адны, — замураваў у коміне, а нехта даказаў, каб узяць у банк.

— Ды не золата, — папраўлялі другія, — а нейкія дужа ўжо дарагія паперы…

Знайшліся і такія, што ўжо нешта «чулі» і нешта «бачылі». Суседка Агата, якая вось ужо тры гады не можа забыцца, што Бабічавы дзеці падбілі ёй курчанё, з поваду чаго яна ўсе гэтыя тры гады дзень у дзень калоціцца з Адаміхай, у гуртку баб клялася:

— Далібог жа, як не хлушу… Выйшла я гэта ўначы на двор, за патрэбай, значыцца, аж чую — нейкі грукат над Адамавай хатай. Я ўверх, значыцца, зірк, гляджу, аж нешта чырвонае з коміну як шасне, ды ўверх, ды ўверх. Я ўскочыла, перажагналася тры разы, а яно і знікла. Далібог…

У другім гуртку сівы дзед апавядаў, як у яго, дзеда, таксама нешта ў коміне вурчэла, і як прыязджаў поп свенціць комін:

— Поп, — кажа, — свенціць, а яно вурчыць, поп свенціць, а яно ўсё вурчыць. Так і не даў рады. А як разбілі комін ды злажылі новы, дык і вурчэць перастала.

Гутаркі было шмат, варажылі па-рознаму, але ніхто дакладна не мог сказаць, што такое «завурчэла» ў коміне Адама, каб аж улада ўзялася за гэтую справу.

Калі ўжо комін быў разбураны амаль увесь, да грамады падышоў самы разумны ў вёсцы чалавек, «вучоны», як яго звалі вясковыя.

Вядома, тут усе да яго:

— Чаму гэта такое? Ты ж мусіш ведаць…

— А вы не ведаеце? — здзівіўся вясковы «вучоны».

— Не, — адказваюць, — людзі рознае варожаць, але…

— Варожаць? Тут не варажба, а факт. Усім гэта будзе.

— Як гэта ўсім? — здзівіліся людзі. — Завошта?

— Ды не завошта, а для вашай жа карысці, дурні… Печы электрычныя ставіць будуць.

— Электрычныя печы?

— Ну, але… а комін там рэч зусім лішняя, вось і разбіраюць.

— Ай, божачка, — загаласілі бабы, — што ж гэта будзе, пагінем… Як жа паранку будзем варыць?

— Паранку! Эх, некультурнасьць… Вунь у Амерыцы на гэткіх печах не тое, што паранку, кавы розныя вараць, а яны — паранку! Эх!..

«Вучоны» са смакам плюнуў на вясковую некультурнасць і пайшоў да начальства.

Грамада прыціхла, чакаючы чагось страшнага, невядомага, што можа перакуліць дагары нагамі ўсё іх жыццё.

Тым часам комін ужо разабралі, панятыя з членам сельсавета на чале яшчэ раз апоўзалі посцілку з шумай і, запыленыя, запэцканыя сажай, падняліся на ногі.

— Няма? — здзівіўся П. Жураўскі.

— Як бачыш, — адказаў яму А. Жураўскі. І абодва сябры непрыкметна адышлі ад хаты, загадаўшы панятым разыходзіцца.

Грамада ж не разыходзілася. Чакалі, за кім зараз будзе чарга на ўстаноўку электрычнай печы, якой нават і коміну не трэба. Але начальства, нічога не гаворачы, ціха папаўзло дахаты.

Гнайчане так і не даведаліся, ці будуць электрычныя печы ва ўсёй вёсцы, ці толькі ў Адама. Усе разыходзіліся незадаволеныя.

Так цягнулася дзень і два, і тыдзень. Аб электрычных печах ніхто нічога не даведаўся, нават і «вучоны» штось замоўк.

Настрой вёскі быў паганы. Невядома ў што б ён выліўся, каб на бліжэйшую нядзелю не заклікалі ў раён Адама Бабіча, Петруся Жураўскага і яшчэ некалькіх грамадзян.

У раёне ўсё і выявілася.

— Чаму гэта вы раскінулі Бабічу комін? — запыталі ў раёне А. Жураўскага.

— Шукалі, — кажа.

— Чаго шукалі?

— Іголкі…

— Іголкі? Якой іголкі?

— Ды так, іголкі, — нехаця адказваў А. Жураўскі. — Ды гэта вось ён ведае.

— Ну, дык якой іголкі вы шукалі, — звярнуліся да П. Жураўскага.

— Чароўнай іголкі, — кажа.

— ??

— Ну, дык я ўжо вам усё па парадку. Судзіліся мы, значыць, з Бабічам, як і вам вядома, ужо два гады за дарогу. Ну, у раёне мне адмовілі, у акрузе таксама. Я сабе і думаю: чаму гэта так. Няйначай, тут нешта ё, падроблена, значыць. Ну, я да Лельчыцкай варажбіткі. Так і так, кажу.

Ну, яна і кажа: іголка ў яго ў коміне замуравана, вось чаму табе з ім судзіцца цяжка, вынь іголку — і суд будзе на тваім баку. Ну а як

вымеш іголку з чужога коміну? Я да члена сельсавета, каб па закону, значыцца. А член сельсавета і кажа: мы, як улада, возьмем панятых і выймем іголку, а тады ў суд на яго — няхай не падводзіць. Так і зрабілі.

— Так і было? — пытаюцца ў прадстаўніка нізавой улады, члена сельсавета А. Жураўскага.

— Ды яно ж, мусіць, так.

— Як жа гэта ты, таварыш, паверыў забабонам? Эх, братка, а яшчэ і кандыдат у партыю… эх-хо-хо!

На гэтым і скончылася. Вёска Гнойнае супакоілася, што болей не будуць кратаць іх комінаў.

А больш усяго радаваліся кабеты.

— Падумаеш, — казалі яны, — амараканцы знайшліся, электрычныя печы ставіць будуць. А як жа паранку худобе варыць? Параўняліся з кім, з амараканцамі. Яны нам не раўня.

Бадай і праўду кажуць гнайчанскія кабеты, што амерыканцы нам не раўня. Як вы думаеце, таварышы?

## ЯК Я АРГАНІЗАВАЎСЯ

*Апавяданне маладога паэты, які падае надзеі*

Я перадаю тут без прыкрас, праўдзіва гісторыю вялікага фармавання звычайнага чалавека ў паэту. Перадаю тое, што я пачуў з вуснаў самога паэты, праўда, мною праверанае і дапоўненае па матэрыялах. Па прычынах зусім зразумелых я не называю імя паэты і тым больш яго псеўданіму. Спадзяюся, што шаноўны паэта не дужа прэтэндуе на гэта. А калі прэтэндуе — прашу выбачыць.

Дык вось…

Быў прыгожы асенні вечар. Адзін з тых вечароў, калі засыпаючая прырода песціць нас апошнімі сваімі прыгодамі, калі не хочаш думаць, што ўжо даўно «розы белыя завялі»…

Мы сядзелі на лаўцы ў закінутым кутку старога гаю, пад густымі ліпамі. Зрэдку набягаў лёгкі ветрык, калыхаў галіны дрэў, шуршэў па лісцях. Падалі пажоўклыя лісці, і дуроны ветрык гуляў з імі па гаю…

Мы маўчалі. Я чакаў, пакуль паэта, па маёй просьбе, пачне сваё апавяданне, а вялікі паэта, зацісьнуўшы ў рукі галаву, сабіраў думкі.

Прайшло добрых паўгадзіны, калі паэта нарэшце пачаў.

— Ты хочаш ведаць, як я зрабіўся вядомым паэтай, як я прайшоў гэты цяжкі, але слаўны шлях? Дык слухай. Слухай і запамінай.

Пачалося гэта, як і ўсякае вялікае здарэнне пачынаецца, надзвычайна проста. Быў у нас сход. Я як пастаянны сакратар усіх сходаў пісаў пратакол. Побач са мной сядзеў мой прыяцель Алесь, па праз-ванню Красназвонны (ён таксама быў у прэзідыуме). Рабілі даклад аб міжнародным. Я і да гэтай пары не ведаю, як гэта здарылася, мабыць, я вельмі захапіўся дакладам — толькі факт той, што ў мяне выйшаў не пратакол, а верш, самы натуральны верш. Прачытаў я пасля пратакол і сам здзівіўся: не то я пісаў, не то не я. У пратаколе стаяла літаральна наступнае:

*На сходзе прысутнічала 34.*
*Не ўсе слухалі, а ўсе пастанавілі:*
*Балдуіну і Чэмберлену пад зад каленам —*
*Мы рыхтуем чырвоную змену!*

Пасля сходу т. Красназвонны адвёў мяне ў кут і запытаў:

— Прызнайся, кажы, ты пішаш вершы?

— Не, кажу. А чаму?

— Ты бачыш, па-першаму, почарк у цябе добры, а па-другому, можаш пісаць.

— Почарк, — кажу я, — праўда, у мяне добры, а наогул, дык не ведаю.

— Ну, ты не аднеківайся, — кажа, — я сёння твой пратакол чытаў.

— Ну і што?

— Што? Зусім добра. Калі не пішаш вершаў — дрэнна робіш. Цяпер усе пішуць, хто граматны, а ў цябе к таму ж і спрыт ёсць. І табе маё, — кажа, — прыяцельскае слова: пішы і друкуй.

І што ж ты думаеш? Словы майго прыяцеля не папалі на камяністую глебу: я пачаў пісаць. Помню, першы свой верш, які надрукавалі, пачынаўся так:

*Гэй!!!*
*Гэй, ты, сіняя просінь мая,*
*Затуманься ты ў далі!..*
*Хай жа буду я — не я*
*І ўсе мы — не тым, чым былі!*

А скончыў верш такім манерам:

*Выйду я на чырвоны шлях*
*І там стану, як волат, як дуб, —*
*Будзе ўся галава ў гузаках,*
*Калі ёю б'еш аб слуп.*

Гэты верш нарабіў шуму. Адны крытыкі, праўда, нападалі і казалі, што ў вершы занадта ўжо нейкая туманная ідэалогія, і наогул, казалі. Другія, наадварот, даводзілі, што «волат» і «дуб» — гэта сымбаль нашай магутнасці, і што галава ў гузаках будзе іменна ў той міжнароднай гідры, каторая асмеліцца... Адным словам, пра верш загаварылі, а разам з тым, канешне, і пра аўтара. Я стаў вядомым. Тады што ж? Заставалася толькі працаваць і працаваць, г. зн. пісаць вершы і змяшчаць іх у друку. Я і пачаў працаваць. Пісаў я шмат і на самыя разнастайныя тэмы. Але друкаваць станавілася ўсё горш і горш. Калі-нікалі прапхнеш у газетку верш на кампанейскія тэмы, скажам, аб Чэмберленах, перавыбарах, з'ездах. Але, вядома, на адных кампаніях далёка не паедзеш. Тут на дапамогу мне зноў прыйшоў мой прыяцель Красназвонны.

— Падайся ты, кажа, у саліднае выданне, у якую-небудзь тоўстую часопісь. Трэба, кажа, расці, а не стаяць на адным мейсцы. Жыццё не любіць стацікі.

Паслухаўся я і пачаў расці. Для выяўлення свайго росту я напісаў верш у імажыністычным напрамку. З таго вершу я помню толькі такія радкі:

*Рака кульгае па каменнях,*
*І плача кнігаўка ў гарэ,*
*І лес у сонечных праменнях*
*Сплятае казку-гімн вясне.*
*А мы, як тыя Ванькі-ўстанькі, —*
*То долу клонім, то ўстаём.*
*І «баядэрку», і «калыханку»,*
*І «лам-ца-дрыца» ўсё пяём.*

Панёс я гэты верш у саліднае выдавецтва. Праўда, боязна было крыху, але чаго чалавек не зробіць для надрукавання вершу? Адчыніў гэта я ціханька дзверы ў кабінет загадчыка, праціснуў галаву ў шчыліну і кажу:

— Выбачайце, калі ласка...

Сам загадчык нават і не глянуў на мяне, але на прывітанне адказаў:

— Грошай — няма. Няма, братка, грошай.

— Ды я не аб грашох.. Я верш прынёс.

Дзядзька павёў на мяне акуляры і ўсміхнуўся.

— Верш, значыцца. Ну, пачытайце — будам слухаць.

Але мне не пашанцавала. Толькі я разгарнуў ліст з вершам, як шумна адчыніліся дзверы і ў кабінет смела і бадзёра ўвайшло двое. Адзін — высокі, з чырвоным тварам, другі — маленькі, шчупленькі, і клок валасоў у яго з-пад шапкі тарчыць, на манер японскага вееру.

Яны гучна падышлі да стала і прывіталіся з загадчыкам. Адзін сеў на стол і перакуліў пры гэтым чарнільніцу, а другі абжаргаў крэсла, а потым палажыў ногі на стол.

— Вершы прынеслі ў друк, — загаманіў вышэйшы.

— Добра, — пахваліў загадчык, — па 20 капеек надрукуем.

— Што!? Па 20 капеек? Мне 20 кап. за радок?

Пачаліся спрэчкі. Прынёсшыя вершы ўвесь час напіралі на тое, што яны пішуць толькі па 30 кап. за радок, і што іншых яны, каб і хацелі, не могуць напісаць, але загадчык упёрся і на ўсё спакойна адказваў:

— Браточкі, няма грошай.

Нарэшце вышэйшы раззлаваўся:

— Га! Дык вы не хочаце друкаваць нашых вершаў? Дык вось жа, калі так! — шась, шась, і ліст з вершамі паляцеў на шматочкі. Паэты дэманстрацыйна ўсталі і стройнай паходкай прадэфілявалі за дзверы.

Я апешыў. Мяне так заінтрыгавалі гэтыя паэты, што я забыўся і пра свой верш. Выскачыўшы следам за ім, я дагнаў вышэйшага на калідоры і пацягнуў яго за рукаў:

— Выбачайце, вы таксама, здаецца, паэта?

— Не «таксама», — паправіў той, — а запраўдны паэта. А ў чым справа?

— Бачыце, і я паэта, і для мяне зусім незразумела, як вы асмеліліся парваць свой верш.

Паэты засмяяліся.

— Чудак, — заявілі яны мне, — адразу відаць, што ты пачынаючы паэта. Ды ў мяне гэтага вершу 5 копіяў у кішэні ляжыць. Я ў кожным выдавецтве рву па аднэй.

— Навошта?! — здзівіўся я.

— А затым, што гэта паніку наводзіць на выдаўцоў. Вось! А нагоніш паніку — шанаваць будуць. Паэце толькі гэтага і патрэбна.

Паэты, як і раней, бадзёра пайшлі па калідоры, а я яшчэ доўга стаяў і думаў над гэтым. Потым узняў галаву высока ў гору і смела зашагаў па калідоры. «Вышай сцяг служыцеля музы», — рашыў я і з гэтага часу паставіў сабе больш шырокія рэйкі пад новым лозунгам:

«Даволі саматужнічаць». Я пастанавіў выдаць зборнік. Сабраў, вядома, усе свае вершы і панёс выдаваць.

У адным з аб'яднанняў, куды я спачатку панёс свой зборнік, маладыя хлопцы-паэты спаткалі мяне даволі прыхільна. Але на маю прапанову — выдаць зборнік — замахалі рукамі.

— Што ты, братка, у нас сваіх няма куды дзяваць. Цяпер, як сам ведаеш, пісаніна пастаўлена шырока — усе пішуць вершы і многа пішуць. Вось паглядзі.

Адзін хлапец пацягнуў мяне ў кут, дзе за шафай пад лозунгам «Лепш менш, ды лепш» ляжала аграмадная груда вершаў.

— Бачыш, колькі навярнулі.

Я спалохаўся. Больш нічога не гаварыў і пайшоў у другое згуртаванне.

Там хлопцы таксама спаткалі прыхільна, пагутарылі, запыталі, чым я лепш люблю пісаць — ямбам ці харэем, на што я адказаў, што мне асабіста больш падабаецца добры хэмічны алувак, бо ім лоўка папраўляць радкі, а што вось брат мой, які таксама…

Тут я заўважыў, што хлопцы чагось усміхнуліся, і не скончыў гутаркі. Хлопцы мне параілі добра перапрацаваць свае вершы.

— Бярыце ад нас прыклад, у нас вось усё толькі высока мастацкае. Бо мы многа працуем і за мастацтва гатовы адсеч малы палец на левай назе. Хлебам нас не кармі, а дай мастацтва, бо мы не такія, як некаторыя…

У іншыя літаратурныя суполкі я ўжо і не хадзіў. «Усё роўна, — думаў, — не выдадуць зборніка, сваіх няма куды дзяваць».

На гэтым я, мусіць, і спыніў бы свой паэтыцкі рост, каб яшчэ раз не стаў на маім шляху добрым геніем мой залаты прыяцель тав. Красназвонны.

— Плюнь ты, — параіў ён мне, — на ўсе гэтыя арганізацыі і закладзі сваю. Тады сам адзін будзеш гаспадаром.

На гэты раз я добра паразважаў над словамі Красназвоннага і рашыў, урэшце, што гэта, па праўдзе, адзіны для мяне запраўдны шлях.

«Даёш арганізацыю!»

І я пачаў арганізоўвацца. Першым пытаннем для мяне, як і для ўсіх у падобным выпадку, паўстала назва будучай арганізацыі. Бо ад назвы, як вядома, залежыць усё.

Я назву падбіраў доўга і нарэшце застанавіўся на такой: «Літаратурны Альянс КАССА», што па расшыфраванні азначае: «кожны сам сабе арганізацыя». Красназвонны назву адобрыў.

— Лоўка, — пахваліў ён, — і для ўсіх прывабна.

Пасля стала пытанне аб статуце і дэкларацыі. Тут я, канешна, таксама вытрымана зрабіў. Напісаў я ў дэкларацыі, я, вядома, на плацформе, як і ўсе, што я пад кіраўніцтвам, што толькі, толькі і толькі… Нагул, вытрымана напісаў. І вось я цяпер чакаю, калі зацвердзяць маю арганізацыю. Красназвонны запэўнівае, што зацвердзяць: «Чым ты, кажа, горшы ад другіх». А тады, як зацвердзяць… Эх! — І паэта зрабіў правай рукой у паветры шырокі гэст, як бы падымаючы чароўным рухам нябачную заслону ў светлую будучыню. Я міжвольна схіліў галаву перад гэтым гэстам і сядзеў, як заваражаны…

Вецер пакалыхваў вяршыні старых ліп, зашуршэў па лісцях і галінах.

Асенні вечар, адзін з тых вечароў, калі здаецца, што прырода яшчэ жыве, тады як яна ўжо памёрла, таксама быў нібы зачарован.

А лісця асеннія, пажоўклыя лісця падалі, і лёгкі ветрык з шумам разносіў іх па старому гаю…

Падалі лісця, пажоўклыя, мёртвыя лісця.

А мы маўчалі…

## І РОЗЫ БЕЛЫЯ ЗАВЯЛІ…

*Апавяданне*

Янка Свістуноў цяпер ва ўсім вінаваціць газеты.

— Не было б, — кажа, — іх, людзі спакойна жылі б, а то толькі дэзарганізацыю ўносяць і жыццё псуюць.

І калі я вельмі асцярожна паспрабаваў давесці адваротнае, дык Свістуноў толькі рукавіцай махнуў:

— Кінь агітаваць. Ведаю, сам агітаваў.

Я зусім шчыра здзівіўся. Свістунова я ведаю даўно і ведаю як актыўнага працаўніка. Памятую, яшчэ летась мы разам праводзілі сход у вёсцы Закуткі. Ён тады з такім запалам крыў сусветную буржуазею, што захапіў сваёй ненавісцю да гэтае гідры пагалоўна ўсю аўдыторыю. На што, здаецца, я спакойны чалавек, а і то пасля дакладу як бы ў непрытомнасці стукаў кулаком па сталу прэзідыуму і ва ўвесь голас крычаў: «Далоў Чэмберлена! Няхай жыве рычы-Кітай».

І вось гэты самы Янка Свістуноў цяпер не толькі не актыўны працаўнік, а нават супроць газет паўстае.

— Так ва ўсім яны вінаваты. Яны мяне падвялі, — жаліцца ён зараз.

Праўда, некаторыя зазначаюць, што ў няшчасці Свістунова пэўную ролю адыграла жонка, як звадыяш, але Свістуноў з гэтым не хоча пагадзіцца:

— Пры чым тут жонка, калі газета?

Справа малюецца так. Аднаго разу вычытаў Свістуноў у газеце, што ў сялян выявілася аграмадная цяга да культурнага жыцця: «Сяляне, — пісалася ў газеце, — пачалі купляць вялізныя, на ўсю хату, люстэркі, венскую мэблю, нікелевыя ложкі і нават ужо паркалю не хочуць насіць, а нейкую маркізэту ды трыкатажу на цела напяльваюць».

Прачытаў гэтае Свістуноў і ўзрадаваўся:

— А што ж? Пара і нам… Значыцца, расцём, калі купляем.

Так спачатку разважаў Свістуноў. Ідучы дамоў з працы, ён пачаў думаць аб тым, чаму гэта ў яго нічога з такіх рэчаў няма, а ўжо ўвечары, кладучыся спаць на нарах, выказваў жонцы сваёй нездаволенне хатнім дабрабытам:

— Эт, жывём мы з табой па-свінску, ніякай культуры ў хаце. Вось у Расеі, дык сяляне нікелевыя ложкі купляюць ды люстэркі вялізныя.

— Дзіва што купляюць, — адгукнулася жонка і, пазяхнуўшы, дадала: — А ты чаму не купіш? Ты ж нават не просты селянін — старшыня сельсавета.

Праспаў Свістуноў ноч, а на раніцу і забыўся аб тым, што чытаў у газетах. Але жонка старшыні прыняла ўсур'ёз гэтую цягу да культуры. З гэтага дню яна ўзяла, як кажуць, пэўную ўстаноўку на распаліванне культурнага імкнення старшыні. Прыйдзе старшыня з працы, сядуць, павячэраюць, жонка тут і пачынае:

— А людзі сёння казалі, што Міхась Гараўскі (той, якому ты спраўку на дармовы лес даваў), купіў нейкае люстэрка, «трума» завецца. Да чаго ж, казалі, хітрая рэч — станеш перад ім, дык не тое, што барада — лапці відаць, нават аборы і тыя адбіваюцца ў шкле. Міхась дык той увесь час лаецца:

— Во, кажа, халерная штука, наскрозь бачыць.

На другі раз старшыніха апавядала, як хутаранін Антэцкі купіў жонцы фарціп'яну — музыку такую.

— Замяшае, кажа, Антэчыха свінням, ды за фарціп'яну і села. Як павядзе рукамі па музыцы, аж хата дрыжыць. Потым кароў падоіць ды ізноў грае.

У Нямеччыне, кажуць, у кожнай гаспадыні такая рэч ёсць, бо жывуць не так, як мы — па-культурнаму...

Тут старшыніха дэманстрацыйна змаўкала і злосна пачынала прыбіраць са стала.

Такія гутаркі цягнуліся тыдні са тры, і ўсё на адну тэму: людзі заводзяць культуру, а мы — не. Нарэшце старшыня не вытрымаў:

— Годзі, сказаў, будзем і мы заводзіць культуру.

* * *

Настаўнік Прыцьмянскай школы Перапечка толькі сабраўся ісці ў класы на заняткі, як яму падалі адносіну з сельсавета: «Афіцыяльна прапануецца вам зараз жа здаць у распараджэнне сельсавета кветы-вазоны, усе без утайкі, а то будзеце адказваць у крымінальным парадку, што прыкладам і пячаткай сведчыцца. Старшыня Свістуноў».

А ўнізу стаяла прыпіска: «Лепш аддай, а то горш будзе».

Перапечка быў не палахлівы настаўнік. Ён прачытаў адносіну, акуратна зложыў яе ў чатыры разы, кінуў на стол, а сам пайшоў на заняткі. Перапечка так бы, відаць, і забыўся аб гэтым, але на другі дзень у школу заявіўся сам старшыня сельсавета і разгарнуў такую «рэвалюцыю», што хоць партрэты правадыроў вынасі.

Прыпугнуўшы настаўніка «адказнасцю за невыкананне дырэктыў савецкае ўлады», старшыня сам забраў усе кветы-вазоны са школы «ў распараджэнне сельсавета».

* * *

Праз пару дзён па вёсцы пайшла чутка, што старшыня сельсавета зрабіў у сваёй хаце райскі сад.

І праўда, прыходзілі сяляне да старшыні і дзівіліся: вазонаў поўна хата — высмаркацца няма куды: на вокнах, на ўслоне, на зэдліку, каля прыпечку — усюды вазоны, а адзін — «белая роза» — дык стаяў на нарах, там, дзе спаў старшыня і старшыніха.

— Іш, напхаў зелля — поўную хату, — дзівіліся сяляне. — Культура, кажа.

Не паспела вёска супакоіцца ад гэтай навіны, як праз тыдзень другая — старшыня сельсавета ўзяў у хаце-чытальні балалайку і вучыцца граць.

Тут ужо старыя не вытрымалі:

— Не, гэта непарадак, з яго толку не будзе. Калі чалавек у такія гады ўзяўся за балалайку, пішы — прапаў.

Так разважалі старыя.

Але Свістуноў не зважаў на гутаркі і з яшчэ большым энтузіязмам барабаніў па струнах.

І пацякло жыццё ў сельсавеце па-новаму. Бывала, тлум народу сабіраўся ў сельсавеце, а цяпер — перад хатай старшыні. Стаяць сяляне і слухаюць, пакуль старшыня грае. Моўчкі стаяць, толькі калі ўжо старшыня загне асабліва штукоўнае каленца, які-небудзь дзядзька ўсміхнецца і пахваліць:

— Іш, наярывае — малайчына.

Здаралася, што які-небудзь селянін далей ужо не мог чакаць. Тады ён падыходзіў да хаты, ціханька адчыняў дзверы і, праціснуўшы галаву ў шчыліну, нясмела пытаў:

— Дазволіце?

— А што табе?

— Ды вось падатак прынёс.

— Падатак? А хош, я табе частушкі пра падатак спяю, і, не дачакаўшыся адказу, пачынаў:

*Вы, сяляне, не шманайце*
*І падатак аддавайце,*
*Коль не будзеце здаваць,*
*Буду сілай забіраць.*

— Ды навошта — сілай, — пужаўся селянін. — Мы ўжо самі аддамо, вось толькі прыміце.

Браў старшыня падатак і зноў пачынаў граць.

Так было днём. А ўвечары да старшыні збіраліся яго бліжэйшыя прыяцелі. Тады ўсе сядзелі пад квятамі-вазонамі і слухалі музыку, а калі ўжо крыху цела разамляе ад чыстага самагону, старшыня пачынаў спяваць пад акампанімент балалайкі свой уласны раманс пад назвай «Розы белыя». Гэты раманс асабліва трапіў да густу старшынісе. Яна сядзела пад густым «фікусам» і, заплюшчыўшы вочы, лавіла кожны гук старшыні, а ён сваім зычным голасам выцягваў:

*Когда я вас впервой любіл,*
*То мы в саду всегда гулялі…*
*Цепер тот сад другой срубіл*
*І розы белыя завялі…*

А калі старшыня даходзіў да слоў:

*Тогда я стан ваш обвівал,*
*И вы легко себя склоняли*

старшыніха адкідала галаву на вазон і ад прыемнасці стагнала:

— В-о-о-ох… вв-о-о-ох…

Так мірна і без клапот цякло жыццё старшыні Прыцьмянскага сельсавета Янкі Свістунова. Неба над яго хатай было чыстае, блакітнае. Праўда, разы два набягалі на гэты чысты блакіт невялікія хмаркі. Аднаго разу ў самы разгар райскіх забаваў старшыні прыйшла да яго дэлегацыя мясцовага драматычна-музычнага гуртка. Кіраўнік гуртка выступіў на вольнае ад кватаў-вазонаў месца і сказаў двохгадзінную прамову на тэму «Балалайка як фактар культурнага выхавання працоўных масаў у іх паступовым руху да сацыялізму». Ён гаварыў, што без балалайкі амаль замёрла культурнае жыццё ў хаце-чытальні, што старшыня, забраўшы з хаты-чытальні гэтую музыку, сарваў музычную кампанію, якую гурток мысліў правесці з 1-га лістапада па 15-е снежня ўключна.

— Музыка — трудяшчымся! — лозунгам скончыў сваю прамову кіраўнік Прыцьмянскага драматычна-музычнага гуртка.

На гэтую прамову старшыня адказаў коратка і ясна:

— Вымятайцеся.

Другой хмаркай быў ліст з райвыканкому, у якім старшыні прапанавалі: «Тэрмінова здаць у школу ўсе кветы-вазоны, за невыкананне чаго вы будзеце адказваць у дысцыплінарным парадку».

На ліст райвыканкама старшыня адпісаў, што ён ведае, чые гэта закіды:

— Перапечка муціць, — пісаў ён, — гэты інцілігент, які ставіць палкі ў калёсы нашага сельсавецкага будаўніцтва.

Адпісаў старшыня ў Рык і забыўся пра гэтыя дробныя хмаркі — зноў расчысцілася над ім неба. І здавалася старшыні, што райскаму жыццю яго канца не будзе, бо з яснага неба грому не бывае. Але…

* * *

Гром ударыў. Хмары згусціліся непрыкметна. Сабралася неяк усё разам. Першае грознае папярэджанне з'явілася ў суботу. Старшыня, як звычайна, пяяў раманец і, як звычайна, захапляўся. На словах:

*Пойду я в море, опущуся,*
*И понесет меня волна...*

ён зачапіўся барадаўкай за струну і так ірвануў, што струна з жалобным дзвэнкам лопнула. Старшыніха падскочыла і локцем зачапіла за вазон. Прыгожы юрань пакруціўся на зэдліку і з грукам рассыпаўся па падлозе. Гэта варажыла на нейкае няшчасце.

Так яно і выйшла.

Назаўтрае старшыня іграў на дзвюх струнах. Яно б, можа, і нічога было, але неспадзявана ў хату ўваліўся Ясь Крушынскі, вядомы ў вёсцы Яська-фулюган. Ён спачатку таксама прымаў удзел у спевах, а потым пачаў кпіць над балалайкай. Тое, што ў балалайцы толькі дзве струны, ніяк не магло задаволіць Яську. Старшыня, зразумела, не мог сцярпець такой абразы і ўступіўся за балалайку. Пачалася дыскусія, якая паступова набірала ўсё шырэйшы размах і, дасягнуўшы гранічнага пункту, натуральна, перайшла ў ціхую, але дапланавую бойку: спачатку — у загрудкі, потым — на кулакі, а далей — чым папала…

Паўгадзіны такой дыскусіі было даволі, каб райскі сад страціў свой воблік. Кветы-вазоны з гэтай перапалкі выйшлі смяртэльна параненымі, а балалайка выбыла са строю канчаткова пасля грацыёзнага руху старшыні, калі ён нежна прылажыўся балалайкай да вуха Яські Крушынскага.

* * *

Так загінуў райскі сад старшыні Прыцьмянскага сельсавета і майго добрага прыяцеля Янкі Свістунова. Загінуў, можна сказаць, у самым сваім росквіце.

Загінуў райскі сад і разбіў жыццё Свістунова, калі праз тыдзень у сельсавет прыехала рэвізія і, агледзеўшы працу сельсавета, знайшла патрэбным аддаць старшыню пад суд за нядбайнасць і злачынства, дык Свістуноў нават і ўвагі не звярнуў на гэту пастанову, як бы не да яго адносілася. У часе рэвізіі ён сядзеў пахмурны, нізка схіліўшы галаву і ціха штосьці пяяў. Пальцы правае рукі яго ў гэты час у тахт песні сморгалі па каленях. І калі інструктар, здзіўлены такімі паводзінамі старшыні, ціханька падышоў да яго ззаду і прыслухаўся да песні, то пачуў нешта дзіўнае і незразумелае:

*Теперь тот сад я сам срубіл*
*І розы белыя завялі…*

Пяяў старшыня, і песня яго была жудасная, халодная. Гэта песня разбітага сэрца.

# УМЫКАЦЕЛІ ЖОН

Калі строга прытрымлівацца гісторыі, дык продкі нашых мінчан — дрыгавічы — свае шлюбна-сямейныя адносіны ў Загсе не рэгістравалі. У іх, як сведчаць летапісы, практыкаваўся вельмі лагодны ў сэнсе аліментаў звычай «умыкання жон».

Па гэтаму звычаю, які-небудзь закаханы дрыгавіч збіраў ватагу сваіх родзічаў, налятаў з імі на дворышча сваёй каханкі, хватаў яе папярок тулава, на каня і давай Пярун ногі — «маладую» валаклі ў дворышча «маладога». Там ладзілі ігрышча, елі дзікіх кабаноў, запівалі брагай (нешта падобнае да самагону мазырскай гонкі), скакалі дрыгавіцкую лявоніху, тут жа і жаніліся на вольным паветры.

«Яко зверыі дзікія», — злуецца па гэтаму поваду летапісец.

Напрасна — чым кепска было: ні табе Загсаў, ні табе аліментаў, чысты, можна сказаць, прыбытак для чалавека. А што на вольным паветры, дык яно — дармо, прывычнаму чалавеку нават і здаравей.

Не! Не разумею я гэтай злосці летапісца.

Гэтага ж пункту погляду трымаецца і настаўнік навасёлкаўскай школы грамадзянін Д.

— Іш, буржуазія, — казаў ён старшыні сельсавета па адрасу летапісца, — «яко зверыі дзікія». А ты што, старая флейта, камфорту захацеў, абстановачку табе спрыяючую падай? Не, дурыш! Ты ўмыкні! Умыкні, сцерва! Ды не з камфортам, не з пухавікамі там рознымі, а на школьнай лаўцы… Во!

Старшыня сельсавета цалкам падзяляе погляд настаўніка.

— І я так мяркую, тав. настаўнік, цяпер з бабай інакш і нельга. Ты да яе толькі дакрануўся, а яна шарах пад цябе аліментам, а потым на вяроўку, ды ў Загс. Не паглядзіць нават, хоць ты і член. За цябе — ды ў суд.

— У суд, а там аліменты.

— А як жа? Яшчэ і кпіць, паганая: «Пажалце, — кажа, — таварыш папаша»… Толькі і застаецца гэта самае… умкнуць.

— Правільна, толькі ўмыкнуць, — пацвердзіў настаўнік.

— А адносна гэтага летапісцы, дык, я так думаю, тав. настаўнік, пляваць на яго. Не ён тут начальства, а я. Ды калі на тое пайшло, дык я ўмкну дзяўчыну тут жа, на сходзе. А ён — няхай піша…

Старшыня ў адзнаку поўнай непашаны погляду летапісца плюнуў на падлогу, і сход пачаўся.

Сход быў нецікавы, ды настаўніку і не да сходу было.

Вочы яго ўвесь час уважліва шчупалі жаночую частку грамады і шукалі аб'ект умыкання…

— Яна, — ёкнула ў размякшым сэрцы настаўніка, калі яго аляёвыя вочы прыліплі да зграбнага стану скрылёўскай дзяўчыны.

Настаўнік, як шалёны, рвануўся да старшыні:

— Хутчэй! Вось гэту, якая задам круціць… умыкай.

І ўмыканне пачалося… Праўда, яно прайшло не з такім энтузіязмам, як гэта рабілася ў сівую старасветчыну. Наш век культурнай рэвалюцыі ўзяў толькі ідэю ўмыкання, а формы — свае, новыя. Тут не было раптоўнага налёту з ватагай родзічаў на дворышча маладой, не было дзікага пасвісту і гікання, наогул, не было таго нашырокага размаху бязмежных палёў і лясоў, які ўласціў быў нашым продкам.

Старшыня сельсавета падышоў да намечанай к умыканню дзяўчыны і зусім празаічна прапанаваў ёй:

— Ідзем.

— Куды? — пацікавілася дзяўчына.

— Не твая справа, загадаў, дык і ідзі.

Дзяўчына не зразумела, куды і чаго ісці, але нутром адчула штосьнядобрае і ўпёрлася.

— Не пайду, бо не хачу.

Але ці можа быць «не хачу», калі начальства кажа «хачу». Без лішніх слоў начальнік сілком увалок дзяўчыну ў кватэру настаўніка, замкнуў на замок і папярэдзіў:

— Сядзі тут, пакуль… а ўцячэш — мала не будзе.

Урачыстасць умыкання на гэтым фактычна і скончылася. Далей ужо была проза нашага веку. Пасля сходу настаўнік і старшыня прыйшлі ў школу, дзе была запёрта дзяўчына, дасталі самагонку, пілі, скакалі, там жа і жаніліся на школьнай лаўцы…

А позна ўначы зняважаную дзяўчыну выпхнулі за дзверы… Вось і ўсё ўмыканне. Яно, як бачым, прайшло досыць празаічна, не так, як у нашых продкаў у сівую старасветчыну. Але гэты выпадак скрылёўскага ўмыкання даказаў, што звычаі дрыгавічоў жывуць і ў нашу культурную эпоху.

На зло ўсім летапісцам даказаў, што дрыгавічы жывуць.

# ЗОСІНЫ АЛІМЕНТЫ

Ноч была акурат такой, якой яна бывае ў творах чулых мастакоў слова. Дуроны месяц сядзеў на хвойцы і какетліва цадзіў скрозь свежыя маёвыя лісці проста на мох струмені халоднага свету.

У гушчары заліваўся салавей. Там жа пераклікаліся сычы… і дзесь кукувала кукушка. А з зямлі, укрытай стракатай коўдрай-дзяругай, пёр вясенні дух, самачынна лез у рот, адтуль у лёгкія, ■ там і ў сэрца; распіраў яго і мякчыў так, што яно рабілася здольным успрымаць толькі самае нежнае, самае чулае.

Наогул, казалі, рамантычная была ноч.

І вось у такую ноч вуглянскі хлапец Цупрон Шмэндрык, шукаючы каля лесу каня, наткнуўся на двух людзей, трымаўшых сябе, як потым казаў Цупрон, вельмі ж ужо цудна.

— Іду гэта я, — апавядаў Цупрон, — і чую — гавораць. Я спыніўся і слухаю. Гляджу, аж гэта наш ляснік Каятан, а з ім Зося. А ну ж, думаю, давай паслухаю, аб чым гэта яны. Лёг на жывот і слухаю.

І вось Цупрон пачуў:

— О, дзяцел майго сэрца, — казаў ляснік Каятан, — ты толькі адна.. толькі ты адна можаш…

— Ну, дзе ж там.. ну куды ж, — саромелася Зося. — Вы такія прыгожыя словы гаворыце, а я…

— Душа мая, — не сунімаўся ляснік, — і як тое дуплё вясной, што не занята ніводнай птушкай — цёмна ў ім, пуста… Сядзь каля мяне, Зося.

— Ну дзе ж там дуплё, — не згаджалася дзяўчына. — Вы так прыгожа гаворыце, а я..

— А ты, — падхапіў Каятан, — прыгажэй ад усіх на свеце слоў, ты — брылянт і зумруд. Сядзь каля мяне.

— Гы-ы, аж брылянт, — не паверыла Зося. — Не ўстаіш перад вашымі словамі.

Тут Зося, відаць, не ўстаяла і села, бо Цупрон ужо не чуў гутаркі, а толькі слабы шэпт. Пасля да яго слыху данесліся ціхія гукі песні. Ляснік спяваў:

*Ты меня не бросай одиноко —*
*Я табе полюбил аднаю…*

Потым, пераняніўшы тон, ляснік зацягнуў штось цягучае:

*Бирюзой разукрашу светлицу,*
*Золотую поставлю кровать.*

Песня змоўкла, і Цупрон пачуў зноў ціхі шэпт. Далей чуліся як бы нейкія ўсплескі, слабое валтузанне, і нарэшце ўсё змоўкла…

Цупрон, як шалёны, сарваўся з месца і панёсся ў напрамку вёскі.

* * *

Назаўтра ўся вёска гаманіла аб здарэнні пад лесам, якое падгледзеў Цупрон Шмэндрык.

Даўшы волю фантазіі, Цупрон хадзіў з хаты ў хату і апавядаў:

— Ляжыць гэта, — кажа, — Каятан на траве, дрыгае правай нагой і пяе да Зосі: «Я табе пастаўлю залатую каравацъ..»

— Іш, ты! — дзівіліся вяскоўцы, — во, мусіць, лесу накраў.

— Надрыгаў правай нагой, — апавядаў далей Цупрон, — тады перакуліўся на правы бок і пачаў дрыгаць левай, а да Зосі кажа: «А ты, Зося, дзяцел, дзюўбані мяне ў сэрца».

— Во выдумаў трасцу, — злаваліся жанкі, — каб дзюўбануў рагачом старую падлу, папяяў бы тады.

Так абгаварвала вёска цікавае здарэнне пад лесам.

Роўна праз год, як відаць, у пэўнай сувязі з гутаркамі, Зося падарыла вёсцы новага члена грамады.

Здарэнне само па сабе звычайнае: ну, нарадзіўся адзін чалавек, другі затое памрэ, чаго там… Але нараджэнне гэтага чалавека ўнесла ў жыццё вёскі якраз штось незвычайнае і выбіла з каляіны нават самых вытрыманых людзей…

Пачалося так. Калі бабка Аўдося, што завязвала новаму члену грамады пуп, удала скончыўшы аперацыю, пабегла парадаваць гэтым бацьку і тут пры выпадку папрасіць у яго «на пупок», то здзівілася як ніколі. Бацька, ляснік Каятан, наперакор усім традыцыям вёскі, не толькі не выразіў на твары адпавядаючага моманту радаснага настрою, а наадварот, выказаў адзнакі яўнага незадавальнення.

— На які гэта пупок? — хмура спытаў ён бабку Аўдосю.

— Ды як жа, на які? Хіба ж не ведаеш? Сынок жа ў цябе.

— Сынок?! Які сынок?

— Ды твой жа, што Зося нарадзіла.

— Ты што, жартуеш?

— Сам ты жартуеш, бо я сёння твайму дзіцяці пупок завязала.

— Што!? Майму дзіцяці пупок завязала? Ды я вось цябе, баба, як вазьму зараз за пупок, ды аб вугал як шмаргану! Ты што правакацыю распушчаеш!?

— Ды як жа…

— Цыц! Хто смее сказаць, што ляснік Каятан мае дзіцю, калі я, ляснік Каятан, не кажу гэтага! Га?! Што?

Бабка Аўдося памкнулася штось сказаць, але ляснік зрабіў такі страшны твар, што яна як стаяла з адчыненым ротам, так і выпхнулася за дзверы. Кажуць, што рот яна зачыніла толькі ўвечары, як спаць лягла.

Во як здзівіў ляснік Каятан бабку Аўдосю. А бабку Аўдосю трудна з панталыку збіць, бо на сваім вяку яна шмат бачыла не такіх цудаў. Не дзіва, што ўся вёска ўзняла вакол гэтага пытання гарачую дыскусію. Блізка месяц толькі і чуваць было ў вёсцы:

— Ляснік Каятан адмовіўся ад свайго дзіцяці.

— Ляснік Каятан не хоча прызнаваць свайго сына.

— Ляснік Каятан чуць не адарваў бабцы Аўдосі пуп за сваё дзіцянё.

— А-я-яй, што ж гэта будзе? Які ж гэта свет пайшоў?

Больш за ўсіх гарачыліся жонкі: «Гэта ж каб не дзіцянё. А то дзіцянё. Чым жа яно вінавата, дзіцянё».

А гэта папраўдзе ні ў чым не вінаватае дзіцянё, моцна заявіўшае аб сваім паяўленні ў жыццё, не менш моцна і энергічна трэбавала сабе сталага месца ў ім.

— Есці, — крычала яно, — есці, а то горш закрычу.

І крычала, бо якая яда ў Зосі — сама чуць рыпае. І Зося, відаць, не дала б рады дзіцячаму трэбаванню, але тут людзі добрыя спагадалі. Заскочыла неяк да Зосі Марыля Сівец, тая, што ў дэлегатках працуе, і насела на яе:

— Ты што ж гэта, маладзіца, і сябе марнуеш, і дзіцянё! Чаму аляментаў не спаганяеш? Хіба ў лесе жывеш? Не ведаеш, што цяпер з гэтым — раз плюнуць: падала ў суд — ён і прысудзе плаціць.

Тут і другія жанкі падтрымалі:

— А як жа, разам жа стараліся… Спаганяй.

Праз тыдзень па вёсцы пашла чутка, што Зося падала на Каятана ў суд за дзіцянё, што той прысудзе Каятану плаціць Зосі ўсю сваю пенсію.

— Во табе «залатая караваць», — цешыліся жанкі.

* * *

Нядзеля. Памяшканне народнага суда біткомнабіта народам. З усёй вуглянскай ваколіцы сабраліся грамадзяне паслухаць, як будзе Зося спаганяць аляменты.

Суд пачаўся пры агульнай зацікаўленасці, і спачатку ўсё ішло натуральна. Каятан заявіў, што дзіцянё не яго. Ён спаслаўся на сваю перагружанасць працай у лесе, якая не дала яму магчымасці займацца, хаця б і мімаходам, іншымі справамі.

— …Апрача таго, — зазначыў Каятан, — я чалавек не малады, мне ўжо пад пяцьдзясят гадоў, так што самі пасудзіце, таварышы суддзі…

Суддзі не пасудзілі нічога, але некаторыя з прысутных жанчын пры гэтых словах лясніка яхідна ўсміхнуліся.

Апрошаны галоўны сведка Цупрон Шмэндрык, наадварот, цвёрда паказаў, што ён сам чуў, як Каятан хоць і ў песні, але намякаў наконт каравацї, а наконт любові таксама пяяў. Цупрон не толькі чуў, але таксама і бачыў, пасля чаго ён шпарка ўцёк у вёску.

Аб усім гэтым ён дакладна паведаміў суду.

— А што наконт дзіцяняці, заключыў Цупрон, дык тут гутарка малая: Каятанава яно і ўсё.

Тое самае паказалі і іншыя сведкі-вяскоўцы, якія пасля вядомага «здарэння пад лесам» устанавілі больш пільны нагляд за Каятанам і Зосяй. Яны таксама — бачылі і чулі.

— Урэшце, няма чаго гаварыць — дзіцянё Каятана, мы гэта дзела ведаем. Падобна ж да яго — таксама.

Тут, канешне, развінулі дзіцянё і паднеслі яго к судоваму сталу. Суддзі паглядзелі на дзіцянё, пашчакаталі яго пад бародкай, потым паглядзелі на Каятана і згадзіліся: сходсьцьвенна.

Бацька дзіцяці быў, такім чынам, устаноўлены грунтоўна і цвёрда.

І вось тут, калі заставалася толькі выканаць судовую фармальнасць, здарылася нешта, для ўсіх нечаканае. З кута залі пачуўся голас, які нясмела зазначыў:

— Гэй! Пачакай там пісаць.

Праз паўхвіліны, праціскаўшыся праз грамаду, да стала падышоў замастоцкі Даніла па прозвішчу Скакун.

— Пачакай, кажу, пісаць дзіцянё на Каятана.. Пішы на мяне.

Ціха стала ў судовай залі. Справа прыняла такі нечаканы для ўсіх зварот, што ніхто не мог і слова вымавіць.

— Чаму гэта на цябе пісаць? — апомніўся нарэшце суддзя.

— Бацька я гэтага дзіцяці, вось чаму!

* * *

Была ноч, калі ехалі вуглянцы з суда дамоў… Не разумелі яны таго, што здарылася на судзе. Не разумелі і дзівіліся.

— Як гэта аб'явіўся бацька Зосінага дзіцяці, калі ніхто аб ім не ведаў?.. І чаму ён аб'явіўся, калі бацька зусім іншы? І наогул, што ўсё гэта азначае?

Толькі адзін чалавек, Адам Скрыль, «хітры», як яго звалі вяскоўцы, здаецца, нешта ведаў. Шагаючы побач з Зосінай фурманкай, ён разважаў:

— Тут, канешне, разумець трэба, што к чаму. Патаму — на першым плане ў нас эканоміка. Што са Скакуна возьмеш? Паўтара рублі ў месяц. А Каятан як-ніяк, здаецца, каля 30 бярэ. Вось тут і разумець трэба.

Але Зося таксама нічога не разумела. Не разумела яна таго, чаму Каятан адмовіўся ад дзіцяці, не разумела яна і таго, чаму Скакун прычапіўся да чужога дзіцяці.

Не разумела і цяжка ёй было зразумець, бо яна толькі і старалася, каб як-небудзь суняць крык дзіцяці, якое зноў узняло свой голас: «Есці, а то горш закрычу».

Ну і крычыць, няўжо ж ніхто не пачуе?

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Всяк сверчок, знай свой шесток.

*Расейская мудрасць*

### I

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары.

*Янка Купала*

Шумна і весела ў вялікай прасторнай залі.

Яркі свет электрыкі, плаўныя гукі музыкі, звонкія галасы моладзі — усё гэта стварае настрой святочна-лагодны.

Роўна а 9-й гадзіне ўвечары адчыняецца заслона і са сцэны панесліся гукі прамовы:

— Таварышы! Гаварыць многа не трэба…

— Правільна! — чуваць галасы з месц.

— … Нашы дасягненні самі за сябе гавораць.. (галасы з месц: «Брава!»). Гляньце навокал, і вы ўбачыце, што мы мелі летась і што маем сёлета. (Галасы з месц: «Правільна!»).

Праз паўгадзіны прамова скончылася. Пачаўся спектакль. З прыемнасцю глядзелі прысутныя новую п'есу маладога драматурга. П'еса пад назваю «Красная чырвань» яскрава малявала, як памірае стары свет і як нараджаецца новы.

Стары свет корчыўся, моршчыўся (відаць, не хацелася яму зыходзіць са сцэны), а новы свет, якога на сцэне сімвалізаваў сам малады драматург, адзеты ў чырвоныя штаны, наадварот — ішоў смела і бадзёра.

П'еса мела аграмадны поспех. Стары свет на сцэне быў канчаткова зруйнаваны, што выклікала доўгія, гучныя воплескі прысутных.

Без пяці дванаццаць, калі скончылася канцэртнае аддзяленне, кіраўнік запрасіў усіх прысутных у другі пакой на таварыскую вячэру. На сталах, апрача розных прысмакаў, там-сям маячылі чорныя бутэлькі, на якіх былі наклееныя паперкі з напісаным на іх дарагім для многіх словам «Беларусь».

Елі дружна, з апетытам. Успаміналі ранейшыя гады, як у гэткі самы вечар, у гэткай самай залі атрымалі па кавалачку хлеба ды па шклянцы гарбаты з сахарынай. Успаміны надавалі большага апетыту, і сталы хутка былі знішчаны.

Новы дзень спаткалі: хто на ложку ў прыемным сне, хто ў залі, дэманструючы пад духавы аркестр свежы танец чырвонага балетмейстра пад назвай «Новы быт».

## II

*И «канарейка» хочет жить*

Халупа на акраіне.

У хаце вымыта, прыбрана, свежа.

Будзільнік, што вісіць на сцяне між паштовак і фатаграфічных картак, паказвае без дзесяці дванаццаць.

Гаспадар і яго госці (3 пары, сярод іх бухгальтар з жонкай) робяць нейкія нецярплівыя рухі і не зводзяць вачэй з гадзінніка.

Урэшце будзільнік звоне дванаццаць. Гаспадар першы ўстае і, падняўшы ўгору чарку, урачыста віншуе:

— З новым годам, з новым шчасцем, дай жа божа і налета тожа.

Госці п'юць, моршчацца і цалуюцца.

— Пякучая, каб яе агонь, — першым адзываецца бухгалтар.

— Дзіва, — ганарыцца гаспадар, — «пяршак», першы сорт: рубель бутэлька, ды і градусы тут не казённыя..

Выпілі па другой, па трэцяй, другую бутэльку.. чацвёртую.. Гутарка ажывілася. Гаспадар падсеў да бухгальтаравай жонкі і пачаў яе шчыпаць за сцегнякі. Бухгальтарша пішчэла і, бліжэй тулячыся да гаспадара, казала: «Ах! Астафце!».

Бухгальтар, выпіўшы больш усіх, аратарстваваў аб тым, што раней не такую пілі, а цяпер…

Тут пасалавеўшыя яго вочы застанавіліся на жонцы і гаспадару.

— Вы гэта што.. ік.. пры мужу? Ты што яе за кумпя.. ік.. мацаеш?

Бухгальтар раззлаваўся. Самагон неяк раптам ударыў у галаву і сцямніў усё. Бухгальтар бачыў толькі чырвоны твар жонкі ды аляёвыя вочы гаспадара. Раптам, ні слова не гаворачы, ён схапіў бутэльку з-пад «першаку» і пусціў яе ў тое, што дражніла яго вочы…

Пачаўся гам, піск, трэск. Больш бухгальтар нічога не помніў.

Новы дзень спаткаў у цяжкім сне. А калі абудзіўся, убачыў сябе ў старай кампаніі, але ў незнаёмым месцы. Малады жартаўлівы міліцыянер вітаў кампанію з «новым годам».

## III

*Большому кораблю — большое плавание*

Роўна дванаццаць.

Лысыя і не лысыя, у акулярах і без іх, з замілаваннем паглядалі на доўгі, пакрыты белым, як снег, абрусом стол, убраны жывымі кветкамі і стройнымі шэрагамі бліскучых, featureнакаляровых бутэлек.

Між дробных «красного» і «столового» горда высіліся, як буслы паміж вераб'ёў, «четыре звездочки» і «Абрау Дюрсо».

Настрой ва ўсіх быў прыемны, але стрыманы: чакалі «самога».

Нарэшце з'явіўся і «сам». Шаноўнымі ўклонамі праводзілі прысутныя шаноўнага «самога» на самае шаноўнае мейсца.

— Сябры мае, — пачаў «сам», узяўшы бакал у рукі. (за ім, як па камандзе, пацягнуліся за бакаламі і іншыя 30 рук).

— Сябры мае, — прадаўжаў «сам», — стары год для нас быў не зусім шчаслівым…

— На «рэжым» намякае, — шапталіся прысутныя.

— …Але я спадзяюся, што новы будзе лепшым, бо нішто не стаіць на мейсцы, а ўсё рухаецца, і тое нешчаслівае таксама сойдзе, а будзе новае, лепшае. Вось за гэта лепшае я і падымаю свой бакал.

— Ура! Ура! Ура! — роўна тры разы пракрычалі прысутныя і выпілі…

«Спатканне» пачалося энергічна і не менш энергічна прадаўжалася. Ужо тры гадзіны сядзелі за сталом, тры гадзіны актыўна кратлі пашчанкамі, а бутэлькі былі яшчэ ў палавіне, а розныя кансервы, рыбы і ікра ўжыты толькі на 25 проц. Толькі гусакі, тлустыя, тучныя гусакі з яблыкамі, былі ачышчаны да костачак.

Яшчэ 2 гадзіны сядзелі за сталом. А пасля спявалі «Наша жизнь…», скакалі тустэп, спявалі «соло» і скакалі «соло». А далей.. не помняць, што далей было…

Новы дзень спаткалі: хто на стале, хто пад сталом, хто ў пары, хто паасобку, хто і ў плаванні па дарозе ў «рыгу»…

## IV

*В тесноте, да не в обиде*

Іх пяць.

У сутарэнні старога разваленага будынку, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго, яны ўрыліся ў салому і стараюцца перамагчы мароз…

На гарадской вежы прабіла дванаццаць.

— Ну, шпана, — камандуе «важак», — уставай новы год спатыкаць.

Азябшыя целы заварушыліся, выпаўзлі з саломы. Агарак свечкі асвяціў адзін кут сутарэння, і на дне перавернутай бочкі пачалося спатканне…

Важак падзяліў на роўныя пяць частак кавалак хлеба і раздаў усім.

— Недацяпы, — прабурчэў ён, запіхваючы хлеб у рот, — не маглі каўбасы «слямзіць».

«Недацяпы», вінавата апусціўшы вочы, жавалі свой хлеб.

Новы дзень яны, усе пяць, спаткалі, корчачыся ад холаду пад коўдрамі-газетамі, на якіх вялікім аншлагам стаяла: «Усе на барацьбу з беспрытульнасцю».

# ВАСЕННІЯ НАСТРОІ

*З дзённіка «любителя покушать»*

«1917 год. На дварэ гразка, сыра, непрыветна — нудна на дварэ. Нудна і ў хаце. І есці не хочацца… кусок папярок горла становіцца.

І прырода супраць нас. Восень, а тут раптам — навальніца, гром, маланка, зямлю страсанула, і закруціла завіруха. Куды тут есці будзеш. Выпіў бы ды... Эх, лепш пачакаць, бо...

Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога з гэтага не будзе.

1918 год. Восень. Вой, есці хочацца, а працаваць не хочацца: у сабатаж запісаўся. Панясу штаны на рынак. Эх, выпіць! «Где ты, времечко?». Ну ды нічога, бо...

Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога з гэтага не...

1919 год. Восень. «Ну и времена». Прадаў пінжак з бліскучымі гузікамі, а купіў тры фунты хлеба ды кусок цукру-рафінаду ў прыдачу. Трэба шукаць працу, пакуль што якое... Бо ўсё роўна...

Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога з гэтага...

1920 год. Восень. Сыра, гразка. Вязу грамафон у вёску, памяняю на хлеб... Эх, ты, яблычка — ды краснабокае... Цьфу! Ну і што гэта за жыццё, ну і што гэта за праца?

Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога...

1921 год. Восень. Холадна ў шынялі, а бацінкі араўскія, трасца ім у бок, не любяць нашага клімату. Грэюся ў сталоўцы. Разам з камісарам ем зацірку, гавару аб сусветнай рэвалюцыі, і ўсё роўна есці хочацца... Не, так далей нічога не будзе. Займаю восем пасадаў, трэба яшчэ пару дастаць. Бо ўсё роўна...

Дзе гэта калі хто бачыў?

1922 год. Восень. Сыра, ды не холадна. Новы вецер павеяў, трошкі мякчэйшы. Я нясу на рынак мяшок грошы, куплю хлеба, а можа і на фунт сала хопіць.

А ўсё ж ткі цяжка: мяшок карак ціснe, хоць і мяккія грошы.

Дзе гэта калі хто?

1923 год. Восень. Холадна, але не мне. Я сабе купіў новае паліто. Кажуць, нейкае свята йдзе, трэба есці купіць хоць на чырвончык. Эх, выпіць бы...

Дзе гэта калі?

1924 год. Восень. Сыра, а мне і мора па калені. І жывот у мяне — во! Дай бог кожнаму...

Чаго б тут такога з'есці? Мяса надаела, булка — таксама. Вінца бы выпіць ды ікрой зярністай закусіць, як гэта было калісь...

А цяпер?

Дзе гэта?..

1925 год. Восень, не сыра і не холадна, і жыць можна....Купіў к святу новую пару ды жонцы сукенку ядвабную, ды гарэлкі, ды

віна. На цэлых 10 «чарвякоў» накупіў к святу і «пития и яства». А ўвечары ў клуб пайду. Ну і закусім, ну і вып’ем. Эх, таварышы, гэта ж жыццё…

Дзе?..

1926 год. Восень. За што бароліся, таварышы? Гэта ж ніколі падобнага не было. Зачынілі! За тры дні да свята зачынілі, каб табе зачыніла!.. Плаці цяпер за бутэльку 2 р. 50 к.

Ну і народ, ну і времена.

Званю на завод «Беларусь», каб хоць піва вядры са тры прыслалі…

Нудна. Нудна на дварэ, нудна і ў хаце, і есці не хочацца, кусок папярок горла становіцца… Восень, и тут раптам зачынілі…

Дзе гэта калі хто бачыў? Ды нічога з гэтага не будзе…»

## У АБАРОНУ БУЛАНАГА

Буланы, судзячы па водгуках усіх ведаючых яго, — конь зусім благанадзейны, спакойны і не брыкаецца.

Не раз ён вазіў па раёну прадстаўнікоў раённае ўлады, уключаючы і самога старшыню, і ніхто на яго ніколі нават і пальцам не паківаў. У дыскусію ён не ўступаў і ў тыя цяжкія хвіліны, калі члены зямельнай камісіі адзін перад адным ганялі яго па ўсім раёне. А ў апазіцыі не быў нават і тады, калі на яго карак накладаў сядло рыкаўскі стрэлачнік.

Праўда, за ім заўважалася некаторая рэзвасць, калі ён яшчэ быў маладняком. У тую залатую пару ён час ад часу падбрыкваў і выкідаў часам не зусім прыстойнае каленца. Але гаспадарскае сэрца толькі радавалася ад гэтых выбрыкаў, і задаволены гаспадар для «поощрения» падсыпаў яму лішнюю жменьку аўса.

Зараз і гэтыя выбрыкі выветрыліся: Буланы падрос і выкіраваўся на сталага працаўніка…

І вось цяпер, калі, здавалася б, толькі і працаваць спакойна, яго вінавацяць у разлажэнні, у нявытрыманасці сваёй лініі. І хто вінаваціць? Сама справядлівасць — народны следчы.

Справа малюецца так. Конь Буланы і народны следчы Каваленка ў лета ад рэвалюцыі 9-е, верасня месяца такога-та дня пайшлі разам у вёску Вішанькі. Каваленку належала зняць з двох сялян дапрос па вельмі важнай справе, а Буланага Рык паслаў разам з нарследчым. Буланы ішоў наперадзе, а Каваленка, як водзіцца, сядзеў зза-

ду на каламажцы, трымаючыся за партфель, туга набіты важнымі справамі.

Дарога была вясёлая. Верасеньскае сонца, як бы спяшаючыся выпусціць хутчэй усе свае зарады, даволі шчодра ліло свет на голыя палі, пажоўклае лісце і зялёна-бурыя сенажаці.

Глыбокае блакітнае неба і нудныя асеннія краявіды настройвалі нарследчага на сумна-лірычны тон. Ён дэкламаваў «Несжатую полоску», спяваў «Вы жертвою пали» і час ад часу загаворваў з Буланым аб «бренности жития».

Буланы, у адзнаку сваёй згоды з нарследчым аб «бренности», ківаў галавой, пад дэкламацыю «Несжатой полоски» задаволена фыркаў, а калі следчы зацягваў «Идете, усталые, цепью гремя», махаў пару разоў хвастом і прыбаўляў шагу.

Так завязалася справа Каваленкі і Буланага. Што было далей — «сие», як кажуць расейцы, «покрыто мраком неизвестности». Ясна толькі адно, што Каваленка і Буланы не вытрымалі лініі.

Па-першае, заехалі не ў вёску Вішанькі, а за сем вёрст далей, у вёску Жукі.

Па-другое, вярнуліся яны ў раён не а сёмай гадзіне ўвечары, як гэта трэба было нарследчаму, а на другі дзень раніцою.

Па-трэцяе, ідучы назад, яны згубілі следчага партфель, туга набіты важнымі справамі, і шапку. Прычына гэтых злоздарэнняў дазнаннем яшчэ не ўстаноўлена, хто вінаваты — не выяўлена, але Каваленка загадзя вінавацiць Буланага.

Я не юрысты, не маю ніякага дачынення да Феміды і дзеля гэтага не бяруся сцвярджаць, што няма такой стацці, пад якую можна было б падвесці Буланага. Следчаму гэта відней. Ён можа і закатае Буланага, куды Макар цялят не ганяў. Але я, падыходзячы да справы не як законнік, а як грамадзянін, асмелюся ўголас заявіць: Буланы не вінаваты! І вось чаму.

У тым, што зайшлі ў вёску Жукі, віна цалкам кладзецца на следчага. Бо, як вышэй сказана, Буланы меў пуцёўку толькі ў Вішанькі.

Другое, вярнуліся не вечарам, а на другі дзень раніцою. Хто тут вінаваты?

Следчы, т. Каваленка, які застанавіўся на адпачынак у Жуках, піў там і закусваў.

Буланы, як устаноўлена, і не піў, і не закусваў.

Адзіным спрэчным пунктам можна яшчэ лічыць страту следчага шапкі і яго ж партфелю, туга набітага важнымі справамі. Але і то

тады, калі глядзець на справу павярхоўна. Калі ж мы прыгледзімся бліжэй да справы, мы ўбачым поўнае апраўданне Буланаму.

Ставім пытанне: ці мог Буланы бачыць, што ў Каваленкі зваліўся партфель і шапка? Зразумела, не мог, бо ён, як гаварылася, ішоў наперадзе. Нават дапусцім, што Буланы выпадкова бачыў, як зваліўся партфель, дык адкуль ён мог ведаць, што там важныя справы, а не падштанікі. На сваім вяку Буланы перавазіў шмат партфеляў, і ён бачыў, што не ва ўсякага начальніка таўшчыня партфелю адпавядае яго зместу. Вось што трэба прыняць пад увагу.

Ці можна пасля гэтага хоць намякаць на віну Буланага?

Мы яшчэ не адзначылі тэй заслугі Буланага, што ён усё ж ткі сам прыйшоў у Рык. А т. Каваленка? Выбачайце. Тое, што ляжала на каламажцы без шапкі, партфелю і без голасу, нельга было назваць народным следчым.

Вось чаму я смела кажу, што Буланы не вінаваты.

Вось чаму закіды следчага Каваленкі супраць Буланага я лічу нічым іншым, як дэмагогіяй. І я пэвен, што калі дзе-небудзь, можа, і знойдзецца які-небудзь суд, што будзе разбіраць справу следчага з Буланым (у жыцці ўсякі бывае случай), калі ён прыме пад увагу мае довады, то, клянуся ўсімі артыкуламі Крымінальнага Кодэксу, Буланага гэты суд апраўдае.

## БОЙ ЗА КУЛЬТУРУ

У туманны імжысты дзень месяца верасня каля 10 гадз. раніцы гр-н вёскі Кіевічы, выйшаўшы ў панадворак за сваёй патрэбай, угледзеў, што ля вясковага Дому Культуры спыніўся з яўна варожымі намерамі нейкі невядомы народ пад кіраўніцтвам міліцыянера.

Наспех зрабіўшы сваю патрэбу, гр-н хутка далажыў аб здарэнні сваім суседзям, і не прайшло і пяці хвілін, як уся вёска сабралася каля Дому Культуры, там, дзе спыніўся невядомы народ.

Апрошаны народ назваў сябе астравічанамі, а свой прыезд у Кіевічы растлумачыў даволі странна:

— Таму як мы народ цёмны і школы ў нас няма, то прыехалі мы гэты дом разабраць сабе на школу.

Сказалі так і памахалі перад носам кіевічан паперкай за адпаведнымі подпісамі.

— Дык як гэта, так вас ды гэтак, — заявілі кіевічане. — У нас тут Чырвоны куток нашымі ўласнымі мазалямі і грашыма адбудаваны і санкцыя на будынак ёсць ад РВК.

Народ зноў памахаў перад носам рыкаўскай паперкай і паказаў на міліцыянера.

Кіевічане да міліцыянера.

— Таварыш начальнік, ці ж гэта парадак раскідаць куток. Спыніце, пакуль мы апелюем.

Таварыш начальнік, які стаяў у позе цяжарнай жанчыны, вяла павярнуўся на голас кіевічан:

— Мы спыніць не можам. Мы кіруемся пастановай.

І, узяўшы ў рукі паперу з рыкаўскай санкцый на кіевіцкі нардом, ён махнуў ёю ў паветры.

Па гэтаму знаку, як па камандзе, астравічане палезлі на страху кіевіцкага Дому Культуры, і закіпела работа. Страха зляцела ў момант, не менш спраўна павымалі вокны, дзверы, увабраліся ў сярэдзіну, пазрывалі плакаты, лозунгі, раздрудзілі кіевіцкі скарб, шафу з кнігамі (400 экз.) і ўсё гэта пад шум, гам і трэск раскідалі па разбуранай хаце, па сенях, па вуліцы, пад ногі.

Вось нейчы цяжкі бот ступіў на «Уроки Октября» і адсунуў кнігу ў кут. Там чыйсь брудны лапаць шмаргануў палітграмату Каваленкі; кніжка з размаху стукнулася ў брашуру «Чым карміць свіней» і абедзьве яны разам зніклі дзесь у сенях. А вось там нейчая жылістая рука абмацала паперу на кніжцы і, прачытаўшы назву «Учитесь торговать», спрытна зацiснула кнігу ў кішэнь…

Праз вынятыя вокны сiганyў вецер і ўзнятыя ім абрыўкі лозунгаў закружылі па хаце, вылецелі праз акно і панесліся па вуліцы, утвараючы новыя лозунгі.

Кавалак ад нейкага лозунгу са словамі «несознательность масс» зляпіўся з другім кавалкам лозунгу са словамі «камень на шыю буржуазіі» і паляцеў за кавалкам трэцяга лозунгу са словамі «путь к социализму».

Абурыліся кіевічане. Успомнілі яны, як год таму назад урачыста адчынялі куток, успомнілі тыя прыемныя вечары, што яны тут правялі. Успомнілі і не вытрымалі.

— Не даць, хлопцы! Ляжам касцьмі, а культуру абаронім. У бой, смела, — і дружна пракрычаўшы тры разы «ура», кінуліся кіевічане на ворага.

Закіпеў бой, крывавы бой. Армія ворага хоць і меншая, але ўся як на падбор — рэгулярная. Першая атака кіевічан была лёгка адбіта, і вораг перайшоў у контратаку. Передавая лінія кіевічан з першай атакі значна парадзела: са строю выбылі старыкі і кабеты, засталася толькі нязначная жменька рэгулярных байцоў, якая ўпарта старалася ўтрымацца на старой пазіцыі, каля Дому Культуры.

Але дарэмна. Вораг напіраў. І быў час, калі здавалася, што кіевічане вось-вось не вытрымаюць і пакажуць тыл.

У гэты самы момант па іх радох пранёсся клік:

«Дзяржыся! Падмога!»

І запраўды, на поле бойкі кар'ерам імчалася «лёгкая артылерыя» — кіевіцкая пажарная дружына з усімі пажарнымі машынамі.

— Стоп! У атаку! — скамандаваў брандмайстар, стаўшы на перадавой лініі. — Наводзь кішку на самую цэнтру.

І «кішку» навялі на цэнтр варожага стану. Моцны струмень вады, вырваўшыся з «кішкі», дугою ўзняўся высока ў паветра і холадам ударыў у твар ворага.

Дрогнуў вораг. Рады змяшаліся, разладзіліся. А тут і з тылу атакавалі. Спешна набраны з кіевіцкіх маладых грамадзян піянерскага ўзросту «партызанскі атрад» абышоў вакол Дому Культуры і, з намерам адбіць абоз ворага, ударыў з тылу і засыпаў астравічан градам каменняў.

Не вытрымалі астравічане. Сабраўшы апошнія сілы, яны з цяжкім боем прабіліся к абозу і пад свіст і пераможны крык кіеўчан ганебна пакінулі поле бойкі.

Так скончыўся бой за культуру. З гонарам баранілі кіеўчане свае культурныя дасягненні. Жывата не шкадавалі, але дарэмна. Бібліятэку ўсё роўна не сабралі, дом праз некаторы час забралі, а кіевічан абвінавацілі ў «сапраціўленні ўладзе». РВК затрэбаваў выдаць зачыншчыкаў і справу аб бойцы перадаў у суд.

Два разы разбіраў суд гэтую справу і ніяк не мог устанавіць, хто праў, хто вінават.

— Біліся? — пытае суд.

— О-го!

— Наводзіў кішку?

— Яшчэ і як! Бо наш быў дом. Нам яго РВК даў.

Так і не дабіліся, хто вінават. Зараз справу перадалі ў акруговы суд.

Чым яна скончыцца ў акрузе — сказаць трудна, але я спачуваю суду. Бо запраўды, як устанавіць зачыншчыкаў бою, хто вінават? Ці можна, напрыклад, вінаваціць кіеўчан за тое, што яны грудзьмі баранілі сваё

культурнае дасягненне — Чырвоны куток? Згадзіцеся, што нельга. Ізноў жа — ці можна вінаваціць астравічан, якія не шкадавалі сваіх галоў, каб унесці свет у вёску — адчыніць там школу? Таксама нeяк не выпадае.

Дык хто ж вінават?

Я спачуваю акруговаму суду...

## ГІБЕЛЬ ТЭАТРА

Гэты сумны факт упісан у гісторыю вёскі Сямёнькавіч у самы дзень асенняй «прачыстай», ці, як кажа мясцовы царкоўны правадыр, у дзень «усыплення трысвятой багародзіцы».

Катастрофа здарылася, галоўным чынам, за тым, што вёска не стаіць яшчэ на шляху да сацыялізму, бо, як сказана дзесь у пісанні: сацыялізм — гэта вучот, а сямёнькавіцкі грамадзянін не менш далёк ад вучоту, чымсь, скажам, менскі абываталь ад кітайскіх падзеяў...

У летапісах сямёнькавіцкіх не ўпісана яшчэ ніводнага кірмашу, падрыхтоўка да якога мела б хоць слабы намёк на план, на вучот. Заўсёды мерылі на-вока і на-душу.

Па традыцыі гадоў вёска і сёлета палажылася толькі на душу: «яна меру знае».

Ну а душа, рэч вядомая, не вораг свайму гаспадару. І сямёнькавіцкая калектыўная душа затрэбавала ад сваіх гаспадароў сёлета на кірмашовы самагон роўна 312 пуд. мукі, са строгім разрахункам, каб на серадняка ляглі 4 пуды.

Нават і не спрачаліся сямёнькаўцы, адсыпалі поўнасцю прасімае:

— Пі, душа! — дух з цябе вон. Хоць раз у год, ды ракам стань.

І душа ракам стала.

Кірмаш, як водзіцца, адчыніў поп. Праехаўся ён па вуліцы з абозам, брызгаў у кожнай хаце і ў двары вадой і браў за гэта з сялян «воздаяние».

Па мудрай прыказцы «богу і вяровачка прыгадзіцца» поп нічога не адкідаў, і калі з такім поглядам на рэчы абрызгаў усю вёску — «воздаяния» набралося вазы два. Тут поп распіў з «лепшымі» людзьмі пару бутэлек «першаку», закусіў бараннім бокам і павёз «воздаяние» да сваёй матушкі, благаславіўшы вёску словамі:

«И да возрадуется дух ваш, и да возвеселится душа ваша».

Гэтыя словы былі «гласам ангельскім» для сямёнькавіцкай душы. Яна, як каршун на здабычу, накінулася на самагон...

Па меры таго, як пусцелі бутэлькі і бачонкі, як чырванелі твары і жываты паступова адпіхалі сталы на сярэдзіну хаты, — возвеселялася і душа.

К вечару барометр настрою душы паказваў дождж, град і буру.

І бура разразілася…

На кірмаш прыехаў госць з акруговага цэнтру, барысаўскі асілак Скарбэ. Вестка аб гэтым на п'яных нагах абкалясіла п'яную вёску, і к вечару каля вясковага тэатру сабралося ўсё жывое, што яшчэ стаяла на нагах.

Роўна а 9-й гадзіне адчыніўся тэатр і на сцэну выйшаў сам асілак Скарбэ ў чырвоных трусіках.

Гэта было пачаткам катастрофы. Тая частка вёскі, якая таксама хацела пабачыць чырвоныя трусікі асілка, а можа, і сілай памерацца з ім, ды не хацела плаціць за гэта грошы, рашыла з бою ўзяць сабе здавальненне.

Пад напорам пляча вясковых асілкаў тэатральныя дзверы паляцелі з крукоў у той самы момант, як Скарбэ «выціскаў» першую шматпудовую гіру. Клубок п'яных цел укаціўся ў тэатр і патрэбаваў сабе месца.

Але хто ў наш век дае месца дарма?

Трэбаванне яўна ненармальнае, і, як такое, яно ў далейшым сваім развіцці мела вынікам гарачую дыскусію, перайшоўшую ў не менш гарачую бойку. Затрашчэлі лаўкі і табурэцікі, зазвінелі вокны, заскрыпела сцэна. Нехта «свіснуў» па лямпе, і храм мастацтва агарнула цемра.

Чутно толькі было, як трашчэлі пашчэнкі, скрыпелі насы, стагналі байцы, ды мат, густы, сочны мат напаўняў увесь храм, вылятаў праз выбітыя вокны і разносіўся шырока па ўсёй вёсцы.

Нэўтральны глядач, убачыўшы такую, не зусім жаданую перамену роляў у прадстаўленні, рынуўся ў рассыпную: хто ў дзверы, хто ў вокны, а бабуля Аўдасея, дык тая заціснулася пад печ.

Сам асілак, знянацку засцігнуты бойкай, даў дзёру праз вакно і апомніўся толькі на вуліцы, калі агледзеўся, што трусікі з чырвоных зрабіліся жоўтымі…

А бойка ішла далей. Пачатая за месцы ў тэатры, яна скончылася толькі на трэці дзень кірмашу.

У выніку: выбіта ў вёсцы палова шыбаў у вокнах, пакалечана каламі і нажамі 18 дзядзькоў, ва ўсіх разбіты насы, і канчаткова разбураны тэатр.

Вось, што значыць бяспланавасць і адсутнасць вучоту.

Прыгожы, стыльны сямёнькавіцкі тэатр, адзіны культурны асяродак вёскі, паў ахвярай бяспланавасці і адсутнасці вучоту на першым годзе сваёй плённай дзейнасці.

Загінуў тэатр, і не прыедзе больш у Сямёнькавічы асілак Скарбэ, і не пакажа ён вяскоўцам свае чырвоныя трусікі.

Сумна сямёнькаўцам.

## АДНАГАЛОСНА

Асенняе ажыўленне клубнай працы пачалося.

Арганізацыйны сход гурткоў Д-скага Нардому праходзіў як нельга больш актыўна і ажыўлена.

Дакладчык у сваёй кароткай прамове спачатку дакрануўся значэння наогул асветы, потым значэння клубнай працы і, нарэшце, у паасобку падкрэсліў вартасць Д-скага Нардому як такога, з усімі яго гурткамі.

Калі пасля 1 гадзіны і 31 хвіліны дакладчык сходзіў у сені, выпіў конаўку вады і перайшоў да гісторыі арганізацыі Нардому, ажыўленне дайшло да свайго вышэйшага пункту.

Адзін культасветнік у парыве ажыўлення моцна ўшчыпнуў ззаду сядзеўшую перад ім культасветніцу. Тая ерзанула на лаўцы і, пад дружныя воплескі ажыўленай грамады, піснула.

Другі культасветнік, блукаючы вачыма па зале, убачыў на сцяне плакат «Курыць сувора забаронена» і ўспомніў, што ён даўно не курыў.

Выцягнуты ім з кішэні капшук з тытуном з вясёлым гоманам пайшоў па руках іншых культасветнікаў.

Праз хвіліну хмары дыму адгарадзілі шчыльнай сцяной дакладчыка ад аўдыторыі. Палкія словы яго стукалі ў гэтую сцяну і адскаквалі ад яе, як мячык, назад у рот.

У самым кутку пакою, пад гэтай дымавой заслонай згрупаваліся некалькі культасветніц і з візгатам і смехам вялі актыўную гамонку аб нейкім камбаце.

Ажыўленне было поўнае.

А дакладчык усё гаварыў. Гаварыў ён, між іншым, і пра дробязі.

— Некаторыя таварышы, — казаў ён, — не з належнай увагай адносяцца да друкаванага слова. Калі перад кампаніяй бяруць да хаты

«Правду», каб падрыхтавацца к дакладу, дык варочаюць «Правду» з дзюркамі: кастрыруюць прамовы важдзей.

— А што такое газета без прамоваў? Не газета, а адна простая назва.

Тут дакладчык са смакам плюнуў на сцяну і папаў якраз на паперку, дзе было напісана: «На пол не плевать».

— Другія таварышы, — цягнуў ён далей, — цішком бяруць газету дахаты і там у сямейным быту карыстаюць яе без патрэбы… А таварышы, каторыя ў раённым маштабе, і таго лепш — адкрыта бяруць газету дахаты са словамі «прынясу» і не прыносяць.

— Гэта дае повад масам выказваць свой пратэст і разводзіць дэмагогію на манер таго, што «вось чытальня ёсць, а чытаць нечага» і што «культпраца кульгае».

— Усе гэтыя дробязі ствараюць атмасферу, якую трэба ізжыць, бо няма ўвязкі…

Адносна вечароў у Нардоме дакладчык зазначыў, што яны ў Д-не праходзяць не зусім арганізавана.

— Напрыклад, калі ў мінулую нядзелю на вечары ў Нардоме кааператар Рымша адкалываў з рыкаўскай машыністкай тустэп, нехта запусціў у яго печаным яблыкам, што выклікала яўнае нездаволенне кааператара. Праўда, таварыш, учыніўшы гэты, далёка не арганізаваны падход, быў пад уплывам тутэйшага зялёнага змія, іменуемага ў масах самагонам, але і гэта не пазбаўляе нас ад нашага арганізванага ўплыву на сего несвядомага таварыша.

«Смела мы ў бой пайдзём», — закончыў дакладчык. (У гэтым месцы дакладу з залы выйшла палова слухачоў).

Дакрануўся ён далей і рэжыму эканоміі ў Нардоме.

— На гэта пытанне, — заклікаў ён, — нам трэба звярнуць найбольш увагі, бо гэты рэжым цяпер гвоздзь. (Выйшла яшчэ пяць чалавек).

— Возьмем для прыкладу вокны ў Нардоме: кожную вечарыну хвошчуць, прынамсі, па пяць шыбаў. Гэта ўжо лішняе. (Выйшла трое).

Дакладчык прыкінуў у галаве (вечарына ў сярэднім выпадае раз на тыдзень) і вывеў, што:

«Пры цяперашняй сітуацыі можна было б абысціся і адным вакном у месяц: адна шыба на адну вечарыну». (Выйшла пяць чалавек).

— Ізноў жа кнігі, якія ў бібліятэцы ляжаць без пераплёту, растрапаныя, можна было б загнаць у кааператыў на закрутку селядцоў, а на атрыманыя грошы купіць касцюмы для інсцэніроўкі «Вы жертвою палі»… (Застаўся адзін слухач).

Доўга яшчэ гаварыў дакладчык. Тры разы выходзіў у сені піць ваду.

Калі ў яго чацверты раз перасохла ў горле ён па вопыту ўмазаключыў, што спрэчак па дакладу не будзе, і выцягнуў з кішэні загадзя загатоўленую рэзалюцыю.

— Запытанняў не будзе? — зморaным голасам прасіпеў дакладчык.

Але тут дакладчык убачыў штось дзіўнае.

Тая дымавая заслона, якая праз увесь даклад, шчыра падтрымліваемая «казінымі ножкамі» культасветнікаў, хавала дакладчыка ад аўдыторыі, стала паціху распаўзацца, і здзіўленыя вочы дакладчыка ўбачылі пустую залу. Толькі на аднэй лаўцы смачна храпеў ва ўсе закруткі нардомаўскі вартаўнік. Рэзалюцыя, паднятая левай рукой уверх, адзінока павісла ў паветры. Змораны язык дакладчыка па інэрцыі, без удзелу мазгоў прамычэў: «Стаўлю на галасаванне», і рука таксама па інэрцыі паднялася ўверх.

Вартаўнічы, абуджаны апошнімі словамі дакладчыка, устаў з лаўкі, паскроб паясніцу і павольна стаў падмятаць памяшканне, не звяртаючы ніякай увагі на дакладчыка.

А той, усё яшчэ не разумеючы, дзе падзеліся слухачы, пастаяў хвіліну, дзіка палыпаў вачыма і грузна сеў на стул…

Загадзя загатоўленая рэзалюцыя аб ажыўленні клубнай працы высмаргнулася з вялай рукі дакладчыка і, апісаўшы ў паветры лёгкую дугу, плаўна апусцілася пад мятлу вартаўнка. Той спрытна падхапіў рэзалюцыю мятлой і энергічнымі рухамі пагнаў яе за дзверы, бармочачы:

— Накідаюць вось тут… прыбірай за імі…

Асенняе ажыўленне клубнай працы пачалося.

## «ОПІУМ»

Опіум, як казаў мне адзін студэнт-медык, ёсць злаякаснае курава.

Уплыў яго на арганізм надзвычайна паганы.

Ужываемы не як лякарства, опіум растрасае ўвесь арганізм, як старую каламашку на грэблі. Наогул, робіць з чалавеку мачаліну.

Ужываюць опіум больш усходнія людзі, але опіум ёсць у нас свой, тутэйшы.

Гэта опіум — каторы для народа. Уплыў яго на чалавека не лепш ад усходняга. Ёсць яшчэ ў нас і спажыўцы гэтага зелля, каторыя цёмныя, несвядомыя масы, ёсць і гандляры ім — папы і іжэ з імі, ёсць

і барацьбіты проці зелля — армія бязбожнікаў, «некурашчыя», так сказаць.

Барацьба ідзе ўпартая. Атака з боку «некурашчых» правільная, лінія вытрыманая, крок цвёрды. Шэрагі як «курыльшчыкаў», так і гандляроў опіумам відочна радзеюць. Перавага яўна на старане «некурашчых».

Але як і ва ўсякай барацьбе масавага размаху, і тут ёсць свае перагібы і свае недагібы. Па нашай, далёка не ўсходняй, спакойнай беларускай натуры, якая грунтуецца на народнай мудрасці «недасол на стале, а перасол на спіне», у нас, кажу, перагібаў менш, чым недагібаў. Яно і лепей: недагнуў — гні другі раз, хто табе шкодзіць, а перагнуў — прапаў чалавеча, — беражы карак, бо накладуць.

Логіка ясная, як першае мая. Чаго б, здаецца, тут мудрыць.

А вось жа на табе: мудраць людзі. І мала таго што мудраць, а сваім мудраваннем на спакойных людзей паніку наводзяць. Напрыклад, расненцы, на што, здаецца, спакойны народ, ім, кажуць, палец смела ў рот кладзі: выплюнуць, а не адкусяць. А барацьбіты з народным опіумам такую на іх, прасці госпадзі, цень навялі, што цяпер нават старыя бабулькі, калі верыць чуткам, жагнаюцца не іначай, як пад коўдрай…

…У адзін вялікапосны дзень трое маладых грамадзян Расны (вучні 2 класы сямігодкі) не з'явіліся ў школу. Факт сам па сабе дробны. Што такое, скажам, 3 вучні не прыйшлі на адзін дзень у школу. У нас во, у некаторых установах, на работу па тры дні, а то і больш не з'яўляюцца, і нічагуткі. Ну, але ў нашай новай школе свае парадкі, і барацьба з «прагуламі» там вядзецца суровая. Настаўніца на другі дзень адразу ўзялася за хлопцаў.

— Чаму не былі ў школе і іншае такое?

Палыпалі хлопцы вачыма, пераглянуліся і звалілі віну на лапці:

— У нас лапці падраліся, ды мы іх гэтага… цыравалі.

Так бы і падплялі настаўніцы лапці, каб не іх прыяцелі. А гэты прыяцель — яхідная штука: ён цябе ўтопіць скарэй, чым твой злоснік. Нездарма адзін філосаф штодня маліўся: «Госпадзі, пазбаў мяне ад прыяцеляў, а ад злоснікаў я сам пазбаўлюся».

Вось гэтыя прыяцелі і ўтапілі хлапцоў:

— Брэшаце на лапці. Да споведзі хадзілі… во!

Вось вам і «во». Нават і настаўніца, пачуўшы такія словы, ад перапалоху крыкнула «во», але далей гэтага не пайшла. Яна, як відаць, мала нюхала пораху на фронце антырэлігійнай барацьбы. Спалохала-

ся такога яўнага, некаторым чынам, нават арганізаванага рэлігійнага выступлення. Пабегла за загадчыкам школы:

— Ён гаспадар, хай і разбірае.

Ну а, як вядома, кожны гаспадар ведае, што сваёй кабыле рабіць. Гаспадар сямігодкі (яе загадчык) пасля дапросу вучняў пабраў іх за рукі, не зусім далікатна вывеў за парог і даў апошняе «напутствие»:

— Каб тут і нага ваша не была. Прэч! Дурману і опіуму не пацерплю.

Прыціх школьны муравейнік. Нават самыя закаранелыя бязбожнікі і тыя прыціхлі. Ды як жа іначай: у таго маці ў царкву ходзіць, у другога брат з крыжам, у трэцяга сястра яшчэ і цяпер «паносную» носіць у вялікіх працэсіях. Як жа яны ліквідуюць сваю непісьменнасць, калі такіх са школы гоняць? Тут, браце, прыціхнеш…

К вечару чутка аб здарэнні ў школе, як вуж той, папаўзла па ўсім мястэчку, забіраючыся ў самыя цёмныя куточкі мяшчанскіх халупак.

— Ну, цяпер ралягейным — труба, — шапталіся мяшчане па кутках. — А каторыя з крыжам — тым проста лажыся да памірай. Таму, новы закон выйшаў. Вунь, чулі, што ў школе нарабілі…

Невядома чым бы скончылася тое, што ў школе нарабілі, але бацька аднаго з вучняў, выпадкова ці не, аказаўся міліцыянерам.

Па прычыне такога здарэння міліцыянер звярнуўся па начальству: да памочніка начальніка міліцыі.

— Так вось ды так, і што рабіць?

— Ды як, што рабіць? — нават здзівіўся памначальніка. — На тое мы і міліцыя, каб усё рабіць. Вярнуць вучням іх правы, і кончана!.. Нам гэта — што плюнуць.

І праўда, не паспеў міліцыянер і нос высмаркаць, як ужо была гатова адносіна памначальніка міліцыі ў сямігодку.

Пайшлі назаўтрае з гэтай адносінай тры выключаных хлапцы ў школу, і што ж вы думаеце? Аднавілі свае вучнёўскія правы. Зноў селі на школьную лаўку.

З гэтага дня пачалося некаторае ўціхаміранне ўзбударажанай Расны:

— Раз міліцыя ўзялася за ралягійныя справы — жыць можна, таму — яна парадак любіць.

Але некаторыя, яшчэ неастыўшыя, казалі:

— Лацьвей ім, у міліцыі працуе, вось і выдалі пасведчанне аб благанадзёжнасці. А што мне рабіць, калі я не ў міліцыі?

І праўда, што рабіць таму, хто не ў міліцыі? І яшчэ горш: што рабіць тым, у каго міліцыя не такая, як у Расне, а настаўнікі такія самыя?

Нельга не згадзіцца са студэнтам, які казаў мне, што лячыць ад курэння опіуму трэба асцярожна і пастулова, бо не ўсякага і вылечыш…

## МЯНЯЙЦЕ РЭПЕРТУАР

У жыцці ўсякае бывае.

Бывае, паасобку людзі працуюць, а збяруцца разам — нічога не выходзіць. І наадварот — бывае, паасобку людзі нічога не робяць, а збяруцца разам… пяюць… Напрыклад, сябры Чыжэвіцкага сельсавета — паасобку кожны з іх як працаўнік — міф, пустое месца, а як збяруцца на пленум — стройны хор, хоць у Дзяржаўны Тэатр запрашай. Бяда толькі, што рэпертуар у іх вельмі вузкі: спяваюць выключна «Коробушку».

Селькор Коокі, які паведаміў нам аб гэтым факце, чамусь вельмі незадаволены сельсаветчыкамі і заклікае іх падцягнуцца.

Напрасна, т. Коокі! Па-мойму, дык у тым, што людзі спяваюць, нічога дрэннага няма. Чаму не паспяваць, калі чалавеку весела! Па-другое, што ж сябрам сельсавета рабіць на пленуме, раз яны перакулілі па якой-небудзь пляшцы самагону? Біць вокны? Ламаць сталы? Качаць старшыню сельсавета? Дык я лічу, што гэта не да твару сельсаветчыкам, ды к таму ж і непрадукцыйная трата часу. Качаючы, старшыню можна выкуліць з рук, а ён нос разаб'е або штаны парве — адны непрыемнасці. А пяеш — і сабе хораша, і сялянам весела.

Я нічога супраць спеваў.

Мяне тут якраз другое цікавіць: мне незразумела, чаму іменна «Коробушку» спяваюць. Няўжо ў нас песень прыгажэйшых няма. Узяць, напрыклад, «Чыжык, чыжык, дзе ты быў» — чым не заліхвацкая песня, ежалі яе ды пад гармонь пусціць. Любата!

Або «Ухар купец» — чаму яна для пленуму не падыходзіць? І скочная, і вясёлая. Можна спяваць і тахты нагамі адбіваць.

Ды хоць бы сабе ўзяць і «Ваши пальцы пахнут ладаном». І то ўжо лепш, чымсь «Коробушка». Калі гэты раманс пападзе пад настрой, ды яго шчыра ўсім пленумам выканаць пад акампанемент сакратара сельсавета на раялі, дык прыямнейшую асалоду на пленуме і ўявіць сабе трудна.

А ўзяць нарэшце «Бубенцы». Гэта ж калі ёсць добры салісты, ды пад гітару зацягнуць:

*Что было — никогда не вернётся!*
*Так зачем же, зачем вспоминать?*

А потым хорам падхапіць:

*Слышишь звон бубенцов издалека...*

Цудоўна!..

А «Забыты нежныя лобзанья», а «Яблочко»? Оспадзі, ды ці мала ёсць прыгожых спеваў, апрача «Коробушки»! Не трэба быць такімі кансерватарамі. Бо пры ўмелым выкарыстанні гэткага, па праўдзе сказаць, даволі рэдкага «ўклону» сельсавета, як музычны, якіх дзялоў можна наварочаць. Гэта ж пры ўдалым рэпертуары з поспехам можна на пленумах канцэрты задаваць.

А сяляне як паваляць на пленум пры такой яго арганізацыі! Бяда! А то яны ў апошні час нешта адбіліся ад сельсавета, і ходзяць чуткі, што віной усяму «Коробушка».

— Што ж, — кажуць, — гэта за сельсаветчыкі? Ім толькі «Коробушка» ў галаве, а больш нічога і ведаць не хочуць.

І як прыклад прыводзяць шчырае жаданне вёскі Півашы скінуць лішнюю гразь з цела — жаданне, якое ў самым сваім зародку было перасечана сельсаветчыкам...

Вёска хацела лазню пабудаваць з быўшага магазіну, дык сябра с-савета П. Якубовіч не дапусціў.

— Свіння, — казаў ён, — ніколі не мыецца, а хто скажа, што яна брудная. Вось і я ніколі не мыюся, а я ж нават начальства.

Ясна, вёска абурылася, але не супраць Якубовіча, а іменна супраць «Коробушки».

— Знаем мы вашу чыстату, — гудзяць сяляне, — на «Каробачцы» хочуць перапяяць магазін, п'яніцы.

Вось, братцы, як справы павярнуцца могуць.

Біце адбой, пакуль не позна. Мяняйце рэпертуар.

На першы стрэл, пакуль яшчэ хваляванне масаў не развінулася, я вам магу параіць спяваць «Чаму ж нам не пець».

Гэта песня хоць і не будзе адпавядаць запраўднасці наконт таго, што «ў нашай хатачцы парадак ідзець», але яна мае перавагу ў тым, што блізкая сялянам. Пачуе вёска сваё роднае наконт «парадачку» і крыху супакоіцца. А тым часам вы пяройдзеце на «Звон бубенчиков» або на «Яблочко».

Толькі такім манеўрам можа і адратуецце лёс «Коробушки», а разам з ёй, можа, і свае сельсавецкія крэслы. Кажу, можа, бо хто яго ведае.

У жыцці ўсякае бывае…

## НАЧАЛЬСТВА ЗАБАЎЛЯЕЦЦА

Кожны па-свойму забаўляецца.

Скажам — масы, каторыя неаформленыя (часам і аформленыя), танцулькамі забаўляюцца. Скачуць ці на чыю-небудзь карысць, ці проста без карысці — для сябе, «ібо, як казаў мне адзін клубны працаўнік, не о докладзе едзіным жыў чалавек бывае». Другія — рускай горкай цешацца. Гэта — хто любіць, а хто яе (горкай) не любіць, каньякі ды віны розныя п'е: шампанскае ды партвейны. Іншыя — па саду шпацыруюць, а надаесць шпацыраваць — на лаўку кладуцца, адпачываюць… Некаторыя ў кіно ходзяць, часамі ў тэатр, зрэдка — у клубы. А то бывае ў госці адзін да другога швэндаюцца па чацвяргох або па нядзелях…

Наогул, кожны забаўляецца, як яму выгадней. Гэта, канешне, у горадзе. Тут для забавы поле дзейнасці надзвычайна шырокае, абы чалавек не гультай быў. Ну а ў вёсцы, братцы? Чым у вёсцы забаўляюцца?

— Ценжка, вой ценжка, — жаліўся мне адзін хутаранін. — Зараз на всі ніякай забавы.

— Зрэшты, — дадаў ён праз хвіліну (казаў па сакрэту), — цяпер ужо лягчэй стала. Выганіш, кажа, хоць і пуд, а калі на стол паставіў бутэльку «казённай», дык і кліч гасцей смела.

— Блізіра, — кажа, — ёсць.

Ну, гэта ізноў жа — масы так разважаюць.

А вось як забаўляцца таму вясковаму жыхару, хто не маса, хто ўзняўся над масай ды кіруе ёй.

Некаторыя тут знаходзяць выхад, а некаторым цяжка.

* * *

Вялікдзень у вёсцы Брадзец.

Вёска сапіць, аддуваецца і крэкча — «свянцоўку» пераварывае. Моладзь яйкі б'е ды качае, па валачобнае ходзіць… А старшыня

сельсавета гр. Ф. Осіпаў сядзіць перад хатай на прызбе, цяжка аддуваецца самагонным перагарам і крэпка сціскае свае, мацнейшыя над усёй ваколіцай, кулакі.

Вочы тупа ўставіліся ў суседнюю хату, а пад шапкай, дзе звычайна бывае галава, млявыя думкі паўзуць: «Чым пацешыцца?» У гэты час з туману вёскі выплыла незнаёмая постаць самага спакойнага і самага вядомага на ўсю ваколіцу чалавека — скрыпача-аматара Санько. Постаць упёрлася ў тупы погляд старшыні Осіпава.

— Стой, — скамандавала начальства.

Санько стаў і пераклаў пад паху торбачку, дзе была беражліва загорнута яго карміліца і найдаражэйшая для яго ў свеце рэч — скрыпка.

— Грай, — загадвае начальства, — грай так, каб мяне за душу шчыпала.

— Не магу, тав. старшыня, скрыпка сырасці не любіць.

— Як не любіць сырасці? А ці мае права яна не любіць, калі я, твой старшыня, пацешыцца хачу? — грозна закрычаў старшыня. — Дык я ж табе дакажу, што начальства можа!..

І вясковае начальства — старшыня сельсавета таварыш Осіпаў, — паднялося з прызбы. Грозныя вочы ўставіліся ў Санько, левая рука начальніка ўплялася за каўнер музыкі, а правая вытрасла з торбачкі скрыпку. Яшчэ момант… і ценькія дошчачкі скрыпкі ўдрызг разляцеліся на галаве яе гаспадара — музыкі Санько.

Моцная рука ў Осіпава, мацнейшая над усёй ваколіцай…

А музыка Санько сабраў акуратна ў торбу друзачкі сваёй душы — скрыпкі — і шчырымі слязьмі хацеў іх склеіць… Не склеіліся…

А начальства здаволена смяялася.

* * *

Канец красавіка. Вёска Гута старанна рыхтуецца к вясне. Ладзяць бароны і плугі, правяць панарады, дзень выдаўся пагодны — трэба выкарыстаць.

Раптам вёска прытаілася — замоўклі галасы і гукі працы. Цішыню прарэзаў стрэл за ваколіцай.

Гэта ў вёску ўязджала начальства — быхаўскія міліцыянеры Купчын і Гарлачоў, а з імі і чырвонаармеец Руткоўскі.

Кампанія шумна, са стрэлам праехала праз замёрлую вёску, прабіла куляй Піліпавы вароты і з вясёлым смехам выкацілася з другога канца вёскі…

Начальства цешылася…

— Го! Го! — вырваўся моцны крык радасці з міліцэйскіх лёгкіх.

— Гаў, гаў, гаў… — адгукнуўся нехта нечакана на крык начальства, і на ўзгорку паказаўся вялікі прыгожы сабака, а за ім яго гаспадар гр. в. Гута Яўхім Пазнякоў.

— Ты гэта што? Супроць міліцыі брэшаш с… с… — вылаяўся міліцыянер Купчын, і яго правая рука лягла на наган.

— Застралю за такое выступленне!

— Тав. міліцыянер, — загаласіў Пазнякоў, — ён жа ў мяне адзін, ды і хата мая на канцы вёскі, а тут ваўкі жыцця не даюць… Не страляйце…

На крык падышлі член сельсавета і сябра КСУ.

— Не страляйце, будзьце ласкавы, — падтрымалі і яны Пазнякова, — у нас жа вось лес каля вёскі, а ваўкоў у ім, як грыбоў…

— А чаму брэша на начальства? — зноў закрычаў міліцыянер Купчын, — ты, мусіць, навучыў яго? Га? Дыскрэдытацыя ўлады? Не пацярплю!

І рука міліцыянера Купчына навяла наган на нічога не разумеючага сабаку.

— Страляй! — скамандвалі Гарлачоў і Руткоўскі.

Тры асечкі, і за чацвертым стукам курка сабака расцягнуўся каля ног гаспадара.

— 25 рублёў каштаваў, — выціснуў праз слёзы гр. Пазнякоў і схіліўся над свежым трупам абаронцы свайго спакою…

А начальства з вясёлым смехам паехала далей… Яно забаўлялася…

* * *

Цяжка на вёсцы.

— Вой, ценжка, — як казаў той хутаранін.

Не згадзіцца з ім — нельга.

## ПРА БАРАДАЎКУ БЕДАКА І АДМІНІСТРАТАРА…

Адміністратары — розныя яны бываюць.

Суровыя ёсць адміністратары, граза ўсёй установы, бываюць ціхія, спакойныя, як майскі вечар, ёсць самадуры — чаго мая левая нага хоча, ёсць і талковыя, ёсць разумныя, бываюць і не зусім, ёсць

мяккія з усіх бакоў (гэтыя звычайна ядуць многа), ёсць і жорсткія і г. д., і г. д.

Наогул, тыпы адміністратараў так размаіты, што ўсіх не пералічыш.

Але ў апошнія часы на фоне нашай грамадскасці стаў выплываць, яўна вылучаючыся з усіх, новы тып адміністратара. Гэта так званы вясёлы адміністратар.

У Шчадрына пра аднаго вясёлага адміністратара так сказана: «И было у него два ока: одно — дремлющее, другое — недремлющее. Дремлющим он ровно ничего не видел, недремлющим видел пустяки».

Так па Шчадрыну. Калі з падобнага шчадрынскага адміністратара стрэсці пыл гадоў, паднавіць яго, папырскаць адэкалонам, надзець на яго галіфэ — надаць яму, так сказаць, воблік сучаснасці — ды пасадзіць яго ў асобны кабінет — вось і будзе экзэмпляр вясёлага адміністратара нашых часоў.

Сядзіць такая вясёлая асоба, гадоў сярэдніх, а то і больш, бывае з лысінай, бывае і без яе, сядзіць у мяккім фатэлю, шырока раскінуўшы ногі пад савецкім сталом...

Адно вока ў гэтай асобы (дрэмлючае) зажмурана і не бачыць, як рука падпісвае падсунуты спецам які-небудзь праект аб пераводзе ўстановы, скажам, на дымавы апал.

І весела адміністратару, што так проста вырашае праблему эканоміі, весела і спецу, які едзе ў трохмесячную камандыроўку за 3-ма вагонамі прэсаванага дыму, весела і другім ад аднаго віду здаволенага адміністратара.

Другое вока ў вясёлага адміністратара (нядрэмлючае) лукава прыжмурана, нібы ўсміхаецца і падміргвае: «Вы не думайце, я ўсё наперадкі бачу; каб у мяне ніводная народная капейка дарма не прапала».

Ну — зноў весела ўсім. Смяюцца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У ранні вясенні дзень адзін з такіх вясёлых адміністратараў, пераварваючы сыты абед, курыў папяросу «Нега» і глядзеў праз вакно, як вароны шырока раскідалі па белым чыстым снезе чорныя сляды конскай некультурнасці. Гэта «лірычнае сазерцанне» ляснічага Лапіцкага лясніцтва раптам было перапынена. У нядрэмлючым яго воку замаячыла нейкая чорная кропка, якая паволі выплывала з таёмнасці бабруйскіх лясоў.

Кропка расла, шырылася і нарэшце вылілася ў выразную фігуру селяніна, які мерна шагаў ля свайго мізэрнага каняkі. Каняка быў за-

прэжаны ў простыя санкі, а на іх (о, ужас!) самавольная парубка — цэлы ахапак самых сапраўдных яловых дроў.

Залыпала нядрэмлючае вока вясёлага адміністратара.

Злоснага самавольнага парубшчыка грамадзяніна Барадаўку злавілі, прыцягнулі разам з «вещественным доказательством» у лясніцтва, склалі на двух аркушох пратакол, як водзіцца, па ўсіх правілах: дзе сек, чаму сек, ды на што сек, і як твайго бацьку зваць, і колькі табе гадоў, і што ты рабіў да рэвалюцыі, і ці курыў твой дзед у лесе люльку.

На ўсе гэтыя запытанні адказваў Барадаўка і пасля кожнага пытання цвярдзіў:

— Братцы, я ж не злосны — у печы няма чым паліць.

Па справе самавольнай парубкі была створана спецыяльная камісія для ацэнкі парубі. Камісія мела нараду дзве гадзіны, пасля чаго добрую гадзіну «прэла» па данаму пытанню.

У выніку гэтых «прэній» камісія ўстанавіла, што «факт самавольнай парубкі канстатаваны, што оный самавольны парубшчык, грамадзянін Барадаўка, як таковой, абкладаецца штрафам на карысць у суме» і г. д.

Спецыяльна выкліканы па справе парубкі аб'ездчык паехаў за Барадаўкаю ў вёску для опісу яго маёмасці. Распісалі Барадаўку і яго маёмасць, што называецца, пад арэх, ад лапцей да абораў.

І на другі дзень опіс маёмасці Барадаўкі была ўжо на стале ў лясніцтве. Тут жа спешна ўся справа Барадаўкі (пратакол, опіс маёмасці і спецыяльная адносіна) была накіравана ў РВК.

У адносіне зазначалася, што грамадзянін Барадаўка зрабіў шкоду дзяржаве на... 13 кап. Лясніцтва прасіла РВК налажыць на злоснага Барадаўку адміністрацыйнае ўзысканне на... 13 кап...

І ўсім было весела. І ўсе смяяліся.

Смяяліся ў лясніцтве ад здавалення, што так спрытна змагаюцца з самавольнымі парубшчыкамі.

Смяяліся і ў РВК, бачачы здаволенне ляснічага.

Смяяўся нават і сам злосны парубшчык Барадаўка.

— Гы-гы-гы-ы, — казаў ён сваім суседзям, — на мяне 13 кап. налажылі штрапу, а ім мой штрап, як я даведаўся, будзе каштаваць 1 руб. 30 кап. Вось гэта дык штрап. Гы-гы-гы-ы.

Вось што значыць вясёлы адміністратар: і праца ідзе, з песнямі, вясёлая праца, і ўсім вясёла, і ўсе смяюцца.

# ЯК ЖА, УРЭШЦЕ, САМАКРЫТЫКАВАЦЦА

Самакрытыкуй, але ў рыхт.

*Народная прыказка*

Самакрытыка — яна, на мой погляд, так: калі паглядзіш з аднаго боку, дык, здаецца, нічога сабе — дармо, затое калі абойдзеш ды зірнеш з другога боку, дык выбачайце… адна буза парляманцкая.

Узяць вось наш Дзмітравіцкі сельсавет.

Да кампаніі самакрытыкі мы жылі так, як і ўсе добрыя людзі жывуць: спакойна, без сварак і гаршкамі не біліся.

Спаткаюцца, бывала, два начальнікі, дык яны як людзі:

— Іш, якія ў цябе штаны добрыя, — кажа адзін, — мусіць, дзіганаль. Колькі за метр плаціў?

— Які дзіганаль? — сумысля ганіць свае штаны другі, — гэта ж корт, самы звычайны.

— Бач ты, а зусім як дзіганаль.

— А ў тваёй жонкі, — кажа ў падзяку другі начальнік, — чаравікі надта прыгожыя. Мусіць, кантрабандны тавар, бо такой шаўры ў нас не знойдзеш.

— Шаўра? — нібы шчыра дзівіцца другі, — гэта ж звычайны шчагрэн. Са шнуркамі 6–50.

— Глядзі ты! А выглядаюць як шаўра.

Пагамоняць так начальнікі, пахваляць адзін другога і разыдуцца. Абодвум прыемна.

І сапраўды, навошта чалавеку праўду ў вочы казаць ды непрыемнасць рабіць? Можна гэту праўду інакш сказаць. Разыдуцца першыя начальнікі, спаткаюцца з другімі, тады і адвядуць душу:

— Чуў? — кажа першы, — як гэты слімак штанамі задаецца: «Дзіганаль, кажа, заграанічная, па 10 руб. аршын плаціў». Во хлуз! І каб хто паверыў? Усе ж бачаць, што гэта корт і то дрэннага гатунку.

— Ды гэту боўтку я ведаю, ён жа заўсёды так і ў працы такі.

У гэты час другі начальнік наводзіў крытыку на чаравікі прыяцелевай жонкі:

— Гэ! Французінка якая, без фігі дык і не падыходзь. Морду нафарбуе, спадніца да пупа і нагамі раскідае: бачце, шаўра заграанічная. А тут шчагрэн, і той напавер узяты.

— А кажуць, — адгукаўся другі, — што яна, гэта самае.. круціць..

— Ого! Яшчэ і як. Сам бачыў.

— А ён, боўдзіла, і не бачыць.

— Ды дзе яму, ён і ў працы такі…

Вось так мы, бывала, пагаворым лагодна, пагаворым і разыдземся. І нікому не крыўдна, і ўсім прыемна.

А часам на пленум збярэмся. Дык ізноў як людзі. Зробіць чалавек прадаклад, мы яго абмяркуем і рэзалюцыю адпаведную вынесем: «Працу прызнаць здавальняючай на ўсе 150 проц. і таварышу такому-та вынесці пралетарскую падзяку».

Во як рабілі. Ды яно і зразумела: сёлета адзін зрабіў даклад, на сулета другі, а там, можа, і мне прыйдзецца. Дык нашто ж я буду супроць яго выступаць, каб ён потым супроць мяне выступіў? Што я — вораг сабе ці што?

Гэта мы ўсе разумелі і таму крытыкавалі заўсёды ў рыхт.

Так было, пакуль не аб'явілася ў нас гэта самая самакрытыка. З яе і пачалося. І такую яна ў нас кашу заварыла, што хоць у Кітай уцякай. Праўда, самакрытыкаў гэтых у нас не багата, бо народ у нас сталы, сур'ёзны, але ўсё ж такі два аб'явіліся. І дзе? На пленуме!.. Эх ты, нарыў смаленскі! Сцервін сын! Ну, самакрытыкі, ды дзе-небудзь у хаце, ну, зрэшты, на вуліцы са знаёмым, а то на пленуме! Пры ўсім народзе!

Зачыналася гэта так. На пленуме рабіў даклад аб школе наш паважаны настаўнік т. Аляксееў. Чалавек ён культурны, з галавой, лаяльны. Да рэвалюцыі быў у ахвіцэрах, пасля рэвалюцыі намеснікам павятовага камісара. У гэты ж час ён сабе і хатку ў павеце пабудаваў — на тысячы тры. Адным словам, самі бачыце — чалавек салідны. Цяпер яго, праўда, з партыі выключылі, але ж ён усё роўна кажа, што лаяльны.

Дык вось, зрабіў гэты паважаны чалавек даклад, і толькі мы хацелі вынесці адпаведную рэзалюцыю, як тыц на трыбуну актывіста Красноўскі, а за ім фельчар, і пайшлі, і пайшлі.

— А чаму тое не зроблена?

— А гэта чаму не зроблена?

І грамадскай працы няма, і яшчэ нейкай працы няма. І паняслі, і паняслі, як коні з гары.

Вядомая рэч, усіх гэта абурыла. Сам загадчык культасветных спраў выступіў і зусім правільна зазначыў:

— Ты, — кажа, — крытыкуй толькі працу, а агульнага выхавання і працы настаўніка наогул — не чапай.

За ім выступілі другія. Самакрытыкунам гэтым, канешне, усыпалі здорава, але ўсё ж рэзалюцыю не вынеслі, і пленум так ні з чым зачыніўся.

Вядомая рэч, больш за ўсіх абурыўся паважаны настаўнік Аляксееў. Мабілізнуў ён сваіх прыяцеляў, і паімчалі паперкі ў РВК.

— Бузацёры завяліся! Элемент усякі! Пленумы зрываюць! Дыскрэдытуюць! Падрываюць!

А жонка настаўніка са свайго боку джганула заяву на фельчара:

— Летась ён мне наганам пагражаў, каб я мела з ім палавую зносіну. Гвалтаўнік ён, бандыта. Дзе яму скот лячыць, калі ён сам жарабок.

У гэты ж самы час настаўнік пусціў чутку, што на яго рыхтуецца замах — забіць хочуць ворагі рэвалюцыі.

Чутку мы так раздулі, што амаль міліцыю не прыставілі да асобы Аляксеева. Адным словам, увесь раён на ногі ўзнялі. Усе забегалі. РВК дае строгія дырэктывы: даследаваць! Крымінальны вышук шукае «нагана», а міліцыя здымае дазнанні па прычыне зрыву пленуму.

Гудзіць, калоціцца ўвесь раён.

Праўда, у выніку з усёй гэтай кашы нічога асаблівага не выйшла, але ўсё ж такі самакрытыкуноў мы прыцішылі.

Фельчар цяпер дык аж у водпуск пайшоў і маўчыць. А настаўнік Аляксееў пятухом ходзіць.

— Я табе самакрытыкну, — кажа, — хвост ты кабылячы! Памкніся другі раз, дык...

Так мы гэту бузу разагналі. А ці надоўга — не ведаем. Ды і чорт яго будзе ведаць. Аднаго самакрытыка, праўда, зацiснулі, але чым мы гарантаваны, што хутка другі не з'явіцца? Гэта ж кампанія, і пакуль яна не скончыцца — непрыемнасці могуць быць.

Вось чаму я і кажу, што кампанія самакрытыкі, калі паглядзець на яе з другога боку, дык адна буза. Жылі мы сабе лагодна, мірна, як людзі, а самакрытыкнуліся, і папаўзлі непрыемнасці. Вось цяпер і паважаны настаўнік Аляксееў — хоць і перамог, а чуе сябе няёмка. Праўда, ніхто ў гэта не верыць, што фельчар з наганам да жонкі лез.

— Не такі ён, — кажуць, — чалавек, каб з наганам...

Але ўсё ж непрыемнасці, бо некаторыя зазначаюць:

— Што ты там не гавары, але з наганам.. Каб не з наганам, ну дык яно яшчэ вядома... А то што зробіш супроць нагану?

Вось што робіць самакрытыка, калі яна не ў рыхт.

А кампанію праводзіць трэба. Як жа тут быць? Як жа, урэшце, самакрытыкавацца?

# РЭЖЫМ У БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

*Мой план*

Увогуле, беларусізацыя ідзе некаторым крокам. Але ў некаторых установах яна ідзе яўна не па НОТу. Адзін з кіраўнікоў гэтых некаторых устаноў казаў мне на пытанне беларусізацыі:

«Мова — не волк, ■ лес не убежит, с ней и подождать можно».

Ну і «ждут». Некаторыя з гэтых некаторых устаноў прапускалі па тры тэрміны так званага «канчатковага пераходу».

«Ждут…»

А тут пішуць:

— Грошы дарма трацяцца: курсы адчыняюць, а іх не наведваюць! Не гавораць на мове абслугоўваемага грамадзянства! Больш увагі! І наогул, — пішуць, — трэба падцягнуцца.

З тэй прычыны, што цяпер, можна сказаць, зарэжымілі кругом, не лішняе будзе, па-нашаму, увесці рэжым эканоміі і ў справу беларусізацыі. Навошта сродкі марна гінуць?

Калі згадзіцца з гэтым, дык тут у першую чаргу патрэбен план. План — і больш нічога.

Падагуліўшы працу па правядзенні беларусізацыі за ранейшыя часы, я на грунце практыкі мінулага і апрацаваў прыблізна схематычны план найскарэйшага і найтаннейшага правядзення беларусізацыі. Гэты план павінен быць на бліжэйшыя гады настольнай кнігай для кіраўнікоў гэтых некаторых устаноў, якія кульгаюць у беларусізацыі…

Па майму плану, умацаванне беларусізацыі пачынаецца так. Бярэцца чысты ліст паперы, і на ім кіраўнік установы піша цыркуляр або загад, у якім паведамляе сваіх падначаленых аб беларусізацыі.

Цыркуляр можна пісаць так:

«Для скорейшего проведения белоруссизации ■ N учреждении довожу до сведения и неуклонного исполнения всех служащих, что с сей минуты предлагается ■ обязательном порядке постепенно переходить в канцеляриях на белорусский язык с тем, чтобы к осени текущего года окончательно перейти на бел'язык».

Калі цыркуляр пішацца ўвосень, дык тады трэба пісаць «с весны будущего года», калі зімой, дык «с лета будущего года» і г. д. Канчаць цыркуляр можна так: «Мелкая переписка, написанная на русском языке, ни мной, ни моим помощником подписываться не будет».

Але гэта як хто хоча.

У в а г а: У гэтым пункце кіраўнік установы можа спаткаць значныя перашкоды. Можа стацца, што машыністка не захоча беларусізавацца і справа праваліцца ў самым сваім зародку. У такіх выпадках як верны сродак, раіцца індывідуальны падыход да машыністкі.

Далей. Напісаны такім манерам цыркуляр можна вывесіць на сцяну ў калідоры ўстановы, а то можна адразу аддаць у папку, якая спецыяльна адводзіцца пад справу «Беларусізацыя» за № такім-та.

Гэтымі двума мерапрыемствамі фактычна і закладваецца фундамент беларусізацыі. Цяпер застаецца толькі, як кажуць, «вглубь» і «вширь». Для гэтага падшукваецца які-небудзь чалавек, ведаючы беларускую мову, які і залічваецца ва ўстанову на пасаду беларуса. Гэты чалавек і будзе паглыбляць беларусізацыю, вядучы «мелкую переписку с тем, чтобы с осени окончательно перейти...» і гэтак далей.

У в а г а: Кіраўнікі устаноў і наогул асобы, якія стаяць на 17-разраднай тарыфнай драбіне вышэй 14-ай ступені, на курсы хадзіць не павінны ні ў якім разе. Гэта для аўтарытэтнасці, бо несвядомыя падначаленыя могуць кпіць: «Тоже начальники и тоже неграмотные».

Той, хто хоча праявіць найбольшы імпэт у справе беларусізацыі, можа пару вывесак зрабіць на беларускай мове. Вывескі трэба пісаць як мага больш няграматна, каб незразумела было. Гэта ізноў жа для аўтарытэтнасці ўстановы. Раз незразумела, то няйначай — нешта важнае.

Цяпер застаецца, можна сказаць, дробязь: гэта — падзяліцца з шырокімі коламі сваёй радасцю, сваімі дасягненнямі. Тут ізноў трэба падшукаць чалавека, паінфармаваць яго аб сваіх дасягненнях і асцярожна намякнуць яму, што вось не шкодзіла б і ў газету прапусціць аб гэтым.

Інфармацыю трэба прапусціць пад якім-небудзь хлёсткім загалоўкам, накшталт такога: «Мы доўга цярпелі»... або «Перашагнулі даваенную норму!» Пасля загалоўка трэба зрабіць кароткі агляд ходу працы па беларусізацыі ў сваёй установе і тады пісаць:

«Беларусізацыя ідзе ў нас шпаркім крокам і не сёння, дык заўтра перашагне 100 проц. Дасягненні аграмадныя. Сялянства на ўсе 100 проц. гаворыць на беларускай мове. Яшчэ напор і... хто наступны?»

Пасля ўсяго гэтага кіраўнік установы спакойна ідзе піць каву і чакаць праверкі ведаў па беларускай мове. Калі праверачная камісія

знойдзе чаму-небудзь што-небудзь не так, дык тады план пачынаецца нанава з самага пачатку.

Галоўнае — у роспач не ўпадаць, не аддавацца «грусти и печали». Бадзёрасць патрэбна і выдзержка. Я ведаў аднаго дзядзьку, які ўсё лета ваду ў ступе тоўк, лёд, бачыце, хацеў зрабіць. Праўда, ён, бядак, так і памёр, не дачакаўшыся лёду (а вада ўсё-ткі сама замерзла, як прыйшла зіма), але да канца дзён сваіх быў вытрыманым і бадзёрым.

Вось такімі і павінны быць кіраўнікі гэтых некаторых устаноў, кульгаючых у беларусізацыі.

Аптымізм і бадзёрасць, тады мой план будзе яўна карысным.

P. S. Па апошніх вестках, мой план распрацоўваецца і, па чутках, будзе прыняты.

## «РАССУЖДЕНИЯ О БЕЛОРУССИЗАЦИИ»

### *З запісной кніжкі «спеца»*

«Я спец невялічкі, усяго на 175 руб., але, з боскай дапамогай, другія і гэтага не маюць. Вось чаму я не скарджуся на свой лёс. Жыву сабе і жыву.

Я, можа, быў бы і зусім задаволены, каб не адна буйная непрыемнасць.

Непрыемнасць гэта, інакш кажучы, штодзённая прыкрасць, якая пільнуе кожны твой крок і атручвае кароткія хвіліны адпачынку, ёсць так званая беларусізацыя, «т. е. изучение белорусского языка».

Я — абураны. Я — злы. Я гатоў крычаць. Але я толькі шапчу, шапчу і то ў сваёй кампаніі, на вуха «свайму» шапчу: «китайский язык… белоруссизация… ги… ги… и зачем она?». Шапчу, а ўголас не магу сказаць. О, мерзасць! О, жалкая трусасць…

… Сёння ў нас аднаму зрабілі выгавар, а другога звольнілі за нежаданне вучыць мову…

Вучыць… Што гэта за вучэнне?

Помню — я малы вучыўся. Не ведаеш, бывала, лекцыі — табе вушы надзяруць або на калені на гарох паставяць, а то і зусім без абеда пакінуць. Во гэта лінія, хоць і жорсткая крыху, але вучыліся. А цяпер што? Ні без абеду нікога не пакідаюць і пенсію ўсім спраўна

даюць. На мой погляд, гэта гвалт. Навошта таміць чалавека? Навошта мэнчыць яго вучобай пяць гадоў? Ежэлі трэба вучыцца, то трэба гэту вучобу праводзіць з рэвалюцыйнай цвёрдасцю, без паблажак, тым пачэ ў адносінах да «великовозрастных».

... Безабразія. Здзек. Паход супроць спецаў. Так, паход. Інакш я не магу назваць таго, аб чым расказаў мне калега, прыехаўшы з правінцыі. Вось што ён апавядаў.

«Быў у нас экзамен па беларускай мове (гэта ў Чавусах). Прыехаў прадстаўнік акруговай нацыянальнай камісіі, паглядзеў, пакруціў носам, панюхаў і знайшоў, што ў нас «Русью пахнет»: установы прапускалі свае «канчатковыя тэрміны» і не беларусізаваліся.

Потым нас сабралі на экзамен. Першага, канешна, старшыню выклікалі.

— Ну, як Вы наконт мовы? — пытаюць.

А старшыня ў нас хлапец смелы, адчаяны.

— Ніяк, — кажа, — нуль стаўце.

Праўда, нуля яму не паставілі, сорамна было, едзініцу ўпісалі.

За старшынёй пайшоў яго намеснік. Той пачаў нешта пыкаць наконт таго, што часу няма, што перагружаны і г. д. Яму таксама едзініцу ўпісалі. Тое самае было з ляснічым, страхагентам і з іншымі адказнымі. Усё гэта, разумеецца, нармальна. Але вось слухай, што далей было. Слухай і абурайся. Пасля праверкі адбылося пасяджэнне прэзідыуму РВК. І што ж ты думаеш? На прэзідыуме пастанавілі: «страхагента зняць з пасады за няведанне белмовы», а ляснічаму за гэта самае зрабілі выгавар.

— А старшыні што? — пытаюся я.

— А старшыні — нічога.

— Як так нічога? Чаму яго з пасады не знялі?

— Чудак, — кажа мой калега, — ён жа начальнік, сам знімае.

— Ну?

— Ды як жа ён сам сябе зніме?

— А другія вышэйшыя?

— А тыя таксама не ведаюць.

— А яшчэ вышэйшыя?

— Таксама.

Я змоўк. Змоўк і мой правінцыяльны калега. Мы апусцілі галовы і думалі: «Чаму так пабудаваны свет, што начальству можна, а спецу нельга, і чаму начальства змушае спецаў рабіць тое, чаго само не хоча»...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Малайцы наркамземаўскія спецы. Героі! Сёння ў «Венгржэцкага» выпівалі. Колькі смеху было, калі пасля другой чаркі перайшлі да абгаварэння пытання дню: гэтай самай беларусізацыі. Смяяліся, аж жываты балелі.

Адзін расказаў, як ён ужыў у нейкай адносіне адно беларускае слова і так лоўка, што ніхто не мог разабраць адносіны. Другі хваліўся, што ён разлажыў на лапаткі аднаго беларускага шавіністага. З аднаго лозунгу ўзяў такое беларускае слова, што той ніяк не мог растлумачыць.

— Вось вам, — кажа, — беларуская мова, самі не разумееце.

А трэці, што быў у зялёнай шапцы са значком у вакольшшку (відаць, лесавод), дык проста — Аляксандар Макендонскі. Той смела, перад усёй кампаніяй заявіў: «А я так совсем отказался изучать эту мову».

Мы вушам сваім не верылі. У лесавода і такая смеласць. Мы з радасцю прынялі гэту заяву і з энтузіязмам канстатавалі, што «не перавяліся яшчэ багатыры на святой Русі»...

...Цыркулююць чуткі, што летам канчаюцца ўсе тэрміны беларусізацыі. Гэта, канешне, усё адны пустыя гутаркі. Але чорт яго ведае — часам гавораць, гавораць і нагавораць. Пагэтаму я сёння ўзяўся за «Савецкую Беларусь» і чытаў яе ў парадку беларусізацыі цэлую гадзіну. Думаў, што галава разбаліцца, аж нічога. Наадварот, нават настрой узняўся. Справа ў тым, што я вычытаў прыемныя навіны аб выніках экзамену па беларусізацыі Менскіх акруговых аддзелаў.

Красата, а не вынікі. І ўсё нашы спецы. Ніводзін не хоча беларусізавацца. Усе працуюць на «общепонятном». Стойкія рабяты, люблю за гэта. А што наконт канчатковай беларусізацыі летам, дык зноў жа абсурд. У Менскіх акруговых установах добра ведаюць беларускую мову толькі 4 проц. усіх работнікаў.

Гэта — за пяць гадоў беларусізацыі. Калі ў такой прагрэсіі будзе ісці далей, дык усе 100 проц. будуць ведаць беларускую мову праз 125 гадоў. Во! А кажуць — летам канчаткова. Запужваюць, а нам не страшна, патаму мы лічбамі аперыруем...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Сёння гаварыў я з адным беларускім шавіністым. Стаіць бядак на рагу Ленінскай і Савецкай і плюецца.

— З выпадку чаго плюяцеся? — пытаюся па-беларуску.

— Чытайце, — кажа, — лозунг.

Чытаю: «Больш актыўнасці ў абгаварэнні працы свай час савета».

— Хэ, хэ, — кажу, — па-беларуску ж…

— Па-беларуску… (Тут шавіністы моцна вылаяўся). За гэткае «па-беларуску» вешаць трэба.

Шавіністы патрос кулаком некуды ў паветра і пайшоў спяваючы: «Смяюцца над намі»…

А я стаяў і смяяўся… Весела і смешна, калі беларускі шавіністы злуецца…

## ТАВАРЫШ МЫТНІЦА

Такога «таварыша» шукала слуцкая пошта. Атрымала яна аднойчы пакет. Пакет як пакет. Самы звычайны. А на ім адрас: «Слуцак, Мытніца».

Доўга сапелі над пакетам паштавікі.

— Што за трасца такая, Мытніца? Хто ведае Мытніцу?

Ведаючых на пошце не знайшлося.

— Куды ж паслаць, урэшце, пакет?

Рашылі перадаць пакет паштальёну:

— Ён «соприкасается с массами», далжон ведаць.

«Соприкасающийся с массами» таксама доўгі час круціў пакет у руках, узіраўся на яго, як на новыя вароты, і нарэшце сцяміў:

— Мытніца? Няйначай нехта прыезджы, бо дасюль такога не чуваць было ў Слуцку.

І пайшоў па гораду шукаць прыезджага тав. Мытніцу. Абегаў горад, апытаў усіх слуцкіх старажылаў пра таварыша Мытніцу — няма такога, дый годзе. Як у ваду кануў чалавек.

— А мусіць быць, трасца на яго, навошта ж тады б пісалі: «Слуцак, Мытніца»?

У першы дзень не знайшоў. На другі дзень ужо сёмы пот мяняў паштальён, шукаючы тав. Мытніцу, калі, на шчасце, адзін добры чалавек параіў:

— Наезджы, кажаш? Дык пры, брат, па ўстановах. Наезджыя — яны больш па ўстановах.

Пайшоў і па ўстановах. У адну сунуўся — няма Мытніцы, у другую — і не было ніколі такога. І толькі ў трэцяй дабіўся толку.

— Мытніца? Гэта ж тое самае, што таможня, — растлумачылі. — Нясі ў таможню…

Разінуў рот паштавік ад здзіўлення: шукаў чалавека, а знайшоў установу. Сплюнуў і вылаяўся:

— Нясі, каб цябе зямля не насіла. Другі дзень ужо нясу і ніяк не данясу.

Хто вінаваты ў гэтым? Не мытніца, разумеецца. Вінавата тут тое, што слуцкія паштавікі лічылі сябе заграмнічнымі.

Калі адчынілі на пошце курсы беларусазнаўства, то некаторыя ўзнялі бузу:

— Нашто нам беларуская мова, якая карысьць — галаву забіваць толькі.

Больш салідныя экзэмпляры, зубры, так сказаць, канцылярскія, прабавалі і канкрэтна паставіць пытанне адносна карысці:

— Раней нам давалі прыбавачку за вывучэнне якой-небудзь чужаземнай мовы. А цяпер дадуць ці не?

Напісалі яны аб гэтай прыбавачцы і заяву ў адпаведнае месца. І калі давалі на подпіс служачым, дык толькі стораж адмовіўся:

— Я, кажа, і так граматны. А прыбаўкі вам усё роўна не дадуць.

— Чаму не дадуць?

— Ды не дадуць, — кажа. — Лепш і не таргуйцеся, бо ні капейкі не дадуць.

— А раней давалі.

— Ну, раней, можа, і давалі, а цяпер у Беларусі, кажуць, беларуская мова ўжо не чужаземная, і курс у гэтым пытанні цвёрды: «За чыім сталом сядзіш, таму і песні пей». А калі вам гэта не па носе, дык у вас ёсць два выхады: ці вы асіліце беларускую мову, ці яна вас асіліць.

Не паслухаліся паштавікі стоража і заяву падалі.

Кажуць, што ім чамусь адмовілі ў прыбавачцы за вывучэнне беларускай мовы. Рэзалюцыя на заяве ясна гаварыла: «Отказать».

А шкада. Няхай бы трохі людзі падвучыліся. І лісты можа б хутчэй прыходзілі, і мытніцу ведалі б, ды наогул, можа б трохі паразумнелі.

## «ОСВОБОДИТЕЛИ»

*(трагедыя чыноўніцкай душы)*

За Грыгорыем Якавічам яго саслужыўцы пачалі прыкмячаць штосьць несуразнае. Быў чалавек як чалавек і раптам — задумаўся. Прыйдзе ў аддзел, нават не скажа звычайнага «здравствуйте» і сядзе моўчкі за

стол. Адложа на шчотах костачку — і задумаецца, адложа другую — і падапрэ галаву рукой...

— Нешта са Шпакам дзеецца, — шапталіся па кутках служачыя.

— Няйначай, як растраціў, — казалі адны.

— Не, факт, што закахаўся, — рашалі машыністкі.

— Госпо... граждане, — тлумачыў стары чыноўнік, — гэта ўсё ад беларусізацыі!..

Нават старажыха — і тая заўважыла штось ненармальнае:

— Звіхнуліся наш Грыгоры Якавіч, — казала яна кур'еру. — То-та бацька, айцец благачынны, слёзак пралье.

Рашылі служачыя па-прыяцельску выпытаць у Грыгорыя Якавіча, што за навала такая навісла на яго светлай душы:

— Ды вы адкрыйцеся, Грыгоры Якавіч, што вас мучае.

Але Грыгоры Якавіч не хацеў «адкрыцца»:

— Так, — кажа, — жывот нешта сапсуўся... Мусіць, ад ватрушак, што ўчора нанач з'еў.

— А вы б рыцыны выпілі з паўшклянкі — памагае, — раіў бухгальтар.

— Самае лепшае, вы клізмачку пастаўце, абавязкова клізмачку, — угаворваў стары чыноўнік...

Так цягнулася тыдні два. Нарэшце Грыгоры Якавіч «адкрыўся» свайму найлепшаму прыяцелю і аднадумцу Акакію Павуку, таксама духоўнага звання. Здарылася гэта зусім выпадкова. Грыгоры Шпак і Акакі Павук ішлі каля Спаса-Ефрасініеўскага сабору і толькі хацелі паражагнацца на святы храм, аж тут з-за вугла — тыц нейкі беларус.

— Цьфу, душу тваю ў ад, — вылаяўся Шпак, — і тут «яны». Перажагнацца спакойна не дадуць... Не, так далей не можна. Іх штодня плодзіцца ўсё больш і больш, а мы маўчым...

— Даволі! — урачыста выкрыкнуў Шпак і так моцна стукнуў нагой па таламу снегу, што аж брызгі паляцелі. — Я пачну! Я павяду!.. Я буду прадаўжаць!..

І Грыгоры Якавіч Шпак, служачы акрфінаддзелу, стаў прадаўжаць вялікую справу, пачатую Пшчолкам, справу вызвалення праваслаўнай Полацкай Русі ад беларускага іга.

* * *

Марозная раніца. Снег назойліва скуліць пад палазамі і сваім скрыпам наганяе на сэрца нуду. У санях двое. Спераду, уціснуўшыся ў салому, скорчыўшыся ад холаду, прытуліўся возчык Сымон... Ззаду,

на сядзенні, схаваўшы галаву ў каўнер заячай шубы, асеў Грыгоры Якавіч, тав. Шпак.

Тав. Шпак едзе ў м. Вулу па службовай камандыроўцы і зараз абдумвае план свайго выступлення перад вульскімі масамі з мэтаю растлумачэння ім сутнасці беларускай мовы.

«Мова — дрэнь, канешне, — думае Шпак, — але як аб гэтым сказаць. Сказаць, што яе няма, — ужо старо. Пшчолка аб гэтым сказаў, ды цяпер ніхто і не паверыць, сказаць, што «дубовый язык», — таксама ўжо гаварылі, «китайский язык» — таксама не адзін казаў. Што ж бы такое надумаць?» Тав. Шпак думаў…

Між тым конь, перад выездам падкормлены аўсом, у гэтым месцы думак Шпака памахаў хвастом, і… белы снег успрыняў чорныя сляды.

— Вось і «яны» так на нас, — заварушылася ў галаве Шпака, — бяз сораму… Стой! Ёсць! — выкрыкнуў раптам Шпак і аж падскочыў у санях. — Ёсць! Ёсць!.. Конскага роду.

Фурман спалохаўся, стрымаў каня і рыхтаваўся ўжо выскачыць з саней.

— Ну, чаго стаў? — спахваціўся Шпак. — Паганяй жывотнае.

Конь крануўся, а тав. Шпак развіваў далей раптоўна ўскочыўшую ў яго галаву думку. «Так, так… конскага роду, лашадзіны язык… Так…»

* * *

Вульскі Нардом з выпадку прыезду прадстаўніка акруговага цэнтру быў перапоўнены да адказу. Усіх цікавіла, што скажа цэнтральная асоба аб беларускай мове.

Сход адчыніўся хутка. Наспех пагаварылі аб тым, аб другім, і ўрэшце на сцэну выйшаў тав. Шпак. Зала заціхла. Шпак паправіў каўнер пінжака, выцер хустачкай нос і пачаў «лекцыю».

— Грамадзяне! Нам трэба вырашыць, што такое беларуская мова наогул і адкуль яна пайшла як такавая. Гэта, грамадзяне, разумець трэба. Нельга так браць, з наскоку: «мова», «язык». А што такое мова, адкуль яна пайшла, з каго? Вось аб чым гаварыць трэба. Напрыклад, беларусы. Вы думаеце, якога яны роду, адкуль яны пайшлі, ад Авеля? Не, мыляецеся, я, прадстаўнік з цэнтру, гавару вам: беларусы — конскага роду.

Грамадзяне пераглянуліся, некаторыя хіхікнулі, але слухалі далей: як-ніяк прадстаўнік з цэнтру.

— А што знача конскага роду? — пытаўся Шпак. — А тое і знача, што і язык у іх лашадзіны.

Тут нехта з кута запусціў у прамоўцу гнілым яблыкам, а на задніх лаўках хтось заіржаў: «І-го-го-го…»

— Вось, чуеце?..

Грамадзяне трохі здрэйфілі, ■ некаторыя да дзвярэй паціснулі.

— Так, грамадзяне, лашадзіны язык, ён жа паходзе…

— І-го-го-го, і-го-го-го, — разам з некалькіх куткоў перапынілі прамоўцу, і ў яго пасыпаўся град агрызкаў, а нехта запусціў старой калошай. У зале стала весела.

— Бі яго, — крыкнуў хтось з задніх радоў.

А тав. Шпак нічога не чуў. Узбударажаны, чырвоны ад злосці, ён, сціснуўшы кулак, крычаў:

— Лошадиный, лошадиный, несознательные лошади…

Грамада прыціхла. Неяк разам усе заўважылі, што чалавек гавора не ўсур'ёз і разам з тым з сур'ёзным відам…

— Бедны, — дагадалася ўрэшце цётка Марцэля, — гэта ж ён звар'яцеў, а мы смяемся.

— Я гэта яшчэ ў дарозе заўважыў, — заявіў возчык Сымон, — але не хацеў казаць, думаў, што на яго так сабе часам находзе.

Усім зрабілася нялоўка. Грамадзяне пачалі моўчкі разыходзіцца, а два крэпкія хлапцы трымалі Шпака за рукі, каб ён у прыпадку хваробы не пакалечыў сябе.

* * *

Зноў скрыпеў снег пад палазамі. Возчык Сымон вёз у горад тав. Шпака.

Грыгоры Якавіч прыціснуўся ў задку саней, панура схіліў галаву і мармытаў пасінеўшымі вуснамі: «Не зразумелі, не зразумелі, лошадзі, а я спадзяваўся… У-у-у, лошадзі!» — крыкнуў ён са злосці.

Возчык Сымон, як заўважыў, што яго яздок звар'яцеў на «конскім языку», стараўся папасці хвораму ў тон і супакойваў:

— А вы, таварыш начальнік, пачнеце з другога канца. Конь, вядома, жывёліна, у яе ёсць і галава, і хвост. Вось з галавы не выйшла, дык вы з хваста папрабуйце, можа, што і выйдзе…

У горадзе вестка аб вар'яцтве Шпака маланкай абляцела ўсіх саўслужачых. У акрфінаддзеле саслужыўцы зноў шкадавалі Грыгорыя Якавіча:

— Бедны, яшчэ думаў к Вялікадню штаны новыя сшыць… Пашый цяпер…

— I з чаго б такое найшло на чалавека, — дзівіліся рахункаводы.

— Гэта ў іх ад прыроды, — тлумачыла старажыха.

— Вось яна, беларусізацыя, дзе сказваецца, — шаптаў стары чыноўнік.

Ва ўсім горадзе толькі адзін чалавек ведаў аб сапраўдным становішчы рэчаў. Гэты чалавек — Акакі Павук. Але ён маўчаў. I ў апошнія часы, кажуць, стаў і ён задумвацца… I хто знае, можа, праз некаторы час і ён выступіць на змену Шпака за «великое дело вызволения Полоцкой Руси».

Хто ведае? Ібо полацкая душа багата пацёмкамі і не менш багата Полаччына «освободителями».

## КАРЧЫ НА ДАРОЗЕ

### «Рэвізор»

Слабы зараз народ пайшоў, бяда, які слабы ў сэнсе галавы. Вып'е чарку, а ў галаве ўсё роўна, як у кааперацыйнай касе… Узяць, напрыклад, гр-на А. Сасноўскага. Гэта ж, можна сказаць, і дзяцюк не абы-які — фігура, старшыня рэвкамісіі Грэскага спажывецкага т-ва. А слабы, дык нераўнуючы, як крэсла пад загадчыкам саліднай гаспадарчай установы…

Паехаў ён аднойчы рэвізію рабіць у аддзяленне т-ва ў Вынісцах. Па дарозе, разумеецца, выпіў. Прыехаўшы на мейсца, загадаў склікаць крамную камісію і аднаго пайшчыка, адчыніць краму і наогул усё падрыхтаваць да рэвізіі. Калі загад быў выкананы, «рэвізор» зрабіў сур'ёзную міну, а потым раптам зарагатаў:

— Зачыняй краму, дурні, ніякіх рэвізіяў не будзе. Гэта я вас напужаў.

Сказаў так, сеў і паехаў дахаты.

Ну ці ж так «пужаюць», грамадзянін рэвізор? Думаеце, выніцкія кааператары спужаліся вас? А можа, у іх краме ў гэту пару якраз усё ў парадку было — адкуль вы ведаеце!

Зусім бы другая рэч была, каб вы, напрыклад, чырканулі запалку ды ціханька кідзель яе ў бочку з газай, што стаіць у куце крамы. А потым на ўвесь голас: «Пажар! Ратуйся!» Во тады напужалі б, і не адных кааператараў, а ўсю вёску.

А то найшлі, чым палохаць: «Рэвізію рабіць буду». Фэ! Проста сорамна за вас. Такую, можна сказаць, паважную пасаду займае чалавек, а палохаць не ўмее...

Не, так не гадзіцца, дзядзя. Вучыцеся, развівайцеся, чытайце штонебудзь. «Рэвізора» Гогаля, напрыклад. Вось гэта дык рэвізор. Той, браце, такога страху ўмеў нагнаць на людзей, што падлога жаўцела каля іх. Спрабуйце пачытаць «Рэвізора», можа, вы ад яго што-небудзь і пярэймеце. А пакуль што якое — мая вам парада, дзядзька: кіньце піць, а то ўсё роўна нічога на выхадзе. Згадзіцеся самі: за паўгода патрачана на рэвізіі 65 р. 50 к., ■ вы не здолелі нават кааператураў напалохаць. Выходзе, што зра толькі гарэлку глуміце. Кіньце піць у часе рэвізій.

## «Ініцыятыва»

Што ёсць чалавек без ініцыятывы? Нуль, труха. Пустое мейсца ў грамадскім арганізме, як казаў мне адзін член некалькіх камітэтаў. Асабліва ў нашу пару аднаўленчага перыяду, калі ініцыятыва цэніцца на вагу золата, калі яна патрэбна не толькі на сходзе прафсаюзу, ■ нават і на сходзе ячэйкі НАП, у гэту, кажу, пару чалавек без ініцыятывы не чалавек, а можна сказаць, адзін пашпарт.

Вартасць ініцыятывы для нашае эпохі добра зразумелі ляденскія аграномы. Ёсць у іх б. маёнтку Копанек аграпункт. Аграпункт як аграпункт, нічога ён ні асабліва добрага, ні асабліва дрэннага сялянам не даваў. Але ў апошнія часы аграпункт нечакана для сябе зрабіў значнае дасягненне: ён ліквідаваў лішнюю маёмасць, за якую атрымаў 1650 р.

Такое здарэнне і выклікала на сцэну гэту самую «ініцыятыву». Перад аграномамі паўстала пытанне: куды дзяваць грошы. Звычайны аграном, той бы што — ён патраціў гэтыя грошы на абсталяванне аграпункту, на машыны там розныя, на прыладу, наогул, зрабіў бы па-звычайнаму. Аграном жа з «ініцыятывай» — гэта ўжо штось зусім іншае. А дзеля таго што ляденскія аграномы мальцы з ініцыятывай, то рашылі яны выкарыстаць грошы не як звычайна робіцца, а пасвойму, больш рацыянальна, з перспектывамі...

Селі яны аднаго разу, шлёпнулі мазгамі раз, шлёпнулі два — і ёсць план: «аграпункт перанесці ў другое месца на Усвяты» (гэта за паўтары вярсты ад Капанек), і каштарыс уклалі на гэту рэч у суме 1280 руб., які і падалі ў РВК на зацверджанне.

Хадзілі чуткі, што РВК спачатку нешта ўпіраўся: зацвердзіць каштарыс ці не, але як прачытаў довады ў карысць перанясення аграпункту, то хутка згадзіўся.

А ў гэтых довадах, ізноў жа хадзілі чуткі, аграномы зазначалі, што «аграмія — такая рэч, якая не можа сядзець на адным месцы», што «яна павінна ісці ў масы», што «яна наогул павінна рухацца» і г. д.

— Ну, раз яна патрабуе руху, то няхай і рухаецца сабе на здароўе, — рашыў РВК, абы карысць была, і каштарыс зацвердзіў. І вось зараз аграпункт будуць перастаўляць з аднаго на другое месца, за паўтары вярсты.

Аграномы гэтым вельмі задаволены. Аж скочуць ад радасці.

Што датычыць сялян, то яны чамусь, наадварот, вельмі незадаволеныя.

— Грошы толькі на вецер пускаюць, — лаюцца яны. — Багатыры… Што, табе не ўсё роўна, дзе працаваць? Працуй толькі добра, не корчы лодара, дык усюды гэтыя самыя «перспектывы» будуць…

— І сам сыт будзеш, — дадавалі другія.

Ну але ці ж сяляне разумеюць «шырокія перспектывы». Яны нават не ведаюць, што робіцца ў іх карысць, а што не ў іх. Што ж іх слухаць пасля гэтага? А што не здаволены, дык нічога не зробіш — усім не дагодзіш. Бо ежэлі яны зараз не здаволены, то што ж будзе, калі аграномы праз некаторы час захочуць перавесці аграпункт на паўвярсты ад Усвятаў у другое месца (у іх жа асталося яшчэ 370 руб. беспрытульных грошы, роўна на паўвярсты). А лядненскія аграномы могуць захацець гэтага. Бо мальцы, кажу, з ініцыятывай. А чаго не выдумае чалавек з ініцыятывай.

## «Сложение перстов»

У вёсцы поп з дзякам не памірыліся за калядныя ахвяраванні. Поп, нешта такое, здорава пакрыўдзіў дзяка на кілбасах. Дзяк, разумеецца, раззлаваўся і ў часе спрэчкі ткнуў папу фігу ў самы нос.

— На табе, — кажа, — кудлатая абразіна.

Абразіўся поп і сеў пісаць на дзяка данос. Але як назваць гэтую справу, поп не ведаў. Напісаць «даў фігу» боязна, каб не абразіць сваё начальства, напісаць «атрымаў» для сябе нялоўка. Нарэшце выдумаў і напісаў: «Дело о сложении перстов с воткнутием между ними одного, с присовокуплением: на-ко, выкуси». Вышла далікатна і разам з гэтым зразумела, што дзяк даў фігу.

Па сваёй далікатнасці да гэтага папа падобен ляснічы Грудзінскага л-ва. Гэты ляснічы паказаў сялянам в. Усушкі фігу, але так далікатна, што яны нават і не зразумелі, што гэта фіга.

Сяляне гэтай вёскі ў 23 годзе памяняліся з лясніцтвам зямлёй. Кавалак вясковай зямлі ў 130 дзес., які ляжыць воддаль вёскі, у часы вайны быў закінуты і парос кустамі, а тут блізка зямля лясніцтва менш заросшая. Сяляне і прапанавалі лясніцтву:

— Вам усё роўна, дзе лес гадаваць, давайце памяняемся.

— Давайце, — згадзілася лясніцтва.

Памяняліся, але лясніцтва дало сялянам толькі 104 дзес. Выкарчавалі сяляне гэтую зямлю, распахалі і ў 25 г. агледзіліся, што лясніцтва ім не дадало зямлі..Выбралі яны ўпаўнаважанага, каб той выклапатаў каморніка абмерыць зямлю, абмежаваць, наогул упарадкаваць і нават слуп паставіць, каб відаць была іх зямля.

Сабраў упаўнаважаны ўсе паперы аб гэтай справе — і ў інспекцыю лясоў. Там узялі паперы, пералісталі і адаслалі ўпаўнаважанага ў лясніцтва.

— Там разбяруць.

Прыйшоў праз некаторы час упаўнаважаны да ляснічага даведацца аб сваёй справе, а той і паднёс вёсцы далікатненька фігу.

— Зямельку захацелі адмежаваць, — смяецца ляснічы, — «нако, выкуси», — і ён як чалавек далікатны фігі хоць і не даў, але «прысовокупіл», якраз як фігу даўшы.

— Ніякіх адмежаванняў. Давайце адмяняемся зямлёй назад. Во!

Ці ж гэта не фіга далікатна паднесеная? Прапанаваць сялянам адмяняцца зямлёй, на якую яны столькі працы палажылі па выкарчоўцы, на зямлю, зноў заросшую лесам, гэта ўжо фіга, і я б сказаў, нават не зусім далікатная. Да такога «сложения перстов» і да таго «прысовокупленія», мне здаецца, нават не кожны поп дадумаецца.

## КРУГАВАЯ ПОШТА

*Жарт у 12 дзеях і на 5-ці лістах*

8-га студзеня 1927 году рэдакцыя газ. «Сав. Беларусь» атрымала паштоўку такога зместу:

*«Паважаная рэдакцыя. Лічу неабходным давесці да Вашага ведама, што выпісаная намі газета «Савецкая Беларусь» калектыўна ў крэдыт з 1 студзеня атрымліваецца служачымі вельмі неакурат-*

*на. Так, напрыклад, 7 студзеня замест 18 газет служачыя РВК атрымалі толькі чалавек 8 (?!); 6 студзеня быў недахоп 4 газет, і гэтак кожны дзень. Просьба прыняць рашучыя меры к выяўленню прычын недахопу газеты, бо калі гэта не будзе зроблена, то мясцкомам будзе ўтвораны акт і прыйдзецца адмовіцца ад гэтай падпіскі. Упаўнаважаны служачых Пухавіцкага РВК (подпіс)».*

У гэты ж дзень заг. канторы «Сав. Бел.» прачытаў паштоўку і стукнуў кулаком па сталу:

— Г-а-а?! Іш!.. Трасцу ў бок! — і налажыў на паштоўцы рэзалюцыю: «*Сакратару канторы. Спраўку, як газеты пасылаюцца: у адзін адрас ці паасобку*».

11-га студзеня кантора «С. Б.» выпусціла са свайго «ісхадзяшчага» за № 24 такую адносіну: «*Менскай паштова-тэл. канторы. Далучаючы да гэтага і г. д.... просіць тэрмінова выявіць прычыны неакуратнай дастаўкі нашае газеты па мясцох. Аб выніках нас паведаміць*».

12-га студзеня дзве сшытыя булаўкай паперкі былі прыціснуты ў менскай паштова-тэл. канторы штампам: Мінск п-т. вх. № 893.

14-га студзеня рука паштовага служачага, які, відаць, неакуратна наведвае курсы па ліквідацыі няграматнасці, вывела на верхняй паперцы чорным фаберам: «*Рудзенску газеты высылаюцца сваячасова и поўнасцю*».

17-га студзеня да дзвюх паперак зверху была прышыта трэцяя за № 1189, на якой значылася: «*О. З. Рудзенск. Для прыняцця належных мер і паведамлення аб выніках расследавання. П. К. (подпіс). Д. (подпіс)*».

26-га студзеня 3 паперкі ў Рудзенску былі прыкрыты чацвёртай за № 150, якая лаканічна паведамляла: «*Гэта перапіска перасылаецца А. З. Мар'іна Горка па прыналежнасці. О. З. (подпіс)*».

27-га студзеня паведамленне рудзенскага О. З. упрыгожылася сінімі ўкоснымі радкамі Мар'інагорскай інстанцыі: «*Паведоміць, што Мар. Горка ўсе газеты, якія толькі пошта атрымліўае, дастаўляя свае часоўа. (подпіс)*».

27-га студзеня на адвароце чацвёртае паперкі хімічным чарнілам Рудзенскі О. З. вывеў: «*Зварачая гэту перапіску К. З. Менск, паведамляю, што па наведзеным мною даведкам у Пухавіцкім райвыканкаме газеты працаўнікі атрымліваюць акуратна, але бываюць таксама такія выпадкі, калі газеты не ўсім прысылаюцца, як гэта і было сягоння, што 2 чалавека не палучылі, а астатнім было. Паколькі гэтыя газеты ідуць з наклейкамі, пастолькі і рэгуляваць выдачу немагчыма*

*(?). Патрэбна гэта рэгулёўка з цэнтра, бо на месяцы затрымліваецца газета не будзе, калі правідловы адрас, і калі яна прыдзе».*

28-га студзеня Менская паштова-тэлеграфічная кантора прыціснула сваім штампам ужо чатыры сшытыя паперкі і закрасаваўся на верхняй з іх № 2334.

2-га лютага ў паштовай канторы была прышыта апошняя, пятая паперка, за № 2349, якая зусім коратка казала: «*Канторы газ. «Савецкая Беларусь» для ведама. Нам. заг. канторы (подпіс)*».

3-га лютага кантора «С. Б.» атрымала ўсе 5 паперак — загадчык канторы прачытаў акуратна ўсе паперкі і на гэты раз стукнуў кулаком па сталу два разы:

— Трасца ва ўсе бакі!

* * *

Ну чым не кругавая наша пошта? Гэта ж калі ёсць жаданне, дык кружы, мілы чалавек, хоць усё жыццё… Вось цяпер, скажам, кантора «Сав. Беларусі», што яна адкажа пухавіцкім райвыканкамаўцам? Памойму, дык яна адкажа так: «*Па наведзеных намі спраўках, вы газету атрымліваеце акуратна*».

А так як пухавіцкія райвыканкамаўцы з 18 экз. газеты атрымліваюць часамі ўсяго восем, то яны адкажуць, зусім рэзонна: «*Тав. рэдакцыя, што вы здзекуецеся з нас ці што?*»

Тады к-ра «С. Б.» гэты матэрыял накіруе ў Менскую паштова-тэл. кантору з просьбай «тэрмінова выявіць».

Пашт.-тэл. кантора накіруе перапіску на двух лістах у Рудзенск.

Рудзенск перашле яе ў Мар'іну Горку.

Мар'іна Горка «навядзе даведкі» і адпіша ў Менск, што «газета атрымліваецца акуратна», але бываюць выпадкі, у якіх вінават цэнтр, і што «трэба рэгуляваць у цэнтры».

Перапіска на 5 лістох вернецца ў цэнтр. Вось і круг.

Накружыў адзін — валяй, круці другі. А там трэці, чацвёрты і г. д.

Наогул, можна кружыць колькі хочаш, пакуль хопіць цярплівасці ў пухавіцкіх райвыканкамаўцаў. А калі лопне ў іх цярплівасць, яны ўтвораць акт і адмовяцца ад падпіскі — з другімі падпісчыкамі звяжыся. Была б толькі кругавая пошта, а нездаволены падпісчык знойдзецца.. Не гаруй, газета!

# ЮБІЛЕІ

*З запісной кніжкі супрацоўніка «СБ»*

1921 год, студзень. Учора есці хацелася, сёння есці хочацца і заўтра будзе хацецца. А тут яшчэ і рэдактар у вочы лезе.

— Ну што гэта, братка, за праца, — кажа, — «глава французскага правительства» ты пераклаў «галава… ураду». Ці ж гэта так можна. Галава — дык гэта тое, чым звычайна тулава зверху канчаецца, а «глава правительства» гэта ўжо будзе старшыня.

— Ды гэта не мае значэння, — не здаюся я рэдактару, — і глава, і галава — усё гэта дрэнь. Галоўнае ў чалавека, — кажу, — жывот. Калі ён пусты, дык і ў галаве не дужа поўна будзе.

На гэта рэдактар нічога не адказаў і хутчэй сігануў у суседні пакой, дзе была яго «кватэра».

Праз гадзіну выйшаў рэдактар. Ён здаволена паціраў правай рукой, якая трымала чарговы «перадавы», жывот, дзе нежнымі пералівамі булькаў булён з воблай, і на нас ён пазіраў ужо зусім лагодна.

— Вось што, хлопцы, — звярнуўся ён да нас, — гэта ж заўтра ў нас першая сотня. Сто нумароў выпусцілі першай штодзённай беларускай газеты. Гэта, хлопцы, дасягненне адзначыць трэба.

— Падумаеш, дасягненне, — перабіў рэдактара самы працаздольны наш перакладчык (12000 радкоў у месяц выганяў), — дасягненне сто нумароў. Каб сто фунтаў мукі дасталі, то гэта б было дасягненне, а то нумары… навошта яны каму.

— У цябе ўсё мука ў галаве, — упікнуў яго рэдактар, — а аб справе дык ты і не думаеш.

Тут ужо другі перакладчык не вытрымаў.

— Добра вам казаць аб справе, — пад'ехаў ён, — калі вы булёну з воблай наеліся. А ў нас жываты, як сабакі, вурчаць.

— А вы іх тужэй падперажэце — вурчэць не будуць, — параіў рэдактар…

Падперазалі — лягчэй не стала…

Працу скончылі рана. Падлічыў напісаныя радкі і выйшла, што я «выгнаў» 500 радкоў, гэта блізка на трыста рублёў. А калі перавёў гэты заробак на воблу, са здавальненнем адзначыў, што будзе фунт воблы.. Павесялеў.

1922 год. Май. Сёння прыйшоў у рэдакцыю рана, бо трэба было напісаць аб хітрыках капіталістаў на Генуэзскай канферэнцыі. Пісаў

доўга, выйшаў вялікі і грозны артыкул, і калі б яго капіталісты прачыталі, яны б, напэўна, спалохаліся. Каля 11-й гадзіны сабраўся ўвесь склад рэдакцыі (5 чалавек разам з рэдактарам). Перад працай горача абгаварылі ўчарайшае здарэнне, якое чуць не выбіла нас з месячнага бюджэту.

— Падумаць толькі — 40 мільёнаў згубіць. Гэта ж жах. 40 мільёнаў! — гарачыўся самы працаздольны перакладчык. — Гэта колькі тысяч радкоў трэба на гэтых 40 мільёнаў?

— Ну і глупства, — бараніўся сакратар, які ўчора, несучы з «контрагенцтва» пенсію, згубіў з парванага мяшка 2 фунты грошы. — Не нашлі б, — казаў ён, — дык што? Дні два пагаладалі б — вось і ўсе 40 мільёнаў…

Працу распачалі весела, бо ў канцы працы абяцалі выплаціць «ганарар».

Пісаў я аб «забранні каштоўнасцяў» і аб змаганні з голадам. У друк не пайшло. Я з роспачы ўзяў сённяшнюю газету і тут угледзіў, што мы ўжо выпусцілі роўна 500 нумароў.

Усе мы здзівіліся, што не заўважылі гэтага раней (ды і ніхто не заўважыў). Стала крыху нялоўка, але толькі на адзін момант. Мы хутка накіравалі нашага ўсёведаючага хранікёра па ўстановах, каб тыя так ці інакш адзначылі юбілей. Хранікёр дарма не хадзіў: к вечару мы мелі «павіншаванне» з юбілеем — па фунту цукру, па 2 фунты мукі і па фунту газы… Працоўны дзень скончыўся добра…

Калі пасля працы падлічыў радкі, то аказалася, што я зарабіў 600 000 руб. Во!

1924 год. Студзень. Але мне ўжо не холадна. Часта грэемся…

Пазаўчора начытаўся ўкраінскіх газет аб украінізацыі і рашыў, што можна і ў нашых газетах пісаць, скажам, аб беларусізацыі. Рашыў і напісаў. Але рэдактар забракаваў.

— Тэма, — кажа, — нецікавая, пішы лепш аб выбрыках Цанкова ці аб удасканаленні працы лігі «час». Але я не пісаў: не было настрою пісаць пра лігу «час» пасля ўчарайшага свята. А свята было — вялікае: спраўлялі юбілей 1000-га нумару газеты. А свята было — вой-вой! І мы віталі. І нас віталі. На 8 старонак нумар выпусцілі.

А ўвечары ўрачыстае пасяджэнне было, а пасля яго, як водзіцца, таварыская вячэра. За вячэрай гаварылі аб тым, што «ўжо даволі», што «мы ўжо сталі на шлях», што «трэба замацоўваць», успаміналі ўсякія такія «рагаткі» і інш., і інш.

Не абышлося, канешна, і без «вясёлых момантаў». Адзін тэхнічны персанал «з'ездзіў» другому тэхнічнаму персаналу. Казалі, што за селядзец пасварыліся. А наш супрацоўнік замежнага аддзелу казаў па гэтаму поваду, што «дзе яшчэ ценка, там і рвецца».

А ўвогуле было весела.

1927 год. 14 мая. Заўтра — 2000. Юбілей. Бягу аванс браць, калі дасць загадчык канторы. Весела!

## ТАВАРЫШЫ НАРКАМЗЕМАЎЦЫ, ДАЗВОЛЬЦЕ ПАДЫСКУСАВАЦЬ

Выбачайце, шаноўныя грамадзяне наркамземаўцы, але я з вамі не згодзен. Не таму, што ў мяне натура такая ўжо занадта апазіцыйная. Не. Проста таму, што я як зацікаўленая ў даным пытанні асоба вымагаю яснасці і канкрэтнасці. Справа ідзе аб выдадзеных вамі правілах палявання. У гэтых правілах ёсць, па-першае, некаторыя няяснасці, і па-другое, такія пункты, супроць якіх мая душа, як запраўднага і да таго ж загартаванага паляўнічага, горача пратэстуе.

Пачнём спачатку.

«*Правілы вытвару палявання на тэрыторыі Беларусі, аб яе тэрмінах і спосабах*».

Тут відавочная няяснасць, бо незразумела, аб чыіх тэрмінах і спосабах ідзе гутарка — тэрыторыі ці Беларусі. Калі тэрыторыі, дык чаму, дазвольце, не Беларусі, а калі Беларусі, дык чаму не тэрыторыі?

Далей.

«*Агульныя палажэнні. Артыкул 1. Дзікія звяры і птушкі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, з'яўляюцца ўласнасцю рэспублікі, і правільнае іх скарыстанне складае адну з галузяў дзяржаўнае гаспадаркі Беларусі*».

Тут я павінен зазначыць, што вашы закіды ў кірунку дзяржаўнае гаспадаркі не маюць пад сабою ніякага грунту. Праўда, наша гаспадарка яшчэ не вельмі багатая, але ўсё ж такі відавочна расце, і ваш яхідны намёк наконт нейкіх злаякасных г а л у з я ў тут якраз не адпавядае запраўднасці.

Далей.

«*Тэрміны і спосабы палявання. Арт. 9. Забараняецца:*

*6. вытвор палявання агульна небяспечнымі спосабамі, як, напрыклад: настаражыванне стрэльбаў і самастрэлаў, пусканне палаў...*

*в. ужыванне прыладаў і спосабаў масавага дабывання звераў і птушак, як, напрыклад: заганіванне на шэрані...*

*г. ...а роўна выкапванне звераў і раўнаванне іх лёкаў...*

*д. дабыванне звераў і птушак прыладамі, якія давяць, альбо пансуюць, як, напрыклад,... начыннямі, зялезнымі слонцамі, а таксама скрадам пры дапамозе кабылкі, альбо шчыту».*

З гэтымі забаронамі я, асмелюся заявіць, не зусім згодзен. Што датычыць «настаражывання стрэльбаў і самастрэлаў», «пускання палаў», «заганівання па шэрані» і «раўнавання лёкаў» — дык нічога з гэтага я рабіць не буду, бо, шчыра сазнаюся, не разумею ў чым справа. Таксама я згодзен з забаронай «скраду пры дапамозе кабылкі» — непрыгожая гэта рэч.

А вось што датычыцца «дабывання звераў і птушак н а ч ы н н я - м і», дык тут, даруйце — не згодзен. Чым, напрыклад, дрэнны спосаб, калі, скажам, дзядзька пойдзе ў лес са сталярным начыннем, зловіць зайца ды гэблем яго па хвасту? Які тут праступак проці рэспублікі?

Альбо, напрыклад, цётка, едучы з кірмашу дамоў, спаткае ваўка ды замест таго, каб атукаць, надзене яму на галаву жбанок і прывядзе ў вёску на пацеху дзяцей? Не задавіць, будзьце спакойны.

А калі ўрэшце гаспадыня палонікам падчэпіць каўку ды адразу — шась яе ў крупнік. Думаеце, папсуе? Нічагуткі.

І вось, бачачы ўсю прастату і лёгкасць дабывання звераў і птушак начыннем, я, канешне, рашуча не згодзен з гэтай забаронай і пратэстую.

Цяпер пераходзім да пунктаў, якія дазваляюць паляванне. Арт. 10-ты кажа:

*«Паляванне дапушчаецца: а. на драпежных звяроў і птушак: ваўка, рысь, брадзячых сабак і кошак, суслікаў, шашкоў, а таксама шкодных птушак і арла, крагуёка, воронаў і сарокаў у адчынены для палявання час законным спосабам і ў зачынены ўсялякімі спосабамі.. і г. д.».*

З гэтым пунктам я цалкам не згодзен. І вось чаму. Нам дакладна вядома, што нават у старых рэакцыйных падручніках для пачатковых школ — і ў тых воўк і рысь лічыліся зверамі, а не птушкамі, а таксама ніколі не лічыўся птушкай шашок, суслік. Зноў жа, калі не мыляюся, на сённяшні дзень не было ніякае навуковае пастановы адносна пераводу суслікаў у групу драпежных звяроў ці птушак. Вось толькі што датычыць крагуёка, дык я тут нічога канкрэтнага не магу сказаць, бо колькі я ні капаўся ў розных падручніках і нават навуковых кніжках, такой жывёліны нідзе не знайшоў і не ведаю, чым яна абрастае,

пер'ем ці поўсцю, і ў які час яе можна біць — у адчынены ці, наадварот, зачынены.

Пераходзім далей да 13-га артыкулу, які, на мой погляд, патрабуе найбольшае яснасці. Гэты артыкул пераконвае, што

*«безгаспадарчыя сабакі і кошкі, звычайна лётаючыя па ўгоддзям, прылічаюцца да шкодных жывёлін і павінны знішчацца на працягу ўсяго году.*

*Увага: Усе сабакі, якія лётаюць па-за дварамі без намызнікаў, падлягаюць знішчэнню пры ўсялякіх умовах усімі спосабамі, за выключэннем цковы як агульна небяспечнага».*

Тут, таварышы наркамземаўцы, дазвольце заўважыць, што вас нейкі паляўнічы злосна абмануў. Усе паляўнічыя, як вядома, страшэнныя манэкі і хвалькі, і калі хто-небудзь з іх казаў вам, што бачыў лётаючага сабаку або кошку, дык тут ён яўна хваліўся. Бо ў гэтым я сам пераканаўся. Надоечы я спецыяльна наглядаў, як гіцлі на Савецкай вуліцы лавілі «безгаспадарчых» сабак. Прэ гіцаль з нейкай доўгай пугай з пятлёй на канцы, аж язык вылупіў. Прэ і сабака на ўсе лапаткі. Вось, вось насцігае яе гіцаль — тут бы, здаецца, самая пара сабаку ўзняцца і паляцець, а з гары гіцлю дулю паказаць: што, злавіў. І што ж вы думаеце, так і не паляцеў, бядак — злавіў яго гіцаль.

А ўчора я за кошкай наглядаў. Ходзіць па суседавай страсе, вусамі паводзе, хвост трубой — відавочна, безгаспадарчая. Узяў я камень, размахнуўся і шмаргануў у кошку: няўжо, думаю, паляціць? Дык не, не паляцела, сцерва. Скочыла на зямлю ды па гародзе як папрэ, толькі пыл курыць. А вы кажаце — лётае…

Патрабуе некаторай яснасці і артыкул 14-ты, які кажа:

*«Сабакі паляўнічае пароды ў недазволены для палявання час павінны затрымлівацца і дастаўляцца ў бліжэйшую арганізацыю, якая пры вядомасці ўласніка зварочвае сабаку апошняму пры адплаце каштоўнасці яе ўтрымання».*

Пра якую арганізацыю ідзе гутарка — грамадскую ці наадварот? Гэта не высветлена, і сабаку я магу прывесці ліха ведае куды…

Нарэшце, артыкул 19-ты, па-мойму, таксама вельмі туманны. Пункт г. тлумачыць:

*«Нагляд за захаваннем правілаў аб паляўнічых запаведніках, а роўна ўзбуджэнне крымінальнага праследавання і абвінавачвання перад судом вінаватых ускладаецца нараду з ворганамі ўлады на адміністрацыю запаведнікаў і сяброў саюзу паляўнічых».*

Тут я не згодзен з «узбуджэннем крымінальнага перасследавання і абвінавачвання перад судом вінаватых, узложанага нараду з ворганамі». Гэта, згадзіцеся самі, неяк крыху нялоўка.

Вось тыя пункты правілаў палявання, з якімі я, таварышы наркамземаўцы, не згодзен і якія, па-мойму, патрабуюць шырокага абгаварэння для больш дакладнага высвятлення.

Асабліва, на мой погляд, патрабуе належнае дыскусіі пункт аб лётаючых сабаках і кошках. Як з імі ўрэшце быць? Страляць іх на ляту ці на бягу?

Дазвольце, таварышы наркамземаўцы, падыскусаваць па гэтаму пытанню.

## ЛЮТЫ Ў ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ. ЯК БЫ ГЭТА ВЫГЛЯДАЛА, КАБ БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ ПІСАЛІ АБ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

*Пародыі*

Міхась Чарот

Вайна і пажар. Жах!
На царскай кароне та-ра-рах!
Крыжам бы Мікалая каля плота,
Чаго там — была б ахвота.
Усплыў Керанскі, нібы князь.
І ёсць жа людзям ахвота.
І гэтага б крыжам каля плота —
Не лезь!

Міхась Зарэцкі

Я намаляваў..
Я намаляваў бы гэты вобраз Лютаўскай рэвалюцыі…
О Керанскі — кручыновая радасць мая!..
Я памятаю яго…
Я ўяўляю яго абавязкова дзяўчынай.
О, каб ён быў камсамолкай…
Чаму камсамолкай, не ведаю!.. Я такі захоплены!

О, Керанскі — кручыновая радасць мая!
Твае дзівосна яркія формы я памятаю..
Я ўсё памятаю!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мне раптоўна зрабіўся прыкрым гэты млявы твар
Керанскага, гэты мяккі мяшчанскі уют.
О, каб ён быў камсамолкай!

Дубоўка

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Я духам быў заўсёды камсамолец,
Скажу я кожнаму цару:
— Мне сумна, а табе весела.
Дык купі сабе за тры капейкі коніка
I свішчы.. — яму!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Паэты гімны ўсім складаюць,
А беларусам пушча, гай...
Мая краіна дарагая,
Ты прабачала —
Выбачай!..

Ал. Дудар

Пазаснулі і Рым, і Элада,
Рэвалюцыі ў іх не чуваць,
Адвядуць мяне, здэцца, ў звярынец
I напішуць: рукамі не чапаць.
Усе цары хутка будуць пад крыжам,
Ім пад сэрца ўсе нашы нажы.
А я дык усё пяю аб тым жа,
Бо малады я, малады!

Крапіва

Неяк, як быў я яшчэ мальцам,
Трапіў у царскія палацы.
Вечарынка там была.

Ну й гулянка, ну й яна!..
Ў хаце цесна, не ўстаяць:
Недзе яблыку упасць.
А дзядзькоў — дык недзе сесці,
А кабет — дык капы дзвесце!..
Тут пачалі ўсе скокі,
Хто ўбоку, хто пад бокі…
А царыца, дык не купа:
Як заголіцца да пупа..
Тут прыдворны не дурны,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Галубок

«Шкляны бог»
Драма ў 4 дзеях.

Падымаецца заслона. За сцэнай — страляніна.

Мікалай II (выходзіць з задніх дзвярэй): Ах, Божа мой (Страляніна. Мікалай плача, лезе пад стол. Страляніна).

Заслона.

Выпаўзае танк, а на ім Керанскі (Страляніна). За сцэнай лупяць з гарматаў (Страляніна).

Керанскі (крычыць): Вайна да пераможнага канца. Ура! (Страляніна). (Ранены куляю ў самае сэрца Керанскі падае, потым падымаецца і ўцякае заграніцу). (Страляніна).

На сцэну льецца кроў, якая паступова затапляе ўсю залу. З-за куліс на чоўне выплывае Галубок і гавора прамову на антырэлігійную тэму. (Страляніна).

(Заслона).

## Міровіч

«Кар'ера міністра»
(П'еса ў 17 актах, у 180 абразох).

Час дзеі — февраль, альбо, як кажуць беларусы, люты 1917 г.
1 абраз.
Сцэна ў Зімнім дварцы.

Выходзіць Радзянка і моўчкі пачынае скакаць лявоніху. Хор спявае «Гэй, куме, не журыся».

(Заслона).

18 абраз 7-га акту.

На сцэне — суд. Пракурор чытае абвінавачванне.

Скокі ўсёй трупы.

(Заслона).

## АБО — НАСТАЎНІК, АБО — НЕ

З грамадзянінам Сымонам Шулякоўскім выйшаў казус, і даволі арыгінальны казус. Чалавек быў настаўнікам, як сам ён прызнаўся — 28 год, і раптам стаў не толькі не настаўнікам, а нават непісьменным.

Што?! Вы не верыце? І я не верыў, пакуль не пераканаўся. Але ж гэта факт, праўда, крыху сумны, але — факт…

З быўшым настаўнікам, а зараз непісьменным грамадзянінам С. Шулякоўскім, я пазнаёміўся ў дарозе. Мы ехалі разам з мястэчка Старыя Дарогі ў м. Глуск. Конь ішоў традыцыйнай балагольскай хадой: не то шагам, не то бягом. На разбітых бабруйскіх дарогахаграмадную балагольскую каламажку трасло, падкідала, калаціла. На рытвінах і карэннях, што перасякалі дарогу, каламажка звінела, скрыпела, стагнала — хадуном хадзіла. У такія моманты мой спадарожнік падскакваў, хватаўся за бок і енчыў.

— Чаго гэта вас так? — здзівіўся я.

— Бок баліць… хворы я, — стагнаў мой спадарожнік. — …Мне і ехаць не трэба было ў такую дарогу.

— Дык чаго ж вы паехалі, калі не трэба было?

— А вось за тым, што трэба было, — адказаў ён незадаволена і, памаўчаўшы, дадаў: — Грошы зробленыя не хочуць мне плаціць… Быў я настаўнікам, цяпер зволілі і пенсіі не даюць.

— Як жа гэта так? — не паверыў я. — Быць не можа такога.

— А вот жа бывае, — дадаў ён са злосцю. І калі мы выехалі на больш роўную дарогу, мой спадарожнік расказаў мне пра той казус, як ён з настаўніка перарабіўся ў непісьменнага чалавека…

Год 30 таму назад гр. С. Шулякоўскі закончыў менскую духоўную семінарыю, але не пайшоў па папоўскай лініі: пацягнула яго ў настаўнікі. Вытрымаў ён экзамен на настаўніка і пачаў працаваць у школ-

цы. Да вайны працаваў, да 14 году. А ў 14 годзе ўзялі настаўніка Шулякоўскага ў салдаты і пагналі праліваць кроў «за веру и отечество». Не праліў крыві настаўнік Шулякоўскі — ці то крыві шкада было, ці то выпадку не было — невядома, а як скончылася вайна, зноў пайшоў у настаўнікі. Працаваў ён у школках у межах цяперашняга Глускага і Старадарожскага раёну. У часе розных акупацыяў у настаўніка Шулякоўскага прапалі дакументы, у тым ліку і аб адукацыі. Як і якім чынам — невядома, але факт — прапалі дакументы. Асталася толькі, як кажуць, душа і цела, а пашпарта і няма. Ясна, чалавек аказаўся няпоўным: пры душы ды целе, але без пашпарту. Аб гэтым настаўнік Шулякоўскі не дужа гараваў: быў ён настўнікам, і ўсе ведалі, што ён настаўнік.

Так і працаваў чалавек без паперкі. Працаваў да сёлетняга году, а сёлета ўзялі ды зволілі настаўніка Шулякоўскага і зволілі тады, як ён ляжаў хворы ў глускай больніцы, аб чым паведаміў Старадарожскаму РВК выпіскай з больніцы.

Зволілі — і крышка.

— Няма ў цябе, — кажуць, — папер, што ты настаўнік.

— Якія ж паперы, — здзівіўся Шулякоўскі, — усе ж ведаюць, што я настаўнік.

— Мала што… паперу давай.

Сабраў настаўнік Шулякоўскі аб тым, што ён настаўнік, подпісаў нешта каля трохсот сялян (і сельсавет пасведчыў) і панёс гэта ў РВК.

— Вось вам і паперы, — кажа, — аб тым, што я настаўнік.

— Паперы, — здзівіліся там, — гэта ж подпісы сялян. Які ж гэта дакумент? Ты нам настаяшчыя дай, за подпісамі і пячаткай прапячатаныя, а гэтыя, брат, кінь, не гадзяцца.

Так і зволілі настаўніка Шулякоўскага канчаткова.

— І вось я цяпер хворы езджу, каб чаго-небудзь дабіцца, але нічога не выходзе.

Тут мой спадарожнік ізноў схапіўся за бок і пачаў енчыць, бо мы ўз'ехалі на грэблю і каламашку так пачало трэсці, што, здавалася, вытрасе ўсё нутро.

— Ну а як саюз на гэта глядзіць? — пацікавіўся я.

— Ну што ж саюз? Ён нібы бароніць, але калі што будзе, а я цяпер без хлеба сяджу…

Я зацікавіўся гэтай справай і, будучы ў Бабруйску, спецыяльна зайшоў у інспектарыят асветы, каб больш дакладна азнаёміцца з лёсам Шулякоўскага.

— Вы пра Шулякоўскага Сымона? Зволілі мы яго, — парадавалі мяне ў інспектарыяце. — Зволілі за наведванне царквы і непісьменнасць.

— Як за непісьменнасць? Ён жа ў вас настаўнікам быў, 10 год!

— Мала што быў… папер у яго няма, што ён настаўнік.

Вось вам і факт. Быў чалавек настаўнікам, калі не лічыць даваеннага часу, дык пры савецкай уладзе ўжо 10 год, і раптам аказаўся непісьменным.

Што гэта? Ці тут здзек над настаўнікам, ці другое, не менш праступнае — нядбайнасць кіраўнікоў асветы. Бо пытанне можна паставіць толькі так: або гр. Шулякоўскі — настаўнік, або — не.

Калі ён настаўнік, калі верыць таму, што ён кажа: 28 год працы аддаў на ніве народнай асветы, страціў здароўе, і цяпер яго выкідаюць без пенсіі, проста на вуліцу, толькі затым, што ён не мае паперкі, — гэта ёсць здзек, гэта праступнасць, за якую і турмы мала.

З другога боку, калі прызнаць, што гр. Шулякоўскі не настаўнік, калі верыць інспектарыяту асветы, што Шулякоўскі зволен за наведванне царквы і непісьменнасць, дык тут яшчэ большая праступнасць. Раз Шулякоўскі непісьменны чалавек і царкву наведвае, як жа ён 10 год быў настаўнікам у савецкай школе? Куды ж глядзелі кіраўнікі асветы? Як яны асмеліліся даручыць непісьменнаму чалавеку выхаванне нашых дзяцей? Мог непісьменны чалавек даць грамату дзіцяці? Значыць, ён яе не даваў. І 10 год не даваў! Куды ж мы глядзелі?

І калі непісьменны чалавек 10 год быў настаўнікам і бабруйскія кіраўнікі асветы гэтага не бачылі, чым мы пасля гэтага гарантаваны, што ў Бабруйшчыне такі Шулякоўскі толькі адзін? А можа, іх сярод настаўніцтва 10–30 проц.?

Так. Такое пытанне мы можам паставіць Бабруйскаму інспектарыяту асветы. Бо казус з гр. Шулякоўскім — штось не зусім яснае. І мы лічым, што, урэшце, трэба больш дакладна і больш уважліва вырашыць справу з грамадз. Шулякоўскім — або ён настаўнік, або — не…

## ГІСТОРЫЯ СВЕЖАЙ ЦЫБУЛІНЫ

*Фельетон*

Канешне, у мястэчку нудна жыць. Хто скажа, што весела? Нудна і мяшчанам, нудна і інтэлігенцыі. Ну, вядома, з нуды людзі шукаюць сабе выхаду. У мяшчан, дык яно неяк проста бывае. Выйдуць раніцой суседзі, стануць кожны каля сваёй брамы і давай сварыцца. Пасварац-

ца з гадзінку і ідуць снедаць. Назаўтра спаткаліся — сваркі як і не было, зноў мірна перадаюць адзін другому «свежыя навіны» пра сваіх суседзяў. На другі дзень зноў пасварацца, а там — памірыліся. Так і жывуць. Маштаб, канешне, дробны, але забава часцей бывае.

Шмат горш у гэтым кірунку інтэлігенцыі. Ёй забаву цяжэй знайсці, але ўсё ж ткі некаторыя ўмудраюцца і знаходзяць сабе гэту забаву. Вось, напрыклад, у Старых Дарогах — там інтэлігенцыя мала што знайшла забаву, а нават і ўсім мяшчанам нос падцёрла.

— Эх вы, аршыннікі, — ганарацца цяпер старадарожскія інтэлігенты. — Куды вам, кінарэчнікам, за намі ўгнацца! Мы, вунь, з дробнай справы ўсесаюзную гісторыю раздуваем, а вы што? Дробязь!

І праўда, умудрыліся старадарожскія інтэлігенты з дробнай справы раздуць гісторыю, якая пагражае выйсці за межы ўсёй акругі. З чаго пачалася гісторыя? А пачалася яна, як і самі старадарожскія інтэлігенты прызналі, з дробязі.

## АГРАНОМ ЗАХАЦЕЎ МЕЦЬ СВЕЖУЮ ЦЫБУЛІНУ Ў ГАРШЧОК

Па якіх прычынах старадарожскі аграном пасяліўся не ў мястэчку, а на тэрыторыі мяснога заводу, яшчэ не высветлена, але факт той, што ён уціснуўся ў такую глуш заводскай тэрыторыі, што нават самы спрытны старадарожскі селянін бадай ці знойдзе яго. Калі садзіўся аграном на новай кватэры, яму там прапанавалі кавалак зямлі ў 2 гектары:

— Бяры, — кажуць, — і сей па-вучонаму.

Не ўзяў гэтай зямлі аграном:

— А ну яе, — кажа, — а ў мяне ўвесь раён даглядзець трэба, а гэта рукі звяжа. Хіба, можа, от такі невялічкі кавалачак… цыбуліну пасадзіць, каб была свежая ў гаршчок.

— Для цыбуліны? — пытаюцца.

— Але.

— Кавалачак?

— Невялічкі.

— Ну, дык бяры.

І адрэзалі аграному 50 кв. метраў зямлі пры хаце.

— Сей сабе хоць і рэпу.

І пачаў, канешна, сеяць аграном крыху цыбулі, крыху буракоў, каб свежае было ў гаршчок.

Так і сеяў да вясны сёлетняга году. А вясной

## ЗАГАДЧЫК КАМГАСУ РАШЫЎ, ШТО АГРАНОМУ І БЕЗ ЦЫБУЛІ ГОРКА

Ранняй вясной, у той час як аграном чытаў у вёсцы лекцыю сялянам на тэму «Калі вы не чудакі, дык сейце ў полі буракі», на ягоную сядзібу з'явіўся загадчык старадарожскага камгасу і тут жа на гародзе, пад праменнямі ранняга сонца, зрабіў канкрэтную прапанову:

— Няма зямлі аграному.

Раз няма зямлі — значыць няма і свежай цыбуліны ў гаршчок. Жонка агранома, маючы непасрэднае дачыненне да гаршка, прыняла гэту пастанову без асаблівага энтузіязму, аб чым і заявіла ў лёгкай форме загадчыку камгасу:

— Тоісь як гэта няма зямлі аграному? А бурак дзе пасадзіць?

— Буряк? Іш ты чаго захацела. І без бурака жыць будзеш!

Пачаўся дыспут. Спакойна пачаўся, а потым нечакана набыў досыць шырокі размах. Збегліся суседзі, рабочыя з заводу. Стаяць, слухаюць. Паслухалі рабочыя і здзівіліся.

— Іш ты, — кажуць, — інтэлігенцыя, а лепш за нас крыюць.

— Бач, як пакрыў.

— А ну яшчэ ёрзні!

Гэтыя заўвагі вырашылі далейшы ход гісторыі аб свежай цыбуліне. Аграноміха не сцярпела знявагі на людзях і падала ў суд на загадчыка камгасу за абразу.

Чутка аб гэтым разнеслася па мястэчку, і ўсе з напружанай увагай чакалі, што скажа нарсуддзя. А мяшчане дык дзівіліся:

— Бач ты, — кажуць, — мы як сварымся, дык і мірымся, а яны ў суд.

— Ну што ж ты хочаш? Адукаваныя! А мы што?

## А НАРСУДДЗЯ РАШЫЎ ПА-СВОЙМУ

Доўга думаў нарсуддзя над гэтай справай, і калі ўжо нецярплівасць старадарожцаў дасягнула найвышэйшага пункту, вырашыў:

— Не магу я разглядаць гэтай справы.

— Чаму? — пытаюцца.

— А таму... — і пераслаў справу ў Любанскі нарсуд. Прычыны гэтага ніхто дакладна не ведаў, але хадзілі чуткі, што суддзя не хацеў разглядаць справы, бо аграноміха і загкамгас — яго аднолькавыя знаёмыя.

Як бы там ні было, а справа пайшла ў Любанскі нарсуд і там бы, відаць, была б вырашана. Але ёй пашанцавала. Услед за справай паехаў і старадарожскі нарсуддзя — перавялі яго ў Любань.

Зноў усе з напружаннем чакалі, што будзе далей, і раптам даведаліся, што «справа старадарожскай інтэлігенцыі» пераслана на разгляд у Асіповіцкі нарсуд.

Тут старадарожскае мяшчанства канчаткова здало пазіцыі.

— Ну, нам за імі не ўгнацца. Мы толькі каля брам сварымся, а яны ўсю акругу хутка аб'едуць са сваёй сваркай.

І запраўды мяшчанам за інтэлігенцыяй не ўгнацца. Справа гэта і ў Асіповічах не будзе разглядацца, бо аграноміха паехала туды патрабаваць пераводу справы назад у Старыя Дарогі.

Ці будзе яна разгледжана ў Старых Дарогах — таксама невядома. Можа, ёй суджана яшчэ павандраваць па раёнах акругі. Хто ведае!? Але я раіў бы новаму старадарожскаму суддзі разгледзець гэту справу аб зялёнай цыбуліне і як-небудзь памірыць інтэлігенцыю.

Мяшчан шкода! Спачатку яны дзівіліся, а цяпер, бедныя, зайздросціць пачалі.

— Што ж гэта, — кажуць, — мы толькі каля хат сварымся, [redacted] яны па ўсёй акрузе. Калі інтэлігенцыя, дык і можна.

Пашкадуйце, таварыш суддзя, старадарожскіх мяшчан і памірыце старадарожскую інтэлігенцыю! Хай гісторыя аб свежай цыбуліне на гэтым і скончыцца.

Мяшчан шкада...

## СЛОВА ДАЕЦЦА ПРАКУРОРУ

Змітро Рашэцька, гр-н вёскі Судавічы, на ўсім сваім жыцці нават пры ўважлівым разглядзе не мог убачыць ніводнай цёмнай плямы. Ды не толькі ён сам, нават блізкія суседзі — і тыя ні ў чым не маглі ўпікнуць Змітра Рашэцьку. Як серадняк — ён жыў сярэдне — спраўна плаціў падаткі, купляў у кааперацыі і прадаваў кааперацыі, а ў грамадскім жыцці, хаця і не пераганяў другіх, затое і не адставаў ад рэшты свядомай вёскі.

Наогул Змітро Рашэцька не меў на сваім сумленні нічога адмоўнага. Вось чаму, калі Рашэцька атрымаў ад народнага суду 5 вучастку (м. Парычы) позву, дзе гаварылася, што ён «прыцягваецца да адказнасці», то адразу рашыў: «Тут памылка і больш нічога».

І калі ў нядзелю раніцой З. Рашэцька адпраўляўся на суд, і яго жонка, правёўшы мужа за вароты, прыкрыла фартухом твар і спрабавала ўсхліпнуць, ён яе сурова застанавіў:

— Не дуры, баба!

На суд Змітро Рашэцька ехаў зусім спакойны. І каб яму хто сказаў наперад, за што яго будуць судзіць і што яго засудзяць, — ён бы ніколі не паверыў.

А між тым у судзе са Змітром Рашэцькам сталася небывалае і нечуванае… Але пачнем спачатку.

Вясной 25 году сяляне Ракшынскага сельсавета ўзялі ў Парыцкім с.-г. крэдытным таварыстве насенную пазыку: лубін, канюшына, авёс. Абавязацельства на пазыку выдаў Ракшынскі сельсавет, і падпісаў абавязацельства быўшы Ракшынскі старшыня с.-с. Аляксей Рашэцька.

Увосень А. Рашэцьку прызвалі ў Чырвоную армію. Здаючы справы сельсавета новаму кіраўніцтву, Аляксей Рашэцька здаў у тым ліку і справы аб насеннай пазыцы: спісы размеркавання пазыкі і распіскі грамадзян, атрымаўшых яе, і папярэдзіў сельсаветчыкаў:

— Прыйдзе тэрмін — насенную пазыку сышчыце.

— Добра, — сказалі на развітанне сельсаветчыкі, — сышчам, нядзе яна дзенецца!

Можа б і сыскалі новыя сельсаветчыкі насенную пазыку ад сялян Ракшыцкага сельсавета, але здарылася неяк так, што яны яе да тэрміну не сыскалі: сяляне самі не варочалі пазыкі, а с.-г. таварыства не напамінала — усе забыліся.

Праз два гады ў Парыцкім с.-г. крэдытным таварыстве агледзеліся, што за сялянамі Ракшынскага сельсавета лічыцца насенная пазыка, і к таму ж пратэрмінованая.

— Ну што? Трэба, мусіць, сыскаць, — рашыў старшыня таварыства.

— А ўжо ж, не шкодзіць, — падтрымалі яго члены праўлення.

І пачалі сысківаць. Але справа гэта не лёгкая. Як сыскаць? З каго сыскаць? — вось пытанні, якія патрабавалі ўсебаковага абгаварэння і з якімі праўленне не магло справіцца. З сялян сысквацъ пазыку? — неяк нялоўка: яны ўжо забыліся пра яе. На сельсавет націскаць? — дык ізноў жа — пры чым ён тут: сельсаветчыкі ж не бралі пазыкі. А сыскаць трэба. Дык з каго?

Дэбаты па гэтаму пытанню на спецыяльным пасяджэнні праўлення таварыства мелі даволі разнастайны ўхіл, але нарэшце большасцю

галасоў было вырашана: насенную пазыку і працанты па ёй сыскаць са Змітры Рашэцькі, гр-на в. Судавічы.

— Чаму з Рашэцькі? — нясмела спытаўся адзін з членаў праўлення.

— Па-першае, — адказалі яму, — ён брат былога старшыні сельсавета Аляксея Рашэцькі, а па-другое… наогул няхай заплаціць. Трэба ж з каго-небудзь сыскаць?

На гэтым і парашылі. І справу аб пратэрмінаванай пазыцы, якую ўзялі сяляне Ракшынскага сельсавета, перадалі ў народны суд 5-га вучастку і адказчыкам па гэтай справе прыцягнулі Змітру Рашэцьку…

Вось чаго не чакаў Змітра Рашэцька! Вось чаму ён ніколі не паверыў бы. І калі яму ў судзе сказалі аб гэтым, ён думаў, што над ім жартуюць, і сам пачаў жартаваць.

— А што ж, — кажа, — за ўсіх заплачу, у мяне капіталаў хопіць.

Але суддзя даволі падрабязна растлумачыў яму, што народны суд не жартуе, што народны суд наогул не можа жартаваць і што Змітро Рашэцька запраўды прыцягваецца да адказнасці за тое, што сяляне Ракшынскага сельсавета, узяўшы насенную пазыку, не звярнулі яе да тэрміну.

— Дык я ж пазыкі не браў, — паспрабаваў бараніцца Змітро Рашэцька, — і нічога аб ён не ведаю, бо…

— Суд разбярэ, — перапыніў яго суддзя, — і вырашыць, як трэба.

І запраўды, народны суд 5-га вучастку справу аб насеннай пазыцы вырашыў «справядліва».

— Хоць Змітро Рашэцька і серадняк, — разважалі суддзі, — але і насенную пазыку і працанты па ёй ён не здолее заплаціць, а вось адны працанты заплоціць.

На гэтым і пастанавілі.

— Насенную пазыку Парыцкаму с.-г. таварыству павінен звярнуць той, хто яе браў, г. зн. сяляне Ракшынскага сельсавета, а працанты па ёй за пратэрмінаваны час — няхай заплаціць Змітро Рашэцька.

— Чаму гэта я? — здзівіўся З. Рашэцька. — Я ж нічога не ведаю…

— Ты не ведаеш, дык суд ведае. Кончана!

Для народнага суду на гэтым фактычна і было «кончана», але для Змітры Рашэцькі — далёка не кончана. Праз некаторы час на яго павялі атаку судовы выканаўца і міліцыя: апісваюць яго маёмасць для прадажы, устанаўліваюць тэрміны ўплаты, адкладваюць гэтыя тэрміны, зноў націскаюць.

— Плаці! Хоць трэсні, а плаці.

— З чаго ж я заплачу? — просіцца Змітра Рашэцька. — І завошта я плаціць мушу?

— Справа не наша, — адказваюць яму выканаўцы, — у нас загад ёсць.

Цяжка ўздыхае Змітра Рашэцька — не чакаў ён такой несправядлівасці, — галосіць жонка, плачуць дзеці. І ва ўсіх адно пытанне: «За што?»

І запраўды, за што раскідаюць гняздо селяніна Змітры Рашэцькі? Чаму ён павінен плаціць проценты за пратэрмінованую пазыку, якую ўзялі сяляне Ракшынскага сельсавета? За чые грахі ён нясе кару?..

Толькі пракурор можа адказаць на гэтыя пытанні. І дзеля гэтага слова даецца пракурору Бабруйскай акругі.

## ПАД НОВЫ ГОД — ГОД НАДЗЕЯЎ

Пахмурны Лондан. Палац на Брадвеі асветлены тысячамі агнёў. У банкетавай залі пышліва сервіраваныя сталы, але на сталох небагата: цана на бекон, падскочыўшы, сапсула старыя традыцыі.

Урачыстасць пачынае найпаважнейшы сэр:

— Джэнтэльмены! — ягоная старэчая рука задрыжэла, і на белы, як снег, абрус капнула колькі кропляў іскрывога віна. — Сэры і джэнтэльмены! Што нам даў мінулы год? Што суліць нам новы год? Зірнеце вы на сянняшнюю навагоднюю елку (усе трыста сэраў паглядзелі на ўбога прыбраную елку), успомніце леташнюю і зрабеце джэнтэльменскае параўнанне. Калі вам віскі не адсадзіла памяці, дык вы можаце ўспомніць, што летась на елцы ў нас віселі тысячы бамбавозаў і знішчальнікаў, дзясяткі дрэдноўтаў, дзясяткі тысяч танажу! Віселі ружовыя мроі, віселі надзеі на Чырвоны Крэмль. А дзе гэта сяння? Дрэдноўты ўзляцелі ў паветра, бамбавозы пасыпаліся на зямлю, танаж апусціўся на дно, ружовыя мроі развеяў варожы парахавы дым, Чырвоны Крэмль разбіты, а з ім і нашы надзеі! (Голас з месца: «А мы гэта даўно казалі»). Мала таго, ужо цягнецца чыясь прагавітая рука да самага дарагога ў брытанскай кароне — да яе жамчужыны. Сэры і джэнтэльмены! Што ж нам нясе 1942 год? Ці здолеем мы адвесці гэтую варожую руку? Што ж мы можам яшчэ павесіць на елку 1942 году? Якія надзеі? Сэры…

На гэтым месцы прамова найпаважнейшага сэра і джэнтэльмэна перапынілася, бо сірэна абвесціла паветраную трывогу. Навагодняе

віскі засталося недапітым, бо сэры і джэнтэльмены гуртом ірванулі ў бамбасховішча.

Ах, як шкада навагодняга віскі…

* * *

Хаціна на Волзе. Пакой невялікі і няўтульны. Кумпанія таксама невялікая. Ладзяць навагоднюю вечарынку. На стале сушаная вобла, кавалак брынзы і неразведзены спірытус. Ля стала невялічкая елка, а пад ёю расейскі дзед-мароз. Сумна… Тамада ўспамінае:

— А было так нядаўна… 200 міліёнаў пакорлівых чалавечкаў, першая ў свеце армія, перспектывы на сусветную, слава, гонар і штодзённы фіміям! Дзе ўсё гэта? Страчана! Моц першае ў свеце арміі — страчана, 70 міліёнаў жыхарства — страчана, дзясяткі тысячаў квадратных кіламетраў тэрыторыі — страчана, гонар і слава — страчана…

Тамада ніжэй схіляе галаву. А ў ваччу, як праз далёкі туман, мігацяць залатыя вежы маскоўскага Крамля, дзе летась была такая багатая елка, і на ёй — усё.

— Таварышы! — тамада зноў падымае чарку, — але не ўсё яшчэ страчана! Ёсць яшчэ надзеі. Надзеі на расейскага дзеда-мароза. Хіба ён нас не выручыць на 1942 год?

Тамада бярэ торбу з-за плячэй дзеда-мароза і вытрасае. На стол пасыпаліся: разбітыя танкі, паламаныя самалёты, пакалечаныя браняносцы і ніводнага кавалка вугалля, ні жмені руды.

— Вай, які скупы падарунак! Гу! — і тамада з такой злосцю штурхануў дзеда-мароза, што разам з ім перакуліў і елку, і ўсе надзеі на 1942 год.

— Ах, як дрэнна піць неразведзены спірытус…

* * *

Вашынгтон. Белы Дом. Навагодняя ўрачыстасць. Найгалоўны мае прамову.

— Міс і містэры! Скажу каротка. Палітыка «новай эры» дала шчыліну. Містэр Франклін прамахнуў. (Галасы: «Містэр! Не цягні ката! Час — грошы!») Я і не цягну. Каротка. Што было на леташняй елцы? Золата! Золата! Мяхі з золатам! (Галасы: «Далоў!») А што вісіць сёлета? Разбіты Ціхаакіянскі флот. А ў перспектыве — Атланцкі! Самалёты! Ахвяры! Ахвяры і зноў ахвяры! (Галасы: «Далоў! Заблытаўся! Заблытаўся! Скінуць»). Містэры! Скінуць паспееце. Але што ж мы маем на новы год? Надзеі, містэры, надзеі! Надзеі на тое, што, можа

і, мы калі паб'ём японцаў, а тым часам… (Галасы: «Заблытаўся! Скінуць! Далоў!») Падняўся вэрхал! Шум! Гам! Джаз грае факстрот.

Ох, як дрэнна сода-віскі пасля доўгага трывання «сухога закону».

* * *

*Беларусь на куце*
*У хаце сваёй села,*
*Чарка мёду ў руцэ —*
*Пазірае смела…*

Невялікая і ўтульная заля ў цэнтры Менску. У даўгі рад састаўлена колькі сталоў, прыбраных па-святочнаму.

З-за столу падымаецца з келіхам у руцэ чародны прамоўца:

— Спадары! Калі асягнуць цвярозым вокам (голас з месца: «А дзе яго ўзяць?») Спадары! Прашу не перапыняць! Дык зноў кажу, калі асягнуць усё прароблены намі, асабліва яшчэ непраробленае, дык убачым велічны абраз. Спадары! Хіба нас мала? Хіба мы нядужыя? (Галасы з месц: «Ого! Шчэ і як!» Двое закасалі рукавы). Спадару! Ціха! Я не да дзеяў заклікаю, а да чынаў! Спадары! Ці ж мы не багаты? Чаго ў нас не хапае? (Голас з месца: «А шмат чаго»). Чаго ў нас няма? (Голас з месца: «Таксама»). Усяго ў нас ёсць, усяго ў нас хапае. Дык што ж мы маем рабіць? (Тыя двое зноў закасалі рукавы). Ціха! Я не пра тое… Мы мусім узгадоўваць надзеі! І я кажу, што мы смела можам вывесіць на навагоднюю елку 1942 году сярод іншых цацак і нашыя надзеі. (Голас з месца: «Елка абломіцца»). Ціха! Зноў кажу: смела можам вывесіць надзеі, якія яшчэ не страчаны. (Голас з месца: «Тады не абломіцца»). Дык жа, спадары, я выпіваю вось гэты келіх разам з вамі (галасы: «Bis, bis») за нашыя надзеі на новы год. Хай жыве! (Галасы: «Жыве! Ура! Віват!»)

Прамоўца сеў хістаючыся. Навагодні трунак нацыянальнае маркі «Самавыкурка» быў надта моцным.

* * *

Хаціна на ваколіцы. У хаце чыста і прыбрана, утульна. У куце стаіць упрыгожаная елка. Хату ярка асвятляе ліграін у дзесяцёхлінейцы. За сталом гаспадар, Мікола Пацяруха, з жонкай і дзецьмі ды госці: камароўскі жыхар Бэндрык, бухгальтар Янка Дручок і былы

тэхнік Мікіта Грак. Усе з жонкамі. Роўна а 12-й госці ўстаюць і падымаюць чаркі:

— З Новым Годам! З новым шчасцем! Дай жа Божа і на лета тожа! Віншуем! Вітаем!

Госці п'юць, моршчацца і закусваюць.

— Пяршак — першы гатунак, — хваліць гаспадар. — Тысяча фенінгаў паўпляшкі.

Пасля чацвёртай чаркі гаспадар бярэ слова:

— А я так кажу — усякаму сваё. Вось вы ў мяне ясцё і п'яцё, а мне пляваць, мне не шкада! А чаму? А таму што ў мяне, дзякаваць Богу, ёсць, а ў вас няма. Мне вайна што? Мне хоць штодня вайна, дык я і то не страчу, а наадварот. А вы што?

Тут гаспадар сплёўвае.

Пасля пятай чаркі Дручок падсеў да тэхнікавае жонкі. Пасля шостай — Пацяруха абазваў сваіх гасцей дурнямі. Пасля сёмай — пачаўся агульны дыспут аб вайне. Па дзясятай чарцы гаспадар абазваў гасцей свіннямі, а пасля эннага келіха дыспут прыняў форму невялічкага канфлікту паміж тэхнікам і Дручком, які тут жа і пачаў развязвацца. Канфлікт быў зліквідаваны пад раніцу, без удзелу службы парадку.

Навагодні трунак нацыянальнае маркі «Самавыкрутка» ў гасціннага Пацярухі быў прыняты ў занадта павялічаных дозах.

## САМАГОННАЯ ЎПРАВА

Старшыня воласці атрымаў чародны загад. Ну, загад, у вабставінах працы воласці, з'ява звычайная: начальства зверху любіць рассылаць загады.

— На тое яно і начальства, каб пісаць, — кажа старшыня воласці, калі бярэ ў рукі чародны загад.

Зазвычай старшыня, атрымаўшы пакунак загадаў, даець ім належную ацэнку: гэты, прыкладам, да выканання, гэты ў стол — пачакае, а гэты — беспасярэдне ў кошык. Але загад, атрыманы сяння, збіў старшыню з панталыку і парушыў усю ягоную выпрабаваную сістэму кіравання. Старшыня, хоць трэсні, не ведаў, да якой катэгорыі яго аднесці. Найпрасцей было б шпульгануць яго ў кошык, і на гэтым — канцы. Але старшыня любіў сістэму і не адыходзіў ад яе ні на крок. Ён прачытаў загад яшчэ пару разоў, паскроб у патыліцы і нарэшце звярнуўся да пісара:

— Панцялей Якавіч! Вось тут загад з раёну… калі ласка.. А пасля мне даложыце…

Прагледзіў загад і пісар. Ён таксама паскроб у патыліцы і звярнуў паперку старшыні.

— Не разумею, спадару старшыня, будзьце ласкавы, прагледзьце самі.

— Ну дык і я ж таксама не разумею, — прызнаўся старшыня, — А што рабіць?

— Трэ звярнуцца да настаўніка, — параіў пісар. — Ён адукаваны.

— Згода!

Паклікалі настаўніка. Той не прачытаў і двох радкоў, як выхапіў із кішэні аловак і пачаў штосьці крэмзаць. Калі ён звярнуў загад старшыні, той астаўпеў: загад быў увесь скрэмзаны чырвоным алоўкам, а ў канцы дапіска: 50 памылак!!! Вельмі дрэнна!!!

Калі старшыня прыйшоў да прытомнасці, ён ледзь мог вымавіць:

— Мікола Ігнатавіч, вы ж мяне без нажа зарэзалі. То ж не школьны сшытак, а загад, загад начальства! А хіба ж яно можа быць неппісьменным?

Тут умяшаўся і пісар:

— Справа не ў памылках, спадару настаўнік, вы нам растлумачце сэнс загаду. Разумееце — сэнс!

— Сэнс? — здзівіўся настаўнік, — сэнсу тут няма!

— Як няма сэнсу? Гэта ж піша раённае начальства, а яно…

Але настаўнік не даў скончыць:

— Няма сэнсу, кажу, няма і ўсё!

Завярнуўся і пайшоў, ды ўжо ля дзвярэй дадаў:

— Бяссэнсіца! Nonsens!

Старшыня і пісар даўжэйшы час маўчалі, пазіраючы на пакрэмзаны загад, але паперка, далучаная да загаду, вымагала чынаў. Бо там станоўка гаварылася, што «дадзены загад павінен быць зараз жа даведзены да ведамасці абываталяў і да выканання».

У той самы дзень сяляне, прыйшоўшы ў воласць на сходку, слухалі наступны загад:

*ЗАГАД*

*У сувязі з тым, што ў Маладэцкім Раёне распаношылася самагонная безкарная ўправа перапрацоўкі дабра на водку.*

*Гэтая работа даводзіць да нядобрых скуткаў: у першую чаргу, шчагульна ў сучасным мамэнце уменшваецца для беднай люднасці хлеба*

*на вясну, паднося даражызну, чым заграждае галадоўка, запанаванням эпідэміі; у другім выпадку піанства, лайдацтва, хуліганства, бойкі і руйнаванне матарыяльна-сямейнага жыцця і таму падобных прыпадкаў, а патрэцяе, даводзя вялікі ўпадак маральнасці сярод жыхарства.*

*Па гэтаму загадваю, каб з днём паяўленства гэтага загаду натыхмястова перасталі пад кожным відам і пазорам перапрацоўваць дабро на водку, або ў праціўным разе буду карміць віноўных грыўнай, арыштам, і канфіскатай усёй маёмасці.*

*Такуюж кару буду стасаваць да гр. гр. войтаў гмін і солтысаў у каторай гміне і мясцовасці будзе талеравацца вышэй паданая перапрацоўка дабра на водку, яе распіванне і гандаль які будзе ўяўлены праз органы паліцыйнае і нябудзе ведзяная спецыяльная барацьба проціў самагоншчыкаў. Нават нябудзе тут выключана паліцыя ад вышэй паданай адказнасці пры талераванню барацьбы для ўкрачэння гонкі самагону.*

*Кары ў граніцах ад 100 да 10.000 руб. і 6 месяцаў турмы.*

*Начальнік Раёну Л. Уневіч.*

*Маладэчна, дня 17.1.1942 г.*

— Ну як, браточкі, зразумелі? — звярнуўся старшыня да сходкі.

Сяляне маўчалі і пазіралі на самага разумнага гаспадара на сяле, Сымона Крука: «Што той скажа». Нарэшце загаманіў Сымон Крук:

— А што тут разумець? Усё ясна як фенінг. Раз ужо і паліцыю пацягнуць да адказнасці, калі яна будзе тайраваць барацьбу для ўкарачэння гонкі самагону, то мы, ведама, не супроць. Гналі раней, чаму ж і далей не гнаць? Мы не супроць. Гнаць будзем.

На гэтым сходка разышлася. Але не ўсе дзядзькі былі згодныя з тлумачэннем Сымона Крука.

— Чорт яго ведае — ці гнаць, ці не гнаць? Так і не зразумеў, — казаў сусед суседу.

— Без чаркі тут, браток, не разбярэшся. Давядзецца гнаць.

Кажуць, што гэтым вечарам шмат сялян закалбацілі брагу на самагон. Кажуць таксама, што старшыня і пісар воласці разбіралі гэты злаякасны загад да поўначы, а пасля так нарэзаліся самагону, што стораж выліў на іх цэбар вады, пакуль ачунялі.

Вось чаго часам можа нарабіць загад!

Яшчэ кажуць, што ў Маладзечанскім раёне такія загады не навіна, што бываюць і яшчэ ямчэйшыя, і што загады гэтыя рассылаюцца там пачкамі.

Браточкі, спадары! Уявеце, што ж мае дзеяцца ў гэтым самым «Маладэцкім» раёне, дзе «распаношылася безкарная самагонная ўправа», ды яшчэ пры такой загаднай актыўнасці ягоных кіраўнікоў! Жах бярэ!

Мы, ведама, не супроць загадаў. Загады — рэч патрэбная, але тады, калі яны талковыя і зразумелыя ўсім. Калі ж загады будуць паводля загадаў Маладзечанскай управы, то ўжо тут справа не толькі ў непісьменнасці, тут ужо пахне чымсь іншым. Такую непісьменную бязглуздзіцу, якое і п’яны не выдумае, рассылаць як афіцыйную паперу пад беларускай шыльдай — гэта ўжо ёсць шкодніцтва.

Нам тут цікава адно: ці ведаюць пра загады Маладзечанскае ўправы акруговыя ўлады і калі ведаюць, дык якую кару яны наклалі на гэтых мудрагельскіх аўтараў злаякаснага загаду? Бо кары, прадугледжанай апошнім пунктам гэтага загаду — «у граніцах ад 100 да 10.000 руб. або 6 месяцаў турмы», — ім замала.

## ПРЫВАТНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Сяння пайшоў па сваёй парафіі.

Трэба сказаць, што я надта люблю далікатнае таварыства, а таму ўсе прыяцелі мае — людзі высока культурныя, асвечаныя, прыкладам, фельчары, бухгальтары, дактары, ёсць нават магістры. Часу вольнага ў мяне небагата, але ж трэба і прыяцеляў адведаць. Сустрэнемся, думаю, паталкуем пра сёе-тое, а можа, дзе і аб чарку спаткнёмся. Пайшоў.

Першага наведаў бухгальтара Пупкова. Той сустрэў мяне ветліва, нават гарохаўкай пачаставаў, але чаркі, гад, не паставіў. Я сёрбаў гарохаўку і хваліў:

— Жывеш ты, — кажу яму, — як цар, прыкладам, не працуеш, а тымчасам гарохаўка на стале. Як гэта разумець?

Пупкоў усміхнуўся:

— Жыць трэба ўмеючы, — кажа, — таму, браток, і жыву, што не працую. Прыватная ініцыятыва — справа надзейная. Ага! — спахапіўся Пупкоў, — ці няма ў цябе, браток, гумовай грэлкі?

— Гэта якой? Што на жывот кладуць?

— Ну, але. Звычайнай.

— Не, — кажу, — няма, жывот у мяне ад бэнэсаўскай заціркі не баліць, а ногі грэць яшчэ не трэба. А навошта табе гэта гумовае прыладдзе?

— Тут у мяне, бачыш, адна геніяльная камбінацыя наспела. Як ведама, транспартаванне самагонкі з Заходняй штораз пагаршаецца — адбіраюць, ліха матары, як бы не маскаваў. Вось я і надумаў: каб, скажам, нацадзіў у гэта гумовае прыладдзе першаку, прычапіў да пупа і едзеш сабе, як у Бога за пазухай. Як тваё зданне?

Тут я Папкова троху запалохаў:

— Бясспрэчна, — кажу, — вынаходка геніяльная, але тымчасам рызыкоўная.

— Чаго рызыкоўная? Ані звання.

— Як жа не? Вось ты, скажам, сядзіш на санях, носам дзяўбеш, а гумовая торба возьме ды і покне. Куды пацячэ пяршак? Ага! Ды на марозе… Тут, браток, можна страціць самае галоўнае…

Пупкоў крыху збянтэжыўся:

— Праўда, — кажа, — рызыка ёсць, але ў прыватнай ініцыятыве без рызыкі не бывае.

— А як абкалечышся?

— Глупства, — кажа, — ты ўсё ж мне дапамажы. Распытай у знаёмых. Будзь ласкаў.

Я абяцаў і занатаваў у блакнот-памятку: «Просьба № 606. Пупкову — гумовая торба».

Ад Пупкова я пайшоў да Грымзайлы. Ён калісь, пры саветах, працаваў дрэнным інжынерам, а цяпер на бойні ці кагось лупіць, ці штось падмятае — дакладна не кажа. Грымзайлу заспеў у вялізнай роспачы. Што б вы думалі?.. Гэты недалуга згнаіў цэлы мех трыбухоў. Пакуль ён выгадваў ды чакаў больш зручнай кан’юктуры на мясцовым рынку, тымчасам трыбухі сапрэлі. Атрымался жудасная страта, бо тавар давялося збыць за бясцэнне: па 5 рублёў ад трыбуха. З гэтай прычыны ў хаце панавала агульная жалоба. Таму я ў Грымзайлы і не затрымліваўся, нават пра гумовую торбу не ўспомніў. Паспачуваў крыху ды і пайшоў. А што я меў рабіць? Сваім жыватом не залатаеш такога гіганцкага гаспадарчага пралому, а больш у мяне нічога лішняга няма.

Ад Грымзайлы накіраваўся да доктара Прыпякальскага.

Той, думаю я дарогаю, так бы не схібіў, як Грымзайла. Той бы не накідваўся на трыбухі, а нацэліўся б на ногі або на галаву. А з нагамі ды з галавою, кажуць, не прападзеш.

На рагу нейкай былой вуліцы мае разважанні перапыніў чыйсь грубы голас:

— Здароў! Як маешся? Чаго дулю звесіў?

Гляджу, ажно гэта мой стары супольнік у нейкай навуковай працы, Пацярухай завуць.

— Здароў, — кажу, — як ты маешся? Дзе працуеш?

— Нідзе не працую. А навошта працаваць?

— А як жа ты жывеш, калі не працуеш?

— Перабіваюся. Два дні з чаркаю, а трэйці так.

— З якіх гэта, дазвольце, крыніц?

— Прыватная ініцыятыва. Два разы ў Слуцак, раз у Заходнюю, вось і ўсе крыніцы. Ну, бывай, спяшаюся да сястры па тавар.

— Пачакай, — затрымаў я Пацяруху, — ці не маеш ты часам гумовай торбы?

— Гэтай, што на жывот? Не, няма. Камара ёсць, горадзенская махорка, бюстгалтары — таксама; магу прапанаваць рашпілі і бастонавы гарнітур, а торбы няма.

— А можа дастанеш?

— Ды чаму ж не? Дастану. Ну, бывай.

Мы развіталіся. Я зноў занатаваў у блакнот: «На просьбу № 606. Гумовую торбу дастае Пацяруха».

Вось гэты, думаў я, таксама з лапця агонь высеча. Ён бы трыбуху не згнаіў.

Прыпякальскага дома не заспеў. Паехаў на вёску, павёз рыцыну і патэфон мяняць на шмальц. Вось няўдача! Тут бы чарку напэўна адхапіў. З гора зайшоўся да знаёмага артыстага, Лупіч-Задунайскага, думаю, можа, гэты чым развесяліць. Але і тут не пашанцавала, трапіў якраз на сямейную драму. Жонка Задунайскага лупцавала геніяльнага артыстага старым чаравіком і лямантавала:

— Сачы за жыццём, лунацік! Не вісі ў паветры! Сачы за жыццём!

І зусім слушна: той прыдбаў для абмену зусім не сезоннага тавару. Замест картовых нагавіц або юхтовых ботаў ці хоць бы цвікоў ён прыцяг тузін капелюшоў і нейкіх фельдперсавых панчох. Ну які ж гэта тавар для вёскі? Смехата.

Сямейных драмаў я не паважаю, а таму хутчэй накіраваўся да былога адваката Ярышкіна. Ведаў, што той жыў несамавіта, бо якія ж цяпер шансы ад грамадзянскага кодэксу?

Але ў Ярышкіна мяне чакала прыемнае расчараванне: хлопец акрыяў, пагладзеў, акапялюшыўся.

— Нешта, — кажу, — пад цябе падсыпалася, што ты так пахарашэў.

— Выпадак, братка, больш нічога. Мой знаёмы фельчар, Клізмовіч, трапіў на нейкае аржаное месца. Мае пэўныя стасункі з раёнамі,

вольнае хаванне і перавоз еміны, знацца, возіць збожжа, меле, выпякае і прадае з прыпёкам, ну а мне як прыяцелю із скідкай, па 25 руб. за кілё. Так вось я і акрыяў.

— І шмат, кажаш, прадае гэты фельчар?

— А шмат. Пудамі.

— Просты фельчар?

— Зусім звычайны, але з ініцыятывай.

— Божухна, — кажу я, — просты фельчар. А каб жа такія шансы ды меў доктар або, крый Божа, магістра, якую б развінуў аперацыю! Неба пацямнела б! Вось што значыць навука.

— Так, браток, — кажа Ярышкін, — навука — магутная зброя, асабліва калі яна ў спрытных руках.

— А як гэтая мукамольная аперацыя, — пытаюся, — выглядае з праўнага пункту гледжання? Адносна закону?

— Бачыш, тут справа густу, а юрыспрудэнцыя — хітрая штука: пад які артыкул падвядзеш…

Я шчыра пацешыўся з удалага павароту Ярышкінавага лёсу і пайшоў дахаты. Дарогаю мяне спанавалі сумныя думкі.

«Колькі, — думаў я, — культурнага люду занята гэтай "прыватнай ініцыятывай". Праўда, часіна трудная, нястачы агульныя, кажны ўрэпіўся ў собскі жывот, кажны бароніцца як можа. Пры такой акалічнасці, ведама, няма нічога дрэннага ў тым, калі чалавек абмяняе лішнія нагавіцы на гарох або патэфон на бараніну. Але колькі ж карыснага часу з'ядае гэты абмен, колькі сілы і працы гіне марна?»

Тут я ўспомніў, што неяк чытаў у «Беларускай Газеце» артыкул пра кааперацыю. Там ідзе пералічэнне розных кааператываў. Іх там налічана блізу 20 гатункаў. Ёсць нават такія, праз якія можна жаніцца. Што ж, думаў я, і гэта нядрэнная рэч, калі на ахвотніка, але чаму, думаў я, няма такога кааператыву, куды б я, скажам, панёс свой пінжак (ён яшчэ не зусім дрэнны), а там далі б за яго, прыкладам, пансаку або лою, ці, скажам, прывалок бы шафу, а мне насыпалі б, ячнай мукі, а не, дык бульбы. У такім разе, варажыў я, можа б і не было таго, што цяпер ё. Можа б, тады і Грымзайла не згнаіў трыбухоў, а можа б пры такой форме абмену і Лупіч-Задунайскага жонка хадаком не частавала б? Ды хто, зрэшты, ведае, можа б і Пупкоў не шукаў гумовай торбы для транспартавання заходняга першака пры собскім пупе і не рызыкаваў бы?

Але ж такога кааператыву няма. І тымчасам прыватная ініцыятыва ў пытаннях першапачатковага абмену вырастае з сваёй дзіцячай

кашулькі і мясцінамі прыймае форму звычайнае спекуляцыі. І страшна тое, што спекуляцыйная бацыла пранікае не толькі ў фельчарскі арганізм, а часам нават і ў доктарскі. Тут ужо, браточкі, пагроза для здаровага ўвогуле арганізму нацыі, бо хворы доктар — не лекар.

Такія сумныя думкі апанавалі мяне праз гэту самую «прыватную ініцыятыву», калі я варочаўся з абходу свае парафіі.

А як думаеце вы, грамадзяне спадары? Каб была такая крама? Можа, і лепей было б? Можа, тады б і прыватная ініцыятыва пайшла ў іншым, больш карысным для грамады, кірунку? Давайце, як калісь казалі, супольна прапрацуем пытанне на тэму: ці для ўсіх карысна прыватная ініцыятыва, калі яна ў кірунку жывата, асабліва пры сучаснай акалічнасці?

Падумаем, грамадзяне спадары! Гэта не зашкодзіць.

## ПЫТАЙЦЕСЯ — АДКАЖАМ

### Што такое Трэуганд?

Не ведаеце? Ну і мы не ведаем. А ў Вілейцы ёсць нешта такое. І вось гэтае нешта, якое поўнасцю завецца ЦО Абл. Трэуганд, 11-га траўня разаслала ўсім раёнам па 70 экз. адозвы з наступнай цыдулаю:

*«Пасылаючы пры гэтым 70 экзэмпляраў адозвы ў справе збірання зелля (лячэбнай расліны), ЦО загадвае Раённаму бургамістру натыхмястова даць усім падыладным сваім гмінным бурмістрам загад, каб тая адозва была неакладна вывешана на дамох у усіх вёсках і каб салтысы і вучыцелі пазнаёмілі насельніцтва з адозвай, а наступна каб усё насельніцтва неакладна прыступіла да збірання упамянутага ў адозве зелля.*

*Бранаючую колькасць экземпляраў адозвы Гмінные бурмістры выконваюць у уласным закрэсе.*

*Копію сваяго загаду ў тэй справе прыслаць у ЦО Абл. Трэуганд Вялейка, вул. Каліноўскага, № 8.*

*Кіраўнік».*

Раёны зрабілі, што трэба, з гэтаю адозваю, але насельніцтва, як толькі падсохла зямля і прыгрэла сонейка, то заместа таго каб «усім неакладна прыступіць да збірання ўпамянутага ў адозве зелля», распаўзлося хто куды: дзядзькі ў поле, жанкі на гародах паселі, а дзеці кароў на абмежкі пагналі.

Цяпер раёны пытаюцца, па-першае, чаму УСЁ насельніцтва не рынулася на зёлкі, па-другое, як зрабіць «бранаючую колькасць адозвы ў уласным закрэсе» і, па-трэйцяе, што такое Трэуганд?

Наконт упамянутага ў адозве зелля вам з гары гарантуем, што ўсё насельніцтва яго не будзе збіраць. Як будуць зёлкі, то некаторыя, хто мае вольны час, назбіраюць іх досыць. Што ж да «уласнага закрэсу», то нам здаецца, што гэта трэба разумець так: тую колькасць адозвы, якой вам не стае, вы сваяручна закрэсліваеце, г. зн. ставіце на ёй крыж. Вось толькі што да трэйцяга нічога не можам вам сказаць. Што за істота гэты Трэуганд — даруйце, не ведаем. Наконт розных скарачэнняў вялікія майстры былі бальшавікі, але яны так далёка сіганулі, што ўзяць ад іх кансультацыю немагчыма. Давядзецца вам сваймі сіламі развязваць гэтую шараду.

## Дзе дастаць талон на пінжак?

Гэтым надта цікавіцца службовец Альхоўскай валасной управы, ён жа новапрызначаны ўрадовец цывільнага стану пры тэй самай управе І. Я-кі. З гэтага поваду ён піша начальніку раённае ўправы ў Іллі наступную заяву, якую падаём не змяняючы:

*«З увагі на тоя што мне прыдзеляна абавязкі ўрадоўца цывільнага стану пры Алькоўскай Валасной Управя пасаўмясціцэльству, пазваляю сабе падчаркнуць, што праца ў Канцэлярій воласці і гэта Урадоўца патрабуе пільнасці заўвагі і каб афарміць усе дняўныя запісі, кнігі, рахункі патрэбна штодзённа працаваць па гадзінах урадовых — вэчарамі. Акрамя гэтага трэба мець культурный выгляд — быць чыста апранутом на запалучаемые грошы можна пражыць толькі некалькі дзён.*

*З увагі на вышэйпрыведзеные прычыны прашу дабавіць мне месячнае жалаванне, да у дабавок прошу указаць дзе я смагу дастаць талон на закупно матарьяла на піджак ці касцюм каб пры выканаванні службовых абавязкаў быць чыста апранутым».*

Зусім слушна, спадару І. Я-кі, што вы дазволілі сабе «падчаркнуць», бо ваша палажэнне запраўды крытычнае. Калі шчэ без пінжака і можна сяк-так «афарміць усе дняўныя запісі», то мець культурны выгляд без нагавіцаў — ужо, даруйце, нельга. Дзе ж шукаць выйсця з гэтага палажэння? Колькі нам ведама, ніякіх талонаў на пінжакі і нагавіцы шчэ не даюць, падвышаць заробак таксама не дазволена. Значыцца, пры сучасным стане раённыя ўлады бездапаможныя. Не маюць яны

адпаведнай моцы, каб надаць службоўцу І. Я-каву належны культурны выгляд. Тут адзінае, што можна зрабіць — гэта падшукаць чыста апранутага, а галоўнае, больш пісьменнага хлапца (такі знойдзецца напэўна) і пасадзіць яго на месцы І. Я-кага. Па-першае, чыста апрануты хлапец будзе мець і культурны выгляд, а па-другое, пісьменнаму не трэ будзе знясільваць сябе і працаваць па ўрадовых гадзінах, бо шустры хлапец за свой урадавы дзень так «аформіць» усе гэтыя кнігі ды рахункі, што і камар носа не падточыць.

Так і зрабеце, спадары альхоўцы! Навошта чалавека мучыць! Хай лепш ярыну дасявае.

## Як гэта называецца?

*«Да нас у Барысаў прыехаў карэспандэнт газеты "Новый Путь". Скрозь лазіў, фатаграфаваў. Зайшоўся, між іншым, і ў наш народны Дом, дзе гэтым часам аматарскія сілы ладзілі канцэрт і выступаў наш беларускі хор. А праз тыдзень мы атрымалі № 33 газеты "Новый Путь", дзе змешчаная фатаграфія хору, а пад ёй подпіс: "Нядаўна ў горадзе Барысаве адбываўся эстрадны канцэрт, у якім бралі ўдзел артыстыя і аматары. З вялікай удачаю ў канцэрце выступіў нядаўна зарганізаваны народны хор, які выканаў колькі расейскіх ды іншых народных песняў".*

*Наш беларускі хор існуе ўжо колькі месяцаў і за гэты час, апрача беларускіх і трохі ўкраінскіх, ніякіх іншых песняў не спяваў. Як называецца такое ашуканства? Барысавец».*

Па-вучонаму гэта называецца «sviadomus pamyleus», а па-нашаму — так проста і называецца: ашуканства. Але дарэмна абураецеся, спадару Барысавец, бо калі карэспандэнты «Новага Пути» стануць на такі новы шлях, то яны пойдуць занадта далёка і ўжо назад да Вас не вернуцца. Ваш беларускі хор не зробяць расейскім.

## Ці правільна робіць доктар?

Грамадзянін С-іч пытаецца, ці правільна робіць доктар Ам. З-кага раёну, калі:

*«Атрымаўшы ад менскага аптэкакіраўніцтва лякарства — спірт для націрання і г. д, хворым не дае, а запрашае старшыню воласці ды настаўнікаў і спраўляе імяніны і г. д., распіваючы спірт, а хворым не дае. Так было 21-га, калі ў доктара выпівалі і выдулі 10 літраў, атрыманага для хворых, спірту. Такія п'янкі праходзяць штодня. Ці правільна робіць доктар? Хварэўшы С-іч».*

Вы, спадару С-іч, мабыць, шчэ не зусім здаровы, калі пытаецеся пра такія простыя рэчы. Зразумела, лекар робіць правільна. Мяркуйце самі, якая можа быць кумпанія з хворым, калі ён і без чаркі пластом ляжыць? Ні з ім пагутарыць, ні паспяваць. А другому хвораму дай ладны кілішак, то ён і Богу душу аддасць. Іншая рэч — здаровае культурнае таварыства. Тут можна такога надзівачыць, што неба пацямнее.

Калі зірнуць на справу з навуковага гледзішча, то лекар Ам. — таксама чалавек справядлівы, бо, як сцвярджае навуковая медыцына, алкаголь — гэта атрута. І калі лекар глытае атруту сам, а хворым не дае, то гэта ўжо з ягонага боку самаахвярнасць.

Што ж да націрання, то тут ужо, даруйце, — не нашая з вамі кампетэнцыя. На тое ён і лекар, каб ведаць, якімі зёлкамі каго націраць. Вам хочацца спірытусу, а можа, вас трэба шпігінарам церці або ляпісам? Думаеце, не будзе шчыпаць? Ого! Шчэ і як шчыпле!

Адно што нам здаецца трохі дыскусійным — гэта лекарская доза. Бо калі вашая мясцовая інтэлігенцыя ўжывае атруту ў такім памеры чысцяком, то жыхарства воласці рызыкуе застацца і без медыцыны, і без культурнае сілы. Бо запраўды, 10 літраў за адзін вечар — доза нават і для лекараў небяспечная.

## «КІМ БЫЦЬ, КАБ ЛАСА ЖЫЦЬ?»

Неяк увесну наведаўся да мяне мой знаёмы, Сашка Ірванцоў. Прыйшоў ён раззлаваны, нездаволены, пахмурны.

— Годзі! — кажа, — не магу маўчаць!

— Дык гавары, — параіў я, — калі ўжо так падпёрла... Аб што йдзе?

І Сашка звярнуўся да мяне з такім пытаннем: «Скажы, калі ласка, кім сяння быць, каб ласа жыць?»

Прызнацца адразу, як кажуць, з месца адказаць на гэтае каведнае пытанне я не здолеў і таму маўчаў. Сашка пачаў зноў:

— Ты Мікіту Пятроўскага знаеш?

— Знаю, — кажу, — хлапец дармо... важкі.

— А Міколу Катовіча бачыў? Ягонае аблічча?

— Нічога, — кажу, — аблічча файнае, бы кола, і чырвонае.

— А Янку, што наўскасяк ад яго жыве, заўважаў?

— І гэтага, — кажу, — заўважаў, таксама гладкі, бы рэпіна.

— А Рудзіцкага, а Евіча, а Прыборшчага…

Ірванцоў налічыў штосьці блізу дваццаць нашых знаёмых, якія ўзнімаліся над агульнай шэрай масай або чырвоным аблічам, або круглым жыватом.

— Ну як, — кажа, — на твой погляд, гэтыя людзі, жывуць ці не?

— Бачыш, як глядзець… з аднаго боку, — кажу, — як бы і жывуць, але калі зірнуць з другога боку, то…

— Ты мне пра бакі не мялі, — перапыніў Сашка, — а скажы проста, бо я табе пытанне стаўлю рубам.. Ты хацеў бы так жыць ці не? Прызнайся!

Прыпёрты да сцяны, я мусіў адказаць, што хацеў бы…

— Ну, вось бачыш, — усміхнуўся Ірванцоў. — А цяпер я ў цябе яшчэ раз пытаюся: хто з гэтых пералічаных людзей разумнейшы — я ці яны?

— Ты, — кажу. — …Безумоўна, ты! Разумнейшы за іх усіх найменей у дзве столкі.

— Дык чаму ж, — крычыць, — я так не жыву, як яны!? Чаму!?

І пачаў мяне зноў тэрарызаваць рознымі пытаннямі і выгукамі.

Я спрабаваў, як і раней, адцягнуць думкі Ірванцова ад матэрыяльнае глебы і скіраваць у іншы бок.

— Бачыш, — кажу, — рознае жыццё бывае… Ось, прыкладам, ёсць духовае жыццё.. багатае, узвышанае, якое…

Але дарэмна — Ірванцоў не даў давесці да канца маю думку.

— Ты, — кажа, — што, у марсіяны падаўся ці проста лунацік? Што ты мне ўсё пра духовае чаўпеш, калі я жыць хачу! Разумееш, жыць!

Ірванцоў пры гэтым шпарка раскінуў рукі, быццам хацеў падгарнуць пад сябе ўсю жыццёвую асалоду. Гэты красамоўны гэст мяне пераканаў, што Ірванцоў як быў, так і застаўся станоўкім чалавекам, і яго не саб'еш спанталыку ніякай духовай стравай.

— Ты мне лепш парай, — зноў пачаў Ірванцоў, — куды лепш падацца, якую із сваіх спецыяльнасцей пусціць цяпер у ход, чым на сянння, як кажуць, фахаваць?

Трэба сказаць, што ў Ірванцова розных спецыяльнасцей — больш, як у іншага валасоў, і ён можа, заплюшчыўшы вочы, фахакаваць па якой хочаш лініі.

— Ну што ж, — кажу, — калі так справа стаіць, то будзем меркаваць, куды табе падацца.

— Ты, — кажу, — у паэты не хочаш? Цяпер гэта справа простая.

— Звар'яцеў? Што я там, паперу буду грызці?

— У чыноўнікі пойдзеш?

— Не, таксама нуда.

— Ну, то фахуй на каапэратара. Гэтая справа заўсёды была емная. Тут усушка, там утруска, ■ там падмачыла…

— Дрэнь, — кажа Сашка, — мацаў і з гэтага боку. Драбяза. Заходжу надоечы ў знаёмы каапэратыў, а там два дзецюкі, як дубы, паласуюць цыбулю ды хлебам заедваюць, а на паліцах — толькі пыл, нічагуткі больш. Ну, што тут спажывеш? «Дайце, — кажу ім, — хоць цыбулі, чэрці». «Во чаго захацеў, — здзівіліся. — Цыбулі! Сваю прынясі, тады і закусвай». Ну, які гэта парадак, каб на вяселле ды із сваёй лыжкай…

— Але ж, — кажу я, — тымчасам закусваюць, значыцца, нейкія крыніцы ёсць.

— Эт, якія там крыніцы? Так, мабыць, слёзы нейкія. Хіба з шылу кропляў націскаеш? Мне трэба па большым кавалку адрываць.

— Ну, то ў такім разе кіруй на доктара. Сам будзеш за галоўнага, жонка — у памагатары, цешчу, скажам, можна касталяншай прыляпіць, цесця ў які-небудзь морг запхнеш, туды швагру ўсунеш, сваю сваццю ўткнеш. Браток! Тут, калі справу паставіць із галавою, дык не толькі хворага — здаровага можна на той свет выправіць, і ўсё будзе ціха. А харчы? А лекі? Калі іх за натуру пусціць, скажам, на яйкі або сала.. Ого! А хвораму што — яму ж усё роўна паміраць…

— Усё гэта, — кажа Ірванцоў, — я і сам добра ведаю і мацаў ужо грунт із гэтага боку. Але ж паспрабуй сяння ўціснуцца туды, там больш дактароў, чымся хворых. І носа не ўткнеш.

— Дрэнна, — кажу. — З гэтага боку, выходзіць, заела. Ну ■ што, каб ты ў прафесары падаўся? Колісь гэта быў нядрэнны фах.

— А на сяння — дрэнь, — кажа Сашка. — Надоечы із сваім суседам-прафесарам хадзіў дровы цягаць, дык той прызнаўся, што кідае ўжо сваю прафесію, будзе мыла варыць.

— За мылавара пайшоў?

— Больш, — кажа, — шансаў.

— У такім разе, кіруйся на інжынера. Таксама нядрэнна.

— А што сяння будавацьмеш, калі ўсё разбудоўваць трэба?

— Ды не, — кажу, — я не пра такога інжынера, каб будаваць ці там што іншае ляпіць, а так, наагул інжынера… Проста назоў сабе такі прычапі, а з гэтым назовам акурат трапіш на якое-небудзь аржаное месца.

— А можа, ты і маеш рацыю, — задумаўся Ірванцоў, — на ўсякі выпадак занатую.

— А то, — кажу, — нядрэнна яшчэ было б злучыць усе гэтыя прафесіі — і доктара, і прафесара, і інжынера ў вадну, то з дапамогаю гэтае патройнае камбінацыі мог бы высока сігануць.

— А хіба ў жыцці бываюць такія камбінацыі?

— Чаму не? А калі і няма, то ты зрабі. Вайною ўсё можна.

— Не, — кажа Ірванцоў, — мне трэба што небудзь больш жывое, вясёлае.

— Ну, то падавайся ў артыстыя або ў паліцыю. І праца нядрэнная, і галоўнае — вясёлая. Прыкладам, ты артысты, выгульваеш якога-небудзь Атэлу — і народ задаволены, і табе шансы. Або, скажам, ты паліцыянт, ідзеш па рынку, а цёткі, якія з малаком, ад цябе як шуганууць ува ўсе бакі, толькі бідоны бражджаць. Пацеха!

— Слушна, — згадзіўся Ірванцоў, — праца вясёлая, але, на жаль, я ўжо з гадоў выйшаў.

Тут мы трохі падумалі.

— А што, — кажу я зноў, — каб табе па асветніцкай лініі падацца? З тваёю галавою?

— Крый Божа, — занепакоіўся Сашка, — ты толькі зірні, яны ж усе, як шкілеты. У іх вераб'ю няма чым пажывіцца.

— Яшчэ, — параіў я, — нядрэнна мець прыватны інтарэс. Мой знаёмы на гэтым інтарэсе такое сабе аблічча нагадаваў — за дзень не аб'едзеш. Жыве…

— Пакладзі сабе ў кішэню такі інтарэс, — пакрыўдзіўся Сашка, — хочаш, каб так, як із Сярожкам было?

Мы зноў памаўчалі.

— Адно мне застаецца, — кажа нарэшце Сашка, — фахаваць, браток, на западніка.

— А гэта што за спецыяльнасць? — пытаюся. — Хіба ёсць такая?

— Людзі кажуць — ёсць, і нядрэнны фах. Ды мне што? Паспрабую.

— Ну, то памагай Бог. Спрабуй.

На гэтым мы развіталіся.

Праз два месяцы я зноў сустрэў Ірванцова. Ідзе із сваім сябрам. Падпіўшы.

— Ну як, — пытаюся, — у цябе? Што чуваць? Чым на сяння фахуеш?

— Эх, — махнуў рукой Сашка, — спрабаваў ужо шмат чаго, але ласыя кавалкі ўсе паўз майго роту плывуць.

— А я так мяркую, — умяшаўся Сашкаў сябра, — што на сяння чым ні фахуй — усё роўна будзе. Адна турбота. Паспрабуем шчэ адну справу рушыць, калі і там праваліцца, тады ўжо зусім капут.

Надоечы я выпадкова наткнуўся на Ірванцова. Стаіць сярод рынку і выгуквае:

— А вось каму запалкі! Ёсць добрая скура! Налятай!

З аднаго боку пад пахай кавалак скуры, з другога — нейкія анучы, а кішэні напакаваныя рознай драбязгой.

Ці знайшоў, нарэшце, Ірванцоў свой ласы калавак? Не ведаю. Адно ведама, што ён шукае і будзе шукаць. А знойдзе — будзе драць кіпцюры, вырываць гэты ласы кавалак зубамі, пакуль не вырве. Для круглага жывата і чырвонага аблічча — ён ужо страціў усякае чалавечае аблічча.

Вайна із сваймі, ёй аднэй ведамымі законамі, шмат камуператасавала прафесійныя карты. Але людзі ваююць з вайною. Мой сусед — ад нараджэння шавец — і сяння стукае сваім малаточкам. Другі сусед, прафесар, прадаець апошні пінжак, але тымчасам цалюткі дзень скрыпіць пяром, піша навуковую працу. Трэйці сусед, слёсар, і сяння ад святла і да цямна шаруе напілкам. Што яны сяння настукаюць, наскрыпяць, нашаруюць — аднаму Богу ведама. Але яны змагаюцца.

Тысячы, мільёны людзей ваюють із законамі вайны, вялікімі намаганнямі стараюцца захаваць сваю прафесію. Тысячы, мільёны пакутнікаў вайны з надчалавечымі высілкамі ваююць з руйнуючай сілай вайны, каб утрымаць творчае жыццё. А спытайся ў іх, як жывуць.. «Ну што ж.. вайна. Трэба цярпець». І церпяць, і змагаюцца.

Але ж ёсць яшчэ Ірванцовы, ёсць Хапуновы, ёсць Загржэмбіцкія. Яны таксама ваююць з законамі вайны. Яны наагул не вызнаюць ніякіх законаў. Яны на ўсё плююць, усё падмінаюць пад ногі. Яны будуць таптаць жывых людзей, на ляту хапаць свой ласы кавалак, ступаць па галовах людзей, каб дапяцца да сваёй крыніцы…

Гэта — не здані, гэта — жывыя людзі. Але яны такія ж неадменныя спадарожнікі вайны, як нэндза і галеча, як голад і пошасць.

І яны таксама прыкрыя, але ж таксама і няўхільныя, як і сама вайна.

Гэта — ейныя крывыя ўсмешкі.

# ШУКАЙМА ЛЕКАРА

Размаўляем — выпіваем,
Засядаем — таксама п'ём.

*З народнае творчасці*

Сціплая ўрачыстасць з поваду адчынення сціплае ўстановы.

Прамоўца: «Паважаныя спадарыні, дазвольце мне сяння, калі скрозь завірліла і завіхурыла, адзначыць гэтую нашую сціплую ўрачыстасць з поваду… Дазвольце ад імя вынесці падзяку… Я прапаную…»

На заканчэнне прамоваў хор спявае «Мы выйдзем» і скачуць «Лявоніху».

— А цяпер, спадарыні, чым Бог паслаў… Прашу…

Госці стукаюцца чаркамі. Прамовы трываюць далей.

Другая ўрачыстасць з поваду закладзінаў культурнага падмурку.

Прамоўца: «Шаноўныя грамадзянкі і грамадзяне! Дазволю і я сабе сяння, калі наўкола зарунела і заквітнела, спыніцца і адзначыць нашую хоць і невялічкую, але тымчасам ладную ўрачыстасць… Я прапаную вынесці падзяку…»

Хор спявае, скачуць «Лявоніху».. дзвэнканне кілішкаў, сепаратныя выступленні, зноў кілішкі…

Трэйцяя ўрачыстасць з прычыны ліквідацыі…

Прамоўца: «Спадары! Сяння, калі наабапал забуяла і закрасавала, дазволю і я сабе спыніцца і прычыніцца да гэтае ўрачыстасці, каб уліць і сваю кроплю ў гэтае бязмежнае і перспектыўнае…»

Хор спявае, балет — «Лявоніху», джаз — на шклянках і кілішках…

Урачыстасць з поваду ўгодкаў.

Прамоўца: «Паважаныя спадарыні і спадары! Сяння, у гэты вялікі дзень, калі і вы, і я, і ўсе мы ўздыхнулі і ўздыхаем, я хачу кінуць позірк ажна ў глыбокую сівізну… Прапаную вынесці падзяку…»

Аркестра і хор: «Гімн», «Лявоніха», традыцыйны джаз на шклянках і карафінках.. Жыве!

Паседжанне ў сувязі з арганізацыяй…

Першы прамоўца: «Спадары! Падымаючы гэтую чарку, я хачу асягнуць гэтае неасяжнае, акрэсліць гэтае неакрэсленае, выразіць гэтае невыразнае і зразумець гэтае незразумелае… Выношу падзяку…»

Другі прамоўца: «Браты і сёстры! Узносячы гэты келіх, я хачу разам з ім узнесці гэта, яшчэ не адпаведна ўзнесенае… Уздзякуем…»

Трэці прамоўца: «Высока ўзнімаючы гэты кілішачак, я хачу таксама высока ўзняць…» (голас суседа: «Шаноўны, ад вас закапала»).

Дзясяты прамоўца: «Спадары! А я ўзнімаю чародны кілішак за ўсё тое, што яшчэ не ўзнятае… Трэба падзякаваць.. Спадары, вып'ема!»

N-ы прамоўца: «Спадары! Падымема, каб паставіць ізноў. Спадары! Годзе піць!» (Галасы: «Падліць яму шчэ. Мікола, цадзі!»)

Паседжанне трывае далей…

Урачыстае прыймо.

Адчыняецца пад акампанемент гітары. Сола выконвае «Ах, эти черные глаза»… Звон чарак, кволыя гукі гітары, лёгкія салёныя размовы. Канчаецца прыймо джазам на відэльцах, а таксама і кілішках.. Жыве! Няхай сабе жыве!

Урачыстасць з поваду заканчэння.

Прамоўца: «Спадары! Сяння, калі кругом і наўкола закрынічыла, як ніколі.. запрапанавана вынесці падзяку…»

Гімн, «Лявоніха», акампанемент на кілішках…

* * *

Ну, дык як вам усё гэта падабаецца, спадары, грамадзяне? Нядрэнна? Гм.. знаўцы кажуць, нядрэнна.

А што, спадары, каб без гэтага акампанементу? Без дрэннае спадчыны — трафарэту? Бо ці не здаецца вам, шаноўныя, што на сяння ў нас залішне вільгаці, што мы хварэем на «грамадскую вадзянку»?

Спецыялісты цвердзяць, што хвароба гэтая ўедлівая, застарэлая, як кажуць, хранічная, але залячыць можна. Хворага трэба пырскаць жывой крынічнай вадой, даваць лазовыя прыпаркі, націраць дубовым галлём, тры разы на дзень даваць бярозавай кашы. Калі ж гэтыя зёлкі не памагаюць, то запрашаюць кастаправа або хвор выкурваюць, для чаго ўжываюць ядловец і шпігінар. Хвароба знікае.

Дык ці не пара нам, грамадзяне, ужыць гэтыя свае лекі? Можа, у нас і свой кастапраў знайшоўся б і добры лекар, які здолеў бы даць адпаведны часу рэцэпт лячэння ад гэтае чарка-гаварыльнае хваробы?

Пашукайма, спадары! Знойдзецца такі лекар. Будзе ён пырскаць нас жывой вадою з нашых беларускіх крыніц, упраўляць вывіхі з лазовай прыпаркай, а хто заробіць — то і кашай бярозавай пачастуе!

Шукайма!

# БЕЗ ПАЛІТЫКІ

Я палітыкі не шаную. Па-першае, я ўжо колькі разоў апёкся на ёй. Па-другое, як ужо навукай давядзецца, той, хто жыве без палітыкі, шмат ямчэйшы. А нарэшце — ну, скажэце на ласку, якая карысць ад гэтае палітыкі? Я шмат прыглядаўся да тых людзей, якія жывуць без палітыкі, асабліва да Хвэські Бэндрыка, што жыве на нашай вуліцы. Той зроду не прызнаваў ніякае палітыкі, а жыве — Божухна мой! Іншаму, каторы палітык, і не снілася такое жыццё. Праўда, ягоныя прыяцелі, асабліва адзін — ці то прафесар, ці то кравец (цяпер жа па вопратцы не разбярэш) — надта бэсцяць яго:

— Хіба ты, — кажуць, — чалавек? Слізень ты! Самагоннік! Такіх душыць трэба!

А Бэндрык — хоць бы што.

— Плюваць мне, — кажа, — на тое, як мяне завуць, абы я жыў. Усё роўна ў гэтай кашы ніхто нічога не разбярэ.

Ну ці не слушная заўвага? Вось чаму і я не хацеў бы нават і слухаць пра палітыку.

Адно бяда — дзе чалавек схаваецца ад палітыкі, калі яна лезе з усіх куткоў і шчылін і таўчэ цябе з усіх бакоў? Ды вось паслухайце. Раніцаю выйшаў на рынак. Сустракаю знаёмага. Ну хоць бы ён як чалавек прывітаўся, дык не. Адразу смалой у вочы:

— А як ты пра гэтыя падзеі думаеш?

— Пра якія падзеі? — пытаюся.

— Ды вось наагул... Што дзееца?

— А што мне, — кажу, — думаць пра тое, што дзеецца? Хіба я прэзідэнт які? У мяне сваіх дзялоў больш. Вось, кажуць, хутка маразы ціскануць — трэба дзе-небудзь палку дроў прыдбаць. Ізноў жа — чаравік залатаць, бо дзюрка ўжо такая, што вада так і свішча...

— Ну, гэта, даражэнькі, абуватальства. Так жыць нельга. Трэба, — кажа, — і аб палітыцы думаць.

Чулі? «Абуватальства»! А паспрабуй пражыць бяз гэтага абуватальства. Ёлап! Толькі настрой сапсуў...

Апаўдні пайшоў вады зачэрпнуць, а каля студні сусед.

— Ну, чым гэта скончыцца? — пытае.

— А скончыцца проста, — кажу. — Нацэдзіш вады ды і павалачэш дахаты.

— Ды я не аб гэтым, я пра тое, што на свеце дзеецца. Аб чым яны думаюць?

— А табе што, — кажу, — галава забалела ад іхнага думання? Ты вось лепш аб сабе падумай ды шырынку захіні…

А ў яго, выбачайце, гузіка ў штанох няма і расхістана…

Ён ажно пазеляненеў ад злосці і так падхапіў вядро, што толькі пырскі паляцелі на ягоныя чырвоныя чуні. А чаго злуецца, дзівак, калі на дарозе ды неакуратнасць у такім адказным месцы?.. Зусім проста, што і скалечыцца можна. Пазнаў бы тады палітыку…

Толькі сеў палуднаваць — Халімончык, як шалёны, у хату ускочыў і яшчэ з парогу крычыць:

— Як гэта разумець? Ты што-небудзь з гэтага цяміш?

— Ды ў чым справа? — пытаюся. — Растлумач раней.

— А вось глядзі — чытай: «Ангельскі кароль перадаў Сталіну так званы "сталінградскі меч". І гэтага мяча куваў сам ангельскі кароль…»

— Ну, гэта, — кажу, — браток, ты, напэўна, збрахаў. Кароль, ды каб куваў…

— Далібог жа пішуць, пішуць, глядзі: «Сам кароль зрабіў эскізу гэтага мяча». І калі Сталін пераймаў ад Чэрчыля гэтага мяча, дык моцна пацалаваў яго і перадаў Варашылаву. Знацца, сячы на ўсе бакі!

— Ну а той што? Сек?

— Не ведаю, пра гэта не пішуць… Дык што гэта ўсё азначае?

— А мне якая справа? Калі б гэтага мяча атрымаў, дык я даў бы яму раду, бо ў мяне няма чым лучыну шчапаць. А калі яго Сталін атрымаў, дык няхай сам цяпер думае, што з ім рабіць: ці шашлык рэзаць, ці галовы сцінаць. Мне клопат малы.

— Ды ты не ў той бок павёў. Я кажу пра тое, што раней было, як раней ангельцы бэсцілі Сталіна, а цяпер мяча даюць..

— То можа Сталін змяніўся?

— Звар'яцеў? Хіба такі можа змяніцца?

— Дык, мабыць, ангельскі кароль змяніўся?

— А яму чаго мяняцца? Усё роўна вышэй караля не падскочыш. Не! Тут штосьці іншае! Тут нешта ё!

І Халімончык пачаў трэсці мазгамі пра гэтае і трымаў мяне, гад, без полудня дзве гадзіны. Калі ён нарэшце пайшоў — полудзень зусім акалеў, і я мусіў сёрбаць халодны булён. А булён быў навараны на валовіных касцях! Зразумелі цяпер маю трагедыю?

Толькі скончыў полудзень — шусь у хату Мацеіха і таксама адразу у палітыку.

— А ў мяне ўжо ўсё як на далоні, — кажа. — Я ўжо ведаю, што яны іх паб'юць.

Ну што вы скажаце? У бабы гаршкі так пазарасталі, што ледзь кулак усунеш, а пнецца ў стратэгію.

— Лепш бы, — кажу, — Мацеіха, сваіх гаршкоў пільнавалася, каб яны не пабіліся, а такія справы — не твайго розуму…

Дык што ж вы думаеце? Нават абразілася:

— А мы што, — кажа, — у лесе раслі? Мы таксама можам палітыку разумець і паразважаць.. Нашы мужы ў свой час таксама ў чынох хадзілі..

А каб ты на галаве хадзіла сваімі мужамі! Ну, як такое будзеш слухаць? Далей не мог трываць і пайшоў да шаўца чаравік латаць. Прыходжу, а там — цэлы клуб. Хто за справай, а хто і так. Ну, вядама, гутарка, і кружыць яна ўвесь час ля палітычных бяздонняў. Як я ні намагаўся скіраваць яе ў практычнае рэчышча — нічога не дапяў. Я пачну пра скуру, з якой мне шавец лату прышпіліць, а яны пра Рузвельта, я скірую на дратву, а яны, ідалы, пра Чэрчыля, я пра скуру, а яны пра Сталіна. Так, сукіны дзеці, і кружылі ўвесь вечар. А пасля што будзе? Не дамовіўся загадзя, дык шавец табе замест латы прылепіць якую-небудзь плеўку, што за тыдзень адваліцца, а паўлітра — як і не было. Вось табе і зноў палітыка бокам вылезе!

Прыйшоў злосны дахаты — і тут не лепшы. Мой сапыль-сынок замест таго, каб задачкі рашыць, дык ён газеціну слібізуе:

— Ну што ты, — кажу, — у гэтым моры-акіяне вылавіш?

— А вось глядзі, татка, як Рузвельт ды Чэрчылю масонскі знак з трох пальцаў паказаў, а той нават і не агрызнуўся.

— Які гэта, — кажу, — масонскі знак?

— А па-нашаму — гэта проста хвіга.

Чулі? І гэта ўласны сын! Хацеў я аддубасіць яго як след за такія словы, але ўжо суседзі спалі, паўважаўся іх будзіць. Ад знерванасці і вячэраць не хацеў. Лёг так..

Ну, то як вам усё гэта падабаецца? Думаеце, што ў мяне адзін такі выпадак? Не! Так скрозь і так штодня! Кудой бы ні пайшоў, з кім бы ні сустрэўся — адна шарманка: грай палітыку.

І яшчэ горшая бяда, што гэтая палітычная эпідэмія набывае катастрафальны характар. Адзін мой знаёмы ад палітыкі трапіў у вар'яцкі дом (не мог адолець, як ён казаў, самай сутнасці ўсяго, што дзеецца). Мы яму казалі не раз: «Кінь! Заблытаешся ты ў гэтым гушчары». А ён сваё: «Не, — кажа, — дакапаюся да самае сутнасці». Дакапаўся!

У другога, ад палітычнага думання і стратэгічных планаў, на галаве засталося ўсяго тры валаскі, і цяпер баіцца, што хутка будзе лысым.

Трэйцяга жонка з хаты гоніць.

— Ты, — кажа, — усё пра лордаў ды міністраў-прэзідэнтаў, а ў хаце жэрці няма чаго. Ну і сёрбай сваю палітыку, а полудня для цябе ў мяне няма.

Вось як справы павярнуцца могуць. А што будзе далей? Жах бярэ. Дык ці лепш будзе, хлопцы, калі пры такой аказіі — ды каб без палітыкі. Хай у ёй плаваюць тыя, хто з яе хлеб есць. Хай грае той, у каго казыры ў руках. А мы, хлопцы, каб кажны сваёй справай займаўся! І здаравей, і карысней, і лоб цэлы будзе.

Давайце ж, хлопцы, хоць на часінку — без палітыкі.

## З ЛІРАЙ НАСУСТРАЧ

*Кансультацыя для вершапісцаў*

Калі верыць літаратурнай статыстыцы, дык у Беларусі на трох чалавек прыпадаюць два паэты. І гэта невыпадкова, бо беларусы (гэта можна смела сцвярджаць) першы народ у свеце ў дачыненні да рыфмаванага радка.

Вось і цяпер, дарма што вайна, а пішуць і старыя, і малыя. Пішуць і друкуюць, друкуюць і зноў пішуць. Проста

жах!
жах!
жах!
як пісаў той баранавіцкі паэта.

І трэба сказаць, што паэты ў нас не абы-якія, а ўсе толькі геніяльныя. Для скептыкаў можам параіць наступны метад пераканання: паспрабуйце хоць трохі паганіць верш якога-небудзь паэты. Як ён на гэта зарэагуе? Што? Гэтага не спрабавалі? Я і сам ведаю, што на такое геройства ніхто не рызыкне. Бо іншы паэта за гэткія рэчы твар, як велікоднае яйка, расфарбуе.

Дык вось, дарагія суродзічы, паколькі вершаскладанне ў нас набывае шырачэзнага размаху, а тымчасам у гэтай галіне гаспадарыць яшчэ поўнае саматужніцтва, то, як бачым, само жыццё вымагае сяння ж рынуцца з лірай насустрач паэту і хоць трохі дапамагчы яму ў ягонай плённай працы.

Запраўды, хлопцы, пакуль шчэ вайна скончыцца, ды пакуль выдрукуюць адмысловыя падручнікі па вершаскладанню, дык, магчыма, што шмат у каго і натхненне выпетрыцца. А гэта была б пякучая страта ў змаганні… Каб гэтага, крый Божа, не здарылася, дамо некалькі жыццёва патрэбных парадаў паэтам. Пачнем.

Шмат каго, асабліва з маладых, цікавіць вонкавы выгляд паэты. Ну, што да вонкавага выгляду, дык, зразумела, што тут не можа быць ніякага стандарту, паколькі вершы пішуць усе. Але ўсё ж пажадана мець доўгае валассё і задуменныя вочы, якія ўвесь час углядаюцца ў далечыню і вышыню, а пад носам, тымчасам, нічога не бачаць. Праўда, пры такім стане рэчаў можна на які-небудзь ражон узбіцца і нос раставўчы, але ж ніякае змаганне без ахвяраў не бывае.

Іншыя атрыбуты — як здольнасць, пісьменнасць — не заслугоўваюць на ўвагу, бо ўсё гэта можа цалкам замяніць палкае імкненне да верша.

Цяпер самае галоўнае — як пісаць вершы. Сцвярджаюць, што нашыя класікі пісалі свае вершы надта марудна. Спачатку ў класіка тэма пачынала, як кажуць, унутры граць. Пасля ён узгадоўваў яе, доўга выношваў, нібы дзіцё ў чэраве, і калі находзіла натхненне, браўся за пяро і пісаў.

— Нам іхная тактыка нязручная, — казаў з гэтае прычыны адзін малады паэта, — нам няма часу надумваць ды выношваць... Нам трэ' выстрэльваць радкі, каб яны як з кулямёту садзілі.

І ён мае рацыю, бо цяпер вайна, і няма чаго марудзіць. Калі ж пры такой шпаркасці не атрымаецца сэнсу, дык ізноў жа — малы клопат.

— Навет і лепш, — кажуць некаторыя паэты, — калі напусціць у верш як найбольш туману, дык чытач у ім і патане.

І зусім слушна: хай паплавае, а калі нічога не вылавіць, дык хоць учадзее.

Знацца, з боку зместу ўсё ў парадку: пушчаць як мага больш туману.

Цяпер самая каведная рэч — рыфма. Ох, гэтая рыфма! Яна, як даводзяць паэты, самае галоўнае ў вершы.

— Як аглушыш чытача рыфмай, — кажуць яны, — дык усё і ў парадку. Але яна, падла, цяжка даецца.

Праўда, з рыфмай заўсёды клопат. Як яе ні лаві, а яна што слімак між пальцаў: цвырк і няма. Вось, вось, здаецца, злавіў за самы хвост: узяты, а ад яго брат і торкнуў брата ў радок. Агледзеўся, ажна паводля ходу справы ні свата, ні брата ніяк сюды не ўцісьнеш. І вось бяры сваяка за каўнер — і вон з радка, а замест яго садзі якую-небудзь злыбяду. Лёгка гэта? От жа і я кажу...

Шмат, шмат хто на гэтай злаякаснай рыфме пакалечыў і родзічаў загубіў. Кажуць, быў адзін такі люты паэта, што мог з-за рыфмы роднага бацьку забіць. Вось да чаго яна даводзіць! А тымчасам, калі да рыфмы падысці з галавою ды ўжыць адпаведную механізацыю, дык справа гэта зусім лёгкая.

Ёсць шмат спосабаў механізаванага рыфмавання, але мы спынімся на двух, больш дзейных, гэта — на спосабе падборкі і спосабе перамешкі.

Паводля першага спосабу бярэцца які-небудзь зборнік вершаў абыякога паэты, з вершаў выпісваюцца ў слупок апошнія рыфмаваныя словы і да іх падбіраецца адпаведны змест. Вось і ўсё. Але гэты спосаб трохі марудны.

Шмат прасцей другі спосаб, так званая перамешка. Тут ізноў жа бярэцца верш якога-небудзь паэты (пажадана ведамага) і ягоныя рыфмаваныя радкі спрытна перамешваюцца нанова з дамешкаю трохі сваіх словаў, так што атрымваецца зусім новы, свежы, навет з пахам, верш.

Вось гэтыя два самыя простыя і дзейныя спосабы рыфмавання. Калі іх ужываць спрытнымі рукамі, дык гэтая ўпартая рыфма будзе цалкам пераможная.

Нарэшце не пашкодзіць трохі спыніцца яшчэ на адным маменце ў тэхніцы пісання вершаў, гэта — на радку. Бо радок, асабліва ў справе ганарару, таксама спявае не апошнім голасам.

Некаторыя паэты пішуць поўнымі страфамі з доўгімі радкамі. Гэта хоць і музычна, але не практычна. А таму сярод некаторых паэтаў апошнім часам запанавала новая тэорыя, так званая тэорыя сечанага радка. Трэба сказаць, тэорыя надта практычная. Паводля яе звычайны радок механічна разбіваецца на некалькі радкоў. Да прыкладу, радок «Да вершу, усе, як адзін!» можна выкласці так:

Да
вершу!
Усе,
Як
адзін!

Пры такой аперацыі кажная страфа можа перакуліцца ў сто грамаў з коптарам. Выйгранка, як бачым, відавочная.

Можна шчэ больш удасканаліць гэтую справу і секчы не словамі, а складамі. Прыкладам, так:

ма
ма
му
ша

А наш мастак сігануў шчэ далей і высунуў праект клішаванага вершу. Ён прапануе секчы ўжо не склады, а літары.

— Магу, — казаў, — літару, прыкладам, «ш», на тры радкі расшастаць, бо і мне ж трэ капейчыну зарабіць.

Калі ў такім кірунку тэорыю сечанага радка разгарнуць ва ўсе шыркі, дык можна ўважаць, што будучыня забяспечаная цалкам.

Вось тыя кароткія парады, з дапамогаю якіх мы патрапім больш бадзёра і ўпэўнена крочыць па дарозе парнаскай у змаганні за лепшы свой лёс.

Дык жа смялей, хлопцы! Да бою, да чынаў на карысць Бацькаўшчыны!

Рынемся ўсе на змаганне.

Ворага вершам раструшчым, як пісаў наш выдатны паэта Пілін Асіна. І слушна! Вораг нас куляй і вагнём, а мы яго — вершам!

Хай жыве! Наперад! Нам дапаможа лёс!

## ШТО РАБІЦЬ?

Я рынуўся ў палітыку. Ну і што, думаю, пакуль у Канаду вывезуць лес церабіць ці мо ў Бельгію вугаллё калупаць, або на якую Ганалюлю разынкі сушыць, то нашто, каб час марна травіўся? Падамся хоць у палітыку. Пайшоў. Напачатку свае палітычнае чыннасці я даручыў сабе скласці ўрад, бо без ураду, самі ведаеце, якая палітыка — ні табе рот расчыніць, ні рукамі памахаць… Слушна! Ну дык вось, іду я да Мікіты, бо ён, як мне здавалася, яшчэ нідзе не быў заангажаваны. Прыходжу, а той шпек сартуе: направа — па трынаццаць, налева — па дванаццаць.

— Ці не возьмеш у мяне партфелю? — пытаюся.

— А гэта што? Скураная торба такая? А давай, давай, браток! Я ў падарожжа часцяком езджу, дык яна гэтага… для шпеку…

— Ды я не пра гэтую торбу кажу, мая торба не зусім практычная, а як бы табе прасцей сказаць, ну… больш міфічная торба — міністэрскай партфеляй завецца.

— Дык чаго ж ты мне галаву дурыш? — раззлаваўся Мікіта. — У мяне шпек сохне, а ты мне нейкую міфічную дулю пхаеш. Дзівак! Вось вазьмі лепш кручкі на рыбу, можа, і твайму ўраду прыдасца гэтае снадзіва… Бяры, дурны! Танна аддаю.

Бачу, што Мікіта яшчэ не дарос да вялікае палітыкі і ураду з ім не зробіш. Але кручкоў я не ўзяў, бо я ж таксама не дурны набываць снасць, калі сезон канчаецца. Падаўся да Рыгора. Той таксама адмовіўся ад міністра, матывуючы тым, што ён чалавек гандлёвы і не хоча сабе апінію псаваць.

— Гэта, — кажу яму, — не ёсць перашкода. Вунь вазьмі Гусака — той і жбанкамі гандлюе, і ўрад узначальвае. У дэмакратыі гэта можна.

Не пераканаў. Хадзіў пасля да Янкі. Той, праўда, адразу зварыў, пра што ходзіць.

— Урад, — кажа, — арганізуеш? Рэч нядрэнная. А які ты мне партфель запрапануеш?

— А выбірай, — кажу, — які хочаш, яшчэ ўсе парожнія.

— Так, так, — пачухаў Янка патыліцу, — а колькі ты мне, эвентуальне, плаціцьмеш?

— Чалавеча, — кажу, — бойся Бога! Чым маю плаціць, калі ў мяне самога толькі 7 пачкаў, ды і тыя турэцкія? Хіба пачакай троху, як справу разгорнем ды міністэрства зладзім.

— Э не, дабрадзею, я напавер не працую. А ўрад без грошай я і сам меў бы.

Бачу, што Янка да вялікае палітыкі аж занадта паспеў, можна сказаць, пераспеў навет.

Быў і ў Якіма.

— Давай, браток, урад мантаваць, — кажу яму, — ты, прыкладам, будзеш прапагандай заварочваць, Юрка справы забяспечання возьме, ён ужо на гэтым набіў руку, ну а я хоць бы сабе і прэм'ера ўзначалю.

— А пад якім шыльдам ты мяркуеш свой урад збіваць — пад федэральным ці самастойніцкім?

— А ці не адно ліха, — кажу, — пад якім шыльдам ён будзе? Мне абы ўрад.

— Не, — кажа Якім, — я сам урад твару, але мой ідзе пад федэральным шыльдам. Калі хочаш, далучайся да мяне.

— Ты што, — кажу, — учадзеў? Каб я ды ў твой урад пайшоў, калі свой маю збіваць.

Плюнуў, бразнуў клямкай ды і пайшоў наўпрасткі да Міхася Лясніковіча.

— Здрасьце, — кажу.

— Здрасьце.

— Можа б партфелю ў мяне ўзялі? — пытаюся.

— Партфелю? Дзякаваць. Сваю тэчку маю. Хоць старэнькая, але..

— Не, я пра іншую партфелю кажу, пра міністэрскую.. Урад ствараю.

Той і рукамі замахаў.

— Барані Божа! Гэтага дабра мне не трэба. Я быў свой урад стварыў, ды цяпер і сам не ведаю, што з ім рабіць. Міністэрства прапаганды хоць сяння зачыняй, бо міністар напачатку так быў асатанеў да ворагаў народу, што як сеў за стол, дык усе свае думкі ўраз на машынцы і выстукаў, а цяпер не ведае, што далей стукаць. Сядзіць за сталом ды адно вачыма

лыпае. Баюся, каб зусім з глуздоў не з'ехаў. Такое ж і міністэрства асветы — ніяк не знайду на міністра пісьменнага чалавека. Міністар вонкавае палітыкі зусім апэцкаўся. Зноў жа прэм'ер — ён хоць языком трохі шавеліць, але ж гультай і нічога не ўмее рабіць. А пра іншых і гаварыць няма чаго. Адзін мой трывалы памоцнік — гэта Гарасім, але вы ж самі ведаеце, якая гэта боўтка.

— Ведаю, — кажу, — даўбня ладная.

— Вось жа.. Адно чыноўнік на адмысловыя даручэнні вёрткі хлапец. Але і той, калі праўду сказаць, задаўгі мае нос. Пхае яго і туды, і сюды, і да сваіх, і да чужых. Ненадзейны, шэльма.

— Дык уважаеце, што гэта нялёгкая справа?

— А вось, як бачыце, прыемнага мала. Няма людзей, няма кадраў.

Такім парадкам не ўдалася ўрадавая кааліцыя з Міхасём Лясніковічам. Пасля Міхася я шчэ быў у васьмёх чалавек, і ніводная шэльма не ўзяла партфелю. Той адмаўляецца, што часу няма, другі кажа, ён ужо заангажаваны ў другім урадзе, а некаторыя дык наагул чаўпуць, што ніякіх урадаў не трэба, бо ўжо ёсць адзін сталы, законны ўрад. Чулі? Законны! А як гэта ён будзе незаконны, калі я яго сам арганізую? А былі такія дзівакі, што пыталіся, на якой партыйнай базе я разбудоўваю свой урад. Пры чым тут партыя? Звярнуўся я ў гэтай справе да знаёмага юрыстага, як ён глядзіць на гэтыя партыі.

— Я ўважаю, — казаў юрысты, — што ўрад можна стварыць і без партыі, але ізноў жа, у гісторыі вядомыя выпадкі, што да ўраду даходзілі праз партыю. Так што самі глядзіце, як зручней.

Пасля кансультацыі ў юрыстага пачаў тварыць партыю. Але справа сунецца марудна. Пакуль заангажаваў жонку, сына ды суседку — яна ў нас балею часта пазычае, дык не магла адмовіцца. Але далей справа йдзе туга. Кажны хоча, каб яму даў гарантыю. А якую ж гарантыю дасі цяперашнім светам?

Дык вось, як бачыце, спадарове, палітыка — рэч не зусім лёгкая. У мяне ўжо не раз лоб пацеў ад думання: што рабіць і як рабіць? А тут — яшчэ і жонка пілуе:

— Вунь, — кажа, — усе людзі ў чыны вылезлі, міністрамі парабіліся, адзін ты самапасам ходзіш!

Ну? Падабаліся б вам такія гутаркі?

Дык што ж рабіць, спадарове суродзічы? Парайце, будзьце ласкавы! Бо час не чакае.

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ ПРА КАНСАЛІДАЦЫЮ

Паважныя спадары Рэдакцыя!

У нумары 29-м вашае газеты вы ўмясцілі стаццю пад загнётам «Справа кансалідацыі». Тамака вы пішаце, што ўсе людзі хочуць, каб «рэдакцыя ўзяла на сябе ініцыятыву кансалідацыі ўсяго беларускага грамадзянства на чужыне і распачала ў гэтым кірунку на сваіх балонках адпаведную акцыю».

Гэтыя радкі нас вельмі ўсцешылі. Або ж і праўда, калі азірнуцца навокал, па ўсіх чужых селішчах, то скрозь людзі жывуць, як браты, а ў нас — не. А чаму, гэтага не ведаем.

Як шчэ за старымі грашыма прыязджаў на наш хутар араталь з Міхайлаўкі, то ён казаў, што ўва ўсіх нашых неладох вінаватая шопка і крывічы, бо яны ў нейчы бок цягнуць. Наш Ксаверы тады моцна пакрыўдзіўся, чаму яго да віны чапляюць, і быў ужо рукавы закасаў, каб выцяць араталя, але той пачаў бажыцца і клясціся, што ён не меў на мэце каго-небудзь з прысутных абразіць і што ён гаварыў не пра нашага Шопку Ксаверага, а зусім пра інакшае, а пра якога шопку — гэтага не сказаў.

А пазней прыехаў да нас прамоўца з Вялікага Двара, дык той, наадварот, прамаўляў, што ўсё ліха ад зарубежнікаў, якія таксама цягнуць у нейчы бок.

А быў у нас яшчэ адзін маладзян, студэнцік з Марынгораду, дык той крычэў, што ўсе вінаватыя — і адныя, і другія, а ўвесь паратунак у правільным кірунку. І гэты кірунак ён нават на дошцы крэйдай крэсліў.

— Вось гэтая крывая лінія, — кажа, — гэта ёсць крывічы, а гэтая, што я цяпер крэслю, ламаная лнія — гэта будуць зарубежнікі, [redacted] вось я вяду цяперака пасярэдзіне простую лінію, якая ні ад якіх ліній не залежыць, — гэта і ёсць правільны кірунак, па якім мы павінны йсці да дасягнення нашых агульнанацыянальных незалежніцкіх... (а далей забыліся, што казаў).

Ведама, ён студэнт, дык лініі крэсліць умее. Але ж нам, спадары рэдакцыя, ад гэтага не лягчэй. Бо калі на дошцы або на паперы і накрэслены розныя лініі, то калатня ўсё роўна йдзе. І чаму мы, беларусы, мусім цярпець і гэтую калатню зносіць, калі нехта вінаваты або ў розныя бакі цягне? Гэта няправільна.

І вось, спадары рэдакцыя, як ужо прайшло шмат часу, а на вашых балонах тае акцыі яшчэ не відно, то мы і узялі на сябе зачын пасунуць наперад справу кансалідацыі. А калі вы, спадары рэдакцыя, думаеце,

што гэта праца лёгкая, то вы мыляецеся. На шляху да кансалідацыі ляжаць вялікія завалы. А вось жа: пакуль мы збілі свой пяток, то колькі было галасу і звадак. Калі мы сабраліся на першы кансалідацыйны сход і наш прафесар (але на бацькаўшчыне ён прафесарам шчэ не быў) нам выклаў, што такое кансалідацыя, то пачалі прыгадваць усе старыя крыўды. Янка Самасей успомніў Сцяпану Кацапаву, як той пазычыў тры нямецкія маркі і скруціў. Піліп Канапельскі ўпікнуў Тараса Бурбалку за тое, што той яго з пасады спіхнуў, як быў нейкім старшынём, а пасадзіў свайго сябрука. Калісь даўно Піліп Канапельскі Копадаў якуюсь цыдулу на Ксаверага Шопку, і гэта ўспомнілі. А ў Кацапава і Шопкі на той дзень былі бабы пасварыліся, дык і гэта стаяла перашкодай на дарозе да кансалідацыі. Было і шмат драбніцаў, але мы, спадары рэдакцыя, ўсё гэта перацярушылі і адвеялі перад агульнай ідэяй. Гэтым зачынам мы ўпяцёх збілі моцны таўкач і будзем далей рушыць справу.

Але, спадары рэдакцыя, як мы не маем ад вас ніякіх інструкцыяў, то просім паведаміць, што нам рабіць з нясведамымі і як іх прыцягнуць да кансалідацыі? Ёсць у нас такі Якуб Чапурнэцкі, то калі ён пачаў чытаць лісту скансалідаваных і дайшоў да прозвішча Вераб'я Рыгора, то сказаў:

— Стой! З гэтым я не буду кансалідавацца, і яго трэба аджуціць.

А калі мы спыталіся чаму, бо Верабей у нас хлопец сведамы, маральны і гарыць на працы, то ён кажа, таму што Верабей — усходнік. А мы на гэта кажам: дакуль жа ён будзе ўсходнік, калі ўжо сем год, як з поўнага апалоніка заходнюю культуру сёрбае і караватку носіць, а Ксаверы ўчора сам бачыў, як Верабей капелюха таргаваў. На гэта Якуб нічога не адказаў, але ў лісту не ўпісаўся.

А ёсць у нас другі такі гарбуз — Язэп Пстрычкоўскі, дык той не хоча ісці на лісту кансалідацыі, бо не любіць заходнікаў: надта ж яны фанабэрыстыя, кажа, а няма чаго. Просім спадароў рэдакцыю прапусціць гэтых несвядомых у газету, як яны шкодзяць нашай кансалідацыі. Бо мы і ўвесь народ гаворым так: калі адзін быў пад Пілсудскім, а другі пад Сталіным, то хіба не аднолькава абодвух таўклі? А калі каторага троху менш выцялі, то гэтым фанабэрыцца не след, не па-нацыянальнаму гэта.

Усё ж з народам у нас справа ідзе лягчэй: пасварацца трохі, пагамоняць і пагодзяцца. Але што рабіць, спадары рэдакцыя, з некаторай нашай інтэлігенцыяй, якая ўсё на палітыку б'е? Калі мы прыйшлі да аднаго інтэлігента (на бацькаўшчыне ён у гміне пісарам быў), дык той спытаўся, на якой пляцформе мы хочам скансалідавацца. І як мы

сказалі, што гуртуемся на шырокім дэмакратычным апірышчы, то ён штосьці пачаў круціць носам і ўсміхацца. «Бачыце, паважаныя спадары, — кажа, — я заглядаюся на дэмакратыю адмо-о-оўна.. Шырокая дэмакратыя, паважаныя грамадзяне, рэч до-о-обрая.. нядрэ-энная.., але для народу даспе-елага, а нашае грамадзянства, бачыце, яшчэ недаспе-елае.. слабо-оее-е». І гэтак ён цягнуў ката і ўсміхаўся. Так мы яго і пакінулі. Хай даспявае.

Другі інтэлігент, таксама амаль прафесар, дык сказаў, што ён пагодзіцца на кансалідацыю з намі, але каб усе мы яго слухаліся.

— Як скажу, — кажа, — слова, то і закон, і ніякіх дыскусіяў, бо я, — кажа, — адзін усё ведаю, а ніхто нічога не ведае.

І калі мы прыгадалі, што ёсць жа на свеце дэмакратыя, то ён выгнаў з хаты.

А яшчэ адзін інтэлігент казаў нам, што ён можа кансалідавацца толькі на нейкіх парытэтных пачатках. А як мы спыталіся, што гэта такое, то ён адказаў: як вы прыйшлі ўпяцёх, то і я выстаўлю пяцёх. А што ён можа выставіць, спадары рэдакцыя? Увесь народ за намі йдзе, а за ім — нікога.

А ёсць яшчэ інтэлігенты надта зацятыя. «Не магу з гэтым скансалідавацца! — крычэў адзін такі. — Ён мяне памыямі абліваў і капаў на мяне ў розныя ўстановы. Ніколі не дарую!»

І наагул, некаторыя інтэлігенты вельмі зласлівыя, і ніяк яго не ўгамоніш. «Варагі, — крычыць, — усе варагі!» Ну што з такім рабіць? А як пасварацца іхныя бабы, то тады і мужыкі зацяліся на цэлыя гады. Не так, як у нас: сяння пасварыліся, а заўтра ўжо і пагадзіліся.

Так што, спадары рэдакцыя, дайце інструкцыю, што рабіць з такой інтэлігенцыяй і ці браць яе ў кансалідацыю?

А яшчэ, спадары рэдакцыя, просім растлумачыць нам, што такое крывічы і што такое зарубежнікі? Ці гэта асобныя народы, ці можа якія заграпічныя партыі, бо на Бацькаўшчыне мы гэтага не чулі. А як мы хадзілі з лістою на кансалідацыю, то часцяком у нас пра іх пыталіся, а мы і самі не ведаем. Удаваліся мы да нашага прафесара, каб той нам раз'ясніў, дык ён цвердзіць, што крывічы і зарубежнікі — гэта два асобныя народы. «Крывічы, — кажа, — гэта народ, які за тысячу гадоў жыў на нашай Бацькаўшчыне, а зарубежнікі — гэта народ, які панаехаў на нашую зямлю з-за рубяжу, таму ён і завецца зарубежнікамі».

Але прафесару мы не даем веры. Бо ў нашым селішчы ёсць два родныя браты з вёскі Прудок, што на Заслаўшчыне, дык аднаго з іх людзі дражняць зарубежнікам, а другога — крывічом. Пасля ёсць

у нас яшчэ хлапец, якога на пачатку дражнілі зарубежнікам, пасля крывічом, а цяпер зноў дражняць зарубежнікам. Дык гэта не выглядае, каб былі розныя народы. Просім раз'ясніць.

З другога боку, што рабіць з функцыйнымі — ці браць іх у кансалідацыю, ці не? Бо ў нас быў такі функцыйны Грэчка Пятрусь і з намі быў скансалідаваўся, а як у яго функцыю забралі, то сказаў, што пойдзе ў апазіцыю, бо тут, кажа, усе варагі заселі.

Наагул, спадары рэдакцыя, просім акуратна пячатаць інструкцыі, як весці кансалідацыю, бо ўжо і у нашым пятку можа пайсці мутаніна. Янка Самасей, прыкладам, пачынае гаварыць, што трэба браць толькі шчырых і нязломных, а рэшту ўсіх гнаць і біць. Ксаверы Шопка дамагаецца, каб на лісту ўпісываць усіх, абы ён быў беларусам, а Пілiп Канапельскі кажа, што галоўнае — трэба налягаць на маральны бок і браць тых, якія не п'юць і нават не кураць, а ў нас такіх няма. Так што, спадары рэдакцыя, яшчэ раз просім — дайце нам інструкцыі.

А яшчэ просім: насвятліце на вашых балонах, як ідзе справа кансалідацыі па іншых селішчах і ці ўсё там гладка? Да нас дайшлі весткі, што і ў Міхайлаўцы няма салідарнасці, бо як пачалі дзяліць фундуш, дык там паўсталі ажно чатыры франты і абзываюць адзін аднаго варагамі і чорнай сотняй. У Ветрагораўцы ізноў жа не зусім гладка. А ў Бродах, хоць там і дыктатура, але ўжо ўтварылася некалькі моцных апазіцыяў. Ды і у вашым Вялікім Двары, як мы дачуліся, ані няма ладу. Талаку сабралі вялікую, а малаціць нечага. Ды і то кажны ў цапы падаваць пнецца, хоць і не ўмее. Дзе ж тут будзе парадак і згода ў працы? Апішыце пра гэта ў газеце і дайце нам правільны кірунак. І хай сабе там адзін у вадзін бок цягне, а другі — у другі, а мы і надалей будзем працаваць у дружным сяброўскім спажыцці, еднасці, згодзе, салідарнасці і лучнасці. Няхай жыве!

А ліст гэты пісалі жыхары беларускага хутару ў мяшаным ДП селішчы Марнэнлёсэн наступныя: Янка Самасей, Тарас Бурбалка, Сцяпан Кацапаў, Пілiп Канапельскі і Шопка Ксаверы.

Заўвага. Змяшчаем гэты ліст, па-першае, з гледзішча на ягоную арыгінальнасць, а па-другое, гэты ліст сведчыць, што нашае шырокае грамадзянства ўсё яшчэ няправільна разумее пытанне кансалідацыі і што гэтая справа патрабуе глыбейшага высвятлення і далейшага валкавання.

# НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ

## ПА ПОЛАЧЧЫНЕ

*Уражанні*

### У дарозе

Са станцыі Менск мяне праводзіў мой добры знаёмы і прыяцель беспрытульнік Сашка Міжнародны. Такую клічку яму далі таварышы затым, што ён нібы пабываў заграніцай без пашпарту і без білету. Перад ад'ездам Сашка даваў мне даволі арыгінальнае настаўленне:

— Раз ты едзеш у вялікую дарогу, дык не бяры ніякіх рэчаў.

Я, па праўдзе, здзівіўся такой заяве і намякнуў, што вось у дарозе захочаш часам памыцца або кашулю змяніць, дык зусім без рэчаў ехаць неяк не пасуе — дзе даставаць будзеш.

— Кашуля — глупства, — аўтарытэтна зазначыў Сашка, — вось на мяне паглядзі — ніякай абузы.

І праўда, калі Сашка раскінуў невыразанага колеру балахон, я ўбачыў голае цела, не абсалютнай чыстаты:

— А калі часам што і трэба будзе — прадаўжаў Сашка, — дык у дарозе заўсёды дастанеш, толькі зяваць не трэба. А набярэш многа рэчаў, напэўна сапруць.

Мой прыяцель Сашка — пераканаHы вораг чужой уласнасці, дзеля гэтага я не дыскусаваў па ўзнятаму ім пытанню; рацыянальна браць у вялікую дарогу рэчы ці не. Але, калі ён прапанаваў мне аднесці мой клумак назад на кватэру, я, хоць Сашка і добры мой прыяцель, катэгарычна адмовіўся. Гэта выклікала яўнае нездаволенне Сашкі, якое пагражала перайсці ў адкрыты разрыў. Пагадзіліся мы на тым, што я «пазычыў» Сашку залатоўку, і тады ён як бы ў разважанні дадаў:

— А, зрэшта, у цябе не такі ўжо вялікі клумак... можа, і не ўкрадуць.

На гэтым мы і памірыліся.

Пад апошнія настаўленні Сашкі і яго развітальны свіст кур'ерскі цягнік плаўна адышоў ад станцыі, мінуў скупа асветленыя гарадскія ваколіцы і, паступова набаўляючы ходу, шалёна панёсся ў чорны правал мокрай асенняй ночы.

Заўсягдышняя пры адходзе поезду суталака ў вагонах уляглася; кожны знайшоў месца і сабе, і рэчам. Пачаліся звычайныя ў пачатку дарогі гутаркі: «Вы ў Маскву? Я таксама». «Я вас недзе спатыкаў». «Спрабуйце грушы». Так пачынаюцца знаёмствы на ўсю дарогу. Новыя прыяцелі частуюць адзін аднаго піражкамі, карыстаюцца адным чайнікам, апавядаюць падрабязна аб жыцці сваім і ўсіх сваіх родных і знаёмых…

Тры гадзіны язды — і мы ў Воршы. Аршанскі вакзал гасцінна спатыкае пасажыраў сваім чыстым, толькі што адрамантаваным памяшканнем. Прыемна адзначыць, што цяпер ужо вакзал не рэжа вока сваімі «классами», рамонт скасаваў вакзальныя класы і па форме.

У Воршы я пераканаўся ў практычнасці майго прыяцеля беспрытульніка Сашкі, які раіў мне не браць у дарогу ніякіх рэчаў. Бесплацкартныя вагоны ленінградскага поезду тут бяруцца з бою. Чыгуначная адміністрацыя пакуе ў гэтыя вагоны людзей «да адказу». Не дзіва, што пасажыры з вялікім багажом мусяць развіваць найбольшую актыўнасць, каб уціснуцца ў вагон. Вось тут і вынікаюць непаразуменні. Калі мы шчыльнай сцяной ішлі на вагон, па магчымасці трымаючы чаргу, у цёткі, абчэпленай шматлікімі клумкамі і пакуначкамі, папёрлі адзін з клумкаў. Праўда, грамадзянін-экспрапрыятар, якога мы тут жа затрымалі, аказаўся на рэдкасць джэнтльменам. Ён без жадных спрэчак аддаў клумак і нават папрасіў прабачэння, што памыліўся. Але гэта здарэнне ўнесла некаторы разлад у стройную чараду, і частка грамадзян выкарыстала момант да жудасці эгаістычна; яны без усякае чаргі ўпёрліся ў вагон і пазаймалі лепшыя месцы.

А ў вагоне мімаволі ўспамінаюцца 24–25 гады, калі на нас напала, неўласцівая нам, нейкая эпідэмія чыстаты. У тыя гады праваднік вагону штрафаваў на тры рублі нават за выпадкова кінуты акурак на падлогу. Але гэта бацыла чыстаты, хоць і шчыра прышчэплівалася чыгуначнай адміністрацыяй, не прынялася: яна, відаць, зусім чужая нашаму арганізму. Вагоны цяпер закіданы не толькі акуркамі, але і ўсёй тэй шумай, якой так багат бесплацкартны пасажыр дальняга руху.

У Віцебску зноў успомніў свайго прыяцеля-беспрытульніка. Не абцяжараны багажом, я за 15 хвілін паспеў і білет узяць, выпіць шклянку гарбаты і сесці ў поезд у той момант, калі ён пачаў кратацца. Тут з бою вагонаў не трэба браць, хоць і цеснавата ехаць.

Паплылі гарадскія ваколіцы, старэнькія халупкі, багатыя агароды, сады. Дзвіна бліскучай срэбнай стужкай уецца між чыстых пяскоў. Спачатку яна ідзе поплеч з чыгункаю, потым адыходзе ўправа і хаваецца ў сухіх полацкіх барох.

Прыгожыя полацкія краявіды. Дробныя вёскі і хутары мяжуюцца з цёмна-зялёнымі барамі. Поезд імчыць то па глыбокіх прарэзах ва ўзгорках, то раптам выбягае на высокую насып і ідзе па самым беразе чыстага возера. Што ні кіламетр, то новы від, новае ўражанне для вока. Цяжка адарвацца ад гэтага калейдаскопу фарбаў, свету і формы...

У нашым вагоне чалавек 20 звыш нормы. Едуць прыгарадныя сяляне, служачыя, дарожныя рабочыя, папы і інш., а каля паловы ўсіх едучых — віцябляне, якія накіроўваюцца ў Полаччыну за брусніцамі. Самыя шумныя пасажыры ў нашых купэ — селянін Валынецкага раёну і прараб з «Дзвіналесу». Прараб, мусіць, пяты раз пачынае апавядаць аб нейкай несправядлівасці, з прычыны чаго яго аддаюць пад суд.

— Хіба ж я растраціў? Ну, скажэце, — звярнуўся ён да мяне, — магу я растраціць ці не?

Я нешта такое нагаварыў наогул аб растратах, потым асцярожна зазначыў, што бывае — людзі некаторыя і растрачваюць, а адносна таварыша-прараба я катэгарычна заявіў, што ён растраціць не можа ні ў якім разе.

— Твар, — кажу, — у вас не такі, каб растрачваць.

— Праўда, у мяне твар благародны, — згадзіўся прараб і, паглядзеўшы на мяне больш даверліва, пачаў скардзіцца, што на яго ўзводзяць другую напрасліну.

— Мяне вінавацяць, што я прапіваў казённыя грошы, а я і смаку гарэлкі не ведаю. Далі бог, не п'ю!

Але тут мы, нягледзячы на ўсю нашу даверлівасць, ніяк не маглі паверыць у цвярозасць прараба. Сіне-чырвоны прарабаўскі нос выдаваў, гад, з галавой свайго гаспадара і яго блізкае знаёмства з Бахусам.

Пачатая гутарка аб трэзвасці натуральна перайшла ў шырокую дыскусію па пытаннях п'янства наогул. Мы гэта пытанне абмеркавалі са ўсіх бакоў, выказаліся про і контра, падвялі, канешна, эканамічны базіс пад п'янства, «пакрылі» спадчыну царызму і асудзілі гарэлку на канчатковую пагібель.

Больш ад усіх гарачыўся і крычаў шумны селянін з Валынецкага раёну. Ён нападаў на гарэлку і асабліва на самагон са ўсё сілай сваёй гарачай натуры. Шкадлівасць ужывання алкаголю ён падмацоўваў лічбамі і фактамі.

— Наша вёска, Шайтрава, — казаў ён, — прапівае штогод сотні пудоў хлеба, а школу мы будуем вось ужо тры гады. І самім грэх, і людзям смех. Каб тое, што прапіваем, ды пусціць на школу, мы б яе ў два тыдні адбудавалі.

Дзядзька быў да таго абуран, што мы яму паспачувалі зусім шчыра і тут жа пагалоўна ўсе заразіліся яго нянавісцю да гарэлкі.

У канцы дыспуту мы вынеслі аднагалосна рэзюмэ: ужыванне алкаголю ёсць вялізнае зло, і яго трэба выжыць канчаткова, але… бываюць моманты, калі без гэтага не абыйдзешся…

Тут мы ўсе змоўклі, і кожны, як відаць, стаў падлічваць, колькі ў яго бывае такіх момантаў і ці не замала іх бывае…

На станцыі Глушаніна адсеялася частка пасажыраў. Гэта віцябляне высыпалі за брусніцамі. У гэтых мясцох брусніцы небывала танныя: па паўтары, па 2 кап. фунт. А тавар гэты, кажуць, экспартны. Вось каб каапярацыя валынецкая дагадалася ды загатовіла пудоў 500 (тут гэта зусім лёгка) — глядзіш, і віцяблянам не прыйшлося б турбавацца, і кааперацыя тое-сёе зарабіла б. Ну, але дзе там валынцам да ягад, не дагадаюцца.

Пасля ст. Глушаніна мы ад ягад па асацыяцыі перайшлі да зямлі і адкрылі дыспут па зямельнаму пытанню.

Ва ўступным слове па зямельнаму пытанню селянін з Сенькаўскага сельсавета расказаў нам жудасную гісторыю:

— Быў у нас, — пачаў дзядзька, — як, мусіць, і ва ўсіх вас былі — абшарнік. Нашага звалі Сурын. У 17 годзе абшарнікам соланы паказаліся новыя парадкі. Не вытрымаў ён і ўцёк. Уцёк… правільна, зямлі з сабой не павязеш; засталося нам гэтай зямелькі 60 дзесяцін. Ну, узрадаваліся, што пабяднейшыя: хоць па кавалачку атрымаем. Але заўчасу парадаваліся. Не выветрыўся смурод ад Сурына, як на яго месца з'явіўся нейкі Шук. Як і якім парадкам ён заўладаў сурынскай зямлёй, мы не ведаем — адно ведаем: быў абшарнік і застаўся абшарнік. У 22 годзе беднату нашу памазалі па губах — адрэзалі ад гэтай зямлі 12 дзесяцін, а рэшта і да гэтага часу застаецца ў Шука. А той здзекуецца з беднаты:

— Вы, — кажа, — хадзілі без штаноў і будзеце хадзіць, а я, калі захачу, вас кругом пальца абкручу.

— Во якія парадкі!

Мы горача ўзяліся за абмеркаванне гэтага пытання. Дасталося ад нас і сельсавету, і Асвейскаму РВК, і Полацкаму зямельнаму аддзелу, што не заўважылі абшарніка на працоўнай савецкай зямлі.

У гэтым гарачым дыспуце мы і не агледзіліся, як прыехалі ў Полацак. Праваднік ужо трэці раз напамінаў мне, што «уже Полоцк, вам выходить», а я ніяк не мог адарвацца ад дыспуту.

Развітаўся я са сваімі падарожнікамі горача, як са старымі знаёмымі, і ўжо на хаду выскачыў з вагона.

# Горад знадворку

Калі вы прыехалі ў Полацак і ў вас няма дзе застанавіцца — вам не трэба шукаць кватэры. На вакзале вас акружае рой фактараў і гаспадароў «гасцініц», і кожны цягне вас у свой бок. А паспрабуйце не згадзіцца. Вас акінуць такім поглядам, што вы міжвольна падумаеце: «А сапраўды, ці не разбойнік я». Урэшце вас адбівае найбольш актыўны і вядзе ў «гасцініцу».

Тую напалову зруйнаваную халупу, з асеўшымі бадай да самай зямлі вокнамі, можна, канешна, назваць гасцініцай: густы ў людзей розныя бываюць, але гасцініц доўга вы тут не будзеце, клапы і бруд і нейкі спецыфічны неперадаваемы пах полацкіх «гасцініц» змусіць вас на другі ж дзень шукаць новага прытулку.

Назаўтра я пайшоў аглядаць горад. Пра Полацак мы ў свой час пісалі шмат, з прычыны яго не вельмі ласкавых адносін да беларусізацыі. Цяпер Полацак з нацяжкаю можна назваць горадам беларускім і па надворнаму выгляду. Шыльды нават і на частцы прыватных крамаў і некаторыя назвы вуліц — беларускія. Але пісьменнасць — жуць бярэ! Проста дзіву даешся, да чаго людзі могуць скалечыць самае простае слова: мусіць, у Полацку ніхто шыльдаў не чытае, бо інакш звярнуў бы ўвагу хоць адзін чалавек на гэту непісьменнасць, а звярнуў бы ўвагу — запратэставаў бы абавязкова...

Полацак, мусіць, больш ад усіх нашых гарадоў пацярпеў ад белапольскае акупацыі. Мясцамі яшчэ відаць неаднаўленыя будынкі. Але мала ўжо іх. За 8 год вольнай савецкай працы залечаны раны акупацыі. Аднаўлены разбураныя будынкі, будуюцца новыя, горад падчышчаецца, прыхарашваецца.

На цэнтральнай вуліцы К. Маркса пракладаюцца новыя тратуары, на гэтай жа вуліцы, у цэнтры гораду, на месцы б. рынку, разбіт прыгожы чысценькі сквер.

Будаўнікі адчынілі свой летні сад, пабудавалі даволі раскошны тэатр.

З тэатрам у Полацку наогул дрэнна. Гарадскі тэатр можна назваць тэатрам, толькі будучы ў вельмі вясёлым настроі. Будыначак — маленькі, на від — убогі і мала ўмяшчае гледачоў.

Але пытанне з тэатрам ужо вырашана. Пастаноўлена будаваць новы «настаяшчы» тэатр. Ужо і сродкі асігнаваны, здаецца, тысячы дзве. Гэтага, разумеецца, мала, але пачатак будзе заложан. А што мае пачатак, тое будзе мець і канец.

# Полацкія цені

У Полацку, як і ва ўсякім горадзе, галоўная ўвага аддаецца цэнтру. Яго чысцяць, глядзяць, асвятляюць, прыхарашваюць. Цэнтр заняты установамі і гандлем: служывы люд, саматужнікі і гандляры — асноўная маса цэнтру. Тут жывуць дзейна, дыхаюць больш лёгкім паветрам…

А вось полацкія акраіны — яны, мне здаецца, без усякай апекі. Гразь на полацкіх акраінных вуліцах — штось неўявімае… Па вуліцах там у дажджлівую пару не ездзяць, а плаваюць. А па Безыменнаму завулку аж да самай Ленінскай вуліцы (цэнтр) нават і плаваць нельга: коні з каламашкамі топяцца.

Насяляюць гэтыя акраіны часткай рабочыя, дробныя майстры, а галоўная маса — люд без пэўнага сацыяльнага твару. Гэта тыя людзі, якія ў нашы часы не робяць жыцця, нават не ідуць за ім — яны проста жывуць. А чым яны жывуць, як жывуць, яны і самі вам не адкажуць на гэтае пытанне:

— Ат, жывём і ўсё.

Трэба было б бліжэй прыглядзецца да гэтага жыцця, каб накіраваць яго па больш жывому, больш здароваму шляху.

Вечар дзеліць полацкіх грамадзян на дзве няроўныя часткі: адна — дзейная, актыўная частка запаўняе ўвечары клубы, бібліятэку — карыстае час разумна. Клубаў у Полацку даволі, бадай, кожны саюз мае свой клуб, і абсталяваны яны здавальняюча.

Другая частка полацкіх грамадзян, акраінная, у значнай меры моладзь, рэгулярна штодня, ад 7 да 12 гадзіны, дзейна «шліфуе» тратуары па вул. К. Маркса: ад Гогалеўскай да плошчы і назад.

Адно невялічкае кіно, з аднэй праграмай на тыдзень, ды час ад часу гастралёры, большасцю халтура — не могуць цалкам задаволіць «культурныя» запатрабаванні гэтай часткі грамады. Некаторыя з іх шукаюць другіх забаў, забаў ілюзійнага характару.

А для гэтых забаў поле дзейнасці ў Полацку шырокае. Цэрабкопаўскія сталоўкі з півам, тры інвалідных піўных з продажам гарэлкі — усе гэтыя ўстановы размешчаны ў цэнтры, на гэтым шчодра шліфуемым вучастку. Адна з піўных, пад дзіўнай назвай «Червонных инвалидов», напамінае шынок старых часоў: алкагольны чад, п'яная дзікая лаянка, бруд, гразь.

Наогул полацкія ўстановы грамадскага харчавання і падсобныя ім не могуць пахваліцца чыстатой. Я, напрыклад, бачыў хлебапякарню, што пад ведамам камітэту ўзаемадапамогі (на Ленінскай вуліцы). Ма-

ленькае цеснае сутарэнне, дзве печы ў якім займаюць большую палову памяшкання; падлога ўкрыта пластам гразі на вяршок таўшчынёй. Ад печы да сцяны — 2 аршыны. Калі пекар садзіць хлеб у печ, дык лапатай ён упіраецца ў процілеглую сцяну. Я глядзеў, як пекар мачаў памяло ў ваду, каб вымесці под. Гэта была не вада, не, гэта і не памыі былі — гэта быў самы натуральны бруд!

Гарачыня ў памяшканні немажлівая. Падручны пекара працуе без парток, спераду прыкрыты фартухом, які мыўся к першамайскім урачыстасцям. У гэтым жа брудным памяшканні, атакаваныя хмарай мух, стаяць дзве скрыні з рашчынай. Тут жа і хлеб фармуецца, тут ён і складаецца.

А пякарня працуе круглыя суткі, на пяць змен: выпякае 100 пуд. хлеба, які корміць блізка пятую частку насельніцтва гораду! Гэта, памойму, павінна было б хоць крыху зацікавіць санітарны нагляд.

Дый наогул, не шкодзіла б бліжэй прыглядзецца да грамадскага харчавання ў Полацку.

Ці патрэбна такая колькасць закусачных і піўных у горадзе? Рамантуемая зараз 1-я сталоўка ЦРК, 2-я сталоўка ЦРК, адна інвалідная сталоўка з поспехам могуць забяспечыць горад. А рэшту «закусачных» можна было б прычыніць. Рабочыя першыя падаюць у гэтым прыклад. Яны патрабуюць ад гарсавета зачынення піўной Баркана, які прымасціўся каля новай пабудовы камгасу і спайвае, і ашуквае рабочых і крэдытам, і налічэннямі.

У 10 гадзін піўныя пачынаюць выкідаць п'яныя целы на вуліцу, дзе іх услужліва прымаюць часам міліцыянеры, большай часткай полацкія «баядэркі».

Тут жа ў цэнтры піўных размясцілася другое дзіўнае месца забаў — цір. У гэтым «ціры» практыкуецца нейкая «швейцарская стральба». Уявіце сабе стол, на ім малюнкі звераў і птушак, падзеленыя лініямі на квадраты. На адным канцы стала ўпоперак прыладжан круг так, каб ён мог рухацца, на другім — нейкі самастрэл.

Стол цесна абступіла грамада ігракоў. Калі грошы з ігракоў сабраны, адзін дзядзя разганяе круг, а другі запушчае ў гэты час з самастрэлу нейкую іголачку. Яна абавязкова пападае ў круг, на якім такія ж малюнкі, як і на стале. Хто ставіў на салаўя, выйграе ў два разы больш, хто на льва — у тры разы, а наогул, урэшце, усе прайграюць.

Тут жа поплеч — другая «забава». Да сцяны прыладжана кардонавая фігура цыркавога клоўна з адчыненым ротам. І вось прыходзіць які-небудзь чудак, бярэ за грыўню тры мячыкі — і давай іх шпурляць

у адчынены рот клоўна. Папаў дурань мячыкам у дзірку — рагоча, здаволен, не папаў — другія рагочуць. Вось і ўся забава.

Што дае такі «цір» — «прадпрыемства» дзіцячай камісіі, прыбытак ідзе на беспрытульных. Але я не думаю, каб тут быў прыбытак, а калі б ён і быў, дык у карысць беспрытульных можна сабраць грошы іншым шляхам, больш культурным. Навошта карыстаць азарт несвядомай масы (швейцарская стральба — тая ж латарэя) або развіваць у ёй дзікія інстынкты, бо кіданне мячыка у рот клоўна спортам назваць нельга.

## Асенняе ажыўленне

Полацак перажывае гарачыя дні. Значнае ажыўленне наглядаецца ў судовых установах. У выязной сесіі вярхоўнага суду разглядаецца справа Лапкоўскага, Багданава і іншых; на чарзе — справа суддзі Шалімава; далей будзе справа полацкіх камбінатаўцаў. Гэтыя ўсе працэсы выклікаюць шырокую зацікаўленасць грамадскай думкі.

Асабліва ажыўленне прыкмячаецца ў інспектарыяце народнай асветы. Тут зранку і да канца заняткаў — натоўп народу. Прыходзяць дзеці, старыя, прыязджае моладзь з вёскі.

Вёска ў апошнія часы прад'явіла вялікі попыт на асвету. У Педтэхнікум і Лясны тэхнікум сёлета небывалы наплыў заяў. Прыймовыя камісіі, праводзячы ўважлівы сацыяльны адбор, прымаюць тых, бацькі якіх плацяць 3–5 рублёў падатку. Гэта, канечне, не можа здаволіць жадання вучыцца нават бядняцкай часткі вёскі. Значная частка вясковай моладзі, скончыўшай раённыя сямігодкі, застаецца толькі пры сваім жаданні вучыцца далей — выканаць гэта жаданне яна не можа.

Ёсць нездаволенні і ў горадзе. Гарадскія сямігодкі перапоўнены да адказу, асабліва другія канцэнтры. Яны не могуць змясціць усіх скончыўшых першы канцэнтр і чатырохгодкі, і частка дзяцей, скончыўшых чатырохгодкі і першы канцэнтр, застаецца па-за сценамі школы. Гэта дзеці дробных гандляроў і іншых такіх невыразных «прафесіяў», уладаючыя якімі не жывуць, а, як кажуць, «верцяцца». Кантынгент гэты ў Полацку даволі значны, і ён вельмі незадаволен абмежаваннем для яго магчымасці вучыцца.

Інспектарыят Асветы ваюе зараз за павелічэнне бюджэту, які і так займае ў агульным бюджэце 38 проц.

Інспектарыят Асветы праводзе таксама асеннюю самакрытыку ў сваіх радох: укамплектоўвае, пераўкамплектоўвае, адсявае некарысны элемент.

На гэтым грунце вынікаюць, зразумела, непаразуменні. Вось адно даволі арыгінальнае з гэтых непаразуменняў. Настаўніца 9-й школы гр. Н. Маладзежка за мінулы навучальны год прапусціла без уважлівай прычыны 17 вучэбных дзён і 7 пасяджэнняў школьнай рады, з агульнага ліку — 14.

Наша савецкая школа прагулаў не любіць, Маладзежку, натуральна, звольнілі з працы. РКК, куды гр. Маладзежка падала скаргу, знайшла кірунак адміністрацыі правільным. Інакш паглядзела на справу гр. Маладзежка, маючы на гэта нейкія свае віды. На пастанову РКК, і Інспектарыяту Асветы яна падала скаргу ў Акруговы Інспектарыят Працы. І вось Бюро нагляду па працоўных справах пры Інспектарыяце Працы ў пасяджэнні за 7 верасня выносіць арыгінальную пастанову:

«Пастанову РКК скасаваць, як парушаючую арт. 133 Кодэксу Закону аб Працы ў сэнсе пераводу ў віду цяжарнасці Маладзежка і прычыны неакуратнага наведання заняткаў з'яўляюцца важнымі, што сведчаць далучаныя да заявы дакументы».

Далучаныя дакументы ні аб чым не сведчаць, бо прагулы былі ўзімку. Апрача таго, арт. 133 Кодэксу Закону аб Працы забараняе далёкія камандыраванні і перавод цяжарных жанчын без іх згоды на гэта.

Калі Інспектарыят Асветы зазначыў гэтую акалічнасць, што Маладзежка проста звальняецца за нежаданне працаваць, а не камандыруецца, адзін з сяброў Бюро нагляду адказаў:

— Ну што ж, прыйдзецца падшукаць другі артыкул.

Чаму ж Інспектарыят Працы так абараняе гр. Маладзежка, якая сваімі яўнымі прагуламі парушае нармальную школьную працу? Кажуць, за тым, што гр. Маладзежка крыху зрадні інспектару працы т. Антонаву — жонкай яму прыходзіцца. Канечне, такую малжонскую чуласць мы павінны толькі вітаць, але ўсё ж такі гэта чуласць не павінна перашкаджаць нармальнай працы нашай школы.

У Акруговым Інспектарыяце Асветы (тут жа і Акрнацкамісія) можна наглядаць абразкі другога парадку.

Вось, напрыклад, прыходзе ў інспектарыят настаўнік баравухінскай школы Савіцкі і просіць праэкзаменаваць яго па беларускай мове. Старэнькі, сівенькі, аж дзіву даешся, што да гэтай пары ён мовы не вывучыў.

Але дзіўнага тут нічога няма: гэты скромны настаўнік баравухінскай школы Савіцкі — былы інспектар народных вучылішч. Гэта адзін «из стаи славных», можа, і не актыўных, але ўпартых полацкіх (у мінулым, канечне), ворагаў беларусізацыі. Цяпер ён ужо сам прыходзе

ў нацкамісію і просіць «праэкзаменаваць» яго па беларускай мове. Пералом у адносінах да беларусізацыі адбыўся ў ім зусім натуральна.

І гэты пералом прыкмецен усюды. Раз'ясніцельная праца ў галіне нацыянальнага пытання дала магчымасць зразумець кожнаму сутнасць нацыянальнай палітыкі савецкай улады і камуністычнай партыі. Палачане цяпер ужо ўразумелі, што савецкая ўлада і камуністычная партыя не жартуюць з беларусізацыяй, што пытанне беларусізацыі пастаўлена рашуча і цвёрда.

Праўда, у галіне беларусізацыі ў Полаччыне не ўсё яшчэ гладка, у акруговым саюзе спажывецкіх таварыстваў, напрыклад, не пачуеш яшчэ ніводнага слова па-беларуску; пракурор акругі яшчэ не ведае, што за месяц такі — студзень. Вобальскае лясніцтва, напрыклад, утварыла свой правапіс і шпарыць па ім паперкі так, што і самі не ведаюць, пра што пішуць.

Сустракаюцца яшчэ і варожыя адносіны да беларусізацыі. Часта можна пачуць, як лаюць «эту мову», калі які-небудзь «душка ваенны», гарцуючы сваім красамоўствам перад сваёй «дамай сэрца», высмейвае беларускую мову, а заадно і ўкраінскую. «Дама сэрца», якая-небудзь полацкая пішмашыністка, хіхікае, але, прыйшоўшы дахаты з пагулянкі, хутчэй бярэцца «за Лёсіка» і зудзіць яго да поўначы, бо «Нацкамисия требует знания белорусского языка».

А Нацкамісія запраўды трэбуе. Гэтымі днямі з полацкай пошты, згодна патрабавання Нацкамісіі, звалены два працаўнікі, якія ўпарта адмаўляліся вывучаць беларускую мову.

Такія патрабаванні Нацкамісіі, яшчэ больш суровыя, канчаткова зліквідуюць настрой пасіўнага пярэчання беларусізацыі, і палачане запамятуюць канчаткова аб тых часох, калі яны так неразумна паўставалі супроць таго, чаго фактычна нельга ўжо было ні спыніць, ні стрымаць.

## У акруговай кузні грамадскай думкі

5-га верасня 1927 года акруговая газета «Чырвоная Полаччына» ў № 69 (428) зрабіла мясцоваму камгасу і гарсавету заўвагу. У аддзеле «Па горадзе» камгас і гарсавет маглі б прачытаць наступнае:

ТРЭБА ПАПРАВІЦЬ

*Вуліца рога Бухарына і Льва Талстога, дзе знаходзіцца Ваенкамат, тратуар, які праходзіць па вуліцах, зусім не мае ніякага выгляду, бо тратуар, як балота, чырвонаармейцы, якія праходзяць*

*па гэтай вуліцы, лаюць гарадскі савет і камунальную гаспадарку, якія да гэтага часу не прыступаюць да рамонту гэтага тратуара, дзе можна іншы раз застацца калекай, бо там знаходзяцца такія выграбы, дзе можна зламаць сабе ногу.*

*Трэба гарсавету і камунаддзелу звярнуць асаблівую ўвагу на гэтую вуліцу, бо там праходзяць шмат людзей, як ноччу, так і днём, а таксама чырвонаармейцы, каб не было нешчаслівых выпадкаў.*

*Місцыр.*

Ці прачыталі гэту заметку мясцовы камгас і гарсавет, ці не, зрабілі яны якія-небудзь арганізацыйныя вывады з гэтага, ці не зрабілі, я не ведаю. Але я заметку прачытаў. Прачытаў і сумна мне зрабілася.

Шкада мне стала чырвонаармейцаў, а ізноў жа і крыўдна за іх. Людзі жывуць у такіх небяспечных абставінах, што ва ўсякую хвіліну могуць паламаць сабе ногі, а аўтар заметкі Місцыр і за людзей не хоча іх прызнаваць. Злосць мяне разабрала і пайшоў я ў «Чырвоную Полаччыну» спрачацца — чаму дапушчае такое.

На першай старонцы «Чырвоная Полаччына» асцярожна намякае на свой адрас: «вугал Невельскай і Скарыны».

Але калі вы прыехалі з вёскі, з другога гораду, і вам трэба знайсці рэдакцыю — не верце гэтаму адрасу: няма такіх вуліц у Полацку. Калісь былі, а цяпер — няма. Рэдакцыя змяшчаецца на рагу вуліцы Войкава (б. Невельская) і яшчэ нейкай, а вуліцы Скарыны — няма. Рэдакцыю вы можаце знайсці старым выверaным спосабам, які грунтуецца на прыказцы: «Язык да Кіева давядзе». Гэтым спосабам, праблукаўшы з паўгадзіны, я знайшоў рэдакцыю. Крутыя ўсходкі проста з вуліцы вядуць на другі паверх. З вузенькага цёмнага калідору я адчыняю маленькія дзверы і ўваходжу ў невялікі пакой. 2 сталы, шафа і тэлефон.

— Тут рэдакцыя? — пытаюся.

— Тут.

— Уся?

— Уся.

— Небагата ж у вас.

— Ды вось, як бачыце.

І запраўды, я ўбачыў убогасць. За двума сталамі два хлапцы і трэці дзядзька. Два хлапцы напружана скрабуць пер'ямі, а дзядзька, узброіўшыся ножніцамі, спрытна абстрыгае водціскі і наклейвае іх на ліст паперы. Хлапцы — адзін сакратар, а другі — літаратурны

праўшчык, а дзядзька — рэдактар. Ён жа і выпускаючы, ён жа і матэрыял увесь праглядае, ён жа і на ўсе пасяджэнні і нарады ходзіць. Адным словам, гаспадарка аднаконная.

Газета выходзіць два разы на тыдзень, мае тыраж каля 3-х тысяч экзэмпляраў.

— Чаму такі малы тыраж?

— «Беларуская вёска» і «Крестьянская газета» як дзешавейшыя выцясняюць нашу газету. Яны каштуюць па 15 кап. на месяц, а наша — 25 кап.

І гэта праўда. Селянін наш глядзіць на газету яшчэ па яе цане: дзешавейшая, значыць і выпісаць можна.

«Чырвоная Полаччына» мае дапісчыкаў каля 600 чалавек, а выяўленых актывістых-дапісчыкаў, якія пішуць больш-менш рэгулярна — 350 ч. Гэта ўсё — добраахвотнікі, якія пішуць у газету без усякага ганарару, нават некаторыя і на паштовыя расходы нічога не маюць ад газеты. Ганарару газета наогул нікому не плаціць. Такое становішча, безумоўна, шмат перашкаджае ў справе палепшання газеты. Бываюць такія выпадкі: заказвае газета якому-небудзь акруговаму спецу артыкул, а той цікавіцца:

— А колькі ж вы мне заплаціце?

— Мы ганарару нікому не плацім. Няма такога ў нас.

— Дык і пісаць не буду.

І не піша. А то бывае і так. Прыносе ў рэдакцыю акруговы аўтар артыкульчык і першым чынам:

— Колькі заплаціце?

— Нічога, няма грошы.

— Ну, дык бывайце здаровы. Я ў цэнтральную газету пашлю — там заплацяць.

Пасылае. Там, канешна, плацяць, а свая акруговая газета без матэрыялаў, і газетныя працаўнікі прымушаны драць гэты матэрыял, адкуль прыйдзецца. А самім пісаць — ці няма адпаведнай кваліфікацыі, ці часу няма, бо перагружаны яны да адказу.

З новага бюджэтнага году працаўнікі «Чырвонай Полаччыны» чакалі некаторага палепшання. Спадзяваліся, што ім пашыраць штат, дадуць трохі на ганарар. Яшчэ два працаўнікі ў газеце далі б магчымасць шырэй карыстаць сялянскія лісты, хоць крыху звязацца з чытачом і дапісчыкам. У газету піша каля 600 чалавек, а газета зусім не ведае свайго дапісчыка. Вучоту селькораў амаль што ніякага. На акрузе працуе 30 гурткоў селькораў; газета з імі не звязана, ніякага

кіраўніцтва ім не дае. Працаўнікі газетныя выязджаюць на раёны рэдка: усяму віна адсутнасць сродкаў і часу. Павелічэнне штату на двох працаўнікоў пры даных умовах працы рэдакцыі «Чырвонае Полаччыны» і пры тэй ролі, якую яна павінна адыгрываць, была б зусім натуральная з'ява, і працаўнікі рдакцыі былі ўпэўнены, што сёлета штат у іх будзе пашыран. Але яны памыліліся. Сёлета бязлітасна парэзалі каштарыс газеты — не далі ніякага павелічэння:

— І так будзе добра.

Наогул, погляд акруговых працаўнікоў на газету надзвычайна цікавы. Калі ішла «вайна за бюджэт», дык адзін з працаўнікоў, маючы блізкае дачыненне да бюджэту, выказаў такі погляд:

— Што там, — кажа, — рабіць вам у газеце? Ды я пасаджу любога свайго канцылярыста, і ён выпусціць адзін газету.

Бачыце, якія спрытныя канцылярысты ў Полацку. Адзін газету выпусціць «і глазом не маргнёць».

Зразумела, пры такім поглядзе на рэдакцыйную працу, што яе можа выканаць любы канцылярыст, няўхільны і тэндэнцыі зрабіць газету філіялам любой акруговай канцылярыі. І такія тэндэнцыі ёсць.

А няхай газета паспрабуе напісаць што-небудзь каму-небудзь не па густу, на яе так засыкаюць, што і месца не знойдзеш. Вось характэрны выпадак.

Атрымала газета ліст з вёскі пра непрыгожыя ўчынкі аднаго кааператара. Змясцілі. Аказалася, што ў гэты час кааператара перавялі на другую працу з «павышэннем». Натуральна, выклікаюць рэдактара, куды трэба, і давай скабліць:

— Як жа гэта ты так? Га? На нявіннага чалавека…

— Дык ён жа вінаваты… нельга ж замазваць… самакрытыка ж…

— Мала што самакрытыка.

Чуць апраўдаўся рэдактар.

А вось другі выпадак. Змяшчае газета заметку, у якой і не думае хваліць аднаго з інструктароў сельсаюзу: піша аб ім тое, чаго ён варты. Заметку праглядаў часова выкон. абавязкі рэдактара, і вось, калі ўжо было надрукавана 600 экз., друкарня атрымала загад спыніць друкаванне. Спынілі, вынялі заметку пра інструктара і залаталі дзюрку другой заметкай.

Аказалася, што гэты інструктар працаваў калісь разам з больш адказным акруговым працаўнікам.

Бачыце, які чулы народ у Полацку. Былых таварышоў не забываюць.

Усё гэта, канечна, добра. Такая чуласць вельмі нават пахвальна, але паспрабуйце вы пры такой чуласці самакрытыку разгарнуць.

Не дзіва пасля ўсяго гэтага, што «Чырвоная Полаччына», нягледзячы на шчырае жаданне працаўнікоў рэдакцыі ажывіць газету, палепшыць яе — усё яшчэ не можа знайсці сабе сталага месца ў жыцці. Праўда, сярод таго ліку чытачоў, які мае газета, яна карыстаецца аўтарытэтам. Трэба бачыць, з якой цікавасцю полацкія сяляне чытаюць сваю газету, асабліва, калі газета піша па пытаннях, блізкіх селяніну, як яны шануюць сваю «Полаччыну»! Але чытач гэты невялічкі. 3 тысячы экзэмпляраў на ўсю акругу вельмі і вельмі мала.

Што ж патрэбна газеце?

Безумоўна, патрэбна павелічэнне штату рэдакцыі, хаця б на двух працаўнікоў. Мы ўжо не гаворым аб канторы, дзе ўсяго толькі адзін працаўнік: ён і загадчык канторы, і скарбнік, і падпіску прымае, і газету пашырае і г. д. і г. д.

Далей, неабходна павелічэнне сродкаў на раз'езды, каб даць магчымасць газеце наладзіць хоць маленькую сувязь з чытачом і дапісчыкам.

І нарэшце, што самае галоўнае, патрэбна выжыць погляд на газету як на «філіял акруговых канцылярый». Трэба павесці рашучую барацьбу з такімі настроямі, якія цягнуць газету ў ціхае плаўнае лона, якія імкнуцца зрабіць з газеты «орган выканання дырэктыў акруговых канцылярый».

Усё вышэйпералічанае, што патрэбна для «Чырвонай Полаччыны», ёсць «галодны мінімум» для яе існавання. Бо ў такіх умовах, у якіх існуе зараз «Чырвоная Полаччына», яна, канечне, не можа быць акруговай газетай, аснаўны чытач і дапісчык якой — малапісьменны селянін.

Тыя памылкі і недарэчнасці, якія мы знаходзілі ў «Чырвонай Полаччыне» (а іх ёсць шмат), не залежаць, канешне, ад працаўнікоў рэдакцыі: яны залежаць ад беднасці газеты. Пры такіх умовах працы, пры тэй нагрузцы, якую маюць працаўнікі «Чырвонае Полаччыны», будуць памылкі — іх не можа не быць. А адсюль вывад: або — або. Або палепшыць газету, або — закрыць. Бо пры тых умовах, у якіх існуе зараз «Чырвоная Полаччына», яна, бадай, ці апраўдвае затраты на яе.

# КАМБІНАТ З ДЗЕВЯЦІ

*г. Полацак*

Дым заводскіх труб не зацямняе полацкага неба. Палачанін абуджаецца раніцой не ад настойлівага зову машыны, не ад суровай музыкі гудкоў фабрык і заводаў... Мала іх у Полацку — да таго мала, яны, бадай, і не прыкметны.

Полацкі камбінат яднае ўсяго 9 прадпрыёмстваў: цагельны завод, 3 лесапільных (2 — у Полацку, 1 — у Абольску), смалакурны завод, сельскагаспадарчыя майстэрні, вапенны завод, электрастанцыя і паравы млын. Вось і ўся прамысловасць. З гэтых прадпрыёмстваў толькі цагельня мае 194 рабочых і лесапільныя заводы: № 1 — 130 рабочых, № 2 — 80, рэшта ўсё дробныя прадпрыёмствы, паўсаматужніцкага тыпу.

Што можна сказаць аб нашай прамысловсці? Ды нічога, апрача кепскага.

Так ахарактарызаваў становішча полацкага прамысловасці кіраўнік камбінату. Гэты яго песімізм — рэч зусім натуральная. Невялікая па колькасці полацкая прамысловасць, агульны зварот якой усяго 1 мільён 700 тысяч рублёў, ухітрылася набыць запазычанасці 547 тысяч.

Больш паўміліёна запазычанасці ад такіх, здавалася б, прыбытковых прадпрыёмстваў!

У чым жа тут справа? Якія прычыны гэтаму? А прычыны звычайныя, нашы, калі можна так сказаць, традыцыйныя прычыны: безгаспадарчасць, растраты, адсутнасць тэхнічнай сілы, дрэнная якасць у вырабу. Ранейшыя кіраўнікі камбінату, якія давялі полацкую прамысловасць да такога катастрафічнага становішча, праступна-нядбайна адносіліся да працы. З-за недагляду і нядбайнасці выраб на некаторых прадпрыёмствах быў годны толькі на 40 проц., рэшта — брак. Дагаворы на збыт заключаліся вельмі невыгодныя; матэрыял для вырабу прыёмшчыкі часта прыймалі не агледзіўшы яго як след і потым матэрыял аказваўся нягодным. Некатарыя свае лясныя аперацыі камбінат, у пагоні за прыбыткам, развінуў шырэй, чым трэба было, і правёў іх вельмі няўдала, што і дало галоўны дэфіцыт.

За ўсе гэтыя ўчынкі полацкія камбінатаўцы апынуліся за кратамі. З ліпеня месяца 9 полацкіх камбінатаўцаў (у гэтым ліку б. кіраўнік камбінату Палонік і некаторыя кіраўнікі асобных прадпрыёмстваў, прыёмшчыкі і інш.) чакаюць суда.

Пралетарскі суд дасць, канечне, кожнаму з гэтых працаўнікоў узнагароду па яго заслугах, але полацкай прамысловасці ад гэтага лягчэй

не будзе. У тым становішчы, у якім апынулася зараз полацкая прамысловасць, яна, разумеецца, не здолее ліквідаваць сваю паўмільённую запазычанасць, тут ужо наш урад павінен зрабіць пэўныя вывады.

Але і без гэтай запазычанасці перспектывы полацкай прамысловасці невясёлыя. На 1-е лістапада камбінат, хоць і пры новым кіраўніцтве, прадугледжвае ўжо немаленькі дэфіцыт. Ясна, што прычыны слабасці полацкай прамысловасці не толькі ў дрэнным кіраўніцтве — яны хаваюцца ў самой прамысловасці, у яе магчымасцях.

З усіх прадпрыёмстваў камбінату толькі цагельня абсталёвана больш-менш здавальняюча. Гофманскія печы даюць добры выраб, браку мала, цэгла знаходзе добры збыт. Абсталяванне рэшты прадпрыёмстваў, галоўныя з якіх лясныя заводы, вымагае шмат лепшага. Для характарыстыкі галоўнай галіны полацкай прамысловасці, лясных заводаў, агульны зварот якіх складае каля паўтара міліёна рублёў, даволі будзе азнаёміцца са становішчам ляснога заводу № 2.

На заводзе зараз працуе 80 рабочых. Склад рабочых бягучы, раней завод працаваў на 3 змены, зараз перайшоў на дзве. Рабочыя працуюць на вырабатцы, зарабляюць у сярэднім 60 руб. у месяц.

Ужо з аднаго надворнага выгляду адчуваецца, што на заводзе няма пільнага гаспадарчага вока, цвёрдай гаспадарскай рукі.

Аграмадны пустыр, які аднэй стараной упіраецца ў Дзвіну, з другой адмяжован дарогай, увесь завален лесам. Не відаць нават і следу хоць якой-небудзь абгародкі. На фоне гэтага, хаатычна раскіданага ляснога матэрыялу, чуць высоўваецца з груды лясной два «карпусы» заводу. Недалёка ад іх прымасціліся невялічкі будынак — гэта кватэра загадчыка, канцылярыя, сталоўка рабочых. Вось і ўвесь завод.

Каля першага корпусу, куды мяне вядзе загадчык гаспадаркі, у беспарадку навалены гатовы матэрыял. Ён чамусь не адсылаецца, а такое блізкае яго суседства з заводам небяспечна і ў пажарных адносінах. Каля другога корпусу віднеецца аграмадная груда апілак.

Уваходзім у першы корпус.

— Вось новы станок паставілі, а піл няма, так і стаіць без дзела, — кажа рабочы.

— А чаму піл няма?

— Круглых піл наогул трудна знайсці. Ёсць тут у нас у прыватніка 2 круглыя пілы, просіць ён за іх 170 руб., дык камбінат грошы не дае.

У суседнім аддзяленні стаіць канцарэзка, тыпу — саматужніцкага, рабочых рук тут патрэбна многа. Наогул абсталяванне ў корпусе старэнькае, прымітыўнае — у працы тут жывая сіла прымае больш ўдзел, чым машына.

Ідзем у другі «корпус». Корпус гэты — вялікая будка з дошчак, якая ад даўнасці распаўзаецца па ўсіх швох.

Будыніна гэта мае такі выгляд, што, здаецца, набяжы моцны ветрык — і яе зложа ў кучу.

Тут таксама можна наглядаць, што машына яшчэ не перагнала жывой сілы. Вось узяць апілоўку. 2 рабочых накладаюць 2–3 дошкі на станок і, напружыўшы мускулы, гоняць яго па жолабу каля пілы. І цяжка, і не скора. А тут усяго і патрэбен адзін пас, які б лёгка замяніў працу двох чалавек. Такое ж і іншае абсталяванне: старое, прымітыўнае, зношанае. Толькі цыркулярка працуе яшчэ здавальняюча, але і яе ненадоўга хопіць. Паставілі і ў гэтым корпусе 2 новыя станкі, але таксама яшчэ не працуюць — піл няма. Праўда, пілы атрыманы з Віцебску, але яны ляжаць на станцыі — няма якіх-небудзь 200 руб. выкупіць іх.

Рабочыя скардзяцца на дрэнныя ўмовы працы:

— Вецер кругом свішча, ды і небяспечна — падуе вецер — страха на галаву зваліцца.

Ёсць нараканні і на адміністрацыю.

— Мала цікавяцца прадпрыёмствам, адсюль і безгаспадарчнасць.

— Вось матэрыялу гатовага колькі, чаму яго не адпраўляюць?

— Два плыты лесу прынялі, а ён гнілы.

Заводы выпрабляе, галоўным чынам, дошкі пад скрынкі для фруктаў, збывае свой матэрыял у Курск і на Украіну. І вось на гэты збыт пазаключалі вельмі нявыгадныя дагаворы, асабліва з «Вукопспілкой».

— Ашукалі нашых украінцы, хаця і суседзі, — кажуць рабочыя.

Скардзяцца рабочыя і на кватэрныя ўмовы. І праўда, кватэрныя ўмовы — немагчымыя. Жывуць рабочыя ў бараках. Цесныя, цёмныя, з адным вакном пакойчыкі. У такім пакойчыку, залежна ад сям'і, змяшчаецца 3–7 чалавек. Тут і спальня, і кухня, і сталовая. Сёлета зрабілі невялічкі ўнутраны рамонт, а страхі не перакрылі — працякае.

На заводзе — электрычнасць, а ў рабочыя кватэры не правялі святла — газаўкамі копцяць і так цесныя пакойчыкі. Клубу ў рабочых няма, адсюль: культурна-асветнай працы бадай ніякай.

Вось так жывуць і працуюць людзі.

Наогул, ад заводу застаецца ўражанне, што гэта далёка не завод, а што гэта звычайнае саматужнае, прымітыўнае прадпрыёмства.

Праўда, іншыя лясныя заводы абсталёваны крыху лепш, але і там небагата.

Зразумела, што пры такім абсталяванні полацкіх лясных заводаў, пры такой прымітыўнасці іх, не можа быць і гутаркі аб іх прыбытковасці, аб пашырэнні вытворчасці. Полацкая лясная прамысловасць, безумоўна, рашуча патрабуе аздараўлення. І гэта аздараўленне можа, на наш погляд, ісці па двох лініях: па лініі капітальнага пераабсталявання кожнага прадпрыёмства паасобку, што звязана з вялікімі затратамі, ці па лініі згуртавання заводаў у адным месцы, аб'яднання іх у адзін завод. Апошняе, на наш погляд, больш рацыянальна, бо яно дасць магчымасць, скарыстаўшы часткай абсталяванне існуючых заводаў, часткай аднавіўшы новым, больш удасканаленым, з меншымі затратамі пабудаваць замест саматужніцкіх прымітываў новы магутны лясны завод, сапраўднае індустрыяльнае буйное прадпрыёмства.

У такім сапраўдным пралетарскім асяродку Полацак, горад былашага чыноўніцтва і папоўства, адчувае вялікую патрэбу. Пралетарыятам Полацак, наогул, не багаты. Усе прадпрыёмствы камбінату яднаюць усяго 475 рабочых. Гэта — на горад з насяленнем больш 20 тысяч! Праўда, на тэрыторыі акругі ёсць адно больш-менш буйнае прадпрыёмства — гута «Труды» на 800 рабочых. Але гэты завод далёка ад гораду, і Полацак не мае да яго ніякага дачынення — да таго не мае, што нават і прадукцыяй яго не карыстаецца. Вясной, калі ідзе падрыў лёду на Дзвіне, калі па ўсім Наддзвінні высыпаюцца шыбы з вакон, Полацку патрэбна многа шкла. І вось гэтае шкло Полацак, маючы на сваёй тэрыторыі шкляны завод, купляе ў Менску, а то і на Украіне. Да жартаў падобна, але гэта факт, бо гута знаходзіцца пад ведамам «Шклотрэсту».

Такое становішча, на наш погляд, не зусім нармальна. Завод «Труды» — прадпрыёмства гаспадарча-выгаднае, прыбытковае. Далучэнне яго да полацкага камбінату дало б апошняму мацнейшую матэрыяльную базу, што спрыяла б хутчэйшаму палепшанню яго дробных прадпрыёмстваў. Полацкі камбінат зараз намячае пабудову новай электрастанцыі, пракладку вадаправоду. На ўсё гэта патрэбны сродкі, якіх у яго няма.

Безумоўна, тут патрэбна дзяржаўная дапамога. Аздараўленне полацкай прамысловасці патрабуе грашовых укладанняў у яе даволі салідных. Але гэты ўкладанні павінны быць так ці інакш зроблены, бо без іх полацкая прамысловасць не выйдзе з таго крызісу, у якім яна зараз апынулася.

# НОВАЯ ПЕСНЯ ПАД СТАРЫМІ ЛІПАМІ

— Ну, цяпер трымайся. Сам трымайся і шапку трымай.

Таварыш Станіслаў папярэдзіў мяне своечасова. Мы выехалі на роўную, гладкую дарогу, і наш англа-амерыкан развіў такую хуткасць, што не ўчарэпся я за бераг лінейкі — на першых жа 20-ці сажнях мячыкам бы выскачыў з яе. Паўтара кіламетра — ў адзін момант, віхрам пранесліся.

— Ну што, як? — павярнуўся да мяне Станіслаў.

— Рысь у яго — хоць куды. Зайца дагнаць можна.

Тав. Станіслаў — камунар камуны імя Леніна. У Дрысе ён ахвотна згадзіўся падвезці мяне да камуны і цяпер апавядае мне пра яе жыццё-быццё.

## ЗЛАЖЫЛІ ЎСЁ Ў КУЧУ І ЖЫВЁМ

— Як мы жывём? А вось — злажылі ўсё ў кучу і жывём.

Па твары яго прабягае ледзь прыкметная ўхмылка — не то лёгкай іроніі, не то здзіўлення, нібы ён толькі цяпер агледзеўся: «А і запраўды, як гэта мы злажылі ўсё ў адну кучу і жывём».

— Не ведаю, як далей, — прадаўжае т. Станіслаў, — пакуль што нічога жывём...добра.

За дарогу т. Станіслаў увёў мяне ў курс усіх спраў камуны. Расказаў ён пра тых «арцельцаў», якія жылі да іх у камуне, як яны апусцілі будынкі, расказаў пра планы і меркаванні камуны, пра тое, як «камуна хоча зажыць па-лепшаму, каб не толькі працаваць было добра, але і адпачываць соладка». Расказаў мне т. Станіслаў і пра тыя дробныя нелады, якія наглядаюцца яшчэ ў камуне:

— Бывае, бабы яшчэ з-за якога-небудзь яйка пасварацца. Не навучыліся мы яшчэ жыць зусім дружна. Але нічога. Будзем жыць! Будзем працаваць, і нішто нас не зломіць!

Тав. Станіслаў энергічна крануў лейцамі, зычна гэйкнуў, і мы зноў віхрам панесліся міма невялічкіх хутароў, новенькіх пасёлкаў.

— Ды і як жа тут не жыць? Гляньце, які абшар! — і т. Станіслаў абвёў рукой навокал.

Мы ўжо былі на палёх камуны. Паабапал чыстай дарожкі, як вокам акінуць, разлегліся роўныя гладкія абшары. Налева густой зялёнай сцяной стаіць авёс.

— Зелен яшчэ, — кажа Станіслаў, — баімся, што не даспее, а ён — наша галоўная надзея. Бач, які кавалак засеялі.

Управа ад дарогі такой жа сцяной стаіць лён.

— А вось лён — удаўся, — хваліць Станіслаў, — калі добра збярэм, дык і крэдыты аплацім і проценты па іх.

## ХАОС ТВОРЧАСЦІ

Вялікі двор камуны, абстаўлены з усіх бакоў будынкамі, на першы погляд прадстаўляе штось хаатычнае, нібы пасля пажару людзі параскідалі ў сумяціцы рэчы і няма куды прыбраць. Вось пасярод двара згрупаваліся розныя сельскагаспадарчыя машыны і прылады, за імі пад ліпамі навалены груды чарапіцы, там, управа, будыніна ззяе дзюркамі ў страсе, а ліпавы гай, што раскінуўся перад быўшым панскім домам, завален бярвеннямі, зацярушан саломай.

Прыгожы гай, шумлівыя старыя ліпы. У свой час яны не бачылі такой «знявагі», чулі іншыя словы, іншыя песні. Дочкі быўшага ўладара маёнтку, якія толькі ўдзвёх жылі з гэтых абшарных ніў, у ціхую летнюю ноч выходзілі ў гай і праз густыя сплёты ліп томна ўздыхалі на луну, спявалі ціхія песні пра адважных рыцараў феадальнай эпохі, марылі аб рыцарах сваёй эпохі. Яны прагна чакалі гэтых рыцараў, каб яны вырвалі іх з-пад густых сплётаў беларускіх ліп і перанеслі гэтыя «нежныя кветкі» пад чысты блакіт італійскага неба ці на асфальт парыжскіх вуліц.

І прыйшлі рыцары, але не тыя. Новыя — рыцары працы. Яны не любаваліся на шумлівыя ліпы, бо яны іх садзілі, яны не глядзелі і на луну, бо іх вока прыкована было да зямлі...

Новы гаспадар, нечаканы рыцар, які, відаць, не меў часу вучыцца далікатнаму абыходжанню, проста, без шаркання і паклонаў, пабраў «нежныя кветкі жыцця» ў сваю загартаваную працай руку і не перанёс іх, а шмаргануў, і не па ўказанаму адрасу, а так — куды шлёпнуцца:

— Абы прэч з дарогі.

Рука новага рыцара, раскідаючы гэтыя «нежныя кветкі», якія сваю нежнасць бралі з соку другіх, працоўных, раслін, шпыраючы іх далей ад сябе, у гэты ж час закідала смеццем і ліпавы гай.

Гэта яна зрабіла такое бязладдзе на шырокім двары пад шумлівымі ліпамі...

Але прыгледзімся бліжэй да гэтага бязладдзя... Разбурэнне? Не! Гэта — творчасць! Мы бачым, як з гэтай хаатычнасці афармляецца новае, моцнае...

Тая будыніна, што ззяе дзіркамі ў страсе, скідае сваю шэрую дзюравую шапку і надзяе новую, больш моцную з тэй самай кафлі, якая звалена пад старымі ліпамі. Тыя сельскагаспадарчыя прылады, што згрупаваліся сярод двара, будуць у парадку размешчаны ў гэтай будыніне, пад новай страхой. А гэтыя бярвенні, якія так назаляюць старым ліпам, пойдуць на падтрыманне вунь тэй будыніны, што стаіць у канцы гаю.

— Бачыце, колькі ў нас яшчэ работы, — кажа сакратар савета камуны, які павёў мяне аглядаць гаспадарку. — З будынкамі ў нас цяжка, асабліва з кватэрамі. Вось, пацікаўцеся.

Мы заходзім у бліжэйшую кватэру. Запраўды, становішча вельмі цяжкае. У пакойчыку на 6 кв. сажняў жывуць дзве сям'і з малымі дзеці, усяго 12 душ.

— Многа, многа ў нас яшчэ працы па адбудове, — прадаўжаў сакратар савета камуны. — Вунь лазня наша, бачыце — у зямлю ўрасла — трэба новую будаваць, кватэры патрэбныя да зарэзу, будынкі патрабуюць рамонту. Але нічога — не сёлета, дык на другое лета пераможам і гэту бяду.

## І СТАЛІ ЖЫЦЬ РАЗАМ...

Як арганізавалася камуна? Раней тут была арцель, але толькі на паперы. «Арцельцы» мелі індывідуальныя гаспадаркі, працавалі кожны паасобку і летась так «даарцеліліся», што рашылі ўжо дзяліць зямлю на хутары.

Цяперашні старшыня камуны, які служыў тады ў чыгуначнай ахране і кватараваў у арцелі, не мог спакойна глядзець на тое, як распадаецца пачатая было калектыўная справа.

— Пайшоў я, — апавядае т. Аўсеяс, — па ваколічных вёсках, да тых, хто пабядней, і давай іх угаварваць. Што ж вы, кажу, будзеце далей так засыхаць, як цяпер засыхаеце? Давайце, пойдзем у камуну.

Тав. Аўсеяс, відаць, карыстаецца аўтарытэтам сярод ваколічнай беднаты, бо яна так адказала на яго кліч у камуну:

— Ну што ж, калі ты пойдзеш, дык і мы пойдзем.

Павялі агітацыю і бьгўшыя «арцельцы».

Але беднякі не захацелі далей засыхаць на сваіх вузкіх палосках. І вось у студзені гэтага года 12 сем'яў беднаты, маючы 64 едакоў і 38 рабочых рук, звезлі ў адно месца сваю маёмасць, зламылі, як казаў т. Станіслаў, у адну кучу і сталі жыць разам.

Праўда, не багата было гэтай маёмасці: каля 15 кароў, 10 коняй, некалькі штук свіней, авечак, крыху дробнага інвентару. Вось і ўсё.

Не багата, але затое старыя ліпы пачулі новую песню, песню працы. Пакрысе, паволі пачалі камунары, новыя будаўнікі новага жыцця, ператрасаць свой стары хлам, адбіраючы больш карыснае, адкідаючы нягоднае. Аднавілі крыху жывёлу, збылі старых немалочных кароў, набылі новых, палепшанай пароды, прадалі частку коняй. Цяпер камуна мае 22 малочныя каровы і крыху маладняка, 20 штук свіней палепшанай пароды, 9 рабочых коняй, 2 жарабцоў-вытворцаў і аднаго сталёвага каня — трактар «Інтэрнацыянал».

— Мала яшчэ нам жывёлы, — кажуць камунары, — але к вясне спадзяёмся набыць больш.

І набудуць. Бо сталі жыць разам, склалі адну моцную сям'ю.

Харчаванне ў камуне добрае, мяса бадай кожны дзень, малака — хватае, хлеба ўдоваль.

— А ў вёсцы, — кажа мне адзін камунар — сусед за сталом, — часта прыходзілася і без хлеба сядзець, хоць і працавалі цяжэй.

А тут і працы менш і хлеба хватае.

Ён наліў у чыстую талерку кавы (кружак камуна яшчэ не набыла — часу няма за такой драбніцай ездзіць), аблізаў лыжку і, сербануўшы пару разоў, зноў павярнуўся да мяне:

— Як не кажы, а большай сям'ёй лепш жыць: і здабываць лягчэй, і спажываць весялей.

Пасля вячэры мы яшчэ доўгі час сядзелі за сталом, абмяркоўвалі чарговыя пытанні жыцця камуны, чыталі насценную газету камуны «Наша жыццё», гаварылі, як узняць культурна-асветную працу камуны, якая крыху кульгае ўсё на грунце гэтага самага кватэрнага крызісу.

— Кнігі ёсць, газеты выпісваем, працаваць ёсць каму, але няма дзе. Вось гэты пакойчык — і сталоўка, і клуб наш.

## І ДЛЯ СЯБЕ, І ДЛЯ ДРУГІХ

Прымітыўны званок камуны а 7-й гадзіне раніцы ўзняў на ногі ўвесь яе муравейнік. Усё заварушылася, забегала. Кожны спяшаецца на працу. У камуне — уважлівае размежаванне абавязкаў — кожны мае сваё пэўнае кола дзейнасці. Але «бюракратызму» няма. Калі ёсць пільніца ў якой-небудзь аднэй галіне працы, усе дружна ідуць на падмогу.

У камуне ёсць свой шавец, свой кравец, каваль, слесар. Працуюць яны не толькі для камуны, але бяруць і прыватныя заказы. Заробленыя грошы ідуць у агульную касу. Грошай у камуне на рукі нікому не даюць. А так, што трэба — заяўляй у савет — выдадуць.

Адна сям'я, агульнасць інтарэсаў, дружнае падтрыманне адзін другога — гэта ў камуне добра адчуваецца.

Дзеці і старыя пазбаўлены працы, але апошнія па прывычцы не могуць сядзець без яе. Адзін з гэтых старых — дзед Лукаш, у добраахвотным парадку ўвайшоў у камісію па размеркаванню бягучай працы. Ён увесь дзень тупае з кіёчкам па сядзібе камуны, пільным вокам глядзіць за парадкам, дае парады, наказы.

## ПАД АКАМПАНЕМЕНТ МАШЫНЫ

Пасля снедання частка камунараў паехала ў поле з радавой сеялкай сеяць жыта, [redacted] другая частка — на малацьбу. Павольна пыхкаючы, выкаціўся з машыннага складу сталёвы конь і, чмыхнуўшы ў ліпавыя сплёты газавым перагарам, папоўз на гумно. Праз чвэрць гадзіны — трактар прыладжан да малатарні, і загудзела песня працы. Мерна шастае прывод, туркочуць сіты, адбівае чоткія ўдары саламатрас, гудзіць матор, шуршаць пасы, шастае салома.

Гумно напоўнілася вясёлымі галасамі дарослых і дзяцей. Усе гукі зліліся ў стройную песню, у магутны гімн — гімн вольнае працы.

Прыслухайся да гэтай песні, прыгледзься да кожнага камунара, і ты бачыш, што тая праца, якая раней была для яго ярмом, цяжарам — цяпер у калектыве — прыемны занятак.

Няма прымусу — ёсць калектыўная воля.

Няма эксплуатацыі — ёсць вольная праца на сваю вялікую сям'ю.

Гэта ты бачыш і па вясёлых тварах камунараў, чуеш па іх звонкіх здаровых галасох.

Трактар — вялікая палёгка камунарам. Яны карыстаюць яго дзе толькі можна: і малоцяць, і пілуюць, і мелюць, і возяць. Сёлета ніводзін камунар не выйшаў з плугам у поле. Тав. Аўсеяс адзін на трактары ўзняў усё поле.

Машына пералажыла з плеч чалавека на свае плечы гару цяжкай працы.

Гэтым яна арганізавала чалавека, зрабіла з масы разнастайных характараў дружны, моцны калектыў.

* * *

Так пад старымі ліпамі расце новае. У шэры асенні вечар яны ўжо не сумуюць па старых песнях пра рамантычнага рыцара — яны прывыкаюць да новых гукаў, вясёлых, бадзёрых — гукаў вольнай працы на вольнай зямлі.

Пачакайце, старыя ліпы! Новы рыцар, ваш новы гаспадар, зверне ўвагу і на вас. Дайце час разысціся яго сталёваму каню, які выкліча к жыццю новыя свежыя сілы, больш багатыя, больш тучныя.

Ён, новы гаспадар, упарадце ўсё пільнае, усё неабходнае, ператрасе канчаткова стары хлам, адкіне непатрэбнае, узвядзе новае і тады... тады захоча палюбавацца на вашу прыгажосць у ціхі летні вечар. І песню заспявае, але не старую, не пра феадальных рыцараў, а сваю новую песню — пра вольную калектыўную працу і пра непераможнасць гэтай працы...

...Так пад старымі ліпамі з хаосу старога афармляецца новы, нябачаны яшчэ ў гісторыі чалавецтва, гмах вольнай калектыўнай творчасці.

*Камуна імя Леніна, Дрысенскі раён*



Лявон Савёнак з сябрам у часы навучання. 1910-я гг.



У кадэцкім корпусе ў Пецярбургу. Каля 1918 г.



Лявон Савёнак. Пачатак 1920-х гг.



Савёнак у высылцы. 1933–1934 (?) гг.




Вокладка кнігі Л. Свэна «Чароўная іголка». 1929 г.



Лявон Савёнак. 1940-я (?) гг.

Запіскі эмігранта.

Ад рэдакцыі. „Запіскі Эмігранта", якія мы пачынаем друкаваць, надысланы да рэдакцыі праз вет-лівасць аднаго з нашых сымпатыкаў. У прыкладзенай да „Запісак" нататцы зацемлена, што „Запіскі" знойдзены выпадкова, пасьля расьцярушаньня аднаго з лягераў так званых „Д.П.". Імя аўтара і ягонае цяперашняе месца прабываньня не ўстаноўлена. Наш сымпатык прыпушчае, што аўтар „Запісак" — бяздомны, расейскага паходжаньня чалавек, блізка знаёмы з жыцьцём беларусаў, і магчыма, што і цяпер

Рукапіс «Запісак эмігранта».



У рэдакцыі «Беларускай газеты» (1942–1943 (?) г.)
Стаяць: трэці злева — Мікола Шчорс, далей — Уладзіслаў Казлоўскі.
Сядзяць: Наталля Арсеннева і Лявон Савёнак



Васіль Кендыш і Лявон Савёнак у Міхельсдорфе (Германія). 1946 г.



Лявон Савёнак. 1958 г.



У сваім садзе ў Памоне (Нью-Джэрсі) з жонкай. Канец 1950-х гг.



Сем'і Савёнкаў і Кіпеляў (злева направа) сядзяць: Апалонія Савёнак, Зора Кіпель, Марыя Кіпель; стаяць: Лявон Савёнак, Юрка Кіпель, Вітаўт Кіпель, Алеся Кіпель, Яўхім Кіпель. 1960-я гг.



Апалонія і Лявон Савёнкі
з унукамі: Юркам
і Алесяй. 1960-я гг.



Вітаўт Тумаш
і Лявон Савёнак.
1962 г.



Апалонія і Лявон Савёнкі на гаспадарцы ў Памоне (Нью-Джэрсі), 1965 г.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў НЬЮ-ЁРКУ

3 красавіка, 1974 г.

У суботу 6-га красавіка ў памешканьні Фундацыі Пётры Крэчэўскага ў Джамэйцы: 166/34 Готык Драйв, адбудзецца

ВЕЧАР УСПАМІНАЎ

п р ы с ь в е ч а н ы

СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЛЯВОНА САВЁНКА (КРЫВІЧАНІНА)

Пачатак а гадз. 6:30 папаўдні

УПРАВА
Беларускага Інстытуту
НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Абвестка пра вечар успамінаў, прысвечаны Лявону Савёнку. 1974 г.

Зора Кіпель каля хаты, дзе нарадзіўся Лявон Савёнак. 1990-я гг.




Магіла Апалоніі і Лявона Савёнкаў у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі)

# ЗА НОВУЮ ЗЯМЛЮ

У Вушацкім РВК я быў сведкаю таго, калі чалавек, як кажуць, дабіўся да ручкі, і яму ўжо ўсё роўна, што рабіць, куды ісці…

Селянін гадоў 40–45, з шэрым худым тварам, з патухлымі вачыма назойліва прасіў выдаць яму спраўку аб маёмасным становішчы. Намеснік старшыні РВК яго ўгаварваў, што гэту спраўку з поспехам зробіць сельсавет і выдасць патрэбную селяніну спраўку.

— Не, Рык няхай дасць, — не адставаў селянін. — Мацней будзе.

— Ды навошта табе такое моцнае пасведчанне?

— Ат, ужо ўсё роўна, — махнуў рукой селянін, — у Сібір паеду.

— Як жа ты паедзеш? Перасяленцкая норма ўжо запоўнена.

— Сам ад сябе паеду. Мне ўсё роўна: тут прападаць на дзесяціне ці там…

Сказаў так селянін, і яго патухшыя вочы памутнелі яшчэ больш…

Не далі яму спраўку ў РВК. Ён, безумоўна, паедзе «сам ад сябе» ў Сібір, патраціць апошнія свае сродкі і там без «моцнай спраўкі», не ў планавым парадку, бадай ці атрымае кавалак зямлі.

Але ён паедзе, бо яму «ўжо ўсё роўна», на сваёй дзесяціне ён жыць не можа.

Гэта — зямельны голад, які востра адчуваецца ў Полаччыне.

Ён, гэты голад, кідае полацкага селяніна на прасторы далёкай Сібіры і далёкага Усходу, гоніць пад зямлю — у шахты Данбасу. У самую гарачую летнюю пару полацкая зямля не можа даць працу ўсім вольным рукам.

Зямлі мала — працоўных рук многа.

Рэвалюцыя дала полацкім сялянам 172 000 гектараў зямлі. Гэта значна зменшыла зямельны голад вёскі, але і цяпер яшчэ 20 000 двароў не маюць зямельнага забяспечання па мінімальнай норме.

— Дзе ж выхад? Як знішчыць зямельны голад?

Гэтага выхаду полацкая вёска шукае ў перасяленні і ў выкарыстанні тых зямель, да якіх не прыкладаў яшчэ рукі чалавек. Гэтыя землі — балоты. 48 000 гектараў балот мае Полацкая акруга. Вякамі ляжала гэта зямля, хаваючы ў сваіх нетрах багаты скарб, і нікому да яго не было аніякай справы. Да рэвалюцыі меліярацыйныя работы на Полаччыне амаль не праводзіліся. Толькі ў некаторых маёнтках абшарнікі праводзілі частковую асушку, ды, бывала, селянін сваімі сродкамі на сваёй вузкай палосцы праразаў канаўку. У першыя гады рэвалюцыі гэта справа таксама яшчэ не атрымала развіцця,

бо шмат было пахатнай зямлі, якая пакрылася дзірваном за часы вайны. І толькі ў 23–24 годзе былі зроблены першыя крокі ў гэтым напрамку.

Нясмелыя былі гэтыя крокі: першыя піянеры ў барацьбе за новую зямлю ішлі вобмацкам, не было практыкі, не было належнага кіраўніцтва. Але і гэтыя, нясмелыя крокі прабівалі векавую сцяну сялянскага кансерватызму, якая выгараджвала вёску ад выкарыстання балотнага скарбу. Глядзелі сяляне на першых меліяратараў і дзівіліся:

— Чаго гэта яны ў балоце капаюцца?

А крыху пазней, калі на гэтым балоце зарунела ніва, калі звычайны сялянскі авёс, які надобрае дае 42 пуды з дзесяціны пахаты, на балоце даў звыш 100 пуд., зноў дзівіліся:

— Ды гэтага ж быць не можа.

— І не было такога ніколі, каб па балоце рос авёс, ды з такім ураджаем.

Але гэтым «быць не можа» была рэальнасць, факт быў настолькі пераконваючы, што не верыць нельга было.

Першыя крокі былі нясмелыя, асцярожныя. Да 26 году на Полаччыне было асушана ўсяго 454 гектары балот. К гэтаму прыблізна году закончыўся на Полаччыне працэс натуральнага пашырэння пасеўнай плошчы: бросавыя землі, дзірваны былі выкарыстаны, і балота з большай сілай прыкавала да сябе ўвагу селяніна.

У 27 годзе на Полаччыне было ўжо 18 меліярацыйных таварыстваў, якія ядналі 540 чалавек. У гэтым жа годзе полацкія меліяратары стала выступілі на сельскагаспадарчых выстаўках з дэманстрацыяй сваіх дасягненняў. Яны паказалі сялянству, што жыта, якое на грунце каля балот дае ўраджай 60 пуд. з дзесяціны і ў сярэднім па акрузе 32,2 пуд. з дзесяціны — на асушаным балоце дало 120 пуд. Авёс, які даваў на грунце 42,1 пуд., на асушаным балоце даў 124 пуд. Віка з аўсом — 157 пуд. на грунце, 320 пуд. на балоце. Караньплоды на асушаным балоце далі ўраджай на 2200 пуд. больш, чым на грунце, бульба — на 700 пуд. больш. Капуста, якая на сялянскім гародзе звычайна дае 800 пуд., на асушаным балоце дала 2000 пуд.

Гэтыя дасягненні меліярацыйных таварыстваў канчаткова пераламалі настрой сялянства ў адносінах да балот.

Сяляне, аглядаючы экспанаты на сельскагаспадарчых выстаўках, бачачы дасягненні меліярацыйных таварыстваў, ужо не дзівіліся, яны толькі патыліцы чухалі:

— Як жа гэта мы не агледзеліся! І ў нас жа ёсць балота.

Гэта быў момант арганізацыі не наказам, не словам, а паказам, арганізацыя справай. І 27 год быў годам крутога пералому ў кірунку масавага росту меліярацыйнай справы. Меліярацыйныя таварыствы растуць, як грыбы. Сёлета Полаччына налічвае ўжо 70 меліярацыйных таварystваў, якія яднаюць 4000 сяброў. І калі летась таварыствы асушылі 905 гектараў балот, дык сёлета яны ўжо асушаць каля 200 тысяч гектараў і падрыхтуюць для ўспашкі 250 гектараў. Тэхнічная сіла акруговага зямельнага аддзелу няздольна ахапіць гэты стыхійны рост меліярацыйных т-ваў, які выявіўся сёлета. Сяляне штодня прыходзяць у меліярацыйны пададдзел, просяць дапамогі ў арганізацыі таварystваў:

— Пакажэце толькі, як рабіць, мы ўжо самі арганізаваліся, хочам асушыць сваё балотца.

У меліярацыйным пададдзеле ляжыць 140 заяваў сялян на арганізацыю т-ваў.

— Рэгіструй толькі і працуй, — кажа акруговы меліяратар, — але сілы мала.

У акрузе працуюць 22 меліяратары, а зімой было толькі 9. Склад працаўнікоў — бягучы, толькі 5 проц. на адным месцы звыш 2 год, рэшта — навічкі. Гнездавы характар работ па меліярацыі, які практыкуецца па акрузе, патрабуе згуртавання тэхнічнай сілы ў адным месцы. Гэтая сіла цяпер і згуртавана, галоўным чынам, у двох гнёздах: у Вульскім і Ветрынскім раёнах, дзе кааперавана ў меліярацыйныя таварыствы 100 проц. насельніцтва. Рэшта меліярацыйных таварystваў прадастаўлены большай часткай сваёй самадзейнасці.

А трэба гэту самадзейнасць узяць пад нагляд тэхнічнай сілы, даць правільны напрамак гэтаму стыхійнаму росту.

Дзяржава шырока пайшла на спатканне меліярацыйнаму руху сялянства. Па дзяржаўных работах на Полаччыне зараз праводзіцца рэгуляванне ракі Нача на плошчы 2500 гектараў і рэгуляванне ракі Дзіва на 2593 гектарах. Выкананне гэтых работ, якое ўжо падыходзе к канцу, дасць звыш 5000 гектараў новай зямлі, на якой запрацуюць меліярацыйныя таварыствы, пачнуць здабываць з зямлі, з тэй зямлі, якая да гэтай пары не звяртала на сябе нічыей увагі, багаты скарб.

Гэты скарб ужо дабываюць полацкія сяляне. Грамадзяне Каралёў і Шырокаў (меліярац. т-ва «Молат», Расонскі раён) знімаюць па 80 пуд. аўса і па 113 пуд. жыта з гектара сваёй асушанай зямлі.

На балотах Сякераўскага меліярац. т-ва (Полацкі р.) сяляне набіраюць 2 фунты цыбулі з аднаго гнязда. А ў селяніна Мацвеева ячмень парос пад самую бараду гаспадара.

На асушаных землях Грамоўскага т-ва (Полацкі р.) у гр-на Шпака позні авёс вырас бадай у рост чалавека. Добра расце капуста, лён, канаплі.

Ці ж гэта не скарб? З тэй зямлі, якая абсалютна нічога не давала, 2200 пуд. капусты з гектара — гэта багаты скарб.

І полацкі селянін стыхійна рвецца за гэтым скарбам. 140 заяў ад полацкіх сялян на арганізацыю меліярацыйных таварystваў яскрава сведчаць аб тым размаху меліярацыйнага руху, які выявіўся ў апошні год на Полаччыне. Гэтыя заявы, якія зараз ляжаць у Полацкім земаддзеле без надзеі на хуткае вырашэнне, патрабуюць уважлівых да сябе адносін. Стыхійны меліярацыйны рух полацкага сялянства трэба ўвесці ў пэўнае лона, даць яму правільны напрамак. Павелічэнне колькасці меліярацыйных працаўнікоў у Полацкай акрузе, на наш погляд, — бліжэйшая і неадкладная задача. Гэтае павелічэнне вымагаецца не толькі стыхійнай цягай сялянства да асушкі балот, яно вымагаецца і прычынамі другога парадку — неабходнасці асушкі грунтавых зямель. Хто быў на Полаччыне, той бачыў, што там і на гары гразь стаіць. Асаблівы рэльеф Полаччыны («валністасць») і ваданеўбіраючы грунт (падзол, гліна) забалочваюць і пахату, якая ў сваю чаргу патрауе асушкі. На гэта трэба звярнуць увагу.

Павелічэнне колькасці меліярацыйных працаўнікоў у акрузе дасць магчымасць у бліжэйшыя ж гады адваяваць новыя багатыя землі, землі, якія да гэтай пары нікому не былі патрэбны і якія так патрэбны зараз таму полацкаму селяніну, што «сам ад сябе» едзе на раўніны далёкай Поўначы.

# СУМНЫ АПТЫМІЗМ

*Ад нашага спецыяльнага карэспандэнта*

— Як у вас ідзе падрыхтоўка да перавыбараў саветаў?

— А што? Выбарчая камісія арганізавана, і дадзены дырэктывы сельсаветам.

— І ўсё?

— І ўсё.

Такім прыблізна было маё інтэрв'ю са старшынёй Глускага РВК па пытанню аб падрыхтоўцы да перавыбараў саветаў.

— А вось, напрыклад, на мясцох, — што зараз робіцца? — пытаюся я ў старшыні.

— А што? Рыхтуюцца! Дырэктывы атрымалі і рыхтуюцца.

— Справаздачы пішуць?

— Пішуць! Да 1-га сакавіка ўсе напішуць.

— А прадстаўніка райвыканкаму прымацавалі да сельсаветаў?

— А навошта? — здзівіўся старшыня.

— А вось, — кажу, — памагчы сельсаветам у падрыхтоўцы справаздачы, напрыклад, — цяжкая рэч для сельсаветаў. Яны, бадай, ці ўсе справяцца з імі.

— Справяцца, — супакоіў мяне старшыня, — а калі не, дык мы паправім.

— А калі ж вы папраўляць будзеце?

— А вось зараз будзем ездзіць па сельсаветах і тады будзем праглядаць, і папраўляць.

— Выбачайце, — кажу, — план ваш можна паглядзець.

— План? Хвілінку, выбачайце.

Старшыня сарваўся з крэсла і джгануў у другі пакой.

— Канавалаў, — чуўся яго голас за дзвярыма, — прыходзь сёння пасля абеду, будзем план справаздачна-перавыбарчай кампаніі канчаць.

Старшыня вярнуўся і растлумачыў мне, што ў іх ёсць, але яшчэ не скончан.

«Добра, — кажа, — што вы напомнілі, а то я і забыўся пра яго».

Я падумаў і таксама рашыў, што добра зрабіў, бо каб я не ўспомніў пра план, дык старшыня, магчыма, агледзеўся б канчаць яго тады, калі пачаліся б перавыбары.

Такі падыход да справы падрыхтоўкі справаздачна-перавыбарчае кампаніі, на наш погляд, крыху аддае фармалізмам.

Што мы бачым у Глускім раёне? Атрымалі дырэктывы, прагледзелі, арганізавалі выбарчую камісію, далі дырэктывы сельсаветам і на гэтым супакоіліся.

Далей само няхай круціцца.

А як яно гэта само круціцца, я меў магчымасць наглядаць у Старадарожскім раёне. Тут з надворнага боку праца, здаецца, крыху лепш ідзе. Выбарчая камісія арганізавана 19-га кастрычніка, і складзен план падрыхтоўча-справаздачнай кампаніі. Але, на жаль, за гэтым планам не паспявае жыццё. План, які быў складзен, канешне, не раней за 19-га кастрычніка, прадугледжвае, каб з 21-га па 28-га кастрычніка па ўсіх сельсаветах былі праведзены пленумы, на іх абраны сельскія выбарчыя камісіі. За гэты ж тэрмін, па плану, сельсаветы павінны скласці пісьмовыя справаздачы аб сваёй дзейнасці за час ад апошніх перавыбараў і абгаварыць гэтыя справаздачы на пленумах сельсаветаў. І гэта за адзін тыдзень. Як жа сельсаветы спраўляюцца з такой нагрузкай? Прыкладам гэтага можа быць Новадарожскі сельсавет. У гэты сельсавет я прыйшоў у такі час, калі праца бывае ў самым разгары, і здзівіўся цішынёй у сельсавеце. Пуста кругом — ні душы, толькі ў адным з далёкіх пакояў я знайшоў сакратара сельсавета, які прытуліўся ў куточку за маленькім столікам так, што яго не хутка і ўбачыш.

— Старшыня ў хаце? — пытаюся.

— Але, у хаце.

— А дзе ж ён?

Тут сакратар, відаць, скеміў, што я не ведаю, дзе старшыня, і ў сваю чаргу спытаўся:

— А ён вам пільна патрэбен?

— Дазарэзу!

— Ну, калі так, дык скажу.

Сакратар вывеў мяне з памяшкання сельсавета і паказаў:

— Вунь яго хата, там ён схаваўся.

— Чаго ж ён схаваўся?

— Піша нешта пільнае, а тут перашкаджаюць, вось ён і схаваўся ў хаце.

І запраўды, старшыня схаваўся. За вялікім сталом, на куце, пад абразамі, старшыня аблажыўся папкамі і паперамі так, што толькі галава тырчыць. Сядзіць, пацеіць.

— Што ж вы такое цяжкае пішаце? — пытаюся.

— Ды вось жа справаздачу гэту самую.

— А што, хіба цяжка?

— Цяжка, — уздыхнуў старшыня. — А памагчы некаму. Яно, каб за год, дык нічога, а то за два гады. А тут і Рык піша, каб не адны лічбы былі, а каб наогул відаць былі дасягненні.

Праўда, райвыканкам у адносіне зазначае, каб сельсаветы не абмяжоўваліся ў справаздачах сухімі лічбамі, а каб справаздачы адбівалі ўсю практычную працу, характарызавалі выкананне наказаў, пастаноў сходаў, пленумаў і г. д.

— Ёсць у мяне леташняя справаздача,— кажа старшыня. — Напішу за сёлетні год, а як іх злучыць — не ведаю.

Гэта зразумела. У старшынь сельсаветаў выпрацаваўся ўжо пэўны трафарэт адносна гадавых справаздач, якія складаліся па некатораму шаблону: «Летась мы гэтага не мелі, а сёлета — маем, летась мы мелі столькі і столькі, а сёлета — гэтулькі і гэтулькі, і тут жа рост у процантах». Да гэтага старшыні прызвычаіліся. Сёлетнюю справаздачу па такому шаблону не напішаш, бо яна складаецца не за адзін год, а за два. Тут ужо патрэбна штось новае. Як гэта новае ўвесці — РВК не дае практычных указанняў, а старшыні сельсаветаў не ведаюць, як увязаць працу за два гады. Тэрмін напісання справаздач, вызначаны планам, выходзіць, і вось старшыні гоняць гэтыя справаздачы, каб хутчэй скончыць, абы напісаць.

Зразумела, што ад такой падрыхтоўкі нельга чакаць добрых вынікаў. А райвыканкамы глядзяць на гэта вельмі аптымістычна. «Рыхтуюцца! Зробім! Нічагуткі!»

Ад такога аптымізму робіцца сумна; сёлетнія перавыбары саветаў, якія адбываюцца ва ўмовах некаторых нашых гаспадарчых цяжкасцяў, вымагаюць больш сур'ёзных адносін да сябе. Ясная рэч, што кулак сёлета, як ніколі, будзе старацца выкарыстаць гэтыя нашы часовыя гаспадарчыя цяжкасці ў варожых для нас мэтах, каб зрабіць уплыў на перавыбары, працiснуць у саветы сваіх людзей і там гнуць сваю кулацкую лінію.

Толькі добрая падрыхтоўка да перавыбараў можа даць адпор гэтым кулацкім імкненням. А добрая падрыхтоўка патрабуе больш сталых адносін да яе.

Аптымізму не павінна быць месца.

# С.-Г. АРЦЕЛЬ «КАСТРЫЧНІК»

За паўвярсты ад мястэчка Парычы паабал дарогі раскінуліся роўныя абшары зямлі без межаў.

Улева — к рацэ Бярэзіне — 50 гектараў сенажаці, управа — 50 гект. пахаці. Бліжэй к мястэчку ў ліпавых прысадах схаваўся фруктовы сад, побач прыстроіліся розныя будынкі. Далей на ўзгорку прымасцілася двохпавярховая будыніна з невялічкай трубой.

Гэта б. маёнтак Пушча, зараз яўрэйская сельскагаспадарчая арцель «Кастрычнік».

Як арганізавалася арцель?

У 26 годзе 12 сямей яўрэйскай местачковай і вясковай беднаты зышліся пад страхой быўшага маёнтку Пушча і рашылі пачаць калектыўную працу.

— Як жыць, што рабіць — самі не ведалі, — кажуць цяпер калектывісты.

— Цяжка было, так цяжка, што і ўспамінаць не хочацца.

Што мелі арцельцы?

9 кароў, 5 коней і 60 едакоў. Вось і ўсё. Ні інвентара, ні запасаў збожжа, мелі толькі працоўную сілу.

І вось тут калектывісты, не маючы нічога за душой, рашылі пачаць вялікую справу — пабудаваць крахмальны завод. Гэта рашэнне так бы і засталося рашэннем, бо сродкаў у арцелі, канечне, не было ніякіх. Але тут дзяржава шырока пайшла на спатканне жаданню арцельцаў. Пабудова заводу ў раёне, багатым бульбай, прызнана была рацыянальнай. Арцелі адпусцілі крэдыт, склалі каштарыс на 12 тыс., і пабудова пачалася.

Горача ўзяліся арцельцы за працу, не шкадавалі сілы. У пабудову заводу яны ўклалі сваёй рабочай і гужавой сілы на 2300 руб.

Але было цяжка. Каштарыс на пабудову заводу аказаўся ў два разы меншым. Сродкаў не было, прыходзілася іх дабываць з вялікімі труднасцямі. Але арцельцы не здаваліся.

— Паверце, елі адзін шчавель, хлеба не было, — апавядае Бэрка Ігольнік. — У мяне вось тут, — паказаў Ігольнік на пераносіцу, — забалела ад голаду.

Хлеба свайго арцель не мела, толькі поле абсеялі, грошы не было, і адно, што іх карміла — гэта невялічкая саматужная маслабойка, якую мелі калектыўцы.

— Каб не дзяржава, дык нічога б не зрабілі, дзяржава дапамагла.

Дзяржава адпусціла дадатковы крэдыт да 23 тысяч, і пабудова заводу праз год была скончана. Вялікая ўрачыстасць была ў арцельцаў, калі пускалі ў ход сваю крахмальню, пабудаваную з такім напружаннем сіл і энергіі.

Запрацаваў завод і запрацаваў досыць добра. У першы ж год завод даў 10 тысяч прыбытку. Завод перарабляе зараз 40 тыс. пуд. бульбы ў год, але перапрацоўку можна давесці да 80 тыс. пудоў. Малая сушылка не дазваляе павялічыць выраб. На пашырэнне сушылкі патрэбна 7 тысяч рублёў, але калектыўцы не хочуць залазіць у вялікія крэдыты і пакуль што ўстрымліваюцца ад пашырэння. Завод апальваецца зараз торфам, які арцельцы самі капаюць на сваім полі. Летась завод меў наёмнага механіка, а сёлета абыходзіцца без яго. Бэрка Ігольнік, адзін з арганізатараў арцелі, цяпер намеснік старшыні, сам спраўляецца за тэхніка.

— Прыгледзеўся, як той рабіў, і падвучыўся крыху, — скромна заначае ён.

Бэрка Ігольнік «крыху падвучыўся», відаць, таму, што ён закаханы ў свой завод. Калі ён вадзіў мяне па заводу і падрабязна тлумачыў увесь працэс вырабу крахмалу, адчувалася гэта яго ўлюбёнасць у кожную дэталь заводу.

Крахмальны завод — гонар арцелі. Ён пабудован самімі арцельцамі, ён дае прыбытак, дае добры выраб, які мае добры збыт.

Справіліся арцельцы і з сельскай гаспадаркай. Зямля іх зараз разбіта на 8 палёў, 6 гектараў саду агледжаны, даюць добры ўраджай. Маюць зараз арцельцы 40 дойных кароў, 16 маладняка завадскога быка, 9 коней. Маюць усе патрэбныя с.-г. машыны і прылады. Сельскую гаспадарку яны прыстасоўваюць к патрэбам заводу. На лета мяркуюць засеяць каля паловы ўсёй зямлі бульбай.

— Будзе свая сыравіна для заводу.

Што можна сказаць аб жыцці працы арцельцаў?

Аб гэтым красамоўна кажуць самі арцельцы.

— А што нам цяпер? Працы хапае — больш нам нічога і не трэба. Жывём добра.

І праўда, арцельцы жывуць добра. Забяспечаны ўсе кватэрамі, кватэры прасторныя, светлыя. Атрымлівае дарослы работнік 40 руб. у месяц, харчы купляюць большасцю ў арцелі па таннай цане. Сямейныя таксама не пакрыўджаны. Дзеці ад 1 да 7 год атрымліваюць па 3 руб. у месяц, ад 7 да 12 — 5 руб. і ад 12 да 18 — 7 р. Пасля 18 год моладзь уносе пай і ўступае ў арцель з правам сталага члена арцелі.

Вялікая ўвага звернута ў арцелі на дзяцей. Летам у арцелі пацавалі дзіцячыя яслі, а з восені рашылі арганізаваць сталы дзіцячы сад.

— Няхай тысячу, няхай дзве будзе нам каштаваць гэты сад, але адчынім. Дзеці нашы не так павінны гадавацца, як мы гадаваліся.

Аб аўтарытэтнасці арцелі, аб яе жыццяздольнасці яскрава сведчыць тая цяга ў арцель, якая выявілася ў апошні год сярод местачковага і ваколічнага вясковага яўрэйскага насельніцтва. За апошнія месяцы ў арцель паступіла 40 заяў ад яўрэйскага насельніцтва, якія жадаюць уступіць у сябры арцелі. З гэтых 40 жадаючых арцель прыняла толькі 4-ох, і зараз арцель налічвае 14 сямей і звыш 70 едакоў.

— Два гады назад, — кажуць арцельцы, — мы чуць набралі 12 сямей, а цяпер во як хочуць да нас.

Чым жа тлумачыцца такая цяга ў арцель? А вельмі проста.

— Жывуць добра і працуюць весела.

Гэта ўсё зрабіла калектыўная праца. Добрае жыццё, вясёлую працу даў калектыў.

Парыцкая «Пушча», быўшая калісь запраўды пушчай, дзе ў ліпо-вых прысадах зашыўся адзін павук-абшарнік, — зараз ажыла.

Калектыўная праца напоўніла прысады новымі, свежымі галасамі, бадзёрымі галасамі вольнае працы.

Спакойнае ўзбярэжжа красуні-Бярозы ўстрывожыў новы гук — гук заводскай трубы.

# АГРАНОМ
# ЯК АРГАНІЗАТАР ВЫСОКАГА ЎРАДЖАЮ

*Ад нашага спецыяльнага карэспандэнта*

## ЧАГО ВЫМАГАЕ АД АГРАНОМА СЯЛЯНСТВА

Задача падвышэння ўраджайнасці ў нашай сельскагаспадарчай палітыцы зараз пастаўлена на адно з лепшых месц. Гэтаму пытанню ў нас цяпер аддаецца найгалоўнейшая ўвага.

Зразумела, што ў справе падвышэння ўраджайнасці, у барацьбе за лепшы ўраджай на перадавой лініі павінна стаць само сялянства, яго самадзейнасць, яго ўпартае жаданне дабіцца лепшага ўраджаю. У гэтым сялянскім паходзе за лепшы ўраджай кіраўніком гэтага паходу, памочнікам сялянскай самадзейнасці з'яўляецца аграном. Ён дае селяніну тыя сельскагаспадарчыя веды, якія неабходны для атрымання большага ўраджаю, ён знаёміць сялянства з тымі спосабамі атрымання вялікага ўраджаю, якія ўжываюць асобныя сяляне-вопытнікі, вопытныя станцыі, калгасы, саўгасы. На агранома ўскладзена вялікая і адказная задача ў справе падвышэння ўраджайнасці.

Ці выконвае аграном гэтую сваю ролю — памочніка і кіраўніка сялянскай самадзейнасці ў змаганні за лепшы ўраджай? Якія ў агранома магчымасці для гэтага? Мы тут і пастараемся па магчымасці высветліць гэта пытанне з практыкі агранамічнай працы на Бабруйшчыне.

## «ТЫ НАМ НЕ КАЖЫ, А ПАКАЖЫ»

У вёсцы Старыя Дарогі (Старадарожскі р.) арганізаваўся сельскагаспадарчы гурток. Усю зіму аграном чытаў сялянам лекцыю, даказваў, што і ў полі можна зрабіць агарод, што і на пяску можна сеяць, што ўраджай залежыць ад самога сялянства, трэба толькі па-інакшаму за зямлю ўзяцца; наогул, даказваў сялянству, што няма дрэннай зямлі, а ёсць дрэнны гаспадар. Слухалі сяляне, уважліва слухалі, згаджаліся.

Прыйшла вясна, а з ёю сельскагаспадарчая праца, і пайшло ўсё, як раней.

— Як дзяды нашы сеялі, так і мы сеем.

Ад працы с.-г. гуртка ніякіх вынікаў.

І рашыў тут аграном пайсці ў больш рашучы наступ на векавыя традыцыі вёскі.

— Што ж гэта мы, — насеў ён на сялян на сходзе, — усю зіму вучыліся, а цяпер зноў па-ранейшаму? Чаго ж мы вучыліся? А ну, давай так рабіць, як зімой казалі!

— Добра вы казалі, — згадзіліся сяляне. — Але ж гэта не для нашай зямлі. Што ты на нашым пяску зробіш?

— Пясок — ён і ёсць пясок. І гаварыць тут няма чаго.

Не здаваўся аграном.

— І на пяску можна зрабіць агарод, — пераконваў ён сялян, — трэба толькі так рабіць, як навука кажа. Па-інакшаму трэба за зямлю ўзяцца.

Слухалі сяляне палкія словы агранома, слухалі і, урэшце, вырашылі:

— А ты нам не кажы, а пакажы. Зрабі ты што-небудзь на нашым пяску.

— Ну, і зраблю, — усцешыўся аграном, — памагайце толькі.

— Паможам.

На гэтым і пагадзіліся. Адвялі сяляне аграному самы горшы кавалак зямлі — пескавы ўзгорак каля школы.

— Сей тут, на лабяку.

Адвялі і папярэдзілі:

— Ну, Мінькевіч, рабі, але глядзі, калі нічога не выйдзе — трымайся!

У гэтых суровых словах чулася глыбокае пераканание сялянства ў нікчэмнасці нашых пяскоў, упэўненасць у тым, што аграном нічога не зробіць.

Але аграном рабіў. Ён рашыў адным ударам разбіць векавую непрыхільнасць вёскі да «дрэннай» зямлі. Абвясціў ён сялянам, што на пяску ён бузе сеяць… капусту…

Стрымалі слова сяляне: памагалі, далі гною, рабілі так, як казаў аграном, але смяяліся, а некаторыя нават і цешыліся:

«Ну і пападзе ж ад нас аграному!»

Незразумела было для вёскі, як гэта на пяску будзе расці капуста. Не маглі яны паверыць аграному…

Прыйшла восень. Зрэзалі сяляне на сваіх гадамі ўгнойваемых гародах капусту па 5–7, добра 10 фунтаў качан, а аграном — на паказальным вучастку вёскі, на лабяку каля школы, на пескавым узгорку зрэзваў качаны па 12–14 фунтаў.

Дзівіліся сяляне, не давалі веры сваім вачам, але не верыць нельга было: самі бачылі, як садзіў капусту аграном, самі памагалі яму і ця-

пер самі зрэзвалі капусту. Праўда, частка сялян, нягледзячы на гэты відавочны факт, не магла паверыць у такую сілу агранамічных ведаў.

— Гэта ён слова такое ведае, — казалі гэтыя недаверкі, — адзін раз яму ўдалося, а далей — не ведаем — ці зробе ён што…

Але большасць упэўнілася, што не ў слове тут справа і не ў удачы, а што ўся сіла ў тым, *як* аграном сеяў капусту. Не ўдача тут сыграла галоўную ролю, а агранамічныя веды.

І гэты качан капусты ў 12–14 фунтаў, які вырас на пяску, зрабіў рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы вёскі. Сяляне пераканаліся ў праўдзівасці слоў агранома, што няма дрэннай зямлі.

Другая зіма дала значнае папаўненне сельскагаспадарчага гуртка. А вясна прынесла з сабой і практычныя вынікі. Сяляне пачалі ўводзіць у сваю гаспадарку новае і ўводзіць гэта новае даволі актыўна.

Вось характэрны прыклад, паказваючы, як дзейна ўводзіцца гэта новае. Садзіць баба капусту. Так садзіць, як і раней садзіла: торкае расаду адна пры адной — абы ў зямлю ўціснуць. Бабка не наведвала сельскагаспадарчы гурток, а дзед наведваў і вельмі актыўна, к таму ж бачыў ён, як аграном садзіў капусту. І вось, гледзячы на такую працу сваёй бабы, не вытрымаў:

— Навошта, баба, расаду псуеш? Хто так капусту садзіць?

І давай вырываць пасаджанае бабай.

— Садзі так, як у нас у школе садзілі.

Пакрыўдзілася бабка: «Усё жыццё так садзіла і капусту мелі, а тут вучоны знайшоўся».

— Ты што, ашалеў? — кінулася яна к дзеду. — Не руш!

А той знай — вырывае. Бабка садзіць, а ён вырывае. Аж пабіліся старыя, але дзед перамог. Ён папсаваў усю бабіну працу, павырываў расаду і пасадзіў капусту па-свойму, так, як аграном паказваў.

Гэта актыўнасць, аснованая на пераконанні, на паказе, на тым, што селянін сам бачыў, як атрымаць лепшы ўраджай.

Сёлета вясной старадарожскі раённы аграном, каб канчаткова пераламаць непрыхільнасць вёскі Старыя Дарогі да сваіх пяскоў, каб пераканаць найбольш упартых недаверкаў, пасеяў на вопытным вучастку, на пескавым лабяку, расаду капусты. Гэта яшчэ больш здзівіла сялян, але, як на злосць, і расада ўдалася досыць добрая. Пасля расады пасеяў аграном на гэтым месцы буракі і рэпу. Удаліся і буракі добрыя, а рэпу выгнала — па галянішча. Гэта канчаткова пераканала сялян вёскі Старыя Дарогі ў тым, што і іхныя пяскі могуць радзіць, трэба толькі ўмела за іх узяцца.

І цяпер старадарожскія сяляне без агранома — ні шагу. Па кожнаму с.-г. пытанню яны ўперад выслухоўваюць параду агранома, а тады ўжо робяць. Яны ўжо ўводзяць сартавое насенне, ачышчаюць сваё насенне, ужываюць мінеральнае ўгнаенне, уводзяць лубін, сеюць буракі ў полі, лепш даглядаюць жывёлу. Наогул, гаспадарку сваю паставілі на новыя рэйкі, на шлях атрымання ад зямлі большага прыбытку.

І гэта зрабіў аграном, і тым зрабіў, што не толькі гаварыў, але і паказаў сялянам, як трэба зрабіць.

«Не кажы, а пакажы». Вось аб чым гавора нам практыка агранамічнай працы ў в. Старыя Дарогі. Вось чаго хоча вёска ад агранома. У справе падвышэння ўраджайнасці аграном не проста прапагандыст, ён кіраўнік перабудовы сялянскай гаспадаркі, ён арганізатар высокага ўраджаю. Для агранома мала ўжо прыехаць у вёску і расказаць аб тым, як трэба абрабляць зямлю, як даглядаць жывёлу. Ён павінен паказаць, навучыць сялян, як трэба паляпшаць гаспадарку. Разумеецца, для гэтага аграном павінен быць у гушчы сялянскай, ён павінен быць блізкім да вёскі. Гэтага ад агранома вымагае і сялянства ў сваёй барацьбе за лепшы ўраджай.

Ці можа здаволіць такую патрэбу сялянства аграном? Якія ў яго магчымасці для гэтага?

## РАЁНЫ БЕЗ АГРАНОМАЎ

У Старых Дарогах я доўга шукаў агранома, пакуль адзін добры дзядзька не растлумачыў мне, што я, можа, і зусім не знайду агранома:

— Адзін ён у нас, ды і то, здаецца, хворы.

— Адзін аграном на раён? — здзівіўся я.

— Не! Іх-та па штату чатыры, а ёсць усяго адзін.

І сапраўды, аказалася, што ў раёне з 15 верасня працуе ўсяго толькі адзін аграном. Да гэтага бюджэтнага году па штату іх было ў раёне тры, але з 15 верасня падраённы аграном Дараганаўскага падраёну пайшоў у Сельскагаспадарчую акадэмію, а жанчына-аграном Штыкаўскага падраёну пайшла ў дэкрэтны водпуск. Застаўся адзін аграном, які і ўзваліў на свае плечы ўсю працу.

— Цяжка было, — жаліўся ён, — асабліва ў часе сяўбы. Цэлы месяц з возу не злазіў, але так-сяк цягнуў.

Канешне, цягнуў чалавек, пакуль мог, але, урэшце, не вытрымаў — напісаў гадавую справаздачу і злёг.

— 10 дзён, — казаў, — сядзеў над паперамі, гэта мяне і даканала.

І вось застаўся раён без агранома. А тут і падрыхтоўка да вясенняй сяўбы павінна была ўжо праводзіцца. Па меркаваннях Наркамзему, ачыстка насення павінна была распачацца з 1-га лістапада. А тут у раёне — ніводнага агранома.

— Няўжо акруга аб гэтым не ведае? — пытаўся я ў раённых работнікаў.

— Чаму не ведае? Ведае.

— Дык куды ж яны глядзяць?

— Дакларуюць даць яшчэ аграномаў, а пакуль што без агранома жывём.

Вось вам і барацьба за падвышэнне ўраджаю! Вось вам і памоцнік і кіраўнік селяніна ў гэтай барацьбе! Няма яго, як бачым! Можа, Старадарожскі раён адзін такі ў Бабруйшчыне няшчасны на аграномаў? Можа, у другіх раёнах становішча зусім нармальнае?

Не! Аказваецца, што няхватка аграномаў наглядаецца і ў другіх раёнах. У Клічаўскім раёне, напрыклад, з 5-ці аграномаў па штату застаўся толькі адзін падраённы аграном. У Парыцкім раёне з 6 па штату працуюць 4 аграномы. У Жлобінскім раёне з 8-мі па штату працуе 6. Такое становішча, здаецца, і па некаторых іншых раёнах. У акрузе, адносна незапаўнення штату аграномамі, мне казалі, што ў іх становішча не такое ўжо дрэннае. Выбыла за гэты год па акрузе 14 аграномаў, але ў іх ёсць недзе на прыкмеце 6 чалавек, так што ў іх будзе няхватка ў аграномах усяго чалавек на 6–7. Гэта афіцыяльныя звесткі, у правільнасць іх, канешне, трэба верыць, але я чамусь лічу, што справа крыху інакш стаіць, бо толькі ў 4-х раёнах я налічыў няхватку ў аграномах па штату ў 10 чалавек. Мне здаецца, што па ўсёй акрузе гэта няхватка будзе значна большая. У самым Акруговым Зямельным Аддзеле ўжо другі год няма агранома-палявода, і гэта лічыцца нібы нармальным.

Мы тут пакуль што не разбіраем прычын незапаўнення штату аграномамі. Мы проста адзначаем, што такое становішча ненармальнае.

Нельга гаварыць аб падвышэнні ўраджайнасці, нельга гаварыць аб тым, што аграном з'яўляецца памоцнікам і кіраўніком селяніна ў барацьбе за лепшы ўраджай, аб набліжэнні гэтага памоцніка і кіраўніка да вёскі, калі яго няма.

У нас аграномаў, наогул, мала. Патрэбнасць у іх з боку вёскі ўзрасла аграмадная, мы не можам здаволіць гэту патрэбнасць. І той штат аграномаў, які можа ўтрымаць наш бюджэт, безумоўна, павінен быць запоўнен.

## ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ АГРАНАМІЧНАЙ ПРАЦЫ

Наш сучасны аграном, як агульнае правіла, — грамадскі працаўнік. Па ўмовах сваёй працы, будучы ў гушчы сялянскай, ён мімаволі з'яўляецца «справачнай кнігай» селяніна. Ён знаёміць селяніна з навінкамі гаспадарчага і палітычнага жыцця, ён адказвае на пытанні сённяшняга дню, цікавячыя вёску, ён знаёміць сялян з новымі мерапрыёмствамі ўлады і г. д.

Гэта, зразумела, натуральна. Наш цяперашні аграном інакшы і не можа быць, таму што ён наш — савецкі аграном.

Ці перашкаджае такая праца агранамічнай? Разумеецца, не. Аб гэтым і гутаркі быць не можа, бо грамадскую працу аграном увязвае са сваёй непасрэднай працай, выконвае яе добраахвотна. Яна не ўваходзе ў кола яго абавязкаў, але ён выконвае яе, бо сам у гэтым зацікаўлен. Зразумела, што такая праца можа даць толькі карысць.

Зусім іншая рэч, калі тую працу, якая не ўваходзе непасрэдна ў абавязкі агранома, яму навязваюць, змушаюць яго рабіць тое, што не ўваходзе ў план, што тым самым шкодзіць яго агранамічнай працы. Звычайна кіруючыя працаўнікі на мясцох з гэтым не лічацца, скарыстоўваюць аграномаў не па прызначэнню.

## «І ШВЕЦ, І ЖНЕЦ, І НА ДУДУ ІГРЭЦ»

Аграномаў у нас мала. Яны перагружаны працай. Гэта — агульнае правіла. Той аграмадны працэс, які адбываецца зараз у вёсцы па перабудове сельскай гаспадаркі на новых пачатках, буйныя работы па землеўпарадкаванні, сувязь агранома з гэтымі работамі, удзел у іх па пераводзе ўпарадкуемай плошчы на шматполле — вымагаюць ад яго максімальнага напружання сіл.

Агранамічная праца, тая грамадская праца, якую аграном вядзе добраахвотна, шчыльная сувязь яго з сельскагаспадарчай кааперацыяй і ўдзел у яе працы — гэта ўсё дае такую нагрузку, з якой аграном наўрад ці справіцца. А між тым мы наглядаем як звычайнае з'явішча, што на агранома, апрача гэтай непасрэднай працы як памочніка і кіраўніка селяніна ў яго барацьбе за лепшы ўраджай, узваліваюць цэлую гару самых разнастайных абавязкаў, не маючых ніякага дачынення да агранаміі.

Ёсць прыклады, калі аграномы вясной, у самы разгар сяўбы, замест таго, каб быць у вёсцы і памагаць сялянству правесці гэту адказную працу, якая забяспечвае ўвесь яго гадавы дабрабыт, павінны

былі «засядаць». Агранома цягнуць у розныя камісіі: лясныя, па вымачках, па градабіццю, падатковыя, па складанні справаздач РВК.

Вось некалькі прыкладаў, ілюструючых такое становішча на мясцох.

У Чырвонаслабадскім раёне аграномаў уцягваюць у розныя камісіі: па вымачках і недародах, у падатковыя, нават у камісію па састаўленні справаздачы РВК іх адрывалі ад непасрэднай працы.

Нармальна такое становішча? Безумоўна, не.

У Парыцкім раёне аграномы засядаюць у розных камісіях, а два з іх сёлета спецыяльна былі накіраваўны на працу па адшуканні ўкрытых аб'ектаў абладання.

Тое самае ў Бабруйскім раёне. Аграномы хадзілі з ланцугом па полі і абмяралі зямлю, укрытую ад падатку.

Яшчэ горай было ў Асіпавіцкім раёне. Там аграномы ноччу хадзілі з ліхтарамі па хлявох і правяралі жывёлу.

І такое прыблізна становішча і ў іншых раёнах акругі. Усюды агранома адрываюць ад яго непасрэднай працы.

Як жа глядзяць аграномы на гэта? Яны, зразумела, ідуць туды, куды іх пасылаюць, робяць, што ім загадваюць.

— Раз трэба — нічога не зробіш.

Але мы не можам прызнаць такое становішча нармальным, мы не можам згадзіцца з ім у далейшым. Калі агранома ў часе гарачай пары агранамічнай працы адрываюць ад вёскі і садзяць яго за стол для якога-небудзь паседжання, гэта будзе больш чым ненармальна. Для карысці справы, для таго каб агроном быў запраўды кіраўніком і памоцнікам селяніна ў барацьбе за высокі ўраджай, трэба агранома вызваліць ад усіх пабочных абавязкаў, выпадковых даручэнняў.

## «ПАПЕРЫ ГЛУШАЦЬ»

На аграномаў узвальваюць вялікую канцылярскую працу: розныя справаздачы, анкеты, планы, весткі. Наркамзем завальвае паперамі акругу, акруга ў сваю чаргу засыпае імі раёны. Акруга скардзіцца на Наркамзем, а раёны ў сваю чаргу скардзяцца на акругу. Напрыклад, сёлета загадаў Наркамзем акрузе ўкласці пяцігадовы план. Пачалі ўкладаць. Раптам голас з Наркамзему:

— Адставіць! Пішыце гадавы план.

Узяліся за гадавы план. Глядзяць, кантрольных лічбаў няма. У Наркамзем, канешне, паперку за № :

— А кантрольныя лічбы прыслалі?

Маўчыць Наркамзем. Зноў яму паперу акруга:

— Кантрольныя лічбы давай! — крычаць.

Маўчыць Наркамзем.

Што ж, пачалі ўкладаць план без кантрольных лічбаў, і калі ўжо крыху працу падагналі, Наркамзем дагадаўся прысласць кантрольныя лічбы. Зноў касуй план і пішы нанова.

І так гэтыя паперкі лятуць з Менска ў акругу, з акругі ў раёны, а там зноў «по восходящей» лініі. Раёны скардзяцца на акругу, акруга на Наркамзем. Вось і няма вінаватага.

Сярод таго дажджу папер, якімі залівае Наркамзем акругу, ёсць патрэбныя, неабходныя, але ёсць маса і такіх, што проста трэба дзівіцца, хто іх піша. Напрыклад, каму патрэбна, што можа даць пытанне накшталт такога: «Амартызацыя метра рыдлёўкі на кубаметр канавы». А ёсць такое пытанне не то ў справаздачы, не то ў анкеце па меліярацыйнай справе. Гэта ж за такое пытанне чалавека ў Допр пасадзіць трэба. Гэта ж крымінал!

Такімі непатрэбнымі шарадамі засыпае акругу цэнтр. Акруга ў сваю чаргу не адстае і глушыць паперамі раёны.

— Калі прысылае акруговы аграном цыркуляр, — скардзяцца раённыя аграномы, — то абавязкова на 8 лістох. Менш не можа.

Цікава, у якога агранома хопіць выдзержкі прачытаць да канца такі цыркуляр? І ці многа ён там знойдзе карыснага для працы ў умовах свайго раёну?

Апрача розных цыркуляраў, анкет і адноснікаў, акруга завальвае раёны рознымі непатрэбнымі інструкцыямі. Напрыклад, каму патрэбна інструкцыя аб тым, як ачышчаць насенне. Які гэта аграном не ведае, як ачышчаць насенне?

Зразумела, аграном такіх папер не чытае, але яны пішуцца, на іх трэба адпісваць.

Аб тым, колькі аграному прыходзіцца пісаць, сведчыць колькасць спісваемай ім паперы. Напрыклад, у Старадарожскім раёне на паперу аграному РВК выдае 25 руб. у год, але і гэтых грошы не хапае. Колькі ж гэта трэба сядзець, каб спісаць больш як на 25 руб. паперы? Ну, канечне, сядзяць людзі і пішуць. Над гадавой справаздачай па 10 дзён сядзелі. Бо справаздача гэтая мае 780 пытанняў, 25 формаў.

На 8 аркушаў накаталі гэтую справаздачу раённыя аграномы! Гэта гадавая справаздача. А паўгадавыя? А пасеўных кампаній? А анкеты, планы, розныя адноснікі, звесткі? Напрыклад, у кожную пасеўную

кампанію аграномы павінны даваць 10-ціднёвыя звесткі аб ходзе кампаніі. Навошта гэтыя звесткі і што яны могуць даць? Ясна, што правільнасцю гэтыя звесткі не адлічаюцца, бо як можа агранам падлічыць, колькі на такі-та дзень засеена? Зразумела, што ён мерыць на вока, прыблізна. Каго могуць здаволіць такія звесткі? Ну, можна было б даць гэтыя звесткі раз-два, але не кожныя 10 дзён на працягу 1½—2 месяцаў. Гэта лішняя і непатрэбна нагрузка для аграномаў.

Як жа глядзяць аграномы на гэту «папяровую працу»? Адзін агранам казаў мне на гэтым пытанні так:

— Усё яшчэ нічога: і працаваць цяжка, і нагрузка вялікая, але горшая бяда — з паперамі ніяк не памірымся, паперы глушаць, не даюць жыцця гэтыя паперы.

Не даюць жыцця гэтыя паперы, і вось ён шукае ад іх збавення:

— Прыеду, — казаў ён, — з раёну, пагляджу — груд папер на стале, аж у пот мяне кіне. Зграбу шапку, ды ізноў на раён.

Так разважае вораг паперы, жывы агранам, практычны працаўнік. Але не ўсе такія. Частка з аграномаў зарываецца ў гэтыя паперы, адрываецца ад жывой справы, абкладаецца канцылярскімі папкамі. Жарты сказаць, па 15 канцылярскіх спраў ёсць ужо ў раённых аграномаў! Разумеецца, такое становішча нельга лічыць нармальным. Калі агранам, замест таго каб быць у вёсцы, сядзіць за канцылярскім сталом, і прытым супроць свайго жадання — гэта ёсць проста недарэчнасць. Нельга, канешне, зусім вызваліць агранома ад канцылярскай працы, але гэту працу, гэты папяровы патоп трэба зменшыць, трэба давесці яго да мінімуму.

## АГРАНОМ-ВАНДРОЎНІК

— Больш усяго шкодзіць нашай працы, — скардзяцца аграномы як акрузе, так і ў раёнах, — гэта бягучасць складу аграномаў. Прыедзе чалавек у раён, папрацуе год-паўтара і няма яго — другога чакаем. У Парыцкім раёне, напрыклад, становішча лічыцца добрым, бо аграномы працуюць на адным месцы ад 2 да 3 год, у Глускім раёне таксама нядрэнна — ад 1 да 3 год, а ў Старадарожскім раёне толькі адзін агранам працуе на адным месцы 3 гады, рэшта (3 ч.) мяняюцца кожны год. Наогул, па ўсё акрузе працуе на адным месцы: да аднаго году — 61 проц. аграномаў, ад 1 да 2 год — 10 проц., ад 2 да 3-ох — 10 проц., рэшта — звыш 3-х год. Як бачым, больш паловы аграномаў не затрымліваецца на адным месцы звыш году. Зразумела, што такое

становішча толькі шкодзіць агранамічнай працы. За год аграном паспее толькі прыглядзецца да працы, прыстасавацца да ўмоў працы ў даным раёне. Такім чынам, выходзе, што большая частка аграномаў фактычна не працуе, вандруе.

Чым тлумачыцца такое вандроўніцтва?

Прычын шмат. Перш усяго звычайныя прычыны: чалавек шукае, дзе лепей. Па-другое, частка аграномаў ідзе ў Чырвоную армію і змушана кідаць працу. Але такіх параўнаўча нямнога.

Большая частка, аснаўны кадр вандроўнікаў — гэта так званыя стажоры, якія ідуць у аграномы з тэхнікумаў. Працуюць яны ў аграномах 1–1½ годы для таго, каб набыць стаж для паступлення без калоквіуму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Зразумела, што гэта ненармальна, і ў гэтым пытанні што-небудзь трэба зрабіць. У бабруйскіх аграномаў ёсць такая думка, каб інстытут стажораў замяніць інстытутам практыкантаў. Гэтым практыкантам не даваць у самастойнае кіраўніцтва падраёнаў, плаціць ім менш і за кошт некаторай эканоміі на гэтых стажорах палепшыць становішча сталых працаўнікоў, зацікавіць іх у «аседласці».

— Няхай падраён будзе большы, няхай сталых працаўнікоў будзе менш, але каб аграном працаваў больш-менш пастаянна.

Над гэтым пытаннем трэба падумаць, магчыма, што гэта будзе больш рацыянальна, чым пастаянная змена аграномаў, калі большая частка аграномаў увесь час толькі прыглядаецца да працы.

Калі не гэта, то ва ўсякім выпадку што-небудзь для стабільнасці агранамічнага персаналу трэба зрабіць.

## «З БЯРОЗАВЫМ КАНДУКТАРАМ»

Для таго каб аграном часцей быў у гушчы сялянскай, ён павінен, як кажуць, перасоўвацца, а для таго каб перасоўвацца, патрэбны сродкі перасоўвання.

Якія ж сродкі перасоўвання мае аграном? Раённыя аграномы гэтымі сродкамі забяспечаны. Кожны з іх мае каня і атрымлівае на яго пракорм. Горш становішча з памочнікамі агранома, з падраённымі аграномамі. Ім на раз'езды адпускаецца па 100 р. у год на кожнага, выходзе прыблізна 8 руб. у месяц. Гэта сума зусім мізэрная. На 8 руб. падраённы аграном зможа 2 разы ў месяц прыехаць у раён і ўсё. Але і гэтыя 100 руб. не заўсёды выкарыстоўвае аграном. Напрыклад, сёлета ў Старадарожскім раёне РВК узяў і скараціў напалову

раз'язныя выдаткі на аграномаў. І ў самую гарачую пару, у разгар вясенняй сяўбы аграномы апынуліся без гэтых сродкаў перасоўвання. А перасоўвацца трэба. Што ж рабіць? І вось аграномы, пабраўшы кіі ў рукі, пашагалі па раёну пехатой. І гэта вясной, па непралазных старадарожскіх балотных пуцявінах.

Агроном Сухан нічога — бегаў, малады хлапец, а вось жанчыне-агроному прыйшлося туга: апанавалі яе каля нейкай вёскі сабакі і пакусалі ногі. Два тыдні лячылася кабеціна, а сяўба тымчасам канешне, не чакала, без агранома ішла.

У Парыцкім раёне сёлета адпушчана 5 памоцнікам агранома на раз'езды 300 руб., гэта 60 руб. на агранома.

Колькі паездзіць на гэтыя 60 руб. агроном? Зразумела, што да вясны ён застанецца без сродкаў перасоўвання і будзе бегаць па раёну з кіёчкам.

Многа ён набегае?

А мы кажам, што трэба паставіць агранома ў такія ўмовы, каб ён не сядзеў за канцылярскім сталом, а быў у вёсцы — у гушчы сялянскай.

Вывад з гэтага ясны: сродкі на раз'езды для аграномаў павінны быць павялічаны абавязкова.

## ГОЛАС АГРАНОМА

— Мала нас, а працы многа — вось у чым нашы цяжкасці, — кажуць адны аграномы.

— Галоўныя нашы цяжкасці, галоўнае няшчасце ў тым, што наша праца, як у сцяну, упіраецца ў зямельную неўпарадкаванасць вёскі, — кажуць другія аграномы.

Зразумела, пытанні землеўпарадкавання, сувязь яго і пагоджанне з агранамічнай працай у справе падвышэння ўраджайнасці набываюць першачарговае значэнне. Між тым у справе сувязі паміж землеўпарадкаваннем і пераводам на шматполле, у справе пагоджання працы па землеўпарадкаванню з агранамічнай працай у нас не ўсё гладка. У некаторых мясцох тэмп землеўпарадкавання задужа слабы і не дае магчымасці разгарнуцца як след агранамічнай працы; у другіх, наадварот, землеўпарадкаванне ідзе больш шпаркім тэмпам і агранамічная праца не паспявае за ім.

У Парыцкім раёне, напрыклад, да сёлетняга году землеўпарадкавана было ўсяго 5 проц. агульнае плошчы. Праўда, за сёлетні год раён

падцягнуўся, землеўпарадкавана яшчэ 10 процантаў, агулам, такім чынам, землеўпарадкавана па раёну 15 проц. агульнай плошчы. Праца па пераводу на шматполле сёлета таксама ішла больш шпаркім тэмпам, і хаця заданне было перавышана, але па раёну да гэтага часу пераведзена на шматполле ўсяго 10 проц. агульнай плошчы.

У Глускім раёне план па пераводу на шматполле сёлета выканан толькі на 60 проц., тады як ён мог быць выканан цалкам. Перашкодзіла гэтаму затрымка ў землеўпарадкаванні.

У Старадарожскім раёне аграномы скардзяцца на вялікую нагрузку ў працы па пераводу на шматполле. Заданне было па раёну на год — перавесці на шматполле 1700 гект., а пераведзена — 1465 гект. Планавае заданне аказалася не пад сілу аграномам.

Наогул, што датычыць планавых заданняў, дык яны ў большай частцы не выконваюцца. Напрыклад, план зернеачышчэння мала дзе выканан поўнасцю. У Парыцкім раёне ў асеннюю сяўбу ачышчана 65 проц. задання, у Старадарожскім — 70 проц. і толькі ў Глускім раёне ачышчана насення 99,3 проц. задання.

Якая прычына гэтага? Звычайная.

— Вялікія заданні, — кажуць аграномы, — не ўлічваюцца рэальныя магчымасці.

Калі акруга давала заданне раёну на ачыстку насення, то яна мела на ўвазе, што зернеачышчальныя машыны будуць працаваць увесь час без перабояў. Між тым машыны працуюць з некаторымі перапынкамі, якія патрэбны на перавозку, устаноўку і інш. Сёлета Наркамзем рашыў пачаць зернеачышчэнне раней і запрапанаваў акругам разгарнуць працу па ачыстцы насення з 1-га лістапада. У сувязі з гэтым і заданне на ачыстку было павялічана. Але наперад можна сказаць, што заданне гэта не будзе выканана, бо ў лістападзе зернеачышчэнне бадай нідзе не праводзілася, і праца гэта распачалася толькі к пачатку снежня.

Вось яшчэ прыклад нерэальнасці заданняў. У Старадарожскім раёне сёлета добра ішла кантрактацыя жыта. Сяляне ахвотна ішлі на кантрактацыю, але заданне не было выканана. Патрэбна было закантрактаваць 450 гектараў, закантрактавалі толькі 336 гект. Чаму? Не хапіла штучнага ўгнаення, без якога сяляне не згадзіліся кантрактаваць жыта. Між тым у Глускім раёне ад асенняй сяўбы засталося шмат штучнага ўгнаення. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што патрэбы ў раёнах не былі ўлічаны. Тады як у Старадарожскім, а таксама і Парыцкім раёне попыт на штучнае ўгнаенне быў вялікі

і яго шмат не хапіла, у Глускім раёне яно застаецца неразмеркаваным.

У тым самым Старадарожскім раёне сёлета, нягледзячы на планавае заданне, не закантрактавана ніводнага пуда ячменю. Чаму? Аказваецца ячменю ў раёне, наогул, амаль не сеюць. Так, па пудудва сеюць некаторыя сяляне для сваіх патрэб: «на крупы». А заданне на кантрактацыю даецца. Ясна, заданне нерэальнае. І так у іншых галінах працы... Планы складаюцца «на вока», заданні даюцца таксама «на вока», не ўлічваюцца патрэбы і магчымасці на мясцох і планы, і заданні, урэшце, з'яўляюцца нічым іншым, як кавалкам паперы, нічога супольнага не маючым з рэльным жыццём.

— Шмат нашай працы шкодзіць, — скардзяцца аграномы, — і частая змена кіраўнікоў зямельных спраў у раёнах.

А яны змяняюцца, бадай, часцей, ніж аграномы. Зразумела, калі мы лічым ненармальным частую змену аграномаў, то яшчэ больш ненармальным трэба лічыць такую змену адказных кіраўнікоў, бо яна, апрача шкоды, нічога не дае. У Глускім раёне, напрыклад, загадчыкі зямельным аддзелам раёну мяняюцца бадай кожны год. І што ж мы бачым? А тое, што ў раёне не ведаюць, колькі ў іх зямлі ўпарадкавана. Калі я звярнуўся з гэтым пытаннем да загадчыка зямельнага аддзелу раёну, то ён адказаў:

— Не ведаю, трэба ў акрузе запытацца, бо ранейшы загадчык не вёў вучоту.

Ранейшы загадчык не вёў вучоту землеўпарадкавання, а новы загадчык працуе першы год, і ён яшчэ не паспеў запытацца ў акрузе, колькі ў раёне ўпарадкавана зямлі.

Такое становішча, канечне, трудна лічыць нармальным.

Значнай перашкодай у сваёй працы лічаць аграномы і малы водпуск сродкаў на агранамічную працу. У Парыцкім раёне, напрыклад, адпушчана на прапаганду агранамічных ведаў і на практычную працу ўсяго 1000 руб. З гэтае сумы 700 руб. на працу па жывёлагадоўлі. Гэтага, зразумела, мала. Аграномы шукаюць выхаду з такой беднасці, і сёлета парыцкія аграномы рашылі не арганізоўваць с.-г. выстаўкі.

— Грошы на яе ідзе шмат, а вынікі невялікія.

Сельскагаспадарчыя выстаўкі ў Парычах рашылі наладжваць раз у тры гады, а грошы, зэканомленыя на выстаўках, пусціць на практычную агранамічную працу.

## КРЫХУ АБ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

У Бабруйску з акруговым аграномам мы доўгі час гутарылі досыць мірна. Я яму па-беларуску, і ён мне па-беларуску, а па-беларуску ён крышку горш, але, нарэшце, агроном не вытрымаў:

— Дазвольце, — кажа, — я буду гаварыць па-расейску, а то калі говорыш аб чым больш паважным, дык па-беларуску неяк не гладка ідзе.

На далікатнасць і я адказаў далікатнасцю:

— Калі ласка, — кажу, — крыйце па-расейску, я па-расейску крыху разумею.

І пачалі мы гутарыць: ён мне па-свойму, а я яму па-нашаму.

Зразумела, у тым, што бабруйскі акруговы агроном гавора па-расейску — нічога «зазорного» няма: «Не ім пачалося, не ім скончыцца»… Але гэты прыклад я прывёў к таму, што аграномія як-ніяк мае самую блізкую сувязь з сялянствам, якое гавора на беларускай мове. Праўда, акруговаму аграному з сялянствам мала прыходзіцца гаварыць, але ён затое часта гавора з раённымі аграномамі, на якіх можа ў гэтым кірунку рабіць не зусім пажаданы ўплыў. Наслухаецца раённы агроном, што «начальства» гавора не па-беларуску, і сам пачне падрабляцца пад яго.

Парыцкі раённы агроном таксама яшчэ не беларусізаваўся. Не ведаю, ці гэта ўплыў акруговага агранома, ці можа ён сам не хоча беларусізавацца, але з'явішча гэта ненармальнае. Бо калі ён будзе гаварыць з сялянствам на такой мове, на якой са мной гаварыў, дык бадай ці дагаворыцца з ім. Парыцкае сялянства аказалася на рэдкасць кансерватыўным: нягледзячы на шматвяковую русіфікацыю, яно захавала сваю мову цалкам. І канешне, яно мае права патрабаваць, каб агроном гаварыў на яго мове. У гэтым пытанні, у справе абслугоўвання аграноміяй сялянства на яго мове, трэба ўзяць больш рашучы напрамак.

## НЕАБХОДНЫ МІНІМУМ

Мы бачылі, чаго вымагае сялянства ад аграноміі, бачылі, што перашкаджае аграномічнай працы, чулі голас агранома ў справе барацьбы за лепшы ўраджай.

Тыя хібы, тыя ненармальнасці, характарызуючыя працу аграноміі ў Бабруйскай акрузе, ставяць агранома ў такія ўмовы, у якіх ён, безумоўна, не можа быць арганізатарам высокага ўраджаю, не здо-

лен быць добрым памоцнікам і кіраўніком селяніна ў яго змаганні за лепшы ўраджай.

Дзеля таго каб агараном быў запраўдным памоцнікам і кіраўніком селяніна, каб ён быў запраўдным арганізатарам высокага ўраджаю, арганізатарам новай вёскі, мы лічым неабходным неадкладна правесці наступныя мерапрыёмствы:

Павялічыць лік аграномаў.

Наблізіць агранома да вёскі, а для гэтага — вызваліць агранома ад розных пабочных абавязкаў. Тут адных добрых пажаданняў мала. Патрэбны пэўныя ўрадавыя пастановы, якія б забаранялі працаўнікам на мясцох нагружаць аграномаў пабочнай працай. Трэба дабіцца таго, каб праца агранома прадугледжана была гадавым планам, і ўсё, што не ўваходзе ў план, усе выпадковыя даручэнні павінны быць выключаны.

Для таго каб аграном быў запраўды заняты працай па падвышэнню ўраджайнасці, неабходна разгрузіць яго ад лішняй канцылярshчыны, «папяровую працу» трэба давесці да мінімуму.

Усімі мерамі трэба дабівацца стабільнасці агранамічных працаўнікоў, затрымаць частую змену аграномаў, а таксама і загадчыкаў зямельных аддзелаў.

Для таго каб аграном быў у вёсцы, каб меў цесную сувязь з сялянствам — неабходна павялічыць сродкі для раз'ездаў.

Для карысці справы, для таго каб аграном мог быць кіраўніком у барацьбе за ўраджай, трэба даць яму больш сродкаў на правядзенне палепшанняў у савецкай гаспадарцы.

І, нарэшце, мы лічым неабходным палепшыць матэрыяльнае становішча аграномаў. 85 руб. у месяц для раённага агранома і 65 руб. для памоцніка — сродкі далёка не дастатковыя для таго, каб аграном стала быў прымацаваны да сваёй працы.

Вось той мінімум, які мы лічым неабходным для таго, каб аграном быў запраўды арганізатарам высокага ўраджаю.

Вось тыя мерапрыёмствы, якія мы лічым неабходным зараз жа правесці ў жыццё, каб задача падвышэння ўраджайнасці, якая пастаўлена ў нашай сельскагаспадарчай палітыцы на адно з першых месц, магла быць вырашана.

# КОЙДАНАЎСКАЕ СЁННЯ

*З блакноту*

Ад Менску да Фарынава ў вагонах людна і шумна. Едуць бойкія прыгарадныя сяляне, «зубастыя» малочніцы, гаварлівыя дробныя гандляры і іншы бойкі, шумны прыгарадны люд, які трымае, як кажуць, арыентацыю на горад.

Наш вагон — «максімка», «ілюмінаваны» агаркам свечкі, якая схавалася за пракопчаным шклом ліхтара, праз якое чуць цэдзіць слабенькі свет на маленькі куток вагону. На паўтара метры ад ліхтара яшчэ можна разглядзець чалавека, а ў другім канцы вагону — «егіпецкая ноч». Гэта далёка не адпавядае агульнаму вясёламу настрою пасажыраў нашага вагону, і правадніку прыходзіцца выслухоўваць заўвагі з яўным пратэстам:

— Так і «бітоны» паперці могуць у такой цемнаце, — пачала нейкая злосная малочніца. — Свечак шкадуюць, а грошы нябось бяруць!

Малочніцу падтрымаў рыжы дзядзька з верхняй полкі. Ён звесіў калматую галаву з полкі і, трасучы кудрамі, заклікаў:

— Гаўрыла! Свету давай!

Да голасу малочніцы і «рыжага» далучыліся другія, і хутка ўвесь наш вагон гучэў пратэстамі:

— Свету!

Для правадніка гэта, відаць, не з'явілася навіной — ён да жуці спакойна выслухаў пратэсты і таксама спакойна адказаў:

— Я свечак не грызу: што мне даюць — тое і я вам даю. А ежалі мала — абраціцесь к начальству.

Дзеля таго, што поезд быў на хаду і нікому не хацелася злазіць з вагона, і ісці на ст. Менск прасіць у чыгуначнага начальства свечак, мы ўсе знайшлі адказ правадніка зусім рэзонным і супакоіліся.

У Фарынаве вагон апусцеў — пазлазілі ўсе буйныя і шумныя, і да Койданава ў вагоне засталося не больш трох чалавек.

Пасля брудных, душных, прадымленых і абсалютна цёмных вагонаў «максімкі» і койданаўскі вакзал можа сысці за раскошны салон. Але гэтай раскошай любавацца не давялося. Як толькі пасажыры ўваходзяць у залу, на іх накідаецца тлум возчыкаў, і кожны цягне іх да сябе. За маю бравэрку ўчапіліся двое і пацягнулі з залы, не пытаючыся нават — трэба мне куды ехаць ці не. Я не спрачаўся і пакорна ішоў за сваімі нечаканымі апекунамі. Каля фурманак возчыкі пачалі рваць мяне на кавалкі, і калі я пачуў, што полы бравэркі напружыліся, як струна, і вось-вось гатовы лопнуць, я асцярожна зазначыў:

— Чалавек я падарожны, і бравэрка ў мяне адна. Калі вы яе парвяцё — мне будзе не зусім прыемна.

Гэта аказала свой уплыў на возчыкаў; яны аслабілі полы бравэркі, але мяне не адпусцілі. Прычына такога налёту возчыкаў на пасажыраў тлумачыцца вельмі проста: пасажыраў на станцыі бывае чалавек 10–20, а возчыкаў 30–40. Пасажыры бязлітасна збіваюць цэны, а сярод возчыкаў узнімаецца страшэнная ажытацыя.

Каб як-небудзь вызваліцца ад возчыкаў, я, улічыўшы становішча, прапанаваў за фурманку да мястэчка 10 кап. Памагло. Адзін з возчыкаў раптам адскочыў ад мяне, а з другім я пачаў таргавацца. Яго матывы былі: авёс і кепская дарога, а мае — лепш знойдзеная капейка, чым згублены рубель. Але возчык сам ацаніў нявыгаднасць для сябе становішча, калі прапанаванне значна перавышае попыт, і мы хутка старгаваліся на трох грыўнях.

Звычайная сялянская каламашка, куды ўпакаваў мяне возчык, гучна забарабаніла па бруку, і мы патрэсліся ў напрамку да мястэчка.

* * *

Па дарозе я ўспомніў словы аднаго хатняга эканаміста, які казаў мне, што дабрабыт кожнага гораду або мястэчка можна распазнаць па возчыках.

— Калі ў горадзе або мястэчку многа возчыкаў — першая адзнака таго, што тут вялікія лішкі рабочай сілы, адсюль і беднасць.

Не ведаю, як да другіх гарадоў і мястэчак падыходзе гэта «эканамічная формула», — да Койданава ж яна трапляе ў самы раз. Мястэчка налічвае 7000 насялення: 22 проц. гандляроў, жменька служачых, невялікая колькасць рабочых і саматужнікаў, рэшта — земляробы і іншы, без пэўнага сацыяльнага твару, люд, які перабіваецца, як кажуць, з кулька ў рагожку. Як саматужнікі, так і земляробы і, зразумела, іншы люд, не могуць цалкам забяспечыць сваю рабочую сілу. Частка саматужнікаў арганізавалася ў арцелі, якія сваім вырабам больш-менш забяспечваюць мясцовыя патрэбы. Рэшта саматужнікаў, адзіночкі, не забяспечаны працай; земляробы, асабліва малазямельныя, таксама маюць шмат вольных рук, а іншы люд — той заўсёды патрабуе працы. Усе гэтыя катэгорыі складаюць кадр паўбеспрацоўных — лішніх рабочых рук, якія настойліва патрабуюць пэўнага прыстасавання.

А гандаль? Гандлем жыве паўтары тысячы насельніцтва мястэчка, але які ж гэта гандаль?

«Хто цяпер гандлюе — так гэта ж самы апошні чалавек, каму ўжо зусім няма куды дзявацца. Гэта — жабрак».

Так ахарактарызавала мне становішча сваіх гандляроў адна койданаўская прадстаўніца дробнай буржуазіі.

Запраўды, становішча прыватнага гандлю незайздроснае. Мясцовая кааперацыя наступае на яго даволі рашуча, выціснула яго з усіх галоўных аперацый і энергічна давіць дробныя крамы-будкі сваей арганізаванай ступой. Праўда, у агульным гандлёвым балансе прыватнік мае яшчэ даволі відную долю — ён бярэ сваё дробнай сеткай і рухавасцю, але ўжо даволі рэзка кідаецца ў вочы, што гэта рухавасць — канвульсіі паміраючага. Адна за аднэй зачыняюцца прыватныя крамкі, і кадр вольных рук атрымлівае новае падмацаванне. Зразумела, што гэта «разбуржуенне» будзе ісці далей і лішкі рабочай сілы будуць расці. Раённая ўлада ўлічыла такое становішча і прымае энергічныя меры, каб даць працу гэтым вольным рукам. Частка працоўнага жыхарства мястэчка пайшла на зямлю. За сёлетні год з 4-х калгасаў, арганізаваных у раёне, — два арганізаваны выключна з местачковага жыхарства. Частку лішняй рабочай сілы мястэчка ўбірае мясцовая прамысловасць, але вельмі нязначную частку. Прамысловасць у раёне слабая. Ёсць два смалярна-шпігінарных заводы, млын, лесапілка, цагельня, электрастанцыя, бойня і шэраг дробных саматужных прадпрыёмстваў па раёну.

Мясцовая прамысловасць патрабуе пашырэння, і раён ужо стаў на гэты шлях. Сёлетні год даў 3 новыя заводы. Налета дакларуюць адчыніць яшчэ два заводы: крэйдавы і вапнавы. Гэта, канешне, зменшыць беспрацоўе, але канчаткова яго не вырашыць. Арганізацыя новых арцеляў, перавод местачковага жыхарства на зямлю, пашырэнне мясцовай прамысловасці павінна ісці больш шпаркім тэмпам. На гэту справу патрэбны спецыяльныя дзяржаўныя асігнаванні, больш канкрэтныя, бо становішча значнай часткі местачковага жыхарства далёка не зайздроснае.

* * *

Мястэчка Койданава выразна трымае курс на горад і, здаецца, мае на гэта перспектывы. Разбуранае, спаленае белапалякамі, яно адбудавалася даволі шпарка, што сведчыць аб рухавасці, уласцівай гораду. Слуцкую вуліцу (Ленінскую), якая пасля адыходу белых бандаў выяўляла адны руіны, цяпер не пазнаць — павырасталі новыя, прыгожыя дамы. За апошнія гады выраслі такія вялікія будынкі, як нар-

дом, ветэрынарная лячэбніца, будынак РВК. Сёлета пабудавана новае памяшканне местачковага савета, за кошт адлічэнняў ад пазыкі, пабудавана беларуская сямігодка, за кошт самаабкладання, пачата пабудова новага памяшкання для яўрэйскай сямігодкі. Будуецца мястэчка, расце, падчышчаецца. Сёлета за кошт самаабкладання дакончана забрукоўка Савецкай вуліцы. Усюды пралажаны тратувары, месцамі нават цэментныя. Мястэчка не зусім скупа асвятляецца электрычнасцю (плошча і некаторыя вуліцы), але станцыя ўжо не здавальняе мястэчка, і на чарзе дню ў раёне стаіць пашырэнне электрастанцыі.

Адно, што псуе агульнае ўражанне ад мястэчка, — гэта цэнтр яго, рыначная плошча. Вялікі чатырохкутнік з усіх бакоў абстаўлен крамкамі-будкамі. У гэты чатырохкутнік уціснуліся толькі нардом, два газетныя і кніжныя кіёскі і аптэка, а рэшта — «дробны гандаль», піўныя і закусачныя, чайныя, ізноў «дробны гандаль». Койданаўцам гэта плошча, у іх курсе на горад, ужо колець вока, і яны ўзнімаюць хадайніцтва перад мясцовай уладай, каб скасаваць рынак у цэнтры, перакінуць яго на адну з ваколіц мястэчка, і на гэтым месцы разбіць парк. Думка добрая, і мясцовая ўлада яе, канечне, падтрымае.

* * *

Гарачыя дні перажывае райвыканкам. У штодзённую працу ўрэзаліся два вялікія здарэнні: падрыхтоўка да святкавання 10-годдзя БССР і падрыхтоўка да перавыбараў саветаў. Свята 10-годдзя БССР раён рыхтуецца спаткаць урачыста і адзначыць яго шэрагам дасягненняў на гаспадарчым і культурным фронце. Адчыняюцца новыя заводы, арганізоўваюцца калгасы, адчыняюцца новыя культурна-асветныя ўстановы. Рыхтуецца адкрыццё помніка на брацкіх могілках ахвярам мінулых геройскіх дзён барацьбы за вызваленне.

Падрыхтоўка да свята ідзе па ўсіх галінах.

Не менш энергічна рыхтуецца раён і да перавыбараў саветаў. Рыхтуюцца бядняк, серадняк, рыхтуюцца нэпман і кулак. У раёне былі ўжо выпадкі актыўнага перадвыбарчага выступлення кулакоў. Зразумела, гэта актыўнасць к самым перавыбарам павялічыцца. Вось чаму бядняк і серадняк павінен быць добра падкаваны, каб даць адпор кулацкай актыўнасці.

Райвыканкам лічыў усё гэта і ў плане да перавыбараў прадугледзеў усе моманты для найшырэйшага правядзення падрыхтоўкі. 15-га снежня па раёну пачынаецца справаздачная кампанія, і раён спяшаецца скончыць падрыхтоўку. 9 снежня ў раёне былі скліканы

аж 4 нарады: селькораў, жаночага актыву, хатнікаў і сакратароў ячэек «П. Н.». Першыя тры мелі непасрэднае дачыненне да перавыбараў.

Нарада селькораў прайшла добра, толькі арганізацыйны бок крыху кульгаў: замест 10 гадз. нарада распачалася а 1-й гадзіне, бо не было вызначана загадзя сталае месца нарады. Зусім добра прайшла нарада жаночага актыву. Па дакладу райвыканкаму жанчыны вынеслі рэзалюцыю, у якой прадугледзелі ўсе моманты як гаспадарчага, так і культурнага жыцця раёну.

Толькі нарада хатнікаў, можна лічыць, не адбылася. Аб прычынах гэтага пагаворым у другі раз.

* * *

Койданаўскія кіраўнікі культ. і палітасветнай працай у гадавай справаздачы, напэўна, напішуць: у галіне кіраўніцтва хатамі-чытальнямі праароблена вельмі многа — даваліся ўказанні, аказвалася дапамога, адбываліся нарады хатнікаў і г. д. Пра тую «нараду» хатнікаў, якая была 9 снежня, таксама скажуць, што яна адбылася.

Зразумела, калі слова «адбылася» разглядаць так — абы адбыць, то нарада хатнікаў у койданаўскім Нардоме 9-га снежня запраўды адбылася. На мой жа погляд, гэта была не нарада, яна не адбылася — гэта быў проста нічым не прыкрыты здзек над палітасветнай працай. У раёне 6 хат-чытальняў і 30 чырвоных куткоў. На нараду павінна было з'явіцца, як бачым, 36 чалавек, а з'явілася 2.

Што, нармальна, у такім выпадку трэба было зрабіць? Адкласці нараду. Але яе не адклалі. Нараду правялі. Прыехаў прадстаўнік з акругі, сабраліся мясцовыя правадыры — людзі сядзелі, гаварылі, пісалі, спрачаліся і ў выніку — усё гэта для двох чалавек.

Чаму ж праводзілі нараду? Зразумела, толькі для справаздачнасці і выканання плану.

— Чаго там? Адбылася — і з плеч далоў.

А між тым нарады хатнікаў адбываюцца нячаста: раз-два ў год. Для хатніка яны маюць вялікае значэнне, бо з'яўляюцца ў некатарай меры школай для яго. Ні для каго не сакрэт, што нашы хаты-чытальні і чырвоныя куткі яшчэ слаба працуюць. Гэта часткова тлумачыцца рознымі, як кажуць, «аб'ектыўнымі прычынамі», але ў асноўным усё ж такі працаздольнасць хаты-чытальні залежыць ад самога хатніка. Здолее ён знайсці адпаведныя метады працы, здолее зацікавіць сялян, і добрая праца хаты-чытальні забяспечана. Зразу-

мела, што ў адшуканні гэтых метадаў і спосабаў зацікаўлення хатнік павінен мець падтрыманне і кіраўніцтва. Нарады хатнікаў якраз і маглі б у пэўнай меры забяспечыць патрэбнасць хатніка і ў дапамозе, і ў кіраўніцтве.

Чаму ж койданаўскія хатнікі не з'явіліся на сваю нараду, калі яна ім так патрэбна? Усё мае свае прычыны, мае іх і гэта здарэнне.

Райінспектар нарасветы, ён жа кіраўнік палітасветнай працы ў раёне, перад сходам на пытанне свайго таварыша аб нарадзе даволі флегматычна адказаў:

— Эт, чаго там, не збяруцца.

Кіраўнік палітасветнай працай аказаўся праўдзівым. Хатнікі на нараду не сабраліся. Тут напрошваюцца пытанні: адкуль ён ведаў пра гэта? Скуль такое перакананне і чым яно тлумачыцца?

Не іначай як тым, што кіраўнік палітасветнай працай раёну добра ведае вясковых хатнікаў і іх патрэбы, ведае, што кіраўніцтвам хатнікі забяспечаны больш, чым трэба, чаму ён смела і заяўляе:

— Не прыйдуць!

Паглядзім жа, у якой меры забяспечаны вясковыя хаты-чытальні гэтым раённым кіраўніцтвам?

Раённы Нардом, які павінен з'яўляцца ўзорам, прыкладам для вясковай хаты-чытальні, фактычна з'яўляецца і яе непасрэдным кіраўніком і памоцнікам.

Як жа койданаўскі Нардом ажыццяўляе гэта кіраўніцтва вясковымі хатамі-чытальнямі, які дае для іх прыклад?

Для гэтага паглядзім, як працуе сам Нардом.

* * *

Днём у койданаўскім Нардоме амаль што пуста. Так, прыблізна к 4-м гадзінам каля Нардому з'яўляецца першая публіка — выключна моладзь球 рознага ўзросту — ад піянерскага да перарост-камсамольскага.

Што яны тут робяць — трудна сказаць, але яны не пакінуць калідору да таго часу, пакуль не зачыніцца Нардом. Тут яны атрымліваюць «разумны і карысны адпачынак»: лаюцца, без сэнсу рагочуць, злёгка хуліганяць.

Я пытаўся ў некаторых хлапцоў, чаго яны без патрэбы тоўпяцца на калідоры, дык яны ў сваю чаргу спыталіся:

— А што рабіць?

— Як што рабіць? У Нардом жа прыйшлі.

— Гы… у Нардом. Дык тут жа кіно.

Гэтым сказана ўсё. Раз у Нардоме кіно — значыць ні аб якой іншай працы і гутаркі быць не можа.

А кіно ў Нардоме бывае тры разы на тыдзень: 2 сеансы ад 7-й да 12-й гадзіны.

Што тады бывае ў Нардоме, калі няма кіно? Тады нардомаўскую сцэну гвалтуюць розныя халтурнікі. Койданаўскі Нардом вельмі гасцінна адчыняе для іх свае дзверы. Розныя эксцэнтрычныя 5 Эрвані ды 5 Петры, «злободневные сатирики», розныя Евы і Боны не даюць мястэчку спакойна перадахнуць. Не маючы ніякай разумнай забавы, местачковы жыхар, сквапны да розных заезджых «знаменитостей», кожны раз пакорна нясе халтуршчыкам-гастралёрам свае туга зарабляемыя капейкі ў надзеі на гэты раз атрымаць за іх што-небудзь карыснае. А гэтыя шустрыя налётчыкі пакормяць даверлівага жыхара розным хламам, сабяруць грошы і на развітанне ігрыва памахаюць рукою абдуранаму местачкоўцу:

— До приятного свидания.

Для гастралёра гэта, канешне, прыемнае «свидание», а местачковаму жыхару яно бокам вылазіць: і грошы шкада, і часу шкада. Некаторыя з гэтых налётчыкаў ухітраюцца выкачваць з кішэняў койданаўскіх жыхароў па 300 руб. за вечар.

300 рублёў! Гэта ж добры гучнагаварыцель для клубу. А што дае гастралёр за гэтыя 300 руб.? Ды амаль нічога. Ды запраўды, што могуць даць карыснага або цікавага якія-небудзь музычныя эксцэнтрыкі? Ну, выбегуць на сцэну, ну, паіграюць на памяле або на чарапкох — дык ці ж гэта музыка? Гэта штукарства, якое, уласна кажучы, нічога не дае і нікому не патрэбна. Праўда, у перапынках між ігрой эксцэнтрыкі «запушчаюць» у публіку «сатыру і гумар». Ды яшчэ якія! Вось узоры «эксцэнтрычнага гумару і сатыры»: на сцэну выбягае двое:

— Га-га-га! Ха-ха-ха! А вот і мы!

Добра. Тут адзін падскаквае і крычыць:

— Вовачка! Знаеш, што?

— Нет, не знаю.

— И я не знаю. Ха-ха-ха! Гі-гі-гі!

Гэта гумар нумар першы. А вось другі нумар.

— А теперь, граждане, прослушайте, мы вам сыграем «Ехал Дунай за казакам».

— Да не так, — перапыняе другі.

— Ах, да! — папраўляецца першы, — «Ехал за казакам Дунай».

Тут, разумеецца, ізноў: ха-ха-ха! гі-гі-гі!

Гэта «гумар». А вось «злободневная» сатыра.

— Какая разница между женщиной раньше и женщиной теперь? — «Раньше женщина из кожи лезла вон, чтоб показать платье, а теперь из платья лезет вон, чтоб показать кожу».

Канечне, ізноў: га-га-га!

Гэта што? Сатыра? Ды за такую «сатыру» па чарапу трэба ўдарыць чалавека, ды з такой «эксцэнтрычнасцю», каб дзясятаму заказаў, як накідацца на непавіннага грамадзяніна з «сатырай». Дзе гэта ў нас цяпер такая жанчына, што пнецца «паказаць кожу»?

На каго ж разлічан такі рэпертуар? Зразумела, толькі на мяшчанства, на яго дурашлівы смех. Але ж Нардом існуе зусім не для пацехі мяшчанства, а для выхавання свядомага грамадзяніна з гэтых самых мяшчан.

Узоры рэпертуару, прыведзеныя вышэй, — не выпадковасць — ён прыблізна такі ва ўсіх гэтых эксцэнтрыкаў, «злободневных» сатырыкаў і іншых. Ды і мястэчка Койданава не адно. Усе нашы мястэчкі, ды часткай і гарады, час ад часу церпяць налёт гастралёраў. Яны пацешаць даверлівае грамадзянства, паіграюць на памяле, збяруць грошы і пакінуць пасля сябе пару дурашлівых анекдотаў. Больш нічога. Вось чаму, мне здаецца, што на рэпертуар розных гастралёраў-эстраднікаў нашымі адпаведнымі ўстановамі павінна быць звернута больш сур'ёзная ўвага. Трэба так ці інакш стрымаць імпэт гэтых налётчыкаў і абараніць крыху грамадзянства ад іх бескарыснага, а часам і шкадлівага ўплыву.

Цяпер далей. Што робіць Нардом, калі няма ні кіно, ні гастралёраў? Тут мы падышлі да асноўнага, нічога. Пры Нардоме працуе толькі адзін гурток — харавы, ды і той за восень сабраўся ўсяго адзін раз, ды і пяе даволі нудна: другі год вывучае адну песню і ніяк не можа асіліць. Праўда, песня папалася цяжкая: «Тихий вечер пал на землю». Я з паўгадзіны слухаў, як бедныя харысты мучыліся над гэтым ціхім вечарам, каторы, на іх бяду, «пал на землю». Кіраўнік гуртка ўвесь час дамагаўся, каб «тихий вечер пал на землю» злёгка, плаўна, нібы на парашуце спусціўся. Але харысты, відаць, нешта маюць супроць ціхага вечару: яны яго так спускалі на зямлю, што ён запраўды падаў, нібы камень: бо на слове «пал» яны загібалі такое фарцісімо, што дрыжэлі новыя моцныя сцены Нардому.

На мой погляд, дык ну яго з гэтым ціхім вечарам: не даецца і не трэба. Ці мала ў нас прыгожых народных песень, або рэвалюцыйных?

Адно, што больш-менш падтрымлівае працу ў Нардоме, — гэта бібліятэка. Кожны дзень у пэўныя гадзіны ў бібліятэцы людна. Чытачоў многа. Кнігі бярэ большасць моладзь, але шмат чытае і дарослае грамадзянства. Разумееца, не ўсё добра і тут. Асноўны недахват — мала кніг. Праўда, бібліятэка мае 2500 экзэмпляраў, але чытаць мала чаго ёсць. Літаратуры для дзяцей — ніякай. Я бачыў, як хлапец гадоў 10–11 браў чытаць казкі Салтыкова-Шчадрына (?!). Селькоры скардзіліся, што няма добрай палітычнай літаратуры:

— Толькі дробныя брашуркі.

Зусім мала белетрыстыкі, асабліва сучаснай. Мала беларускай мастацкай літаратуры: асабліва мала яўрэйскай літаратуры, усяго 48 кніжак. А попыт на яўрэйскую літаратуру аграмадны.

Большасць кніг — стары хлам, які ўжо даўно просіцца ў архіў. Бібліятэка тэрмінова патрабуе папаўнення сучаснай літаратурай, асабліва беларускай і яўрэйскай.

Ёсць яшчэ ў Нардоме і чытальня, але з газет у ёй бывае толькі «Савецкая Беларусь» — іншых газет Нардом не паклапаціўся выпісаць.

* * *

Вось уся тая праца, якую праводзіць Нардом. Кіно і гастралёры.

Вось які прыклад ён можа даць для вясковай хаты-чытальні.

А кіраўніцтва? Яго таксама няма. На нарадзе адзін з двох прысутных на ёй хатнікаў скардзіўся:

— Каторы месяц усё прашу, каб абследавалі нашу хату-чытальню, і ніякай увагі.

Загадчык Нардому, канечне, спаслаўся на тое, што ў яго ёсць план і па плану хата-чытальня будзе абследавана. Але ж вясковай хаце-чытальні не лягчэй ад таго, што ў Нардоме ёсць план, — ёй патрэбна праца, жывая праца, а не план, патрэбна не паперка, а рэальная дапамога і кіраўніцтва. Гэтай дапамогі і кіраўніцтва вясковыя хаты-чытальні ад Нардому не маюць. І той факт, што хатнікі не з'яўляліся ў раён на нараду, трэба расцэньваць не аб'ектыўнымі прычынамі, а тым, што вясковыя хатнікі не толькі не маюць дапамогі і кіраўніцтва з раёну, але і не спадзяюцца мець.

Прычынай усяго гэтага з'яўляецца тое, што койданаўскі Нардом фактычна ўжо не ёсць Нардом, хутчэй усяго толькі кінатэатр.

Залежыць гэта ўсё, разумеецца, ад кіраўніцтва Нардому. Гады два таму назад, калі быў загадчыкам Нардому т. Чарнецкі (цяпер бібліятэкар), праца ў ім ішла вельмі добра: працавалі розныя гурткі, чыталіся лекцыі, ставіліся спектаклі і г. д. Чамусь раённае начальства перавяло яго ў бібліятэкары, а загадванне Нардомам за год перайшло ўжо ў трэція рукі, і ніводзін не здолеў з ім справіцца. Тут запраўды цяжка зразумець глыбіню адміністрацыйных меркаванняў начальства, а між тым з рацыянальнасцю іх нельга згадзіцца.

Усё вышэйазначанае сведчыць аб тым, што палітасветная праца ў Койданаўскім раёне настойліва вымагае аздараўлення. Трэба дабіцца таго, каб Нардом быў сапраўды Нардомам, а не кінатэатрам. Трэба арганізаваць пры Нардоме гурткі. У мястэчку многа культурнай сілы: у 3-х сямігодках 36 настаўнікаў, далей — дактары, аграномы, камсамол, школа рабочай моладзі, служачыя РВК. Такое налічча культурнай сілы дае магчымасць стварыць добры драматычны гурток. Койданаўцы любяць добрую драму. Яны ўвесь час успамінаюць трупу Галубка і з нецярплівасцю чакаюць яго. Пры добрай арганізацыі драмгуртка і ўдалым падборы рэпертуару койданаўскі Нардом можа з поспехам зачыніць свае дзверы для розных гастралёраў і даць жыхарам мястэчка разумны і карысны адпачынак.

І яшчэ асноўнае, што трэба зрабіць, — гэта наладзіць сталае кіраўніцтва вясковымі хатамі-чытальнямі. Вясковы хатнік блукае ў пацёмках, ён прагна шукае метадаў працы, а дапамогі ніякай. Трэба яму даць кіраўніцтва, трэба яму дапамагчы наладзіць палітасветную працу ў вёсцы.

А койданаўская вёска вельмі і вельмі патрабуе гэтай працы. Трэба заўжды памятаць, што раён прымежны, і гэта на палітасветную працу ўскладае асаблівыя абавязкі.

# НА ВАРЦЕ ЗДАРОВАГА САВЕТА

*«Таемныя асобы». «Чарка самагону». «Кукіш класавага ворага». Яслі. У жанчын развязаны рукі. Бядняк пераможца*

Марозна. Вечар атуліў вёску. У заснежаных і прыціснутых да зямлі хатках заблішчэлі кволым светам вочкі-вакенцы.

Ціха. На вуліцы ні душы. Але вось начную цішыню рэзка парушыў скрып людскіх шагоў. Каля аднае хаты шагі змоўклі, і ў слабым водблеску ад дробнага вакенца можна было ўгледзець дзве шэрыя фігуры, закутаныя з галавою ў доўгія кажухі. Таемныя людзі пастаялі, ціха аб чымсь пагаварылі і накіраваліся ў хату. Праз хвілін дзесяць невядомыя людзі выйшлі з хаты, і зноў заскрыпелі іх цяжкія крокі па ціхай вясковай вуліцы. Каля маленькай халупкі, якая цалкам са страхой урасла ў снег і чуць блішчыць на вуліцу адным вакенцам, таемныя людзі спыніліся зноў, памаўчалі, і адзін з невядомых накіраваўся далей.

— А да Базыля хіба не зойдзем? — спытаўся другі невядомы.

— Не.

Невядомыя людзі пайшлі далей. Так яны абышлі ўсю вёску. Каля адных дзвярэй гэтыя таемныя людзі доўга тапталіся, аб чымсь паціху шапталі і ці нерашуча заходзілі ў хату, ці ішлі далей. У другія хаты яны, наадварот, заходзілі смела і хутка іх пакідалі.

Што гэта за таемныя людзі і зачым яны парушаюць спакой марознага вясковага вечара?

Гэта — заможнікі ў вёсцы Слаўнае (Чарнякоўскага сельсавета) рыхтуюцца да перавыбараў саветаў.

Тут яны на чале з уласнікам млына арганізавалі абход па дварох, узмоцнена папулярызуюць сваіх кандыдатаў у новы савет і агітуюць супроць кандыдатаў беднаты. Такую працу па Прапойскаму раёну вядуць заможнікі ў Чарнякоўскім, Каменскім, Ржаўскім і іншых саветах. У гэтых сельсаветах, як больш заможных у раёне, з вялікім процантам хутароў заможнікі выступаюць даволі актыўна. Апрача абходу па дварох, які практыкуецца на многіх вучастках гэтых сельсаветаў, заможнікі тут ужываюць і іншыя «метады»: спайванне і запужванне.

— Заходзь да мяне, Сымон, — запрашае бедняка хітры заможнік. — Пагаворым.

Заходзе Сымон да суседа, а там ужо і іншыя бednякі. Чарка самагону, асцярожныя намёкі на дабрату і розум Макара — і Сымон гатоў. Калі ён выходзе ад суседа, дык у яго затуманенай самагонам галаве

вобраз Макара вітае як нешта найлепшае. Гэта заможніку і трэба. Ён перакананы, што калі на перавыбарчым сходзе будзе высунута кандыдатура Макара, дык Сымон першы будзе галасаваць за яе.

Калі бядняк не ідзе на спайванне, заможнік спрабуе запалохаць яго.

— Выбірайце, выбірайце па спісах, — шэпчуць кулакі па Каменскаму сельсавету, — яны вас, гэтыя «спісы», потым так самаабкладуць, што не падымецеся. Не толькі нам, і вам хопіць.

Так «агітуюць» заможнікі Прапойскага раёну за сваіх кандыдатаў. Але гэта кулацкая агітацыя, нягледзячы на сваю актыўнасць, не мае шырокага поля для сваёй дзейнасці — яна, як у сцяну, упіраецца ў арганізаванасць беднаты. Бядняк, выступаючы ў шчыльным саюзе з большасцю сераднякоў, на ўсіх франтох дае адпор заможніку і пільна абараняе ад яго свае перадавыя пазіцыі — сельсаветы. Першыя вынікі перавыбараў па Прапойскаму раёну кажуць аб гэтай арганізаванасці і актыўнасці беднаты за першыя два дні (з 8-га па 10-е праведзены перавыбары па 5 вучастках). Наведванне сходаў на гэтых вучастках складае 70–80 проц. На ўсіх вучастках прайшлі кандыдацкія спісы беднаты. Апошняя, нягледзячы на стараннi заможнікаў, не пусціла іх у саветы. Яна дзейна абараняе савет ад заможніка.

У некаторых мясцох барацьба беднаты з заможнікам мае літаральна дзейны характар. Напрыклад, на Каменскім выбарчым вучастку пасля выбараў было пастаўлена пытанне аб самаабкладанні. Адзін бядняк выступіў з прапановай прыняць самаабкладанне на большую суму, чымся летась. Не ўзлюбілі гэтага кулакі, а адзін з іх падняў крык:

— Што? Ты самаабкладання хочаш? А плаціць хто будзе? Мы? Дык вось жа табе самаабкладанне, — і тыча бедняку кукіш пад нос.

Не сцярпеў гэтай абразы ад класавага ворага бядняк, размахнуўся і… бац.

— Вось табе ў тваю кулацкую «фізіку». Не зневажай.

Пад дружны хохат усіх прысутных кулак пакінуў сход, а пераможца бядняк прадаўжаў далей і загітаваў сход прыняць самаабкладанне на 25 проц. ад падатку.

Актыўна прымаюць удзел у перавыбарах сёлета жанчыны. Для таго каб даць жанчынам магчымасць шырэй наведваць сходы, Прапойскі РВК арганізаваў сёлета на час перавыбараў звыш 30 аднадзённых ясляў. Жанчыны вельмі здаволены гэтым.

— Цяпер і ў нас рукі не звязаны, — цешацца жанкі і дружна ідуць на сходы.

У сярэднім наведвае сходкі каля 60 проц. жанчын, а там, дзе арганізаваны яслі, гэты працант даходзе да 80–90. На сходах жанчыны выступаюць больш уважліва, чымся мужчыны, наглядаюць, каб у савет не пралезлі шкодныя людзі. Напрыклад, у Прапойскім местачковым савеце на перавыбарах у 2-м вучастку жанчыны ўжо пасля выбараў далі адвод аднаму члену савета.

— Такіх нам не патрэбна. Выкінуць яго!

І сход пад націскам жанчын змушан быў перавыбіраць члена савета. А «такі» не падабаўся жанчынам тым, што выступіў супроць самаабкладання.

Так бароняць жанчыны свой савет ад людзей, якія не толькі будуць лішнімі ў савеце, але і шкодзяць яго працы.

Гэта актыўнасць жанчын, арганізаванасць беднаты, якую выявілі першыя дні перавыбараў па глухому Прапойскаму раёну, забяспечвае сельсаветам здаровы бядняцка-серадняцкі склад; яна, гэта актыўнасць, сведчыць і аб значным палітычным росце магілеўскае вёскі.

# ВОСЬ ТАК І ЖЫВЁМ...

*З перавыбараў*

Рэзкі, калючы вецер — проста ў вочы. Мароз бязлітасна, як іголкамі, коле твар, моршчыць яго, сціскае ў нездаволеную грымасу.

Ад Прапойска да Жалезенкі — 17 кіламетраў, але дарозе, здаецца, і канца не будзе: жорсткі мароз скаваў усё. Так што нібы і час застанавіўся.

Нарэшце мы ўехалі ў лес, стала зацішней. Прадстаўнік РВК, з якім мы едзем на перавыбары саветаў у вёску Жалезенку, пачаў апавядаць пра перавыбары на першым вучастку гэтай вёскі і пра склад Іванішчавіцкага сельсавета, да якога належыць вёска.

## СТАРШЫНЯ — «БАРЫНЮ», А САКРАТАР — «ЧАЧОТКУ»

— Не шанцуе Іванішчавіцкаму сельсавету на старшыню, — кажа прадстаўнік РВК. — У красавіку знялі старога за нядбайнасць у адносінах да падатку і страхоўкі, заступіў цяперашні Басаў, але гэты не лепшы: яго пад суд аддаём.

— А завошта?

— Таксама з падаткам нешта падурыў. Дый наогул працаўнік з яго дрэнны: п'е, з заможнымі хеўру водзіць. На першым плане ў яго танцулькі, вячоркі, а за справай мала глядзіць.

— Ды вось і надоечы ў гэтай вёсцы, куды мы едзем, было... Тут перавыбары, працы хоць адбаўляй, а старшыня з сакратаром на вячорках. Скачуць, як ні ў чым было. Заможны, як з вады выцягнуты, «барыню» адбівае, а пасля яго сакратар Папейка «чачотку» адстукаў. А позвы па некаторых вучастках не разасланы, дый наогул позвы неакуратна разасланы, некаторыя зусім не атрымалі. Вось якая праца.

— А як жа з перавыбарамі? Прайшоў Басаў?

— Не. На першым вучастку ў Жалезенцы яго правалілі, але ён спадзяецца на другі вучастак, дзе ў яго прыяцелі ёсць. Ды вось пабачым, што сёння будзе.

Мы змоўклі, бо выехалі з лесу, зноў насустрач халоднаму ветру.

— Вось вёска, — паказаў мой спадарожнік, — хутка адагрэемся.

Праз хвілін 20 мы ўязджалі ў ваколіцу заснежанай вёскі Жалезенкі.

## «НЕ ХАДЗІЦЕ ВЫ, ДЗЯЎЧАТЫ, ПОЗНА ЎВЕЧАРЫ ГУЛЯЦЬ»

Першае, што кідаецца ў вочы ў вёсцы Жалезенцы, — гэта мястачковы характар будовы. У кожным двары — брама з форткай, вокны з ваканіцамі, некаторыя з дзюрамі і яшчэ, што асабліва кідаецца ў вочы, — гэта брамы, амаль усе вымазаныя дзёгцем.

— Чаму гэтак у вас запэцкана? — спытаўся я ў аднаго дзядзькі.

— Фулюганы… (тут дзядзька моцна вылаяўся). Што з імі зробіш і дзе яго знойдзеш. Бач, вёска якая.

Аказваецца, гэта пэцканне брам — работа вясковых хлапцоў. У аснове гэтага «звычаю» ляжыць «охрана нравственности» дзяўчат, і звычай гэты запазычан у суседзяў. Цяпер ён выраздзіўся ў звычайнае хуліганства. Брамы мажуць не толькі ў тых дварох, дзе часамі дзяўчаты «позна ўвечары пагуляюць», а і ў тых дварох, дзе наогул няма ні дзяўчат, ні хлопцаў — старыкі ды дзеці. Гэта адзін з выглядаў хуліганства вясковых хлопцаў, якія, на жаль, не маюць ніякага культурнага занятку.

Апрача пэцкання брамаў, вёска Жалезенка славіцца крадзяжамі, п'янствам, панажоўшчынай, забойствамі. Амаль ніводная вячорка (а яны ў вёсцы — адзіная забава моладзі) не абыходзіцца без бойкі, часты і забойствы. І цяпер сядзіць некалькі хлопцаў за забойствы.

У сярэдзіне вёскі, дзе яна грэбляй дзеліцца на дзве роўныя часткі, месціцца «пажарнае дэпо». Гэта чатыры калочкі, якія падтрымліваюць уверсе саламяную стрэшку. Пад ёй — пяць бочак, некаторыя без колаў, пад некаторымі колы разбітыя. Якую службу саслужыць гэта «дэпо» у выпадку пажару — цяжка сказаць. А хаты ў вёсцы стаяць блізка, у некаторых мясцох — проста страха ў страху. А вёска вялікая: 150 двароў, 803 душы насельніцтва.

На гэтых 150 двароў у вёсцы няма ні хаты-чытальні, ні чырвонага кутка. Адзін светлы ліхтар у вёсцы — школа, але і ён свеціць не вельмі ярка…

## «САМ НА ПЕЧЫ, А НОГІ — У ПЯЧУРКУ»

У аднэй вясковай хаце, куды мы зайшлі, нас спаткаў хлопчык гадоў 12-ці.

— Уваходзьце, таварышы, уваходзьце, — гасцінна запрасіў нас малады гаспадар.

Мы разгаварыліся.

— Ты што дома сядзіш? Хіба не вучышся? — спыталіся мы ў хлапца.

— Эт, якое тут вучэнне, — падаў голас з печы дзядзька, якога мы дагэтуль не прыкмецілі, — толькі пайшоў у школу, ужо і варочаецца. Адзін заход, а не навука.

— Чаму ж гэта так?

— Ды настаўнік не хоча, — адгукнуўся хлапец. — Мусіць, лянуецца.

І праўды, настаўнік, мусіць, лянуецца. Сярод сялянства ён не карыстаецца ніякім аўтарытэтам. Пра яго ў вёсцы ходзяць цэлыя анекдоты.

— Узлезе на печ у часе перапынку, — апавядаюць вучні, — і ляжыць, звесіўшы ногі. Падойдуць вучні: «Дзядзька, вучыцца будзем», — а ён гоніць.

— Цыц, не ваша справа.

А надоечы хлопцы падгледзелі, як ён «палітыку вучыў».

— Ляжыць на печы, — кажуць, — і кніжку чытае. У руках цяжка трымаць кнігу, дык ён яе цвічком да сцяны прыбіў. Ляжыць і не падымаецца, а лісты палачкай гортае, каб не варушыцца.

Такі настаўнік, зразумела, не можа карыстацца аўтарытэтам вёскі, не можа мець уплыву на сялян. Ды як ён будзе мець гэты ўплыў, калі ў бытавых умовах сяляне апярэдзілі яго. Калі ў вясковых хатах досыць чыста, ёсць пасцелі і гарамі падушак, вышываныя ручнікі, дык у настаўніка ў пакоі, як у нары. Брудны сяннік (гэта ўся пасцель), бруд і на падлозе, і навакол. Тут жа настаўнік сабе і есці гатуе сам, а між тым стол у вёсцы можна наняць за 10 руб.

Такі кіраўнік адзінай культурнай установы ў вёсцы Жалезенцы — школы, якая з вялікай натугай ахапляе з 150 дзяцей школьнага ўзросту толькі 60 чалавек.

## ХТО АБ ЧЫМ, А МЫ АБ ЗЯМЛІ

Перавыбарчы сход заказан быў на 3-ю гадзіну, але збірацца пачалі каля 4-й, як з жывёлай управіліся.

Перад сходам у зборні было шумна, ажыўлена. У адным кутку дзядзькі гаварылі аб школе, аб гэтым, відаць, балючым пытанні ў вёсцы.

— А мне таксама крыўдна, чаму маё дзіцянё не вучыцца. Чым яно горшае. Усіх трэба вучыць.

— Дык мы б усе сілы, абы дзяржава дапамагла, бо самі пабудаваць не здолеем.

Так гаварылі дзядзькі аб пабудове ў вёсцы школы.

У другім кутку жанчыны ўзялі ў работу члена сельсавета Гоева.

— Ці ж мы цябе для таго выбіралі, каб ты нічога не рабіў? Лодыр ты...

У нашай групе дзядзька Гатальскі апавядаў пра меліярацыйнае таварыства. 5 тысяч гектараў займае Кульшыцкае балота, адным сваім канцом яно ўпёрлася ў самую вёску. Маюць на гэтым балоце свае сенажаці жалезенцы, але трава нікудышная.

— Рашылі мы давесці да парадку сваю сенажаць, — кажа дзядзька Гатальскі, — арганізавалася нас 70 гаспадароў, падалі заяву ў РВК, каб зацвердзілі наша таварыства, і вось са жніўня месяца чакаем, пакуль выйдзе які загад... Але нешта і да гэтай пары ні слыху. А зямля лепшая нам вось як патрэбна...

У пачатку 6 гадзіны старшыня сельсавета абвясціў, што па рэгістрацыі позваў на сходку з'явілася 126 чалавек. Інакш кажучы — 75 проц. выбаршчыкаў прыйшло на сходку, а з агульнага ліку прысутных — палова жанчын.

Сходку абвясцілі адкрытай.

## БАСАЎ — «КАЗАНСКАЯ СІРАТА»

— Таварышы, прашу намячаць кандыдатаў, — абвясціў старшыня сходу.

У зборні стала ціха — ні гуку. Відаць, кожны чагосьці чакае.

— Вось тут у мяне спісак ёсць кандыдатаў, якіх раіць бедната. Чытаць?

— Чытай.

— Ну, якія, таварышы, прапановы ёсць? Можа, дапаўненні будуць?

Спісак беднаты быў дапоўнен яшчэ 6 кандыдатамі, сярод іх і старшыня Басаў.

Надышоў самы адказны момант выбараў — галасаванне.

У часе абвяшчэння кандыдатур і галасавання ў залі было ціха. Ва ўсіх адчувалася напружанасць і адказнасць.

У выніку галасавання аказаліся выбранымі: са спіску беднаты — Грамыка Сямён (аднагалосна), і рэшта — намечаныя сходам: Басаў, Яўсеенка і Гатайскі Якаў. Бедната сваіх кандыдатаў не адстаяла, гэтаму, відаць, дапамог старшыня сельсавета Басаў са сваімі прыхільнікамі. А калі галасавалі кандыдатуру Басава, ён прыкінуўся казанскай сіратой і папрасіў зняць яго кандыдатуру.

— Бачыце, я ўжо досыць папрацаваў, пара адпачыць.

Тон яго слоў быў такі, што ён вельмі добры быў для сялян, дык у раёне не падабаўся. І, нягледзячы на сур'ёзныя адводы, якія давалі Басаву беднякі, ён усё ж такі прайшоў у савет.

Вынікі выбараў паказалі, што бедната ў вёсцы Жалезенцы хоць і актыўна, але гэта актыўнасць яшчэ не мае пэўнага плану, бедната яшчэ слаба арганізавана, няма, відаць, сталага кіраўніцтва беднатой.

## НАКАЗ

Пасля выбараў быў зачытаны наказ, які сход прыняў аднагалосна, пры дружным «ура». Усё, здаецца, было прадугледжана ў наказе, усе галіны як гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва, але і тут сход знайшоў патрэбным унесці свае дабаўленні.

«Новаму складу сельсавета абавязкова дабіцца адчынення ў вёсцы 2-камплектнай школы».

«Члены сельсавета асабліва ўважліва павінны наглядаць за патраўшчыкамі і сурова караць вінаватых».

«Сельсавет павінен наглядаць за своечасовай яўкай дапрызыўнікаў на зборныя пункты».

Пасля прыняцця ўсіх дабавак да наказу старшыня сходу пажадаў добрай працы новаму складу сельсавета, каб яны на справе выканалі наказ.

— Выканаюць, — запэўніў сход, — а будуць ленавацца, дык мы для іх лазы нарэжам.

Апошнім пытаннем сходу было самаабкладанне. Пасля спрэчак сход ухваліў прыняць 10 проц. грашыма.

— А калі патрэбна будзе праца і коні, як будзем школу будаваць, дык мы і без пастановы ўсе выйдзем на работу.

## У ВЯСКОВЫМ «КЛУБЕ»

Пасля сходу дзядзька Янка Гатальскі запрасіў нас на гарбату. Прышлі мы, яго суседзі — вось і вясковы клуб. У прыбранай хаце за сталом, пад белым, як снег, абрусом, мы пілі гарбату і вялі доўгія дыспуты. Пачалі мы з «багоў», якіх вельмі многа ў вёсцы, а скончылі сусветнай рэвалюцыяй. Гаварылі мы аб адчыненні ў вёсцы кааператыву, ад кааператыву перайшлі да таго, што вось тавараў няхватка, а гэта нас прывяло да таго, што трэба будаваць фабрыкі і заводы, і тут мы ўпёрліся ў машыну...

— Машыну нам трэба, машыну да зарэзу.

Рэзюме з нашых гутарак можна было вывесці такое: мы яшчэ бедныя, але мы і багатыя. Магчымасці ў нашай вялікай савецкай краіне — як нідзе. Мы яшчэ гаруем і яшчэ крыху пагаруем, але наперадзе ўжо блішчыць штось светлае, штось лепшае. Мы да яго ідзём і дойдзем!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Позна ўночы мы разыходзілся з «клубу». Вёска спала крэпкім сном. Толькі ў аднэй хаце блішчэў аганёк і адтуль вырываліся гукі «паўбуяна». Там моладзь у душным прадымленым паветры таўкла кадрыль. У першай пары, з потным чырвоным тварам, з расхрыстаным каўняром выступаў першы ў ваколіцы танцор — старшыня сельсавета Басаў…

— Ну што, бацькаў сын, — звярнуўся да мяне на развітанні дзядзька Гатальскі, — бачыў, як мы жывём?

— Бачыў…

— Вось так і жывём…

Мы развіталіся.

«Так і жывём»… Здаецца, што вёска Жалезенка так і жыве, так, як дзясяткі год таму назад. Тыя ж вячоркі, тыя ж скокі, тое ж п'янства і хуліганства. Яшчэ тая ж цемра, беднасць, непісьменнасць, дробныя інтарэсы. Усё старое.

Так, старое, але ў гэта старое моцным клінам урэзалася штось новае, якое ўпарта, настойліва прабівае сабе шлях, дрылюе карэнні старога.

Яно — гэта новае — гавора вуснамі старога дзеда Гатальскага, які хоча ў сваёй вёсцы мець кааператыў. Яно — гэта новае — гавора вуснамі вясковай жанчыны, якая дае ўзбучку члену сельсавета за дрэнную працу, за тое, што не апраўдаў давер'я грамады.

Яно — гэта новае — гавора вуснамі сталых гаспадароў, якія дамагаюцца таго, каб усе дзеці вучыліся; якія арганізавалі меліярацыйнае таварыства; якія дбаюць аб павышэнні ўраджайнасці палёў. Яно — гэта новае — вырываецца моцным крыкам пратэсту з вуснаў вясковай моладзі супроць хуліганства адсталай сваёй часткі.

Яно — новае — лезе з усіх шчылін вясковага жыцця, афармляецца, шліфуецца і ўпарта ідзе наперад, прабівае сабе шлях і там, дзе найбольш пусціла карэнні старое.

Гэта новае ідзе ўпарта, ідзе рашуча…

# КРЫЖОВАЮ ДАРОГАЮ
## *(да 20-х угодкаў справы БНЦ)*

Сёлета ў ліпені споўніліся 20-ыя ўгодкі справы Беларускага Нацыянальнага Цэнтру.

Гэтая справа — адна із шмат якіх трагічных балонаў у гісторыі нашага нацыянальна-вызвольнага руху, як у сэнсе фізічнага вынішчэння нацыянальнага актыву, так і ў сэнсе духовага надлому і запавальнення поступу руху.

20-ыя гады былі найбольш плённымі ў нашым нацыянальным вызваленні. Разбуджаны адраджэнствам нашаніўскае пары, узняты на вышэйшую ступень Актам Незалежнасці, вызвольны рух падняў з народных пластоў такую магутную нацыянальную сілу, якая здолела на працягу дзесяцёх год прарабіць работу стагоддзя. У гэтую пару на заходняй дзялянцы Краіны стотысячная народная Грамада сфармавалася ў паважную сілу, якая здольна была кіраваць усім нацыянальным жыццём. Ува ўсходняй дзялянцы ўсе пляцоўкі дзяржаўна-гаспадарскага і культурнага жыцьця былі ў нацыянальных руках.

Да 30-га году Беларускі Народ быў цалкам падрыхтаваны да самастойнага жыцця. Аднак жа такі магутны ўздым нацыянальнага руху не мог не выклікаць рэакцыі з боку акупантаў. Пачаўся ўпланаваны разгром беларускае нацыі. Злучанымі сіламі маскоўскага ГПУ і польскае дэфензівы ў 1927–1929 гг. была разгромлена Грамада. На парадку стаяў больш выраблены нацыянальна-палітычна і мацнейшы вызвольны рух ва ўсходняй дзялянцы Беларусі. Другім этапам наступу быў разгром нацдэмаўшчыны ў 30–31 гадох. Гэты тэрарыстычны пагром быў найцяжэйшым для беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, і дзясяткі тысячаў нацыянальна-сведамага беларускага работніцтва і сялянства брутальнаю сілаю былі выкінутыя з свае адвечнае зямлі і расцярушаныя для вынішчэння па дзікіх прасторах расейскае поўначы і ўсходу.

І трэцім этапам масавага вынішчэння Беларускага Народу быў тэрарыстычны разгром, што ўвайшоў у гісторыю нашага нацыянальна-вызвольнага змагання як Справа БНЦ. Тэмаю гэтага артыкулу не з'яўляецца аналіз справы БНЦ або разгляд метадаў і сродкаў яе арганізацыі. Я хачу тут падаць аб'ектыўна, у сціслых рысах, толькі ход справы.

10 жніўня 1933 г., паводле наказу з Масквы, былі арыштаваныя былыя дэпутаты Беларускага Народу ў польскі сойм ды іншыя грамадаўцы, якіх Масква ў 1932 г. выменяла з польскае турмы на агентаў польскага выведу. За ноч на 11 жніўня былі пасаджаныя ў лёхі ГПУ: С. Рак-Міхайлоўскі, Валынец, Баран, Мятла, Гаўрылік, Валошын, Дварчанін, Кахановіч ды іншыя — больш за 20 асобаў. Усе адзіночныя камеры менскае «амерыканкі» былі запоўненыя.

1-га верасня пачаліся масавыя арышты. За ноч на 2-ое верасня ў Менску было арыштавана 98 асобаў. Падобная акцыя была праведзена ва ўсіх акруговых і раённых гарадох і па вёсках Беларусі, а таксама і па-за яе межамі: у Маскве, Ленінградзе, на Каўказе, Урале. Арышты трывалі праз увесь верасень і кастрычнік. Да 1-га лістапада ў справе БНЦ было арыштавана 9700 чалавек. З гэтае колькасці больш за 500 чалавек інтэлігенцыі. (Весткі далёка не поўныя. Яны былі сабраныя ў часе шасцігадовага перабывання ў канцэнтрацыйных лагерах Заходняга Сібіру і Поўначы (Ухта-Пячора) ад тых удзельнікаў справы, якіх давялося спаткаць).

Да 1-га студзеня 1934 году справа БНЦ была скончана(*)[1].

Усе арыштаваныя, за выняткам колькіх асобаў, «прызналі сваю віну». 15-га студзеня Калегія ГПУ вынесла ўсім прысуд (без суду). 20 асобаў былі засуджаныя на смерць із заменаю 10 гадамі зняволення, рэшта да зняволення ў канцэнтрацыйных лагерах на тэрміны ад 3-х да 10-х гадоў. 1-га лютага пачаўся вываз. Уночы на 2-га лютага быў вывезены «Штаб БНЦ» у ліку 40 асобаў. А другой гадзіне ночы 40 чалавек былі выведзеныя за турэмную браму, там людзей акружылі 42 узброеныя да зубоў агенты ахранкі з дзясяткам сабак. Пры такой узмоцненай варце «Штаб» прывялі на запасовыя каляіны чыгункі і ўвапхнулі ў адзін таварны вагон. Нараніцу «Штаб» даставілі ў Воршу, дзе размясцілі яго ў двух сталыпінскіх вагонах: адзін пайшоў на Поўнач, другі — у Сібір.

Да сярэдзіны сакавіка блізу ўсе 9700 чалавек па справе БНЦ былі раскіданыя па паўночных прасторах «адзінай і недзялімай», ад Бал-

[1] Матарыялы ГПУ па справе БНЦ у 1941 г. былі знойдзеныя ў сакрэтных сховішчах Менскага ГПУ. Гэтыя матэрыялы — кніга на 500 балонак машынапісу пад загалоўкам «Совершенно секретно. Обвинительное заключение по делу Белорусского Национального Центра» — былі ў 1943 г. на загад Р. Астроўскага перададзеныя ў Баранавічы др. Мінькевічу, які пакінуў іх там падчас ад'езду на Захад. Кажуць, што ў 30-х валізах, якія Мінькевіч вывез на Захад, не знайшлося месца для гэтае кнігі. (*Заўвага Л. Крывічаніна*)

тыцкага мора да ракі Амуру. У турме засталіся 20 асобаў, з якіх ведамы аўтару М. Кахановіч (былы пасол польскага сойму і былы дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі) і Коўшык (дырэктар Тэхнікуму Сувязі ў Менску). Гэтыя 20 чалавек былі «забытыя» ў турме аж да ліпеня месяца. Праз тры дні пасля абвешчанай імі 14 ліпеня галадоўкі ўсе 20 а 2-й гадзіне ночы 18 ліпеня былі ўзятыя із камераў, пасля чаго след аб іх знік. Ні іхныя прыяцелі, ні сем'і больш ужо нічога пра іх не чулі.

Так загарнулася чародная крывавая балона гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

Расейска-бальшавіцкая прапаганда ўзяла пад густы абстрэл чародную «контррэвалюцыю» — БНЦ. Але неўзабаве прапаганда спынілася, бо не дасягала мэты. Пры ўсёй сваёй хлуслівасці, яна не магла ўкрыць праўды. Падамо адзін узор такое прапаганды. На першым з'ездзе Саюзу Савецкіх Пісьменнікаў Беларусі на пачатку 1934 г. загадчык аддзелу прапаганды ЦК КП(б)Б Д. Конік азнаёміў пісьменнікаў з матэрыяламі ў справе БНЦ. Схарактарызаваўшы «сутнасць гэтае контррэвалюцыйнае арганізацыі», азнаёміўшы з шасцю арганізацыйнымі пунктамі праграмы, падкрэсліўшы, што БНЦ «займаўся не толькі арганізацыйнымі пытаннямі», а што ён «вёў работу ў Заходняй вобласці з мэтай аддзялення часткі гэтай вобласці ад РСФСР» і што ён «меў на мэце адабраць заваёвы Кастрычніка ад рабочых і сялян Беларусі», гэты чародны партыйны Конік падышоў да зямельнага пытання ў праграме БНЦ:

«На пасяджэнні Цэнтру была разгледжаная і зацверджаная праграма, якая павінна была легчы ў аснову "канстытуцыі" будучай "вялікай Беларусі".

Зямельнае пытанне развязвалася праграмаю наступным парадкам:

Цвёрда ўстанаўляўся прынцып дробнай прыватнай уласнасці на зямлю, гранічныя нормы колькасці зямлі ў паасобных гаспадарках не павінны былі перавышаць 100 га»[1].

Як мог рэагаваць на такую праграму наш беларускі селянін, сілаю загнаны ў калгас, які толькі і летуцеў аб звароце гэтае собскасці на зямлю і за што аддаў бы ўсе «заваёвы Кастрычніка» разам із заваёўнікамі?

Якія ж былі вынікі справы БНЦ? Як вышэй адзначалася, пагром БНЦ зрабіў духовы надлом у нацыянальна-вызвольным руху. Аднак

[1] Полымя Рэвалюцыі. — Кн. 8. 1934.

жа народ, паклаўшы такую вялікую ахвяру на алтар свабоды, не спыніў свайго поступу. У выніку гэтага змагання ён глыбей пазнаў сваю сілу і ацаніў значанне арганізаванасці. Ён больш выразна правёў мяжу паміж сваім і чужым. Ён вырас як духова, так і палітычна.

І сяння нацыянальны актыў у новых абставінах змагання ў глыбокім падзямеллі збірае і гартуе сілы ды чакае з глыбокай верай у сваю праўду на новы, трэйці паварот кола гісторыі, які вызначыць ягоны лёс.

Або жыць вольным, або памерці ў змаганні!

# АПОВЕСЦЬ

## ЗАПІСКІ ЭМІГРАНТА

*Ад рэдакцыі.* «Запіскі эмігранта», якія мы пачынаем друкаваць, надасланыя да рэдакцыі праз ветлівасць аднаго з нашых сімпатыкаў. У прыкладзенай да «Запісак» нататцы зацемлена, што запіскі знойдзены выпадкам пасля расцярушання аднаго з лагероў, так званых ДП. Імя аўтара і ягонае цяперашняе месца пражывання не ўстаноўленае. Наш сімпатык прыпушчае, што аўтар «Запісак» — бяздомны, расейскага паходжання чалавек, блізка знаёмы з жыццём беларусаў, і, магчыма, што цяпер яшчэ жыве ў вадным з лагероў ДП. Мы схіляемся на ягоную думку, але станоўка сцвярджаць гэтага не важымся. Тое, што «Запіскі» напісаны ў расейскай мове, не даець яшчэ права сцвярджаць, што аўтар іх — чалавек расейскага паходжання, бо і ў беларускім асяродзішчы часам сустракаюцца людзі, якія карыстаюць з расейскай мовы. Але ўсё ж некаторыя паасобныя заўвагі аўтара выразна выяўляюць псіхалогію чужынца, што дае ўжо некаторае права не вызнаваць яго за беларуса.

Надасланыя «Запіскі» ў форме дзённіка досыць расцярушаныя. Першыя лісткі аж да 25 сакавіка 1942 году зусім выцертыя і малачытэльныя. З вялікім высілкам нам усё ж удалося ўстанавіць, што свой дзённік аўтар пачаў натаваць ад першых дзён вайны, жыў на Беларусі, прыпушчальна ў Менску. З паасобных невялічкіх урыўкаў малачытэльных лісткоў і з аналізу далейшага зместу «Запісак» можна толькі прыблізна схарактарызаваць аўтара. Гэта чалавек найперш апалітычны, сангвінічнага характару, грамадскі, які мала дзе збянтэжыцца. Ува ўсім іншым — гэта звычайны сярэдні чалавек ваеннага часу, які ратуе сваё жыццё ад знішчальнае сілы вайны і карыстае для гэтага з кажнае сітуацыі.

Надрукаванне гэтых «Запісак» рэдакцыя ўважае за карыснае з двух гледзішчаў. Першае, у «Запісках» ёсць шмат цікавых назіранняў з беларускага жыцця староннягa нам чалавека, і таму гэтыя назіранні могуць прыслужыцца як матэрыял для аб'ектыўнае крытыкі нашага

грамадства і для самааналізу паасобных сяброў яго. Другое, «Запіскі» часта рысуюць драбніцы штодзённага жыцця, а з драбніцаў гэтых фактычна і складваецца само жыццё. Калі ж узяць на ўвагу, што гэтыя драбніцы натаваліся беспасярэдне з самога жыцця ў часох ваеннае завірухі, калі кажны чалавек найчасцей бывае без цывілізаванае маскі, дык яны могуць больш праўдзіва схарактарызаваць чалавечую натуру і адлюстраваць запраўднага чалавека не ў святочным гарнітуры, а ў ягонай штодзённай вопратцы.

Запіскі няведамага аўтара мы назвалі «Запіскамі эмігранта», уважаючы, што такі тэрмін будзе найбольш адпавядаць праўдзе. Аўтар запісак мог бы быць якой-небудзь перамешчанай асобай, сілком перaселенай, прымусова вывезенай, выгнанай, загнанай, запраторанай, нарасцярушанай і г. д., мог быць уцекачом старым расейскім або новым, мог быць, нарэшце, так званым «калабарантам», але ў кожным разе — гэтая асоба ў выніку вайны апынулася на чужыне і не хоча скарыстаць зручнае нагоды, як канец вайны, каб вярнуцца на сваю радзіму. А ў такім разе праўдзівей за ўсё назваць гэтую асобу эмігрантам.

«Запіскі» падаём у перакладзе і ў рэдакцыі Лявона Крывічаніна.

Рэдакцыя

*Ад перакладніка.* Рэдактар перакладу намагаўся найперш захаваць стыль запісак аўтара, дзеля чаго найбліжэй трымаўся аўтарскага тэксту. Прашу прабачэння ў шаноўных чытачоў, што ў сувязі з гэтым паасобныя мясціны запісак могуць здавацца занадта падрабязнымі і цікавымі хіба толькі для гісторыкаў.

Л. Крывічанін

## З дзённіка Ів. Ів. Чужанінава

*28 чэрвеня.* Вярнуўся ў Менск. Пабегаў, пабегаў ды назад. Хай будзе, што будзе. Як кажуць, што міру, то і бабінаму сыну. Вайна мне не спадабалася. Па-першае, на вайне бывае, што і заб'юць, а па-другое, клопату шмат: наступаюць — бяжы, адступаюць — бяжы, ды часам і не ведаеш, у які бок. Не! Дома лепей! Хай іншыя бегаюць, а мая хата з краю.

Хата, дзякаваць Богу, засталася цэлая, не згарэла. А Рыгорава (гэта мой сусед із левага боку), дык тая — ушчэнт! Як карова языком злізала! Толькі комін тырчыць. Вось будзе смеху, як Рыгор вернецца!

*30 чэрвеня.* Жывы пра жывое і думае. Гэтыя два дні рабіў сякі-такі запас. Прыдбаў, дзякаваць Богу, нямала. Ёсць хлеба, ёсць і да хлеба. Калі на добрае пойдзе, дык і на гадкоў пару хопіць. Трэба сказаць — не ленаваўся.

*31 чэрвеня.* Ізноў рабіў запас. Сёння мяне страшэнна абурыў нейкі выкапень. Мы ўсе грамадою стараемся ля складу, што мурашкі, кажны валачэ — хто што здужае, а ён стаіць як слуп. Хоць бы пальцам крануў дабрынё. «Рабаваць, — кажа, — несумленна». А які ж гэта, дазвольце, рабунак!? Час пераходны, дабро нічыйнае — валачы, калі сіла. А ён — «несумленна»! Паглядзімо, што ты праз месяц скажаш, старая порхаўка! Эх, і жывуць жа людзі на свеце! Як такіх зямля носіць?

*1 ліпеня.* Назапашванне трывае далей. Сёння прывалок із жонкаю два вядры патакі і вядро нейкага малясу. Навошта ён — не ведаю, але людзі валакуць, і я не астаюся. Мо на што і прыдасца.

*2 ліпеня.* Зноў прыцяг два вядры і мех соды. Крухмалу падчапіць не паспеў. Пайду заўтра.

*10 ліпеня.* Восем дзён адпачываў на курорце. Абставіны былі не зусім спрыяльныя для пісання дзённіка, а таму нічога і не пісаў. У памяці засталіся спрэчкі аднаго дня. Гаварылі пра вайну: што такое вайна, чаму яна, як яно ўрэшце будзе. Тут кажны бараніў сваё. Адзін, прыкладам, выступіў і сказаў, што вайна гэта ёсць вайна, і хоць яна рэч непажаданая, але ваяваць усё ж трэба. Другі хваліўся, што ён таксама ваяваў бы, але яму бараніць няма чаго. Трэці, наадварот, націскаў на тое, што вайна — рэч надта патрэбная, але ваяваць не трэба. Некаторыя казалі, што пасля вайны будзе толькі так, а іншыя,

наадварот, што будзе толькі гэтак. Разнабою было шмат. Але ўрэшце бальшыня пагадзілася на тым, што можа быць і так, а можа быць і гэтак. Асабліва ўпорыста выступаў супроць вайны адзін нейкі не то прафесар, не то рахункавод — за пылам не разбярэш. Ён на абарону свае тэорыі выцяг і Талстога, і Дыягена, і яшчэ тузін іншых філосафаў. Тут не вытрываў і я.

— Выбачайце, грамадзянін пацыфісты, вайна — рэч конча патрэбная, без вайны нельга, бо яна асвяжае, яна ачышчае чалавецтва. Вайна — гэта смерць, а смерць родзіць жыццё. Вось! — (Гэта я таксама ўспомніў словы нейкага філосафа). Але ўпорысты не здаваўся.

— Што яна ачышчае, гэта святая праўда, бо мяне яна ачысціла да ніткі, але што яна асвяжае, то гэта, даруйце, — нонсэнс! Выбачайце.

І ён дэманстратыўна адвярнуўся ў бок.

Гэта я ўспомніў, калі змываў у балеі курортавы пыл. Целу было так хораша ў цёплай вадзе, а на стале стаяла паўфляжкі «маскоўскай», а на кухні жонка бразгала патэльнямі, а на работу не трэба ні заўтра, ні паслязаўтра, ні яшчэ праз тыдзень. Не! Што ні кажэце, а вайна — цудоўная рэч.

*11 ліпеня.* Ізноў цягаў патаку. Не стае тары. Дастаў крухмалу і газы.

*12 ліпеня.* Вярнуўся Рыгор. Глядзіць, а хаты няма. Вось тут, здаецца, стаяла, а няма. Крыху пасмяяліся. Праўда, Рыгор мала смяяўся, больш я рагатаў. Яму, відаць, не да жартаў было. Але такога чалавека, як Рыгор, не надта з капытоў саб'еш.

— Дармо, — кажа, — разбілі адну, другую паставім. Нас гэтым не запалохаеш.

І паставіць. Можаце не сумлявацца. Тым больш — лясны склад недалёчка, і гаспадара няма.

*13 ліпеня.* Сёння сустрэў былога прафесара. Ідзе былою вуліцаю, задуменны.

— Дзень добры, — кажу, — пане прафесару! Як маецеся, пане прафесару?

— А? Што? Ах, выбачайце, — схамянуўся ён, — я і не заўважыў… задумаўся…

— Пра што цяпер думаць, пане прафесару? Хай лепш конь думае, ці дадуць яму сёння аўса. Хэ-хэ-хэ.

— Вы ўсё жартуеце, а я паважнай справай заняты. Вось ужо трэйці дзень падлічваю, колькі вайна каштуе.

— А хіба можна падлічыць, колькі вайна каштуе?

— А чаму ж не! Для навукі нічога немагчымага няма. Прыкладам, колькі куля каштуе — ведама, колькі жаўнераў ваюе — збольшага можна ведаць, колькі кажны куляў выпушчае штодня — таксама можна збольшага ведаць. А тут на дапамогу сярэдняе арыфметычнае, тэорыя верагоднасці… Вось і выходзіць — штодня дваццаць мільярдаў. Ну, ведама, недакладна. Мільён больш — мільён менш, гэта для навукі не мае значання.

— Дваццаць мільярдаў, — здзівіўся я. — А даруйце, пане прафесару, навошта вам гэта ведаць? Вам жа працэнтаў з гэтых мільярдаў, напэўна, не дадуць.

— Як навошта? Для навукі. Навука, даражэнькі, усім цікавіцца. Ну, бывайце! Пабягу. Там дзесьці на Пушкінскай бібліятэку выкінулі, можа, што прыдасца.

Націснуў брыль на вочы і засігаў. «Вось дзівак, — думаў я, — мільярды лічыць, а ў самога гузікаў у паліце няма». «Мільён больш — мільён менш, гэта для навукі не мае значання». Нябось, каб гэты лішні мільён — ды яму ў кішэню, дык не сказаў бы, што не мае значання. Дзівак. Увечары смяяўся пра гэта Сымону (мой сусед із правага боку). Той хоць і мала адукаваны, але галаву мае добрую.

— Прафесары, — кажа, — усе дзівакі. Знаў я аднаго такога, які пры Акадэміі вартаваў. Той усё на нейкі Марс збіраўся ляцець. «Не даляціш, — кажу яму, — Сямён Іванавіч, да неба далёка». А ён сваё: «Не я, дык другі, а ляцець будзем». І паляцеў. Загналі яго бальшавікі аж на ўскрай свету, на нейкую Калыму. Вось табе і Марс! А я, дзякаваць Богу, нікуды не лётаў, дык вось жыву, і ў сваёй хаце.

Ведама, Сымон разважае прымітыўна, але і ён мае рацыю.

*14 ліпеня.* Сяння бачыў сон. Быццам ізноў вайна. Навокал пажары, самалёты, бомбы, як гарох, сыпляцца, а я валаку скрыню махоркі. Раптам перада мной бомба — трэсь… І расчынілася напал, а з яе выскачыў якісь гіцаль і да мяне: «Кідай скрыню — мая махорка!» «Брэшаш, — кажу, — мая!» Ну, слова за слова. Я паставіў скрыню ды размахнуўся. Ён — таксама. Тут і пачалася дыскусія. Прачнуўся, аж мяне жонка пад бакі таўчэ: «Ты што? Звар'яцеў? Ноч, добрыя людзі спяць, а ён — біцца!» «Маўчы, — кажу, — дурная. Гэта я нейкага рабаўніка біў, у цябе рыкашэтам папала». А тым часам жонцы сінца пад вокам набіў.

*15 ліпеня.* Заняў кватэру як пагарэлец. Кватэра нішто сабе: ёсць два паліто, тры шуфляды з бялізнаю, жаночае паліто, ну, дый іншае

лахардзе, а таксама і мэбля. Пераваюк у сваю хату, якая і не думала гарэць. А Рыгор, дык той заняў аж дзве кватэры: адну на жонку, другую на сябе. Вось ашуканец!

*16 ліпеня.* Быў на біржы, гэтай, што на Камсамольскай. Ну і прадстаўленне! Не раўнуючы, як у цырку. Людзей натоўпілася самых разнастайных. Ёсць і надта дзіўныя. Дзе яны толькі дагэтуль зашываліся? Капялюшастыя, у сурдутах, ёсць навет і пры медалях. Адзін, відаць, мікалаеўскі палкоўнік, дык той начапіў на грудзі сем медалёў і тры крыжы. Я сумысля палічыў. Дыбае, як індык, і ні на кога не глядзіць. А каб ён у гэткі фасон ды месяц перад гэтым выфранціўся, вось бы прычапіла яму энкавэдэ медалю — да скону памятаў бы!

Наагул, народ самы, як кажуць, адборны: кульгавыя, падслепаватыя, абамшэлыя — гэта ўсё, відаць, аскалёпкі разбітага ўшчэнт. Праўда, ёсць і людзі новай фармацыі: маладыя, задзёрыстыя, трымаюцца, як гаспадары, і гамонка ў іх нейкая невыразная, але такіх няшмат — лічаныя.

Пакуль я так дзівіўся на старых людзей новага свету, гляджу — ажна тут трэцца мой добры знаёмы, Ванаў. Быў ён за дырэктара, парцейны, хадзіў заўсягды ў «кіраўнічым гарнітуры» (сінія порткі-галіфэ і зялёны фрэнч), а тут у пінжаку, пры гальштуку, пад капялюшом.

— З якой гэта, — пытаюся, — аказіі пераапрануўся? На маскарад ці што?

— Ды так, — кажа, — надвор'е змянілася, пацяплела крыху.

— Так, так, — кажу, — гэта змена надвор'я шмат каго перафарбавала.

— Вы што гэта, часам не на мяне ківаеце? То гэта дарэмна, бо я заўсягды быў патрэбнага колеру.

— Ну, але ж, і я пра гэта, і ваша вонкавае афармленне...

— Ну, гэта, — перапыніў мяне Ванаў, — глупства, узлёт фантазіі, а нутраны колер у мяне станоўкі: я заўсёды быў супраць.

Ведаю я гэтую станоўкасць, але мне што? Даносіць на яго я не буду, хай сігае пад капялюшам.

Тут жа пабачыў і другога актывістага. Той таксама пераапрануўся ў нейкі стары сурдут, а заміж капялюша насунуў якуюсьці накрыўку: не то камілаўку, не то брыль.

Падзяліўся сваімі ўражаннямі з Рыгорам і Сымонам.

— Парцейныя, — казаў Сымон, — ну, гэтыя ўсе такія, ён хоць штодня пераапранацца будзе, абы яму скварку даваў. Быў у нас пры Акадэміі якійсьці Мікалаеў. Дык вось, заклікалі яго неяк у галаву ды

і кажуць: «Выдавай, — кажуць, — усю сваю контру, хто супроць...» Ну, ён і нагаварыў: пяцёх сваіх лепшых прыяцеляў пасадзіў. А сам у іх чарку піў і часцяком іхных баб гладзіў. Такі, браток, не тое што вопратку — бацьку роднага зменіць. Знаю іх добра.

Я із Сымонам не згодзен, але Рыгор тое ж думкі: «Той, што пнецца ўгару, той не здольны на нізе», — кажа.

*17 ліпеня.* Намацаў соль. Хоць у мяне і ёсць невялікі запас, але ў вайну, кажуць, перасолу не бывае. Прывалок два мяшкі — каштавала паўпляшкі «маскоўскай». Крыху дарагавата, але нічога не зробіш.

*18 ліпеня.* Сымон набыў адначасна каня і панарад. Якім парадкам — не ведаю, кажа, што безгаспадарныя, на пагарэллі блукалі. Ну, добра, скажам, блукаў конь, а як мог панарад блукаць? Але мне што? Хай сабе і блукаў. А Сымон, можа, калі і палку дроў прывязе.

*19 ліпеня.* Закінеш назад — наперадзе знойдзеш. Даведаўся, што з малясу выходзіць першагатункавы самагон. Вось шчасце падваліла! Шкада — мала назапасіў. Каб жа гэта ведаць! Адмераў два вядры Віцьку Фамёнку. Той наладзіў сталую самакурную фабрыку, але сырцу няма. Кажа, што з вядра выходзіць дзесяць пляшак. Паглядзімо!

*20 ліпеня.* Зноў быў на біржы. Народ крыху змяніўся. Падваліла былых савецкіх. Пачалося выразнае ажыўленне. Некаторыя цэляцца на працу, але мала, большыня стаіць нейтральнай сцяной: усе чакаюць, пакуль зусім праясніцца. Больш цікавяцца ваеннымі падзеямі: хто каго сцігуе.

Сымон з гэтага поваду казаў, што людзі, відаць, яшчэ не галодныя.

— Нідзе яны не дзенуцца, — кажа, — як у жываце завурчыць, дык і на працу закарціць. Пойдуць. Знаў я аднаго чалавечка, як я пры анатомцы трупаў варыў. Кволы такі, спакойны. Паглядзіць, бывала, як я трупаў у катле мяшаю, дый кажа: «Цяжкая твая праца, Сымон. Я, прыкладам, з голаду памёр бы, а цяжкой працы не рабіў бы. Не магу». А як загналі яго, небараку, за Котлас ды ўпрэглі ў пілу, то праз цэлую зіму лес пілаваў. Голад усяго навучыць!

*21 ліпеня.* Прывезлі із Сымонам па два вазы дроў. Вартаўнік ля складу ё, але дровы вазіць можна. Вартаўнік навет спрыяе: «Вазі, хлопцы, зіма будзе». Навошта тады варта, калі яна не вартуе. Сымон із гэтага казаў, што ў жыцці такія праявы часцяком здараюцца, калі чалавек працуе, але нічога не робіць.

— Быў і ў нас пры Акадэміі фрухт такі, нейкім прадстаўніком лічыўся. Што ён рабіў — ніхто не ведаў, але грошы браў нядрэнныя. Агледзеліся праз пяць гадоў, што ён нічога не робіць, ды навет і пасады такой няма. Але звольніць не маглі, бо ўжо стаж вялікі меў. Так і заставаўся на працы ды нічога не рабіў. Каб Акадэмія не расцярушылася, то і да гэтае пары працаваў бы. Так вось і гэты вартаўнік.

*22 ліпеня.* Пацешныя бываюць людзі. Сустрэў сяння Ваську Байцова. Толькі што вярнуўся з уцёку. Ну, натуральна, ні хаты, ні ў хаце. Голы як бізун. Кінуўся туды, кінуўся сюды — пуста: скрозь ужо размеркавалі. Як у тэй песні пяецца: «усё размяло магутнай навальніцай».

— Як жыць, — пытаецца, — дзе дастаць спажыву?

— А чаго цябе, — кажу, — нялёгкая насіла да гэтай пары? Ты ж бы раней прыйшоў, калі спажыва да падноскаў ліпла?

— Уцякаў, — кажа, — прабіваўся да сваіх. Я ўсё ж патрыёта сваёй радзімы.

Ці не дзівак? Калі ты такі патрыёта, то ўзяў бы гармату ды пуляў з яе, а не ўцякаў. Можа, я таксама патрыёта, ды яшчэ мацнейшы за яго, але ж на ражон не пру, бо трэба ўмець арыентавацца і за пагодай даць нырца, а як хвалі сыдуць, ды адстаіцца — ізноў выплывай.

*23 ліпеня.* Сяння жонка павесіла на куце абраз (здаецца, у музеі дастала), а былых жа правадыроў хацела спаліць, а я запярэчыў. Паўстаў невялікі канфлікт, але да бойкі не дайшло. Перамог, ведама, я. Правадыроў завалок на гару і там замаскаваў. Хай ляжаць, яны есці не просяць, а мо калі і спатрэбяцца. Вось жа, скажам, маляс — не ведаў, калі цягаў, и цяпер вунь як прыдаўся!

*24 ліпеня.* Нешта на мяне Мар'я Іванаўна лагодна пазірае. Сустрэліся сяння, так ветліва размаўляе, руку цісне: «Заходзьце, — кажа, — калі-небудзь, мне аднэй сумна». Гм… Чаму не зайсціся? На свайго лейтэнанта, відаць, надзею пакрысе губляе. А кабетка нішто сабе… Правільная… І вага нядрэнная… Наведаю, абы жонка не пранюхала.

*25 ліпеня.* Цяперашняму свету нельга верыць ні на грош. Ну, хоць бы, скажам, Віцька — свой чалавек, навет прыяцель, а як ашукаў! Прынёс сяння самагону… пяць пляшак.

— Атрымай, — кажа, — прадукцыю.

— Гэта што, — пытаюся, — усё? Ты ж абяцаў дваццаць пляшак!

— Аварыя, — кажа, — здарылася, прадукцыя падгарэла.

— Дзівіцеся! Мой самагон падгарэў, а ён ледзь на нагах трымаецца!

— Дзе ж, — крычу, — справядлівасць? Гэта ж ашуканства!

— Ніякае не ашуканства, — кажа, — а стыхійнае няшчасце… мабыць, дроў перадаў.

Вось і вер людзям пасля гэткага!

*26 ліпеня.* Рыгор шукае працы. «Нешта, — кажа, — марудна будаўніцтва йдзе». Раіўся са мной і з Сымонам, куды лепш падацца: па размеркаванню пайсці або ў жыллёвы аддзел. Я раіў у жыллёвы аддзел. «Усё ж, — кажу, — справы жыллёвыя бліжэй да будаўніцтва: там юшку выдзярэш, там цвікоў намацаеш, а там і ручку ад дзвярэй выкруціш». Але Сымон іншай думкі.

— Усё гэта, — кажа, — драбніца. Вось паслухайце, што я скажу. Як працаваў я ў трэсце, быў там адзін замусола. Агентам лічыўся. Чалавек зусім нікудышны. Ледзь ногі цягаў. Нарэшце кідае ён усё ды йдзе ў будку ваду прадаваць. І што б вы думалі? Не пацадзіў ён і паўгода гэтай вады з сіропам, як ужо трэці дом на Лагойскім тракце паставіў. Ды які! На дванаццаць тысячаў. Вось табе і сіроп! У гэтай працы — гандлёвай — магнэса такая ёсць: ты грошы хоць адпіхай ад сябе, а яны ўсё ж да цябе плывуць.

Апошні довад даканаў Рыгора. Мабыць, пойдзе па размеркаванню.

*27 ліпеня.* Сяння чыталі газету. Цікава было. Сабраліся мы гэта ўсёй вуліцай, прыдыбаў і прафесар, Наязноў Васіль Мікалаевіч. Ну, цешымся мы: паслухаем, што на свеце дзеецца. Я вазьмі ды падсунь газеціну прафесару:

— Прачытайце, — прашу, — калі ласка, Вы, паважаны прафесару. Вы ўсё ж больш пісьменны за ўсіх нас.

Усадзіў гэта ён на нос акуляры, нацэліўся на газеціну і толькі прачытаў «Менская газета», як аж пазелянеў:

— Вы што гэта мне, найшаноўныя, падсунулі? — і аж закалаціўся. — Выбачайце, я па-такоўскаму не чытаю і чытаць не жадаю. Абраза! — Тут жа ўзняўся і пашкандыбаў ад нас. Вось было смеху! Давялося газеціну слібізаваць Сымону. Той, хоць і не прафесар, але па складох чытае.

Прагледзелі мы ваенныя звесткі. Ну, там усё як след: адны ўцякаюць, другія сцігаюць. Прачыталі навет усе аб'явы. Асабліва зацікавіла ўсіх аб'ява пра новыя грошы. Зразумела, кажнаму хочацца ведаць, якія грошы прытрымліваць, а якія хутчэй спушчаць. Што да аб'явы аб крымінальных, каб іх выдаваць, то мы тут збянтэжыліся: каго ж выдаваць? Бо як ты цяперашнім светам адрозніш, хто крымінальны,

а хто не? Сымон казаў, каб пачаў валіць усіх-усіх адразу, то памыліўся б мала. Ну, ведама, із Сымонам ніхто не згодны, бо хто ж сам сабе вораг?

Прачытаўшы газету, доўга яшчэ смяяліся з прафесара, асабліва рагатаў Сымон:

— Вось узяло яго за самае нутро. Але гэта яшчэ глупства. У 18-м годзе са мной здарылася не гэткая рэч. Тады была «Вольная Беларусь». Ну, я і прадаваў яе. А быў у нас на пошце чыноўнік, такі ўжо люты да газеты — штодня браў. Вось я з разгону і падсунуў яму гэту газету. «Самая свежая, — крычу, — самая праўдзівая!» Грошы ўзяў дый далей. Дык што б вы думалі? Тры месяцы за мной ганяўся гэты чыноўнік. Як толькі згледзіць, дык за мной із палкаю. «Я табе пакажу, — крычыць, — як людзей ашукваць, хамства падсоўваць». Я яго за вярсту абягаў. Але што вы скажаце? У 35-м годзе гэтага чыноўніка ГПУ бярэ ў канверт і высылае на дзесяць гадоў як беларускага нацдэма. І як ён ні бараніўся, як ён, бядак, ні даводзіў, што ён ёсць ісцінны чарасеец, — не паверылі. Можа, і памылкова яго выслалі, але ўсё ж чалавек сваё знайшоў. Так вось будзе і тут. Свайго лёсу, браток, не міне ніхто.

Сымон, вядома, перасольвае, але зрэшты, хто яго ведае, што будзе… Хто, прыкладам, спадзяваўся, што на шостым дні вайны немцы ў Менску будуць, аджа здарылася. Трэба, на ўсякі выпадак, навязаць сувязь з беларусамі.

*29 ліпеня.* Віцьку даў адстаўку. Знайшоў новага самагоннага фабрыканта. Добрага майстра відаць адразу.

— Ты, — кажа, — ля апарату ў мяне можаш не стаяць. Сваю порцыю ты атрымаеш, апрача тае, што я вып'ю. Трымай дзве пляшкі авансу!

І даў. Вось гэта майстра, а не пэцкаль які. А я тымчасам і пахмяліўся.

*30 ліпеня.* У Апанаса Дзюркі ўкралі свінчо. Дзюрка страшэнна абурыўся і спачатку кінуўся да службы парадку, але там адмовілі: «Каб ты, — кажуць, — прывёў злодзея да нас, то мы б яго тут адразу пад пазногаць і адпаліравалі б як след, а так, сам бачыш, горад вялікі, злодзеяў многа, каго хапаць?»

Апанасу не так абыходзіць свінчо, як хоча ведаць, хто мог зрабіць такое свінства.

— Каб толькі даведацца, — кажа, — хто гэта зрабіў, то я сам бы ўжо паказаў і службу, і парадак. Век памятаў бы.

Рыгор раіць звярнуцца да варажбіткі.

— Ёсць такая, — кажа, — на пагарэлай вуліцы, хераматкай завецца. Як паглядзіць табе на руку — усё як на далані вылажа. Як быццам сама бачыла. Я, калі мяне з трэсту звольнілі, таксама падаваўся да яе. «Скажы, — пытаюся, — хто на маёй дарозе стаіць, хто мой злоснік?» Паглядзела яна на руку, ды і кажа:

— Вось бачыш, тут твая службовая лінія, завілістая такая. А вось тут упоперак яе стаіць руды мужчына, без барады. Гэта і ёсць твой злосны вораг.

I што ж вы думаеце? Як пальцам уцэліла ў ворага: быў такі ў трэсце — руды і без барады, ды з якім я два разы лаяўся.

Апанас пайшоў да варажбіткі.

*31 ліпеня*. Адна бяда не ходзіць. Сяння правяраў муку, тую, што закапаў у яму. Тры мяхі струхнелі, [redacted] два зусім ушчэнт падмачыла. Сымон суцяшае, што нічагуткі — самагонны фабрыкант дасць ёй рады. Але ж страты! Тады на малясе Віцька нагрэў. Цяпер — мука! Калі так далей пойдзе, то неўзабаве і ў комін вылеціш.

*1 жніўня*. Быў у Мар'і Іванаўны. Зноў скардзілася на сваю самотнасць. Успамінала лейтэнанта і частавала гарбатай, але без цукру.

— Вярнулася я, — кажа, — пазнавата, калі ўжо галоўнае размеркавалі. Ну вось і засталася так: без нічога і без нікога. — І ўздыхнула.

Ну, ведама, брэша: сёе-тое і яна пад сябе падскрэбла, але, відаць, неспажыўное.

Пагутарылі крыху, папаласкалі рот гарбатай і разышліся ні з чым. Мне штосьці не падабаецца такая адцяжка. Няйначай, трэба падысці з другога боку. Паабяцаў прынесці цукру і масла, можа, справа пойдзе слізчэй.

*2 жніўня*. Пільнасць і асцярожнасць! Вось два нашыя галоўныя прыяцелі. Падвоіць пільнасць, патроіць асцярожнасць! Бо сяння пачуў вельмі прыкрую рэч. Раскулачылі Антку Загржэмбіцкага. Ды як раскулачылі! Да ніткі! Не толькі ваенны здабытак, а і сваё, крэўнае, падгарнулі. А хто ўтапіў? Уласная жонка. Вярнулася гэта яна з уцёкаў, а ў сужэнца ўжо красуня сядзіць, і дабра поўная хата. Ну, баба, натуральна, на дыбкі, а з дурной галавы ўзяла ды бухнула куды не след: так вось і гэтак, у такога вось ды гэтакага дабра поўная хата, нарабаванага. Прыехалі, ведама, пацікавіцца, дый вывезлі аж дзве машыны. Ды якога дабра! Сэрца млела, як людзі глядзелі. А цяпер абое Загржэмбіцкія сядзяць ды плачуць. А красуня, ведама, уцякла.

Рыгор кажа, што гэтаму Загржэмбіцкаму так і трэба: надта ж многа нагроб лішняга. А я так мяркую, што чалавеку ніколі залішне не бывае. А што нагроб — дык навошта ж тады і рукі чалавеку? Хіба толькі для таго, каб вітацца? Не, я на справу гляджу інакш: гарні пад сябе кажны, бо толькі курыца ад сябе горне, дык на тое ж яна курыца, а не арол.

Але тымчасам натую: пільнасць і асцярожнасць, бо і ў мяне жонка ёсць і красуня прадугледжана.

*3 жніўня*. Сустрэў Байцова. Гляджу і не пазнаю: не то ён, не то новы еўрапеец. І гарнітур, і паліто, і чаравікі — усё ад Люкса.

— Што гэта, — пытаюся, — з табою здарылася? Ці не ў Гамбург ты часам зазірнуў?

— Навошта мне, — кажа, — туды ехаць, калі тут свой Гамбург: што хачу, тое і маю.

— Чараўнік ты, — пытаюся, — ці што?

— Не, я не чараўнік, а праца ў мяне, браток, такая, быццам чароўная: і абутак, і адзетак, і напітак, і наедак — усё як на далоні.

Во як людзі ўмайстроўваюцца. А яшчэ нядаўна шукаў якой-колечы спажывы. А тут раптам усё. Трэба гэта на ўсякі выпадак занатаваць, бо такі чалавек заўжды прыдасца. Абяцаў дастаць новую швейную машыну. Праўда, у жонкі яшчэ машына спраўная, але ўжо трохі размалолася.

*4 жніўня*. Палітыка мяне не надта цікавіць, але ўсё ж такі нейкую лінію трэба мець. Сяння адзін тып мяне проста да сцяны прыпёр. Давай яму сваё крэда. Трэмся гэта мы на біржы, рэгіструемся (я за разумовага рэгістраваўся), гляджу — ажна тут і Паліханаў у хвасце матаецца (ён калісь за інжынера працаваў). Ну, прывіталіся, сёе-тое, а пасля ён мне і шэпча:

— Чуў? Нашыя б'юць, а іхныя бягуць.

Дайце рады! Хто гэта нашыя, а хто іхныя? Таму я ў вадказ мармытнуў нешта невыразнае. Але Паліханаў прыстаў як ліст.

— Ды ты, — пытаецца, — куды арыентуешся, на ўсход ці на захад?

А куды мне арыентавацца? Ведама, мяне больш цягнула б на ўсход, але, ізноў жа, цяпер і там не мяды, а ў выпадку чаго, дык зусім проста, што і спытаюцца: а ну, Іван Іванавіч, раскажэце нам, будзьце ласкавы, як гэта вы чужой зямлі не бралі, ды і пядзю свае зямлі не аддавалі? А што на гэта скажаш пры маёй сітуацыі, калі я ад фронту такога драпака даваў, што не пядзі, а цэлыя кіламетры з-пад абцасаў сыпаліся.

— Ды я пакуль больш на кілішак арыентуюся, — адказваю я Паліханаву, — а пра іншае яшчэ не думаў.

— Ну, то заходзь да мяне, у мяне рознай ёсць: і шнапс, і маскоўская. Заходзь, вып’ем, паталкуем.

Гм… зайсці, ведома, можна. Чаму ж не паталкаваць? Але што, калі ён зноў насядзе на арыентацыю? А Паліханаў, трэба сказаць, чалавек ненадзейны: ён здольны на ўсе бакі арыентавацца.

Увечары пытаўся пра гэта ў Сымона: «Ты, — кажу, — у палітыцы куды арыентуешся: на ўсход ці на захад?».

— Я, — кажа, — ні туды, ні сюды, я — тутэйшы. Дый навошта мне кіравацца? Хай на мяне кіруюцца, каму трэба, а я ў сваёй хаце і на сваёй зямлі. Дзякаваць Богу, ніколі нікуды не ездзіў, і мне нікога не трэба.

— Але ўсё ж, — кажу, — нейкую палітычную лінію ты мусіш мець, бо цяпер кажны якую-небудзь лінію гне.

— А я, — кажа Сымон, — ніякай лініі не гбаю. Ведаю я гэтыя лініі. Пачні гбаць, то будзе якраз тое, што з серабранскім Хвэськам было. Той гэтую лінію ад сямнаццатага году пачаў гбаць. Ну, гбаў яе, гбаў, аж да трыццатага году, ■ тут яго ГПУ як хапанула, ды і самога ў дугу сагбала. Кажуць, дзесь на Сібіру зусім загнуўся. Вось табе і лінія. А мне, браток, абы ціха. Жонка е, хата е, дзеці будуць. Вось і ўвесь мой кірунак.

Бясспрэчна, Сымон чалавек зусім апалітычны. Мне як культурнаму так разважаць не выпадае… Але зноў жа і з палітыкаю адны турботы. Вось тут і круціся, пакуль трапіш на сваю лінію. Паспрабую тымчасам арыентавацца на абодва бакі, але так, каб было ледзь значна.

*5 жніўня*. Ізноў чытаю газету. Сымону асабліва спадабалася паведамленне пад назовам «Бамбавозы Герынга над горадам Сталіна».

— Аддаў бы, — кажа, — і каня, і панарад, абы толькі паглядзець, як нашыя былыя правадыры ды з Крамля драпануць. То было б пацехі. Не дзіва, калі і нагавіцы памяняюць. Ведаю я гэтыя бамбавозы з практыкі.

Яська Разак выказаў думку, што нядрэнна было б цяпер апынуцца ў Маскве:

— Во дзе дабра падгарнуў бы, — кажа, — тым балей, што ўжо і практыка.

Думка Разакова, відаць, шмат каму прыйшлася да густу, бо ўсе неяк разам прыціхлі ў чароўных мроях, некаторыя ўздыхнулі, а Рыгор, дык той нават аблізнуўся.

Аб'явы ў газеце выклікалі смеху. Пішуць, каб паадносілі прадпрыёмствам рэчы, якія парасцягнулі падчас вайны. Ну, хіба ж вернуць? Ды ніколі! Сымон, дык той адразу сказаў:

— Дарэмныя турботы. Не аднясуць. Дзе вы бачылі, каб чалавек чужое звярнуў? Будзе якраз тое, што ў нас у камбінаце было. Зрабілі гэта ў нас нейкую касу, казалі, што ўзаемадапамогі. Ну, як звычайна было. Спачатку гэта пакрычэлі на сходзе, паагітавалі, а нарэшце і кажуць: «А цяпер, грамадзяне, давайце дабраахвотныя ўзносы ў абавязковым парадку».

Што будзеш рабіць? Мы, ведама, склалі гэтую складчыну, па рублі, па другім, адзін месяц, другі. А калі ўжо ў скарбонцы грошы троха наскрэблася, мы і шуганулі па дапамогу: хто на дзіцё просіць, хто на хворую жонку, што здаровая, як свежы сыр, а хто на цешчу вымагае, якую хаваць трэба, а яна тымчасам паміраць не хоча. Зразумела, кажны браў матыву самую далікатную і важкую. Толькі гэта мы да касы, ажна — тпру, грошай няма. Дзе, пытаемся, нашыя рублі? А той член, што скарбонку гэтую трымаў (не то прафсаюзны, не то парцейны, цяпер не памятаю), такі быў хвацкі — з пяску мог вяроўку звіць ды ёю ж цябе і задушыць. Дык вось ён і кажа:

— Грошы няма і не будзе. Я іх усіх рашыў дашчэнту.

І што ж вы думаеце? Колькі яго ні прасілі, колькі ні саромелі, навет пагражалі, нічога.

— Што ў мяне, — крычыць, — варштат, каб грошы рабіць? Няма, дый годзе. Адкасніцеся!

Так і адкаснуліся. І скончылася нашая ўзаемадапамога — сабедапамогай. Так вось будзе і тут. Бо хто, прыкладам, аднясе малочнаму заводу, скажам, бідон, калі чалавек ужо ў бідон алею нацадзіў ці шпэку націскаў? Ніхто не панясе. Я народ ведаю.

Із Сымонам нельга не згадзіцца.

*6 жніўня*. Бачыў нейкі дзіўны сон. Нібы я ў Маскве. Толькі, здаецца, скончыўся налёт, а я чамусьці ў ювелірнай краме стаю. І вось, быццам кладу я гэта ўва ўсе кішэні гадзіннікі, пярсцёнкі, ды ўсё залатыя, з дыяментамі. Золата і яшчэ золата. Толькі гэта я набраў поўныя кішэні і наважыў выйсці, як пачуў нейкі гул, нібы гром. Я ў дзверы, а перад самай крамай велічэзны натоўп. Сцягі навокал, музыка, тысячы людзей. Я ўжо быў нацэліўся пад прылавак сігануць, ажна чую, мяне нехта бярэць пад рукі і выводзіць з крамы. Напалохаўся я страшэнна, ажна нядобрае зрабілася (пра гэта я пазней даведаўся, як прачнуўся). І вось з натоўпу выходзяць трое, набліжаюцца да мяне, схіляюцца нізка-нізка дый кажуць:

— Ты, Іван Іванавіч — цар Чужанінаў. Садзіся, цару, у Крамлі, кіруй намі, кіруй заместа Сталіна! Просім цябе. Просім! Ура! Аркестра! Музыкі, грай камарынскую!

Толькі гэта я расчыніў рот, каб згадзіцца, ажна раптам нешта як грымне! Я прачнуўся (відаць, жонка няўдала павярнулася). Расказаў пра гэты сон Рыгору і Сымону. Рыгор кажа, гэты сон — глупства.

— Каб ты, — кажа, — не золата бачыў, а наадварот, то гэта было б к прыбытку, а так — дрэнь.

Сымон, наадварот, даводзіць, што сон нешта значыць:

— Што, — кажа, — азначае — добрае ці дрэннае — не ведаю, але нешта азначае.

Ці не схадзіць толькі да варажбіткі? Надта ўжо дзіўны сон. Раіўся пра гэта з тым прафесарам, што падлічваў, колькі вайна каштуе. Але гэты дзівак сказаў, што хоць навука развязала ўжо ўсе пытанні, але што такое сон, яшчэ не ведае, а таму ён і не можа параіць, ісці да варажбіткі ці не. Давядзецца, мабыць, схадзіць.

*7 жніўня.* Рыгор нечакана зрабіў выбрык. Не пайшоў ні па размеркаванні, ні па жыллёвых справах, а падаўся на нейкі склад. Там ён нешта прымае і штосьці выдае. Праца, відаць, плённая, бо дом пачаў расці, як грыб пасля дажджу. Хутка будзем спраўляць улазіны. Сымон з гэтага поваду жартуе, што тэмпы ў Рыгоравым прыватным будаўніцтве лепшыя за бальшавіцкія стаханаўскія.

— Відаць, — кажа ён, — што Рыгор на гэтым складзе больш прымае, чымся выдае, бо, відавочна, намнажаюцца нейкія рэшткі, што не месцяцца на складзе.

Рыгору гэтыя жарты не падабаюцца, а жонка Рыгорава, дык тая проста казала, што Сымон зайздросціць. Так, відаць, Рыгору можна пазайздросціць, калі чалавек не будзе дурным ды не прасыпецца.

*8 жніўня.* Варажбітка наваражыла Апанасу, што свінню ўкраў свой блізкі. Дзюрка цяпер ходзіць па ўсіх суседзях ды ўсё прынюхваецца, ці не пахне адкуль свежанінай. Дзівак! Ведама, што ўкраў свой, але хіба ж ён дурны, каб табе свежанінным пахам у нос пушчаць? Ён, браток, на Пярэспе зварыць, а на Камароўцы з'есць. Зладзі тады пах, калі ты такі майстра. Але, што казаць? Дзюрка і ёсць дзюрка.

*9 жніўня.* Мар'і Іванаўне занёс паўкілі цукру і пляшку алею. Трохі паморшчылася, але ўзяла. Расказала пра тры вядомыя ёй выпадкі, што мужы пакінулі сваіх жонак і перабраліся з усім сваім скарбам да другіх.

Ці не пад мяне яна пад'язджае? Калі так, то гэта, даражэнькая, дарэмныя турботы. Мая Ніна Паўлаўна да гэткае катастрофы не дапусціць, каб аддаць сваё дабро пераваланчы ў чужую хату, яна дабра з-пад сябе не выпусціць, хоць з гарматы страляй. Ды і мне такая камбінацыя не да густу. Я мяркую на два франты дзеяць, па ўсіх лініях…

*10 жніўня.* Байцоў прынёс швейную машынку. Частаваліся. Ён хоць і хваліўся, што ўсякія мадэры мае, а тымчасам малясоўку смактаў не горш за Яську. Выцадзілі два літры. Ён ужо ледзь пальцамі варушыў, а ўсё яшчэківаў на пляшку:

— Нацадзі яшчэ… па малой…

Добра, што жонка скеміла вады ў пляшку наліць, інакш, не ведаю, чым бы гэта частаванне скончылася.

*11 жніўня.* Здарылася канфузлівая рэч. Учора пайшоў праводзіць Байцова (у яго ўжо ногі не цыркулявалі) ды па дарозе назад трапіў нейкім парадкам не да хаты, а да Мар'і Іванаўны. Прачнуўся сёння не ў сваёй хаце ды лыпаю вачыма як дурны: дзе ж гэта я? Чую, за пераборкай голас Мар'і Іванаўны — із прыяцелькай сакочуць. Відаць, знарок паклікала — на сведку. Ну і бабы! Да чаго ж шкоднае стварэнне! Хацеў гэта я, затоіўшыся, ляжаць хоць да вечара, можа, пашэнціць, думаю, цішком выслізнуць праз вакно, аж не — не дала, сцерва.

— Іван Іванавіч, — крычыць, — чай гарачы. Хуценька піць!

Каб ты смалы гарачай напілася. Прыяцелька сёння ж усім раззвоніць, а там і да жонкі дойдзе. Галоўнае, нічога не памятаю: было што ці не. Каб было, то яшчэ не такая крыўда. А калі на халастую праспаў? Сорам! Канфузія!

Але нічога не зробіш, мусіў выйсці. Як прывітаўся, як піў чай, — лепш не ўспамінаць. Да хаты йшоў, як мыла з'еўшы. Жонцы сказаў, што начаваў у Байцова, бо ўжо позна было.

Трэба Байцова папярэдзіць. А ўсё ж гарэлка — паганая рэч. Мабыць, трэба кінуць.

*12 жніўня.* У прафесара Вадзянецкага пазнаёміўся з беларусамі. Хлопцы як хлопцы — нічога страшнага. І гарэлку куляюць нядрэнна. Але адзін з іх, з нейкім дзіўным прозвішчам, Янка Шчыры, надта ўжо заўзяты. Як выпілі па чарцы, то і пачаў крычэць:

— Мы зробім, мы возьмем! Мы ад Пскова да Чарнігава, мы ад Беластоку да Мажайску.

Крычыць і рукамі махае. Як дайшла справа да Мажайску, я не сцярпеў:

— Дазвольце, найшаноўны, спытаць, а хто гэта вам дасць так шырака размахнуцца?

— Як, хто? Самі! Уласнымі рукамі!

— А калі дадуць па руках?

— Хто пасмее? За наша крэўнае!

— Ага, так. Ну, то… (*у гэтым месцы дзённіка, паводле нейкіх меркаванняў, Чужанінаў выкрасліў пяць радкоў — Л. К.*).

Умяшаўся ў гутарку і другі хлапец — Арыентацкі.

— Бачыце, — кажа ён, — вы абодва памыляецеся. Але ж, даруйце, я маю рацыю. Бо калі ўзяць межы ў гістарычным акрэсленні, то ёсць шмат спрэчнага, і тыя вучоныя, з працы якіх я карыстаю, таксама не пагаджаліся ў пытанні станаўлення сілы як адзінага вырашэння межавых спрэчак.

— Даруйце, шаноўны, і вы, — кажу я, — сіла ўсё робіць. А сіла там, дзе бальшыня, знацца, і бальшыня там, дзе сіла. Вось гэта і будзе справядліва і па закону.

Тут Янка Шчыры ажно падскочыў.

— Вы, — крычыць, — вялікадзяржаўнік, вы маскоўскі імперыялісты, вы драпежнік! Усіх скруцім у казіны рог!

Яго падтрымаў трэйці хлапец, які дасюль маўчаў, Авечка Ахрэм.

— Так, — кажа, — мы гэта зробім, абы толькі дазволілі. А як будзе дазвол, то ўжо і пачнем скручваць. Абавязкова. І межы таксама, калі дадуць, то возьмем, а не дадуць, то не. А скручваць будзем.

Я ўжо і не рады быў, што сашчапіўся з імі. Чаго добрага і мяне пачнуць скручваць. Добра, што пакуль прышпілілі толькі маскоўскі імперыялізм, а маглі б і чырвоны прышпіліць. А тады ўжо, Іване, давай нырца на самае дно і не вытыркайся.

Гэтых трэба высцерагацца. Калі дачуўся пра гэтую спрэчку Сымон, то казаў, што гэта справа самая звычайная:

— У спрэчках за межы так бывае заўсёды. Калі яшчэ на вёсцы жыў і ў нас аднаго разу гаспадары захацелі зямлю перадзяліць, то за гэтыя межы колькі калоў паламалі, колькі насоў паўгіналі ды сківіц папсулі. Процьму! А Міколу Кульгаваму, дык таму шчэ і рабрыну зламалі. Урэшце ўсяго, лепшыя шнуры прысвоілі дужэйшыя. Гэта праўда, што межы дзяліць — трэба сілу мець і хахла не шкадаваць.

Мяне іхныя межы не надта цікавяць. Але як утрымаешся, калі чалавек гэтак шырака хоча размахнуцца.

*13 жніўня*. Пілі. Быў выпадак.

*14 жніўня*. Зноў пілі. Без выпадку.

*15 жніўня*. Бачыў, як сяння Рыгор валок з працы мяшок нейкага дабра, ажна ўгінаўся. Сымон, які таксама гэта згледзеў, казаў, што гэта добра.

— Калі чалавек сваёй парай арудуе, то гэта шчэ дармо: добры склад і за дзесяць год на сабе не перавалачэш. А Рыгор і за год не адзін раз на рагатку наткнецца, знацца, яшчэ і другім дабра застанецца. На сабе няхай цягае. Не дай Бог, калі чалавек пачне ўжо з транспарту карыстаць, ну, тады ўжо пішы — прапаў. Будзе якраз тое, што з Міхасём Уловічам было. Пакуль той цягаў на сабе, усё добра было, а як ужыў механізацыю — прапаў. Не паспеў ён і двух рэйсаў, як казаў, скамбінаваць, ажна і накрылі яго з шапкаю. Праўда, той не любіў анучы ў вадзе сушыць — хутка выскрабаўся, але ўжо голы як бізун. Механізацыя — рэч ненадзейная!

А ўсё ж Рыгорава праца зайздросная. Ці не падацца мне па такой лініі? Раіўся з Рыгорам.

— Табе, — кажа Рыгор, — як спецыялісту просты ход на Управу.

— Але ж там, — кажу, — мова, а я не ведаю па-іхнаму.

— Якая мова? Дзівак! Калі ведаеш «выбачайце» і «будзьце ласкавы», то і ўсё ў парадку. Там такіх, як ты, хоць грэблю насцілай.

Трэба гэтую справу памацаць, бо надта ж ужо зайздросна на Рыгора глядзець.

*16 жніўня*. Быў у прафесара Ванава. Нічога. Трымае сябе як след. Пра старое — ані гуку. Раіўся з ім наконт працы.

— Што ж, — кажа, — гэта можна. Сваіх людзей заўжды падтрымаюць.

А жыве ён, відаць, нядрэнна, і харчоў мае. Як частаваў, то і масла паставіў, і цукру, і каўбасы, навет і віна бутэльку адшкадаваў. Нічога! Нашыя не прападуць! Дармо, што той крычыць: хай дадуць! хай дазволяць! Пакуль ты будзеш «хай» ды «хай», а мы тымчасам і апануем... Жыць трэба ўмеючы.

*17 жніўня*. Проста дзіва, які чалавек жывучы. Сяння з Яськам Разаком сустрэў тую старую порхаўку, што нам назаляла, як склад парадкавалі, ды сароміла нас. Я ўжо думаў, што ён даўно душой загавеўся, ажна не — шкандыбае па вуліцы, праўда, абшарпаны, але жыве.

— Ну, як у вас, — пытаюся, — жывот із сумленнем не надта спрачаецца? Да бойкі яшчэ не дайшло?

— А ў чым рэч? — пытаецца.

— Ды як жа, Вы ж крычэлі, што рабаваць несумленна. А цяпер што скажаце?

— І цяпер тое скажу: дрэнна рабілі, несумленна.

Сказаў і зноў пашкандыбаў. Во дзе ўпартая порхаўка! Ну, хоць бы пашкадаваў, што не выкарыстаў моманту. А можа і шкадуе, ды сорам прызнацца. Напэўна так, бо не можа быць, каб гэткіх дзівакоў зямля на сабе трымала.

Калі мы ўвечары расказалі пра гэта Сымону, дык ён ані не здзівіўся.

— Чорт яго, браткі, ведае, можа, і не шкадуе. У жыцці здараецца, што на чалавека хвароба такая находзіць — малахолія завецца. Быў у мяне адзін знаёмы, які жыць не мог, каб не цягнуць. А калі які дзень не сцягне, то хварэе. А цягаў усё, што пападзе. Ды такі ўжо быў люты — роднага бацьку мог з кашаю з'есці. І вось раптам яму заняло: не цягне ды ўсё. Хоць ты яму ў кішэню кладзі — не бярэ. Зарвала зусім. Знацца, найшла на яго гэтая малахолія. І тут ніякія лекі не памогуць, і чалавек прапаў.

Бадай так яно і будзе. Выходзіць, што ў кажнага чалавека ёсць пункт, што із сваёй дарогі яго збівае. І ўсё ж чалавек жыве. Дзіўна.

*18 жніўня.* Сымон прывёз аднекуль бочку газы. Кажа, што на нейчым пагарэлым двары качалася, там ён і сустрэўся з ёю — лоб у лоб.

— Але як гэта здарылася, — дзівіліся мы, — скрозь усё згарэла, а бочка з газай — не.

— Нічога дзіўнага, — адказаў Сымон, — не згарэла, бо шпунтам заткнёная была.

— Але ўсё ж, — кажам, — газа? Калі камень і той гарыць.

— А чэрці яго, зрэшты, ведаюць, я не хэмік, каб усё ведаць.

Брэша! Хэмік з яго адмысловы, бо мы так і не дазналіся, скуль прывалок газу. Цяпер мяняе газу на самагон і маляс. Разак даваў за літру газы паўлітры самагону — не бярэ.

— Ну то каб ты лепшага ніколі і не піў, як тая газа, — раззлаваўся Разак, — дарма не вазьму ў такога здзірцы.

— А я такому злыдню і за тышчы літры не аддам. Жлукці сваю самагонную поліўку ўпацёмках — больш разліеш.

*19 жніўня.* Прафесар Фэцкі нарэшце дакладна вызначыў, колькі вайна каштуе: выходзяць штодня два мільярды сто восем рублёў пяцьдзясят сем і пяць дзясятых капейкі.

— Калі б, — кажа, — адзін дзень не паваявалі, то ўсе людзі, што з усіх бакоў абляпілі гэтую гліняную галушку, якую завуць зямлёй,

маглі б увесь дзень ляжаць барадою да сонца і нічога не рабіць, а харчоў было б кажнаму на залатога рубля, ды яшчэ эканоміі засталося б на сто восем рублёў і пяцьдзесят сем з паловаю капеек. А як вайна ўжо йдзе пяцьдзесят дзён, то вось і лічыце, даражэнькія, колькі чалавецтва на гэтым страціла.

Калі даведаўся пра гэта Апанас Дзюрка, дык аж абурыўся:

— Брэша! Можа, чалавецтва і страціла, а я то не. Бо калі вайны не было, то я рабіў, а харчоў і на залатоўку не меў, [redacted] цяпер пальцам не варушу, [redacted] ўжо, дзякаваць Богу, трэйці месяц ем пшэнныя бліны з макам. Не! Штосьці ягоная навука нейкая кульгавая.

Тае ж думкі трымаецца і наш вінакур, Яська Разак.

— Твой прафесар, — кажа, — зусім дзівак. Шкада, ты мяне не спусціў з гэтым тваім вучоным, я паказаў бы яму матэматыку. Вайна — страта для чалавека! Чулі? А ці ведае ён, кіслая брага, што вайна шмат каго на ногі паставіла? Другога раней і чалавекам саромеліся назваць, ды ён зусім і не чалавек быў, а так — мроя нейкая. А вайною так акрыяў, што яму і фігаю носа не дастанеш. А ён кажа — страты. «Барадою да сонца ляжаць»… Узяў бы цябе за рыжую бараду ды патрос як след за такія словы. Каб мая воля, то я ўсе такія навукі пакасаваў бы ўшчэнт — хай не брэшуць і не ачмучваюць людзей.

Але Сымон, дык той не згодзен з імі:

— Хоць я заўжды кажу, што ўсе прафесары дзівакі, але здараецца, што і яны маюць рацыю. Быў у нас пры Акадэміі адзін такі дзівак. Ён таксама ўсё лічыў. Ліча і ліча. Бывае, і на снеданне забудзецца. І вось аднаго разу ён вылічыў, што каб усіх людзей з усяе зямлі прывалок у вадно месца ды паклаў адзін на аднаго, то выйшла б куча ўсяго толькі кіламетр ушыркі, кіламетр удоўжкі, кіламетр увышкі. Вось я тады падумаў: каб з гэтай кучы адтрэсці хоць дзясятую часціну зладзеяў ды навесці на іх гармату, то глядзь, што аднэй бомбай усіх і прышчаміў бы на месцы. Бачыце, як проста па навуцы выходзіць. А служба парадку іх і за дзесяць год не пераловіць. Не! Супраць навукі не кажэце — часам і яна трапляе ў самы пункт.

*20 жніўня*. Быў на рынку. Адна назва, што рынак, а гандлю ніякага. Бачыў, як адзін дурань збываў калгасніку мадэльныя туфлі за баханку хлеба. Яшчэ і ўгаворвае:

— Купі, дзядзька, жонцы: гной трэсці — першы сорт.

А хіба ў такіх туфлях гной трэсці? У іх факстроты выдрэнчваць і то шкада. Дзядзька паўзіраўся на іх, пастукаў пальцам пад падэшвай дый памяняў.

— Навошта гной, — кажа, — мая дачка ў іх лявоніху паскача. Цяпер, — кажа, — можам і мы сабе такое ласунства дазволіць.

Нацягаў, мабыць, калгаснае мукі, як і той мадэльнік туфляў, вось і дазваляюць сабе. Я больш не мог глядзець на такую несправядлівасць ды ўцёк з рынку.

*21 жніўня.* Хадзіў да Управы. Нічога страшнага. Дарэмна палохаўся. Скрозь усе свае, і язык наш, чысты адэскі. Праўда, сям-там і іхны слізгане, навет і мову пачуеш, але так нячаста, што можна і не лічыць. Малайцы нашыя — мух не ловяць.

Мацаў адносна якога-небудзь пасаду. Можна. Але я ўсё яшчэ палохаюся. А калі часам вернуцца? Лепш крыху ўстрымацца. Каля аднаго пакою наткнуўся на Арыентацкага. Жартуе:

— Што, вялікадзяржаўнік, і вы да нас?

— Выбачайце, — кажу, — калі ласка, кажу, я ніколі…

— А, то добра, добра… Пачынаеце і вы крыху беларусізавацца. Добра, добра…

Дзівак! Я табе шчэ не так збеларусізую. Дай толькі ўмацуемся.

*22 жніўня.* Вярнуўся Буркун. На чалавека страшна глядзець — скура ды косці. Быў да гэтай пары ў бальшавікох ды нейкім парадкам слізгануў із фронту.

— Чаго ж цябе, — кажу, — нялёгкая паперла аж на фронт? Хіба не мог раней драпануць?

— Не кажы. Добра, што жывы вярнуўся. А больш мяне на фронт і гвалтам не зацягнеш. Ды хто ж мог спадзявацца…

Нічога! Гэты выхадзіцца. Нездарма ў кандыдатах лічыўся.

*24 жніўня.* Усе ўзяліся паліць кнігі. Разак спаліў блізу ўсё, што меў, толькі падручнікі не паспеў, бо сын недзе схаваў. Сымон паліць усю палітыку.

— Я, — кажа, — гэтую палітыку скрозь бы пусціў з дымам, на ўсёй зямлі: ад яе людзям адзін ачмут, і больш нічога.

Рыгор таксама кажны дзень пэўную порцыю ў печ кладзе. А з суседняй вуліцы нейкі бухгальтар, дык той так асатанеў, што абы згледзеў якую паперыну, то адразу ў печ.

— Не магу, — кажа, — глядзець на кнігу, ад яе ў мяне хвор нейкая пачынаецца…

Не паляць кніг толькі Апанас Дзюрка і прафесар Наязноў. Першы таму, што ў яго праз усё жыццё ніякае кнігі ў хаце не было, а Наязноў кажа, што ён пакуль устрымліваецца.

А я зрабіў хітрэй. Сёе-тое, ведама, спаліў, а Леніна і Сталіна ды гісторыю ВКП, на ўсякі выпадак, закапаў. Хай ляжаць — у зямлі яны есці не просяць. Згніюць — страта невялікая, а калі часам спатрэбяцца? Вось я тут іх і выкладу: «Бачыце, які я свой, ды яшчэ і падкаваны». Вось тое ж! А дурні заўсёды па-дурному.

*25 жніўня.* Сяння мірылі Апанаса Дзюрку з ягоным шваграм. Пасварыліся, як цвякі дзялілі. Цвякі яны цягалі супольна, а сяння раскладалі на душы. А швагра ягоны вельмі ўжо спрытны чалавек: калі захоча, дык можа сам сабе ў вочы плюнуць. Вось ён і аб'ехаў Дзюрку на цэлую скрыню. Неяк вельмі спрытна перасморгнуў, як раскладалі цвякі на кучы. Апанас, хоць і варона, а гэты фокус згледзеў.

— Ты што, — крычыць, — фальшуеш? Хіба сумленныя людзі так робяць?

Пачалося пералічэнне, сварка, а пасля і за чубы ўзяліся. Мы ледзь іх развялі і самі расклалі цвякі на роўныя кучкі. Хай у згодзе спажываюць.

*26 жніўня.* Жонка штосьці надзьмулася і пазірае падазрона. Ці не ўвялі ёй у вушы пра Мар'ю Іванаўну. Шкада, калі так, бо адносіны з Мар'яй Іванаўнай увайшлі ўжо ў пажаданую плынь, і аскоміны яшчэ не набіў. Трэба зноў падвоіць асцярожнасць. Ох, цяжка спраўляцца на два франты.

*27 жніўня.* Сяння меў нечаканую цікавую сустрэчу. Бачыў свайго старога знаёмага — Выпівоніч-Ецкага. Ведаў яго шчэ за царом. Быў ён тады абшарнікам, меў ладны маёнтак, ну і жыў нядрэнна: скварку і чарку меў штодня. У сямнаццатым годзе ён чагось не пагадзіў з бальшавікамі, а біцца з імі не меў ахвоты і з гэтае аказіі паціснуў на захад. А цяпер вярнуўся. Гляджу і дзіўлюся: чалавек амаль не змяніўся, толькі пагрубеў трохі, и такі ж здаровы, чырвоны, як рыжык.

— Відаць, — кажу яму, — на эміграцыі Вам нядрэнна паводзілася?

— А так, так, — кажа, — хоць маёнтку там і не меў, але пасад нядрэнны давалі. Ды я нідзе не прападу — натура ў мяне такая.. зацэпістая.

Відаць, што не прападзе. Цяпер ездзіў у былы маёнтак, мабыць, там таксама нейкія меркаванні мае. Але наўдачу, каб з гэтага што выйшла.

Калі ішоў дахаты, то ўсю дарогу думаў пра тое, чаму так дзіўна збудаваны белы свет. Адзін, бывае, і чалавек не дурны, а праз усё

жыццё, як белка ў калясе, матаецца за скарынку хлеба, а другі — так сабе чалавечак, звычайны, а ўсё жыццё на правох госця: пірог ды яечня. Увечары ў нашай парафіі на гэтую тэму быў дыспут. На гэтую справу кажны глядзіць па-свойму. Апанас, напрыклад, казаў, што як толькі чалавек радзіўся ў кашулі, то ўжо так і ведай, што яму праз усё жыццё будзе Вялікдзень. Разак даводзіў, што ў кажнага чалавека свой лёс — як каму пашанцуе. Рыгор націскаў на тое, што ўсё залежыць ад розуму:

— Калі чалавек мае галаву, дык не прападзе.

— А з галавою не прападаюць? — пытаемся.

— Калі і прападаюць, то, мабыць, галава ў патрэбны момант не здолела варыць, а то не прапаў бы.

Сымон моўчкі слухаў усе гэтыя разважанні, не перашкаджаў, а нарэшце і кажа:

— Глупства вы ўсё гэта гаворыце: і лёс, і розум — усё гэта дрэнь, і галава дрэнь. Галоўнае ў чалавека — жывот. Калі я шчэ ў анатомцы працаваў, то быў у нас адзін доктар, дзівак страшэнны. Іх там у нас шмат было, і кажны з іх рабіў як трэба: сяння ногі рэжа, заўтра ў мазгох калупаецца, а той дзівак дык заўсёды жываты паласаваў. Крэмзае іх ува ўсе бакі ды ўсё чагось углядаецца. А што ў жываце ўбачыш, апрача дрэні? Вось я аднойчы і пытаюся: чаму гэта Вы, Сямён Мікалаевіч, жываты ўсё шастаеце? Вы б у галаве пакалупалі. Можа, там цікавей?

— А што ў галаве калупаць? Мазгі, — кажа, — гэта дрэнь, густы кісель і больш нічога. І галава, — кажа, — патрэбна чалавеку хіба як пакрыўка для тулава, каб у жывот лішняя вада не зацякала. Бо сам бачыш, што кажны чалавек жыватом наперад ходзе, а не наадварот, а значыцца, і ўсё чалавецтва жыватом наперад рушыць…

— Я тады пасмяяўся з ягоных словаў. Але неяк пазней давялося мне тры дні не есці. Дык што вы думаеце? У галаве ніякае думкі, апрача тое, пра што кажа жывот. Вось тады і паверыў таму дзівакудоктару. Значца, калі чалавек не прападае, у яго спраўны жывот, а галава тут зусім лішняя.

Сымон сказаў гэта так пераканальна, што блізу ўсе згадзіліся.

*28 жніўня*. Але ж да чаго цяпер спрытны народ пайшоў! Толькі пазірай ды дзівіся. Стаімо гэта мы сяння на біржы, разглядаемся. А тут каля нас і Круглоў трэцца. Асоба такая імклівая і досыць разнастайная. Працаваў ён за саветамі і нейкім тэхнікам, і транспартнікам, і асветнікам, наагул, спецыяльнасцяў мае шмат, а тымчасам ніводнае.

Пакуль гэта мы паволі прыслухоўваліся, што, дзе і як, а тымчасам з біржы выходзіць дзядзька з барадою ды кажа:

— А хто, — крычыць, — ёсць крысаловы? Добрыя ўмовы. Пацукоў, знацца, лавіць. На «Заготзярно».

Ну, ведама, мышалоўная спецыяльнасць цяпер даволі рэдкая, і таму ніхто надта і не адгукнуўся на гэты заклік. Пракрычэў гэта ён некалькі разоў ды змоўк. І вось, калі ўжо здавалася, што мышы цалкам апануюць гэты «Заготзярном» з прычыны адсутнасці належнага спецыяліста, у гэты, як кажуць, крытычны момант на сцэну вырываецца Круглоў:

— Я, — крычыць, — магу мышэй лавіць! Курсы на гэта канчаў! Дыпломы маю!

І панёсся за барадою. А праз часін дзесяць вяртаецца і паперкаю з накіраваннем махае:

— Ну, — крычыць, — трымайся, мышы! Круглоў ідзе.

— А як ты, — пытаемся, — лавіцьмеш гэтых мышоў? Ты ж не спец.

— Даражэнькія, нешта злаўлю. Калі не мыша, то хоць збажыны якой. Гэта ж «Заготзярно».

І пайшоў мышэй лавіць. А я ведаю, што ён ніколі нічога, апрача мух, не лавіў. Вось гэта спрыт! Такі чалавек нідзе не загіне.

*29 жніўня.* Мар'і Іванаўне зноў занёс пшанічнае мукі і цукру. Нічога не зробіш — трэба падкормліваць. Казала, што хутка вернецца лейтэнант. «Ад пэўнага чалавека чула». Можа, гэта яна мяне палохае, а можа, і запраўды ёсць такія чуткі? Трэба папытацца ў Наязнова: ён на гэтыя рэчы знаўца.

*30 жніўня.* Рыгор спраўляў улазіны. Ну, трэба сказаць, што такога балявання я шчэ не бачыў. Было літаральна ўсё. А гарэлкі — Божачка мой! Хоць анучы палашчы. Усе мы стараліся каля яе досыць дружна. Пасля пачаліся прамовы. Рыгора віталі, хвалілі ягоны спрыт і розум, ягоную вытрываласць. Ды і як не хваліць, калі чалавека навет агонь не бярэ. Згарэў ушчэнт, а праз пару месяцаў зноў у сваёй хаце, дый абсталяванай лепш за ранейшую. Не, такі чалавек варты пашаны. Навет і Сымон у сваёй, хоць і кароткай, але гарачай прамове адзначыў гэта:

— Што ж, — казаў Сымон, — што Рыгор выгляду не мае? Што, пытаюся ў вас, з таго, калі наш паважаны сусед з выгляду як бы і дурань які? Выгляд гэта, — кажа, — дрэнь, глупства. Другі бывае і выглядам паважны і гэтым за разумнага сябе ўдае, а загадай паміж

трох свіней зацірку падзяліць — не патрапіць! А Рыгор падзеліць! Ды так падзеліць, што яшчэ і сабе застанецца. Вось у чым сэнс! Вось у чым, кажу, уся навука. Хай жыве Рыгор!

Мы дружна выпілі за Рыгора, таксама і за ягоную жонку, але ў канцы ўсяе справы нашае лагоднае частаванне ледзь не сапсуў Апанас Дзюрка. Сярод іншых пачастункаў ён неяк згледзеў на стале свежаніну і ўспомніў, што ў яго калісь укралі кабана і што варажбітка паказала на свайго. Гэта ў яго сфармавалася ў пэўную думку, якая і выклікала рэальныя чыны. Ён падняўся, грымнуў кулаком па стале і, хоць не зусім выразна, але досыць станоўка, загадаў:

— Пакіньце жэрці! Мая свежаніна! Украў! — і яшчэ раз грымнуў.

Але мы яго хутка супакоілі: нацадзілі ў ягонае чэрава літровую конаўку «ярша», пасля чаго ён зусім астаўпеў і забыўся ўжо пра ўсё на свеце.

Так мы лагодна і скончылі баляванне.

— Дай Божа так кажнаму пагарэць, як Рыгор, — казаў Загржэмбіцкі, калі мы ўжо разыходзіліся.

*31 жніўня.* Сяння жонка сцягала ў царкву. «Ідзі, — кажа, — грахі адмольваць, распуснік». Мабыць, ей нешта сплялі. Няйначай. Таму я надта і не ўпіраўся. Узяла гэта яна трохі натураю (грошы, кажа, Богу не патрэбныя). Ну і пайшлі. Хто моліцца, а хто і так. Пастаяў гэта я трохі і, як толькі жонка адхінулася спарадкаваць прынесеную натуру, я і сігануў за дзверы.

Ля царквы народу шчэ больш. Тут я назіраў адну цікавую з'яву, якая мяне пераканала ў тым, што ні ў якай справе нельга быць надта заўзятым. Нейкі былы актыўны бязбожнік у сувязі са зменаю агульнага кірунку змяніў і свае перакананні і пацісnуў з бязбожнай ячэйкі ды ў панамары. А якаясь цётка расшыфравала ягоны манер і, згледзеўшы былога бязбожніка каля царквы, счапілася з ім:

— Прэч, — крычыць, — бязбожнік, прэч адсюль! Не пагань святога месца.

Тут народ зграмадзіўся, цікава ўсім.

— Завошта яго, цётка, гоніш? Што ўкраў?

— Гад, — крычыць, — нядаўна ячэйкай кіраваў, нас цягнуў у бязбожнікі, а цяпер у святое месца лезе. Прэч!

— Няхай лезе, — кажуць людзі, — што табе, цётка, святога месца не хопіць? Шкада? Можа, чалавек пакаяўся?

Рыжы бязбожнік, якога цётка так упорыста гнала ад царквы, трохі збянтэжыўся, але шчэ трымаўся з гонарам:

— А можа, я, — кажа, — маскаваўся, калі быў бязбожнікам? І я заўсягды ў Бога ўвяраў!

Справа скончылася тым, што ўпорыстая цётка прагнала-ткі рыжага бязбожніка. І варта: не трэ быць такім упартым.

*1 верасня.* Любоўная праблема ўсё больш хвалюе нашую ваколіцу. На суседняй вуліцы, Берасцейскай, сяння муж разыходзіўся із жонкаю, з якой жыў два гады. Прыйшоў гэта ён забіраць свае рэчы, а жончына сямейка, дасканальна ўзброеная, атакавала яго пры самых дзвярох. Жонка із вілкамі, цешча з мяшалкаю абышлі з флангаў, а цесць з нейкім адмысловым уруччам зайшоў з тылу, узялі, як кажуць, у мяшок ды так пачалі пыл выбіваць, што небарака-наважон ледзь выратаваўся. Прыходзіць ён да новае жонкі ўвесь у сіньцох. Ажна і тут пры самых дзвярох ваенная застава — не прыймае і новая.

— Дзе рэчы? — пытае. — Няма! Ну, то і мяне няма! Мне галадранцаў не трэба!

Не пыняла. Цяпер мужык ходзіць па суседзях, скардзіцца, асабліва на тое, што новая жонка так празаічна паставіла любоўнае пытанне:

— Ды я ж, — кажа, — даводзіў, што шчасце не ў рэчах, а ў каханні, а яна і слухаць не хоча. Ты мне, — кажа, — вады не муці! Прыйдзі з усёй маёмасцяй, тады і каханне будзе на ўсе сто дваццаць адсоткаў, а без гэтага — вэк! цурык! І дзвярыма бразгае. Гэта мяне горш за ўсё крыўдзіць, што яна цвыркае. І скуль яна гэтага навучылася?

І апынуўся цяпер чалавек пры дзвюх жонках і без хаты. Вось палажэнне!

*2 верасня.* Рэзалі — дваццаць адно. Рыгор прайграў дзве тысячы, Дзюрка з паўтысячы. Выйграў я і Разак.

*3 верасня.* Быў у гасцёх у інжынера Паліханава. Шкадаваў, што пайшоў. Праўда, пачастунак быў адмысловы, але гаспадар мне ледзь душу не выматаў. Прысукваўся, як з нажом да горла:

— Ну, што будзеш рабіць, як вернуцца? Куды дзенешся?

І так гэта націскае, што быццам ужо і вярнуліся.

— Ды шчэ ж, — кажу, — не вярнуліся, чаго мне загадзя думаць… А тады нешта скамбіную.

— Не, ты цяпер скажы!

Я хоць і п’яны быў, але патрапіў сплесці нешта такое двойчы дубальтовае, што і сам не зразумеў.

— Хітры ты, — кажа, — чалавек, але ўжо больш не прысукваўся. Ад мяне, браток, і ад соннага нічога не выцягнеш. Дарэмна!

*4 верасня.* Ізноў быў на біржы. Дзівакі! Прапануюць ехаць на торф. А навошта мне іхны торф, калі я дроў назапасіў? А тарфянога заработку мне яшчэ не трэба.

*5 верасня.* Прафесар Наязноў дастаў працу. Хоць і не па спецыяльнасці, але тымчасам гнуць можна. Хай гне на здароўе. Нашы сілы ўмацоўваюцца!

*6 верасня.* Сустрэў Ахрэма Авечку:

— Ну, як, — пытаюся, — жыццё?

— А нічога, — кажа, — добра. Ворага сцігуем памысна.

— А як межы?

— Ну, межы цяпер нашыя напэўна. З захаду нашых падваліла. І хлопцы ўсе — адзін у адзін. Сіла!

Трэ будзе бліжэй падысці да гэтай сілы ды прыгледзецца да яе. Можа, на што і прыдасца.

*7 верасня.* Сымон працуе ўжо. Прымайстраваўся вознікам да нейкай ці то ўстановы, ці то фабрыкі — не разбярэш.

— Я і сам добра не ведаю, што шчэ з гэтага выйдзе. Нешта калупаюцца. Аднаўляць, кажуць, будзем. Хай аднаўляюць. Мне клопат невялікі: дзве гадзіны на дзень — і ўся работа, а малясу каню даюць. Знацца, самагонку ў мяне цяпер конь дастае. Наагул добра, бо дырэктар — боўтка. Як толькі расшыфраваў яго, то цяпер раблю, што хачу. Прыйду гэта да яго, шапку скіну і грымну: «Гаспадзін Піпікаў!» (яго Піпікам завуць), то што ні прасі — зробіць. Надта любіць, каб гаспадзінам звалі. А мне што, шкада? Ды я цябе хоць чортам, — кажа, — назаву, абы рабіў, што мне трэба. Яму, былому парцейнаму, гэта, можа, і цікава, а мне — плюваць, мне языка не шкада, абы малясу даваў.

Наагул, кажу, каб не было дурных, то разумнаму надта цяжка было б жыць.

*8 верасня.* Хадзілі із Сымонам аглядаць гароды. Сымон кажа, што кажную справу трэба пачынаць загадзя, каб пасля не было мітусні і хапаніны. Намацалі два ладныя гароды. Былыя гаспадары недзе зніклі, а бульбы тымчасам шмат.

— На булён хопіць, — сказаў Сымон, — абы скварка.

Хутка пачнем капаць.

*9 верасня.* А Фэцкі зноў лічыць. Гэтым разам вылічае, калі скончыцца вайна. Паводле ягоных табліцаў выходзіць, што вайна скончыцца, а калі — шчэ не падрахаваў. Нешта ў яго ў інтэгралах заела:

атрымліваюцца велічыні то бясконца малыя, то бясконца вялікія, так ён і не можа схапіць за хвост канца вайны. Сымон раіў, каб ён лавіў гэны канец на дарозе, бо ад вялікага да малога не так многа.

— Тады ўцэліце ў самы пункт, бо найлепш пераймаць у дарозе. Толькі, — кажа, — лічэце не надта па-вучонаму, дзе сотня менш, сотня больш — не мае значэння. Бо для жывога чалавека часам і год нешта значыць. Я ведаў аднаго чалавека, на Пярэспе жыў, які дваццаць год чакаў на спадчыну ад багатага дзеда і не дачакаў аднаго году: дзед перажыў яго на адзінаццаць месяцаў і дваццаць восем дзён. Хіба ж гэта не крыўда? Вось вы так і лічэце, даражэнькі, каб людзі не пакрыўдзіліся.

А па мне, то хай лічыць, як хоча. Калі скончыцца — для мяне не мае значэння.

*10 верасня.* Ці то час такі, ці то людзі цяпер такія. Адно — злодзей на злодзеі. Тую бульбу, што мы нагледзелі, — ужо капаюць. Прыходжу сяння на гарод, а там два дзецюкі шастаюць бульбоўнікам ува ўсе бакі.

— Што гэта, — кажу, — робіце? Хіба прыватную ўласнасць ужо скасавалі?

— А даўно, — кажуць, — скасавалі. Цяпер усё агульнае. Няма, — кажуць, — ні свайго, ні чужога.

Вось і гавары з такімі! Ледзь прагнаў. Напалохаў урэшце, што жаўнераў паклічу.

Раіліся з Сымонам, што рабіць. Сымон тае думкі, што цяперашнім часам лепш міска дранікаў на стале, чымся асьміна бульбы на гародзе. Трэба заўтра капаць.

*12 верасня.* Два дні капалі бульбу, а пад канец неспадзявана з'явіўся гаспадар. Абурыўся — страшэнна. А чаго, каб хто спытаўся?

— Рабаўнікі! — крычыць. — Хто дазволіў!? Зладзейства! — і панёс…

Сымон ледзь яго супакоіў.

— Ты чаго, — кажа, — крычыш, чалавеча? Якое зладзейства, калі мы толькі ўсяго таго, што ашукаліся. Тут недзе мае цешчы хаціна стаяла і бульба ейная расла. А калі ўсе нумары пагарэлі, то як можна распазнаць, што цешчына, а што тваё. Сам бачыш, што скрозь толькі каміны стырчаць… А нам чужога не трэба, — скончыў Сымон. — Забірай сваю бульбу.

Мяшкі два бульбы яму аддалі, бо рэшту мы ўжо перавезлі да хаты. Страта, ведама, невялікая.

*13 верасня*. У беларусаў нічога не будзе, бо надта ўжо вялікі ў іх разнабой. Сяння быў у Ахрэма Авечкі. Прыйшлі таксама Арыентацкі і Шчыры ды яшчэ нейкі новы, толькі што з Заходняй з'явіўся, з дзіўным прозвішчам — Кіндзюк Банадысь. І вось, як толькі зышліся, то адразу і пайшло: хто ў лес, хто па дровы. На адну і тую самую справу кажны глядзіць із сваёй званніцы. Гутарка йшла пра тое, што ўправу апанавалі чужыя людзі (мяне яны ўважаюць за свайго), а свае па кутох, і якая гэтаму ёсць прычына. Шчыры вельмі горача насядаў на тое, што яны самі вінаватыя:

— Мы, — крычыць, — стаімо на месцы! Мы спімо! Там, дзе трэба дзеяць дружна, мы гуляем у выперадкі! Мы… і г. д. Наогул даводзіў, што яны замала актыўныя.

Авечка на гэта адказаў яму, што ўсё гэта так і ўсё трэба рабіць абавязкова, але як будзе на гэта дазвол.

— Як толькі дазволяць, — скончыў ён, — то мы адразу усіх прагонім і пачнем апаноўваць. Абы дазволілі.

Арыентацкі, наадварот, тармазіў абодвух. Ён даводзіў, што трэба рабіць і так, і гэтак.

— Бачыце, — казаў Арыентацкі, — калі на справу кінуць позірк з аднаго боку, то яно выходзіць нібы і так, калі глянуць із другога, то выходзіць якраз наадварот. Значыцца, бяручы на ўвагу вышэйпаданыя акалічнасці, трэба рабіць і так, і гэтак або лепш ні так, ні гэтак, а зусім наадварот.

Дыскусія трывала дзве гадзіны, але ні да чога не дамовіліся. Так яно ў іх, відаць, і надалей будзе: як кажуць, што шапка, то і розум.

Свежы чалавек, што прыехаў з Заходняй, у гутарцы ўдзелу не браў. Ці то ён яшчэ слаба арыентуецца, ці яго іншыя пытанні цікавяць, бо ў часе прамовы Шчырага ў самым гарачым месцы ён у мяне спытаўся:

— А дзе можна ў Менску дастаць дрожджаў?

Гэты, відаць, не тэарэтык, а больш практык.

*14 верасня*. Рынак ажывае, але шчэ слабая прапанова, попыт больш. Прапануюць дрожджы і шчоткі, а попыт узрастае на спажыву.

Выменяў на кіло цукру нядрэнныя чаравікі. Хай будуць у запасак. Вайною скура сцягваецца. Адно дрэнна — няма шчэ ўсталяваных цэнаў. Але дарма — наладзім і гэта, абы не перашкаджалі прыватнай ініцыятыве.

*15 верасня*. У Байцова здарылася аварыя. Папаўся на нейкай надзвычайна шыбельнай камбінацыі. Хацеў пабіць сусветны рэкорд і за тры дні зрабіцца мільянерам. Але пад канец гэтай амерыканскай

хуткасці ў машыне штосьці заела. Сымон казаў, што падшыпнікі згарэлі, бо слаба мазаў... Цяпер сядзіць у «бацькавай хаце» і чакае канца справы. А канец, відаць, будзе незайздросны.

*16 верасня.* Жывы чалавек нешта выдумае. Загржэмбіцкі зноў акрыяў. Праўда, цяжка было, але выкруціўся. А пачаў з іголкі, якую змяняў на яйка. Пасля яйка выменяў на махорку, махорку — на гарох, гарох — на нагавіцы і г. д. Прарабіў штосьці да дваццацёх аперацыяў, пакуль узбіўся на тры пуды мукі. А з гэтага ўжо справа пайшла сліжчэй. Цяпер жыве як след і гора не мае.

— Мне, — кажа, — цяпер толькі разгон давай ды не затрымлівай, то я, — кажа, — так пайду ўгору, што і не згледзіш.

І пойдзе. Бо гэта такі чалавек, які не будзе друшляком зацірку чэрпаць.

*17 верасня.* Разак трапіў у канфузнае палажэнне. Пацеха. Пайшоў да свае красуні, а жонка асачыла ды назіркам. Толькі гэта ён у хату да красуні, ажна тут і жонка ў дзверы бразгае. Мусіў уцячы на гару, а стуль праз нейкае вузенькае вакенца выкінуўся на гарод. Парваў пінжак і звіхнуў руку, як праз платы сігаў. Але прыджгаў дахаты раней за жонку. Шчэ пасля і на яе сварыўся, як дахаты вярнулася, чаму гэта яна немаведама дзе поўзае.

Жонка, мабыць, здагадалася, але жывога доваду не мае, а таму і маўчыць.

— Мяне, — хваліцца Разак, — жыўцом не возьмеш.

Спрытны хлапец, што і казаць. Такі і ў вагні не згарыць.

*18 верасня.* Сяння нечакана трапіў на нейкую нібы літаратурную зборку. Паліханаў завёў. «Хадзем, — кажа, — пазабавішся. Часам бывае надта пацешна». Пайшлі. Людзей сабралося шмат. Тут былі і артысты, і паэты, і музыкі, і аматары, і неаматары. Ну, спявалі, гралі, дэкламавалі — хто што мог. Чыталі таксама і свае вершы, як кажуць, собскага вырабу. Мяне гэта найбольш пацешыла, бо гэтага я шчэ ніколі не чуў. Колькі радкоў з гэных вершаў я навет паспеў занатаваць. Прыкладам, адзін верш пачынаўся так:

**Скок у будучыню**

*Засінелі васількамі далі.*
*Чорнай п'яўкай ўеўца на балоце гаць.*
*Як нас катцюрылі, як нас каталі,*
*Гэтага пяром не апісаць.*

А канчаўся верш наступнымі радкамі:

*Салавейка адспяваў за гаем,*
*Срэбны месяц вісне на сасне.*
*Ну а мы — чакаем і чакаем:*
*Можа, будзе што, а можа, не...*

Другі паэт-аматар паморшчыўся на верш першага паэты і, страсануўшы даўгім валоссем, пачаў свой:

**Нырца ў сусвет**

*Усё абспявана: ад рэдзькі да выраю.*
*Што ж цяпер возьмеш, паэт?*
*Грукну цымбаламі, бразну я ліраю*
*І закілзаю сусвет.*

І як пачаў кілзаць, як панёс, дык толькі іскры сыпаліся. Урэшце да таго даспяваўся, што не відаць было: ці ўсіх нас трэба аддубасіць, ці яму спусціць порткі ды ўсыпаць так, каб больш ніколі не даваў нырца.

Вось гэта, думаў я, паэзія, вось гэта — хараство! Што б сказаў Пушкін, каб пачуў такое? А Паліханаву вершы спадабаліся.

— Добра, — кажа, — галоўнае — бойкія.

Не, сучасная паэзія мне недаспадобы.

19 *верасня.* Свет мяняецца, і людзі мяняюцца. Сяння наглядаў на вуліцы, як два былыя за нешта счапіліся. Насядаюць адзін на аднаго і крычаць:

— Гэта вам ужо мінулася! Годзе! Цяпер новыя парадкі.

І аднаму мінулася і другому мінулася. Цікава, хто з іх мае рацыю, а хто з іх адгуляў? Бо калі абое адгулялі сваё, то чаго цяпер спрачацца? Мабыць, збіраюцца гуляць на новы лад абое.

*20 верасня.* Што мае пачатак, тое мае і канчатак. Маляс выйшаў. У вытворчасць мусіў рушыць сапрэлую муку. Разак і гэтым разам пад'язджаў адносна заказу, але дарма — нічога не выйграў. Пацячэ міма ягонага носу. Склаў суполку: «Вытворчасць і размеркаванне». Сымону не надта спадабалася такая аперацыя:

— Не ляжыць, — кажа, — у мяне душа да гэтых суполак. Тут немінуча нехта некага ашукае: або ты суполку, або яна цябе. Бо дзе ты цяперашнім светам знойдзеш чалавека, каб ён ротам мух лавіў, падумай!

Што праўда, то праўда. Ну, але і я не пакуллем падбіты. Тым больш, што і супольнікі ў ашуканастве шчэ не надта адукаваныя. Дзюрка, хоць бы і хацеў, дык не ўмее, а Наязноў — той ужо зусім тэарэтык. Адзін назоў, што прафесар, а спрыту ніякага.

*21 верасня*. На фронце дзеецца нешта дзіўнае. Петраград абкружаны, Будзённы абкружаны, а разам з ім абкружаны яшчэ тры арміі. Суцэльнае акружэнне, а генерал Чыстоў — той яшчэ лепш — трапіў у палон на самай перадавой лініі. Прызнаўся, што не ведаў, дзе фронт, думаў, што да немца далёка, ды сунуўся ў самыя рукі разам із машынаю. Што ж гэта робіцца, дзе ж нашая магутнасць? І чаму генералы не ведаюць, дзе фронт?

Мы доўга дыскутавалі на гэтую тэму. Наязноў тае думкі, што пра Чыстова, мабыць, няпраўда, больш для агітацыі пушчана. Але Сымон сцвярджаў, што тут нічога дзіўнага няма.

— Усё гэта можа быць, — казаў Сымон. — Калі я шчэ за царом служыў у войску, то ў нашым батальёне быў адзін палкоўнік, які сам сябе на гаўптвахту пасадзіў. Дальбог! Выпусціў загад: «Палкоўніка Яхрэмава заарыштаваць на трое сутак». І падпісаўся: палкоўнік Яхрэмаў. Можа, пісар пажартаваў, а можа, і сам палкоўнік з п'яных вачэй выдаў такую цыдулку. Мы гэтага не ведаем, але як чыталі загад — слухалі ўсе. Дык то ж было за царом, а цяпер, то ўжо дзівіцца няма чаго. Якое дрэва, такі і сук.

Я не хацеў бы служыць салдатам у такога генерала.

*22 верасня*. Рыгору пашанцавала. Забаронена будавацца, а ў яго на хаце ўжо і нумар блішчыць. Раіліся сяння наконт хатняга абсталявання. Ёсць загад, каб здавалі парасцягнутую мэблю. Будзем варочаць ці не? Рыгор тае думкі, што варочаць не трэба. Хто там дакапаецца — ці парасцяганая, ці мазалём нажытая?

Сымон таксама не раіць:

— Пакуль, — кажа, — гаспадар вернецца, дык і мэбля струхлее. Я, кажа, шчэ ў васямнаццатым годзе ў такі ж самы спосаб прыдбаў бочку. То гаспадара і дагэтуль няма, а бочка шчэ трывалая.

Пастанавілі: не варочаць і адзін аднаго не выдаваць.

*23 верасня*. Хутка пойдзе трамвай. Загржэмбіцкі надта цешыцца: ці гэта сур'ёзна, пытае, ці так сабе пішуць? Добра было б, каб на сур'ёзна, бо на даным этапе транспарт вырашае ўсё.

І праўда. Калі штодня даваць рэйсам ад Суражскага да Камароўскага ды назад, то без тэхнікі не пасігаеш. Добра, калі з сахарынаю, а калі дрожджы ці ёміна якая? Тут нехаця тэхніку вітаць будзеш.

*24 верасня.* Меў выпадак бліжэй прыгледзецца да заходняе сілы, пра якую хваліўся Авечка. Сустрэлі ў Арыентацкага. Запраўды, дзецюкі нішто сабе — гладкія, ёмкія — відаць, што гадаваліся не на дрэнных харчах. Але асабліва страшнога нічога няма. Ведама, канкурэнцыя будзе, бо ў шмат каго з іх рукі даўжэй за бацькавы. Адзін з іх мне навет спадабаўся. Мы з ім мелі цікавую гутарку на розныя гаспадарскія тэмы. Відаць, чалавек добра арыентуецца ў кан'юнктуры цэнаў і рынкаў.

— А наконт машыны, — скончыў паважаны Пралазевіч нашую размову, — то вы не клапаціцеся, мы гэта ўраз абсталюем.. Транспартныя сродкі будуць.

Добра! З такою сілаю шчэ жыць можна. Праўда, іншыя прадстаўнікі гэтае заходняе моцы не паказалі такое жыццяздольнасці. Яны таксама, як Шчыры, больш гаваруны, чымся дзейнікі. Усё крычаць: трэба! гэта трэба! гэта трэба! а гэта не трэба! Яно і лепей: пакуль тэарэтык дыскутуе, то спраўны на практыцы смела можа павывcareчваць яму ўсе кішэні.

*25 верасня.* Свет стаў дыба. У ангельскіх цэрквах наігрываюць інтэрнацыянал, а жыды патрабуюць свае арміі і жыдоўскае дзяржавы ў Палестыне.

Сымон кажа, што нічога з гэтага не будзе.

— Калі ўжо, — кажа, — і збярэцца жыдоўскае войска, то я, хоць і не бравы ваяка, а пайду адзін супроць усёй іхнай арміі. Абы толькі кала добрага ў рукі. Ведаю я гэтых ваякаў. Калі я шчэ за Мікалаем у войску служыў, то быў у нашай роце адзін жыдок, за барабаншчыка хадзіў. Дык вось, як пойдзем, бывала, на стрэльбішча ды як пачнем з гарматаў бухаць, то яго адразу бы трасца на зямлю кідае — барабанам накрыецца і енчыць: «Вой, — крычыць, — калі яшчэ адзін раз, то мяне ўжо не будзе, вой!» А ты кажаш — армія. З такою арміяй толькі хіба курэй душыць.

Сымон штосьці адмоўна ставіцца да жыдоўскае ваяўнічасці. А мне здаецца, што калі і зайца пачаць біць, то і ён будзе запалкі паліць.

*26 верасня.* І смех і грэх. Сёння да Мар'і Іванаўны заскочыла нейкая верхалазка, ейная прыяцелька.

— Вітай, — кажа, — з абноўкаю!

І круць-верць па хаце ў новай сукенцы.

— Глядзі, які фасон цудоўны! Вось тут, наперадку — Сталін, па клубох — Молатаў і Калінін, а пазаду Кагановіча пусціла.. З чатырох палотнішчаў. А матэрыял? Не, ты толькі глянь. Мроя, а не матэрыял!

Што б вы думалі? Гэта фарсуха наскочыла недзе на партрэты былых правадыроў, і як цяпер яны без ужытку, а матэрыял каштоўны, то і скамбінавала: аблічча іхныя змыла, а з палатна змайстравала сукню.

— А што я, — кажа, — мела рабіць, калі ўсё пагарэла і ўсё расхапалі, а засталіся толькі правадыры.

Смех, кажу, і грэх. А баба ўсё ж без розуму, хоць бы маўчала, а яна скрозь звоніць. Глядзі, каб за гэтыя справы шчэ пад твайго Кагановіча не ўсыпалі. Бо шчэ невядома, чым усё гэта скончыцца.

А Мар'я Іванаўна страшэнна абурылася і з гэтаю прыяцелькай пасварылася насмерць. Ейнае кволае сэрца не магло сцярпець такое знявагі, хоць і былых, [illegible] ўсё ж правадыроў.

*27 верасня.* Прыемныя навіны з культурнага фронту. Неўзабаве адчыняецца гарадскі тэатр. Усё гэта добра, але ёсць сур'ёзная затрымка: не стаець адзення. Неарганізаваныя масы расцярушылі не толькі ўсю тэатральную рэквізіту, але парасцягалі і вопратку. Меркавалі адыграць Аўгена Анегіна, але на двух артыстых знайшліся толькі адны штаны, ды і тыя ні ў два ні ў паўтара. А як на грэх, то і артысты знайшліся — адзін маленькі, а другі, што вярста. Калі прымяралі порткі, то чысты смех: аднаму па калені, а другому — па пяты. Як развяжуць гэтую праблему — не ведаю, бо які ж Аўген без белых штаноў? А ягоныя порткі, мабыць, ужо даўно перакроены на станік, а мо і на анучы пайшлі.

*28 верасня.* Круглоў аканфузіўся ўшчэнт. Мышы вытурылі яго із складу «Заготзярна». Такую сілу іх развёў, што давялося ўцякаць самому.

— Я, — кажа, — не вінаваты, што ўвесь парашок згарэў, а я ўмею толькі парашком змагацца.

Цяпер шкадуе, што трохі не дацягнуў:

— Калі б яшчэ, — кажа, — хоць пудоў дзясятак, то праграму змагання з мышамі можна было б уважаць за выкананую.

Чалавеку не пашанцавала.

*29 верасня.* Наязноў ходзіць як хмара. Прачытаў адозву, у якой гаворыцца, што беларусы будуць жыць «без расейска-азіяцка-бальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панавання».

— Сэрца, — кажа, — баліць, калі чытаеш такія рэчы. Хіба тутэйшыя не такія рускія, як і мы? А гэта ж проста пра нас і сказана: «чужанацыянальныя».

Дзівак! Пра што непакоіцца. А зрэшты, хто яго ведае, можа, і мяне залічаць у чужанацыянальныя. Трэба на ўсякі выпадак забяспечыць сябе ад магчымае фармулёўкі.

*30 верасня.* Пачынаю беларусізавацца. Купіў беларускі правапіс нейкага Тарашкевіча. Два рублі не грошы, а ў спрытных руках ды з галавою яго можна абярнуць у капітал. Але Наязнову пра гэта — ні гуку. Бо ён можа зрабіць з гэтага «вывады».

*1 кастрычніка.* Дзюрка і ягоны швагра згубілі пашпарты. Дзіўная рэч, што абое разам. Тут штосьці падазронае. Трэба разнюхаць. Можа ёсць рацыя і мне згубіць.

*2 кастрычніка.* Фэцкі ўжо вылез із інтэгральнае блытаніны і дакладна вылічыў, калі скончыцца вайна, але трымае ў сакрэце. Каб чалавек быў з галавою, то і на гэтай справе мог бы няпрэнна зарабіць. Ці не купіць мне ягоны сакрэт? Трэба зрабіць спробу.

*27 кастрычніка.* Блізу месяца я не разгортваў гэтых мёртвых балонак, якім даручаў сваю жывую душу… Не да мёртвых балонак было, калі сам ледзь жывы астаўся… А хто вінаваты? Паліханаў, які запрасіў на сямейную вячорку? Жонка, якая пабаялася ўпоцемках дахаты йсці? Ці я сам, што лішне чарку перакуліў? Усе пакрысе. А калі ўсе, то, знацца, ніхто, апрача злодзея. Але каб яго вінаваціць, трэба знайсці. А як знойдзеш? Дзве хутры, тры гарнітуры, два жаноцкія палітоны, мяшок цукру, невядомая колькасць хусця, скрыня махоркі, бідон тлушчу, мяшок рысу і шмат-шмат дробных рэчаў — зніклі без следу…

Так здарылася катастрофа. Назаўтрае Панас прывёў варажбітку.

— Яна, — кажа, — табе ўсё выкладзе як на далані.

Варажбітка гадала на карты, пушчала нейкі парашок на ваду, таўкла яйка ў хусцінцы і нарэшце выклала:

— Злодзеяў было трое: адзін — рыжы, другі — чарнявы, трэці — касавокі. А пакрадзенае трэба шукаць тут, паблізу. Далёка не пайшло.

Як на талерцы! А тымчасам, калі пайшла, то з ёю пайшоў і жаночы гадзіннік. Вось і знайшоўся злодзей! А Дзюрка шчэ і аблаяў яе: «Гэта, — кажа, — дармо, што сцягнула. У іх языкі доўгія, але затое і рукі даўгія — сачыць трэба. А праўду выкладзе».

Хадзіў я і на рынак, па сляпой кнізе варажыць. Але варажбітка, таксама сляпая, мабыць, узяла мяне за вайскоўца і намалола, што быццам я нядаўна з-за кроплі крыві ледзь не згубіў свайго маладога жыцця, але што неўзабаве, не пазней як праз месяц, я зноў вярнуся

пад роднае скрыло, якое мяне абагрэе, як прамень сонца. Цьфу! Толькі дваццаць рублёў збяёдаў!

Рыгор параіў звярнуцца да службы парадку. Добра, скажам, звярнуўся б, але які толк?

— Знайсці, — кажа Рыгор, — не знойдуць, а так, для ачышчэння грамадскага сумлення.

Дзякую! Каб мяне ўшчэнт пачысцілі, тады яшчэ іншая рэч. А то яшчэ нейкія крошкі пазасыпаліся. А тут могуць так пачысціць, што не толькі сумлення — нічога не застанецца. Горш за ўсё, што спачування ні ад кога не бачыў. Усе толькі раюць, а Сымон, той проста смяецца: «Рабуй нарабаванае» ды рагоча. А чаго рагатаць?

— Не па-суседзку, Сымон, — кажу, — тут плакаць трэба, а не рагатаць.

— Дармо, — кажа, — па гэтым дзеці будуць. Чалавек толькі сам сябе не пераежыве, а так — усё здолее! Калі я быў у трэсце, то ў нас адзін скарбнік усю скарбонку вытрас сабе ў партфелю — дваццаць тысячаў натрос. Але не паспеў бядак да хаты дайсці, як дарогаю ў яго перакралі гэтыя тысячы. Думаеш, павесіўся? Ані Божа барані. Праз год ужо ў другім трэсце краў. Так вось і тут.

Недарэчнае параўнанне, але ён мае рацыю, што чалавек усё пераежыве. Пераежыў і я гэтую катастрофу.

*28 кастрычніка.* Дзеля свайго калецтва тры тыдні не чытаў газетаў. А Рыгор казаў, што шмат было цікавага. Пісалі, што вораг ужо зламаны, арміі Цімашэнкавыя знішчаныя, ён сам звольнены, а Будзённы ўжо на Лубянцы вусамі шаволіць. Даскакаўся «брацішка наш Будзённы на кані сваім». Сёння сам прачытаў. Праўда. Усё гэта ёсць. Але Наязноў штось песімістычна ставіцца да ваенных падзеяў: «За летам яшчэ зіма будзе, а там — ізноў лета. Хто яго, — кажа, — ведае». Хітры чалавек — гэты Наязноў. Ніколі не дакапаешся, што ён думае. Але з нейкімі крыніцамі ён звязаны. Гэта — напэўна. Дакапаюся!

*29 кастрычніка.* Хамовіч (ёсць такі музыка на нашай вуліцы) пайшоў рэгістраваць духовую аркестру, бо ёсць загад, каб грамадзяне рэгістравалі музычныя інструманты, якія ім не належалі. Мы яму не раілі.

— Дзівак, — казалі, — хто яго ведае, што гэтыя трубкі не твае?

А ён іх вайною падхапіў недзе поўнаю капелаю.

— Не, я хачу ўсё паводле формы, бо маю класічныя канцэрты выдаваць — вось толькі барабана не стае.

І за што толькі людзі не хапаюцца!

*30 кастрычніка.* Хто я такі? Дзіўна. Такога пытання я сабе шчэ ніколі не ставіў. А сяння ў Арыентацкага адзін нейкі тып (клічуць яго Юрэц Бладук) прычапіўся да мяне:

— Хто вы такі? — пытаецца.

Як хто? Чалавек.

— Чалавек? Гэта на сяння ніяк не гучыць. Мы ўсе людзі. І чалавек на сяння — дрэнь, пустое месца, словам — міф і больш нічога.

— Але ж выбачайце..

— Нічога не выбачу. Я ў вас пытаюся — хто вы паводле нацыі?

Дзівак. А што мне да нацыі?

— Ну, сяння я, скажам, беларус.

— А заўтра?

— Скуль жа я ведаю, што заўтра будзе? Я не прарок, я — дыялектык.

— Ах, так? То вы, — крычыць, — балота, вы гніллё, вы не патрэбны для нас тып! Вы…

І панёс. Я ўжо ўзяўся быў за шапку, каб уцякаць, але Арыентацкі заспакоіў:

— Плюй, — кажа, — ён толькі гаворыць, а зрабіць нічога не можа. У іхнай хеўры ўсе такія, але народ спакойны.

Усё ж мяне гэта не заспакоіла. Калі пачынаюць ставіць такія пытанні, то недзе нешта ёсць. Мабыць, я штосьці прагледзеў.

*1 лістапада.* Усе рынуліся браць патэнты. Хто — на піўніцу, хто — на шаўца, хто на дробны гандаль. Раілі і мне не зацягваць справы, але я шчэ не наважыў, на якую спецыяльнасць падацца.

— А ці табе не ўсё роўна, — кажа Сымон, — на сяння або паперка. Бяры хоць на музычнага майстра, а пасля ўжо расчаўпёмся, хто ты ёсць.

А швагра Апанаса Дзюркі, дык той выбраў патэнт і навет шыльду павесіў. На белай габляванай дошцы нарысаваў дзёгцем: «Раблю сталы, шафы, крыжы, труну ды іншую мэблю, а таксама прымаю розныя заказы. Мікіта Гузак». А ніжэй дробнымі літарамі напісаў: «Тут купляем цвікі негарэлыя». Але дарма — заказаў ніхто не нясе, і шыльда ў яго целяпаецца так, для собскага задавальнення.

Такое ж палажэнне і ў іншых патэнтшчыкаў. Мабыць, таму, што наш куток глухі, далёка ад цэнтралі.

*2 лістапада.* Быў дыспут пра вайну. Сёння зноў усёй парафіяй чыталі газету. Ужо нямецкае войска ўвайшло ў Крым, прасякнула ў цэнтр Данецкага басейну і наблізілася да Масквы.

Сымон пра гэта сказаў, што яго Данбас не цікавіць:

— Мне вугалля не трэба. Я дроў назапасіў, дзякаваць Богу. А вось што Крым агортваюць — гэта добра, бо колькі там дармаедаў пуза на сонцы грэла ды ў вадзе палаcкалася, колькі хлеба марнатравілі. Не давядзі Бог!

На гэтыя словы абурыўся Наязноў:

— Вы, даражэнькі, не тое кажаце. Не адны там дармаеды, былі і працоўныя.

— А я, — узняўся Сымон, — не працоўны? А ці паласкаў я хоць што-колечы ў гэнай цёплай вадзе? Га? Што Вы на гэта, пан прафесар?

Наязноў на гэта нічога не адказаў, і дыспут зноў набыў канкрэтныя формы. Дзюрка разважыў, што калі на фронце так справа стаіць, то хутка і вайна скончыцца. З ім шмат хто згадзіўся, і ўжо пачалі падлічваць — калі? Але Сымон зноў адцягнуў увагу ўсіх у іншы бок.

— Цяпер, — кажа, — нельга варажыць, калі скончыцца вайна, бо якая ж гэта вайна? Вось даўней ваявалі... Чытаў я недзе, як старабытныя цары біліся... Выйдуць гэта варагі ў чыстае поле, стане адно войска супраць другога і пачалі:

— У вашага начальніка, — кажуць адны, — маці кульгавая.

— А ў вашага, — кажуць другія, — дзед быў на адно вока крывы.

— А вы вяроўкаю хлеб кроіце.

— А ў вас дзеўкі ўсе рабыя.

*4 лістапада.* Суполка «Вытворчасць і размеркаванне» лопнула. Дзюрка злавіў Наязнога на жывой справе, як той цадзіў супольны пяршак у сваю бутэлечку з-пад парфумы «Тэжэ» «Чырвоная Ружа». Апанас так здзівіўся, што ледзь не пашкодзіў бутлю з самагонам аб Наязнову галаву.

— Каб не пяршак, — казаў, — дальбог, нешта покнула б — ці бутля, ці ягоны чэрап. Пяршаку пашкадаваў.

І хто б мог спадзявацца, што Наязноў здольны на такія ўчынкі? Такая адукаваная, разумная асоба.

А Сымон здаволены:

— Я табе казаў, што тут зладзейства не мінеш. У суполцы хоць святы — і той красці будзе. Такая ўжо ўрода ўсіх гэтых суполак, каб з іх цягнуць.

Асноўны капітал і прадукцыю падзялілі паміж былымі сябрамі ў роўных часцінах, а інвентар пусцілі на жэрабя. Змеявік усё ж застаўся ў мяне.

*5 лістапада.* На гаспадарска-палітычным адцінку нейкая актывізацыя. Кіндзюк Банадысь зрабіў на захад ажно тры рэйсы, Арыентацкі — два. Туды машыну — назад машыну. Нешта адвозяць, нешта прывозяць. Рыхтуюцца ў падарожжа і іншыя прадстаўнікі. Авечка гаворыць, што ўлагоджваюць грамадскія справы. Магчыма. А тымчасам заўважаецца ажыўленне і на мясцовым рынку. Дрожджы ўскочылі ў цане, з'явілася сахарына, некім выкінутая на рынак, вялікія партыі горадзенскай махоркі. Загржэмбіцкі, як шалёны, гайсае ад рынку да рынку. Ажыўленне відавочнае.

*6 лістапада.* Разак паперадзіў: купіў Фэцкага сакрэт пра канец вайны і ўсе ягоныя, як ён казаў, аўтарскія правы. Ну, ад гэтага нічога не даведаешся. Усё толькі прыглядаемся, што ён пачне рабіць. Сымонісе ўдалося прасачыць, як сяння раніцою з Яськавага двара вывозілі нечага цэлы воз — ці на схоў, ці на продаж — не дагледзела. Гэтая навіна ўзрушыла ўсю вуліцу. Дзюрка ўжо з усімі раіўся, што рабіць з цвікамі — ці хутчэй збываць, ці хаваць у яму. Але што можна параіць, калі самі ўсе, як упоцемках.

За Разаком установлены ўзмоцнены нагляд.

*7 лістапада.* Пацеха! З маймі знаёмымі беларусамі здарылася аварыя. Хацелі яны ў нейкі аддзел прапхнуць свайго чалавека, але выйшла асечка. Другі іхны, таксама беларус, ткнуў на гэтае месца якогась свайго знаёмага палячка. Колькі ні крычэлі, колькі рукамі ні махалі — дарэмна: палячок неяк вельмі хутка ўкараніўся, і яго ўжо не выдзярэш цэлай грамадой. Спрытны чалавек — асечкі не зробіць.

*8 лістапада.* Іншага чалавека дык і гора не навучыць. Сяння сустрэў гэнага Дзівака (прозвішча не ведаю, але, мабыць, так яно і будзе), што нам вайною на складах назаляўся. Я навет здзівіўся, што ён шчэ жывы. Худы, абшастаны, а жывот падцягнула пад самыя рэбры. Цяпер недзе за настаўніка працуе.

— Вы, — кажу яму, — даражэнькі, хоць і настаўнік, а памылку ўрэзалі.

Уздыхнуў, але на словах не прызнаецца.

— Я, — кажа, — не шкадую, але жонка насядае, штодня пілуе. А што я меў рабіць, калі маё пераконанне не дазваляе рабаваць?

Запраўды — дзівак! Пераконанні... Іх, браток, у гаршчок не ўсыплеш — навар не той. Праўду кажуць, што гарбатага магіла паправіць.

*9 лістапада.* Круглова не задавальняе сітуацыя на сучасным рынку.

— На рынках, — скардзіўся, — пануе страшэнны хаос. На Чэрвеньскім за картовы пінжак далі лапатку бараніны і пяць кіло мукі, а на Камароўцы такі самы пінжак ідзе за дзве лапаткі. Такая кан'юнктура, — сцвярджае, — не заахвочвае да развіцця прыватнага капіталу і не спрые цэнтралізацыі мясцовага капіталу.

У сувязі з гэтым ён наважыў падаць да Управы распрацаваную ім шкалу сталых цэнаў на зацверджанне. Рыгор не раіў падаваць такую цыдулку, бо што да цэнаў, казаў ён, то на гэны конт яшчэ не спушчана ніякіх дырэктываў, і пытанне тымчасам вісне ў паветры.

Сымон даў больш практычную параду:

— Ты, — кажа, — сяння на рынак выкідай ватоўкі і душагрэйкі, бо цяпер на іх самы сезон, а картовыя пінжакі і нагавіцы прытрымай да вясны. Увесну пойдуць, як вада, і цэны тады будзеш сам дыктаваць. Гандляваць, браток, трэба ўмеючы. Бальшавікі дваццаць год крычэлі «Вучыцеся гандляваць» і то не навучыліся, а ты хочаш за адзін год усіх пераплюнуць.

Гэта супакоіла Круглова.

*10 лістапада.* Пакуль што выбраў патэнт на майстру музычных інструмантаў. Чаму? Я і сам не ведаю. У Рыгора ўзяў паламаную гітару, павесіў на цвік, купіў французскі ключ і малаточак. Такім парадкам, майстроўня абсталявана цалкам. А заказчыкі мне не патрэбныя. Я тымчасам і без іх пражыву.

*11 лістапада.* Яшчэ раз пераканаўся, што культура — непатрэбная рэч. Язэп Супрынайц (працуе недзе каля Управы) зацягнуў у сваю сталоўку на полудзень.

— Хадзем, — кажа, — у мяне лішнія талоны ёсць. Паглядзіш, як мы харчуемся.

Пайшлі. Далі на пачатак буракоў па талерцы, а пасля — каму курыцы кавалак, каму рыбіну — на выбар. Пасёрбалі гэта мы буракоў, а тады ўзяліся рыбіну калупаць — хто дзераўлянай лыжкай, а хто пальцамі, бо відэльцаў не далі. Толькі гэта я дакалупаўся да хрыбеціны, як пры суседнім стале падняўся вэрхал. Якісь хлапец, чыста апрануты, запатрабаваў, каб яму далі відэлец.

— Які гэта, — крычыць, — парадак? Есці рыбу-карася мне далі дзераўляную лыжку! Я, можа, да заходнееўрапейскай культуры далучыўся, а вы што падсунулі? Хамства!

Але афіцыянтка, да якое адрасаваўся гэты хлапец, відаць, была моцнага марксісцкага ўзгадавання. Яна навет і не зірнула ў ягоны бок, бразнула лыжкамі аб стол і толькі мімаходзь кінула:

— Нічаво, жраць захочаш, дык зжарэш.

Чалавека, які паспеў далучыцца да Еўропы, супакоіў ягоны сусед:

— Дарэмна, даражэнькі, порах траціце. Відэльцаў не дадуць, бо іх няма. А вы лепш так рабіце, як я: з сабой прыносьце ўвесь інвентар.

Другі сусед таксама параіў:

— А то можаце яшчэ і так зрабіць, як мы робім: узяць карася-рыбіну дахаты і ўжо там яе, падлу, раскалупаць па-культурнаму, з дапамогаю відэльца.

Не паспеў усцішыцца еўрапеец, як на другім канцы сталоўкі ўзняла лямант мясцовая кабеціна:

— Дзе, — крычыць, — навар ад курыцы? Чаму, — крычыць, — курыца вараная, а буракі тымчасам нішчымныя? Хто схлёбвае навар?

Тут і ўсе агледзеліся. Праўда. Буракі абсалют посныя, а курыца тымчасам недзе варылася. То дзе ж падзеўся курыны навар? Народ пачаў хвалявацца. Больш актыўныя рынуліся да загадчыка, але той, як гэта заўсягды бывае ў такіх выпадках, недзе знік. Рушылі на кухню, да галоўнае кухаркі.

— Ты што, — крычаць, — зараза, без навару даеш? Дзе навар ад твае курыцы?

Наперад высунуўся кухар, ейны памагач.

— Я шчэ не навырыў, — рагоча, — таму і навару няма.

Сунуліся да яго бліжэй, але кухар, здаравенны дзяцюк, з бліскучым чырвоным тварам, падхапіў нейкі велічэзны зялезны палонік.

— Асадзі, — кажа, — бо як дакрануся да каторага гэтым начыннем, адразу звару. Вось вам і навар будзе.

Актывістыя асадзілі. Тут пасмялела кухарка.

— Што я, — кажа, — размеркавальнік які ці што? Вы чаго прыліплі? Нашая справа дробная — нам што даюць, тое і кідаем у кацёл.

— Нам хоць і ката падсунь, — падтрымаў кухар, — мы і таго шурханём. Мы, — кажа, — усё роўна з вашага катла не ямо.

Гэтыя цвярозыя словы супакоілі народ. «Запраўды, — кажуць, — кухары маюць рацыю. Ім што ні дай — усё закалбоцяць. Ізноў жа, не ад усякай курыцы навар будзе». Актывістыя разышліся.

Калі мы ўжо дакалупалі рыбіну і меліся адыходзіць, ля парогу, дзе стаяла бочка з півам, пачалі адыгрываць новы нумар. Цяпер кон павёў нейкі мастак.

— Дзе загадчык? — крычыць. — Давай загадчыка! Бясчынства!

Гэтым разам з’явіўся і загадчык.

— Вы што, — пытаецца, — грамадзянін, у сталоўку прыйшлі бузу церці ці сваю порцыю з’есці? Аб чым лямант?

Тут мастак вельмі вобразна і маляўніча пачаў выкладаць, што ў сталоўцы няма парадку, што ён стаў пры хвасце дваццатым, а як дайшоў да бочкі, то ўсё піва «па блату» выпілі. «А мне, — крычыць, — у конаўку засіпела адна пена. Чаму так, калі я мастак і хачу конаўку піва?»

Загадчык зноў жа досыць талкова растлумачыў, што назіранне за правільным ходам чарады — справа самих трудзяшчых, спажыўцоў, а ягоная адказная справа — забеспячэнне паводле формы.

Тут і народ падтрымаў загадчыка ды насеўся на мастака:

— Слушна! Які ён мастак, калі няздатны без чаргі піва сербануць?

— Дрэнь ты, — кажуць, — а не мастак!

— А яшчэ і культурны!

— Пінская варона!

Збянтэжаны мастак сігануў із сталоўкі. Відаць, пабег із скаргаю да вышэйшых інстанцыяў. Следам выйшлі і мы:

— Ну, як, — пытаецца Супрынайц, — спадабалася табе? Як харчы?

— Што ж, — кажу, — харч? Дармо. Ведама, па такіх харчох жыць будзеш, але… Ну а сталоўка — таксама акурат ранейшае грамадскае харчаванне: і людзі тыя, і парадкі тыя. Адно, — кажу, — добра — вясёла, бы ў цырку.

Калі мы развіталіся і я пайшоў дахаты, то праз усю дарогу думаў пра культуру. Сянняшнія назіранні ў сталоўцы мне давялі, што культура — зусім лішняя нагрузка, бо без яе шмат весялей.

*12 лістапада.* Зноў пішуць — хутка пойдуць трамваі. Цікавая рэч — чалавечая натура. Як прачытаў першы раз — паверыў, прачытаў другі раз — ужо вера ўдвая паменшылася. А што будзе, як трэйці раз прачытаю?

*13 лістапада.* Нагляд устанавіў, што Разак шукае пакупніка на крамніну. Сяння прасачылі, што з ягонага двара зноў выехала хурманка. Цяпер няма сумліву — Яська збывае лішкі. На нашай вуліцы агульны спалох. Што рабіць з лішкамі?

*14 лістапада.* Ад сацыялізму да спірытызму — адзін крок. Учора я ў гэтым сам пераканаўся. Наязноў прычапіўся, каб пайсці з ім да нейкай Ніны Васільеўны, што спірытычныя сеансы выдае.

— Хоць ты, — кажа, — ні ў якое таямніцтва не верыш, але ў Ніны Васільеўны твой нігілізм разляціцца ў друзачкі.

Пайшлі. Дарогаю Наязноў апавядаў, хто такая Ніна Васільеўна. За бальшавікамі яна лічылася недзе «па асветніцкай лініі», выступала на ўсіх сходах і ўсё крычэла: «Камунізм! Сацыялізм! Мы — бальшавікі!» А была яна беспартыйнай бальшавічкай, мужык жа ейны быў парцейны бальшавік. Цяпер ён у ролі бравага камісара недзе люта змагаецца на ўсіх франтох, ну а бабе, натуральна, карціць даведацца, ці хутка ён вернецца дзеля пакаёвага змагання. Вось яна і рынулася ў спірытызму, каб хоць дух які дарадзіў ёй у гэтай самотнай справе.

Мы прыйшлі якраз у пару. Выклікалі духа Аляксея, але дух нешта зацяло — ён чамусьці не адгукаўся на выклік: ці то ён дзе па малой справе адхінуўся, ці можа яму кумпанія не спадабалася. Бо кумпанія, трэба сказаць, была несамавітая: сама Ніна Васільеўна, асоба ўжо ладна пацёртая, ейная прыяцелька, нейкая абскубаная істота, адзін былы камуніст, з абвіслым чэравам, і яшчэ нейкі стары хрэн. Калі не лічыць мяне і Наязнова, дык зусім зразумела, што ад такой кумпаніі які хочаш дух нос адверне. З гэтае, мабыць, прычыны і другі, і трэйці дух не адгукаліся. Нарэшце выклікалі нейкага духа Макса. Той, праўда, адразу пачаў круціць сподачкам. Напачатку ён настукаў, што мужык Ніны Васільеўны вернецца праз два тыдні сам, без ейных клопатаў. Пасля адказаў, што вайна скончыцца праз тры тыдні. А якая ж улада будзе, запыталіся ў яго ўсе, наша ці не? Ты, дух, скажы толькі адно слова — так ці не. І дух адказаў «так». Тут жанкі запляскалі ў далоні, а былы камуніст пагладзіў сваё чэрава.

Я, ведама, не даў гэтаму веры, але на ўсялякі выпадак занатаваў у дзённіку: вайна скончыцца трэцяга снежня.

Калі варочаліся з Наязновым дахаты, то я спытаўся: ці можна гэта з навуковага гледзішча пагадзіць такія дзве рэчы, як марксізм і спірытызм. Ён адказаў, што калі ўжыць дыялектычны метад, дык, безумоўна, можна пагадзіць якія хочаш рэчы. Хоць ён і прафесар, але тут, як мне здаецца, збрахаў.

*17 лістапада.* Назіранні аперацыяў Разака пакуль што не далі ніякіх станоўкіх вынікаў. Зноў вывезены машына мэблі і воз мяхоў. Што ў мяхох — не ўстаноўлена.

*19 лістапада.* А ў беларусаў няма адзінага фронту. Сяння чытаў у газеце пра заходнікаў і ўсходнікаў. Вынікае, што яны паміж собку

не зусім у згодзе. У чым разыходжанні, я з артыкулу так нічога і не зразумеў, але разыходжанні ёсць. Трэ будзе даведацца пра гэта ў Арыентацкага.

*25 лістапада.* Меў сустрэчу з прадстаўніком аграрыяў. Да Рыгора прышкандыбала аж з-пад Чэрвеня ягоная цётка. Ну, ведама, мы ўсе сабраліся да Рыгора, бо кажнаму цікава даведацца, што на свеце дзеецца. Сядзімо і слухаем, як цётка лепартуе:

— А дзетачкі мае, — казала яна, — не бачыла я гораду два гады, каб яго і век не бачыць. Ледзь не здурэла. Прывезлі гэта мяне тыя хлопцы, што на тракце пасадзілі ў машыну, ды ссунулі прост у руіны.

— Ну, — кажуць, — цётка, табе направа, а нам налева. Дыбай да свайго Рыгора.

Сказалі гэтак і паехалі. А я стаю як дурная. Зірнула направа — пустка. Зірнула налева — пустка. Зірнула спераду — дзірка. А гораду няма. Села гэта я на каменне дый плачу. Ажна тут нейкі добры чалавек трапіўся:

— Чаго, — кажа, — цётка, вільгаць пушчаеш? Паводле якога здарэння?

Ну, я яму і выклала як след: ехала, маўляў, у Менск, да Рыгора, а трапіла сама не ведаю куды.

— Дык, — кажа, — гэта ж і ёсць Менск, а сядзіш ты, цётка, на самай Ляхаўцы.

І скіраваў мяне, дзякаваць, куды трэба.

Мы ўсе надта смяяліся, як гэта цётка гораду не пазнала? Але Сымон давёў, што такія здарэнні могуць быць:

— Гэта, — казаў, — не дзіва, што цётка гораду не пазнала. Мой прыяцель Юрэц Бладук, дык той аднойчы хаты роднае не пазнаў, а і выпіўшы быў не надта. Прыйшоў гэта ён аднойчы ўвечары дахаты і пытае: «А венікі свежыя ё?» І пачаў распранацца. Скінуў гэта ён, выбачайце, усё і палез на сцяну з гальнём, які яму добры сынок падсунуў. «Ну, — кажа, — і напаруся сяння». Ускочыла жонка ў хату, а ён, выбачайце, зусім голы лезе на сцяну ды гальнём сябе па баках хвошча. «Паддай, — крычыць, — пары». Дзецям, ведама, пацеха, а жонка абурылася: «Ты гэта што? Звар'яцеў? Сорам згубіў?» А ён сваё: «Дырэктар, — крычыць, — давай сюды дырэктара! Гэта што за непарадкі! Чаму, — крычыць, — бабы ў мужчынскай лазні?» Ледзь яго ўгаманілі, што гэта не лазня, а свая хата. Дык вось якія здарэнні бываюць. А гораду не пазнаць — гэта глупства, заўсёды можна.

Пакуль мы слухалі апавяданне Сымона, Згржэмбіцкі меў інтэрвію з чэрвеньскай цёткай у пытанні тамтэйшых коштаў. Выявілася, што яйкі — 30, сала — 40, а попыт ёсць на дрожджы і соль.

*29 лістапада.* Нешта недзе дзеецца, а што — невядома. І чуткі пайшлі нейкія, надта сакрэтныя. Рыгорава жонка прысягалася, што сама на рынку чула, як казалі пра тры самалёты і адну бомбу. Дзюркаў знаёмы пад сакрэтам паведаміў, што на фронце заламаліся, але хто — яшчэ не даведаўся. Аднак казаў, трэба чакаць вялікіх падзеяў. Наязноў таксама ходзіць вельмі таямніча і нічога не гаворыць. Відаць, нешта і ён чуў. Каб мяне гэта надта турбавала, дык не, але ўсё ж цікава ведаць, з якога боку вецер дзьме.

*2 снежня.* Апанас Дзюрка набыў капялюш. «Годзе, — казаў, — у носе калупаць, пара і з новай Еўропай вітацца». Праўда, капялюш несамавіты, нібы стары грыб сядзіць на ім. Але Дзюрка надта ганарыцца.

— Цяпер я смела, — кажа, — магу да Еўропы далучацца, і ніхто мяне не затрымае. А йзноў жа, — кажа, — годзі нам памыі на галаву ліці, пара і рот разявіць.

А Сымону не падабаецца такое пераабсталяванне Дзюркі.

— Ат, — кажа, — дармо, хоць ты і пад капелюшом ходзіш, ■ ўсё роўна дурань. Хіба твая галава пад капялюх выструганая? Ёю палі забіваць, і то вялікі гонар.

Сымон, ведама, як кансерватар уважае, што на ўсякую галаву павінна быць свая пакрыўка.

*5 снежня.* Ёсць подлыя людзі на свеце. Сяння з'явіўся Хамовіч (той, што цэлую капелу захапіў) і прынёс рапараваць нейкую басэтлю.

— Вы ж, — кажа, — шаноўны, музычны майстра. Патэнту выбралі. Дык, будзьце ласкавы, адрамантуйце гэты музычны струмант. Прашу.

І нагою шмаргануў. Зараза! Хіба ён не ведае, што з мяне такі ж музычны майстра, як з цеста куля. Я яго, ведама, пагнаў з ягонай басэтляй, а ён пагражаў данесці, што я не музычны майстра, а сімулянты. І данясе. Такая паскуда гэта зробіць. А данясе — могуць быць непрыемнасці. Трэба, няйначай, ліквідаваць прадпрыёмства ды мяняць кірунак.

*7 снежня.* Загржэмбіцкі ў выніку нядаўняе размовы з чэрвеньскай цёткаю набыў каня і тэрмінова скіраваўся ў Чэрвеньшчыну.

*10 снежня.* Хадзіў у Управу. Там сустрэў былых актывістых. Разам за бальшавікамі працавалі. Нічога! І цяпер не крэкчуць: адзін у Управе на аржаным месцы, другі недзе на базе, а трэці — так, каля базы. Дармо, не прападуць!

— Як жывяце? — пытаюся.

— Ды так, — кажуць, — нічагуткі — пракідаемся патрошкі. А вы?

А што я? Ім пракідвацца добра, калі яны на службе, а мне, саматужніку з патэнтам? Тут як ні пракідвайся, а Хамовіч цябе ўраз расшыфруе. Не, трэба нешта рабіць.

*14 снежня.* Фэцкі кінуў голую тэорыю і перакінуўся на практычную матэматыку. Цяпер лічыць, што гэта, скажам, было б, каб у Менску наладаваў машыну дрожджаў, шугануў іх у Заходнюю, а там абмяняў бы на сала, яго — у Менск, і тут бы рэалізаваў гэтае сала на вольным рынку на грашовыя знакі. Як бы гэта ўсё выглядала? Папярэдняе інтэграванне дае нешта такое жудаснае, што навет на звыклай вада лікаў лысіне Фэцкага валасы дуба сталі. Фэцкі лічыць на два варыянты аперацыяў: адзін — калі дрожджы на рынку і машына чужая, другі — калі машына службовая і дрожджы службовыя. У апошнім выпадку выходзяць такія астранамічныя лікі, што калі аб іх прачуў Загржэмбіцкі, дык у бедака ад перапуду раптам аслабеў жывот.

*18 снежня.* Вайна скрышыла ўсе спецыяльнасці. Круглоў і той занядбаў сваю мышыную спецыяльнасць ды скіраваўся на купца. Праўда, ён больш прадае, чымся купляе, але гэта не шкодзіць яму мець пэўную, як ён кажа, дывідэнту. Учора меў ад нейкай аперацыі такі гешэфт, што ад лікаў млосна робіцца.

— Каб гэта, — казаў ён, — на мірную пару такая дывідэнта, дык жонку сваю ўшыў бы ў каракулі ды ў саболі, а сам бы малясаўку смактаў із залатое конаўкі.

Вось тут і кажы пра адукацыю. Недавука, мышыны спецыялісты, а галава — міністэрская.

*20 снежня.* А ўсё ж у паветры нечым пахне. Бо Мар'я Іванаўна і тая змяніла тон. Сяння ў яе заспеў нейкага невядомага з падазроным абліччам. Казала, што гэта ейны знаёмы шофер, навет далёкі родзіч. Прывіталася са мной надта скупа, як із чужым. І трымаецца неяк больш бадзёра і незалежна.

— Сядайце, — кажа, — таварыш Чужанінаў.

Цікава: учора быў Ванечка, а сяння — таварыш Чужанінаў. Не, тут штосьці не так. Ці тут гэты шофер прычынаю, ці то іншыя справы,

больш сакрэтныя. У кажным разе трэба даведацца, які тут вецер пад бабін хвост дзьме.

*21 снежня.* Купляў цацкі на ёлку. Дзіўная рэч: вайна, сквозь галеча, а людзі ёлку ладзяць. Разам са мной купляў цацкі нейкі тып.

— Дайце мне, — кажа, — якіх-небудзь вясёленькіх цацак.

— Вясёленькіх? — кажа крамніца, — калі ласка.

І шусь — на прылавак гармату, гранату, самалёт ды яшчэ якіхсь пушак.

— Не, — кажа тып, — дзякую за такую вясёласць. Я ўжо гэтага наглытаўся досыць.

— Дык якога ж, — пытае, — хрэна вам трэба?

— Дайце мне якуюсь цацачку, якая б клікала да жыцця, а не да смерці.

— Тады бярыце барабан або трубу.

— Не, не тое! Мне б вось такую мірную цацачку, каб, скажам, пявунка або птушачку, бо ў мяне ўжо гэтая чырвань вочы выела.

— Ну, дык наце вам коніка.

І паднесла да яго носу валавянага коніка.

Той аж напалохаўся.

— Вы, — кажа, — даражэнькая, што гэта мне сунеце?

— А што? — пытае.

— У гэтага каня хвост уніз вісіць, а мне трэба, каб угару стаяў.

Тут ужо і крамніца раззлавалася:

— Вы, — кажа, — грамадзянін, не выдумляйце тут! Што вы хочаце, каб я за вашыя за тры маркі ды хвост угару падымала? Сорам вам!

Публіка, што ў краме была, падтрымала крамніцу:

— Запраўды, — кажуць, — грамадзянін, нічога не выдумляйце. Якое вам яшчэ трасцы не стае? Бярэце, што даюць, дый годзе. Не зазірайце пад хвасты.

Так і пайшоў гэны грамадзянін, нічога не купіўшы. А і запраўды дзівак. Хіба яму не ўсё роўна, куды хвост вісне — уніз ці ўгару? Я купіў барабан, дырыжабаль СССР, дзве гарматы, пяць бліскучак, дзясятак пшыкавак. Жонка была задаволена.

*24 снежня.* Калі ўжо не пашанцуе, дык і дзеўцы ветрам надзьмуе. Гэта праўда. Небараку Загржэмбіцкага, якога колькі разоў ужо калечылі, зноў паклалі на лапаткі. Вярнуўся з падарожжа голы як бізун. Сустрэла яго ў лесе пад Чэрвенем нейкая вясёлая кумпанія і кажуць: усё ваша — будзе наша, а вы, пане, — вэк! Яшчэ і усыпалі

троху на дарогу, каб не замёрз часам. Ні каня, ні саней, ні солі. Кідаецца цяпер ува ўсе бакі, як вар'ят. А што з гэтага кідання будзе — невядома.

*28 снежня.* Куццю спраўляў дома, але дзе гэтыя тры дні калядаваў — нічога не ведаю. Адно толькі памятаю, што пілі, але дзе і колькі — хоць зарэж, не ўспомню.

Недарэчная рэч — гэтыя старамодныя святы.

*29 снежня.* Чуў я калісь аднаго разумнага чалавека, які казаў: «Трымай чалавека голадам, дык ён будзе мець толькі адно жаданне, а накармі яго, дык жаданняў у яго з'явіцца безліч». Гэта, мабыць, праўда. Сяння спаткаў свайго даваеннага, яшчэ з-за царскіх часоў, прыяцеля. Быў ён трохі афіцэрам, да Урангеля падаўся, там нешта рабіў, а цяпер нейкім парадкам ізноў тут апынуўся.

— Якім, — пытаюся, — ветрам зноў сюды закінула?

— Не ветрам, — кажа, — а самаходам. Радзіма пацягнула.

— Ого, — кажу, — дык васпан ізноў угару пайшоў. На самаходзе.

— Эт, якая тут гара, — кажа, — мышыная. Хіба ты не ведаеш, кім я раней быў? Дзеншчыка меў! А цяпер сам за халуя ў гэтага дзеншчыка. Дык, па-твойму, гэта парадак?

— Ну, ведама, — кажу, — у вашым стане дык парадак незайздросны. Але ж выгляд у вас, тымчасам, гладкі.

— Што выглёнд? Гэта глупства. Бо не аб адзіным хлебе жывы чалавек бывае.

— Праўда, — кажу, — да хлеба патрэбна і скварка.

— Ды я не аб скварцы! Пакуль даволі і гэтага. Надоечы вось дваццаць кіло масла загарнуў. Пакуль шчэ сяк-так самадапамагаемся.

— Ну і памагай Бог, — кажу, — абы ціха.

— Дзякаваць. З гэтага боку ўсё ў парадку, ніхто не падкалупне. Але не аб гэта ходзіць. Дзе духовая страва, я пытаюся? Улада дзе? Гонар? Вось аб што ходзіць! Вось чаго не стае!

— Але ж, — кажу, — вайна! Цяпер абы жывот.

— Ну, ты, даражэнькі, дробна плаваеш. Адным жыватом доўга ёрзаць не будзеш. Захочацца і на ногі стаць. Вось гэтага я і хачу!

Развіталіся мы, і ён бадзёра закрочыў з узнятай галавой, быццам трымаючы на версе брыля тую славу, да якой чалавек імкнецца.

Вось тут і зразумей чалавечую натуру. Пакуль із чужых талерак кавалкі збіраў, усё было добра, а як ўжо нажэрся чужога хлеба — на вышыню славы палез. Улады захацеў!

Праўда, што чалавеку ніколі не стае і жаданням ягоным няма канца.

*2 студзеня*. Новы год сустракалі ў Рыгора. Банкет наладзілі ў складку, натурай — каму што Бог паслаў. Больш налягалі ў кірунку пітва, бо гэты прадукт у нашай парафіі шануюць перадусім. Гасцей было шмат: і сваіх, і чужых. Банкет пачаў Рыгор. У сваёй уступнай прамове ён адзначыў, што гэты новы год — першы такі ўдалы год, і хаця і не з нашае віны, але ён вольны.

— Я, — кажа, — у вайну пагарэў ушчэнт. Але што вы бачыце ў мяне сяння? Дзе вынікі вагню? Няма іх! Вось жа я і кажу: дай Бог кажнаму так пагарэць. Дык жадаю ўсім вам такога шчасця, якое мне паслаў Малох вайны, — так скончыў Рыгор сваю прамову і перакуліў чарку.

Мы зрабілі тое самае, а пасля пачалі падвойваць і патройваць. Рыгоравы госці, ягонае начальства з управы, больш налягалі на закусь. Відаць, не надта сытыя.

— Яно і зразумела, — казаў Апанас, — бо яны ж на працы, а мы не працуем. А хто не працуе, той і не есць. Вось чаму нашыя менш ядуць, а больш налягаюць на пітво.

Як ужо трохі замарылі чарвяка, зноў паліліся прамовы. Але цікавага было мала. Усе гаварылі пра шчасце, пра лепшую будучыню, пра йшчэ лепшае жыццё на новы год. Езуіты! Шмат каму з іх не снілася такое жыццё, як цяпер жывуць, а гавораць аб лепшым.

Калі ўжо добра падсілкаваліся, паэта Цымбальскі задэкламаваў свой навагодні верш. Я не памятаю, што ён напачатку крычэў, але пасля як грымнуў кулаком па стале і залямантаваў:

*Сваю душу пераніцую!*
*Душу варожую скрышу!*
*Відэльцам сэрца пракалю я!*
*Усіх ушчэнт перадушу!!!*

І як пахопіць крэсла, як бразне аб падлогу — ажна ёлка пахіснулася і цацкі сыпнуліся долу. Усе напалохаліся — жах! Асабліва жанчыны. Рынуліся хто куды. Рыгор пачаў супакойваць:

— Дарэмная трывога, — кажа, — не бойцеся. Гэта яму натхненне падпёрла. Апарожніцца, і ўсё будзе ў парадку.

І праўда, нацадзілі Цымбальскаму конаўку, ён высмактаў і змоўк.

Калі мы ўжо залілі гэты спалох, слова забраў Сымон:

— Вось тут я чуў, што гаварылі пра новае шчасце. А на які мне хрэн гэтае вашае шчасце? Мне што трэба на гэты год? Марцыпаны?

Мне патрэбна спакойная праца, а ў выніку яе — скварка і чарка. І каб ніякі чорт не мяшаўся ў маё жыццё. Вось і ўся мая палітычная крэйда[1]. Дык ці многа я хачу на новы год? Хто скажа, што я хапіў лішняга? Ніхто! Дык чаго ж вы тады лезеце да мяне з усіх бакоў? Вы хочаце, каб я на вас працаваў? Дык не! Скулу вам у бок! Гэтага не будзе!

Тут усе загаманілі:

— Выбачайце, Сымоне, мы гэтага не хочам. Наадварот, мы вельмі вас паважаем.

— Не! — крычэў Сымон, — вы хочаце…[2]

Нарэшце Сымон змогся і, калі выпілі яшчэ па чарцы, сказаў:

— А чорт яго дзяры! Няхай будзе, як хочаце. А я вам не кумпанія.

Як скончылі банкет — не памятаю.

*8 студзеня.* Паэт Цымбальскі бегае па ўсім горадзе, як вар'ят, і крычыць:

— Загінула ўсё! Канец усяму і пагібель!

А што загінула? Можна ўважаць — глупства. Жонка ягоная прадавала стары цэбар ды разам із цэбрам аддала з вядро старое паперы, што там заваляласся. Паленавалася вытрасці. А гэтая папера, як на той грэх, якраз і былі самыя таленавітыя вершы Цымбальскага. Ну, не згледзела баба, што гэта была мастацкая прадукцыя, а не ўжытковая папера. Можна было б бабе і дараваць. Але Цымбальскі проста звар'яцеў:

— Век не дарую, — крычыць, — загубіла! Зарэзала! Самыя актуальныя вершы. Яшчэ на выгнанні пісаныя ў тысяча дзевяцьсот зацёртым годзе.

Людзі яму раяць, каб новыя напісаў:

— Што табе, — кажуць, — паперы шкада? Пішы нанова.

— Што людзі разумеюць? — сумуе Цымбальскі. — Я туды душу сваю ўкладаю, кроплямі ўласнай крыві паліваў гэныя радкі! Я, — кажа, — сваё сэрца напароў на дзіды, а яны пра паперу… Мяшчане, — кажа, — вы ўсе. Абывателі.

Чым скончыцца гэтае вар'яцтва — цяжка прадбачыць. Зусім проста, што чалавек загіне. Вось што значыць, калі бацькі змалку не білі.

*10 студзеня.* Мікіту Гузака доктар пасадзіў на дыэту: забараніў піць і загадаў тры разы на дзень есці толькі рэдкую страву. Бо ў Мікіты, як казаў доктар, ад ненармальнага ўжывання алкагольнага пітва зусім

[1] Мабыць, трэба разумець: credo. *Л. К.*

[2] У гэтым месцы з нейкае прычыны Ів. Ів. пяць радкоў вычыркнуў. — *Л. К.*

пераблыталіся сэрца і печанцы, і цяпер ніяк не намацаеце — дзе адно, а дзе другое.

Мікіта паслухаўся, пабіў усе шклянкі і сеў на дыэту. Мы з Сымонам знарок хадзілі глядзець, як Гузак гэную дыэту глытае. Прыйшлі снеданнем. Жонка сядзіць, скварны булён сёрбае, а Мікіта выцадзіў у міску паўлітра, накрышыў хлеба і цыбулі ды чэрпае лыжкай, быццам зацірку.

— Ліха яго матары, — кажа, — з гэтым пітвом. Калі доктар загадаў — нельга, знацца, нельга. Я магу і не піць, бо я не вораг свайму здароўю.

Мы спыталіся, ці дапамагаюць яму гэтыя лекі.

— Ці дасцё веры, — кажа, — лягчэй стала. Як высербаеш міску гэтае дыэты, дык адразу ад сэрца і адлягло. Адцягвае. Доктар таксама казаў, што я ўжо палепшаў. Надоечы хадзіў да яго на кантролю.

— Ну, як, — пытае, — кінулі піць?

— Ані кроплі, — кажу.

— Ну, то і добра.

Выстукаў гэта ён мяне малаточкам, праз трубку паслухаў ды кажа:

— Ну, вось цяпер чуваць, што ў вас і сэрца ёсць. І ведаеце, шаноўны пацыента, навет большае, чымсь трэба.

Вось што значаць навуковыя лекі.

Толькі жонка Мікітава бедавала, што надта ўжо дарагія цяпер лекі пайшлі:

— Жартачкі, — кажа, — тры паўлітроўкі на дзень. Вельмі дарагія лекі.

— А ты чаго хочаш, — крычыць Мікіта, — каб у мяне ўсе ворганы зблыталіся ў кучу? Мне здароўе даражэй. Чула ж, што доктар казаў. А супроць навукі не пойдзеш, бо доктар ведае, каму якія кроплі загадаць.

Не такі чалавек Мікіта, каб яго доктар ашукаў.

*12 студзеня.* Апанас Дзюрка аднекуль прывалок піяніну. Кажа, што ягоны прыяцель Мімікрыйскі спрэзентаваў. Брэша! Дзе гэта ёсць цяпер такія прыяцелі, каб піянінамі кідаліся? Недзе зблатаваў. А ў хаце цэлы гармідар. Апанасавы дзеці праз увесь дзень на гэтай музыцы дубасяць, а жонка лаецца:

— Заняў, — кажа, — усю хату гэтай гаргарынай — няма дзе і свінчаці замяшаць.

— Дармо, баба, — суцішае Апанас, — хутка і ты будзеш на гэтай штуковіне выцілінгваць.

— А каб цябе немач цілінгала, — злуецца Апанасіха. — Мне дзяцей няма калі дагледзець, а ён з музыкаю.

Такія тэатры ў Апанаса цяпер цалюткі дзень.

*15 студзеня.* Пілiп Дручок апынуўся на казённых харчох. А з-за чаго? З-за свае дурноты. Ад нейкае пары на яго пачала насядаць жонка. Пілуе і пілуе штодня.

— Усе людзі як людзі, а ты нейкая недарэка — ні сабе, ні жане. Або ты, — кажа, — будзь запраўдны муж і сутрымвай жану, або кіну ўсё да ліхай матары. Бо я такіх, — кажа, — як ты, хоць дзесяць знайду, калі падамся па вайсковай лініі.

Праўда, пенсія Дручка як бухгальтара на сяння нічога не вартая, можна сказаць, адзін міф, і на яе, ведама, жыць нельга. Але Піліп не ўлічыў ваеннае сітуацыі ды ўважаў, што калі ён сяння працуе, знацца, павінен і жыць.

— Ты, — казаў ён жонцы, — не агітуй. Мне ўжо і самому гэтае жыццё падпёрла пад самыя рэбры. Але дзе мне выйсце?

— А мне, — крычыць баба, — якая да гэтага справа? Ты, — кажа, — галава, ты і думай. А не можаш — дык злазь з даху і не псуй гонтаў.

Каб на іншага чалавека, то пасля такіх слоў ён бы так усыпаў бабе і па даху, і па фундаманту, што век бы памятала. Але Дручок — чалавек просты, і яго нарэшце дапілавала баба да таго, што мусіў ужыць дадатковую прафесію — пайшоў красці свіней.

Першыя дзве аперацыі правёў удала. Збалансаваў на Пярэспе двух кабаноў на пудоў сем. Але на трэйцяй — баланс не сышоўся — злавілі Дручка на самай гарачай справе. Цяпер сядзіць і плача, а суседзі смяюцца: не за сваю справу, браток, не бярыся: свіней красці — не папераў шастаць, тут навука патрэбна!

А Сымон казаў, што і ў гэтай справе, як і ў кожнай, апрача навукі, патрэбен спрыт:

— Быў, — кажа, — у нас у трэсце адзін бухгальтар. Той, здаецца, і чалавек быў зусім нікудышны. Калі звонку глянуць, дык толькі назоў той, што чалавек. Але, каб вы ведалі, якія ўнутры гэтага недарэкі сядзелі спрыт і розум. Ён праз чатыры гады скрабаў нажом бухгальтарскую кнігу, і ў яго заўсёды, як казаў, балансаваліся ўсе капейкі, а лішнія рублі, што ён адтуль выскрэбваў, клаў сабе ў кішэню. Так і не злавілі, а касіў тышчамі. Вось гэта быў бухгальтар! А Піліп — дрэнь! Такі і кнігу праскрабаў бы, і ніводнага рубля сабе не наскрабаў бы. Спрыту ў руках няма.

*17 студзеня.* Бачыў, як упяцёх білі аднаго. Відовішча было надта цікавае. Я вельмі рагатаў, як яны яго з усіх бакоў абкладалі. Але, шчыра кажучы, я б не хацеў быць на месцы гэтага аднаго.

Сымон, які таксама наглядаў бойку, не падзяляў майго вясёлага настрою.

— Я, — кажа, — такога не хвалю. Бойка — гэта мастацтва. І мастацтва высокага гатунку. Толькі трэба сам-насам. Калі ж пяцёра ды на аднаго, ды, як гэта часам бывае, із зброяй, то гэта ўжо не мастацтва, а даруйце…

— Дык вясёла, — кажу.

— Дурань і на паховінах смяецца, — раззлаваўся Сымон. — І гэты смех дурны. Гэта ўсё роўна, як бы казалі мне: «Сымон, вось табе стрэльба, і страляй дзіця». То хіба я на гэта здольны? Хіба я пошасць якая? Не!

Сымон такога мастацтва не вызнае. Я із Сымонам не згодны. Мне, калі б'юцца, дык і смешна, абы мяне не білі.

*20 студзеня.* Сяння пазнаёміўся з Рурыкавічам. Зайшліся гэта мы з Рыгорам у закусачную па дзвесце грамаў зрабіць, ажна бачым, тут нейкі здаравяка на сцяну лезе:

— Я, — крычыць, — дваранін! Я Рурыкавіч! Мой дзед, — кажа, — за адну ноч дзесяць тысяч дзесяцін прапіў, а ты мне, гад, дзвесце грамаў паверыць не можаш. Эх ты, — кажа, — беларус!

Але гаспадар закусачнай трапіўся чалавек досыць вытрывалы.

— Я, — кажа, — із тваім дзедам гарэлкі не піў, хоць, можа, ён і Рурыкавіч быў. А мне — грошы на бочку, і ніякіх князёў!

Як мы даведаліся, гэты аскалопак княскага роду прасадзіў у закусачнай свой паўмесячны інжынерскі заробак, і да поўнай формы не дапяў — не хапіла грамаў дзвесце. Мы з Рыгорам паставілі яму па сто грамаў і пазнаёміліся. Абяцаў навет дакуманты паказаць, што ён Рурыкавіч. Можа і так? У кажным разе з такім чалавекам пазнацца нядрэнна. Калі і не Рурыкавіч, то ўсё ж чалавек свой.

*23 студзеня.* На нашай вуліцы асяліўся заходні чалавек і адразу пачаў заводзіць свае парадкі. Пахадзіў гэта ён па хатах, пазнаёміўся з суседзямі, а пасля хваліўся:

— Я, — кажа, — не магу так проста жыць, як вы. Я не магу так, як вы, у хату сунуцца, я павінен увайсці па-культурнаму.

З гэтае, відаць, прычыны ён заказаў візітоўкі. Але ягоныя культурныя намеры адразу ж сустрэліся з непераможнымі цяжкасцямі.

Пайшоў гэта ён да Мікіты Гузака купіць самагонку, і толькі яму Мікіціха адчыніла дзверы, ён адразу — шусь — ёй візітоўку ў рукі. Тая ажна прысела з перапуду: думала, што агент які прыйшоў апарату заарыштаваць. Добра — у хаце быў Мікіта, які толькі што прыняў чарговую порцыю дыэты. Той не збянтэжыўся. Ён узяў у рукі візітоўку, прачытаў «Мікола Сямёнавіч Дурмідаў, такі і такі асветны чын» і вярнуў візітоўку назад.

— А ты мне, — кажа, — усякіх паперак не тыкай. Ты мне, шаноўны, грошы гані наяўнымі знакамі — або фенікамі, або іншай валютай, мне гэта ўсё роўна.

Мусіў Дурмідаў пакласці візітоўку сваю назад у кішэню.

Другая асечка здарылася ў Загржэмбіцкай. Пайшоў да яе Мікола Сямёнавіч прыдбаць якога тлушчу кавалак і таксама пачаў гандлёвыя дачыненні з візітоўкі. А баба Загржэмбіцкага (тутэйшая) не надта спакушаная ў культуры — яна таксама гэную візітоўку ўзяла за ордэр на спекулянцкі арышт:

— Вы, — кажа, — пане, памыліліся. Мы людзі бедныя, і самі не штодзень сала купляем.

Так і не паказала яму свайго сала. Здарыліся яшчэ дзве такія няўдалыя спробы з візітоўкамі, і Дурмідаў мусіў выкінуць іх на сметнік.

Значыцца, кажны зачын, апрача добрае волі, павінен мець яшчэ і пэўную глебу.

*25 студзеня.* Калі шчасце, дык і з мяшка вылезеш. Байцоў выплыў на паверхню. Мы ўсе ўважалі, што чалавек так і загінуў, ажна не — вылузаўся.

— Хоць, — казаў, — гэтым разам я ўжо застаўся зусім голы, горш як Адам, але дармо — на жывой костцы мяса нарасце.

За агента працаваць ужо не хоча, а мяркуе адчыніць, як ён кажа, рэстаўрацыю.

— З чым, — пытаюся, — гэтую справу развінеш? Тут капітал патрэбен, а ў цябе вунь сораму няма чым прыкрыць.

— А навошта капітал, — кажа. — У гэтай справе абы рукі зачапіць, а там ракою паліецца. Глядзі, як у Свідрыцкага. А з чаго той пачынаў? Таксама з нічога. А цяпер грошы мяхамі носіць.

Нічога дзіўнага, калі і адчыніць. Бо, як гаворыць Сымон, калі чалавеку шанцуе, то і ў лапцёх танцуе. А Байцову шанцуе, калі сам з мяха вылез.

*28 студзеня.* Калі не пашанцуе, дык і на печы катар схопіш. Усе нашы дроў на зіму запасілі, бо ведалі, што зіма то не лета, хоць і вайною. А вось прафесар Вадзянецкі і рахункавод Супрынайц, дарма што высокаадукаваныя, гэтае простае рэчы не прадугледзелі — засталіся на зіму без палкі дроў. А цяпер сядзяць у халоднай хаце і ў кулакі дзьмуць. З гэтага, ведама, пацеха малая, бо як казаў ім Разак, ці ты хукай, ці ты дзьмухай — ўсё роўна будзе халодна. Хукам не нагрэешся. А нагрэцца трэба. І вось вымушаныя гэтыя небаракі праблему паліва развязаць на штодзень. На тым тыдні спілавалі ў парку дэкарацыйнае дрэва, пасля звалілі радыёвы слуп, а ўчора пайшлі платы ламаць. Супрынайц, хоць таксама адукаваны, але трохі спрыту мае: ён спакваля пачаў дошкі адцінаць. А Вадзянецкі — той зусім голы тэарэтык — урэпіўся ў слупок і давай яго трэсці. Пацеў, ажна пакуль не грымнуўся разам із слупком. Нарабіў трэску і грукату. Вартавы, які стаяў паблізу, думаў, што гэта зладзеі лезуць, і стрэліў. Натуральна, хлопцы ірванулі з месца. Можна ўявіць, якую хутчыню яны развінулі.

— Пакуль дабеглі да ўкрыцця, — прызнаўся Супрынайц, — то зрабілася надта горача.

Не дзіва! А тымчасам Вадзянецкі згубіў акуляры і з правае нагі калошу, а Супрынайц пакінуў на плоце рукавіцы з аўчыны. Вось табе і нагрэліся!

— Не, — казаў на гэта Гузак Мікіта, — навука супраць спрыту ніколі не ўстоіць. Двое вучоных, а зрабілі горш, чымся адзін невучоны. Бо скажам, я, хоць і не прафесар, а такая справа, як плот расцярушыць, мне раз плюнуць, а яны не здолелі.

— Знацца, не з таго канца вучыліся, — не згадзіўся з імі Сымон. — Бо калі б гэта на запраўднага вучонага, той бы так не хібіў. Быў у мяне прыяцель, вучоны прафесар, акадэмік, той не тое што плот — хату мог над табой разабраць, а ты б нічога і не чуў бы ў ложку лежачы. Вось гэта навука! Чыстае пароды. А Вадзянецкі і Супрынайц, відаць, мяшанцы.

А як мне здаецца, дык проста людзям не шанцуе.

*30 студзеня.* Няма сумлеву, што Мар'я Іванаўна хоча разарваць са мною сувязь. Стрэў сяння на вуліцы, прывітаўся, а яна нат не спынілася: віль хвастом і пайшла ў другі бок. Ці сачыць яе, ці даць адстаўку? Пакінуць — шкада, бо такое вагі бабу не хутка знойдзеш.

*1 лютага.* Яську Разака расшыфравалі. Выявілася, што сваё дабро ён сплаўляе ў Заходнюю. З якой мэтай — яшчэ не ўстанавілі. Зноў

пад'язджалі да яго ў справе Фэцкага сакрэту аб канцы вайны. Дарэмна! Яська толькі ўсміхаецца:

— Не для таго, — кажа, — я купіў гэты сакрэт, каб яго ўсе ведалі.

На нашай вуліцы зноў запанаваў непакой.

*3 лютага.* У Арыентацкага нічога толкам не даведаўся. Што такое заходнікі і што такое ўсходнікі — так яшчэ і вісне ў паветры.

— Бачыце, — казаў Арыентацкі, — тут ёсць дзве такія плыні, і хоць іх мэты розныя і шляхі розныя, але яны ўсё роўна як бы адно. Разумееце?

Я зразумеў мала.

Шчыры нешта жаліўся на іхную мляўкасць і адсутнасць нейкай жывой крыніцы.

— Бо хто, прыкладам, у Менску гаворыць па-расейску? Русафілы і русацяпы. А тымчасам Заходняя — Еўропа і новае жыццё. Яшчэ аб русафілах ды расейскай мове!

Тут я зразумеў яшчэ менш. Трохі святла працадзіў на гэтае пытанне Авечка Ахрэм.

— Можна, — казаў ён, — і на месяцы сядзець, а тымчасам на зямлі гарох сеяць.

Усёй глыбіні гэтага філасофскага выснаву я не здолеў асягнуць, але перакананы, што тут крыецца пэўны сэнс.

Усё ж я ў кумпаніі Арыентацкага заўважыў, што пытанне аб заходніках і ўсходніках іх мала турбуе, а больш займаюць праблемы службовых выперадкаў. Бо мала не дзве гадзіны яны горача абмяркоўвалі службовую аварыю свайго саратніка Мімікрыйскага. Як я зразумеў, дык гэты спрытны хлапец хацеў сігануць без чаргі па службовай драбіне ажна праз чатыры ступні. Але на самым версе сарваўся і бразнуўся вобзем. І так бразнуўся, што толькі мокрае месца засталося. Ён ужо заносіў нагу на верхнюю ступню службовае драбіны, калі нейкі ягоны злоснік — чырк на яго ў пэўнае месца цыдулку: «Няпэўны чалавек, а ў мінулым — яшчэ больш няпэўны». І чалавек паляцеў долу.

Калі мы вечарам у сваёй кумпаніі абмяркоўвалі гэную аварыю Мімікрыйскага, то бальшыня схілялася на тое, што чалавеку не пашэнціла. Толькі Сымон не згадзіўся і давёў, што ў службовай кальеры галоўнае адыгрывае выпадак.

— Ці ведаеце вы Грака Язэпа? Ды пэўна ведаеце! Ён на Савецкай вуліцы ходнікі падмятаў, дворнікам служыў. Дык калі хто бачыў Грака, то бачыў і ягоную бараду, бо яна ў Язэпа, што мятла, якою ходнікі

тыя падмятаў. І вось аднойчы, а было гэта ў 27-м годзе, угледзеў Язэпаву бараду нейкі савецкі чын. І надта яму спадабалася гэтая барада, акурат рабоча-хрэсціянская барада: тады ўважалася, што была ўлада рабочых і хрэсцян, а знацца, трэба было трохі і іхных прадстаўнікоў да ўлады. Ну, справа нядоўгая. Туды, сюды — выбралі Грака ў дэлегаты ад менскіх хрэсцян і пасунулі яго ў Маскву, каб там да вышэйшае ўлады абраць.

Пачаставаліся дэлегаты з'езду на банкеце, селі на цягнік і папхнуліся ў Маскву. І вось толькі ад'ехалі за Антонава, Язэпу прыціснула пільніца. А трэба сказаць, што Язэп на цягніку блізу не ездзіў, а тым больш у мяккіх вагонах, і не ведаў усіх парадкаў. Кінуўся ён тудысюды — няма рады. Выскачыў у калідорчык, зірнуў навокал — нагвалт пад кусты трэба, а як ты збегаеш, калі тыя кусты толькі перад вачыма мільгаюць. Не ведаў ужо, што і рабіць. А тут два нейкія гіцлі падсунуліся.

— Што ты, дзядзька, топчашся тут, быццам ушкодзіўшы.

— Шчэ не, але неўзабаве так яно і будзе.

— Дык у чым справа? Гэта зусім проста.

Падвялі яны Грака да нейкае штуковіны ды і кажуць:

— Таргані за гэтую снасць і… кропка.

Грак таргануў, бо думаць ужо не было калі. І праўда — цягнік стаў. Саскочыў Язэп ды, выбачайце, у кусты. Цягнік пастаяў трохі, свіснуў ды зноў пайшоў. Выбег Язэп з-за кустоў, «пачакай» крычыць. Але дзе там! Паехалі.

Мусіў Язэп вярнуцца дахаты пехатой. А назаўтра зноў пайшоў вуліцу падмятаць. Так і скончылася ягоная кальера. А шанц быў найлепшы, бо бараду меў хрэсцянскую.

Вось тут і кажы, што не выпадак. За малою драбніцаю чалавек не трапіў у вышэйшыя члены.

*7 лютага.* Сяння з'явіўся на нашую вуліцу нейкі паўнамоцны чын, каб збіраць складку на дапамогу.

— Ёсць, — казаў, — такое таварыства сабедапамогі, якое не мае сродкаў, а тымчасам у горадзе шмат нэндзы, дык трэба ж і ёй трохі дапамагчы.

Добра. Галечы ў горадзе хапае, бо шмат хто ў пераходны час бадзяўся немаведама дзе і не парупіўся сам сабе дапамагчы. Трэба ж людзям паспагадаць. Таму мы не надта і спрачаліся: скінулі — хто рублёўку, хто — дзве, а хто і жменю круп. Толькі як дайшла чарга да Сымона, той упёрся як вол:

— Не дам ні феніка, і годзе. Калі я ў сваёй хаце дам жабраку бульбіну, дык ведаю, што ён яе сам з'есць. А тут я не гварантаваны.

— Як гэта?

— А так! Можа, вы мой фенік прап'яцё?

Паўнамоцны член надта абурыўся на гэтыя словы і ўжо пачаў гразіць, але Сымона нялёгка збіць з капылоў:

— Вы, — кажа, — даражэнькі, у бутэльку не лезьце, бо я тыя складкі добра ведаю — у мяне такі ж выпадак быў. А вось паслухайце. У трыццатым годзе, калі із скваркаю было вельмі туга, мы аднаго разу скаліся ўпяцёх аж на дзве тысячы і скіравалі Юрчанку Аўхіма ў Смалявічы. Купі, кажам, сала або кабана (там было танней), пасля падзелім складанае. Добра. Паехаў Юрчанка, а мы чакаем і аблізваемся. Чакаем дзень, два чакаем, тыдзень — няма пасланца. Рушылі да яго ў хату. І што ж мы бачым? Ляжыць ён, гад, што брук, ды песні спявае. Дзе, пытаемся, складанае, а ён рагоча: «За граніцу, — кажа, — адправіў вашае сала, на золата абмяняў».

І зноў рагоча, і спявае: «Ах, эти чёрныя глаза». Ну, пастаялі мы, паглядзелі, плюнулі ды і пайшлі. Што ўжо тут возмеш? Дык вось вам, даражэнькі, і складанае. Мы грошы давалі, а ён прапіў, зжэр і песні спявае. Дык што вы на гэта скажаце?

Паўнамоцны член нічога не адказаў, толькі рукой махнуў. Так Сымон і не даў складкі.

— Мне, — казаў, — гэтай капейкі не шкада, але дзе йдзецъ аб супольным або таварысцве, там мяне быццам сярпом па... шыі. Не магу трываць.

*8 лютага.* Сусветнае палітычнае расклінаванне дапяла нарэшце і да нас. Дзюрка і Мікіта (швагры) на глебе гэтага расклінавання такую развялі дыскусію, што давялося іх разнімаць. Змяніўшы кепку на капялюш, Апанас змяніў і свае палітычныя пераконанні. І цяпер кажа ўсё наадварот таму, што казаў раней. Ходзіць па хатах ды выхваляецца:

— Гэта было не так, а тое было не гэтак. А вы дваццаць год мадзелі ў цемры. Мы гэта пераробім, а тое знішчым. Мы вас навучым, бо новая палітыка — гэта вам не жарты. І трэба змагацца.

Мікіта нарэшце не вытрымаў:

— Ты мне пра палітыку не боўтай, бо я гэтага не ведаю. Дый табе яна патрэбна, як пакрыўка ад гультайства. Ты мне адно скажы: чаго ты мяне, пень яловы, навучыць можаш? Ці не навучыш ты мяне, як хутчэй дамавіны габляваць? А мо ты маю жонку навучыш, як голыя

крупы зварыць, каб яны былі з мясным адварам? Эх ты, малпа абскубаная! Пень пад капелюхом!

Не здаваўся і Апанас:

— А ты, — кажа, — бутэлька піўная! Ты цёмны і некультурны тыпус!

— Што? — узарваўся Мікіта, — я тыпус? Ды я табе, сукін ты сын, за такія словы…

І бац па капелюшы.

Капялюх пакаціўся, а яны ў загрудкі. Ледзь расцягнулі. Цяпер, калі сустрэнуцца, дык інакш не вітаюцца, як толькі «Здароў, малпа!» ды «Вітанне бутэльцы». А былі дружнымі швагрaмі.

Сымон, гэты злоснік усялякае палітыкі, цяпер ходзіць із задавальненнем:

— Ну, што? Не казаў я пра гэтае ашуканства? Бачыце, што яна робіць: кліны забіваюць з бакоў, а яны шчэпяць знізу. Так яна, гэтая палітыка, скрозь.

*10 лютага.* Калі падумаць, колькі людзей пакалечыла сябе за так званыя палітычныя перакананні, дык ажна страх бярэ. Іншы мяняў іх за гэтыя дваццаць пяць гадоў па дзесяць разоў і не заўсёды без аварыі. Быў у мяне да сямнаццатага году добры знаёмы, Кручкоў Сяргей. Ён меў пасад прысяжнага даверанага, перакананні — сацыялістага дэмакрата і зарабляў добрыя грошы. У сямнаццатым годзе ён хадзіў па вуліцах пад сцягам, спяваў песні, а пасля неяк раптам так высока сiгануў, што я страціў яго з вачэй. А сяння — вось навіна: гляджу на Суражскім рынку, а ён сядзіць пад яткаю, спераду расставіў розныя статуйкі, шмаццё расклаў і наагул розныя дарэвалюцыйныя дрындушкі. Прадае. Схуднеў, аброс — зусім сапсеў.

— А даражэнькі, — кажу, — колькі год не бачыліся! Ну, як жыццё?

Зірнуў ён на мяне з-пад ілба і пытае:

— А хіба гэтае, што мы сяння робім, можна назваць жыццём?

— Ну, ведама, — кажу, — цяжка. Але ж вайна. Чаго добрага хацець?

— А я цяпер, — кажа, — нічога не хачу: ні вайны, ні рэвалюцыі. Хачу, каб ізноў быў Мікалай!

— Але ж даруйце. Вы ж самі ў сямнаццатым годзе крычалі: «Далоў крывавага Мікалая! Далоў вампіра!» І шчэ, памятаю, песню спявалі «Адракнёмся ад старага міру».

— Ну, што ж? Спяваў, бо дурны быў. І ўсе былі дурні. Бо каб не спявалі, дык гэтага не было б. Спусцілі сабаку з ланцуга, а сабака,

ведама, сабака: кідаецца на ўсіх, а таго не ведае, што калі гаспадар не пакорміць, дык здохне.

Вось табе і на! То крычэў «Далоў Мікалая!», а цяпер кажа «Давай Мікалая». Знацца, і запраўды быў дурань, калі спяваў «Адракнёмся», бо тым часам яшчэ і сяння прадае рэчы, якія набыў пры гэным «крывасмоку»…

Ідучы з рынку, я думаў, колькі ж мусіў гэты чалавек за свайго паўвека перапэцкаць і змяніць гэтых палітычных кашулек, каб дайсці ад сацыялістага дэмакрата да чарнасотніка? І колькі ён пераспяваў песняў? І на колькі матываў? І што яму гэта каштавала здароўя?

Тут я зноў згадзіўся з Сымонам, што лепш не вызнаваць ніякае палітыкі, чымся мець ад яе адну згрызоту.

*12 лютага.* Прафесар хэмік Адбітоўскі перакінуўся на мылавара. Ён неяк ужо даўна жаліўся Вадзянецкаму, што ягоны цяперашні інжынерскі пасад не задавальняе ўсіх патрэбаў.

— Мушу, — казаў, — мець дадатковы прыбытак. Навуковыя веды ў мяне ёсць, а таксама і каўстычнай соды дастаў.

Праўда, не зважаючы на свае навуковыя веды, ён дзве першыя зваркі сапсуў: нечага не дадаў, а нечага перадаў. Каб на іншага, дык бы ўжо кінуў гэтую брудную справу, але Адбітоўскі — чалавек упорысты.

— Ды хіба ж я, — кажа, — трасца яго матары, не звару гэтае пошасці? Які ж я тады хэмік-прафесар? Дыплом, — кажа, — парву, калі не звару!

І напэўна парваў бы. Але, на ягонае шчасце і на шчасце ўсяго закарэлага грамадзянства, трэйцяя зварка ўдалася адмыслова.

— Такое мыла, — хваліўся Адбітоўскі, — што само без вады мыліць. «Тэжэ» — невыразны колер.

Адно, што не спрыяе разгарнуцца, як след, Адбітоўскага прадпрыёмству — гэта брак сыравіны. Сабак пастралялі, катоў лавіць цяжка, а пошасці цяпер ніхто іншай не выкідае.

— Дармо, — кажа Сымон, — Адбітоўскі не Заблоцкі, гэты на мыле заробіць, бо ён вучоны, а вучоныя, трэба сказаць, усе ўпорыстыя. Быў у нас калісь пры Акадэміі таксама вучоны. Дык што б вы думалі? Гэты Камель (яго Камялём звалі) хацеў зрабіць нейкае кола, каб само круцілася. І як мы пазней даведаліся, дык ён ажна пяць гадоў употайкі ад усіх майстраваў гэнае кола. Апошнюю капейчыну заганяў у гэныя спіцы. Во да чаго быў упорысты! Не ведаю, ці закруцілася ў яго

нарэшце гэнае кола, ці не, бо ён нечакана недзе знік разам із сваім колам. Адно пераканаы, што калі ён яшчэ жывы, дык і цяпер майструе, бо ўпорыстасць у вучонага, што нораў у майго каня — нічым не пераставіш. Або лоб паб'е, або свайго дапне.

*14 лютага.* Юзік Загржэмбіцкі працерабіў шлях у Заходнюю. На першы раз сам ехаць пабаяўся — скіраваў жонку. Тая, набраўшы ў кошык рознае драбніцы, прывезла адтуль воз дабрыні.

— Там, — казала, — усякага дабра ў гаспадароў больш, як у нас на складах.

Яно і зразумела: гэныя людзі яшчэ не паспыталі калгаснага хлеба, а таму і свой маюць. Юзік наладаваў повен воз тавару і спадзяецца прывезці вялікі воз дабра.

— Я, — хваліўся, — не люблю драбніцаю займацца. Мне адразу або пан або прапаў.

Такі чалавек, калі не памрэ, свайго дапне, бо кіпцюры мае надта войстрыя.

*17 лютага.* І жыць цяжка, і памерці нялёгка. Учора ў садзе культуры і адпачынку знайшлі нежывую бабульку. Ну, ведама, пацікавіліся, чыя гэта бабулька і як яна там апынулася. Намацалі і сваячкоў. Якое такое здарэнне з бабулькай, пытаюць. Ну, прыціснулі трохі — яны і сазналіся.

— А ніякага, — кажуць, — здарэння. Звычайна. Памерла бабулька, а мы яе пахавалі.

— Дык хіба ж так хаваюць? Хто вас такога навучыў?

— А мы ўсё чын-чынам, — кажуць, — і дамавіну зрабілі, і хаўтуры справілі. А што дол прамёрз на два метры, дык мы тут не вінаватыя, бо паставілі мы ў садзе дачасу, пакуль не адтае дол.

Можа, яно так і было. Можа б яны і пахавалі бабку, але тым часам іншыя спажыўцы нагледзелі, што дамавіна стаіць без ужытку, бо на паверхні зямлі. Ну і выкарысталі яе для свайго пацыента, а бабку вытраслі на снег.

Гэтае здарэнне нарабіла шмат гутарак на нашай вуліцы. І ніхто тых сваякоў не пахваліў. Толькі Наязноў спрабаваў даводзіць, што навуцы вядомыя такія спосабы пахавінаў і што бываюць яшчэ і горшыя, але Сымон перапыніў ягоную лекцыю ў самым пачатку:

— Вы, даражэнькі, із сваёй навукай жывеце як хочаце, хоць на галаве хадзеце. Бо жыць можна ўсяк, але памерці мне, браток, дайце па-чалавечаму, бо гэта ў жыцці здараецца толькі адзін раз.

*19 лютага.* Учора нечакана трапіў на пажагнальную гарбатку. Арыентацкі паспрыяў. Што такое пажагнальная гарбатка, я даведаўся пазней. Шчыра кажучы, ніякай гарбаты не было: быў разведзены спірытус і закусь. Але сэнс не ў гэтым, сэнс — у самай існасці справы. А існасць была ў тым, што праводзілі адну надта слынную асобу на яшчэ няведамы пасад.

Пацеха! Чаго толькі я не наслухаўся. Выступалі блізу ўсе, і кажны хваліў слынную асобу. І чаго толькі не плялі! Здавалася, што гэная слынная асоба ўвабрала ў сваё, дарэчы сказаць, досыць сціплае тулава ўсе чалавечыя годнасці. Арыентацкі прамаўляў, што такіх людзей, як гэная асоба, рэдка зямля носіць. Авечка Ахрэм — той жывымі слязьмі цадзіў у кілішак — не мог паўстрымацца ад развітальнага жалю. Шчыры выступаў ажна тры разы. Праўда, ягоныя прамовы не зусім былі шчырымі, бо ён, хоць і хваліў, але разы два калупнуў-такі гэтую асобу, і досыць балюча. Тая ажна заёрзала. Калі не лічыць гэтага выпадку ды яшчэ прамовы аднаго здаравеннага дзецюка з чырвоным тварам, дык усё было надта прыстойна. Быў ужо і я разагнаўся на прамову, але тут неяк усе загаварылі разам, не слухаючы адзін аднаго. Колькі я не бразгаў відэльцам па кілішку, голасу не атрымаў.

Дахаты пайшлі разам з Авечкам і Арыентацкім. Авечка яшчэ не суняў свайго жалю і ўсё чмыхаў носам:

— Такая, — казаў, — страта.. такая страта..

Арыентацкі, наадварот, выглядаў надта вясёлым.

— Я, — казаў, — хоць бы штодня ладзіў такія гарбаткі.

— Але ж у такім разе, — кажу, — вы рызыкавалі б за які месяц развітацца з усімі слыннымі людзьмі гораду.

— А, такой бяды! Не былі б яны, былі б іншыя. Хіба не ўсё роўна?

Я, ведама, цалкам з ім згодны, што для мяне гэта не было б стратай, але ўголас пра такое не сказаў. Хто яго ведае, што за чалавек Арыентацкі.

*21 лютага.* На суседняй вуліцы асяліўся пагарэлец. Пацярпеў ён, бядак, ад няшчаснага выпадку з вайсковай неасцярожнасці. Ледзь з душой выскачыў. А цяпер усунуўся ў голую хату з голай сям'ёй.

— Ну, як ты цяпер жыць будзеш? — спачуваюць суседзі. — У цябе ж навет вяроўкі няма, каб на крук пачапіць.

— А дармо, — кажа, — неяк пражыву. Дыяген і гэтага не меў.

Нараілі яму схадзіць да сабедапамогі.

— Мы ж складаліся, дык вось табе і будзе.

Пайшоў, адважылі там тры кіло мукі і паўкіло солі.

— Ну, — кажуць, — папраўляйся, чалавеча, не сумуй.

А чаго яму сумаваць, калі памагаюць? «Моцны выжыве, и нямоцных жыццё кусае». Так казаў пра гэты выпадак Наязноў. Але, здаецца, ён і сам не быў перакананы, што гэты выснаў можа хоць трохі задаволіць пагарэльца.

*25 лютага.* Мар'ю Іванаўну прасачыў із шоферам. Усё зразумела! Здрада! Ашуканства! Безадкладна ўжыць станоўкія захады! Гэта чорт ведае што такое![1]

*28 лютага.* «Любоўная лодка разбілася аб быт», як пісаў той паэта. У мяне яна разбілася ўдрузачкі. З Мар'яй Іванаўнай — квіты. Перамовы ні да чаго не прывялі. «Разыдземся, — кажа, — Іван Іванавіч, добрымі сябрамі». Нічога! Я шчэ табе пакажу добрых сяброў. Будзеш памятаць…

*2 сакавіка.* Фэцкі ў выніку лічэння дайшоў да выснаву, што ў навуцы ўжо няма чаго рабіць: усё вынайдзена. І цяпер конча перакінуўся на практычную справу.

— Гандаль, — кажа, — асноўнае, што цяпер трэба чалавеку, бо гандаль — гэта рухавік усяе культуры.

Ухапіўся і ён за гэты рухавік, але першыя ягоныя крокі былі не зусім моцнымі. Купіў на інкубатарнай станцыі 30 піскляў па рублю галаву і меркаваў прадаваць па 10 рублёў. Такім парадкам ад гэтага рухавіка мусіла атрымацца пэўная культурная астача. Але, як кажуць, рыба ў рацэ, ды не ў руцэ. Пакуль ён валок у сетцы гэтых 30 піскляў із станцыі, пяцёх па дарозе ўдалося задушыць, рэшту пасадзіў на авёс. Піскляты адмовіліся ад аўсу. Ведама, які пісклячы розум, скуль ім ведаць, што, паводле навукі, ім належыць ужываць толькі гэтае зерне? Але Фэцкі конча пастанавіў прымусіць іх падпарадкавацца вымаганням навукі і безадкладна дзюбаць авёс. Пачалося ўпорыстае змаганне. Піскляты вымагалі дробна пасечанага тугога яечка ды дробных крупак, але Фэцкі яйка і крупы еў сам, а піскляў засыпаў градам аўсу. У выніку трохдзённага змагання, праводжанага з несціханай жорсткасцяй з абодвух бакоў, яшчэ 10 змагароў выбыла з варожага стану, а колькі атрымала цяжкія пашкоджанні. Толькі тады Фэцкі змогся і рэшту недабіткаў выкінуў на рынак. Але тут яго чакала канчальная аварыя: піскляў не толькі ніхто не купляў, але навет і дарма не браў.

Ізноў навука падвяла.

---

[1] Тут колькі радкоў зацёрта. — *Л. К.*

— Усё было б добра, — казаў пра гэтую аварыю Сымон, — каб пісклята былі натуральныя. Тыя дык і авёс бы жэрлі. А тут — зробленыя электрыкай.

З ім згадзіўся і Мікіта:

— Ды хіба электрыкай можна жывое зрабіць? Пісклё — гэта, браток, не чалавек: у яго арганізма кволая. Дый чалавека, бадай, ці зробіш электрыкай? — скончыў ён у задуменні.

*5 сакавіка.* Трэба падаваць дэкларацыю аб прыбытку, ведама, каб падаткі плаціць. Дайце рады, якія ў мяне прыбыткі, калі я нічога не раблю! Але патэнту маю, знацца, павінен быць і прыбытак. Раіўся з Рыгорам і Наязновым. Наязноў не даў ніякае парады. Гэта, кажа, не па маёй лініі. А спытайся што па ягонай лініі — таксама не скажа. Вось табе і прафесар!

Рыгор параіў проста:

— Накруці ім якую хочаш лічбіну, абы не зусім мізэрную, і падавай. Хто цябе праўджваць будзе?

Давядзецца так і зрабіць. А Мікіта Гузак, хоць і шыльду мае, але дэкларацыі падаваць не думае.

— Ніякага прадпрыёмства ў мяне, — кажа, — нямашка. А калі і сталярка, дык я з гэтага саматугам хлеб зарабляю і лішніх прыбыткаў у кішэню не кладу, бо мне лячыцца трэба.

Хто тут сушэйшым із вады выйдзе — не ведаю.

*8 сакавіка.* Мірылі Апанаса Дзюрку і Мікіту Гусака. Звялі гэта мы іх у Рыгора і кажам:

— Ну і што гэта, хлопцы? Вы ж, тымчасам, швагры… Трэба жыць дружна як суродзічы, а вы вунь што… за чубы…

Дзюрка здаўся хутка:

— Я, — кажа, — што ж? Я гэта ўсё разумею… І гатовы ад свайго боку…

Цяжэй было з Мікітам. Той ніяк не хацеў пагадзіцца на тое, што ён вінаваты.

— Я чалавек спакойны, — кажа, — курчанё не пакрыўджу, а тым больш такую свінню.

І гэтым ледзь не сапсуў усёй справы. Бо Апанас пасля такое пігулкі таксама стаў дуба. Добра Рыгор скеміў нацадзіць ім па шклянцы. Тыя палыпалі вачыма і… выпілі. Зрабілася лягчэй. Згоду конча замацавалі яшчэ трыма пляшкамі. І калі швагры пасунуліся ў абдымку дахаты, дык на галаве Мікіты ражном стырчэў Апанасаў капялюш —

гэты галоўны стрыжань нязгоды, а да Дзюркавай галавы прыліпла Мікітава кепка. Знацца, згода была поўная.

*9 сакавіка.* Сяння малоў рыс на муку — жонка паслала. Пілавала мяне ўжо даўно:

— Што гэта, каша ды каша. Змялі рыс на муку, дык каржоў спяком.

Прыходжу ў млын, а там людзей, як на рынку. Хто пуд, хто пяць меле, а хто і дзесяць пудоў пытлюе. Ведама, як каму Бог спасобіў. Прыглядаюся я гэта да ўсіх скрозь аржаны пыл, ажна гляну… Божухна! Пачаканцаў Юрка сядзіць ля латка і рот разявіў. А Пачаканцава я ведаю добра, бо мы з ім калісь на савецкай «хаўтурцы» рублі касілі.

— А, даражэнькі, — кажу, — што ж ты тут робіш і чаго рот разявіў?

— Жыўлюся, — кажа.

— А каб ты спух, — кажу, — якое ж гэта жыўленне, калі тут адзін пыл.

— А вось жа ў гэтым і сэнс. Мне адзін прафесар параіў: «Калі падыхаць, — казаў, — 8 гадзінаў гэтым аржаным пылам, дык не менш за 200 грамаў хлеба глынеш. Бо, — кажа, — у Баварыі быў адзін млынар, важыў 4 пуды, падымаў 80 пудоў». Вось што значыць гэты пыл.

— Ну і што ж?

— А вось нічога. Глытаю.

— А працуеш дзе?

— Дзівак! Якая ж праца, калі я тут 8 гадзін сяджу і глытаю свае 200 грамаў бяз усялякае працы. Зразумей, дзе выйгранка. Не, на працу я шчэ пачакаю.

Я, ведама, зразумеў, дзе выйгранка, але на гэтую працу не пайшоў бы.

*10 сакавіка.* Жыхары з цэнтру чагосьці сігаюць па ваколіцы. Да Рыгора прыйшла сваячніца, да Наязнога — швагерка. Да іншых таксама. Іх там, здаецца, паветрам трохі напалохалі. А Сымон з іх жартуе:

— Дарэмныя турботы, — кажа, — жыві там, куды цаляць хочуць — будзеш цэлы. Бо паветра, яно таксама рух мае — зганяе.

А ў нашай ваколіцы палахлівых няма. Толькі Разак напалохаўся, як пачуў трывогу, бо ў гэты час якраз скончыў брагу калбаціць. Пасля казаў, што ўсё іншае глупства, але на выпадак чаго — брагі шкада было б.

*11 сакавіка.* У кажнага свой закон. Юрэц Бладук трохі павучыў сваю жонку. Каб сказаць моцна, дык не, так, злёгку. А бабе чамусь не спадабалася. Выбегла на вуліцу — і ў лямант. Забіў, крычыць, пакалечыў!

гвалт! Як на тое ліха, вайскоўцы ехалі. Натуральна, пацікавіліся, аб чым лямант. А ў выніку — павучылі Бладука па свайму закону. З'ездзілі яму тры аплявухі ды шчэ і ў паліцыю патрабавалі. Не бі, кажуць, бабу, ды шануй. Баба ўжо і не радая, а мужчыны смяюцца.

— Завошта ён цябе гладзіў, Бладучыха?

— Каб жа было за што, а то за глупства. Заспеў ён нас з Байцовым у гарызантальным палажэнні, ну і азвярэў.

Дзіва што азвярэў.

— Але гэта толькі на жарт было, — апраўдвалася Бладучыха. — Мы так жартавалі.

— Добры жарт, — рагатаў Сымон, — ад такога жарту бывае, што бацька потым свайго дзіцяці не пазнае.

Толькі жонкі спачувалі.

— А якое ж каханне ў іх было, любачкі, проста даваеннай якасці. А ён, гад, біцца!

Але хутка Юрэц вярнуўся без аварыі, і ўсе супакоіліся. Назаўтра Бладук пайшоў упрочкі, але хутка вярнуўся. Бо ўсё ж, як той казаў, жонка не балалайка — пайграўшы, на сценку не павесіш.

*12 сакавіка.* Хадзілі з Сымонам у тэатр слухаць пра новы зямельны закон.

— Хвалю такія парадкі, — цешыўся Сымон. — Свая зямля — гэта ўсё. Шчэ мой дзед казаў: лепш свае тры аршыны, чымся чужая валока. І гэта святая праўда. Калі мой швагра жыў на сваіх трох дзесяцінах, дык не тое што хлеба на пяць душ хапала, а і скварка не выводзілася, а як загналі дабравольна ў калгас, дык ажна з Лагойшчыны ў Менск дыбаў па кілю хлеба. Зямлі ў калгасе было па тры дзесяціны на душу, хлеб жа, што калгаснікі рабілі, улада забірала на рублі, а ім прадавала па рублю за кілю.

А мне гэты закон абы-што, бо зямлю рабіць мне не да твару, і хлеба на мой век хопіць.

*14 сакавіка.* Што на свеце дзеецца — чысты смех. Настаўнік Дзівак разжаніўся з жонкаю. А жылі разам 45 год. Ці то надвор'е на іх паўплывала, ці вайна — невядома. Толькі старыя не захацелі жыць супольна. Падзялілі свой пакой папалам, перацягнулі ў куты кажны свае рэчы, а пасля ўзяліся агульнае дабро дзяліць. Праўда, дабра гэтага ў іх небагата — усяго адна бочка агуркоў. Як яны перахаваліся ў старых — невядома. Але гэты скарб старыя, як людзі старой загартоўкі, мусілі падзяліць сумесна. Толькі нешта не выйшла ў іх сумленна — пасварыліся ў час дзяльбы. Ці то старая хацела старога на агуроч-

ках аб'ехаць, ці можа і стары перасморгнуў агурком — пра гэта не хваліліся. Паклікалі на дапамогу суседзяў. Людзей прыйшло шмат. Ведама, кажнаму хочацца на такую рэч паглядзець. Ну, стаўпіліся суседзі і раяцца, як такую справу найлепей абстругаць. Адны раілі распілаваць бочку напал, але іншыя запярэчылі, бо гуркі папілуеш, дый расол выльецца. Хацелі раскласці гуркі па штуках: табе, бабка, табе, дзедка, але зноў бяда: другое судзіны ў старых няма. Нарэшце наважылі на месцы агледзець справу і там памеркаваць. Рушылі да бочкі з гуркамі, адчынілі яе, дзівяцца. Ну і гуркі!

Узяў адзін сусед агурок на зуб — хрумшчыць. Другі таксама паспытаў — добра. Трэйці — таксама. Старыя толькі вачыма лыпаюць. І пайшла спроба, як іхныя гуркі хрумшчаць.

— Эх, — кажа нарэшце адзін знаўца на агурках, — грэх такую закусь усухамятку хрумстаць, смяротны грэх.

І неўзабаве джгануў за дзверы. Праз колькі часінаў вярнуўся з паўлітрам, якое тут жа і размеркавалі. Вядома, не абмінулі і старых. Пасля сігануў другі сусед, трэйці. І пачалося. Як скончылася гэтая спроба — старыя не памяталі. Але калі назаўтра зірнулі ў бочку, дык дзяліць ужо не было чаго. Толькі на дне нейкім цудам захавалася колькі шаптуноў. Вось табе і параілі суседзі. І сядзяць цяпер старыя ў розных кутках ды пазіраюць ваўкамі адзін на аднаго.

Ну, ці не грэх? А хто ў гэтым вінаваты? Хіба ж не старыя?

*18 сакавіка.* У Фэцкага зноў няўдача. Быў апёкся на піскліх, а цяпер на трыбухох скруціла. Купіў ён іх ля бойні ажна мяшок, прывалок дахаты і пачаў вылічваць, колькі на іх заробіць. Але пакуль ён калькуляваў ды вылічваў найвышэйшы прыбытак, трыбухі не марудзілі, узялі дый скваसіліся. Дух ад іх пайшоў па ўсёй кватэры такі цяжкі, што не толькі на рынак, але і на сметнік выкінуць небяспечна. Мусіў збыць за бясцэнне. Каб не зусім страціцца, завалок гэты злаякасны прадукт Адбіткоўскаму на мыла, па марцы ад трыбуха. Але ашукаўся і Адбіткоўскі. Варыў ён гэтую квашаніну паўдня, але, не ўважаючы на ўжытую ім розную хэмію, мыла з трыбухоў не выйшла, а толькі адна пена.

Цяпер прафесар ды інжынер, як кажуць, на нажах, бо паміж іхным старым сяброўствам грозным сценем сталі квашаныя трыбухі. Так, бывае, дробная рэч псуе вялікія дачыненні вялікіх людзей.

*19 сакавіка.* Сяння на зборцы ў Рыгора быў вялікі палітычны дыспут. Справа йшла пра ўладу, чаму яна і навошта. Напачатку населі ўсе на прафесара Наязнова.

— Вось Вы, — кажам, — прафесару, акуляры носіце, можна сказаць, зубы з'елі на розных пытаннях, дык скажэце нам на ласку, што такое ўлада.

— І чаму яна, — дадаў Мікіта Гузак, — не такая, як хачу я, а наадварот?

Наязноў нешта пачаў мармытаць, але такое невыразнае, што Сымон яго перапыніў:

— Не ведаеце, шаноўны? Скідайце акуляры!

Гэтае каведнае пытанне ўзяўся развязаць Мікіта Гузак.

— Я скажу, чаму такое дзеецца на свеце. Вось, скажам, так: адзін чалавек хоча туды, а другі хоча сюды. А каб людзі былі ні туды ні сюды, дык усё было б добра, і нічога гэтага не было б.

— Правільна, — падтрымаў яго Сымон, — людзі ёсць розныя: адны далікатныя, другія працавітыя, а паміж імі йдзе несупыннае змаганне. І вось, знацца, якія людзі перасіляць, такая і ўлада будзе. Быў у мяне за саветамі знаёмы. Чалавек так сабе — недалуга. Меў ён невялічкую пасаду, быў ціхі, сарамлівы і заўжды выглядаў такім прыбітым, нібы ў яго за каўняром паліцыянт сядзеў. Так. Але аднойчы фракцыя ягонага начальніка перамагае, бярэ, знацца, верх, і той трапляе ў вялікія чыны. Натуральна і гэты недалуга за хвастом чына таксама прыціснуўся да ўлады. І што вы скажаце? Чалавек раптам змяніўся: не той, а зусім новы, ну проста — арол. Толькі адно і не змянілася: як быў гультай, так ім і застаўся. Дык вось што такое ўлада.

Такі нечаканы вывад нас усіх вельмі здзівіў, але як мы ведалі, што Сымон — філосаф, дык і не спрачаліся. А што ж такое, урэшце, ўлада, так і не даведаліся.

— Дыспут наш, — як урэзюмаваў Апанас Дзюрка, — быў угрунтаваны на пяску, а таму і вынікаў не даў.

Можа, так, а можа, і не…

*21 сакавіка*. Ловяць безаўсвайсных. Пахапілі на рынку Гузачыху і Загржэмбіцкую — тыя ледзь выцерабіліся. Трапіў у паліцыйныя абыймы і Разак Яська — з самагонам залавілі. Але хоць ён і на мокрай справе паслізнуўся, а падняўся сухім, бо Яська добра ведае, што ў такіх выпадках рабіць.

— Я, — казаў, — ўсё роўна сваё наганю.

Пасля гэтага ўвесь наш мурашнік заварушыўся і пачаў перакоўвацца.

Мусіў і я перагледзець свае грамадскія пагляды і падаўся здабываць аўсвайс. Зразумела, можна было б і так жыць, бо матэрыяльная база яшчэ ёсць, але палітычныя кругавіды штораз звужаюцца. Пасля нядоўгіх меркаванняў падаўся да Управы. Бо як ні кажыце, а ўсё ж праўда, што толькі на дзяржаўнай пасадзе пазнаеш ісціну.

*22 сакавіка.* Неспадзявана сустрэў Мар'ю Іванаўну. Трапіў у адну вясёлую кумпанію, ажна гляджу — і яна там. Я і вокам не міргнуў, што мы знаёмыя. Яна таксама трымалася тактоўна. Але, як пасля ўсяго пачалі гуляць у фліpт кветак, я-ткі разы тры добра калупнуў яе.

А з гэтай гульнёй выйшла чыстая камедыя. Фліpт быў стары, яшчэ Мікалаеўскі. Зразумела, што ў гэтым дарэжымным фліpце было толькі пра кволае і палкае каханне, а такія простыя рэчы, як сахарына, панчохі, баханка, закусон ды іншыя не былі прадугледжаныя. Натуральна, мы пачалі выпраўляць недагляд мінулага і мусілі дапісваць. Ну і панапісвалі на тэму дню.

Гіяцынт: Ці ёсць у вас скураныя падэшвы?

Фіялка: А фігу вы не хочаце? — Скураныя! Шаруйце гумай.

Нарцыс: Колькі вы просіце за свае кумпякі?

Лілея: Свіння вы і больш нічога.

Такім парадкам мы скрэмзалі ўвесь гэны кветкавы фліpт, і ён атрымаў зусім сучасную афарбоўку. Але пасля гульні гаспадыня агледзелася, што ўсе карткі паскрэмзаныя, і ўзняла вэрхал:

— Анцілігенты, — крычыць, — у шляхетную гульню гуляюць, а карткі звэдзгалі, як свінні.

Ледзь мы яе супакоілі складчынай, але ўсё ж выйшаў канфуз.

*13 сакавіка.* Загржэмбіцкі вярнуўся з экспедыцыі ў «Западную». Ён-такі нездарма хваліўся, што не любіць займацца драбніцай: прывёз із сабою вялікі абоз ёміны. Калі ўсё гэта ўдала рэалізуе, дык адразу выскачыць у першыя рады менскіх фінансавых колаў.

А пра «Западную» апавядае цуды: як там людзі жывуць, як п'юць і гуляюць — проста дзіву дацца. Адно дрэнна, што там усе лютыя нацыяналістыя. Навет і гарэлку — і тую п'юць не як усе людзі, шклянкамі, а па-свойму, па-нацыяналістычнаму. «Выставіць, — кажа, — на стол тры чаркі: адну — белай, другую — чырвонай, а трэйцюю зноў белай, ды хвошча ўсе запар, а пасля выгуквае "Хай жыве!"» А іншыя, мабыць, ужо зусім шавіністыя, дык тыя выстаўляюць аж па дзевяць чарак: тры белай, тры чырвонай, зноў тры белай. І «Хай жыве!»

выгукваюць ужо тры разы. Гэта ўсіх нашых вельмі здзівіла. Толькі Яську Разаку такі звычай надта спадабаўся.

— Каб мне туды, крый Божа, дарвацца, — мроіў ён, — дык «Хай жыве!» я там крычэў бы хоць дваццаць разоў, пакуль бы не залажыла.

Кажнаму сваё, а мне такая палітыка не падабаецца.

*24 сакавіка*. Набліжаецца, як казаў Апанас, першы вольны Вялікдзень на першай вольнай зямлі. Усе з уздымам калбоцяць самагон. У гэтай справе і я не захацеў астацца атэістым і закалбаціў 30 фунтаў аржанухі.

*25 сакавіка*. Бачыў нейкі дзіўны сон. Снілася мне, што нібы йду па галоўнай вуліцы і назіраю звыклы малюнак: машыны, салдаты, грузавікі снуюць узад і ўперад, збянтэжаныя цывільныя па бакох туляцца. Грукат, галас, безупынныя гудкі машынаў, адным словам, вайна. Раптам сталася ціха, да таго ціха, што ажна страшна зрабілася. Стаў я і дзіўлюся — што такое? Нібы тое самае, а тымчасам зусім іншае. Вось прафесар Фэцкі (той, што вылічаў канец вайны) ідзе, нібы і ранейшы, але ўжо зашпілены на ўсе гузікі і з партфелем пад пахай. Ветліва вітаецца. Вось інжынер Адбіткоўскі, які мыла з падлаў варыць, на аўтамабілі праімчаў. Гузачыха з кашолкай у руках прашкандыбала. А вось і Сымон на сваім кані едзе. Пад'ехаў да мяне і спыніўся.

— Ты чаго, — крычыць, — рот разявіў? Зачыняй хутчэй, а то і з табою будзе тое, што з адным Халімончыкам было. Той таксама вось, як і ты, з канём сустрэўся, а пасля тры месяцы з абвязаным рылам хадзіў і ўсім жаліўся: «Ішоў, — кажа, — ціха па вуліцы, а нейкая разіня ехала і проста мне аглабінай у рот». Вось як бывае. Ну, дык што чуваць?

— Ды вось стаю ды дзіўлюся, што робіцца.

— Ды чаго тут дзівіцца? Нічога новага няма, усё як было, так і ё.

І Сымон крануў каня. Паехаў. Няўжо ж ніхто нічога не заўважае? Цуд! Іду далей па Пагарэлай вуліцы, а тут ужо новыя хаты, як грыбы, павырасталі, нібы ў казцы якой або, не раўнуючы, як у справаздачы ўраду. Крамы скрозь паадчыняныя, а ў крамах дабра ўсякага гарамі навалена. Вось ідуць салдаты, песні пра вайну спяваюць, а кулямёты і бомбы па вуліцы раскідаюць. І нікога гэта не палохае, а наадварот, цешыць, бо дзеці падбіраюць бомбы і, як у мячыкі, з імі гуляюць. Дзіва! Падышоў да плошчы былой Свабоды, а тут радыёвяшчальнікі на ўсе лады грымяць: «Вайна скончана! Арміі ўсіх народаў распуш-

чаныя! Усе кардоны знятыя, а заслоны паднятыя! Мір і супакой! Ура! Няхай жыве супакой!»

У гэты час з-за рогу Танкавай вуліцы на плошчу ракой наплылі грамады людзей, якія павольна спыніліся ля помніка Невядомага Героя. Наперадзе падраўнялася аркестра барабаншчыкаў, а за ёй мора сцягоў і натоўп. Вось на помнік ускочыў нейкі жвавы чалавечак і пачаў крычаць: «Вызваленыя свабодныя людзі! Вайна скончаная! На ўсім свеце запанавала ціша і сугучнасць. Няма аніякіх спрэчак паміж народамі! Спалучаны ўрад вялікіх нацыяў абвесціў для кажнае нацыі поўную не...»

Што абвесціў спалучаны Урад, дачуць не ўдалося, бо раптам як разане барабанная аркестра, як загрукочуць гарматы, як загудуць самалёты, ажна, здаецца, зямля здрыганулася.

Тут я падхапіўся ад сну, але грукат не спыняўся. Я саскочыў з ложка і рынуўся да дзвярэй, бо ў мае дзверы барабанілі так, што ажна ўся хата хадыром хадзіла. Калі адчыніў дзверы, даведаўся, што прыйшла нямецкая жандармерыя правяраць жыхароў і аўсвайсы. За тое, што я замарудзіў, адчыняючы дзверы, мне жандар напачатку паказаў пісталет, а пасля адмерыў нядрэнную плюху. На гэтым скончыўся мой дзіўны сон, бо толькі пасля жандармаўскае навукі я прыйшоў да цяму і зразумеў, што ўжо не сон, а рэчаіснасць.

Суседзі з поваду майго сну кажуць, што хоць ён скончыўся і не зусім удала, але гэты сон — вяшчун, і ён прадракае канец вайны. Адзін Сымон не падзяляе агульнае думкі. Ён кажа, што сны трэба разумець якраз наадварот.

— Калі ты сніў, — кажа, — што гэтая вайна скончылася ў такі нечаканы спосаб, то тут, браток, рыхтуйся да новае вайны. Так гэты сон трэба разумець.

Верыць Сымону ніхто не хоча.

*26 сакавіка.* Учора ў беларусаў было свята. Праўлялі гадавіну сваёй колішняй незалежнасці. З гэтае прычыны наладзілі ў тэатры вялікі сход і пачалі гаварыць. Гаварылі шмат пра тое, як калісь змагаліся, як былі незалежныя, як усё ў іх было, і што цяпер таксама...

Мне ўвесь час свярбела выступіць і спытацца, чаму цяпер нічога няма і хто канкрэтна вінавайца гэтага? Але выступіць пабаяўся і добра зрабіў, бо калі пасля сходу загаварыў пра гэта з Янкам Шчырым, дык той мяне ледзь не залічыў у ворагі.

— Вы, — кажа, — не разумееце гэтага, бо Вы шчэ не наш. Вам яшчэ, — кажа, — адзіная недзялімая адрыгаецца, а як Вашае нутро зусім ачысціцца ад гэтае дрэні, тады ў Вас і ў галаве прасвятлее.

Што я меў на гэта адказаць? Зразумела — нічога. А тут яшчэ і Ахрэм Авечка падцягнуў:

— Мы, — кажа, — змагаліся, змагаемся і заўсёды будзем змагацца, аж пакуль нам не дадуць. А калі ўжо дадуць, што трэба, тады і змагацца кінем. Мы — упартыя.

Дзіўны чалавек гэты Ахрэм. Усё яшчэ спадзяецца, што дадуць. А тымчасам вось і сяння не далі. Хацелі яны ў вадзнаку свайго свята наладзіць дэманстрацыю, г. зн. паказаць свае сілы, а немцы ім і не дазволілі. Вось табе і незалежнасць!

Увечары пасля сходу ладзілі «гарбатку», куды я, на жаль, не трапіў. А шкада, бо сяння Арыентацкі хваліўся, што «гарбатка» прайшла надзвычай удала: нікога не вынеслі, а навет не вывелі, а тымчасам усім хапіла. Гутарылі таксама шмат, але куды весялей, чымся на «акадэміі». Напачатку ўсе адзін аднаго хвалілі, а пасля, калі выпілі па трэйцяй чарцы, пачалі сварыцца: і таго не зрабілі, і гэтага не дарабілі, і той вінаваты, і гэты не дагледзеў, і наагул ніхто нічога не робіць. А як падпілі яшчэ, стала зусім весела, бо загаманілі ўсе разам.

Мікіта Гузак, які слухаў нашую размову, сказаў, што гэта з'ява зусім натуральная.

— Кажная вільгаць, — казаў ён, — язык размывае, і ён тады ходзе гвальней. Мне доктар, калі я заікаўся, таксама кроплі раіў, і я тады гэтых кропляў выпіваў па шэсць шклянак на дзень. І памагло, бо цяпер ужо заікацца пачынаю толькі пасля восьмае шклянкі.

*27 сакавіка.* На нашай вуліцы асяліўся новы чалавек, у якім Сымон апазнаў таго вучонага, што калісь майстраваў нейкае цудоўнае коласамакрутку, а пасля раптоўна знік. Завуць яго Камель, а прыехаў ён із занятых усходніх земляў.

*28 сакавіка.* Сымон збіраецца на вёску — зямлю дзяліць. Мне, казаў, таксама, як і іншым, чужой зямлі не трэба ані пядзі, а калі ўжо сваю, нашую дзеляць, дык тут, даруйце, і я маю поўныя правы хоць на чацвярціну.

Мабыць, самалётаў напалохаўся, бо сяння ўначы бальшавікі на літоўскія казармы наляцелі і шмат каго напалохалі. Праўда, шкоду зрабілі невялікую: разбілі прыбіральню ў суседняга гаспадара. Але

за другім разам, калі пашанцуе, могуць і галаву пашчапаць. А Сымон хоць і кажа, што галоўнае ў чалавека жывот, але галаву таксама беражэ.

*29 сакавіка.* Знік Мімікрыйскі. Адны кажуць, што пайшоў на працу і не вярнуўся, а другія сцвярджаюць, што наагул нікуды не хадзіў, а з хаты знік. Як там было — невядома, а толькі ўсё ягонае майно немцы вывезлі, а ў кватэру пасадзілі сваіх.

Шмат каму такая рэч не спадабалася.

*30 сакавіка.* Зноў быў у мастакоў ды пісьменнікаў. Гэтым разам дэманстрацыя собскіх мастацкіх вырабаў была слабая, але затое дыскусія разгарнулася лютая. У вадным кутку прыціснулі да сцяны нейкага паджылага плячыстага аўтара і вымагалі ад яго адказу, чаму ўсе ягоныя героі ў канцы вешаюцца. Той бараніўся як мог.

— Гэта, — казаў, — не я вінаваты. Так псіхалагічны канец вымагае.

— Дык хіба ў цябе канец заўжды на вяроўцы падвешаны? — насядалі на яго. — Чым ты працуеш?

Плячысты толькі адно і цвердзіў:

— Інакш не магу — псіхалогія такая.

А хтось ззаду падліваў атруты ў гэты дыспут. Ён то бараніў псіхалогію, то крычаў, што аўтара самога трэба павесіць за ягоны псіхалагічны канец. У другім кутку два маладзякі спрачаліся аб тым, хто з іх больш спісвае.

— У цябе няма гістарычнага падыходу, — крычэў вышэйшы, — і ты не можаш напісаць на гістарычную тэму.

— Не магу, — згаджаўся ніжэйшы, — бо ў мяне ўсе падручнікі з гісторыі пагарэлі.

— Ці не ў мой гэта гарод каменьчык?

— Не, гэта каменьчык не ў ваш гарод, але ў мяне кніжкі пагарэлі, а не ў вас.

Я ўжо хацеў быў паспачуваць ніжэйшаму, якога стыхійнае няшчасце ссадзіла з гістарычнага сядла, высушыўшы ўсе ягоныя крыніцы, так што цяпер няма адкуль зачэрпнуць літаратурнае вадзіцы, але тымчасам падскочыў Арыентацкі, торкнуў мне пальцам у жывот і паказаў:

— А вунь і ваш сваяк.

Гляджу я: моцны дзяцюк, з вусікамі, незнаёмы. Штось не пазнаю. Ён таксама і апавяданні піша, і падноскамі гандлюе.

— Але ж, выбачайце, я гэтым не займаюся. Я...

Але Арыентацкі не даў мне часу выказаць сваё абурэнне і паімчаўся да іншай групы. На сярэдзіне пакою грымеў паэта Цымбальскі і ўсё намагаўся прачытаць свае новыя вершы, але яго ніхто не слухаў. Толькі нейкі пасалавелы музыка дзюбаў носам у ягонае плячо, відаць, нешта хацеў сказаць, ды не мог. Да мяне падышоў нейкі маладзяк у вышыванай кашулі і з даўгім валоссем.

— Вы хто? Прадстаўнік ад масаў? — пытаецца.

— Але ж, — кажу, — ад масаў.

— Ну, як маса ўспрыняла мой апошні верш?

— Але ж даруйце.. З кім маю гонар?

— Алег Верабей — паэта чыстай ліры.

— А прозай вы не спрабавалі? Я прозу больш..

— Прозай? — перапыніў мяне Верабей, — не, не спрабаваў, бо не хачу. А каб захацеў, дык ого! Я так бы прозай чухвосціў, нібы Дзюмаайцец.

— Так, — кажу, — усё гэта вельмі прыемна, але, на жаль, не меў гонару чуць вас.

— Што?! Не чулі Алега Вераб'я? Што вы гэтым хочаце сказаць, шаноўны? Можа вы хочаце намякнуць, што мяне масы не вызнаюць? Дык я вам зараз давяду…

І страсянуўшы даўгім валоссем, ён сціснуў кулакі і пасунуўся да мяне бліжэй. Трэба праўду сказаць, я спалохаўся. А што дзіўнага, думаю сабе, можа так давесці, што пасля і собская жонка не пазнае.

— Даруйце, — кажу, — я маса, але, выбачайце, не зусім маса… я… і… я…

— Стаўце кропку над «і», — загрымеў паэт яшчэ больш узрушана.

— Я… я…

Чым бы скончылася гэтая размова, не ведаю. Але на шчасце падскочыў Арыентацкі. Ён неяк так спрытна скіраваў гутарку на апошні верш Вераб'я пад назовам «Пляту лапці» і выказаў такое захапленне ад масаў, што Верабей трохі заспакоіўся. Калі адышоў ад нас, Арыентацкі мяне перасцярог:

— З гэтым будзь асцярожны, бо калі не патрапіш у ягоны тон, то можа, браце, і ліхтара паставіць. Ён такі…

Пасля гэтае размовы я неўзаметку слізгануў за дзверы і ўцёк дахаты. Цікава пабыць у культурнай кумпаніі, але часам бывае і небяспечна.

*31 сакавіка.* Па нашай парафіі пайшлі чуткі, што новы наш асяленец Камель нешта круціць. Суседка ягоная Азарэіха казала, што ней-

кую парпяту моблю выдумляе, якая сама будзе круціцца. Гузачыха бажылася, што на свае вочы бачыла, як Камель круціў нейкае кола.

— Затоілася я, — кажа, — пад сцяной ягонага свінушніка і пазіраю ў шчэлку, што ён будзе рабіць. А ён скінуў спінжак, закасаў рукавы і пачаў круціць нейкае кола. Крутне і пусціць, крутне і пусціць. А пасля пачаў гаварыць да кола: «Я табе кажу, што само закруцішся». Мяне ажно ў пот кінула. Ну што, думаю, як само закруціцца? Што рабіць? Ці ўцякаць, ці крычэць гвалт? І страшна, і цікава. Але перасіліла сябе і стаю. А ён спацеў, як хорт, а ўсё пакручвае. «Закруцішся, — кажа, — няпраўда». Але, ведама, калясо дурное, само не круціцца. Паківаецца трохі дый стане. Тут ён як закрычыць: «Круціся! Такую ды гэткую, загадваю!» Тут я ўжо не вытрывала, спудзілася ды ўцякла.

Відаць, баба трохі збрахала, але, у кажным разе, Камлёва таямніца зацікавіла ўсіх, і ягоны хляўчук цяпер сочаць усе людзі.

*1 красавіка*. Цікавая рэч, што сяння ніхто не ашукваў.

— Навошта ашукваць, — казаў з гэтае прычыны Сымон, — калі сяння дзяржавы толькі на ашуканстве і трымаюцца. Гэтым сяння нікога не здзівіш.

Не пашанцавала толькі Апанасу Дзюрцы. Ён ашукаўся і досыць моцна. Яшчэ зранку прыйшоў да Апанаса Яська Разак і паклікаў у кнайпу:

— Сяння, — кажа, — ты не маеш адмовіцца, бо сяння ў мяне вялікая сямейная ўрачыстасць.

Натуральна, Дзюрка пайшоў, бо хто адмовіцца ад дармаўшчыны. Прыйшлі ў піўніцу, Разак і кажа:

— Ну, браток, замаўляй усё, што хочаш, — усё дадуць.

Дзюрка і пачаў замаўляць: і «маскоўскай», і закусь розную, навет па кавалку пражанага парасяці замовіў. Падсілкаваліся добра. На заканчэнне ўвесь гэты ёмінна-пітны асартымент яшчэ і піўком падгладзілі. Цудоўна!

— Ну, плаці ды хадзем, — кажа нарэшце Яська Разак, — мне пара.

І ён устаў ад стала. Дзюрка аслупянеў.

— Як гэта, плаці? Ты ж запрашаў!

— Правільна. Запрашаў я, — кажа Яська, — а замаўляў ты. Гэта я цябе ашукаў — сяння ж першага красавіка.

І мусіў Апанас выкласці на стол 980 рублёў. Хацеў ён за такі жарт Яську бутэлькай пагладзіць, але Разака не ашукаеш — ён быў ужо за дзвярыма.

*3 красавіка.* Надыходзіць Свята. Усе горача ўзяліся за падрыхтоўку. Юрэц пайшоў на сяло старацца самагону, Рыгор выменяў задок цяляціны за паўпуда солі. Мікіта Гузак і Апанас Дзюрка ўвесь час перабываюць на рынку, але гешэфт ідзе слабы, бо пераважае гамбурскі тавар, а ёміны бракуе. Горш за ўсё з яйкамі — 170 рублёў за дзясятак, а ў паёк далі да свята толькі па адным яйку. Гэты факт асабліва абурыў Апанаса:

— Ну што я, — кажа, — буду рабіць з адным яйкам? У мяне ж сям'я.

Прафесар Фэцкі на гэтую справу заглядаецца з іншага боку:

— Адным больш, адным менш — справа невялікая, — кажа, — але вы, шаноўны, звярніце ўвагу на лік — адно! Чаму адно? Што гэта значыць? Ці не сімвал які? А калі сімвал, дык што ён сімвалізуе? Вось куды трэба ўглядацца. У корань глядзець!

# DUBIA

## «ТАКІ ПАРАДАК, МАЎЧЭЦЕ»

Здарылася мне паехаць у Полацак. Роўна а першай гадзіне ночы я быў на ст. Ворша МББ.

Каля білетнай касы сабраўся «хвост»: 50 асоб прэтэндавалі на 24 свабодныя месцы ў хуткім цягніку на Віцебск.

Не паспеў яшчэ я далучыцца да «хваста», як да мяне падышоў адзін з насільшчыкаў і, хітра ўсміхаючыся, таемна запытаў:

— Куды вас бог нясець, куды білецік?..

— У Полацак без перасадкі, — адказаў я.

Ён зірнуў на мяне, яшчэ больш усміхнуўся і проста мне ў вуха шапнуў:

— Бачыце, якая чарга: хочаце, дык я вам дастану білецік...

— Калі ласка, — сказаў я і падаў яму грошы.

Ён здзіўлена паглядзеў на мяне і дадаў:

— Як бачу я, вы першы раз па чыгунцы едзеце.

Не паспеў я яму адказаць, як ён растлумачыў:

— Ведаеце, «сунуць» нашаму брату трэба, а толькі не «па таксе», толькі маўчэце, у нас ужо такі парадак, зразумелі?..

Я зразумеў, і праз гадзіну сядзеў у вагоне, і з вакна назіраў тых, хто, пашкадаваўшы «сунуць», з горкай абідай на твары застаўся на пляцформе чакаць паштовага цягніка.

Такі ўжо парадак... толькі маўчэце, каб не пачула РСІ...

## ЛЕПЕЛЬСКІЯ БЮРАКРАТЫ АРЫШТАВАЛІ БАТРАКА

Полацак, 29–8. 12 чэрвеня г. г. у загс Лепельскага РВК з'явіўся батрак з м. Смалянцы, Чашн. р-ну, Скараходскі, каб атрымаць метрычную выпіску. Справавод Бяганская груба адмовіла яму. А калі батрак, даказваючы, што ён прайшоў пехатою 40 клм., стаў настойліва

патрабаваць даведку альбо прычыны адказу, Бяганская хапае кавалак паперы і піша свайму мужу, начміліцыі.

«Ка мне звярнуўся невядомы гр-н, які пачаў дзебашырыць у п'яным відзе, а пагэтаму прашу выслаць міліцыянера і затрымаць апошняга».

Безумоўна, Скараходскага арыштавалі, абвінавачваючы па 140 арт. К. К. Толькі РВК адмяніў гэтую справу. Цікава, што думаў у той час начміліцыі? Няўжо так высока каштуе капрыз яго жонкі?

## ХТО ТАКІ «НАЧАЛЬНІК» ПОШТЫ У ДРЭТУНІ?

Загадчыкам Дрэтунскай пошты (Полаччына) састаіць нейкі Александрыйскі, чалавек з шырокімі замахамі і вялікай думкай аб сваёй асобе.

Справа ў яго так пастаўлена, што не трэба дрэнней.

Напрыклад, лісты выпадкова засланыя ў Дрэтунь з адрасам… Масква, доўга ляжаць на вачох Александрыйскага ў яго аддзяленні.

Вайсковыя часткі таксама кепска абслугоўваліся, шмат было скарг і непаразуменняў. Але гэта яшчэ нічога. Ёсць справы паяскравей.

Напрыклад, пратэкцыянізм. Гэтым Александрыйскі не займаецца, ён прыняў толькі трох Баранавых, адзін пляменнік, другі — дзядзька, а трэйці — звычайна свой.

А калі яны яму свае, дык разам жывуць, ядуць і п'юць, разам прапаўшую ў лесе карову Александрыйскага шукаюць, свіней кормяць, ваду носяць і г. д. Усё гэта за лік… працоўнага часу.

Калі аб гэтым пачалі гаварыць іншыя працаўнікі, дык Александрыйскі ціха намякнуў ім пра біржу працы.

А калі праведаў аб гэтым саюз, дык Александрыйскі заявіў:

— Я не лічу патрэбным быць сябрам саюзу. А працаўнікоў бяру тых, якіх хачу.

Працаўнікі баяліся Александрыйскага і аб крытыцы і самакрытыцы ніхто і думаць не смеў.

Цікава Александрыйскі «испытывал» сумленнасць сваіх падначаленых. Бярэ таемна пасылку ці каштоўны ліст, хавае яго ў сябе, а потым, калі працаўнік са слязьмі на вачох заявіць яму аб згубе, Александрыйскі ўхваляе:

— Маладзец, ты сумленны хлапец. — І аддае згубу.

Гэта толькі частка фактаў, іх ёсць значна больш.

# ЦЯГНУЦЬ ВАЛЫНКУ, ПАКУЛЬ...

У 1927 г. прадстаўнік паштовай канторы падаў заяву ў камгас. Да заявы прылажыў паперку ад саюзу сувязі аб тым, што яго кватэра для жылля зусім непрыгодна.

Агляду так і па сянняшні дзень не было, а заяву звярнулі праз саюз з другой рэзалюцыяй: «Кватэры даць не можам, бо ў сучасны момант няма».

Няма, дык няма, працаўнік уважліва згадзіўся з гэтым і прымірыўся з рэзалюцыяй.

Але гады, як гавораць, каменні рушаць. Кватэра таксама паддалася гадам і стала не толькі рушыцца, а пагражае для жыцця. Столь вось-вось рухне. За камгас узялася ўжо жонка гэтага паштавіка гр. Жылінская. Ад яе заяву з актам агляду кватэры санітарным урачом прынялі, але ж пасля таго як да гэтага прымусіў старшыня саюзу медсанпрацы. Але і то добра, хоць прынялі, і нават казалі, што ёсць кватэра ў доме доктара Рыўкіна, спадабаецца — мы дадзім на яе ордэр. Але гэтай кватэры, калі гр. Жылінская згадзілася атрымаць, не далі, невядома чаму. Рыўкін жа не прамаргаў і здаў яе прыватнай асобе за 15 рублёў у м-ц. Жылінскай замест гэтай кватэры прапанавалі другую кватэру і таксама не далі. Чаму? Гэта таксама застаецца таемным.

Чакаць не прыходзіцца. Маючы дзяцей, а з дзяцьмі не так хутка знойдзеш кватэру, Жылінская падала заяву пракурору, паказваючы на бяздушны бюракратызм і валакіту. Пракурор вызваў жылагента з камгасу. Апошні ў прысутнічанні пракурора паабяцаў аслабаніць кватэру ў доме доктара Рыўкіна і даць яе Жылінскай.

Праз некаторы час, бачачы, што ад камгасу няма «ни привета ни ответа», Жылінская падае другую заяву, аб тэрміновым аглядзе кватэры, і адначасова, каб хутчэй перайсці куды-небудзь, паказвае дом, камгасам яшчэ на вучот 30 проц. жылплошчы не ўзята, і якая ў той момант знаходзіцца не занятай. Але да наступнага часу камгасам нічога не зроблена, а ў той час і гэта кватэра занята прыватнай асобай. Уся гэта справа цягнецца 4 месяц. А столь крэхча, стогне і хутка-хутка з трэскам... Але аб гэтым не будзем гаварыць... Не будзем, таму што аб гэтым, здаецца, ужо гавораць РСІ і пракуратура.

# ДАДАТАК

## Апалонія Савёнак
## (1901–1982)

---

### БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА

Менск. 1916 год. Вайна з немцамі. На Захараўскай вуліцы, 24, супраць Новага Касцёлу, у трохпавярховым будынку, апошнія дзверы і вітрыннае акно. Над ім надпіс: «Саха і Лучынка». У вакне некалькі кніжак і брашурак з дзіўнымі загалоўкамі, непрывычнымі для школьніцы расейскай школы. Ды гэта мяне і не дужа цікавіць наразе. Я прыйшла сюды атрымаць для шыцця накроеныя салдацкія кашулі, бо тут — камітэт дапамогі ахвярам вайны.

— Чаму ты, дзяўчынка, не адказваеш мне па-беларуску, як я гавару? — звяртаецца да мяне, адлічваючы кавалкі мутна-жаўтавай бязі надзвычай ветлівая і прыемная маладая паненка ці жанчынка з лёгкай касавочынкай. — Далікатнасць вымагае адказваць у тэй мове, у якой да цябе звяртаюцца, ведама ж, калі ўмееш.

— Я не знаю, — змешана пралепятала я, прывыкшая, што ў афіцыйных установах трэба гаварыць па-руску.

— Што не ведаеш? Не ведаеш ці не ўмееш? Пэўна ж умееш! Па носе бачу, што ўмееш, — весела смяецца. — Глянь, тата, яна не ведае, ці ўмее па-беларуску.

Старэйшы, але не стары чалавек у сівой даматканай марынарцы, што ўдала пасавала да ягонай стройнай фігуры і прадаўгаватага далікатнага твару з барадой клінком, глянуў вясёлымі шэрымі вачыма з іскрынкай насмешкі:

— Нічога, скора пазнае, што йнакш не ўмее, а толькі па-беларуску. — І зноў схіліўся над паперамі свайго стала, што стаяў у далейшым спакойным куце пакою. Гэта быў Антон Лявіцкі, наш пісьменнік Ядвігін Ш. (Ядвігін Швагер), і ягоная дачка Ванда Лявіцкая, пазней жонка Язэпа Лёсіка.

Сталася, што я засталася памагаць, замяняючы Ванду, якая мела шмат працы больш для яе адпаведнай. Выдаючы бялізну, я бачы-

ла, што сюды прыходзяць іншыя, гавораць, раяцца, чытаюць лісты, спрачаюцца, цешацца або маркоцяцца. Гэта былі Уладыслаў Галубок, Змітрок Бядуля, Рамуальд Зямкевіч. Усе гавораць такой мовай, як у нас дома, але пра што? Мне, пятнаццацігадовай дзяўчыне з ускраіны тагачаснага Менску, было мала зразумела. Карэктуру прыслалі… Рукапіс захавай… Набраць петытам… Пішуць з Вільні… Адкажы ў Пецярбург… Хворы… Верш прыслаў. Напішы. Адкажы… У суседнім пакою быў музей тканінаў, вакол якіх заўсёды клапаціўся Рамуальд Зямкевіч.

Ванда вяла ўсю перапіску. Укладаючы свае літаратурныя здольнасці, цеплыню свайго добрага сэрца і замілаванне да кожнай праявы беларускага адраджэння, яна адказвала на шматлікія лісты і допісы сваім прыгожым почыркам; падобнага па хараству, выразнасці і заўсёднай аднолькавасці не даводзілася спатыкаць ніколі больш і нідзе.

У міжчасе Ванда падсоўвала мне тую ці іншую кніжку. Гэта былі асобныя нумары газеты «Наша Ніва», «Маладая Беларусь», Коласавы «Песні жальбы», «Родныя з'явы», Гарэцкага «Рунь», Багушэвічава «Дудка беларуская», Ядвігіна Ш. «Бярозка», Багдановічаў «Вянок», К. Буйлы «Курганная кветка», Цёткі «Скрыпка беларуская», Бядулевы «Абразкі». Але найбольш помніцца «Шляхам жыцця» Янкі Купалы. Гэтыя кніжкі я чытала і давала чытаць сваім школьным сяброўкам. Цяпер мне трудна ўспомніць усе. Шмат кніжак было, значыць, вялікая работа ўжо была разгорнута і ў Вільні, і ў Пецярбурзе, і гэтая група дзеячаў была з імі цесна звязана. Розумам усё прачытанае, бачанае тут і чутае я ўспрыняла з часам і паволі, але сэрцам вычула, што ўсе гэтыя людзі з іхнымі ідэямі і справамі, хоць і недасягальна вышэйшыя, але зусім блізкія, простыя, родныя і, як магла, цягнулася да іх.

Скора гэтая група дзеячаў займела драўляны будынак, тут жа, на Захараўскай, 18 (некалькі дамоў у напрамку чыгуначнай царквы), у якім панна Людміла, пасля жонка Фабіяна Шантыра, з маткаю Бемелі сталоўку дамашніх абедаў. Гэты будыначак і стаўся першай «Беларускай Хаткай». Гэта была сапраўдная хатка, «стол і дом» для ўсіх беларускіх дзеячаў, якія прыбывалі ў Менск. Сюды прыехаў пасля Алесь Гарун із ссылкі і жыў са сваёй маткай, наладзіўшы тут кнігарню, пра якую піша генерал Францішак Кушаль у сваіх успамінах; сюды вярнуўся з высылкі Язэп Лёсік і заснаваў тут рэдакцыю газеты «Вольная Беларусь», якая пасля пераехала ў Юбілейны Дом. Гэта быў сапраўдны прыпынак для жыцця і для працы групы сведамых беларусаў, абагрэтых гаспадарнасцяй і ахвярнасцяй Ванды і Людвікі.

Я хачу затрымацца на тэй рабоце, якую вяла гэта невялікая група беларускіх дзеячаў у гэтай хатцы з намі — моладдзю.

Кожную суботу ладзіліся вечарніцы-суботнікі для моладзі, з якой markdown розным шляхамі давялося асабіста спатыкацца. Нас, школьнікаў, было нямнога ды некалькі юнакоў-чыгуначнікаў, якіх прыводзіў Уладыслаў Галубок. Старэйшыя прыходзілі ўсе, хто на гэту пару быў у Менску. Найбольш выразна помняцца Ядвігін Ш., Ванда, Галубок, Бядуля і дзве ягоныя сястры, панна Людвіка. Скора з'явіўся Аркадзь Смоліч.

Цікавы метад уплыву на нас выбралі гэтыя людзі. Выглядала, што збіраюцца гэтыя дарослыя людзі, а мы так сабе, радыя, што запрошаныя і можам прысутнічаць. Ніхто нам не чытаў лекцыяў, не павучаў, не рабіў заўвагаў, не агітаваў, нават, здавалася, мала на нас звярачалі ўвагу, але мы шырака адчыненымі вачыма глядзелі, слухалі і адкрытым сэрцам упітвалі.

Ну вось. Сабраліся першы раз у спякотную восеньскую суботу. Цёпла, чыста, утульна ў святліцы, дзе ўдзень была сталовая дамашніх абедаў, а цяпер сталы і крэслы, ссунутыя да сценкі. Мы, як вераб'і на дроце, прымасціліся на іх.

— Што ж, можа, паспяваем, сабраўшыся? — прапануе Лявіцкі.

— Але ж хто пакіруе? — цікавіцца Бядуля.

— Ну, хіба ўжо я, пакуль знойдзецца хто больш адпаведны. І выходзіў на сярэдзіну пакою Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энергічнымі рысамі твару, ільняной чупрынай. Дарослыя, усе да аднаго, хто мог ці не мог спяваць, станавіліся, клікалі нас. Гэтак кожны суботнік мы вучылі па аднэй, па дзве песні: «Камар», «Ці ў полі», «Ой, не кукуй, зязюленька, рана», «Ці не быстра рэчанька», «Ой, ляцелі гусі», калядныя, вясельныя, купальныя. Спяваць было найбольш любімым заняткам на нашых суботніках, але гэта не былі спеўкі з муштрой і вывучэннем партыяў — проста спявалі на чатыры галасы, а выходзіла добра.

Потым хто-небудзь із старэйшых прапаноўваў дэкламацыю. Дэкламаваў Галубок сваю «Будучыню», Купалавага «Мужыка», жартаўлівыя вершы Паўловіча; Смоліч дэкламаваў «Ты, мой брат, каго зваць беларусам» Гаруна, «Краю мой родны» Багдановіча; Ванда Лявіцкая чытала Цёткавы і Буйлянкавы вершы. Тут жа гаварылі пра аўтара — дзе ён, як ён. Па-свойску, па-сямейнаму, як аб браце. Так мы даведаліся, што Максім Багдановіч мае прыехаць, што ён хворы. Пэўна ж не трэба казаць, што на другім суботніку дэкламаваў ужо хто-небудзь і з нас, вучняў. Але ніяк не магу ўспомніць, каб хто даваў заданне, каб вывучыў дэкламацыі: проста хацелася рабіць тое, што робяць дарослыя.

Нехта прапанаваў паскакаць. Усе старэйшыя бралі нас у пары. Той жа самы Смоліч у першай пары, патрасаючы чупрынай, вучыў скакаць «Лявоніху», «Юрачку». Ведама ж, паслей мы ўжо скакалі і самі, але што гэта за скокі, скажам, без дзядзькі Лявіцкага, без Галубка! Бядуля не скакаў ніколі з намі, не дэкламаваў, затое смяшыў нас жартамі ды трапнымі мянушкамі.

Часам нехта чытаў з прозы Гарэцкага ці Коласа. Нехта загадваў загадкі, тады зноў пелі, а то проста гулялі ў гульні: «вяровачку», «трэці лішні», «пярсцёнак», «кот і мышы», хто што ўмеў — прапаноўваў, і ўсе весяліліся.

Разыходзіліся заўсёды шчаслівыя, свае, блізкія, з багатымі ўражаннямі, з новымі ведамі, а галоўнае — з пачуццём, што дакрануліся да нейкай своеасаблівай атмасферы інтэлігентнасці, ідэйнасці, далікатнасці, духовай вышыні, якой, можа, ніколі не знаходзілі перад гэтым, і якой, пэўна, вельмі прагнула і жадала маладая чулая душа.

У вадзін з такіх восеньскіх суботнікаў з'явіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая, сутулая постаць, павольныя рухі, ціхі нізкі голас. Ён быў зусім не падобны да тых фота, што мы знаходзім тут у нашых эміграцыйных выданнях. Пергаментна бледны твар. Сур'ёзны, спакойна-выпытваючы позірк бліскучых вачэй. Па тэй пашане, якую яму ўдзялялі дарослыя, па тэй любові, якой яго акружалі Смоліч, Ядвігін Ш., мы разумелі, што гэта вялікі чалавек, і праніклісся глыбокай пашанай да яго.

Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, безудзельна. Толькі па ледзь значнай шчаслівай усмешцы, якая квола зацвітала на ягоных тонкіх вуснах, мы бачылі, што ён цешыцца і з нашых спеваў і скокаў, і асабліва з дэкламацыяў, але, калі ён прабаваў падысці да каго з нас, загаварыць, пажартаваць, мы з глыбокай пашанай і страхам, як перад нечым непараўнальна вышэйшым, амаль надлюдскім, змаўкалі, як спужаныя вераб'і, а ён, прачулена насцярожаны, думаў, што гэта страх і асцярожнасць перад ягоным хворым станам. Аднойчы на нейкую заўвагу Смоліча ён адказаў: «Ды дзе мне, мяне моладзь баіцца».

Незабыўная сцэна аднэй прадкаляднай вечарніцы канца 1916 году. Смоліч запрасіў усіх сесці. Усе размясціліся ля сцен пакою, слаба асветленага з прычыны ваеннага часу.

— Я маю прачытаць вам верш, новы твор, — сказаў паважна. Тон голасу нізкі, прыцішана-значны. — Аўтар прасіў не называць ягонага імя.

Паўза. Усе прыціхлі. Смоліч урачыста-ціха прачытаў «Пагоню». Скончыў. У прыцемненым пакою панавала абсалютная ціша. Пасля ўзрыў пытанняў.

— Хто гэта? Хто? — старэйшыя паўскаквалі з месцаў. — Гэта небывалае ў нашай... ды што ў нашай — у сусветнай літаратуры. Хто гэта? Хто напісаў?

Акружылі Смоліча.

— Я звязаны словам, я не магу сказаць, пастарайцеся адгадаць.

— Прачытайце яшчэ раз. Гэта... гэта... — не знаходзіць слоў Ядвігін Ш. Уселіся зноў, і цяпер ужо Смоліч не чытае, а пранікнёна дэкламуе. Заканчвае амаль скандуючы:

— «Старадаўняй Літоўскай Пагоні ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць».

Зноў ціша.

— Гэта можа быць або Янка Купала, або... або наш Максім, — шырака расчыніўшы вочы, выпаліў нехта.

— Ён!

Усе ахнулі, змоўклі. А аўтар сядзіць у процілеглым канцы пакою, ледзь ухапляючы паветра сваімі сухотнымі грудзьмі.

Смоліч шырокім крокам падыходзіць да Максіма Багдановіча:

— Вось цяпер я маю права публічна прывітаць Вас з нованароджаным вялікім творам, — і тонкая рука Максіма згубілася ў буйной энергічнай руцэ Смоліча, а затым і ўся ягоная постаць патанула ў шырокіх абдымках магутных Смолічавых рамёнаў.

— Ды пусці ты, мядзведзь, — бароніць Бядуля, адпіхваючы Смоліча, намагаючыся падысці прывітаць аўтара. Але Багдановіча вітае ўжо Лявіцкі, абдымаючы яго.

— Ну, калі такое маглі напісаць, то Вам і зусім паміраць нельга, — выпаліў з узрушэння гарачы Галубок і тут жа, зразумеўшы, якое глупства ляпнуў, заліўся слязьмі (неўзабаве той самы Галубок павязе Багдановіча ў Ялту, дзе той і памрэ). Тут Бядуля падышоў да Багдановіча з шырокай усмешкай на мяккім твары:

— Дык, кажаш, «ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць»? Хэ-хэ. Сокал! — паціскаючы ягоную руку, папляскаў па плячу. Мы сядзелі прыціхшы, не разумеючы яшчэ, што вось зараз сталіся сведкамі вялікай падзеі.

— Можа, папросім, каб аўтар сам прачытаў свой твор? — запытаў Смоліч.

— Аўтара... аўтара... — панеслася шумна з усіх бакоў, але Багдановіч адмовіўся. Ён адчуваў сябе зусім зняможаным. Гэтым разам мы ўсе скора разышліся.

Ваенныя і палітычныя падзеі спынілі нашы вечарніцы. Праца прыняла іншыя формы і характар. Але гэтыя сустрэчы далі нам аснову беларускага светапагляду. Там мы пазналі, хто мы, знайшлі ідэю, мэту жыцця і працы, навучыліся любіць і шанаваць беларускае слова і ўсіх беларусаў без падзелу на веравызнанні і на тое, калі і якая палітычная хваля прынесла дзеяча. Абы прынесла, абы да нас. Бо мяняліся часы, мянялася палітычная сітуацыя, паяўляліся новыя людзі, і ўсе былі як адна беларуская сям'я. Скора паявіўся заўсёды задумлівы, чулы і сардэчны Алесь Гарун і заняўся працай у кнігарні. Неўзабаве за ім — паважны, суворы з выгляду, але вельмі дабрадушны Язэп Лёсік, з прыбыццём якога шырака разгарнулася выдавецкая справа. Браты Ждановічы з Фальскім заснавалі беларускі аматарскі тэатар, які ў Менску ўпершыню даў паказ «Паўлінкі» Янкі Купалы і «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі. Гэты тэатр наведаў Слуцак, Магілёў, Бабруйск, Радашкавічы, даючы там па колькі беларускіх спектакляў, якія заўсёды заканчваліся дывертысментам са спевамі, скокамі, дэкламацыяй. І вось тая самая групка школьнай моладзі, што наведвала вечарыны, была і спевакамі, і танцорамі, і дэкламатарамі. З часам некаторыя з іх затрымаліся пры Беларускім Дзяржаўным Тэатры, іншыя сталі настаўнікамі, але ніхто не згубіўся, не адышоў. Але гэта ўжо 1917 год.

Пазней прыехаў Францішак Аляхновіч, які таксама, як і Галубок, сеяў зярняты беларускай сведамасці праз тэатральнае мастацтва. Паявіўся працавіты незабыўны Уладзімір Тэраўскі. Янка Купала, Якуб Колас, Купаліха былі ў непасрэднай блізасці праз увесь час працы ў Менску. Калейдаскопам праходзяць праз успаміны такія выдатныя постаці, як Тарашкевіч, Шантыр, браты Гарэцкія, кс. Абрантовіч, кс. Цікота, Альберт Паўловіч, Макар Краўцоў, Тамаш Грыб, Мікола Шыла, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі, сёстры Бадуновы, Пелагея Захарка, жонка Васіля Захаркі, Паўлінка Мядзёлка.

Багата хто з іх апынуўся на эміграцыі: генерал Францішак Кушаль, якога ведала маладым афіцэрам беларускага войска; Міхась Міцкевіч, былы супрацоўнік газеты «Вольная Беларусь»; Ганна Акановіч, пра якую чула як пра сястру Сцяпана Некрашэвіча; Антон Адамовіч... Але гэта ўжо з далейшых успамінаў.

# ПАЧАТКІ БЕЛАРУСКАГА ШКОЛЬНІЦТВА Ў МЕНСКУ

Найбольш канкрэтным, фактычна адчувальным беспасярэднім вынікам абвешчання незалежнасці Беларусі, побач пэўне ж найважнейшага — гістарычнага значання — было заснаванне беларускага школьніцтва. Ёсць мудрасць, якая кажа: плануеш на год — сей збажыну; плануеш на дзясяткі гадоў — садзі дрэвы; плануеш на стагоддзі — гадуй чалавека!

На сесіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе Алесь Гарун, між іншага, заклікаў: «Паны Радныя!.. Ці падумалі вы, што мітынговыя прамовы пара скончыць… а разважаць пра тое, як пачаць, з чаго пачаць наша дзяржаўнае будаўніцтва: як абараніць нашых сялян ад рэквізіцыяў; як уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, як накарміць іх; як школы адкрыць…» (А. А-к Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) Мае ўспаміны. «Беларускі Сьцяг», Коўня, № 1, красавік, 1922 г., б. 19).

Вось і ўзяліся за школы. Лета 1918 году. Фронт. Менск збянтэжаны, зруйнаваны вайной. Ваеншчына, раненыя, лазарэты. Уцякацтва-«бежанства» з Захаду да нас, ад нас на Усход. Але вось ад нейкага часу прыціхла. Нямецкая армія заняла Менск.

Абываталь разгублены: якая цяпер улада? Ці то нямецкая? — але кайзераўскія немцы не ўтручаліся ў нутраныя справы горада. Ці то бальшавіцкая, бо ішло далей рабаванне вёскі паборамі і канфіскацыямі. Толькі нацыянальна-сведамае ядро, актыў ведаюць і вераць, што наша, свая, беларуская. На доме былога губернатара лунаюць два бел-чырвона-белыя сцягі, хоць, праўда, і не гэтак даўгі час.

У Гарадской Управе, на Юраўскай вуліцы, у пераважнай бальшыні старыя працаўнікі, але ўжо ад беларускага Ураду, у ваддзеле асветы — нашыя Тамаш Грыб, Паўлінка Мядзёлка, Палута Бадунова, Мікола Шыла, можа і яшчэ хто — не прыпамінаю.

Школы, пэўне ж, расейскія — на тую пору ўсе школы ў Менску былі расейскія — будынкі разваленыя, запушчаныя, шмат якія занятыя ўцекачамі, большыя школы пераробленыя на лазарэты ды казармы. У тых будынках, што былі пакінутыя як школьныя, змяшчаліся па 3–4 школы і, працуючы па дзве-тры змены, даканчвалі навучальны год.

Пачаліся канікулы. Трэба рыхтавацца да новага навучальнага году. У цэнтры гораду яшчэ сяк-так захаваліся і будынкі, і мэбля, і падручнікі. Старыя настаўнікі, што яшчэ засталіся ў Менску, — шмат хто эвакуаваўся на ўсход — згрупаваліся ў гэтых школах, учэпіста трымаючыся расейскае мовы. Ім і да галавы не прыходзіла, што можа быць інакш.

Засталіся ўскраінныя, найбольш зруйнаваныя школы: Камароўка, Старажоўка, Татарская Слабада, Кальварыя, Весялоўка, Ляхаўка, Грушаўскі пасёлак, Залатая Горка. Вось тут і ўзяліся засноўваць першыя беларускія школы. Трэ было аслабаніць будынкі, агледзець іх, сяк-так абсталяваць мэбляй, але асноўнае, найважнейшае і, бадай, найцяжэйшае — укамплектаваць беларускімі настаўнікамі.

І знайшліся такія. Першымі пачынальнікамі-настаўнікамі ў верасні 1918 году, як памяць падсоўвае, былі:

Кудзелька Міхась, пасля — паэта Міхась Чарот — настаўнік, скончыў Маладзечанскую семінарыю.

Косцевіч Макар, паэта Краўцоў Макар — ведамы беларускі дзеяч.

Пашкевіч Мікола — малады настаўнік, нядаўна скончыў Маладзечанскую семінарыю.

Пашкевіч Янка — малодшы брат Міколаў, з Маладзечанскай семінарыі.

Мядзёлка Паўлінка — першая выканальніца ролі Паўлінкі ў Купалавай «Паўлінцы».

Гірконт Апалонія — старэйшая настаўніца, прыехала з Вільні.

Пуроўскі Канстантын — малады настаўнік, скончыў настаўніцкую семінарыю.

Яноўская Кацярына — маладая настаўніца, паслей жонка Пуроўскага. Абое перайшлі пасля ў тэатр.

Гладкі Казімер — старэйшы брат ведамага на эміграцыі беларускага педагога, фальклярыста і лексікографа Язэпа Гладкага.

Бялькевіч Янка — пазней навуковец, мовавед-лексікограф.

Бадунова Палута і ейная малодшая сястра, імя якой не прыпамінаю.

Раткевіч А., Багдановіч Мікалай, Ламака Канстантын, Берднік, Раманоўскі, Маркевіч, Гуліс, Бандарчук, Валасевіч, Шымкевіч.

У пераважнай бальшыні гэта былі маладыя, недазнаныя настаўнікі, шмат хто толькі са школьнай лаўкі. Вучні ж, поруч із нармальным

векам, не раз былі векам блізу як і настаўнікі, а ростам часам і большыя за іх, бо апошнія два-тры гады школы працавалі нерэгулярна, а некаторыя і зусім былі зачыненыя. Працаваць даводзілася без падручнікаў, у вабставінах спаборніцтва са старой расейскай школай. Але маладосць, энергія ды асабліваа нацыянальная сведамасць і ўздым перамагалі ўсе цяжкасці.

Усе мы ўжо так ці інакш бралі ўдзел у беларускай грамадскай працы: хто ў гуртку школьнай моладзі пры Беларускім Нацыянальным Камітэце; хто ў хоры Тэраўскага, або Равенскага, або Чарняўскага; хто ў аматарскім беларускім тэатры братоў Ждановічаў або Галубка, паслей і Аляхновіча; шмат якія і самі ўжо ладзілі спектаклі ў сябе ў вакругах, як, прыкладам, Пашкевіч у Глыбокім. Выпісвалі і чыталі беларускія газеты і кніжкі, а шмат былі ўжо і беларускімі дзеячамі і пісьменнікамі, як Краўцоў Макар, Міхась Чарот.

Як мы пачыналі? Перш за ўсё — самі вучыліся. Усе мы былі гадунцамі расейскай школы. Дык вось, пасля дзённай працы ў школе наведвалі курсы беларусаведы. Лектарамі былі Усевалод Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Барніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч. Гэтыя курсы паслей ператварыліся ў Вышэйшыя Курсы Беларусазнаўства, дзе выкладалі Язэп Лёсік, прафесар Васіль Дружчыц ды іншыя. Вывучалі граматыку, гісторыю, геаграфію Беларусі, а галоўнае — чыталі.

Чыталі «Сымона-музыку» Якуба Коласа — першыя часткі друкаваліся якраз у «Беларускім шляху» і ў газеце «Вольная Беларусь», якая тры першыя часткі выдала і асобнаю кніжкаю. Чыталі вершы Янкі Купалы з кнігі «Шляхам жыцця», апавяданні Максіма Гарэцкага з «Руні», Тараса Гушчы з «Родных з'яваў», вершы з «Матчынага дару» Алеся Гаруна, з «Вянка» Максіма Багдановіча. Успамінаюцца яшчэ кніжыцы: «Абразкі» Змітрака Бядулі, «Бярозка» Ядвігіна Ш., «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча, «Скрыпка беларуская» Цёткі, жартаўлівыя вершы Альберта Паўловіча, ягоны «Снапок». І, ведама ж, падручнікі для школаў: «Другое чытанне» Якуба Коласа і «Першае чытанне» Цёткі. Паслей ужо з'явіліся сцэнічныя творы Алеся Гаруна, часопіс «Зорка».

Усіх гэтых кніжкаў было мала, толькі для курсаў і настаўнікаў, і самая цяжкая справа ў нашай працы была, што не было падручнікаў да чытання для вучняў. З арыфметыкай, прыродаведай, геаграфіяй, пісаннем давалі сабе рады. Асабліва любілі лекцыі спеву. Бадай усе настаўнікі бралі ўдзел у хорах, пры аматарскім беларускім тэатры ды і так.

З чытаннем было найцяжэй. Выручалі вершы. Так, вершы. Калі цяпер чуеш часам «вершыкамі жывіліся» — так, «вершыкамі»! Яны былі лёгкімі для памяці ды так адпавядалі актуальнаю тэматыкаю тагачаснаму ўздыму нацыянальнай сведамасці маладых настаўнікаў, якія імкнуліся перадаць яе дзецям і іхным бацьком.

Дзеці і бацькі любілі вершы Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Цёткі, але асабліва Якуба Коласа, як школьныя і маладзежныя, гэтак і кавалкі з «Сымона-музыкі». Чэсць і слава нашым паэтам! Гэта яны прабудзілі нацыянальную сведамасць, а паслей у 1918 годзе памаглі маладым настаўнікам-энтузіястым панесці ідэі беларускай дзяржаўнасці ў народную гушчу. А купалаўскае «Ворагам беларушчыны» як бы для нас на той час было напісанае.

Трэба сказаць, што нашыя беларускія школы былі часам тут жа ў падсуседзях з расейскімі, як гэта мела месца на Аляксандраўскай вуліцы, рог Старажоўскае. У расейскай школе былі настаўнікі раннейшыя, спрактыкаваныя, яны ведалі жыхарства ды вялі агітацыю супраць новых беларускіх школаў. Але нашыя ўскраіны — Старажоўка, Камароўка, Траецкі Рынак — не так лёгка было збаламуціць. Дапамагалі хор Міколы Равенскага, хор Уладзіміра Тэраўскага, беларускі аматарскі тэатр пад кіраўніцтвам Ждановічаў, часта паасобныя выступы тэатру Галубка, пазней тэатру Аляхновіча, якія ладзілі свае імпрэзы ў Беларускай Хатцы.

Усёй гэтай працай акалічнае жыхарства было ўсведамленае, што яны беларусы, што мова іхняя беларуская, а не «простая мужыцкая», ды ставілася прыхільна да сваей школы. А чуючы, як іхныя дзеці дэкламуюць:

*Чаго вам хочацца, панове,*
*Які выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб тэй мове,*
*Якой азваўся беларус? —*

самі ўмацоўваліся і цешыліся.

Нам заўсёды даводзілася змагацца на два бакі. Калі з расейскімі ўплывамі выступала старое настаўніцтва, якое старалася ўздзеіць на жыхароў, то ў час польскае акупацыі — 1919, пачатак 1920-га году — адміністрацыя зверху старалася разбурыць беларускую школу. Арыштаваныя былі тады Тамаш Грыб, Паўлінка Мядзёлка, Палута Бадунова.

Увесну 1920-га году польскае кіраўніцтва склікала сход настаўнікаў беларускіх школ. Сход прызначылі ў беларускай школе, далёка

на ўскраіне, каля самых Старажоўскіх могілкаў. Неяк несамавіта чуліся мы на школьных лаўках, як вучні. Ужо ведалі пра арышт Грыба і Мядзёлкі. За сталом — інструктар. А пытанні былі: увядзенне польскае мовы ў школы і гаспадарскія справы.

Нудны, блытаны агітковы ўступ інструктара ў слабой польскай мове — відаць, прыгарадны «модны шляхцюк» — і прапанова: увесці польскую мову ў беларускія школы Менску. Усе маўчаць. «Што ж, няма супярэчнасці? Прагаласуем!» Апалонія Гірконт, адна з дазнаных старэйшых настаўніцаў, міргянула вачыма на дзверы, узнялася ва ўвесь свой высокі рост ды спакойна паплыла да дзвярэй. За ёй, як па камандзе, падняліся ўсе і шнурам, так сама спакойна і павольна, выходзяць з класы. Збянтэжаны інструктар мамліць: «Пачакайце, панове! Пачакайце! Я маю яшчэ гаспадарскія справы». Нехта з чарады: «Не трэба нам вашых гаспадарскіх справаў!» А Краўцоў Макар: «Вы нам тут бздуры не праўце ў нашай хаце!» Вельмі добра помню гэтыя словы, такія яны былі ёмкія, моцныя і на месцы, што я рассмяялася ўголас. За мной іншыя.

Але як выйшлі на вуліцу, усё ж пайшлі не гуртам, а разышліся па адным у розныя бакі, так параіў нехта із старэйшых. Больш ужо ніхто нас не збіраў і не турбаваў, ды і часу не мелі, бо ў ліпені палякі вынесліся.

Між іншага, у часе польскай акупацыі некаторыя расейскія школы далучыліся да беларускіх, можа, толькі фармальна, але далучыліся. А польскіх школаў было вельмі мала. У цэнтры гораду на Губернатарскай, пры Залатой Горцы і на Грушаўскім пасёлку — больш не прыпамінаю.

Гэта была пара першага больш-менш масавага ўвядзення беларускай мовы ў школы, бо адразу адчынілася 9 беларускіх школаў, пасля паступова далучалася больш.

Пэўне ж, былі і перад гэтым паасобныя навучальныя ўстановы з беларускай мовай. Так, у 1915–16 годзе пры Земскай Управе стараннямі Беларускага Нацыянальнага Камітэту (памятаю Лявіцкага, Зямкевіча, Бядулю, Паўловіча, Л. Сівіцкую) быў адчынены дзіцячы прытулак для дзяцей-уцекачоў, якія ў ваенных пературботах згубілі бацькоў. Улетку 1916 году прытулак змяшчаўся ў доме Лявіцкага (пісьменнік Ядвігін Ш.) у Карпілаўцы. Загадчыцай была Ванда Лявіцкая, узгадавальніцай — Ядзя Роткевіч. Узгадаванне дзяцей вялося выключна ў беларускай мове. Увосень прытулак быў перанесе-

ны ў Менск. Змяшчаўся ў будынку Школы Сляпых на Захараўскай вуліцы, за Чырвоным Касцёлам (усё гэта было знесена пазней пад пабудову Дому Ураду).

Пазней Ванда Лявіцкая занялася выключна выдавецкай справай — была сакратаркай газеты «Вольная Беларусь». Загадчыцай дзіцячага дому сталася Мальвіна Зароўская (другая пасля Мядзёлкі выканальніца ролі Купалавай Паўлінкі). Гэта ўжо была поўнасцяй Беларуская школка пры Беларускім дзіцячым Доме.

А шмат, шмат раней на Палессі Якуб Колас ды іншыя намагаліся ўводзіць беларускую мову ў школы. Для гэтага перад Першай Сусветнай вайной былі складзеныя і выдадзены школьныя чытанкі Цёткі-Пашкевічанкі і Якуба Коласа. Некаторыя настаўнікі пробавалі завесці беларускую мову ў народныя школы шляхам афіцыйным, паколькі расейская мова беларускім дзецям была незразумелая. Пакліканая была нават камісія для вывучэння гэтае справы, якая прызнала дамаганне справядлівым, але заводзіць беларускую мову ў школы царская ўлада не дазволіла (глядзі ўспаміны Яўхіма Кіпеля «Як нас вучылі», «Запісы», кн.15, 1977, б. 54–68).

У Вільні ж, захадамі галоўна Івана Луцкевіча і Цёткі-Пашкевічанкі, беларускія школы пачалі засноўвацца за нямецкай акупацыяй ад восені 1915 году (пра гэта ў успамінах Ю. Вітан-Дубейкаўскай пра Цётку, надрукаваных у «Конадні», кн.3, 1955, б. 53–54).

Улетку 1920-га году Менск быў заняты бальшавікамі. Шэрая маса змучаных, галодных, дрэнна апранутых, ледзь абутых, з вінтоўкамі на вяроўках салдатаў літаральна запаланіла горад. На вуліцах стаялі абозы і гарматы. Салдаты размясціліся ў прыватных дамох.

Калі пачаўся навучальны год, настаўнікі і вучні з'явіліся ў школы. Тут агледзіліся, што шмат каго не стала. Але прыбылі і новыя — група настаўнікаў з Глыбоччыны. Вось іхныя прозвішчы:

Сабалеўскі Аляксандра — дазнаны кваліфікаваны настаўнік, выдатны адміністратар.

Савёнак Лявон — толькі што скончыў Глыбоцкую семінарыю.

Зарэмба Пятро — таксама свежы семінарысты.

Дрозд Вольга, Вайцяхоўская Галіна, Драздовіч Язэп, мастак.

З групай заходніх дзечоў прыехала Захарка Пелагея.

Адэская група беларусаў прывезла беларускі дзіцячы дом — дзяцей, загубленых у вайне. Прыехаў разам Міхась Грамыка, Баліцкія, муж і жонка, Рытар Ліда і ейная сястра Іна, зусім яшчэ малая тады

дзяўчынка. Паступова прыязджалі новыя настаўнікі і з раёну: Бурвель, Бандарчык, Сілка, Мешалкіна, Манцывода, Ахрамовіч, Калевіч, Міляшкевіч, Раманоўская, Пыліла.

З Расеі на заклік Усевалода Ігнатоўскага вярнуліся на Бацькаўшчыну настаўнікі, што былі ў уцякацтве або на навуцы: Пучкоўскі Пётра з сям'ёй, дзве старэйшыя дачкі былі ўжо таксама настаўніцамі, Сушчынскі, Мазур Ігнат, Калінчэнка, Федасенка, Шукалевіч, Касмовіч. Успамінаецца таксама Бяганская Ядзя, Ніна Улашчык, Раманоўская. Гэта ўжо было ў 1920 годзе, калі беларуская школа была афіцыйна прызнаная дзяржаўнай.

Настаўнікаў прыбывала, але і ўбывала. Так, камісар асветы Усевалод Ігнатоўскі паклікаў у прэсу Міхася Кудзельку, Лявона Савёнка, Пашкевіча Янку, Зарэмбу Пётру — тады пачала выходзіць штодзённая газета ў беларускай мове «Савецкая Беларусь». У адміністрацыю Камісарыяту Асветы адышоў Баліцкі, у гарадскі аддзел асветы — Янка Бялькевіч, Міляшкевіч, Калевіч, у прафсаюз — Манцывода, Ахрамовіч. У тэатр пайшлі Гурскі, Кастусь Пуроўскі, Кацярына Яноўская, Ламака, Кавалеўская. Шмат настаўнікаў паехала ў свае раёны і там засноўвалі беларускія школы, прыкладам Гладкі, Бандарчык, Бялькевіч.

Усе мы тады верылі, што будуем «беларускі дом», і шчыра, аддана працавалі. Шмат-шмат хто пасля за гэтую працу быў рэпрэсіяваны, зняволены і згубіў сваё здароўе або і жыццё на поўначы ці ў Сібіры.

Беларуская школа сталася дзяржаўнай. Але і пасля гэтага ейны шлях быў цяжкі, блытаны, часта нават крытычны дзеля розных праектаў, зменаў і шуканняў, якія былі мукаю вучням, а яшчэ больш настаўнікам. Але гэта ўжо апісана на балонках друку.

Хочацца яшчэ зазначыць, што, засноўваючы беларускія школы, настаўнікі, разам з бацькамі і вучнямі, змагаліся ці раз з голадам і холадам. Хадзілі ў Камароўскі лес Ваньковіча пілаваць дровы для школы. Вадзілі вучняў парамі ў сталоўкі на абеды. Тут трэба прыпомніць амерыканскую дапамогу, што так тады дапамагла ўтрымаць моладзь пры жыцці, асабліва пасля эпідэміі тыфусу.

Не зважаючы на ўсё, дзякуючы працы і ахвярнасці настаўнікаў і бацькоў, беларуская школа аднак трывала, працавала. З якім таму сумам і жалем даведваемся, што сяння ў Менску ізноў няма ніводнае беларускае школы.

# ПРЫПАМІНАЮ

У 1917 годзе ў Менску сярод беларускай грамадскасці з'явілася новая постаць. Гарун вярнуўся. Алесь Гарун вярнуўся з расейскай турмы. — Хворы, сухотнік, — шапнула сяму-таму Ванда Лявіцкая.

Высокі, але сутуліўся, ці то ад болю ў грудзях, ці ад высокага росту. Нейкі ясны: светлыя валасы, у белай кужэльнай кашулі, падпаясанай звыклым беларускім паяском, бледнае аблічча, такая ж бледная ледзь значная ўсмешка ды... зоры ў вачох. Не ведаю, ці захавалася ў каго ягонае фота: ён быў вельмі сціплы і не любіў даваць сваіх картак. Тварам неяк нагадваў партрэт Дастаеўскага пасля турмы, толькі Алесь быў маладзейшы, прыгажэйшы ды нейкі наскрозь святляны.

Вось і разбярыся тут: хворы-сухотнік, у цяжкім, зусім цяжкім матэрыяльным стане, а з вачэй праменіцца сіла і нейкая высотнасць. І псеўданім сабе выбраў зусім адпаведны — Гарун. З аднаго боку, глынуўшы гора аж досыць, з другога боку — гарыць-палымнее любоўю да людзей, да бацькаўшчыны, трэцяе — думкамі лунае па-над гарамі, у паднябессі. Гэтыя праменнасць, высотнасць і патрыятызм ягонае душы іскрыцца ў кожным ягоным вершы. Бяры як хочаш — Гарун.

Верш «Ты, мой брат, каго зваць беларусам» на тую пару нацыянальнага прабуджэння і ўсведамлення быў проста праграмным, як купалаўскі «Ворагам Беларушчыны», ды дэкламаваўся на сцэне Аматарскага Тэатру, у гуртках моладзі — і заўсёды з вялікім уздымам выканаўцаў і слухачоў.

На зборках моладзі Аркадзь Смоліч любіў дэкламаваць — і рабіў гэта сапраўды мастацка — Гаруновы «Часам я ноччу сны дзіўныя бачу» і «Як надорыцца мінута». У беларускіх школах, толькі што тады адчыненых (1918 год), вершы Гаруна поруч з купалаўскімі, коласаўскімі ды багдановічаўскімі былі праўдзівым скарбам для настаўнікаў, бо мы не мелі тады яшчэ школьных падручнікаў, апрача коласаўскага «Другога чытання», і то абмежаванай колькасці. Некаторыя з твораў Алеся спявалі на вечарынах і ў школах, саматугам падбіраючы мелодыі, на што асабліва былі майстрамі Паўлінка Мядзёлка і Ванда Лявіцкая.

Найбольш скандэнсавана выказаў Гарун сваю, не гэтага свету, душу ў вершы «Заручыўся ўжо з трыма». На шчырыя прыхільныя адносіны аднэй агульнашанаванай у беларускай грамадскасці панянкі Гарун адказаў вершам, што ён навек заручыўся з трыма.

Першая — Беларусь. Гарун ёй аддае ўсё жыццё, усе здольнасці. Уся ягоная лірычна-патрыятычная творчасць выражае гарачае замілаванне да гэтай першай. Другая — Матка. Матка была для яго самае святое, што было ў гэтай Беларусі. Свой першы зборнік Гарун прысвячае ёй ды называе «Матчын дар». Матка праз усё ягонае кароткае жыццё была для яго і сонечным шчасцем, і глыбокім мучэннем, бо ён так і не змог, хоць усёй душой імкнуўся, даць ёй спакойную старасць — яго забрала трэцяя, з якой ён заручыўся — магіла, сырая зямелька. Будучы цяжка, а на той час невылечна, хворым на сухоты (Антон Адамовіч неяк сказаў, што сухоты — гэта прывілей нашых паэтаў), Гарун ведаў, што канец блізка і гэтай трэцяй не мінеш.

Алесь Гарун як сябра Беларускай Вайсковай Рады мусіў пакінуць Менск пры наступе бальшавікоў. Разлучаны з першымі дзвюма, ён навякі паяднаўся з трэцяй, там, дзесь на чужыне.

Але галоўнае тое, што ён, нягледзячы на вельмі цяжкі матэрыяльны стан ды на смяротную хваробу, пакінуў нам у сваіх творах праменную радасць жыцця, любоў да Бацькаўшчыны, заклік да адбудовы нашай дзяржаўнасці. Адкуль узяліся ў яго, сына беднай удавы, што зарабляла на хлеб мыццём бялізны, гэткія то пяшчотныя, то велічныя словы, якімі ён перадаў свае думкі-летуценні ды патрапіў закрануць у чытачоў лепшыя пачуцці, звонкія струны душы: «Думкі-дыяменты, краскі жыцця, песні — вас гэтак люблю»...

Больш як вершы Алеся Гаруна я любіла дэкламаваць хіба толькі вершы Янкі Купалы. З творчасцю Янкі Купалы я пазнаёмілася чатырнаццацігадовай дзяўчынкай праз Ванду Лявіцкую, якая давала мне чытаць «Шляхам жыцця». З гэтай кнігі я дэкламавала на вечарынах моладзі, «суботніках», у «Беларускай хатцы», якая мясцілася на Захараўскай вуліцы. Паслей, калі браты Ждановічы зарганізавалі Беларускі Аматарскі Тэатр, названы потым Таварыствам Беларускай Драмы і Камедыі, мы, моладзь зборак-суботнікаў, уліліся ў яе як хор і танцавальная група. У рэпертуары тэатру нязменна і заўсёды на першым месцы была «Паўлінка».

У вандроўках па Беларусі (Тэатр пабываў тады ў Магілёве, Слуцку, Бабруйску, Радашкавічах) спектаклі складаліся з драматычнай пастаноўкі і дывертысменту. З драматычных твораў, акрамя «Паўлінкі», ставілі «Моднага шляхцюка» Каганца, «У зімовы вечар» Элізы Арэшкі, «Пашыліся ў дурні». А абавязковы дывертысмент —

спевы, танцы, дэкламацыя, музыка. Гэта была вельмі важная частка спектаклю, бо ў ёй мела месца народная песня і танцы ды шырылася нацыянальная сведамасць праз дэкламацыі твораў нашых пісьменнікаў. Найчасцей я дэкламавала з твораў Алеся Гаруна і Янкі Купалы.

Так і расла, вучачыся ў рускай школе, а выхоўваючыся ў беларускай грамадзе. Калі ў 1918 годзе адчыніліся беларускія школы, я была якраз скончыўшы кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы (між іншага, гэтыя курсы з красавіка па верасень 1918 годзе скончыла Ванда Лёсік, Стэфа Шыманская, Вера Каралецкая). І была далучаная да групы першых беларускіх настаўнікаў, хоць мела тады толькі сямнаццаць гадоў. Неспрактыкаванай маладой настаўніцай (некаторыя вучні былі ад мяне большыя ростам), без падручнікаў. У нашай пачатковай школе № 22 на рагу Аляксандраўскай і Старажоўскай працавалі, акрамя мяне, Макар Краўцоў, Апалонія Гіркант. Яны мне вельмі памагалі ў працы, а таксама даў знаць мой удзел у Тэатры. Скончыўшы, як магла, урокі арыфметыкі, я расказвала вучням, што сама любіла і ведала, спявала беларускія песні — у дадатак да тых школьных, што саматугам пяратлумачвала на беларускую мову, на лекцыях спорту вучыла танцаваць нашыя танцы.

Восень 1920 году. Мая група ў школе 3-я, мае больш урокаў, і пасля таго, як малодшыя класы скончылі заняткі, я маю яшчэ лекцыю спеваў. Адна класа на ўсю школу — радасць, прастор, свабода. Надвор’е цудоўнае, вокны адчынены, і вучні, а мо найбольш я сама, цешымся з магчымасці паспяваць на поўны голас. Раптам дзверы прыадчыняюцца — і ўваходзіць Купаліха.

— О, выбачайце, я праходзіла міма, тут поруч дзіцячы садок. Новы, зусім блізка. Я інструктар. Чую беларускія песні — і вось заскочыла паглядзець. Можна?

Пэўна ж, можна! Я падышла да яе, прывіталася, папрасіла сесці. Яшчэ праспявалі дзве-тры песні, і ўрок скончыўся. Дзеці разбегліся.

— Ну, вось і добра, — кажа Купаліха. — А мне трэба ў садок. Можа, пройдземся? Гэта зусім блізка.

Садок быў праз два дамы, на Старажоўскай вуліцы. Але Купаліха не адразу ўвайшла ў яго. Яна пачала жаліцца, што беларускія садкі ўсе амаль карыстаюцца расейскаю мовай, выхавальніцы не ведаюць беларускай, не ведаюць нашых песняў, гульняў.

— Што магу, памагаю, але што тут можна зрабіць, калі ў самім садку няма на каго абаперціся. Вось у гэтым садку якраз ёсць такі чалавек — Марыя Францаўна Бурвель. Але ёй патрэбна ў дапамогу сведамая беларуска. Ведаеце, школы маюць ужо шмат беларускіх настаўнікаў. Перайдзіце ў дашкольнае выхаванне, памажыце беларусізаваць дзіцячыя садкі.

— Але ж я люблю сваю школу, сваю класу асабліва.

— Неяк пагодзімся. А садок і дашкольнікаў Вы палюбіце яшчэ болей. Гэта такая цікавая галіна працы!

Зайшлі ў садок. Прыемна, утульна, чыста. Асабліва спадабалася загадчыца Марыя Францаўна. Гаварылі, жартавалі, а маё сэрца хілілася да гэтай новай нязнанай мне працы. Відаць, і я зрабіла ўражанне не найгоршае, бо абедзве Францаўны пачалі мяне ўгаворваць. Нарэшце дамовіліся наступным чынам: Купаліха дагаворыцца ў аддзеле асветы, каб маю класу перавесці на другую змену. У садочку буду працаваць зрання, і мяне будуць адпускаць на гадзіну раней, каб паспець у школу. У аддзеле асветы Купаліха ўсё залагодзіла, і я пачала працаваць — раніцай ад 8-й да другой гадзіны ў садку, а з другой да 6-й у школе.

Так прайшоў канец 20-га году і пачатак 21-га да канца навучальнага году. На першых парах было так, што, прыйшоўшы ў школу пасля дзіцячага саду, я адпачывала душою з старэйшымі дзецьмі. Але ў той час школа часта была зачыненая — то з прычыны халадоў, то эпідэміі, а дзіцячы садок працаваў бесперабойна. І тады я поўнасцю магла аддаваць час садку.

Наш садок стаўся першым сапраўдным беларускім садком. Песенькі спяваліся толькі па-беларуску — найчасцей Коласавы, але былі і Купалавы. Купаліха і я перакладалі з польскай і расейскай моў; потым тыя песні ўвайшлі ў зборнік для дашкольнікаў, што мы ўклалі. Перакладала і апавяданні, якія потым таксама ўвайшлі ў зборнік апавяданняў.

Новы 1922 год. Ялінка — яшчэ не забароненая — у садку на Старажоўскай. Калі бацькі забралі дзетак, у зале засталася група запрошаных гасцей — Купаліха з Купалам, Бурвель з мужам, яшчэ некалькі чалавек — кіраўнікі з аддзелу асветы. Марыя Францаўна шапнула мне:

— Покуль я буду накрываць на стол да чаю, займайце гасцей, — і шмыгнула ў суседні пакой. Лёгка было сказаць, займайце. А як?!

Купала з Лявонам, маім мужам (якраз восенню мы ажаніліся) стаяць каля акна, абапершыся на шырокі падваконнік, гутараць, смяюцца. Групка гасцей, акружыўшы Купаліху, сядзяць на маленькіх дзіцячых крэсліцах і абмяркоўваюць дзіцячыя спевы. І тады я кажу:

— А я таксама хачу заспяваць песеньку, але не дзіцячую, — і, каб ушанаваць Купалу, пачынаю:

*Не чурайся, дзяўчынка-галубка, мяне!*
*Пажалей, прыгарні бедака-сірату.*
*Збудзі сэрца, збудзі, хай на век не засне,*
*Дабудзь песню з душы, разгані цемнату.*
*Не было мне пацех ад людзей, ад жыцця;*
*Не заглянула сонца ў хату маю;*
*Віхры гналі-гулі без канца, без жыцця,*
*Ажно долю паганую кляў я сваю.*

Праспявала песню, а яна доўгая — апошні радок амаль шэптам дацягнула. Без музыкі, седзячы на дзіцячым зэдліку. Ну, думаю, зараз воплескі будуць, перадыхну. Але тут цішыня, поўная, мучыцельная цішыня! Купаліха ратуе сітуацыю: робіць наіўную міну і пытае:

— А каму ж гэта Купала напісаў такую прыгожую песню?

— Як-то каму? Ведама ж, Вам! — радая, што нехта загаварыў, крыху больш чым трэба павышаным голасам адказала я.

— Ой, а я не ведала. Думала, усім дзяўчатам.

Зноў змоўклі ўсе. І я чую ад вакна голас Лявона:

— Ну, браток Купала[1], і ўдзёр жа! За ўсіх закаханых нашых хлапцоў сказаў. Ды як!

— Я і сам дзіўлюся, — шырокая дзіцячая ўсмешка зацвіла на Купалавым твары, а ямка на баку падбародка (Купала меў ямку не ў цэнтры падбародку, як усе, а збоку) заскокала ад ціхага смеху (ніколі не чула, каб Купала смяяўся ў голас). Я паклікала іх да кампаніі:

— Хадзеце да нас. Вось цётка Ўладзя не верыць, што гэты верш быў напісаны для яе.

— Лявон цвердзіць, — кажа падыходзячы Купала, — што гэта сказана за ўсіх закаханых беларускіх хлапцоў.

— Ага, значыць, мая праўда. — жыва падхапіла Купаліха. — Верш напісаны да ўсіх мілых беларускіх дзяўчатак.

---

[1] Тады яшчэ не было слова «спадар». Ніхто з Купалам не быў на *ты*, хіба, можа, Колас, але праз пашану ўнікалі халоднага *Вы*, стараліся абысці займеннік, называючы *дзядзька Купала, браток, Вашэць* (заўв. аўт.).

— Але толькі адна можа «дабыць песню з душы», — паважна адказаў Лявон. І пачалася ажыўленая гутарка аб вечнай праблеме — каханню, адзінай істоце ў жыцці кожнага чалавека. І калі Марыя паклікала ў суседні пакой на шклянку гарбаты, усе неяк разам падняліся і, не спыняючы гутаркі, перайшлі да стала, селі, не зважаючы дзе хто, думаю, не звярнулі нават увагі, шту на тым стале было (сухарыкі, што мы самі спяклі, ды цукеркі, таксама намі зробленыя з цукру і какавы). Усе былі захопленыя размоваю, кожны меў што сказаць.

Назаўтра Марыя Францаўна падышла да мяне, пацалавала і кажа:

— Лепей ніхто не патрапіў бы ўшанаваць Купалу.

«Я і сам дзіўлюся», — згадаліся мне Купалавы словы.

Пасля 1923 году, як 8-ы дзіцячы садок стаўся вопытна-паказальным, Купаліха пакінула інструктарскую пасаду і перайшла працаваць у садок. Мяне перавялі туды ж, і з гэтай пары мы працавалі разам і часцей сустракаліся па-за працаю.

Купалаў дом быў самы гасцінны сярод беларускае эліты. Часта запрашаліся госці, а то і самі прыяцелі-знаёмыя забягалі, хто пажаліцца, хто пахваліцца, і знаходзілі ў Купалаў цёплы прыём і чулы ўдзел у сваіх праблемах. Купаліха вельмі любіла садок, сваіх дзетак, але ўсё ж спяшалася дадому: «А можа, хто заскоча».

Успамінаецца багата прыемных і значымых вечароў за Купалавым сталом, але адзін хачу падаць асабліва.

Пасля Новага 1926 году. Зіма. Купалы жылі ў сваім доме на Садовай проці лазні. Тым разам сабраліся якраз маладыя. Купаліха рэдка калі сядзела на сваім месцы, тупала за крэсламі вакол гасцей: таму падкладала, таму падлівала, а часам і стрымлівала. Яна была ўсюды.

Мы ніколі не заўважалі, шту было на стале, чым частавалі. Аснова быць у Купалаў — гэта была гутарка, паважная і жартаўлівая, ды песня. Спявалі заўсёды: «Ой, расцвіла ружа», «Дзеўка ад вады, хлопец да вады», «Баразёнку». Вось пра гэтую «Баразёнку» і хачу расказаць, калі патраплю.

Праспявалі мы аднаго разу «Ой, расцвіла ружа». Канец яе такі сумны:

Вярнулася жонка дадому,
Вярнулася жонка дадому,
Лыжкі не мыты, міскі ўсе пабіты,
А дзеці плачуць на печы.

Стала сумна... Купала і прапанаваў заспяваць «Баразёнку»:

Як паслала мяне маці, як паслала мяне маці,
Як паслала мяне маці ядранае жыта жаці.
А я жыта не жала, а я жыта не жала,
А я жыта не жала, у баразёнцы ляжала.
Адкуль узяўся Цімох, адкуль узяўся Цімох,
Адкуль узяўся Цімох ды са мною побач лёг.
Баразёнка вузенька, баразёнка вузенька,
Баразёнка вузенька, не памесціліся.
Летня ноч караценька, летня ноч караценька,
Летня ноч караценька — не нацешыліся.

— А чаго гэта дзядзька Янка ўсміхаецца? — крыху кусліва выскачыў Ажгірэй.

Дударок яшчэ шырэй адчыніў свае шырокія вочы.

— Цешуся! Заўсёды цешуся на гэтую песню. Як гэта народ патрапіў так далікатна пажартаваць над сваімі слабасцямі. Так лоўка — і сказаў, і не сказаў.

— Пра што не сказаў? — азвалася з другога канца стала Ксенечка, нашая маладзенькая сяброўка.

— Брава! — гаркнуў Кудзелька. — Вось гэта ды мастацтва! Паэт бачыць красу слова, Ажгірэй сваё, а Ксенічка пытаецца: што здагадацца?

— Вось гэта дык народны гумар, — падтрымаў размову Лявон сярод агульнага смеху, — вучыцца трэба: трапны, дасціпны, далікатны.

Так, тады мы шмат смяяліся. А потым былі іншыя часы.

У часе нямецкай акупацыі Менску летам, недзе пад канец чэрвеня 1942 году, зусім нечакана, на ледзь значнай сярод руін вуліцы, што вяла ад Верхняй Ляхаўкі на вакзальную плошчу, спатыкаю Ганну Луцэвіч, малодшую сястру Янкі Купалы. Нідзе ні душы. Яна блукала як непрытомная. У роспачы кінулася да мяне:

— Сам Бог паслаў мне сустрэць Вас, — ледзь вымавіла ў слязах.

Хоць такая роспач была на тую пару звыклай з'явай, аднак у спакойнай Ганны гэта было нешта надзвычайнае.

— Што сталася? — пытаю, моцна абнімаючы яе і стараючыся супакоіць.

— Мама памёрла. Я не ведаю, што рабіць, — выціснула яна, ледзь дыхаючы.

Божа мой! Купалава маці памерла, а мы не ведалі нават, што яна жыве тут, у Менску, не ведалі, як жыве. А Ганна тым часам жалілася:

— Не ведаю, як дабыць дамавіну, выкапаць дол. Нічога не ведаю! І сёстрам як пераказаць — не ведаю.

— Супакойцеся, пачакайце, падумаем, можа, як-небудзь зарадзім, — і павяла яе ў рэдакцыю «Беларускай газеты».

Па дарозе Ганна расказала, што жылі з маткай на Грушаўскім пасёлку, што пераказаць сёстрам яна не мае ніякай магчымасці, што матэрыяльна яны маюцца вельмі слаба.

У рэдакцыі, як даведаліся аб смерці Купалавай маткі, узяліся зрабіць самае неабходнае, што можна было ў тых варунках: зрабіць дамавіну, раздабыць транспарт, дастаць дазвол на пахаванне, на месца на могілках, выкапаць дол. На тую пару гэта былі не лёгкія справы. Хто і якім спосабам заняўся гэтым, не ведаю, бо мы з Ганнай пайшлі да яе на кватэру.

Мы самі ўдзвёх абмылі, як маглі, нябожчыцу, апранулі ў чыстае. Сукенка была прыгатаваная — бронзавая, у светлыя крапінкі. Злажылі на прыгатаваны ўслон. Не мелі ні абразка, ні свечкі.

Назаўтра была дастаўлена дамавіна. На трэці дзень на грузавіку, звыклым рабочым грузавіку прыехалі ўстаячкі людзі з рэдакцыі і кс. Гадлеўскі. З'явіліся свечкі і крыжык. Святар адправіў паніхіду.

На час вынасу цела сабралася ладная грамадка суседзяў. На грузавік вынеслі труну, а вакол пасталі ўсе, хто меў праводзіць на могілкі.

Пахавалі Матку Янкі Купалы на Ваенных могілках. Ніякіх прамоваў. Толькі кс. Гадлеўскі, асвяціўшы адкрытую могілку, сказаў некалькі словаў. Апошнія словы былі: «Дзе сын Твой, гаротная беларуская маці?»

Ганна заплакала, выціраючы слёзы канцамі белай хусткі, што была завязана пад бараду. Усё ж у глыбокай роспачы не забылася дзякаваць прысутным, казала, што не спадзявалася такой дапамогі, што як з неба спусцілася да яе. Прасіла прабачэння, што не можа, як належала б, прыняць удзельнікаў пахавання.

Але каб і магла, гэта было непатрэбна, бо ніхто не затрымліваўся, усе разышліся. У тую пару ўсе ўсяго баяліся. Страх і тэрор.

# НА ЛЫСАЙ ГАРЫ

Улетку 1926 года я з мужам наведала дом Ядвігіна Ш. у Карпілаўцы.

Паблізу, у Акопах, гасцяваў у сваіх родзічаў Янка Купала з жонкаю. Мы разам хадзілі па квяцістых лугах, узмежках, палявых дарожках. Купала вельмі любіў такія паходы і ведаў цудоўныя маляўнічыя мясцінкі.

Аднаго разу Купала папытаўся, хто вытрывалы, падтрымае таварыства на далёкую экскурсію. Выйсці трэба рана, з расою. Пэўна ж, я адазвалася.

Назаўтра раніцою — была гэта нядзеля — мы выправіліся. Купала, Купаліха і я. Ішлі па дарогах і межах, праз росныя лугі. Рачулкі і раўчукі пераходзілі па дрыготкіх мастках і зыбкіх кладках або слізкіх бярвеннях, перакінутых праз канавы. Купала ішоў моўчкі паперадзе, апіраючыся на сваю неадлучную ляску. Ішоў упэўнена, відаць, што ці раз хадзіў і добра ведаў дарогу нацянькі. Мы з цёткай Уладзяй ледзь надужвалі за ім, перакідаючыся нязначнымі слоўкамі.

Сонца ўзнялося і пачало прыемна аграваць прамочаныя расою ногі, калі мы падышлі да падножжа стромкага ўздыму.

— Ну, вось вам і Лысая Гара!— сказаў Я. Купала.

— Лысая Гара?!— здзіўлена-пытальна глянула я на Купаліху.

— Але ж,— адказала яна кіўком галавы.

— Што ж вы раней не сказалі, куды ідзем. Я б пільней прыглядалася дарогі, а то думала, што ідзем браць баравікі.

— Ну во, баравікі! У чэрвені баравікі! (А трэба сказаць, што Купала вельмі любіў збіраць грыбы і надзвычайна вычуваў баравіковыя мясціны, ды нас вучыў гэтай штуцы, калі даводзілася быць разам увосені).

Мы пачалі ўзбірацца на гару. Спачатку проста і лёгка ішлося паміж нізкіх сасонак, але пасля часінаў 10–12 уздым стаўся больш стромкі, сасонкі радзейшыя, месца больш адкрытае. Сонца, што ўнізе пачало ўжо добра прыграваць, тут здавалася халаднейшым, бо вецер, якога зусім не адчувалася ў даліне, веяў тут бесперашкодна. Камяні, што ніжэй на схоне ледзь тырчэлі з грунту, прыкрытыя расцінамі, тут пачалі выступаць вялікімі валунамі, абшліфаваныя ветрам або парослыя сухім мохам з паўночнага боку.

На адным з такіх валуноў Купала сеў, выразна змораны, і абапёрся барадою на зложаныя на кійку рукі, углядаючыся ўдаль. Я хацела

спыніцца тут жа, але Купаліха дала зразумець, што трэба Купалу пакінуць аднаго.

— Няхай, няхай,— толькі сказала яна і пайшла вышэй.

З кожным крокам уздыму мы знаходзілі бяднейшую расліннасць, якой цяжка было ўмацавацца на адкрытым ветру камяністым схоне: рэдкія карлаватыя сасонкі, сухі мох, мізэрная жорсткая трава. Сапраўды лысая гара.

Хутка мы вярнуліся да Купалы і прымасціліся побач на сухой траве. Цікава глядзець з гары ўдаль на нізіну. Перад вачыма квітнеюць лугі абапал маленькіх рачулак і раўчукоў ды чатырохкутнікі розных формаў, велічыні і афарбавання: вялікія прасторы хвалявіднага сівога жыта; зялёныя чатырохкутнікі ярыны; меншыя, бы абрусы, квітнеючыя грэчкі; палоскі, бы стужкі, далікатна-зялёнага, кволага лёну. Дзе-нідзе, на папары, пастушок пільнаваў мізэрны статак. Дзеля нядзелі на полі ніхто не працаваў.

Было зусім ціха, нават птушак не чуваць было. Месца, дзе сеў Купала, відаць, было яго заўсёдным месцам, бо нават ад ветру яно было зацішное.

— Ну, вось мы на адным з самых высокіх пунктаў нашай Бацькаўшчыны,— задумліва працягнуў Купала, угледжаны ўдаль.

Мне прыгадаліся словы Купалавага твора, і я ціха пачала:

*На высокай гарэ,*
*Дзе ніхто не арэ,*
*Сокал-птушка дзе толькі садзіцца,*
*Там збудую-ўзвяду*
*Нізі ўсёй на віду*
*Мураваную вежу-званіцу.*

Паўза. Купала, не змяняючы паставы:

—... Не ведама, ці будзе калі збудавана...

— Ну, Вы ўжо збудавалі, напісаўшы твор.

Купала ўсміхнуўся.

Купалаву усмешку не злавіла ні адно фота, ёсць шмат Купалавых здымкаў. Найлепшыя з іх: Купала задумлівы, зрокам углыбіўшыся ўнутро сябе; добрае фота — Купала задумлівы, угледжаны ўдаль; добра схоплена — Купала суровы, пахмурны; Купала пагодны; нават ветліва-афіцыйная усмешка ёсць, але гэта не купалаўская усмешка. Купала ўсміхаўся па-дзіцячаму шырокай, адкрытай усмешкай, пры гэтым не толькі вуснамі, а галоўна — яснымі блакітнымі вачыма і ямінкай на барадзе.

Падбадзёраная купалаўскай усмешкай, я вяла далей:

— Цяпер толькі трэба добрага інжынера-архітэктара, каб ужыццёвіць ідэю.

— Інжынера?! Архітэктара?! — раптам замяніўся Купала.— Сотні інжынераў, сотні архітэктараў, увесь народ, мільёны.— Купала ўстаў, усхваляваны. — Незалежнасць, свая дзяржава. «З усіх чутны старон», разумееце: радыёвежа, абсерваторыя, Акадэмія, архіў, кансерваторыя… «З усіх чутны старон». «Голас роўны віхуры і грому»… «На той звон вечавы», разумееце, вечавы,— сыпаў Купала.

Мне цяжка перадаць. Мы былі збянтэжаныя. Купала заўсёды гаварыў так мала, быў заўсёды такі філасофска спакойны, такі сціплы, а тут ён сыпаў сваім асаблівым «р», непараўнальным купалаўскім «р», як гарохам па таку. Раптам змоўк і пачаў бакавінкай спушчацца з гары. Купаліха мяне прытрымала, калі я памкнулася ісці назіркам:

— Няхай, няхай…

Як яна яго ведала! Як аберагала ягоныя маменты творчасці, уздыму, задумы. Мы пайшлі колькі крокаў адзаду. Пасля блізу паўгадзіны хады Купала пачакаў па нас і зусім спакойным, сваім звычайным тонам кажа:

— Бачыце, як пустыя дарогі і сцежкі. Ні чалавека нідзе.

— А раней, бывала, хто пехатой, хто яздой, з маленькіх дарожак на большую спяшаліся, хто ў царкву, хто ў касцёл,— падхапіла Купаліха.

Купала зноў пайшоў наперад. Ён быў выразна нездаволены сваім падарожжам на Лысую Гару. А відаць, хадзіў на яе часта і думаў там свае вялікія думы. І выліліся гэтыя вялікія думы-мроі ў сімвалічны твор «Песня званара». І шмат хто не зразумеў ягоных мрояў і летуценняў. Дык што ж меў пеpажыць гэты волат духу, калі пісаў свае «Прарок», «Перад будучыняй», «На Куццю», «Паўстань», «Над Нёманам»? Які пратэст мусіў клакатаць у ягонай душы, што выліўся ў зварот к «Цару Неба і Зямлі»! І выпадкам крыху прыўзняў ён заслону зместам аднаго твора, адкрыў кавалачак душы, вялікай, паланеючай, якой не змераць нашымі трохмернымі разуменнямі.

# КАМЕНТАР

У новым выданні спадчына Лявона Савёнка прадстаўлена найбольш поўна (прынцып укладання — жанрава-храналагічны). Так, калі ў кнізе выбраных твораў «Беларусізацыя пад №...» (1998) было змешчана 11 фельетонаў (8 тэкстаў 1920-х гг. і 3 тэксты 1940-х), то ў дадзенай кнізе іх ужо друкуецца 38 (28 тэкстаў 1920-х і 10 тэкстаў 1940-х адпаведна).

У раздзеле «Фельетоны» было зроблена і адступленне ад жанрава-храналагічнага прынцыпу. Першыя 20 фельетонаў дублююць па структуры адзіную прыжыццёвую кнігу Савёнка «Чароўная іголка», астатнія фельетоны друкуюцца ў храналагічным парадку. У той жа час фельетоны, якія ў «Чароўнай іголцы» патрапілі пад відавочныя цэнзурныя скарачэнні, друкуюцца паводле першапублікацыі ў газеце «Савецкая Беларусь».

Упершыню перадрукоўваюцца мастацкія нарысы Лявона Савёнка 1920-х гг. (10 тэкстаў). Было палічана неабходным зрабіць у кнізе і раздзел *Dubia*, куды ўвайшлі 4 нататкі, падпісаныя крыптанімам «С.» Нягледзячы на тое, што ў газеце «Савецкая Беларусь» матэрыялы пад гэтым крыптанімам з'яўляліся дастаткова часта, верагоднасць аднясення гэтых тэкстаў да твораў Лявона Савёнка досыць вялікая, бо яны супадаюць тэматычна і храналагічна з падарожжам журналіста па Віцебшчыне, вынікам чаго сталі некалькі буйных нарысаў (гл. каментарыі да тэкстаў «Па Полаччыне», «Камбінат з дзевяці»). Прысутнічаюць у гэтых нататках і адзнакі савёнкаўскага стылю — выкарыстанне няўласна-простай мовы, замена апісання частымі дыялогамі і інш.

«Дадатак» да кнігі складаюць мемуарныя тэксты жонкі Лявона Савёнка — Апалоніі (нарodж. Раткевіч), вядомай дзячкі беларускага адраджэння. Гэтыя тэксты, апублікаваныя Апалоніяй Савёнак у эміграцыйны перыяд, рассяроджаны цяпер па цяжкадаступных выданнях, таму было прынята рашэнне выдрукаваць іх разам з тэкстамі Лявона Савёнка. Мемуары гэтыя праясняюць у тым ліку і час, у які давялося жыць і працаваць Лявону Савёнку, акрэсліваюць кола яго знаёмстваў і зацікаўленняў.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Беларусізацыя...* — Савёнак, Л. В. Беларусізацыя пад № = Belarusization № / Лявон Крывічанін. / Уклад., прадм. і камент. Л. Юрэвіча — Нью-Ёрк: БІНІМ, 1998. — 163 с.

*СБ* — газета «Савецкая Беларусь».

*ЧІ* — Свэн, Л. Чароўная іголка: фэльетоны. / Л. Свэн. — Менск: Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, 1929. — 120 с.

# ФЕЛЬЕТОНЫ

## *Чароўная іголка*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 5–10. Упершыню: СБ. — 1927. — 27 мая.

*«У раёне мне адмовілі, у акрузе таксама» (с. 27)* — Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам БССР 1924 г. (пасля першага ўзбуйнення краіны) рэспубліка была падзелена на акругі (існавалі Аршанская, Бабруйская, Віцебская, Гомельская, Калінінская, Полацкая, Лепельская, Мазырская і іншыя акругі), якія ў сваю чаргу падзяляліся на раёны (асноўная ўлада належала РВК — раённым выканаўчым камітэтам). Раёну падпарадкаваліся сельсаветы.

## *Як я арганізаваўся*

Друкуецца паводле :*ЧІ*, с. 11–19. Упершыню: СБ. — 1927. — 16 кастрычніка.

*«Рабілі даклад аб міжнародным» (с. 29)* — маецца на ўвазе абавязковы на той час пункт павесткі дня кожнага паседжання: «Міжнароднае становішча».

*«Балдуіну і Чэмберлену пад зад каленам» (с. 29)* — Стэнлі Болдуін (1867–1947) — прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1923–1924, 1924–1929, 1935–37 гг., палітычны дзеяч кансерватыўнай партыі, стрыечны брат пісьменніка Р. Кіплінга; Джозэф Осцін Чэмберлен (1863–1937) — міністр замежных спраў Вялікабрытаніі ва ўрадзе Стэнлі Болдуіна ў 1924–1929 гг. 23 лютага 1927 года накіраваў ноту савецкаму кіраўніцтву, у якой абвінаваціў СССР у правядзенні антыбрытанскай прапаганды і пагражаў разрывам гандлёвых і дыпламатычных зносін. Англійскі заклік аб разрыве адносін з СССР не быў падтрыманы іншымі буйнымі дзяржавамі, што дало магчымасць разгарнуць у СССР вялікую антычэмберленаўскую кампанію, якая праходзіла ў друку пад лозунгам «Наш адказ Чэмберлену».

*«Панёс я гэты верш у саліднае выдавецтва... Адчыніў гэта я ціханька дзверы ў кабінет загадчыка... Дзядзька павёў на мяне акуляры і ўсміхнуўся» (с. 29–30)* — відавочна, пад загадчыкам выдавецтва маецца на ўвазе пісьменнік Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), які на той час кіраваў Беларускім дзяржаўным выдавецтвам.

*«У адным з аб'яднанняў, куды я спачатку панёс свой зборнік, маладыя хлопцы-паэты спаткалі мяне даволі прыхільна. Але на маю прапанову — выдаць зборнік — замахалі рукамі.... Адзін хлапец пацягнуў мяне ў кут, дзе за шафай пад лозунгам «Лепш менш, ды лепш» ляжала аграмадная груда вершаў.*

*— Бачыш, колькі навярнулі» (с. 32)* — відавочна, Лявон Савёнак тут у алегарычнай форме паказвае літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», якое пры колькасці сяброў у некалькі сотняў чалавек было перагружана літаратурнымі творамі, амаль заўсёды — даволі нізкай якасці.

*«...Пайшоў у другое згуртаванне...*

*— Бярыце ад нас прыклад, у нас вось усё толькі высока мастацкае. Бо мы многа працуем і за мастацтва гатовы адсеч малы палец на левай назе. Хлебам нас не кармі, а дай мастацтва, бо мы не такія, як некаторыя... » (с. 32)* — тут у жартоўнай форме паказана платформа літаратурнага згуртавання «Узвышша», якое было ўтворана ў 1926 г. Асноўным прынцыпам яго было якаснае абнаўленне эстэтыкі беларускай літаратуры.

*«— Плюнь ты, — параіў ён мне, — на ўсе гэтыя арганізацыі і закладзі сваю. Тады сам адзін будзеш гаспадаром» (с. 32)* — у фельетоне сатырычна паказаны працэс драблення літаратурных арганізацый, які пачаўся ў 1926 г. з адыходам ад «Маладняку» групы «Узвышша», пасля якога неўзабаве з'явіліся аб'яднанні «Полымя», «Пробліск», «Літаратурна-мастацкая камуна», БелАПП. Трэба адзначыць, што кожнае аб'яднанне мела права на падтрымку з боку дзяржавы.

### *І розы белыя завялі...*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 20–28. Упершыню: Літаратурны дадатак да газеты «Савецкая Беларусь». — 1928. — № 4. — С. 7–8

*«Няхай жыве рычы-Кітай» (с. 33)* — маецца на ўвазе паэма рускага пісьменніка-авангардыста Сяргея Траццякова «Рычи, Китай!»,

твор стаў шырока вядомы ў 1920-я гг. дзякуючы пастаноўцы У. Мерхольда. У 1923 г. СССР пачаў падтрымліваць кітайскі урад Сунь Ятсэна, а пазней Чан Кайшы, не прызнаны краінамі Захаду, што паўплывала і на з'яўленне ноты Чэмберлена.

*Рык (с. 37)* — найбольш пашыраны ў той час варыянт назвы раённага выканаўчага камітэту (ад рускамоўнай абрэвіятуры РИК); адсюль вытворныя: рыкаўскі, рыкаўская.

### *Умыкацелі жон*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧI*, с. 31–34.

### *Зосіны аліменты*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1927. — 24 верасня.

*«Дзесь кукувала кукушка. А з зямлі, укрытай стракатай коўдрай — дзяругай, пёр вясенні дух, самачынна лез у рот, адтуль у лёгкія, а там і ў сэрца; распіраў яго і мякчыў так, што яно рабілася здольным успрымаць толькі самае нежнае, самае чулае.*

*Наогул, казалі, рамантычная была ноч» (с. 41)* — парадыруецца традыцыйны стыль прозы сентыменталістаў.

*«Была ноч, калі ехалі вуглянцы з суда дамоў... Не разумелі яны таго, што здарылася на судзе. Не разумелі і дзівіліся» (с. 44)* — у пазнейшай рэдакцыі фельетона, змешчанай у *ЧI*, далей: «Справа прыняла такі нечаканы для ўсіх зварот, што ніхто не мог і слова вымавіць.

Потым раптам узняўся страшэнны гармідар. Крычалі ўсе разам. Можна было разабраць толькі тое, што Даніла нахлусіў і што дзіцянё не яго, а Каятанава.

Калі суддзя пасля доўгага старання і званком, і кулаком па стале крыху супакоіў залу, Даніла Скакунец зноў пацвердзіў сваё трэбаванне:

— Пішы дзіцянё на мяне. Бацька я гэтаму дзіцяці.

Суд, збіты спанталыку такім нечуваным у яго практыцы здарэннем, калі чалавек сам прызнаўся да аліментнага дзіцяці, выйшаў на нараду.

Пасля доўгага абмеркавання справы суд вынес пастанову:

«Прымаючы пад увагу, што грамадзянін Скакунец Даніла сам заявіў аб тым, што дзіцё ягонае, такога і лічыць за ім».

Зосіна дзіцянё запісалі на Данілу Скакунца».

*«Была ноч, калі ехалі вуглянцы з суда дамоў... Не разумелі яны таго, што здарылася на судзе. Не разумелі і дзівіліся» (с. 44)* — Далей у *ЧІ* зменeная канцоўка: «І толькі праз паўгода зусім выпадкова выявілі вуглянцы сутнасць Зосінай аліментнай справы.

Здарылася гэта на кірмашы ў мястэчку.

Вуглянцы, прадаўшы на рынку сякія-такія рэчы, зайшлі ў піўную перакусіць. Тут жа сядзелі і Каятан са Скакунцом, выпівалі крыху. І вось, калі ўжо сябры падпілі троху, Скакунец патрэбаваў ад Каятана нейкія грошы:

— Дай мне, — кажа, — 50 руб. наперад.

Каятан адмовіў. Скакунец зноў насеў:

— Лепш дай, а то скажу, чыё дзіцянё ў Зосі.

Каятан, доўга не чакаючы, — у зубы Скакунцу. Той назад, пачалася бойка. І калі іх вяскоўцы разнялі, Скакунец са слязьмі пачаў апавядаць:

— Браточкі, не магу больш цярпець. Сорам заеў. Гэта ж дзіцянё... што ў Зосі, не маё дзіцянё, а Каятанава.

— А чаму ж ты на сябе запісаў?

— Ды гэта ж ён вось падгаварыў... Запішы, кажа, на сябе дзіцянё — буду ў месяц пяць рублёў даваць, а табе, кажа, што, аліментаў рублі паўтары прысудзяць, вось і заробіш. І я думаў, зараблю, аж далей не магу, годзі — чужое дзіцянё, ды на мяне запісана.

Што ж гэта? Я нібы аліменты плачу, і нібы сам алімент які... Грошы бяру ад Каятана. Годзі! Не хочу!

Вяскоўцы пашкадавалі Скакунца, пажартавалі над ім і тут жа аксцілі яго новым прозвішчам: Даніла — Алімент.

Так і ходзе цяпер Даніла пад новым прозвішчам і ўжо, кажуць, пачаў прывыкаць да яго. Калі сусед яго часам аклікне: «Алімент, пазыч хамута», ён і не абразіцца, і хамут пазычыць.

Прывыкае чалавек да ўсяго...» (*ЧІ*, с. 42–43).

### *З Новым годам!*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1927. — 1 студзеня. У *ЧІ* апублікавана з нязначнай праўкай пад зменeнай назвай «Пад новы год».

*«А мы самі, сабе самі / Ўжо гаспадары» (с. 45)* — цытуецца 7-я частка паэмы Янкі Купалы «Безназоўнае».

*«“Четыре звездочки” і “Абрау Дюрсо”» (с. 47)* — савецкія гатункі каньяку і шампанскага.

*«Спявалі “Наша жизнь...”»* (с. 48) — магчыма, маецца на ўвазе папулярная сярод студэнтаў-народнікаў XIX ст. песня невядомага аўтара: «Наша жизнь коротка, / Всё уносит с собой. / Наша юность, друзья, / Пронесется стрелой!» У гэтым выпадку Савёнак указвае на прарасейскі характар святкавання.

*«Тустэп» (с. 48)* — хуткі парны танец з двухдолевым рытмам.

## *Васеннія настроі*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 50–52.

Фельетон у сатырычнай форме абыгрывае гадавіны Кастрычніцкага перавароту.

*«Восень, а тут раптам — навальніца, гром, маланка, зямлю страсанула, і закруціла завіруха» (с. 49)* — маецца на ўвазе Кастрычніцкі пераварот.

*«Эх, ты, яблычка — ды краснабокае» (с. 49)* — адсылка да папулярнай народнай песні «Эх, яблочко», якая ў час грамадзянскае вайны займела велізарную колькасць варыянтаў.

*«Бацінкі араўскія, трасца ім у бок, не любяць нашага клімату» (с. 49)* — ад ARA — *American Relief Administration* — «Адміністрацыя амерыканскай дапамогі». Недзяржаўная амерыканская арганізацыя, якая ўвосень 1921 года распачала кампанію гуманітарнай дапамогі савецкай дзяржаве (гл. Лукашук, А. Прыгоды АРА ў Беларусі. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.).

*«Нясу на рынак мяшок грошы, куплю хлеба, а можа і на фунт сала хопіць» (с. 49)* — у час грамадзянскай вайны грошы, якія мелі хаджэнне на тэрыторыі былой Расійскай імперыі («керанкі», «саўзнакі», «царскія»), імкліва абясцэньваліся, тэмпы росту інфляцыі былі надзвычай хуткімі, дзеля чаго кошт звычайных прадуктаў нярэдка вырастаў да мільёнаў рублёў.

*«Трэба есці купіць хоць на чырвончык... На цэлых 10 “чарвякоў”...» (с. 49)* — чырвонец — уведзеная ў 1922 г., забяспечаная золатам, устойлівая валюта СССР.

## *У абарону Буланага*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ*, с. 55–58

*«Буланы...ў апазіцыі не быў нават і тады, калі на яго карак накладаў сядло рыкаўскі стрэлачнік» (с. 50)* — алюзія на партыйную барацьбу, што адбывалася ў 1920-я гг. і ў выніку прывяла да адзінаўладдзя І. Сталіна. Спачатку афіцыйна быў асуджаны трацкізм, пасля, на XIII з'ездзе РКП(б) (1924), была асуджана т. зв. апазіцыйная «Заява 46-ці», на XIV з'ездзе УКП(б) (1925) асуджана левая апазіцыя Зіноўева-Каменева.

*«Ён дэкламаваў "Несжатую полоску", спяваў "Вы жертвою пали" і час ад часу загаворваў з Буланым аб "бренности жития"» (с. 51)* — «Несжатая полоса» (1855) рускага паэта Мікалая Някрасава: «Поздняя осень. Грачи улетели, / Лес обнажился, / поля опустели. // Только не сжата полоска одна..../ Грустную думу наводит она». Верш мае выразную сацыяльную дамінанту. «Вы жертвою пали» — песня рэвалюцыйных дэмакратаў XIX ст., аўтар невядомы: «Вы жертвою пали в борьбе роковой / Любви беззаветной к народу, / Вы отдали всё, что могли, за него, / За честь его, жизнь и свободу!» Тут Лявон Савёнак зноў жа ўказвае на прарускі характар часткі чыноўніцтва БССР.

*«Идете, усталые, цепью гремя» (с. 51)* — цытата з песні «Вы жертвою пали»: «Идете, усталые, цепью гремя, / Закованы руки и ноги, / Спокойно и гордо свой взор устремя / Вперед по пустынной дороге».

## *Бой за культуру*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ*, с. 59–63

*«Вось нейчы цяжкі бот ступіў на "Уроки Октября" і адсунуў кнігу ў кут» (с. 53)* — кніга Льва Троцкага «Уроки Октября» выйшла ў 1924 г. Аўтар кнігі ў 1927 г. быў выключаны з партыі, а ў 1929 высланы за межы СССР. Згадка кнігі Троцкага ў 1929 г. магла значна нашкодзіць аўтару, а менавіта тады і пабачыла свет «Чароўная іголка» Л. Савёнка.

*«Чыйсь брудны лапаць шмаргануў палітграмату Каваленкі» (с. 53)* — падручнік П. Каваленкі па асновах палітграматы быў своеасаблівым бестселерам у 1920-я г., выдаваўся мільённымі накладамі

(гл. напр.: Коваленко, П. Книжка политической грамоты. 15-е просмотр, и доп. изд. М.: Гос. изд-во, 1924).

## *Гібель тэатра*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ,* с. 64–67

*«Прыгожы, стыльны сямёнькавіцкі тэатр... паў ахвярай бяспланавасці і адсутнасці вучоту, на першым годзе сваёй плённай дзейнасці» (с. 57)* — тут, як і ў многіх іншых фельетонах Лявона Савёнка парадыруецца савецкі канцылярыт.

## *Аднагалосна*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ,* с. 68–72

*«Сход гурткоў Д-скага Нардому» (с. 57)* — з прыходам савецкай улады пачалі арганізоўвацца Народныя дамы (скар. Нардом), якія былі своеасаблівымі культурнымі асяродкамі: тут адбываліся спектаклі, кінапаказы, працавалі бібліятэкі, гурткі. Аналаг — Дом культуры.

*«На вечары ў Нардоме кааператар Рымша адкалываў з рыкаўскай машыністкай тустэп» (с. 58)* — кааператар — характэрны персанаж часу «Новай эканамічнай палітыкі», дапушчаны да дробнага гандлю чалавек-пасрэднік, які тым не менш усяляк асуджаўся і высмейваўся ў афіцыйным друку. Ліквідацыя кааперацыі адбылася з надыходам 1930-х, да таго часу кааператарскія структуры цалкам ператварыліся ў зборшчыкаў сыравіны для дзяржманапалістаў у сферы вытворчасці; камерцыя ў першасным значэнні гэтага слова знікла.

*«Падтрымліваемая "казінымі ножкамі" культасветнікаў» (с. 59)* — тагачасная назва папіросы-самакруткі.

## *«Опіум»*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ,* с. 73–78

*«Опіум, як казаў мне адзін студэнт-медык, ёсць злаякаснае курава» (с. 59–60)* — Савёнак абыгрывае вядомае параўнанне К. Маркса: «Религия — это вздох угнетённой твари, сердце бессердечного мира, подобно тому как она — дух бездушных порядков. Религия есть опиум народа» з прадмовы да ягонай кнігі «Да крытыкі гегелеўскай філасофіі права» (1843). Цытаванае ў артыкуле Леніна «Сацыялізм і рэлігія» выказванне Маркса сталася ў 1920-я гг. лозунгам:

«Религия есть опиум народа. Религия — род духовной сивухи, в которой рабы капитала топят свой человеческий образ, свои требования на сколько-нибудь достойную человека жизнь». Што праўда, верагоднай крыніцай лозунга «опіум для народа» (на такі менавіта варыянт спасылаецца далей Лявон Савёнак) лічыцца раман І. Ільфа і Я. Пятрова «Дванаццаць крэслаў», вядомы палемічны дыялог айца Фёдара і Астапа Бэндэра. Раман, які выйшаў у 1927 г., чытаўся, зразумела, і ў Беларусі.

## *Мяняйце рэпертуар*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ*, с. 81–84

*«Коробушка» (с. 62)* — руская народная песня, найбольш распаўсюджаны варыянт выканання заснаваны на венгерскай мелодыі з танцу «чардаш».

*«Чыжык, чыжык, дзе ты быў» (с. 62)* — радкі з рускай жартоўнай песні невядомага аўтара: «Чижик-пыжик, где ты был? / На Фонтанке водку пил. / Выпил рюмку, выпил две — / Закружилось в голове»., праўдападобна, прысвечанай навучэнцам Імператарскага вучылішча правазнаўства ў Пецярбургу, якія насілі пыжыкавыя шапкі, а іх форма адзення колеравай гамай нагадвала апярэнне чыжа.

*«Ухар купец» (с. 62)* — песня на верш рускага паэта Івана Нікіціна: «С ярмарки ехал ухарь-купец, / Ухарь-купец, удалой молодец, / Вздумал купец лошадей напоить, / Вздумал деревню гульбой удивить. / Вышел на улицу весел и пьян, / В красной рубашке, красив и румян», дзе апавядаецца, як бедная дзяўчына вымушана была прадаць свой дзявочы гонар багатаму купцу за «падол серабра».

*«Ваши пальцы пахнут ладаном» (с. 62)* — раманс Аляксандра Вярцінскага, прысвечаны памяці акторкі нямога кінематографа Веры Халоднай: «Ваши пальцы пахнут ладаном, / А в ресницах спит печаль. / Ничего теперь не надо нам, / Никого теперь не жаль. / И когда весенней Вестницей / Вы пойдете в синий край, / Сам Господь по белой лестнице / Поведет Вас в светлый рай». У адрозненне ад першых названых песень, гэты раманс быў папулярны сярод месцічаў — местачковай і гарадской інтэлігенцыі, былога рускага чынавенства і дваранства.

*«Бубенцы» (с. 63)* — рускі раманс пачатку XX ст. на словы А. Кусікава, музыку У. Бакалейнага: «Слышу звон бубенцов издалека, / Это

тройки знакомый разбег. / А вокруг расстелился широко / Белым саваном искристый снег. / Пусть ямщик снова песню затянет, / Ветер будет ему подпевать. / Что прошло, никогда не настанет, / Так зачем же, зачем горевать. / Звон бубенчиков трепетно может / Воскресить позабытую тень. / Мою русскую душу встревожить / И встряхнуть мою русскую лень» (тэкст падаецца паводле выдання: Очи черные: Старинный русский романс. — М.: Эксмо, 2004, першыя чатыры радкі з'яўляюцца рэфрэнам).

*«Забыты нежныя лобзанья» (с. 63)* — рускі раманс на словы А. Леніна: «Забыты нежные лобзанья, / Уснула страсть, прошла любовь, / И радость нового свиданья / Уж не волнует больше кровь».

*«Пры ўмелым выкарыстанні гэткага, па праўдзе сказаць, даволі рэдкага "ўклону" сельсавета, як музычны» (с. 63)* — тут зноў жа з'яўляецца адсылка да ўнутрыпартыйнай барацьбы 1920-х гг., інспіраванай І. Сталіным. З інтэрвалам у некалькі гадоў вялася барацьба з «правым ухілам» («нізкапаклонніцтва перад Захадам») і «левым ухілам» (задужа спрошчана інтэрпрэтаванымі задачамі камуністычнай партыі). Штораз чаргуючы абвінавачванні ва «ўхілах», Сталін урэшце падпарадкаваў усю партыю «генеральнай лініі», адзіным і непагрэшным выразнікам якой застаўся ён сам.

*«Чаму ж нам не пець» (с. 63)* — маецца на ўвазе беларуская народная песня: «Чаму ж мне не пець? / Чаму ж не гудзець, / Калі ў маёй хатачцы / Парадак ідзець?»

### *Начальства забаўляецца*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ*, с. 85–89.

*«Скажам — масы, каторыя неаформленыя (часам і аформленыя), танцулькамі забаўляюцца» (с. 64)* — магчыма, адсылка да працы Леніна «Да гісторыі пытання аб дыктатуры» (1906): «Научное понятие диктатуры означает не что иное, как ничем не ограниченную, никакими законами, никакими абсолютно правилами не стесненную, непосредственно на насилие опирающуюся власть. *Не что иное, как это,* означает понятие: "диктатура", — запомните хорошенько, гг. кадеты. Далее, во взятом нами примере мы видим диктатуру именно *народа,* ибо народ, масса населения, неоформленная, "случайно" собравшаяся в данном месте, сама и непосредственно выступает на сцену, сама чинит суд и расправу, применяет власть, творит новое революционное право» (Ленин, В. И. ПСС. Т. 41. С. 383).

*«Ценжка, вой ценжка, — жаліўся мне адзін хутаранін. — Зараз на всі ніякай забавы» (с. 64)* — свядома ўводзячы паланізмы і русізмы ў маўленне сваіх герояў, Савёнак парадыруе вясковую (а таксама местачковую і гарадскую) «інтэлігенцыю і дваранства», якія застаюцца далёкімі ад ідэі нацыянальнай беларускай дзяржавы.

*«Цяпер ужо лягчэй стала. Выганіш, — кажа, — хоць і пуд, а калі на стол паставіў бутэльку "казённай", дык і кліч гасцей смела.*

*— Блізіра, — кажа, — ёсць» (с. 64)* — гаворка ідзе пра забарону самагонаварэння. Пасля адмены «сухога закону» (1914–1924) і, адпаведна, з пачаткам свабоднага продажу гарэлкі ў СССР з'явілася магчымасць легальна выпіваць, хоць гарэлка па-ранейшаму куплялася «для блізіру», г. зн. для адводу вачэй.

*«Вёска сапіць, аддуваецца і крэкча — "свянцоўку" пераварывае» (с. 64)* — г. зн. ежу, асвечаную ў царкве.

*Пра Барадаўку бедака і адміністратара...*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *ЧІ*, с. 90–93

*«Падсуныты спецам які-небудзь праект» (с. 67)* — спец (скарочана ад «спецыяліст») — распаўсюджанае ў 1920-я гг. найменне дробнага савецкага чыноўніка.

*Як жа, урэшце, самакрытыкавацца*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ*. — 1928. — 20 мая. У *ЧІ* апублікавана з нязначнай праўкай.

Для слушнага разумення фельетона перш за ўсё трэба праясніць важнасць з'явы самакрытыкі для савецкага грамадства наогул і БССР у прыватнасці. Падчас XV з'езду УКП(б) (2–19 снежня 1927 г.), акрамя гучных выключэнняў з партыі апазіцыі (былі выключаны дзясяткі тысяч чалавек), прагучаў лозунг аб самакрытыцы, які пачаў актыўна ажыццяўляцца. У газеце «Савецкая Беларусь», дзе на той час працаваў Л. Савёнак, з'явілася пастаянная рубрыка «Самакрытыка — Праверка — Кантроль мас», якая займала 3-ю паласу і складалася з шэрагу допісаў сельскіх карэспандэнтаў, а таксама штатных фельетаністаў выдання — Ц. Зарэчнага, П. Шукайлы, Л. Савёнка і інш.

Выкрыццё недахопаў і актыўнае яго стымуляванне прывяло да таго, што ў цэнтральным друку пачалі з'яўляцца шматлікія артыку-

лы, якi паказвалi найбольш непрыглядныя факты з жыцця савецкага грамадства. Ужо праз паўгода з спецыяльнай заявай выступiў кiраўнiк партыi I. Сталiн, дзе, абараняючы самакрытыку як «сапраўды бальшавiцкi метад», мiж iншым адзначыў: «Мы не можем требовать, чтобы критика была правильной на все 100 процентов. Если критика идет снизу, мы не должны пренебрегать даже такой критикой, которая является правильной лишь на 5–10 процентов. Все это верно. Но разве из этого следует, что мы должны требовать от хозяйственников гарантии от ошибок на все 100 процентов? Разве есть на свете люди, гарантированные от ошибок на все 100 процентов? Разве трудно понять, что на выращивание хозяйственных кадров нужны годы и годы, что отношение к хозяйственникам должно быть у нас самое бережное и заботливое? Разве трудно понять, что самокритика нужна нам не для травли хозяйственных кадров, а для их улучшения и укрепления?

Критикуйте недостатки нашего строительства, но не опошляйте лозунг самокритики и не превращайте его в орудие рекламных упражнений на тему: "Бандиты двухспальной кровати", "Выстрел, который не раздался" и т. п.

Критикуйте недостатки нашего строительства, но не дискредитируйте лозунг самокритики и не превращайте его в кухню для изготовления дешевых сенсаций.

Критикуйте недостатки нашего строительства, но не извращайте лозунг самокритики и не превращайте его в орудие травли наших хозяйственных и всяких иных работников.

И главное: не подменяйте массовую критику снизу "критической" трескотней сверху, дайте массам рабочего класса втянуться в дело и проявить свою творческую инициативу в деле исправления наших недостатков и деле улучшения нашего строительства» (Правда. — 1928. — 26 июня).

У вынiку складалася сiтуацыя, пры якой як аб'ект крытыкi (чыноўнiк, супрацоўнiк праваахоўных органаў, адмiнiстратар i iнш.), так i суб'ект крытыкi (селькар, штатны карэспандэнт) мог патрапiць пад суд.

Паказальны ў гэтых адносiнах тагачасны рэдакцыйны артыкул СБ «Станоўчае i адмоўнае ў самакрытыцы»,, якi варта працытаваць для тлумачэння дваiстай сiтуацыi, у якой апынулiся абодва бакi справы: «Звычайна крытычныя выступленнi на сходах цi ў друку мелi

чыста “аблічыцельны” характар. Залішне выпукляліся факты хібаў, злачынстваў і рэдка выносіліся канкрэтныя прапазіцыі да знішчэння гэтых недахопаў.

Аб’ект крытыкі быў зацікаўлен, галоўным чынам, не тым, каб папravіць свае памылкі і выправіць лінію, а ўсе свае здольнасьці, усю сваю лоўкасць скарыстоўваў на “абвяржэнні”, на замазванне фактаў, на “адпіску”.

Частка працаўнікоў пад уплывам самакрытыкі пачала хварэць “масабаязню” і з залішняй злосцю і нервовасцю адказвала на спробы мас ажыццяўляць свой кантроль.

Асабліва ж ненармальныя адносіны ўтварыліся паміж гаспадарнікамі і працаўнікамі друку. Рабкор, селькор, газэтны рэпартэр зрабіліся для першых “жупелам і пугалам”, ад якіх можна чакаць усякіх “паклёпаў”, ад якіх так цяжка адхрысціцца нават “таленавітымі” абвяржэннямі». (СБ. — 1928. — 14 верасня. — С. 1).

*«Узяць вось наш Дзмітравіцкі сельсавет» (с. 69)* — слова «Дзмітравіцкі» у *ЧІ* знікае (гл. *ЧІ*, с. 94)

## *Рэжым у беларусізацыі*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 101–105

*Беларусізацыя (с. 72)* — афіцыйная нацыянальная палітыка, якая праводзілася кіраўніцтвам БССР у 1924–1929 гг. У звязку з ёй па рэспубліцы праводзіўся шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на пашырэнне ўжытку беларускай мовы, развіццё нацыянальнай культуры, адукацыі і навукі. У часе II сесіі ЦВК БССР была прынята пастанова «Аб практычных мерах па правядзенні нацыянальнай палітыкі» і створана камісія па ажыццяўленні беларусізацыі, якую ўзначаліў Аляксандр Хацкевіч. Неаднаразова заяўляліся тэрміны поўнага пераходу на беларускую мову ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага жыцця. Але ўжо ў 1927 г. падчас XI з’езду КП(б)Б было абвешчана аб «перагібах» у нацыянальнай палітыцы, дзякуючы якім актывізаваліся «шкодныя» праявы нацыянал-дэмакратызму. Далейшыя мерапрыемствы па беларусізацыі штораз ускладняліся супрацьстаяннем «на месцах». Асабліва адчувальным для інтэлігенцыі быў пераход на беларускую мову ў справаводстве. Таксама шэраг адміністратараў і кіраўнікоў установ, рускіх паводле нацыянальнасці, адмоўна ставіліся да ўжывання беларускай мовы ў часе працы з насельніцтвам. У 1929 г. палітыка беларусізацыі пачала згортвацца.

*«Яна ідзе яўна не па НОТу» (с. 72)* — ад рускамоўнай абрэвіятуры НОТ — «научная организация труда». У 1920-я гг. у СССР вельмі распаўсюдзіліся ідэі тэйларызму — рацыяналізатарства і ўдасканалення метадаў працы.

### *«Рассуждения о белоруссизации»*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 101–105.

### *Таварыш Мытніца*

Друкуецца паводле: *ЧІ*, с. 111–113.

### *«Освободители» (трагедыя чыноўніцкай душы)*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1927. — 27 сакавіка. У *ЧІ* апублікавана з яўнай цэнзарскай праўкай пад змененай назвай «Трагедыя чыноўніцкай душы».

Фельетон, відавочна, звязаны з ананімнымі антыбеларусізатарскімі выступленнямі ў Полацку ў 1925–1926 гг. Яны выклікалі хвалю абурэння ў нацыянальна арыентаваных колах. Галоўным стымулам для ўзнікнення фельетона варта лічыць ананімны артыкул «Вражда из-за языка», падпісаны псеўданімам «Белорус». У аўтарстве абвінавачвалі, сярод іншых, пісьменніка і этнографа Аляксандра Пшчолку (1869–1943) (ён часам публікаваўся пад гэтым псеўданімам). Яго як аўтара з пераканананасцю згадвае ў фельетоне і Савёнак, што, відавочна, адлюстроўвае погляд на ананіма ў коле дзеячаў нацыянальнага адраджэння. Змяшчаем найбольш яркія вытрымкі з артыкула:

«1. Когда впервые здесь насильно, т. е. без всякого плебисцита, стали вводить в школы, в учреждения белорусский язык, то население отнеслось к этой реформе настолько отрицательно, что в деревнях стали раздаваться такие голоса:

— Сначала к нам пришли немцы, потом поляки, а теперь идут на нас… белорусы…

Т. е. население стало считать белорусизаторов своими… врагами.

2. Правящие сферы, проводя свои реформы в жизнь, стали доказывать, что население… любит свой язык, в большом количестве говорит на нем; на самом же деле население в общем, безусловно, давно уже утратило свой единый белорусский язык и говорит в разных местностях на одном из многочисленных белорусских наречий, причем эти наречия мало чем отличаются от чисто русского языка:

на каком бы наречии белорус ни говорил — вы его поймете, и он вас поймет. От белорусского языка остался лишь известный акцент, в одних местах, наиболее близких к Польше, — польский акцент, в местах, граничащих с Украиной, — малороссийский, в районах, близких к русским губерниям, — русский.

3. Нигде вы не услышите среди простого населения тот язык, который якобы "воспроизводится" правящими сферами, которой они стараются сделать языком всех белорусов, т. е. тот язык, который дается в Минске по особой терминологии. В основу этого языка положено минско-полесское наречие, и в него введена масса польских слов (до 45–50 %). Вот почему, когда вы говорите с белорусом, вы прекрасно его понимаете и он вас понимает. А вот когда вы ему станете читать издаваемую в Минске на белорусском языке по новой терминологии газету "Савецкая Беларусь", то ваш собеседник только глаза пучит. "На каком это языке газета написана?" — недоумевает он.

Таким образом, население заставляют говорить, писать, читать, преподносят ему разные бумаги на этом языке, от которого оно открещивается, который отошел в область преданий, на котором оно говорило, по характерному замечанию белорусов, во "времена царя Батура"? Белорусизаторы, составители белорусских грамматик, учебников, карт, словарей — за два года своей деятельности… приобрели капитал, выстроили домики, а бедное забитое белорусское население за это время еще стало малограмотным, тупоумным… В самом деле, что может белорусский язык в школах и учреждениях? Куда деваться тому, кто окончил белорусскую школу, изучил большинство предметов (географию, арифметику, природоведение, историю) на белорусском языке? Ведь белорусский, не имеющий литературы (ибо нельзя же в самом деле считать большими литераторами таких "письменников", как Янка Купапла, Якуб Колас, которых местные шовинисты ставят наряду с Пушкиным, Шекспиром), в сущности говоря, служит лишь для того, чтобы портить, извращать фонетику, стиль, грамматику чисто русского языка».

Артыкул быў спачатку перасланы ў ЦК КП(б)Б, дзе публікацыя яго была санкцыянавана, але з умовай дастойнага адказу. Бюро ЦК КП(б)Б 14 мая 1926 г. вынесла на гэты конт спецыяльную пастанову:

«В ответ на заявления полоцких граждан в ЦИК СССР и статью "Белоруса" "Вражда из-за языка" поместить в газетах БССР прилагаемую статью "Имеет ли белорусский народ свой язык и свою куль-

туру” как статью от редакции, разбивающую доводы статьи “Вражда из-за языка”, приведя последнюю **в сокращенном виде**.

Послать статью в “Правду”, “Известия”, “Крестьянскую газету” с просьбой об опубликовании.

Секретарь ЦК КП(б)Б А. Криницкий»

(цыт. паводле: Беларусізацыя. 1920-я гады: Дакументы і матэрыялы. / У. К. Коршук, Р. П. Платонаў, І. Ф. Раманоўскі, Я. С. Фалей; Пад агульнай рэд. Р. П. Платонава і У. К. Коршука. — Мінск: БДУ, 2001. — 270 с.).

Асуджэнне полацкай справы шырока вялося на старонках друку, у тым ліку ў газеце «Савецкая Беларусь». Прагучаў і голас Янкі Купалы — у звязку з падзеямі ў Полацку ім быў напісаны верш «Акоў паломаных жандар». Зусім відавочна, што кампанія была свядома інспіравана органамі палітычнага нагляду, каб адсачыць сімпатыі прадстаўнікоў кіраўніцтва рэспублікі і творчай інтэлігенцыі.

*«Звіхнуліся наш Грыгоры Якавіч, — казала яна кур'еру. — То-та бацька, айцец благачынны, слёзак пралье» (с. 79)* — тут падкрэсліваецца сацыяльнае паходжанне персанажа. Благачынны — духоўная асоба з ліку святароў, якая пастаўлена глядзець за парадкам у благачынні — складовай частцы епархіі (звычайна ў адным благачынні знаходзяцца 10–30 храмаў). Тут неабходна адзначыць, што Аляксандр Пшчолка таксама паходзіў з духоўнага саслоўя. Сам скончыў Віцебскую духоўную семінарыю і служыў у манастыры. Пасля рэвалюцыі — настаўнічаў на Віцебшчыне. Паказальна, што ў 1927 г. пасля заканчэння кампаніі па полацкай справе Пшчолка з'язджае настаўнічаць у пасёлак Старая Таропа (Цвярская вобласць). Па-ранейшаму жывучы ў Прыдзвінні, ён мог такім чынам не залежаць ад БССР.

### *Карчы на дарозе*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1927. — 11 студзеня.

### *Кругавая пошта*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1927. — 5 лютага.

Апублікавана з пазнакай: *«Ганарар — на газету “С. Б”. для чырвонага кутка вёскі Нова-Серабранка Рагачоўскага раёну»*.

### *Юбілеі*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1927. — 15 мая.

Напісаны з выпадку выхаду 2000-га нумару газеты «Савецкая Беларусь» фельетон у жартоўнай форме распавядае пра побыт і ўмовы, у якіх знаходзіліся супрацоўнікі выдання. Форма падачы матэрыялу ў гэтым тэксце змушае прыгадаць фельетон «Васеннія настроі» (гл. вышэй).

*«Трэба было напісаць аб хітрыках капіталістаў на Генуэзскай канферэнцыі» (с. 88)* — Генуэзская канферэнцыя (10.04–19.05.1922) — першая міжнародная сустрэча, у якой прыняла самастойны ўдзел савецкая дэлегацыя, тым самым ленінскі ўрад быў прызнаны на еўрапейскім узроўні. Намінальным старшынёй дэлегацыі быў У. Ленін, намеснікам старшыні (і фактычным кіраўніком) — Г. Чычэрын.

*«Пішы лепш аб выбрыках Цанкова ці аб удасканаленні працы лігі "час". Але я не пісаў: не было настрою пісаць пра лігу "час" пасля ўчарайшага свята» (с. 89)* — маецца на ўвазе Аляксандр Цанкоў (1879–1959), балгарскі палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр Балгарыі ў 1923–1926 гг. У верасні 1923 г. разагнаў паўстанне, інспіраванае Балгарскай камуністычнай партыяй і Камінтэрнам. У студзені 1924 г. прыняў закон аб абароне дзяржавы, у выніку дзейнасці якога былі забароненыя ўсе леварадыкальныя арганізацыі (у тым ліку і кампартыя); Ліга «Час» — савецкі грамадскі рух у пачатку 1920-х гадоў, скіраваны на рацыянальнае выкарыстанне часу грамадзянамі, выхаванне беражлівага стаўлення да часу. Кіраўніком лігі быў Платон Керженцаў, аўтар нашумелага артыкула «Время строит аэропланы» (Правда. — 1923. — 18 июля) і кнігі «Борьба за время». «Эльвісты» (ад рускамоўнай абрэвіятуры ЛВ — Лига «Время») часта друкаваліся ў цэнтральным друку, дзе змяшчалі свае прапановы што да ўліку і планавання часу.

### *Таварышы наркамземаўцы, дазвольце падыскусаваць*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1927. — 28 кастрычніка.

Фельетон сатырычна паказвае сітуацыю 1920-х гг., калі беларуская тэрміналогія яшчэ знаходзілася ў стадыі распрацоўкі і абмер-

кавання, а афіцыйныя дакументы (часта напісаныя не падрыхтаванымі да гэтага занятку асобамі), якія змяшчалі спецыяльныя тэрміны, стракацелі малаўжывальнымі лексемамі (запазычанымі з суседніх моваў — польскай, украінскай) альбо наватворамі.

*Люты ў творчасці беларускіх пісьменнікаў.*
*Як бы гэта выглядала, каб беларускія пісьменнікі пісалі*
*аб Лютаўскай рэвалюцыі*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 12 сакавіка. Фельетон створаны ў суаўтарстве і змешчаны за подпісам «Алёша і Свэн». «Алёша» — адзін з псеўданімаў паэта і публіцыста Анатоля Ажгірэя (Вольнага) (1902–1937). У тэксце парадыруюцца манеры пісьма і тэатральнага майстэрства дзеячаў культуры беларускай рэспублікі.

*Міхась Чарот* (сапр. Кудзелька) (1896–1937) *(с. 93)* — паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч, рэдактар газеты «Савецкая Беларусь» (1925–1929). Расстраляны.

*Міхась Зарэцкі* (сапр. Касянкоў) (1901–1937) *(с. 93)* — празаік, нарысіст. Рэдактар часопіса «Маладняк» (1926–1927). З 1927 г. — у літаратурным аб'яднанні «Полымя». Расстраляны.

*Уладзімір Дубоўка* (1900–1976) *(с. 94)* — паэт, перакладчык. Фактычны кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Узвышша». У 1930–1957 у высылцы ў Сібіры.

*Алесь Дудар* (сапр. Дайлідовіч) (1904–1937) *(с. 94)* — паэт, празаік, крытык. Адзін з заснавальнікаў літаб'яднання «Маладняк». Пазней — у групе Гартнага «Полымя». Расстраляны.

*Кандрат Крапіва* (сапр. Атраховіч) (1896–1991) *(с. 94)* — паэт-байкапісец, драматург, празаік, мовазнаўца. Удзельнік літаб'яднання «Узвышша». Народны пісьменнік Беларускай ССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Лаўрэат двух Сталінскіх прэмій (1941, 1951) і Дзяржаўнай прэміі СССР (1971). З 1940 — член-карэспандэнт, а з 1950 — акадэмік АН БССР.

*Уладзіслаў Галубок* (сапр. Голуб) (1882–1937?) *(с. 95)* — драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак. Народны артыст Беларусі (1928). Член Саюза пісьменнікаў СССР (1934). Арыштаваны ў 1937 г. Лёс невядомы.

*Еўсцігней Міровіч* (сапр. Дунаеў) (1878–1952) *(с. 95)* — драматург, тэатральны рэжысёр. У 1921–1931 — мастацкі кіраўнік БДТ-1, будучага тэатра імя Янкі Купалы.

### *Або — настаўнік, або — не*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Працаўнік асветы: дадатак да газеты «Савецкая Беларусь». — 1928. — № 13. — С. 7. Змешчана за подпісам «Леанід Свэн».

### *Гісторыя свежай цыбуліны*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 2 лістапада. Змешчана за подпісам «Л. Свэн».

### *Слова даецца пракурору*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 30 лістапада. Змешчана за подпісам «Лявон Вялецкі».

### *Пад новы год — год надзеяў*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1942. — 6 студзеня.

Гэта першы тэкст, апублікаваны Лявонам Савёнкам па вяртанні з сталінскіх лагероў. Прысвечаны ён сустрэчы новага 1942 г. Форма падачы матэрыялу нагадвае першы з выяўленых фельетонаў Савёнка — «З Новым годам!» (гл. вышэй). Па чарзе пункт погляду апавядальніка адлюстроўвае навагоднія прамовы саюзнікаў — Англіі, СССР і ЗША. Дзве апошнія, беларускія паводле матэрыялу, пабудаваныя на кантрасце — пафасны спіч дзеяча цывільнай адміністрацыі і п'яны мяшчанскі загул.

### *Самагонная ўправа*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1942. — 26 лютага.

### *Прыватная ініцыятыва*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1942. — 6 сакавіка.

Побытавыя замалёўкі з жыцця гараджан пад нямецкай акупацыяй пасля выліліся ў буйнафарматны твор «Запіскі эмігранта». Такім чынам, шэраг фельетонаў можна лічыць падрыхтоўкай да стварэння вядомага «Дзённіка Ів. Чужанінава». Асабліва гэта датычыць адлюстравання спосабаў выжывання людзей ва ўмовах акупацыі — абменных гандлёвых аперацый у вёсцы (горад галадаў, и вёска за прадукты магла выменяць любы патрэбны ёй тавар у гараджаніна), крадзяжах і інш.

*«Жывот у мяне ад бэнэсаўскай заціркі не баліць» (с. 110)* — маецца на ўвазе ежа ў сталоўцы БНС — Беларускай народнай самапомачы, дабрачыннай арганізацыі, створанай паводле загаду генеральнага камісара В. Кубэ 13 кастрычніка 1941 г. Мэта БНС, паводле статуту арганізацыі, — «памагаць пацярпелым беларусам ад ваенных дзеянняў, бальшавіцкага і польскага панавання, памагаць адбудаваць зруйнаваны чужынцамі беларускі край, пашырыць і развіць беларускую культуру».

## *Пытайцеся — адкажам*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1942. — 3 чэрвеня.

*«Загадвае Раённаму бургамістру натыхмястова... Гмінные бургамістры выконваюць у уласным закрэсе...» (с. 114)* — тут відавочны намёк Савёнка на тое, што многія кіруючыя пасады ў часе нямецкай акупацыі займалі на беларускіх землях этнічныя палякі. Адпаведна, у канцылярскую мову актыўна пранікалі паланізмы.

## *«Кім быць, каб ласа жыць?»*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1942. — 13 верасня.

*«Каведнае пытанне» (с. 117)* — цяжкае, каверзнае пытанне.

*«Фахакаваць» (с. 118)* — ад «фах» (спецыяльнасць), працаваць па пэўнай спецыяльнасці

*«Я не пра такога інжынера, каб будаваць ці там што іншае ляпіць, а так, наагул інжынера... Проста назоў сабе такі прычапі, а з гэтым назовам акурат трапіш на якое-небудзь аржаное месца» (с. 119)* — тут Савёнак высмейвае еўрапейскую традыцыю дадаваць да прозвішча чалавека з вышэйшай адукацыяй, таго, хто атрымаў

навуковую ступень, прыстаўку: «інж., д-р» і г. д. Падчас і пасля нямецкай акупацыі многія беларусы падпісваліся менавіта так: д-р Станкевіч, інж. Абрамчык, д-р Тумаш і інш. Некаторыя (як, прыкладам, Уладзімір Сядура) прысвойвалі сабе навуковую ступень самавольна, не абараняючы ніякай дысертацыі.

*«Ёсць яшчэ Ірванцовы, ёсць Хапуновы, ёсць Загржэмбіцкія» (с. 121)* — Савёнак намякае на гаваркія прозвішчы, адмыслова дадзеныя ім персанажам, утвораныя ад «ірваць, хапаць, заграбаць».

## *Шукайма лекара*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1943. — 26 ліпеня.

*«Хор спявае: “Мы выйдзем”» (с. 122)* — маецца на ўвазе песня на словы Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## *Без палітыкі*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларуская газета. — 1944. — 19 лютага.

Фельетон напісаны і апублікаваны ў часе, калі войскі СССР штораз далей пранікалі на акупаваную тэрыторыю і зыход вайны быў прадвызначаны.

## *З лірай насустрач (кансультацыя для вершапісцаў)*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларускі Работнік. — 1944. — 18 чэрвеня.

Рэпліка Лявона Савёнка ў дыскусіі з паэтам Алесем Салаўём. «У адказ на прапанову паказаць вядомаму пісьменьніку свае вершы Салавей пачуў: “Кожны верабей будзе тут чырыкаць! У нас і так поўна паэтаў, што птушак”. З таго часу ў рэдакцыі Алеся клікалі ня толькі Вэрцікам Посікам, але і “верабейчыкам”. Неўзабаве атмасфэра ў “Менскай газэце” для Салаўя зрабілася невыноснаю; датклівы юнак кпінаў і жартаў трываць болей ня мог, таму з радасьцю ўхапіўся за магчымасьць пераехаць у Рыгу да Ўладзімера Сядуры, дзе выдаваўся “Новы шлях”. Але на крыўду не забыўся» (больш падрабязна гл.: Юрэвіч, Л. Як пасварыўся празаік Савёнак з паэтам Салаўём і што ад гэтага здабыла літаратура // Запісы БІНІМ. — 2010. — № 33. — С. 474–480). Паэт Верабей сустракаец-

ца і ў «Запісках эмігранта (Дзённік Ів.Ів. Чужанінава)». Відаць, таму Салавей напісаў верш-карыкатуру, у якім паказаў Савёнка як п'яніцу і крыўдзіцеля паэтаў: «Паэтам ён праклёны шле й злавесы. / Ды гэта шчэ ня ўсё. Я чуў, сябры, / Што ён далез нядаўна і да прэсы. / Ён там з паўлітрам у руках знайшоў / Выгодны супакой, таксама й працу / З усім прапітым сэрцам і душой / Статыстыкай паэтаў стаў займацца. / І у газэту танны свой тавар, / Што "Чужанінавым" завецца, ціснуў / Мяшчанства дохлага прапіты твар / У творы тым гнілотаю раскіснуў. / Псэўдонімам ён хітра твар прыкрыў / І Крывічаніным пачаў ён звацца» (Там жа, с. 479).

### *Што рабіць?*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Бацькаўшчына. — 1948. — 26 верасня.

*«Я рынуўся ў палітыку. Ну а што, думаю, пакуль у Канаду вывязуць лес церабіць ці мо ў Бельгію вугаллё калупаць, або на якую Ганалюлю разынкі сушыць, то нашто, каб час марна травіўся?» (с. 130)* — Гэты і наступны фельетоны напісаны падчас знаходжання ў *DP*-лагеры, для перамешчаных асоб (ад англ. абрэвіятуры DP — displaced person). Пасля лагероў эмігранты раз'язджаліся па ўсім свеце, але большасць не мела кваліфікацыі, таму абірала самыя цяжкія віды работ, пра якія і гаворыць Савёнак. Палітычны раскол, які адбыўся сярод паваеннай беларускай эміграцыі, прывёў да фарміравання дзвюх груп-антаганістаў — прыхільнікаў БНР і БЦР, «крывічоў» і «зарубежнікаў» адпаведна. Прэзідэнтам БЦР на Другім Усебеларускім Кангрэсе ў Мінску летам 1944 г. быў абраны Радаслаў Астроўскі. У той жа час была адноўлена Рада БНР з прэзідэнтам Міколам Абрамыкам, якому былы прэзідэнт БНР Васіль Захарка пакінуў адпаведны тастамент. Барацьба за «пальму першынства», за прадстаўніцтва на міжнароднай арэне між БНР і БЦР прывяла да жорсткай палітычнай і міжасобаснай канфрантацыі.

### *Ліст у рэдакцыю пра кансалідацыю*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Бацькаўшчына. — 1948. — 26 лістапада.

*«— Вось гэтая крывая лінія, — кажа, — гэта ёсць крывічы, а гэтая, што я цяпер крэслю, ламаная лнія — гэта будуць зарубежнікі,*

*а вось я вяду цяперака пасярэдзіне простую лінію, якая ні ад якіх лініяў не залежыць, — гэта і ёсць правільны кірунак» (с. 133)* — гл. каментар да папярэднага тэксту.

## НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ

### *Па Полаччыне*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 27 верасня. — С. 3; *СБ.* — 1928. — 29 верасня. — С. 3; *СБ.* — 1928. — 4 кастрычніка. — С. 3. Апошні фрагмент нарыса апублікаваны з пазнакай «Працяг будзе», аднак заканчэння яго з ранейшай назвай не выяўлена. Тэматычна звязаны з гэтым тэкстам нарыс «Камбінат з дзевяці» з гэтай прычыны падаецца намі не як складовая частка нарыса «Па Полаччыне», а як самастойны твор.

*«Цяпер ужо вакзал не рэжа вока сваімі "классами", рамонт скасаваў вакзальныя класы і па форме» (с. 138)* — маецца на ўвазе тое, што вакзал у часы Расійскай імперыі быў падзелены адпаведна класу вагонаў, у якім ехаў пасажыр цягніка.

*«Бесплацкартныя вагоны» (с. 138)* — цяперашні аналаг — агульны вагон.

*«Выказаліся про і контра» (с. 139)* — ад лац. pro et contra («за» і «супраць»).

*«Пра Полацак мы ў свой час пісалі шмат, з прычыны яго не вельмі ласкавых адносін да беларусізацыі» (с. 141)* — гл. каментар да фельетона «Освободители» (трагедыя чыноўніцкай душы).

*«Саматужнікі» (с. 142)* — дробныя рамеснікі.

*«Цэрабкопаўскія сталоўкі з півам» (с. 142)* — ад скар. рус. «Церабкооп» («Центральный рабочий кооператив»), усесаюзная дзяржаўная гандлёвая сістэма ў 1920-я гг. Далей у тэксце — ЦРК.

*«Полацак перажывае гарачыя дні. Значнае ажыўленне наглядаецца ў судовых установах. У выязной сесіі вярхоўнага суду разглядаецца справа Лапкоўскага, Багданава і іншых; на чарзе — справа суддзі Шалімава; далей будзе справа полацкіх камбінатаўцаў» (с. 144)* — маецца на ўвазе судовая справа аб забойстве селяніна Гаг ласуя з вёскі Шайтарава, Валынецкага раёна, Полацкай акругі. Пад судом знаходзіліся:

селькор Янка Лапкоўскі, 29 г., 11,5 дзесяцін зямлі;

селянін Харытон Багданаў, 34 гады, 11 дзесяцін зямлі;

селянін Пётра Хадкевіч, 5 дзесяцін зямлі, судзімы.

Галасуй, паміраючы, указаў на Лапкоўскага, але прызнаўся ў забойстве Хадкевіч. Канфлікт разгарэўся з-за таго, што Галасуі, якія прыехалі з Польшчы ў 1924 г., атрымалі 17 дзесяцін зямлі.

Справа разглядалася полацкім акруговым судом, але, як высветлілі карэспандэнт «Крестьянской газеты» Садавец і сябра ЦКК КП(б)Б Сцефановіч, полацкія суддзі былі падкупленыя. 12 верасня, згодна з пастановай ЦВК БССР, у Полацку пачаліся слуханні выязной сесіі Вярхоўнага суда БССР. Справаздачы друкаваліся ў газеце «Савецкая Беларусь» (№ 215, 216 за 1928 г.); аб справе полацкіх камбінатаўцаў гл. наступны нарыс Л. Савёнка — «Камбінат з дзевяці».

*«Гарадскія сямігодкі перапоўнены да адказу, асабліва другія канцэнтры» (с. 144)* — маюцца на ўвазе базавыя школы з сямігадовым тэрмінам навучання; канцэнтр — прыняты ў 1920-я гг. прынцып арганізацыі навучальнага працэсу паводле замкнёнага цыклу, ступень навучання, што звязана з папярэдняй адзінствам зместу навучання і адрозніваецца ад яе большай складанасцю і шырэйшым аб'ёмам. Другі канцэнтр, адпаведна, — другая ступень навучання. Трэба сказаць, што рэформы адукацыйнай сістэмы ў даваенны перыяд былі даволі частымі, што значна ўскладняла навучальны працэс.

*РКК (с. 144)* — Раённая кантрольная камісія. Падраздзяленне ЦКК — асноўнага кантрольна-рэвізійнага органа ў рэспубліцы.

*«Цяпер ён ужо сам прыходзе ў нацкамісію» (с. 145)* — у сувязі з правядзеннем палітыкі беларусізацыі на месцах былі створаны адпаведныя камісіі, якія сачылі за ажыццяўленнем праграмы па беларусізацыі, экзаменавалі служачых, кантралявалі працу курсаў беларусазнаўства і г. д.

*«Гэта адзін "из стаи славных" можа і не актыўных, але ўпартых полацкіх (у мінулым, канешне), ворагаў беларусізацыі» (с. 145)* — Савёнак адсылае чытача да верша А. С. Пушкіна «Перед гробницею святой» (1831), прысвечанага М. Кутузаву і напісанага ў час польскага паўстання 1830–1831 гг., якое паэт успрымаў вельмі эмацыянальна і прагнуў як мага хутчэйшага яго падаўлення:

«Маститый страж страны державной,
Смиритель всех её врагов,
Сей остальной из стаи славной
Екатерининских орлов.

(...)
Внемли ж и днесь наш верный глас,
Встань и спасай царя и нас,
О старец грозный! На мгновенье
Явись у двери гробовой,
Явись, вдохни восторг и рвенье
Полкам, оставленным тобой!»

(Пушкин А. С. «Перед гробницею святой...» // Пушкин А. С. Полное собрание сочинений: В 16 т. — М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1937–1959. — Т. 3, кн. 1. Стихотворения, 1826–1836. Сказки. — 1948. — С. 267–268.)

*«Прыйшоўшы дахаты з пагулянкі, хутчэй бярэцца “за Лёсіка” і зудзіць яго да поўначы» (с. 146)* — найбольш тыражнымі і часта выдаванымі ў 1920-я гг. былі падручнікі і кароткія граматыкі беларускай мовы аўтарства Язэпа Лёсіка (1883–1940) — мовазнаўцы, палітыка, аднаго з ініцыятараў Акту 25 сакавіка, старшыні Найвышэйшай Рады БНР, а ў савецкі час — выкладчыка БДУ, Белпедтэхнікума, курсаў беларусазнаўства і інш.

*«5-га верасня 1927 года акруговая газета “Чырвоная Полаччына”» (с. 146)* — акруговая полацкая газета выходзіла з 16 верасня 1924 г. і мела назву «Полоцкий пахарь», з 2 лютага 1926 г. пачала называцца «Чырвоная Полаччына». Рэдактарам у 1926–1929 гг. быў журналіст і пісьменнік Сцяпан Сямашка (1898–1965).

*«“Беларуская вёска” і “Крестьянская газета” як дзешавейшыя выцясняюць нашу газету» (с. 148)* — цэнтральныя сялянскія газеты Мінска і Масквы адпаведна, якія выходзілі пад патранатам кампартыі. У 1921–1924 гг. у Мінску выходзіла пад назвай «Белорусская деревня», у 1924–1931 гг. як «Беларуская вёска». «Крестьянская газета» выходзіла ў Маскве з 1923 па 1939 гг.

### *Камбінат з дзевяці*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 7 кастрычніка, дзе змешчана пад крыптанімам «Л. С».

### *Новая песня пад старымі ліпамі*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 16 кастрычніка, дзе змешчана пад псеўданімам «Леанід Свэн».

*За новую зямлю*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 17 кастрычніка, дзе змешчана пад псеўданімам «Л. Свэн».

*Сумны аптымізм*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 1 лістапада, дзе змешчана за подпісам «Л. Савёнак.

*С.-г. арцель «Кастрычнік»*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 16 лістапада, дзе змешчана за подпісам «Л. Савёнак».

*Аграном, як арганізатар высокага ўраджаю*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 18 лістапада; *СБ.* — 1928. — 22 лістапада; *СБ.* — 1928. — 4 снежня, дзе змешчана за подпісам «Л. Савёнак».

*Наркамзем (с. 175)* — Народны камісарыят земляробства БССР.

*«Гэта ж за такое пытанне чалавека ў Допр пасадзіць трэба» (с. 178)* — ад рус. абрэвіятуры ДОПР («Дом общественно-принудительных работ») — пенітэнцыярная ўстанова ў СССР, падпарадкаваная Народнаму камісарыяту юстыцыі.

*«У сувязі з... пераводам на шматполле» (с. 181)* — на змену аднаасобнаму трохпольнаму земляробству, з узбуйненнем гаспадарак, прыходзіла шматпольная сістэма севазвароту, на 7–8 палёў; пераход на шматполле быў звязаны яшчэ і з увядзеннем у севазварот шматгадовых траў, іншых культур.

*Койданаўскае сёння*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1928. — 22 снежня; *СБ.* — 1928. — 23 снежня, дзе змешчана за подпісам «Л. Савёнак».

*Хатнікі (с. 190)* — загадчыкі хатаў-чытальняў — фактычна, адзіных установах культуры ў вёсцы ў 1920-х гг.

### *На варце здаровага савета*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1929. — 18 студзеня, дзе змешчана за подпісам «Л. Савёнак».

### *Вось так і жывём...*

Друкуецца паводле першапублікацыі: *СБ.* — 1929. — 24 студзеня, дзе змешчана пад псеўданімам «Леанід Свэн». Пад тэкстам ёсць пазнака: «Прапойск. Магілеўшчына».

*«Пэцканне брам — работа вясковых хлапцоў. У аснове гэтага “звычаю” ляжыць “охрана нравственности” дзяўчат» (с. 200)* — існуе звычай, калі дзёгцем мажуць браму той хаты, дзе жыве дзяўчына, якая страціла цноту да замужжа.

*Самаабкладанне (с. 203)* — форма больш ці менш дабравольнага ўдзелу сялян у выдатках на мясцовае культурна-гаспадарчае будаўніцтва. Лічылася, што размеркаваннем грошай, атрыманых у выніку самаабкладання, займаюцца самі сяляне (гэтая мера актыўна пачала ўкараняцца з надыходам калектывізацыі).

### *Крыжоваю дарогаю (да 20-х угодкаў справы БНЦ)*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Беларус. — 1954. — 1 жніўня.

*БНЦ (с. 205)* — судовая справа аб неіснуючым «Беларускім Нацыянальным Цэнтры», сфабрыкаваная і выкананая органамі ДПУ ў 1933–1934 гг. З абвінаваўчага заключэння:

«БНЦ вел подготовку к свержению советской власти и своей конечной целью считал установление Белорусской фашистской республики во главе с военной диктатурой, входящей на основе федерации в состав Польского государства. Свержение советской власти контрреволюционной организацией БНЦ мыслилось путем вооруженного восстания, намечавшегося, согласно установкам Польского Главного штаба, на осень 1933 или весну 1934 года.

В осуществление поставленных перед собой задач контрреволюционная организация БНЦ вела практическую подготовку к вооруженному восстанию путем:

а) активной вербовки членов в контрреволюционную организацию и воспитания их в духе конкретных контрреволюционных задач;

б) создания на периферии БССР широкой сети контрреволюционных повстанческих ячеек с задачами повстанческой агитации, выявления, учета и сбора оружия;

в) создания специальных диверсионных групп с целью вывода из строя основных промышленных обьектов военного стратегического значения;

г) подготовки к совершению террористических актов над видными партийными и советскими работниками;

д) экономического, военного и политического шпионажа в пользу польских разведорганов;

е) создания ячеек контрреволюционной организации в частях Красной Армии на территории БВО» (цыт паводле: Адамушка У. І. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-ых гадоў на Беларусі. — Мінск, 1994, — С. 61–81).

*Акт Незалежнасці (с. 205)* — маецца на ўвазе абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржавай, якое адбылося 25 сакавіка 1918 г.

*Грамада (с. 205)* — гаворка ідзе пра Беларускую сялянска-работніцкую грамаду — заходнебеларускую палітычную партыю, створаную беларусамі-сябрамі блока нацыянальных меншасцей, пасламі ў польскім Сойме (Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім, П. Валошыным, П. Мятлой), якая праіснавала з 1925 па 1927 г. Партыя была забароненая польскімі ўладамі, а лідары яе ўвязненыя.

*ГПУ (с. 205)* — рус. абрэвіятура «Государственное политическое управление» — арганізацыя па ўтрыманні рэвалюцыйнага парадку, выкрыцці бандытызму, шпіянажу, ахове шляхоў зносін, папярэджанні і ліквідацыі рознага кшталту контррэвалюцыйнай дзейнасці ў СССР.

*Дэфензіва* — польская палітычная паліцыя ў міжваенны перыяд.

*«С. Рак-Міхайлоўскі, Валынец, Баран, Мятла, Гаўрылік, Валошын, Дварчанін, Кахановіч» (с. 206)* — *Сымон Рак-Міхайлоўскі* (1885–1938) — палітык, публіцыст, Радны БНР (1918), пасол польскага Сойму (1922–1927), адзін з арганізатараў БСРГ; *Флягонт Валынец* — палітык, пасол польскага Сойму; *Сяргей Баран* (1892—?) — палітык, пасол польскага Сойму (1922–1923); *Пятро Мятла* (1890–1938) — палітык, пасол польскага Сойму (1922–1927); *Язэп Гаўрылік* (1893–1937) — палітык, пасол польскага Сойму (1928–1930), старшыня Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клубу «Змаганне»; *Павел Валошын* (1891–1937) — палітык, пасол польскага Сойму

(1923–1927); *Ігнат Дварчанін* (1895–1937) — палітык, публіцыст, гісторык, літаратуразнаўца, пасол польскага Сойму (1928–1930); *Міхал Кахановіч* (1882–1934) — палітык, журналіст, пасол польскага Сойму (1922–1925). Па справе БНЦ быў расстраляны.

*«Камеры менскае "амерыканкі" былі запоўненыя» (с. 206)* — маюцца на ўвазе камеры ўнутранай турмы ДПУ-НКУС у Мінску.

## АПОВЕСЦЬ

### *Запіскі эмігранта*

Друкуецца паводле: Савёнак, Л. Запіскі эмігранта // Савёнак, Л. Беларусізацыя пад № = Belarusization N / Лявон Крывічанін. — Нью-Йорк: БІНІМ, 1998. — С. 50–144. Упершыню публікавалася з працягам у «Беларускай газеце» пад псеўданімам «Л. Крывічанін».

«Запіскі эмігранта», альбо, як яго часцей называюць, «Дзённік Ів. Ів. Чужанінава», — адзіны буйнафарматны празаічны твор Лявона Савёнка. Напісаны ён у часе нямецкай акупацыі ў Беларусі ў форме дзённіка. Твор аб'яднаны адзінствам суб'екта маўлення — Чужанінавым. Свядомасць суб'екта выяўляецца праз маналог ад першай асобы, які часам перарываецца дыялогам з іншымі суб'ектамі маўлення. Дыялогаў у гэтым творы, як і ў драбнейшых тэкстах Савёнка, надзвычай шмат, дзякуючы чаму твор паўстае як шматгалоссе персанажаў, якія, паводле маўленчых прыкметаў, абмежаваныя прастамоўным стылем.

Зыходзячы з вышэй працытаванага верша Алеся Салаўя («Мяшчанства дохлага прапіты твар / У творы тым гнілотаю раскіснуў. / Псэўдонімам ён хітра твар прыкрыў / І Крывічаніным пачаў ён звацца»), можна зрабіць гіпотэзу, што некаторыя чытачы атаясамлівалі Чужанінава з аўтарам — Лявонам Савёнкам. У той жа час абсалютна зразумела, што аўтар свядома (амаль паводле В. Шклоўскага) «адчужае» сябе ад Чужанінава, немалым сведчаннем чаго з'яўляецца і прозвішча суб'екта маўлення. Наагул, кажучы аб прозвішчах, трэба адзначыць, што ў сваім сатырычным, а часам нават карнавальным творы, Савёнак працягвае хутчэй гогалеўскія традыцыі. Дзюрка, Мімікрыйскі, Наязноў, Арыентацкі, Гузак, Driучок, Разак, Байцоў — нязменна ўсе прозвішчы адлюстроўваюць пэўныя чалавечыя тыпы.

Адчужэнне мае і нацыянальны «каларыт». Суб'ект маўлення, як пазначана ў прадмове да твора, — чалавек рускамоўны і нацыяналь-

на не вызначаны. Матыў гэты паўтараецца і ў самім тэксце: «Наязноў ходзіць як хмара. Прачытаў адозву, у якой гаворыцца, што беларусы будуць жыць “без расейска-азіяцка-бальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панавання”.

— Сэрца, — кажа, — баліць, калі чытаеш такія рэчы. Хіба тутэйшыя не такія рускія, як і мы? А гэта ж проста пра нас і сказана: “чужанацыянальныя”.

Дзівак! Пра што непакоіцца. А зрэшты, хто яго ведае, можа і мяне залічаць у чужанацыянальныя. Трэба на ўсякі выпадак забяспечыць сябе ад магчымае фармулёўкі». Карнавальны светапогляд, у якім галоўную ролю адыгрывае матэрыяльна-цялесны ніз, — не звязаны з нацыянальнай ідэнтычнасцю.

*«Гэта ўсё, відаць, аскалёпкі разбітага ўшчэнт» (с. 214)* — адсылка да апавядання рускага пісьменніка Аркадзя Аверчанкі (гл.: Аверченко, А. Т. Осколки разбитого вдребезги // Аверченко, А. Т. Дюжина ножей в спину революции. 12 новых рассказов. — Paris: Bibliotheque universelle, 1921. — С. 56–60). У апавяданні «аскалёпкамі» паўстаюць заможныя ў часы імперыі людзі, якія пасля рэвалюцыі апынуліся на маргінэсе жыцця.

*«У 18-м годзе са мной здарылася не гэткая рэч. Тады была “Вольная Беларусь”. Ну, я і прадаваў яе» (с. 218)* — маецца на ўвазе газета «Вольная Беларусь». Выходзіла з чэрвеня 1917 г. па лістапад 1918 г. у Мінску, спачатку два разы на тыдзень, але ў 1918 г. ужо была штотыднёвай. Галоўным рэдактарам з’яўляўся Язэп Лесік, супрацоўнікамі былі таксама Ванда Лявіцкая і Паўлюк Каравайчык. Выдаваў газету ў першы месяц Белнацком, а пасля — Таварыства беларускай культуры.

*«Свет стаў дыба. У ангельскіх цэрквах наігрываюць інтэрнацыянал, а жыды патрабуюць свае арміі і жыдоўскае дзяржавы ў Палестыне» (с. 241)* — падчас Другой сусветнай вайны СССР і Вялікабрытанія былі саюзнікамі, што прывяло да пацяплення палітычных адносін паміж гэтымі краінамі; аднаўленне дзяржавы Ізраіль адбылося пасля заканчэння Другой сусветнай вайны — 14 мая 1948 г. Ізраілем была агалошана Дэкларацыя аб незалежнасці.

*«Пачынаю беларусізавацца. Купіў беларускі правапіс нейкага Тарашкевіча» (с. 243)* — маецца на ўвазе выданне: Тарашкевіч, Б. Беларуская Граматыка. Выданьне шостае. Менск: Выдавецтва Школьных Падручнікаў і Літаратуры для Моладзі ў Менску, 1943 г. — 104 бал.

Граматыка была выпушчана накладам у 100 000 паасобнікаў. Дапаўненні і змены ў кнігу былі ўнесены Антонам Лёсікам, Антонам Адамовічам і Кастусём Шкуцькам.

*«Пісалі, што вораг ужо зламаны, арміі Цімашэнкавыя знішчаныя, ён сам звольнены, а Будзённы ўжо на Лубянцы вусамі шаволіць» (с. 244)* — Сямён Цімашэнка (1895–1970) — савецкі военачальнік, маршал (1940), у 1940–1941 гг. — народны камісар абароны СССР, падчас II сусветнай вайны ў 1941–1942 гг. камандаваў Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Паўночна-Заходнім франтамі, дзе атрымаў шэраг гучных паражэнняў. У 1943 г. за правал аперацыі «Палярная Зорка» (планаванай ліквідацыі групы армій «Поўнач», вызвалення Ленінградскай вобласці) быў адхілены ад камандавання франтамі да канца вайны. Сямён Будзённы (1883–1973) — савецкі военачальнік, маршал (1935), удзельнік Грамадзянскай вайны, у той час камандаваў Першай коннай арміяй. У Другую сусветную вайну ўваходзіў у склад Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання, з студзеня 1943 г. — галоўнакамандуючы кавалерыяй Чырвонай арміі. Інфармацыя пра зняволенне военачальніка, якая, падавалася ў «Менскай газеце» за 28.10.1941 (інф. М. Ількевіча), не адпавядала сапраўднасці.

*Зялезны (с. 249)* — тое ж, што і «жалезны».

*«быў дурань, калі співаў "Адракнёмся"» (с. 268)* — маецца на ўвазе рускамоўны варыянт «Марсэльезы», так званая «Фабрычная Марсэльеза», напісаная рэвалюцыянерам-эмігрантам П. Лаўровым у 1875 г.:

Отречемся от старого мира!
Отряхнем его прах с наших ног!
Нам враждебны златые кумиры;
Ненавистен нам царский чертог!
Мы пойдем в ряды страждущих братий,
Мы к голодному люду пойдем;
С ним пошлем мы злодеям проклятья,
На борьбу мы его позовем.

Песня стала вельмі папулярнай сярод рэвалюцыянераў

*«Юзік Загржэмбіцкі працерабіў шлях у Заходнюю» (с. 269)* — маецца на ўвазе Заходняя Беларусь, якая хоць і была ў выніку савецка-нацысцкіх пагадненняў далучана да СССР у верасні 1939 г., але заставалася выразна адрознай ад Усходняй — і па ўзроўні жыцця, і па ўзроўні нацыянальнай, рэлігійнай і палітычнай культуры насельніцтва.

*«“Любоўная лодка разбілася аб быт”, як пісаў той паэта. У мяне яна разбілася ўдрузачкі» (с. 271)* — цытата з незавершанага твора рускага паэта Уладзіміра Маякоўскага (1893–1930), знойдзенага ў адным з апошніх нататнікаў (1928–1930). У арыгінале — без знакаў прыпынку:

море уходит вспять
Море уходит спать
Как говорят инцидент исперчен
любовная лодка разбилась о быт
С тобой мы в расчете
И не к чему перечень
взаимных болей и обид

*«Ловяць безаўсвайсных» (с. 276)* — (ад ням. «аўсвайс» — пасведчанне), маецца на ўвазе, што затрымліваюць людзей без афіцыйных дакументаў, выдадзеных акупацыйнымі ўладамі.

*«Флірт быў стары, яшчэ Мікалаеўскі» (с. 277)* — кветкавы флірт, ролевая гульня, распаўсюджаная сярод рускай інтэлігенцыі ў XIX — пач. XX ст. У гульні кожны атрымліваў картку з выявай пэўнай кветкі (кветка азначала пэўны эмацыянальны стан, зафіксаваны ў кароткай фразе). У гульні таксама ўдзельнічаў Паштальён, які разносіў карткі па адрасатах.

*«— Алег Верабей — паэта чыстай ліры.*
*— А прозай вы не спрабавалі? Я прозу больш..*
*— Прозай? — перапыніў мяне Верабей, — не, не спрабаваў, бо не хачу. А каб захацеў, дык ого! Я так бы прозай чухвосціў, нібы Дзюма-айцец» (с. 282)* — прататыпам Алега Вераб'я стаў паэт Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк) (1922–1978). Гл. вышэй каментарый да фельетона «З лірай насустрач».

## DUBIA

### *«Такі парадак, маўчэце»*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 2 верасня., дзе змешчана пад крыптанімам «С.».

*РСІ (с. 285)* — рабоча-сялянская інспекцыя. Кантралюючая і рэвізійная ўстанова ў СССР у 1920-я гг.

### *Лепельскія бюракраты арыштавалі батрака*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 5 верасня, дзе змешчана пад крыптанімам «С.».

*Хто такі «начальнік» пошты у Дрэтуні?*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 15 верасня, дзе змешчана пад крыптанімам «С.».

*Цягнуць валынку, пакуль...*

Друкуецца паводле першапублікацыі: СБ. — 1928. — 23 верасня, дзе змешчана пад крыптанімам «С.» з пазнакай «Ворша».

## ДАДАТАК

*Беларуская Хатка*

Друкуецца паводле: Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі / Уклад. Л. Юрэвіч. — Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. — С. 112–120, дзе апублікавана ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНІМ (Нью-Ёрк).

Скарочаны варыянт публікаваўся раней: А. С. Калісьці ў Менску. — Беларуская Моладзь. — 1960. — № 8 (верасень-кастрычнік). — С. 7–10.

*Над ім надпіс: «Саха і Лучынка» (с. 288)* — Моладзевы часопіс «Лучынка» выдаваўся ў Мінску ў 1914 г. (выйшла 6 нумароў); сельскагаспадарчы часопіс «Саха» з лістапада 1913 г. па студзень 1915 г. выходзіў таксама ў Мінску.

*Ядвігін Ш.* (Антон Лявіцкі) (1869–1922) *(с. 288)* — празаік, публіцыст, фельетаніст, драматург, паэт і літаратуразнаўца.

*Ванда Лявіцкая* (па мужу Лёсік; 1895–1968) *(с. 288)* — пісьменніца, педагог. Дачка пісьменніка Ядвігіна Ш., жонка Язэпа Лёсіка.

*Змітрок Бядуля* (Самуіл Плаўнік; 1886–1941) *(с. 289)* — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.

*Рамуальд Зямкевіч* (1881–1943?) *(с. 289)* — бібліёграф, публіцыст, гісторык беларускай літаратуры, перакладчык, калекцыянер кніг і рукапісаў.

*Якуб Колас* (Канстанцін Міцкевіч; 1882–1956) *(с. 289)* — грамадскі дзеяч, пісьменнік, паэт і перакладчык. Адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы, народны паэт Беларусі. «Песні-жальбы» (1910) — першы зборнік яго вершаў; «Родныя з'явы» (1914) — зборнік апавяданняў.

*Максім Гарэцкі* (1893–1938) *(с. 289)* — пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца, лексікограф, фальклярыст. «Рунь» (1914) — першы зборнік яго апавяданняў.

*Францішак Багушэвіч* (1840–1900) *(с. 289)* — паэт, празаік, заснавальнік новай беларускай літаратуры. «Дудка беларуская» (1891) — яго першы паэтычны зборнік; неаднаразова перавыдаваўся.

*«Ядвігіна Ш. "Бярозка"» (с. 289)* — зборнік апавяданняў Ядвігіна Ш., выйшаў у 1912 годзе.

*Максім Багдановіч* (1891–1917) *(с. 289)* — беларускі паэт, публіцыст, літаратурны крытык. «Вянок» (1913) — адзіны яго прыжыццёвы паэтычны зборнік.

*Канстанцыя Буйло* (Калечыц) (1893–1986) *(с. 289)* — паэтка. «Курганная кветка» (1914) — першы паэтычны зборнік.

*Цётка* (Алаіза Пашкевіч; 1876–1916) *(с. 289)* — беларуская паэтка, грамадскі дзеяч, публіцыст. «Скрыпка беларуская» (1906) — яе паэтычная кніга.

*«Бядулевы "Абразкі"»* — «Абразкі» (1913) *(с. 289)* — зборнік імпрэсій Змітрака Бядулі, першы яго зборнік.

*Янка Купала* (Іван Луцэвіч; 1882–1942) *(с. 289)* — беларускі грамадскі дзеяч, паэт, перакладчык, публіцыст. Адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы, народны паэт Беларусі. «Шляхам жыцця» (1913) — яго паэтычны зборнік.

*«Панна Людміла, паслей жонка Фабіяна Шантыра» (с. 289)* — насамрэч Людвіка. Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) (1892–1991) — беларуская пісьменніца і грамадскі дзеяч; Фабіян Шантыр (1887–1920) — публіцыст, празаік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч.

*Алесь Гарун* (Прушынскі; 1887–1920) *(с. 289)* — беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч.

*Францішак Кушаль* (1895–1968) *(с. 289)* — беларускі вайсковы і палітычны дзеяч, публіцыст. Муж паэткі Наталлі Арсенневай.

*Язэп Лёсік* (1883–1940) *(с. 289)* — беларускі нацыянальны і палітычны дзеяч, пісьменнік, публіцыст, мовазнаўца, педагог. Акадэмік АН БССР (1928). Старшыня Народнай Рады БНР (1919).

*Аркадзь Смоліч* (1891–1938) *(с. 290)* — дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, вучоны у галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, геаграфіі. Прафесар (1927).

*Альберт Паўловіч* (1875–1951) *(с. 290)* — беларускі паэт-гумарыст, драматург.

*«Браты Ждановічы з Фальскім» (с. 293)* — Фларыян Ждановіч (1884–1942) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра; Антон Ждановіч (1898–1937) — беларускі акцёр. Удзельнік стварэння Першага

беларускага таварыства драмы і камедыі, яго вядучы акцёр; Усевалад Фальскі (1886 ці 1887 —?) — беларускі грамадска-палітычны, дзяржаўны і культурны дзеяч, акцёр; адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

*Францішак Аляхновіч* (1883–1944) *(с. 293)* — беларускі драматург, тэатральны дзеяч, публіцыст.

*Уладзімір Тэраўскі* (1871–1938) *(с. 293)* — беларускі дырыжор, кампазітар, фалькларыст, царкоўнаслужыцель.

*Купаліха* (Уладзіслава Луцэвіч) (1891–1960) *(с. 293)* — беларускі літаратуразнаўца і культурны дзеяч. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1959). Жонка Янкі Купалы.

*Браніслаў Тарашкевіч* (1892–1938) *(с. 293)* — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнаўца, пісьменнік-перакладчык. Кандыдат філалогіі (1916). Акадэмік АН Беларусі (1928).

*Фабіян Абрантовіч* (1884–1946) *(с. 293)* — каталіцкі манах-марыянін і святар усходняга абраду, прэлат Мінскай і Пінскай капітул, архімандрыт, місіянер, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, педагог. Доктар філасофіі (Каталіцкі універсітэт у Лёвене), магістр тэалогіі.

*Андрэй Цікота* (1891–1952) *(с. 293)* — рэлігійны і грамадскі дзеяч, каталіцкі святар усходняга абраду. Адзін з творцаў беларускага хрысціянскага руху XX ст.

*Макар Краўцоў* (Касцевіч) (1891–?) *(с. 293)* — дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэт, публіцыст, перакладчык. Дзядзька беларускага паэта Міхася Васілька.

*Тамаш Грыб* (1895–1938) *(с. 293)* — беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

*Мікола Шыла* (1888–1948) *(с. 293)* — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, журналіст, рэдактар.

*Кастусь Езавітаў* (1893–1946) *(с. 293)* — беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог.

*Вацлаў Ластоўскі* (1883–1938) *(с. 293)* — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнаўца, этнограф.

*Палута Бадунова* (1885–1938) *(с. 293)* — дзеяч беларускага нацыянальнага руху, педагог.

*Васіль Захарка* (1877–1943) *(с. 290)* — беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, старшыня Рады БНР (1928–1943).

*Паўліна Мядзёлка* (1893–1974) *(с. 293)* — беларуская артыстка, педагог, мемуарыстка.

*Браты Гарэцкія* — маюцца на ўвазе Максім і Гаўрыла (1900–1988) Гарэцкія.

*Міхась Міцкевіч* (1897–1991) *(с. 293)* — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, перакладчык Новага Запавету. Малодшы брат Якуба Коласа.

*Сцяпан Некрашэвіч* (1883–1937) *(с. 293)* — мовазнаўца, педагог, адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Інстытута беларускай культуры, пазней пераўтворанага ў Беларускую Акадэмію навук.

*Антон Адамовіч* (1909–1998) *(с. 293)* — беларускі літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, празаік, доктар філалогіі.

*Пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску*

Упершыню: Раткевіч. А. Пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску // Запісы БІНІМ. — 1978. — №16. — С. 84–90. Друкуецца паводле рэпублікацыі: Крыніца. — 1996. — № 10. — С. 71–74.

*Міхась Чарот* (Кудзелька) (1896–1937) *(с. 295)* — беларускі паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч.

*Янка Бялькевіч* (1883–1960) *(с. 295)* — мовазнаўца, лексікограф, педагог.

*Язэп Гладкі* (1890–1972) *(с. 295)* — этнограф, мовазнаўца, лексікограф і педагог, удзельнік І Усебеларускага з'езду.

*Усевалад Ігнатоўскі* (1881–1931) *(с. 296)* — грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, народны камісар асветы БССР, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук.

*Васіль Дружчыц* (1886–1937) *(с. 296)* — гісторык, прафесар (1927).

*Тарас Гушча (с. 290)* — псеўданім Канстанціна Міцкевіча (Якуба Коласа).

*Мікола Равенскі* (1886–1953) *(с. 297)* — кампазітар, дырыжор, музычны крытык.

*Прыпамінаю*

Друкуецца паводле першапублікацыі: Савёнак Апалёнія Прыпамінаю // Запісы БІНІМ. — 1999. — № 24. — С. 172–180

*Карусь Каганец* (Кастравіцкі) (1868–1918) *(с. 302)* — пісьменнік, драматург, мовазнаўца, мастак, скульптар.

*Дударок (с. 307)* — паэт Алесь Дудар (Дайлідовіч).

*Вінцэнт Гадлеўскі* (1888–1942) *(с. 308)* — грамадскі дзеяч, каталіцкі святар, публіцыст.

*Купалава Матка (с. 308)* — Бянігна Луцэвіч (1861–1942) — маці беларускага паэта Янкі Купалы.

*Ганна Луцэвіч (с. 308)* — сястра беларускага паэта Янкі Купалы.

Крыху іншы варыянт гэтага тэксту публікаваўся ў газеце «Беларус»:

«У часы нямецкай акупацыі Менску ўлетку, недзе пад канец чэрвеня 1942 г., зусім нечакана, на ледзь значнай сярод руінаў вуліцы, што вяла ад Верхняе Ляхаўкі на вакзальную плошчу, спатыкаю Ганну Луцэвіч, малодшую сястру Янкі Купалы. Нідзе ні душы. Яна блукала як непрытомная. У роспачы кінулася да мяне. “Сам Бог паслаў мяне сустрэць Вас”, — ледзь вымавіла ў сьлёзах. Хаця такая роспач была на тую пару звыклаю зьяваю, аднак у спакойнае Ганны гэта было нешта надзвычайнае.

— Што сталася? — пытаюся, моцна абдымаючы яе ды стараючыся супакоіць.

— Мама памерла. Я ня ведаю, што рабіць, — выціснула яна, ледзь дыхаючы.

Божа мой! Купалава маці памерла, а я ня ведала нават, што яна жыве тут, у Менску, ня ведала, як жыве. А Ганна тымчасам жалілася:

— Ня ведаю, як здабыць дамавіну, выкапаць дол. Нічога ня ведаю. І сёстрам як пераказаць, ня ведаю.

— Супакойцеся, пачакайце, можа, што-небудзь зарадзім.

І павяла яе ў рэдакцыю “Беларускае газеты”.

Па дарозе яна расказала, што жылі яны з маткаю на Грушаўскім пасёлку, што пераказаць сёстрам яна ня мае ніякае магчымасьці — так тады цяжка было з камунікацыяй — сказала, што матэрыяльна яны маюцца вельмі слаба.

У рэдакцыі, як даведаліся пра сьмерць Купалавае Маткі, узяліся зрабіць самае канечнае, што можна было ў тых абставінах: зрабіць дамавіну, раздабыць транспарт, дастаць дазвол на пахаваньне, на месца на могілках, выкапаць дол. На тую пару гэта былі нялёгкія справы. У “Беларускай газэце” было паданае ў чорных рамках паведамленьне пра сьмерць Бэнігны Луцэвіч...

Мы з Ганнаю пайшлі да яе на кватэру. Мы самі ўдзьвёх абмылі, як маглі, нябожчыцу, апранулі ў чыстае. Сукенка была ўжо гатовая. Бронзавая ў сьветлыя крапінкі. Злажылі на ўслон. Ня мелі ні сьвечкі, ні абразка. Назаўтра была прывезена дамавіна.

На трэці дзень на грузавіку, звыклым рабочым грузавіку, прыехалі ўстоячкі людзі з рэдакцыі, сярод іх галоўны рэдактар Казлоўскі, паэтка Натальля Арсеньнева, Антон Адамовіч, Лявон Крывічанін і іншыя ды кс. Гадлеўскі. Зьявіліся сьвечкі і крыжык. Сьвятар адправіў рэквіем.

На час вынасу цела сабралася ладная грамадка суседзяў. На грузавік вынесьлі дамавіну, а вакол пасталі ўсе, хто меў праводзіць на могілкі. Грузавік падкідвала на разьбітых вуліцах.

Пахавалі матку Янкі Купалы на вайсковых могілках, недалёка ад царквы. Кс. Гадлеўскі, асьвяціўшы адкрытую магілу, сказаў колькі словаў. Нічога ня памятаю зь ягонае прамовы, толькі апошнія словы: "Дзе сын Твой, гаротная беларуская маці?" Была яшчэ прамова Антона Адамовіча ад рэдакцыі "Беларускае газеты", і запамяталіся зь яе словы, што сэрца Купалы павінна было вычуць, што маці ягоная памерла і мы яе сяньня хаваем. Толькі пазьней мы даведаліся, што ў гэты самы час загінуў Купала недзе далёка ад Бацькаўшчыны.

Ганна заплакала, выціраючы сьлёзы канцом белае хусткі, што была завязаная пад бараду. Усё ж у сваёй глыбокай роспачы не забылася падзякаваць прысутным, казала, што не спадзявалася такое дапамогі, што, як зь неба, спусьцілася да яе. Прасіла выбачэньня, што ня можа, як належала, прыняць удзельнікаў пахаваньня. Але каб і магла, гэта непатрэбна, бо ніхто не затрымліваўся, усе разышліся. У тую пару ўсе ўсяго баяліся. Жудасны час вайны.

Так сьціпла пахавалі мы маці нашага вялікага Песьняра» (А[палёнія] С[авёнак]. Прыпамінаю… // Беларус. — 1981. — № 287).

### *На Лысай Гары*

Упершыню: Беларуская Моладзь. — 1961. — № 11, дзе апублікавана пад крыптанімам «А. С».. Друкуецца паводле выдання: На суд гісторыі: успаміны, дыялогі / Уклад. Б.І. Сачанка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — С. 98–101

*«На высокай гарэ,*

*Дзе ніхто не арэ...» (с. 310)* і інш. — цытуецца верш Янкі Купалы «Песня званара» (1909).

# Змест

**НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ**



**АПОВЕСЦЬ**



**DUBIA**



**ДАДАТАК**
**Апалонія Савёнак (1901–1982)**

**Савёнак, Лявон**

С 12 Творы / Лявон Савёнак; уклад. Ц. Чарнякевіча, Л. Юрэвіча; прадм. Л. Юрэвіча і В. Кіпеля; камент. Ц. Чарнякевіча; пад. рэд. Ц. Чарнякевіча. — Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с.: іл. — (Галасы Айчыны).

ISBN 978-985-6968-26-9.

У кнігу твораў Лявона Савёнка (1897–1974) увайшлі ўсе выяўлсныя на сёння яго аўтарскія тэксты: фельстоны, нарысы, артыкулы, аповесць «Запіскі эмігранта» («Дзённік Ів. Ів. Чужанінава»). У дадатку змсшчаны мсмуары жонкі «караля фельстона» — Апалоніі Савёнак (1901–1982), дзяячкі беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя.

**УДК 821.161.3**

**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Савёнак Лявон**

# ТВОРЫ

Адказны за выпуск *М. Шыбко*

Рэдактар *Ц. Чарнякевіч*

Вокладка *Г. Мацур*

Вёрстка *В. Нога*

Карэктар *М. Чарнякевіч*

Падпісана ў друк 15.10.2012. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,93. Ул.-выд. арк. 17,63. Наклад 200 асоб. Заказ 2175.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус». ЛВ № 02330/0003920 ад 16.03.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Надрукавана ў друкарні ТДА «НоваПрынт». ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.

